Падпісны індэкс: **74813**
Чытайце «Дзеяслоў» у Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**


**Рэдакцыя:**
Барыс Пятровіч (Сачанка) —
галоўны рэдактар;
Эдуард Акулін, Алесь Пашкевіч —
намеснікі галоўнага рэдактара;
адказны сакратар – Анатоль Івашчанка.

Мастак — Генадзь Мацур.
Тэхнічны рэдактар — Людміла Фомчанка.
Карэктар — Наталля Карнеенка.


Ілюстрацыі на вокладцы Марыі Ісаёнак:
на 1-й стар.: «Чырвоныя яблыкі», 2008;
на 4-й стар.: «Матылёк на маім стале», 2006.


© «Дзеяслоў», №4, 2012



Пасведчанне аб рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 631 ад 28 жніўня 2009 г., выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Заснавальнік — ГА «Літаратурна-мастацкі фонд «Нёман».
Юрыдычны адрас: вул. Кузьмы Чорнага, 18-2, 220012, г. Мінск.



Адрас рэдакцыі:
220025 г. Мінск-25, а/с 91
e-mail: dzieja@tut.by, dzieja@list.ru
www.dziejaslou.by
Тэл. 200-80-91.



Здадзена ў набор 25.06.2012 г. Падпісана да друку 29.07.2012 г.
Фармат 70x108 1/16. Папера афсетная. Друк афсетны.
Аб'ём — 22 ул.-выд. арк. Наклад 1000 асобнікаў. Заказ №

Паліграфічнае выкананне: сумеснае таварыства з абмежаванай адказнасцю «Медысонт».
ЛП № 02330/0552782 ад 01.10.2010.
Вул. Цімiразева, 9, 220004, Мінск.

Кошт нумара – па дамове.

№4(59)
/ ліпень-жнівень / 2012

дзеяслоў

ЗМЕСТ

Андрэй Хадановіч



...Пад Елісейскімі палямі не было станіка.
Эйфэлева вежа забілася хутчэй...

# Новы рэалізм

## САВЕЦКАЯ ФАНТАСТЫКА

*Чэславу Мілашу*

У сярэдзіне 80-х настаўніца ў нашай школе
больш за ўсё любіла заводзіць нам сваю вечную
песню пра хуткі канец свету
і звярыны ашчэр капіталізму.

“У іхнім свеце, дзеткі,
усё прадаецца і ўсё купляецца,
нават людзі, нават чалавечыя пачуцці!

Іхнія сем’і, дзеткі, – гэта ўзаконеная прастытуцыя,
а дзяўчаткі там проста займаюцца гэтым за грошы.
Толькі ўявіце сабе – каханне за грошы!”
Мы ахвотна ўяўлялі сабе каханне за грошы.
“Такі ён, звярыны ашчэр капіталізму!
Такія яны, прадажныя дзяўчаткі!” –
працягвала настаўніца.

“І не толькі дзяўчаткі!” –
улазіў прасунуты Юра Гейфман,
а мы ў гэты час стараліся не думаць,
але ўсё адно думалі пра нашую суседку Галю
і ейны звярыны ашчэр.

“А што яны робяць з прыродай! –
упарта вяла сваё настаўніца. –
Яны спецыяльна забруджваюць
тое, што атрымалі ад продкаў чыстым,
каб прадаваць людзям
тое, што ім належыць бясплатна.
Чыталі “Прадаўца паветра”?”

Ты і Юра Гейфман казалі: “так”.

“Дык вось, не ведаю, як з паветрам,
гэта ўсё-ткі савецкая фантастыка,
але ўжо сапраўды блізкі той час,
калі яны будуць прадаваць за грошы ваду.
Толькі ўявіце сабе – звычайную чыстую ваду,
якую мы п’ем з крана!”

Мы адразу згадалі, як за дзень да таго
Юра Гейфман зламаў аўтамат
і ўсіх частаваў бясплатнай газаванкай без сіропу.
З сіропам у Юры тады чамусьці не выйшла,
як, дарэчы,
            і ў настаўніцы з палітінфармацыяй.

А сёння, купляючы звычайную ваду
у французскім супермаркеце *Carrefour*,
я думаю, што ўсе ейныя прароцтвы,
на жаль, збыліся –
і паўсюль настаў канец свету.

І толькі сівенькі стары ў *Carrefour’ы*
кажа мне, завязваючы пакет з памідорамі:
“Парыжская вада – харошая.
Можаш смела піць з крана”.

## *НОВЫ РЭАЛІЗМ*

Калі зрываеш першы слой шпалераў,
здзіўляешся сваім эстэтычным густам
пятнаццацігадовай даўніны.

Калі зрываеш другі слой,

дазнаешся, якія шпалеры любілі
твае бацькі або папярэднія гаспадары кватэры.

За  трэцім слоем вылазяць
савецкія газеты пачатку шасцідзясятых,
смайлік ад Юрыя Гагарына,
як віншаванне з Днём касманаўтыкі.

Далей пасляваенны і даваенны слаі палімпсесту,
купалаўскія лётчык і хлопчык,
што некалі прымушалі Гагарына
усміхацца яшчэ шырэй.

Калі зрываць не ўсё запар,
а толькі фрагментамі,
і пагружацца на розную глыбіню слаёў,
складаецца дзівосны ўзор:

палова твару першага савецкага
ў белым венчыку з ружаў,
салатавыя палосачкі,
ружовыя ромбікі,
чорныя квадрацікі й рамачкі,
бацька народаў,
усесаюзны стараста,
падобны да бацькі псіхааналізу –
я, ведай, вялікі ўжо хлопчык,
і ўмею ўжо лётаць у сне,
саюз, апалон,
стыкоўка, расстыкоўка,
далей тынкоўка.

Касмічная мазаіка,
якая нават не снілася
французскім новым рэалістам.

Галоўнае – выбраць правільную сценку
у правільным доме
і правільнай краіне.

## ***ВАЙНА І МІР***

Лацінаамерыканцы
якраз пачыналі мяне біць,
але, убачыўшы яго,
разбегліся.

І не дзіва: ён быў на галаву вышэйшы за мяне
і як мінімум удвая таўсцейшы,
у маленечкіх акулярах,
што толькі падкрэслівалі яго памеры:
проста нейкі Сяргей Бандарчук
сярод дэкарацыяў свайго Барадзіна,
ці хутчэй Ватэрлоа,
бо ўсё адбывалася якраз у Бельгіі.

Ён чамусьці адразу загаварыў са мной па-расійску,
быццам на мне было напісана,
што я ведаю, хто такі Бандарчук.

“Дарма ты з імі размаўляў, – сказаў ён. –
Гэтыя маглі б і зарэзаць”.
“Калі б маўчаў, – адказаў я, –
дакладна б зарэзалі.
Тут як на заліку”.

“Залік, – сказаў ён. –
Мяне завуць П’ер. Як Бязухава”.
“А мяне Андрэй. Як Балконскага”.

Рэшту ночы памятаю не вельмі.
“Трапісты”! – раз-пораз паўтараў ён. –
Найлепшае ў Бруселі піва – гэта “Трапісты”!
Хадзем, пакажу адно месца,
плаціць граф Талстой”.

“Дык ты не з Расіі?
З Беларусі? Яшчэ лепей!
Я там з жонкай пазнаёміўся”.
“Я таксама”.
“Але мая – японка, уяві. Вучыліся разам расійскай,
а навучыліся: яна французскай, а я японскай.
Бальзак і маленькая японка, ведаеш кіно?
Беларусы, кажа яна, – гэта такія расійцы,
толькі са знакам якасці”.

“Кітаянка”, – паправіў я.
“Хто? Мая жонка?”
“Я кажу, Бальзак і маленькая кітаянка.
Кітайцы – гэта такія японцы,
толькі са знакам колькасці”.

Далей абрыў. Потым другая серыя.

“Бярэзіна, – кажа П’ер, – гэта Ватэрлоа са знакам якасці.

У нас дагэтуль захаваліся песні пра Бярэзіну.
Затое Чарнобыль – гэта Фукусіма са знакам колькасці.
У вас ёсць песні пра Чарнобыль?"
"Гэта такі чорны гумар?"
"А ў мяне чорны пояс па гумары.
Якраз хапіла б, каб павесіцца".
"Абарваўся б", –
замест прывітання кажа П'еру жонка.

Тут ягоны фільм абрываецца,
а мой круціцца далей.
Мы ў аўто, як у маленькай кіназале:
на заднім шэрагу – Чып і Дэйл, два героі-бандарчукі,
спяшаюцца на дапамогу трапістам,
а жонка-японка за стырном займаецца пракатам.

Наш вандроўны кінатэатр
усё бліжэй да апошняга бровара,
дзе найсвяцейшыя манахі
вараць піва са знакам якасці,
якое развязвае языкі так,
што выгнаннікі ўсіх краінаў
разумеюць адно аднаго без субтытраў.

## ***АДЫСЕЯ***

Вось яна, Пенелопа, хто б сумняваўся!
У мармуры, хоць ёсць і пару бронзавых версіяў.
Глядзіць удалеч, падпірае рукой падбароддзе,
палову твару злізалі марскія вятры,
уся – увасобленае чаканне.
Справа памірае кентаўр – туды яму і дарога,
злева абапіраецца на кій патасны Адам Міцкевіч
(французы кажуць – "Адам Мікев***і***к"),
а яна глядзіць не на іх, вызірае кагосьці трэцяга.
Але найцікавейшае – побач. У фатэлі,
у чырвоным пінжаку супрацоўніцы музею –
цёмнаскурая цётачка з трыма тэлефонамі:
мабільнік – у правай руцэ,
рацыя – у левай,
яшчэ адзін тэлефон, стацыянарны,
вісіць на сценцы над самым ейным вухам,
а яна пераводзіць вочы з апарата на апарат,
гатовая ў тую ж секунду
адказаць на званок па кожным.

Я думаю, сапраўдная Пенелопа –
гэта яна.

## ДОТЫК

Яна была ў майцы
з турыстычным парыжскім калажыкам
на грудзях:

злева, дзе сэрца, –
Эйфелева вежа,
справа, насупраць вежы, –
Авеню Шанз Элізэ.

Спачатку ён дакрануўся справа.

Пад Елісейскімі палямі не было станіка.
Эйфелева вежа забілася хутчэй.

## ПАРЫЖСКІЯ МУЖЧЫНЫ

У мужчыны з Парыжу – харызма і шык,
нос, багет і шалік на шыі.
Хто без шаліка, той не парыжскі мужык,
і бязносыя тут – чужыя!

Ён ідзе й не кранае багетам зямлі,
выкшталцоным сталічным крокам,
а жанчыны з усіх ускраін зямлі
сочаць – перыферыйным зрокам...

* * *

Субота. Ранак. Дождж. У Люксембургскім садзе
вітаецца здалёк з Бадлерам Элюар.
Клашар у паліто з кішэнямі на задзе
выкідвае багет, каб іншы з’еў клашар.
У галаве гучаць знаёмыя матывы.
Стакроткі й дзьмухаўцы бамжуюць між газонаў.
На тратуары там і тут прэзерватывы
і скарыстаныя чахлы ад парасонаў.

## СЕРЖУ ГЭНЗБУРУ

Як ні ўцякалі ад лёсу
твае Гінзбург-тата і Гінзбург-мама –
Піцер, Стамбул, Парыж, –
родна нэнька дагнала Гэнзбура:
за дзесяць крокаў ад дому
ўкраінцы шыбуюць да храма,

за дваццаць пяць ад магілы –
Сымон Пятлюра!

## ФУТБОЛ ЛЯ МУЗЕЮ РАДЭНА

За плотам музею гуляюць французы ў футбол.
Крычаць, аж чутно праз навушнікі аўдыёгідаў.
І з кожным ударам жыццё замірае наўкол,
і, нібы табло, ззяе золатам шпіль Інвалідаў.

Турысты ў музеі наструніліся – хто каго?
Глядзяць цераз плот – і стаяць без увагі скульптуры,
самотны Бальзак і ў абдымках дзвюх дзевак Гюго,
тытаны культуры на свяце фізічнай культуры.

Мысляр знакаміты ад зайздрасці пазелянеў,
хаваючы вочы, падпёр падбароддзе рукою.
“Нашто цалавацца?” – адчулі каханкі сумнеў.
Прыкрылася Ева: “Вы дзе, гледачы? Што такое?”

Старэнькі японец здымае на камеру матч.
Арабка ўздыхнула. Відаць, за Радэна заўзее.
Мысляр ледзь не плача. Філосаф, хоць ты патлумач,
як бляклa на фоне жыцця выглядаюць музеі!

Спорт нумар адзін і арабку схіліў на свой бок,
і дзеда-японца, і там, ля платану, путану,
што косіць пад экскурсаводку. Ці гэты радок
хоць неяк паможа Радэну даць рады Зідану?

Удар. Гол у браму мастацтва. Жыццё павяло.
Татальны футбол пераможную серыю выдаў.
Разбегліся хмары і сонца гарыць, як табло,
ўсміхаючыся з Інвалідаў. З усіх інвалідаў.

## ШЧЫГРЫНАВАЯ ТРАЎКА

Ехаў казачнік-бай
па бульвары Распай,
да бамонду ў кавярню “Ратонда”:
там з відэльца й нажа
усміхаецца джа
скарачэннем ад слова “Джаконда”.

Круціць з бронзы касяк
Анарэ дэ Бальзак
у плашчы ад Агюста Радэна.

Ёсць на цэлы бульвар
эксклюзіўны тавар,
а тапельцам – бясплатная Сена.

Дастаўляе трава
з Монпарнасу ў Мінск-2,
з перасадкай у Шарля дэ Голя.
І ні да, ні пасля:
прэзідэнт Нікаля –
проста хлопчык па імені Коля.

І ніхто не памрэ,
бо з травой Анарэ
ўсе памерлі яшчэ да народзін...
Па бульвары Распай
едзе казачнік-бай:
“Баяць казку?” Не хоча ніводзін.

## КРЫХУ ПАЛІТЫКІ Ў ХАЛОДНАЙ ВАДЗЕ

Па Сене плыве плакат
з партрэтам кандыдата ў прэзідэнты.
Надпіс унізе:
“Запрашаем на першы тур!” –
нагадвае, што ты яшчэ не ў Беларусі.

## АБ КАВЯРНЯХ ПАРЫЖСКІХ ПРАЎДА

“Ратонда” і “Клазэры-дэ-Ліла”,
“Пракоп” і “Кафэ дэ ля Пэ” –
патаснае фуфло,
што даўно не мае ніякага дачынення
да мастацтва.

Месцы, дзе сённяшняя публіка
пераплачвае за каву тых,
каму налівалі ў крэдыт
стагоддзе або тры таму.
Сённяшні Хэмінгуэй
сядзеў бы на даху
дзевяціпавярховай крамы *“Printemps”*,
у кавярні самаабслугі,
адкуль адкрываецца
бясплатны вайфай
і найлепшая панарама Парыжу,
з Эйфелевай вежай або Манмартрам
(залежыць ад выбару століка).

Хочаце доказаў?
Кава эспрэса,
што наліваецца там з аўтамата,
на смак вельмі нагадвае ягоную прозу.

## СНОБЫ НА ВЫСТАВЕ

***1.***
У шкляной вітрыне
парыжскай эратычнай кнігарні
адлюстроўваецца доўгая чарга снобаў,
што стаяць па білеты на мастацую выставу.

І ўся чарга нешта чытае,
на фоне вялікага ню ад Амедэа Мадыльяні.

Думаю, гаспадары кнігарні
не змаглі б лепей аформіць свае вітрыны.

***2.***
Яшчэ ні разу не бачыў ніводнай чаргі
ля ўваходаў у бясплатныя парыжскія музеі.
І ніводнага платнага музею
без кіламетровых чэргаў.

Пытанне, што з’яўляецца раней:
кошты ці ажыятаж?
Прасцей адказаць пра курыцу і яйка.

***3.***
Чым болей заплачана за ўваход,
тым грамчэй можна размаўляць
ля карцінаў.

***4.***
Чамусьці яны заўсёды
далікатна спыняюцца, каб не перашкаджаць
іншым фатаграфавацца,
але лёгка становяцца перад тымі,
хто глядзіць на карціны.

***5.***
Іхнія жарты:
“Мадыльяні – тут маглі быць вашыя вочы...”
Спрабую не слухаць працягаў
пра Ван Гога і Венеру Мілоскую.

***6.***

Адны з іх так шмат чытаюць
апісанне выставы й подпісы пад карцінамі,
што глядзець на самі карціны
часу ўжо не застаецца.

Іншыя – нічога не разумеюць,
бо зусім не чытаюць подпісаў пад карцінамі,
каб не падумалі, што яны
нічога не разумеюць.

***7.***

Парыжскія снобы:
большасць з іх – гэта
замаскаваныя замежныя турысты.

## *РАСТВО*

***Petit Palais. Musée des Beaux-Arts***

Божае нараджэнне,
у версіі паўднёва-нямецкага разбяра
першай чвэрці XVI стагоддзя.

Немаўля Ісус.
Два анёлы над яслямі.
Вол. Вослік.
Авечкі засталіся на другім плане.
Дзве пары выпадковых сведкаў,
з выгляду – тыповыя нямецкія бюргеры,
трэба разумець – пастухі.
Усярэдзіне – Марыя
з малітоўна складзенымі рукамі.

Ейнага мужа Язэпа,
цесляра,
лёгка пазнаць па руцэ
з чатырма адцяпанымі пальцамі.

## *АБАЦТВА КЛЮНІ. МУЗЕЙ СЯРЭДНЯВЕЧЧА*

***1. Вітраж XIII ст.***

Саламея
устае на задні мосцік.
Ёсць ад чаго страціць галаву.

***2. Пакуты Гасподнія (XIV ст.)***

Вартаўнікі спяць.
Хрыстос вылазіць з труны.
Асцярожна, каб не абудзіць.

***3. Вітраж XV ст.***

Першая думка:
каго і навошта Хрыстос
цягае за вуха?

Толькі па мячы Пётры
разумееш, што вуха насамрэч
прыстаўляюць на месца.

***4. Сярэднявечны алегарызм***

Пяць выяваў Дамы з Аднарогам
адпавядаюць пяці пачуццям.
На той, што сімвалізуе зрок,
Аднарог глядзіцца ў люстэрка Дамы.

Люстэрка маленькае –
і Аднарог бачыць сябе
бязрогім.

***5. Серaднявечны рэалізм***

Свінка грае на аргане,
прычым і арган, і свінка
выглядаюць максімальна
праўдападобна.

***6.***

На выйсці
машынальна падаеш міласціну
музейнаму супрацоўніку.

## ***ПАРЫЖСКІЯ МАДЭРНІСТЫ***

Нарадзіліся амаль адначасова
у Кракаве і Варшаве,
Адэсе і Лодзі,
Гомелі й Смілавічах.

Памерлі зусім маладыя ў Парыжы.
Або зусім старэнькія
у Тэль-Авіве ці на французскіх курортах.

Або не зусім маладыя
і не зусім старэнькія.
У Асвенцыме.

### *ТАВАРЫСТВА МЁРТВЫХ ПАЭТАЎ*

Набліжэнне могілак Пэр-Лашэз
адчуваеш па ўсё большай колькасці
турыстычных маек з выявай Джыма Морысана.

Французскія славутасці мусілі б зайздросціць,
калі б яшчэ мелі такую здольнасць.

Скажам, прыдумаў жа нехта пахаваць
паэта Жэрара дэ Нэрваля (1808-1855)
проста насупраць самага знакамітага
французскага пісьменніка.
Толькі ўявіце: ля тваёй магілы
увесь час таўкуцца турысты,
і ўсе як адзін да цябе спінай.
Некаторыя нават
спатыкаюцца аб цябе, фатаграфуючы.
І толькі я, дзівак, на дзесяць хвілін
завіс каля ўлюбёнага паэта,
і толькі цяпер заўважыў Бальзака (1799-1850).

Дарэчы, скажы мне, хто твой сусед па магіле,
і я скажу, кім ты быў пры жыцці.

Вось Поль Элюар (1895-1952) загуляўся ў камунізм,
і цяпер ляжыць побач з генсекам
камуністычнай партыі Францыі
Марысам Тарэзам (1900-1964).

А Мальер (1622-1673) ні ў што такое не гуляў,
і цяпер побач з калегам па пяры,
сумленным байкапісцам Лафантэнам (1621-1695),
ляжаць разам за агульнай агароджай,
як адна сям'я.

Мюсэ (1810-1857) і Шапэн (1810-1849)
не за агульнай агароджай,
а досыць далёка адно ад аднаго,

але ў самім афармленні магілаў
адчуваецца адна рука.
Падазраю, жаночая (1804-1876).

На магіле Апалінэра (1880-1918) – вялікае сэрца
у выглядзе верша-каліграмы,
а на Ўайлдавай сэрцаў безліч,
і ўсе – чырвоным маркерам
або губной памадай.

Магілу Ўайльда (1854-1900) знайсці лёгка
па выбухах жыццярадаснага рогату,
дзявочага і асабліва хлапечага.
Ўайльд з усіх бакоў агароджаны шкляной сценкай,
каб не разарвалі прыхільнікі,
якія спярэсцілі ўсё шкло надпісамі і слядамі памады.
Заслугоўваюць увагі: “Pleasure to meet you Oscar!” – з сэрцайкам,
“Oscar my favorite dandy” – з зорачкай,
і мой улюбёны: “Oscar te amamos!” – з кубінскім сцяжком.
Найбольшы надпіс, вядома ж, па-расійску:
“Любви все возрасты покорны!”
Цікава, як выглядала б на Пэр-Лашэз магіла Цоя (1962-1990)?

Магіла Морысана (1943-1971)
не агароджаная шклом,
затое там увесь час дзяжурыць жывы паліцэйскі,
стаіць ля камля найбліжэйшага дрэва
і часам перашкаджае ляпіць да яго жуйкі,
але дрэва ўсё адно ў жуйках, прылепленых да іх манетках
і іншых сціплых дарунках.
Самы шчодры пакінуў бляшанку бельгійскага піва,
пакойся з мірам, Джымі!

Над магілай Мадыльяні (1884-1920) пачынаецца дождж,
а над магілай Эдыт Піяф (1915-1963) канчаецца,
і неба робіцца блакітнае.

У надмагільнай пліце
Марсэля Пруста (1871-1922)
адбіваюцца аблокі.

### ЦІЮЛЬРЫ: ПАДВОДНАЯ АРАНЖАРЭЯ

Прачынаешся ад музыкі Дэбюсі,
а навокал, з усіх бакоў, –
вада і гарлачыкі Манэ.

Цяпер ты ведаеш,
што адчуваюць на тым свеце
тапельцы.

### *ПОСТ-МІРАБО*

Пад мостам Мірабо сплываюць вершы
Парыжам
Захлынуўшыся й памершы
І гэты не апошні і не першы

Каханне соплі Вершы трэш
Мост выжыве а ты памрэш

Пад мостам Мірабо шукаць прыгоды
Няма дурных
Сумуюць параходы
Ля карлікавай Статуі Свабоды

Ды ёсць сюжэты навырост
Хацеў паплакаць выйдзе тост

Пад мостам Мірабо гамон клашару
Здаецца
Холад з ветрам далі жару
Усім няўдачнікам зямнога шару

Чужынцаў выдае акцэнт
Кавярня Прыцемкі Абсэнт.

Над мостам Мірабо як прывід лесу
Лес хмарачосаў
Ты хацеў прагрэсу
Глядзі ж паэт і не памры ад стрэсу

Усё цячэ пад гэты мост
Сплыў мадэрнізм сплыве і пост

### *P. S.*

Твой верш не прынясе рахунка ў банку
Ды жонка
Захацела рыфмаванку
І з рыфмамі змагаешся да ранку

Сам-насам з мостам Мірабо
Слаба пра мост? А не слабо

*Парыж, красавік 2012*

Барыс Пятровіч



...мы жывем,
пакуль імкнемся да святла,
пакуль святло ў нас
перамагае цемру...

# Спачатку была цемра

***Аповесць***

Наском чаравіка Славік грэбліва падчапіў Касінера за шчаку, павярнуў тварам да сябе і адпусціў. Абмяклая і бязвольная, галава вярнулася да зямлі, уткнулася носам у жменьку леташняй светла-жоўтай травы.

– Гатовы, – прамовіў Славік неслухмянымі, сухімі вуснамі, – не дыхае...

– Сыходзім! – скамандаваў чалавек у джынсоўцы і пляснуў у далоні: – Так!.. Агледзеліся, каб чаго не забыць!

Невялікі лясок пры даволі ціхай дарозе прастрэльваўся зрокам наскрозь. Між старымі хвоямі ды бярозамі за свежа-зялёным аксамітам руні віднеліся запалкавыя карабкі хатаў ды лецішчаў недалёкае вёскі. На рэдкіх купках ужо ажылае травы, на счарнелых леташніх ігліцы ды лістоце засталіся сляды барацьбы: відаць, што хлопец, які цяпер ляжаў нерухомы, так проста не здаўся – доўга чапляўся за жыццё. Бачна было гэта і па свежых драпінах на Славікавым носе і шчацэ, па чырвані пад правым вокам.

Славік акінуў хуткім позіркам пашкрабаны нагамі дол – бліснулі плямкі цёмна-лакавай крыві на лістоце... Больш нічога не відаць.

Чалавек у джынсоўцы, які быў тут за галоўнага, падаў знак людзям, што стаялі па двух краях ляску: ад’язджаем... А Славіку сказаў:

– Адцягні яго пад куст і дай яшчэ раз пляшкай па галаве. Хай думаюць – на п’яных нарваўся... – зноў падкрэслена ўважліва агледзеўся наўкола і рушыў да машыны.

Славік нагнуўся над хлопцам, ад якога ўжо ішоў пах нежывога цела, і ледзь не званітаваў. “Цяжкі, зараза...”, – уратавала думка. “Але чаму я павінен яго цягаць? – Славік злосна зіркнуў у бок мужчынаў, што сышліся ля “жыгулёў” на дарозе, – паны знайшліся”. І жахнуўся ад здагадкі, што раптам працяла яго: “Яны забілі... з маёй дапамогай... а цяпер захочуць і ад мяне пазбавіцца, як ад сведкі...”

Славік адцягваў цела пад куст, краем вока назіраючы, як размахваюць рукамі – спрачаюцца пра нешта – чалавек у джынсоўцы і двое памагатых. Трэба было яшчэ разбіць бутэльку аб галаву хлопца. Раней, у гарачцы бойкі, раз’ятранага Славіка ледзь адарвалі ад скурчанага на зямлі непрытомнага чалавека, а цяпер ён ніяк не мог адважыцца ўдарыць яго – замёр наўколенцах з бутэлькай у руках.

Ад дарогі нервова і настойліва пасігналілі: хутчэй. “Заб’юць, точна заб’юць...” – падумаў Славік і, нягледзячы, шпаркнуў пляшкаю туды, дзе павінен быць лоб. Падхапіўся, кінуў да ног адбітае рыльца і шпарка рвануў да машыны, нібыта нават і абрадаваны, што ўсё скончана...

## *Частка першая.* Сонечны Зайчык.

### 1.

“...Я не люблю, калі сонца свеціць проста ў твар... я ненавіджу колер крыві, у які афарбоўваюцца павекі... я ўвогуле не пераношу ўсё чырвонае... я не цярплю ўдушлівае спякоты і мяне раздражняе гэтая муха, што паўзе па шчацэ... уніз... і другая, што так марудна апускаецца ад вока да вуха... ад вока да вуха... не, гэта не муха... гэта – пот, бязногі пот... пот паўзе... тугі казытлівы пот... паўзе па мне, як муха... ці то слёзы... брыдка... невыносна... спякота... як я яе ненавіджу!.. але чаму такія цяжкія павекі... хто склеіў іх? навошта? чаму не падняць іх, не разняць... а рукі? дзе мае рукі? у мяне павінны быць рукі... і пальцы... чаму я іх не адчуваю?.. чаму ў мяне ёсць толькі галава, твар... вочы пад чырвонымі павекамі... і гэтае сонца, што ўядаецца ў мяне... бязлітасна б’е ў цемя... скварчыць мазгі... выпякае вочы...

Я сплю... гэта сон... так, я спаў... я прачнуўся... але – дзе я? І – хто я? ХТО Я?”

Чалавек зморшчыў твар і неверагоднымі высілкамі прымусіў вочы крыху расплюшчыцца.

Аднак лепш бы ён гэтага не рабіў... Бо да яго кінулася нейкае дзіўнае стварэнне – малпа не малпа, дзяцюк не дзяцюк. Маленькая, стрыжаная, лапавухая, непрапарцыйная тулаву галоўка, нітка сліны на падбароддзі... худое, гнуткае цела з даўгімі рукамі...

– Га-а! – закрычала стварэнне, – глядзіць! Славік глядзіць!.. – і зарагатала так радасна, што чалавеку ажно стала вусцішна. Ён хацеў абараніцца.

Але рукі яго не слухаліся: загад на рух паміраў не даходзячы да пляча, і ён толькі з жахам пазіраў, як скача то да яго, то ад яго, і як сакоча невядомая істота.

Сонца і сапраўды свяціла яму ззаду, з вакна, у цемя, саслізгвала на лоб, спадала на твар. Ён ляжаў на ложку ў нейкім пакоі, падобным да бальнічнае палаты. Дзённае святло балюча рэзала ягоныя ледзь-ледзь расплюшчаныя вочы, яны слязіліся, гарэлі і рабілі мутным і туманным усё, на што ён глядзеў...

Слязінкі павольна сцякалі і казыталі шчаку, вуха... Нясцерпна хацелася выцерці іх, але ён не мог. Ён нічога не мог зрабіць, толькі маўкліва пазіраў на новы для яго свет, які расплываўся, расцякаўся: то павялічваўся, то памяншаўся, то мутнеў, то праясняўся... Гэты пакой, гэтага дзецюка і іншых людзей, што сабраліся на крык вакол яго, ён, здаецца, бачыў упершыню, і хто яны, а галоўнае, хто ён сам – а гэтае пытанне навісла над ім адразу – ён не ведаў і не памятаў... "Глядзіць!.. Глядзіць!.." – сакатала і сакатала істота, то падскокваючы да ложка і капаючы слінай на коўдру ля самага твару, то адбягаючы.

– Ты ведаеш хто ты, ты памятаеш сябе? Як цябе завуць? Скажы імя... Скажы мне сваё імя... Сваё ІМЯ!.. – над ім схіліўся мужчына ўвесь у белым, і толькі вакол шыі чырванеў з-пад халата каўнер кашулі з дробным чорным гузікам. Мужчына неспадзявана выкуліўся з нейкае дзіркі, што раптам расчынілася ў сцяне. "З дзвярэй..." – зразумеў чалавек.

Ён аднекуль ведаў, што гэтыя дзіркі ў сценах, якія нечакана з'яўляюцца, называюцца дзвярыма. Ён увогуле шмат што ведаў. Толькі вось на пытанне мужчыны ў белым халаце ён нічога сказаць не мог. Галава нібыта памкнулася думаць адказ, але з цемры выпаўз тупы і невыносны боль, накрыў яго, сціснуў скроні бы абцугамі, і ён зноў страціў прытомнасць... І толькі слова "Славік", прамоўленае невядомай істотай, завісла высока над ім і павольна-павольна апускалася, пагражаючы прыдушыць сваёй вагой... А потым стала піскліва аддаляцца, змяншацца і знікаць: "Славік... Сла-вік... Сла-віііііік... Сла-а-а-аааа-іііііііі..."

– Хто паклаў яго на сонца?! – закрычаў урач, – навошта вы гэта зрабілі? Прыкрыйце, прыкрыйце твар, а то ён аслепне назаўсёды... Хто, хто яго паклаў на сонца!!!

Нехта заапраўдваўся, што трэба было пад ложкам пыл прыбраць, таму і адкацілі ад сцяны, але чалавек, якога невядомая істота назвала Славікам, ужо вярнуўся назад у сваё цемрыва і гэтае спрэчкі не чуў...

## 2.

Тое, што Славік – а чалавека, які так раптоўна расплюшчыў вочы, усе тут звалі менавіта гэтак – ажыў, стала падзеяй для ўсяго інтэрната. Славік ляжаў без руху ўжо некалькі гадоў. Сэрца ягонае ледзь чутна білася, ён слабка дыхаў, значыць, быў жывы, але больш ніякіх прыкметаў жыцця не падаваў. Калі яго знайшлі ў лесе, то, па ўсім, ён праляжаў там без прытомнасці тыдзень, не менш.

У міліцэйскай трупярні, куды яго паклалі, ён застагнаў і яго перавезлі ў бальніцу. Вусны ягоныя нешта шапталі. Разабраць удалося толькі адное слова: "Славік". Дакументаў пры ім не знайшлі, а таму й запісалі ў бальнічнай картцы імя без прозвішча – Славік. Больш нічога ён не сказаў і ў клініцы да прытомнасці так і не прыйшоў. Але і не памёр. Страшныя

спачатку, раз'етыя мухамі ды мурашамі, раны на ягоным твары, на целе паступова зацягнуліся, зажылі. Яго падкормлівалі праз кропельніцу і вітамінныя ўколы. Аб'яўлялі росшук родных, ды ніхто не адгукнуўся.

Зрэшты, па тым здымку распухлага, скрываўленага "трупа", які расклеілі каля райаддзелаў міліцыі, яго не пазналі б нават самыя блізкія людзі. Ды і хто глядзіць на тыя стэнды "Іх шукае міліцыя"?.. І калі стала зразумела, што ніхто з радні не знойдзецца і што да нармальнага стану мозг "Славіка" хутчэй за ўсё ўжо не вернецца ніколі, нават калі ён і апрытомнее, яго накіравалі ў дом-інтэрнат для інвалідаў у вёсачку на поўдні Беларусі, на Палессі, дзе ён і ляжаў па сёння. Гуманнае грамадства забіваць яго – усыпляць – не стала. Была нібыта яшчэ нейкая надзея, што ён, калі не памрэ сам, дык, можа, ажыве, хоць бы так, як ажывае расліна пасля маразоў доўгае зімы.

І вось гэта здарылася...

Урач Станіслаў Сцяпанавіч у каторы раз перагарнуў тонкі сшытачак "гісторыі хваробы" Славіка – пералік траўмаў і пашкоджанняў "не сумяшчальных з жыццём", з якімі ён патрапіў у бальніцу, анамнез, з якім накіравалі яго ў інтэрнат. Згадаў размову, што была пры паступленні Славіка са строгім чалавекам у чорным, які яго суправаджаў. Чалавек казаў, каб пры першых прыкметах вяртання да Славіка свядомасці, Станіслаў Сцяпанавіч яму патэлефанаваў і пакінуў дзеля таго візітоўку.

Станіслаў Сцяпанавіч зазірнуў у шуфляду стала, пакорпаўся ў паперах, дастаў жоўты прастакутнічак з гербам пасярод, пару разоў пругка сагнуў яго ў пальцах, зірнуў на мінскі тэлефон і... паклаў картку назад. Пра якое вяртанне свядомасці тут можна казаць? Расплюшчыў вочы? Ну і што... Можа, гэта больш і не паўторыцца. Пажывем, пабачым. Бо з той яміны, у якую трапіў гэты няшчасны хлопец, мала хто ў наш свет вяртаўся, а калі і вяртаўся дык... мякка кажучы, інвалідам: калодай, якая нічога не ўсведамляе, толькі лыпае вачыма, бо мозг за гэты час мог атрафіравацца. Да таго ж, ён, столькі гадоў лежачы ў цемры, мог і аслепнуць, упершыню расплюшчыўшы вочы на яркім сонцы. А значыць, калі зноў прачнецца, магчыма, і бачыць нічога не будзе... А можа, яму і прачынацца не варта было, бо невядома хто ён. Можа, нават і злачынца які... Чаму ім гэтак цікавяцца людзі з шэражоўтага дома з вежачкай у цэнтры Мінска?.. А можа, ён нейкі важны сведка? Ці проста пацярпелы... Пажывем, пабачым... Паспею патэлефанаваць.

## 3.

Свядомасць зноў вярнулася да Славіка. Гэтым разам, пэўна, была ноч. Славік ачуўся, аднак нічога не змянілася. Перад ім была тая ж цемра, і ён нават не зразумеў: расплюшчыў ужо вочы ці не. Бо павекі былі не ружовыя, а чорныя. Як ноч...

Славік ляжаў і думаў. І ўвесь час ён быў там, дзе думаў: у нейкай кропельцы, кропачцы мозгу, што была падвешаная ў пустоце-цямрэчы... Няма нічога, ёсць толькі цемра і гэтая кропачка ў ёй, сусвет яшчэ не створаны – яго трэба адбудоўваць патроху-паціху... Ёсць толькі цемра і ён у гэтай цемры. Як да нараджэння... Але ён ужо адчувае свой твар і павекі на вачах. Іх трэба будзе расплюшчыць... Ціха-ціха... Ага, нічога пакуль не змянілася. Проста дагэтуль яго не было і раптам ён з'явіўся, як вынырнуў з-пад вады на паверхню. Высунуў толькі галаву, каб агледзецца...

Галава жыла, дакладней, адчувала, чула жыццё вакол. Нехта побач у

пакоі соп з прысвістам – перарывіста і нярвова, неспакойна. З вакна цягнула прахалодай – мусіць, яно было прыадчыненае. Там, за вакном, шумеў у дрэвах вецер. Трывожна, быццам збіралася на дождж, на навальніцу.

Славік паволі расплюшчыў вочы шырэй. Не, гэта пачынаўся ранак. Паветра сівела, насычалася туманам і сінечай, чарната набывала празрыстасць. Паступова на блізкім небе за вакном пачалі вымалёўвацца далёкія аблокі – таксама нетаропкія, а можа, і зусім нерухомыя. Прырода прачыналася, скідвала з сябе сон. І адпачылы ранішні вецярок з лёгкім шэптам лагодна перабіраў першую лістоту на дрэвах, нібы прычэсваючы іх.

Славіку падабалася глядзець і нешта бачыць, слухаць і чуць. Яго цешылі гэтыя новыя адчуванні. Ён памятаў толькі спякоту сонечных далоняў таго першага разу, калі расплюшчыў вочы, памятаў балюча размытыя слязьмі плямы людзей, што тады сабраліся вакол яго. Дакладней, не памятаў, а проста паўставалі яны перад ягонымі вачыма цяпер, калі ён пра іх думаў. А можа, гэта і ёсць памяць? Яны пра нешта ў яго пыталіся... Ён разумеў іх словы... І разам з тым, не разумеў: чаго яны ад яго хацелі. Якое імя? Ага, так: пыталіся, як мяне завуць? Значыць, мяне павінны неяк зваць... У мяне павінна быць імя... Усё на свеце мае свае назвы ды імёны... Нельга жыць, існаваць, быць тут не маючы імя. Вакно, неба, дрэвы, лістота, вецер, хмары, сонца... Я ведаю гэтыя словы, гэтыя назвы, гэтыя і-мё-ны, значыць, я ўжо быў у гэтым свеце...

Так, усё тут мае свае імёны, нельга тут быць без гэтага. Толькі я не маю... не памятаю...

Яму стала страшна...

Але – і ў яго таксама было імя. Так, ён згадаў, і яго ж самога гэтае пытанне ўсхвалявала першым: хто я? А гэта значыць – як мяне завуць?

Калі ён пачаў думаць пра сваё імя, зноў тупы боль падступіў да галавы і ахутаў сваім туманам вочы, якія міжволі прымружыліся... Славік застагнаў: проста ў горле нарадзіўся нейкі чужы, хрыпаты гук: г-г-гу-у-у-у...

Каб пазбыцца болю, Славік ціхенька – ледзь-ледзь – павярнуў галаву ўправа, агледзеў пакой, у якім ляжаў. Уяўленне свету вакол яго паступова пачынала вяртацца, а з ім і самі сабой прыходзілі згадкі пра тое, што ён некалі бачыў і ведаў: як яно называецца. Разам са світанкам, з паступовым прыходам святла ў пакой, якое пазначала абрысы прадметаў, што былі ў ім, а потым патроху вымалёўвала цалкам, ён прыгадваў іх назвы. Вось гэта "стол", а гэта "крэсла", "ложак", там, на ложку – "коўдра", пад коўдрай – "чалавек". У "куце" – "кран" з... як называецца белая прылада пад кранам, ён не мог згадаць. Галава зноў пачала балець, як тым разам, калі ў яго спыталі пра... імя...

Змагаючыся з тупым болем амаль нерухомае шыі, ён зірнуў у бок "вакна", адкуль цягнула прыемнай прахалодай. Шмат што ён ведаў, памятаў незразумела адкуль, з якіх часоў... Ён проста ведаў, што паветра – гэта паветра, вакно – гэта вакно, сцяна – гэта сцяна, пакой – гэта пакой, рука – гэта рука, а ён – Славік...

Ага, Славік... Так яго назваў той чалавек з маленькай галавой і дзіцячым тварыкам, які цяпер спіць на ложку вачыма да сцяны і стрыжанай патыліцай да яго... Ён бегаў і крычаў па складах: "Сла-вік гля-дзіць! Сла-вік гля-дзіць!" Славік – гэта пра мяне ён казаў, думаў чалавек, разглядаючы пакой. Вось – "дзверы", так, дзверы. Праз іх і ўвайшоў чалавек у "белым халаце" – "урач". Так, урач, значыць, я ў "бальніцы"... Значыць, са мною нешта здарылася... Аварыя? Не памятаю... Нешта здарылася, а што я не

памятаю... Урач таксама пытаўся ў мяне пра “імя”... А побач скакаў вушаты чалавечак і крычаў: “Славік глядзіць!..” Так, і сапраўды, гэта пра мяне ён казаў, а значыць, я – Славік... Мяне завуць Славік... Маё імя Славік... Але адкуль бярэцца гэты страшны боль?..

Славік яшчэ болей павярнуў галаву і краем вока ўбачыў уверсе, за раскрэсленым чорнымі прэнтамі вакном, неба. Голае неба. Ужо сіняе з бела-шэрымі воблакамі. Падобнымі да камякоў брудноватае вогкае ваты. Яшчэ пахмурнае... І больш нічога. Але з-за вакна чуўся шум. І Славік ведаў, што недзе там, унізе, павінна быць шмат іншага, апроч неба. Там павінны быць “дрэвы”... Мажліва, “дамы”... “людзі”... “птушкі”... “трава”... “дарога”... “машыны”...

Славіку захацелася ўстаць і падысці да вакна. Ён паспрабаваў падняцца, але не змог. Толькі ледзь-ледзь прыўзняў над “падушкаю” галаву, нейкае імгненне патрымаў яе ў “паветры” і яна цяжка ўпала глыбока ўніз. Ад слабасці ў яго задрыжэлі вусны і сілы зноў пакінулі цела...

## 4.

– Раз захацеў есці, значыць, пойдзеш на папраўку, – казала баба Маня, кормячы Славіка з лыжачкі, як маленькага, акуратна падбіраючы рысавы адвар, што сцякаў з роту па барадзе і шчоках. – На жывой касце – мяса нарасце...

Так, яму захацелася есці. Гэта было яшчэ адно новае адчуванне, што вярнулася да яго: пачуццё голаду.

З першых дзён, як толькі Славік пачаў прачынацца, санітарка баба Маня стала апекавацца ім і рабіла гэта з радасцю, бы знайшла, нарэшце, сабе сэнс жыцця. Яна і раней даглядала яго, галіла хоць раз на тыдзень ці два, каб не зарастаў шчаціннем, і называла яго, ласкава палёпваючы па худой, абцягнутай скурай, але мяккай і далікатнай шчацэ, “мой красунчык”. Яна і мыла яго раз на месяц – працірала мокрым рушніком цела, каб не закарэла і дыхала. Цяпер жа і ўвогуле кожны дзень завіхалася толькі каля Славіка, як ля свайго роднага...

А яшчэ яна прыдумала яму ласкавае імя, якое адразу прыжылося ў інтэрнаце – Сонечны Зайчык. Праз колькі дзён яго пачалі так зваць усе – спачатку за вочы, а потым і ў твар. Праўда, скарацілі з часам да проста Зайчыка, але ад таго бабаманіна імя менш ласкавым не стала. Яму яно спадабалася, і ён адгукаўся на покліч Зайчык гэтаксама, як і на Славіка...

Дагэтуль яго “кармілі” праз кропельніцу нейкімі растворамі спажыўных рэчываў так, каб толькі не памёр, каб душа трымалася ў целе. А цяпер пачалі адходжваць: спачатку давалі піць голы вар, затым рысавы адвар, потым курыны булёнчык, а прасцей – ваду, у якой варыўся кавалачак мяса, напоі з журавінаў і разынак... І яго цягліцы сталі паступова налівацца сілай, набірацца моцы. Ён пачаў адчуваць спачатку рукі, а потым і ногі. Праз нейкі час ён мог ужо паднесці далонь да твару. Калі ён упершыню ўбачыў сваю паднятую руку, яго здзівіла яе худоба: косці, абцягнутыя скурай... Гэтакі ён быў увесь: можна вывучаць анатомію.

Праз колькі тыдняў ранкамі да Славіка стала прыходзіць медсястра-фізкультурніца. Яны разам варушылі пальцамі – рук, ног. Зрабіць гэта пасля столькіх месяцаў нерухомасці было няпроста. Да таго ж, відаць, былі ў яго і пераломы, можа, рук, можа, скабаў і яшчэ чаго, і косці невядома

як зрасліся... Паступова ён навучыўся згінаць локці, калені, падымаць і трымаць галаву, і нарэшце, яшчэ праз некалькі тыдняў – сядзець!

Незабыўнае адчуванне, незвычайнае – галава кружыцца, быццам ён ляціць, лунае над ложкам, над зямлёю, і ўсе прадметы вакол бачацца зусім па-іншаму... нібыта ўсталі і павярнуліся да яго тварам яны, а не ён да іх.

І вось надышоў час, калі Славіку-Сонечнаму Зайчыку дазволілі спусціць ногі з ложка да падлогі. А яшчэ праз некалькі дзён ён пачаў вучыцца хадзіць. Другі раз у жыцці.

Тут толькі ён заўважыў, што ляжаў у ложку абсалютна голы. Але гэтай сваёй аголенасці ніколькі не саромеўся, бо яшчэ не разумеў, што трэба яе саромецца. Калі ён упершыню скінуў з сябе коўдру, каб сесці, яму стала холадна. Ён задрыжэў усім целам, і тады медсястра прынесла яму белую кашулю. А потым, калі зразумела, што ён вось-вось паспрабуе ўстаць і пайсці, выдала сіні бальнічны касцюм, які насілі ў інтэрнаце амаль усе мужчыны – ён і цяпер ляжаў на тумбачцы.

Славік звесіў з ложка свае худыя папярова-белыя ногі, пакрытыя дробнымі светлымі валаскамі. Баба Маня, якая стаяла побач, заўважыла ягоную нерашучасць і трывогу.

– Ну, уставай, лежабок! – сказала яна грубавата-ласкава, падышла да Славіка: – Смялей, смялей!

Славік ссунуўся, пакратаў пальцамі падлогу – лёгенька, нібы ваду перад купаннем. Яна падалася яму лядзяна-халоднай і цвёрда-слізкай. Як першы лёд на лужыне. Баба Маня дапамагла злезці з ложка. Ён апусціў ступні на роўнядзь падлогі і паспрабаваў абаперціся на іх. Ногі трымцелі, хіліліся і не трымалі яго: цела, здавалася з'язджала з касцей уніз, як мокрая вата, ціснула на ногі і яны падгіналіся. Ды і падлога была хісткай, быццам хацела выгнуцца і ўцячы... З-пад кашулі было відаць толькі адное месца, якое не пахудзела, а засталося ранейшым, і на тле тонкіх – скура ды косці – ног, здавалася тоўстым і ненатуральна вялізным...

Ад новага стану – вертыкальнага – у Славіка зноў закружылася галава, і ён, як раптоўна ап'янелы, увесь у халодным поце, асеў на ложак.

Тым не менш, радасць перапаўняла Славіка. Смяяцца ў яго не было сілаў, не засталося, аднак шчаслівая ўсмешка блукала па твары... І твар ягоны, які яшчэ таксама не навучыўся перадаваць эмоцыі, быў цяпер, як у немаўляці... Страшны і прыгожы разам... Баба Маня не вытрымала, адвярнулася, заплакала і выйшла з палаты...

Праз тыдзень Славік ужо без боязі стаяў каля койкі, трымаючыся за біла і калі-нікалі асцярожна адпускаючы яго. Потым пачаў па сантыметры прасоўваць ногі наперад уздоўж ложка. Ногі не слухаліся... Нязвыкла, пэўна, было іншым назіраць збоку, як дарослы чалавек, у белай бальнічнай сарочцы на голым целе, хвілінамі стаіць амаль нерухома каля ложка, дрыготкімі рукамі моцна трымаючыся за яго.

Ад мыліцаў Славік адмовіўся. Ён навучыўся стаяць, а затым і хадзіць – маленькімі крокамі і па-качынаму перакульваючыся з нагі на нагу. І вось настаў дзень, калі ён адпусціў рукі ад ложка, падышоў да вакна і ўбачыў за ім не брудна-зялёныя сцены палаты і не шэра-белую столь, і нават не блакітнае неба, спярэшчанае аблокамі, а зусім іншае жыццё, тое, якое ён дагэтуль толькі чуў і пра існаванне якога мог хіба здагадвацца. Набліжаючыся да вакна і назіраючы, як паступова пашыраецца краявід, ён зразумеў, чаму раней бачыў толькі неба. Дом быў шматпавярховым, і

ягоная палата знаходзілася высока, на... на чацвёртым ці, можа, і пятым паверсе.

Славік зірнуў уніз і ўбачыў там лета: бліскуча-зялёную лістоту дрэваў і кустоў, аксамітна-смарагдавую траву... Лёгкія белыя, жоўтыя і чырвоныя плямкі кветак на ёй... Светла-шэрыя пясчаныя сцяжынкі, брудна-блакітныя лаўкі ўздоўж іх, і постаці людзей у сіняй вопратцы, раскіданыя па прасторы двара. Усё такое яркае і прыгожае...

Ён быў шчаслівы...

## 5.

Пакуль Славік не хадзіў – жыццё ў пакоі было аднастайным. Палату пад нумарам пяцьсот чатыры яны займалі ўдвох з тым самым лапавухім хлопцам з дзіцячым тварыкам, якога ён першым убачыў, калі ачуўся. Хлопца звалі Сашкам, быў ён дэбілам – алігафрэнам, і жыў у інтэрнаце ужо гадоў дзесяць. Так, гэта быў дом-інтэрнат, а не бальніца, як спачатку падалося Славіку. Інтэрнат для душэўна хворых, а таксама для састарэлых людзей і адзінокіх бездапаможных інвалідаў. Праўда, у вёсцы, на ўскрайку якой ён стаяў, інтэрнатам называлі яго толькі супрацоўнікі ды насельнікі. Астатнія ж казалі проста – дурдом...

Сашка быў мітуслівым і крыклівым, але добрым і спагадлівым, і Славік, не ведаючы іншых, звыкся з ім. Час ад часу ў Сашкі здараліся прыпадкі: ён падаў на падлогу і пачынаў біцца аб яе, ранячы сябе і крывавячы. Тады ў палату збягаліся сёстры, санітары, Славіка выносілі ў калідор, каб ашчадзіць ягоны кволы яшчэ розум, і нешта там рабілі з Сашкам. Некалькі дзён потым той ляжаў амаль без рухаў, не дакранаўся да ежы, што прыносілі са сталоўкі, і, здавалася, спаў са страшна, шырока расплюшчанымі, закочанымі пад лоб, вачыма. Славік падыходзіў, зазіраў яму ў твар, але Сашка ніяк не рэагаваў на гэта, толькі хрыпата соп з дзіка ашчэраным ротам.

Гэтыя гадзіны, а дакладней, дні – былі самымі цяжкімі для Славіка. Яму хацелася паразмаўляць, хай сабе і з алігафрэнам, яму патрэбны былі кантакты з людзьмі, аднак... Праўда, сківіцы ягоныя і язык рухаліся яшчэ павольна і то была не размова, а спроба яе, бо ён, бывала, “застраваў” на нейкай літары і доўга не мог яе вымавіць, цягнучы, як заікаючыся: н-н-н-н-н-а-а-а-а... Але размаўляць яму трэба было. І ён радаваўся тым хвілінам, калі да яго прыходзілі баба Маня альбо сястра-фізкультурніца.

Крыху лягчэй стала, калі ён пачаў асвойваць новую тэрыторыю – калідор. Палата знаходзілася амаль у самым канцы яго (ці пачатку?). Калідор быў доўгім – метраў, мо, восемдзясят ці болей (прынамсі, з канца ў канец Славік налічваў дзвесце пяцьдзясят сваіх дробненькіх, качыных крокаў). Пачынаўся і заканчваўся калідор шырокімі вокнамі, каля якіх Славік любіў спыняцца і падоўгу стаяць ды глядзець у далеч. За адным вакном, тым, што бліжэй да палаты, адразу за інтэрнацкім плотам быў лес – доўгі, бясконцы: на даляглядзе ён зліваўся з небам. За другім, дальнім – дарога, колькі хатаў вёскі, гароды і далей таксама лес да небасхілу. Паабал калідора былі палаты ад нумару 501 да нумару 540, пасярод знаходзіўся пост, дзе дзяжурылі сёстры і санітары, насупраць паста – хол, у якім стаяў даўно сапсаваны тэлевізар. Па краях калідора былі прыбіральні і насупраць іх – выхады да лесвічных пляцовак і ліфтоў, якія не працавалі ніколі, хоць будынак і быў сяміпавярховы.

Невядома было, ці ўвогуле меліся тыя ліфты ў прызначаных для

іх шахтах... Пазней Славіка проста замучыла пытанне: хто дадумаўся паставіць сяміпавярховік дома-інтэрната ў далёкай палескай вёсцы? Бо відавочна было любому, нават алігафрэну, што прасцей і зручней было б пабудаваць некалькі адна-двухпавярховых карпусоў... У якога хворага на галаву архітэктара нарадзілася такая “звышарыгінальная” ідэя? Для Славіка гэта так і засталося таямніцай. Бо быў гэты высотны гмах настолькі ненатуральным сярод драўляных хат вёскі, што нават руіны Калізея не здаваліся б тут такімі чужымі: ці мала разбураных замкаў ды палацаў раскідана па беларускіх вёсках...

Аднойчы Славік захацеў па лесвіцы спусціцца на паверх уніз, але не здолеў. Ён падышоў да прыступак, паспрабаваў апусціць нагу і... не змог паставіць яе на ніжэйшую прыступку: адная нага не слухалася яго, не апускалася, вісела роўна, нібы збіралася ісці проста па паветры, а другая не згіналася ў калене, быццам не ўмела, а ён стаяў і не здагадваўся зрабіць гэта. Забыўся, развучыўся і не было каму падказаць яму, што, каб правай нагой ступіць уніз, трэба левую падагнуць і паўпрысесці на яе... Праз хвіліну такога вісення нагі ў паветры, Славіка кінула ў пот ці то ад стомы, ці то ад жаху, і ён вярнуўся ў свой пакой.

Падымацца падалося лягчэй: прыступка, як мэта, была перад ім і зразумела было, што нагу да яе трэба сагнуць і падняць. Можна і дапамагчы сабе рукамі... Ён узняў нагу і спыніўся, бо зразумеў: потым трэба ж будзе спускацца... А як?

І таму ён не здалеў пабыць ні паверхам вышэй, ні паверхам ніжэй, хоць і карцела яму пабачыць, што там, хоць санітары і не забаранялі яму, у адрозненне ад іншых хворых, зрабіць гэта.

Але ўражанняў Славіку пакуль хапала і ад падарожжаў па доўгім калідоры. На паўдарозе ён мог пасядзець, перадыхнуць, пагаманіць з медсёстрамі, адказаць на колькі іхніх простых пытанняў: “Як справы, Зайчык?” – “Д-добра”, “Як сябе адчуваеш?” – “Д-добра”, “Трэба што-небудзь?” – “Н-не, н-нічога...”, “Далёка сабраўся?” – “Д-д-д-д-да в-вакна!”... І ўсё гэта з вінаватай усмешкай шчаслівага чалавека. Хоць і гаварыў ён яшчэ марудна, па складах, калі не па літарах: ледзь варочаючы языком і кожнае слова д-д-д-давалася яму з ц-ц-цяжкасцю.

Патроху пазнаёміўся Славік з насельнікамі свайго паверха. Дзіўны і страшны народ быў на ім сабраны. Нават чыста знешне – дзіўны і страшны. Хоць Славік іншых не памятаў і не бачыў, аднак разумеў, што нешта тут не так, што людзі гэтыя – не зусім звычайныя, не проста хворыя. Так і было. З усёй Беларусі, а найперш і найбольш з паўднёвых палескіх раёнаў, былі звезеныя сюды адрынутыя альбо пакінутыя роднымі людзі. З маладых у асноўным былі псіхічна хворыя, са старых – адзінокія альбо тыя, ад каго адмовіліся дзеці, а таксама тыя, у каго не было дзяцей, бо ўсё жыццё “пражылі” ў турмах. Было і колькі “нармальных” з маладзейшых – інвалідаў: без ног ці без рук. Усе яны называлі сябе “афганцамі” і былымі дзетдомаўцамі, хоць Славік потым пераканаўся, што не заўсёды было тое праўдай. Гэтыя прывыклі да даўнёнкаў, алігафрэнаў, дэбілаў, нядаўніх зэкаў і бамжоў, нягеглых пенсіянераў, што былі вакол іх, размаўлялі з імі звысоку, бо лічыліся тут “элітай”.

На Славікавым паверсе жылі толькі мужчыны. Казалі, што яны, у сэнсе – мужчыны, займаюць з пятага па сёмы паверх; жанчыны – з другога па чацвёрты, а адміністрацыя дома-інтэрната – першы. Таму левая лесвічная пляцоўка працавала навылёт, толькі дзверы на другі, трэці і чацвёрты

паверхі былі забітыя крыж-накрыж дошкамі і ніколі не адчыняліся, а ў правай – паміж чацвёртым і пятым паверхамі меліся краты, пэўна, каб адгарадзіць мужчынаў ад жанчын.

Дарэчы, краты ў інтэрнаце былі паўсюль, і спачатку Славік нават не заўважаў іх на вокнах за шклом, быццам так і трэба. Прычым, большасць кратаў была зробленая ў форме ўзыходзячага сонца: гэта значыць, да прыкладу, у правым ці левым куце вакна быў паўкруг, з якога ўверх адыходзілі прэнты, бы промні. Пазней Славік заўважыў такія ж краты на мясцовай краме ды іншых будынках і падумаў – дзіўная краіна, у якой нават краты стараюцца рабіць не ў клетачку, а ў форме сонца з прамянямі. Відаць, каб хоць такім чынам прыхарашыць існаванне тут... Зрэшты, не, хутчэй гэта быў своеасаблівы сімвал гэтай дзяржавы, пабудаванай на хлусні, на жаданні выглядаць лепей, чым ёсць насамрэч, на жаданні прыхаваць жудасную праўду "прыгожым" – сонечным – фасадам.

Аднак краты між паверхамі ніякім чынам не перашкаджалі мужчынам трапляць да жанчын і наадварот. Тым болей удзень у двары дазвалялася прагульвацца разам. А таму сэкс сярод гэтых напаловучалавекаў быў ці не галоўнаю забаваю. А можа, і адзінаю даступнаю ім радасцю. Дэбілы, алігафрэны, калі ім край была патрэбная жанчына (а казалі, у некаторых з іх мужчынскі пачатак дамінуе ў такім стане), лезлі да сясцёр, распраналіся, бегалі голыя, трэслі сваімі чэлесамі... ананіравалі проста на калідоры... Брыдка... Сёстры ды санітары стаміліся змагацца з гэтым. А таму дзяўчаты, маладыя жанчыны-алігафрэнкі зацяжарвалі раз за разам. Іх забіралі ў радзільню на колькі тыдняў, а потым прывозілі назад, без дзяцей – бо немаўлят адразу ж адпраўлялі ў дзіцячыя дамы-яслі.

Славіку нават глядзець на такія сцэны, якія раз-пораз узнікалі ў калідоры, было агідна. Ён разумеў, што гэта непрыгожа, некультурна, хоць ніхто яму пра тое не казаў. А таму ўсяляк пазбягаў падобнага. І калі набрыдаў выпадкова, стараўся адразу сысці. Яму было гідка і сорамна, сорамна і гідка... і ён ішоў, куды вочы глядзяць, абы далей...

Але куды ж ты сыдзеш, дзе ж схаваешся...

## 6.

Славік вяртаўся да жыцця даволі хутка. Праз нейкія два месяцы ён ужо адносна добра хадзіў і мог падтрымаць любую размову, хоць сківіцы ягоныя па-ранейшаму часам зводзіла сутарга, і ён пачынаў нібыта заікацца. Але яму яшчэ не хапала словаў, каб выказаць свае думкі, прычым некаторыя слоўцы ўсплывалі з памяці і ён ужываў іх, цалкам не ведаючы дакладнага значэння, а на назвах некаторых прадметаў і рэчаў "тармазіў", згадваючы іх, і запінаўся.

І тады ён пачаў чытаць. Дзіўна, але літары, лічбы і іх значэнне ён памятаў і вучыцца нанава яму не давялося. Аднекуль ведаў, што "А" – гэта "а", а "Б" – "б" і гэтак далей. Станіслаў Сцяпанавіч ухваліў ягоную прагу да чытання, ніколькі не здзівіўшыся, што ён умее:

– Чалавек, які аднойчы навучыўся ездзіць на веласіпедзе альбо граць на гітары ніколі не развучыцца рабіць гэта, – сказаў ён, – і праз дзесяць, і праз пяцьдзясят гадоў ён сядзе і – паедзе... бо некалі пераадолеў ужо страх пачатку, бо памяць мышцаў больш жывучая, чым нават памяць мозгу... Чытай – гэта для цябе самы лепшы шлях набрацца словаў, інфармацыі. Толькі не злоўжывай пакуль, не перанапружвайся...

Славік жа чытаў шмат і ўсё запар, што ні трапляла на вочы: газеты, часопісы, кнігі – быццам бы наталяўся, насычаўся ведамі. Праўда, у кнігах незразумелыя словы сустракаліся яшчэ часцей, чым у гутарках. Тады Станіслаў Сцяпанавіч прынёс яму здому “Тлумачальны слоўнік”, і стала лягчэй.

Тым часам Станіслаў Сцяпанавіч пачаў заходзіць з размовамі да яго ў палату ўсё часцей. Славік палюбіў гэтага ўрача і стаў таксама падоўгу прападаць у ягоным кабінеце на першым паверсе, дзе было шмат кніжак і часопісаў. Апроч медыцынскіх выданняў, каб скрасіць сабе вясковае жыццё, Станіслаў Сцяпанавіч выпісваў на інтэрнат расейскія часопісы “Наука и жизнь”, “Техника молодёжи”, “Вокруг света”... Станіслаў Сцяпанавіч называў Славіка цёзкам і ўсё стараўся далікатна выпытаць, што ён памятае, якія сняцца сны? Радаваўся за Славіка, што запомніў і не забыўся, як упершыню ачуўся і ўбачыў яго ды Сашку, і прасіў зазіраць далей у памяць, запамінаць і пераказваць яму ўсё, што ўсплывае, асабліва імёны і прозвішчы.

– Гэта дапаможа нам знайсці тваіх родных, – казаў Станіслаў Сцяпанавіч, спакойна і павольна, бы тлумачыў малому, – яны, вядома ж, цябе таксама шукаюць і хвалююцца... У цябе была сур’ёзная траўма галавы, і не толькі... Думаю, ты гэта ўжо ведаеш. Некалькі гадоў ты праляжаў без прытомнасці.

– А што здарылася? Гэта была аварыя? Я нічога не памятаю...

– Я магу сказаць толькі тое, што запісана ў гісторыі хваробы. Цябе знайшлі ў лесе, пры дарозе. Моцна збітага... Цябе выпадкова ўбачыў пад кустом нейкі хлопец. Амаль год ты праляжаў у Мінску, у бальніцы, а потым трапіў да нас. Цяпер у цябе амнезія – посттраўматычная страта памяці. Звычайная рэч пры такіх цяжкіх пашкоджаннях... Таму я раю табе, дарагі цёзка, усё, што ўспомніш, запісваць. Каб не перагружаць слабую яшчэ галаву. Вось табе ручка і блакнот. Пішы сюды ўсё, што ўспомніш... Усё.

– Калі я спрабую думаць пра мінулае, – сказаў Славік, дык у мяне адразу пачынае балець галава. Вось тут... – ён паказаў месца, дзе намацваўся доўгі рубец ад раны.

– Не спяшайся, – ласкава папрасіў яго Станіслаў Сцяпанавіч, – не ўсё адразу: твой мозг табе яшчэ трэба трэніраваць, – і сам нібыта супакоіўся, стаў не такім настойлівым у роспытах пра згадкі.

Аднак Славік, хоць і выглядаў шчырым, як дзіцё, сказаў яму не ўсё, што ўжо ведаў.

Сапраўды, ён памятаў сябе толькі з таго моманту, калі ачуўся ў палаце на сонцы. Што было раней – цемра... Толькі цемра і прыступы болю. Цемра і пустата, з якой ён нарадзіўся некалі ці не трыццаць гадоў таму, і ў якую патрапіў зноў і быў, пакуль не ачуўся цяпер. А што было паміж тым: паміж цемрай і цемрай? Як ён жыў, дзе ён жыў і ці жыў увогуле? Адказам на такія пытанні быў яму толькі тупы боль... Але з нядаўняга часу яму пачалі сніцца сны – усплываць карцінкі і мроі ў паўдрымоце, у якіх з’яўляліся людзі, пэўна ж, з яго ранейшага жыцця, бо тут, у інтэрнаце, ён такіх не сустракаў.

Славік вырашыў нікому, нават мілейшаму сябру Станіславу Сцяпанавічу, пакуль нічога не казаць пра сны і ўбачаных у іх людзей, а паспрабаваць разабрацца самому. З расказу Станіслава Сцяпанавіча ён запомніў, што яго знайшлі ў лесе, а значыць, траўма не магла быць выпадковай: гэта не цагліна, што ўпала на галаву, калі ён праходзіў паўз дом, і, хутчэй, не

аўтааварыя: тут нешта іншае і, мажліва, таямнічае... І яшчэ адное турбавала Славіка: ён разумеў, што не з'явіўся ніадкуль, з нічога ў свае дваццаць пяць-трыццаць гадоў, што было ў яго дагэтуль жыццё, у якім засталіся бацькі, мажліва, браты і сёстры, сябры, а, мажліва, жонка і... дзеці... Яны існуюць недзе паралельна, даўно пахаваўшы яго, і ён павінен іх успомніць і адшукаць, знайсці.

Каб знайсці сябе...

## 7.

Так, Славік пачаў бачыць сны. Зрэшты, здаецца, яны сніліся яму і тады, калі ён ляжаў без прытомнасці. Прынамсі, перад тым, як ён ачуўся. Каляровыя сны. А таму ён цяпер і не мог разабрацца, што ёсць ягонае жыццё, а што – сны. Ён пачаў ведаць і ўспрымаць сябе толькі з таго моманту, як прачнуўся ад спякоты, ад сонца, што падала яму проста на твар. Ён некалі ўжо адчуваў тое сонца, ён некалі (ці не ў тым лесе, пра які казаў яму доктар?) узненавідзеў яго. І мух, што поўзалі па твары, па руках... Але пэўна сказаць, што было з ім да таго, як ён апрытомнеў, і хто ён – Славік не мог. І ўвогуле, ён заблытаўся ў тым, што яму прыснілася, і што магло быць ягоным ранейшым сапраўдным, аднак забытым жыццём. Бо ён разумеў: сон і жыццё – розныя рэчы, сны не ёсць рэальнымі падзеямі, хоць і падобныя да іх. Але тыя, хто яму сніўся-мроіўся, могуць быць рэальнымі людзьмі, з ягонага мінулага: сябры, знаёмыя, родныя, маці, бацька... Толькі як іх вылучыць сярод іншых – чужых і невядомых яму раней? Як здагадацца, што гэта сябар, гэта брат, а гэта – проста персанаж сну... Да таго ж, яму ўжо сніліся сны з гэтага, цяперашняга, жыцця, героямі якіх былі і Станіслаў Сцяпанавіч, і Сашка... Настолькі рэалістычныя, што ён, прачнуўшыся, не мог зразумець: жыве ён ужо ці яшчэ спіць? А раней – спаў ён ці жыў?..

Была тут адна прыгожая медсястрычка, якая ад першых дзён сімпатызавала яму, і з якой ён любіў пасядзець на пасту і паразмаўляць па дарозе ад вакна да вакна. Яна прыснілася яму адной з першых... І яны рабілі тое, што ён бачыў, як робяць алігафрэны мужчына з жанчынай, яму было страшна прыемна, а калі прачнуўся, стала глыбока сорамна, і ён, ранкам, праходзячы паўз пост, на якім сядзела Таня, так яе звалі, сарамліва адварочваўся і ўціскаў галаву ў плечы.

– Славік! – клікала Таня, тым самым прыснёным ласкавым голасам, – Сонечны Зайчык, ты што праходзіш міма? Прысядзь каля мяне...

А ён падціскаў вусны і, нягледзячы на яе, бы дзіцё, што нашкодзіла, ішоў далей: гэтак яму было няёмка за тое, што прысніў.

– Пакрыўдзіўся за што, Зайка... – чуў услед зычлівы і спагадлівы голас Тані, якая, вядома ж, ні пра што не здагадвалася, але як ён мог ёй нешта патлумачыць, бо сам пакуль не зразумеў, што яна пра ягоныя начныя прыгоды з ёй – нічога не ведае і саромецца яму няма чаго...

Ці бачыў ён сны раней, калі "спаў" без прытомнасці, і якія то былі сны, ён не памятаў... Цікава, а ці былі сярод іх такія, як з Таняй?

Калі былі, дык можа ён і не паміраў, а жыў увесь час снамі...

Апошнім часам сны сталі сніцца часцей і часцей, кожную ноч і не па адным. Але галоўнае не тое, што яны сніліся, галоўнае, што яны цяпер запаміналіся і памяталіся. Ён прачынаўся, але вочы ў ноч не расплюшчваў, каб не спужнуць нядаўні сон. Ляжаў і пераганяў у галаве нядаўна ўбачанае, каб запомніць самае істотнае: падзеі, людзей, пачутыя імёны, назвы...

Адзін з першых сноў з невядомымі яму, неінтэрнацкімі, людзьмі, прысніўся такі...

Зрэшты, мо то і не сон быў, а ўспамін, бо ён, здаецца, і не спаў зусім, а проста паўпрылёг у ложку і пра нешта думаў. Дагэтуль ён чытаў кнігу. Яна ляжала на грудзях і ціснула на іх сваім лёгкім, прыемным цяжарам. Яму ўбачыўся-прымроіўся горад. Не вёска, у якой ён цяпер быў – вялікая вёска з драўляных хатаў, крыху наводшыбе якой стаяў сяміпавярховы будынак дома-інтэрната інвалідаў, і сам гэты адзінкавы гмах з кацельняй побач і двухпавярховікам для абслугі быў у вёсцы гэткім жа чужым, як і ягоныя насельнікі між вяскоўцаў...

Славіку прысніўся горад з плоймаю падобных высокіх і яшчэ вышэйшых шматпавярховых дамоў. Ён толькі прыехаў сюды з іншага, яшчэ большага горада. У першы дзень ён пасяліўся ў гатэлі, ляжыць у нумары на ложку з кнігаю на грудзях, якая не чытаецца, бо яму вельмі і вельмі кепска. І яму згадваецца не сама падзея, а пачуцці, якія агарнулі яго тады: няўтульнасці і пакінутасці, няпэўнасці і самоты...

Чаму яму так кепска? Таму, што да яго раптам прыйшло ўсведамленне, што вось гэты дзень і ёсць ягонае развітанне з дзяцінствам. Не з юнацтвам, не з маладосцю, а менавіта з дзяцінствам, хоць ішоў яму ўжо дваццаць першы год і ён скончыў інстытут і прыехаў па размеркаванні працаваць у гэты горад. Студэнцкае, інтэрнацкае, агульна-дружнае жыццё было своеасаблівым працягам школьнага, дзіцячага, сямейна-хатняга. А вось цяпер ён застаўся сапраўды адзін. Бацькі былі недзе далёка ў вёсцы, але ён пра іх не надта і згадваў, бо забыў, адвык за гады вучобы. Яму было адзінока без сваіх студэнцкіх сяброў, што, як і ён, раз'ехаліся па ўсёй Беларусі. І недзе, мажліва, гэтаксама сумавалі ў пустых пакоях гатэляў... Ён ледзь не фізічна адчуваў гэты сум і боль, што вылучалі цяпер тысячы і тысячы студэнцкіх сэрцаў – птушанятаў, выкінутых з аднаго гнязда, рыбінаў, выплюхнутых з іхняе стыхіі – вады – на бераг... Адарваных па-жывому і раскіданых па ўсёй краіне...

Сапраўднае дарослае жыццё пачыналася толькі цяпер. І ён раптам глыбока зразумеў тых хлопцаў, якія паспяшаліся ажаніцца на апошнім, чацвёртым курсе, перад размеркаваннем, і яшчэ больш – тых дзяўчат-аднакурсніц, што гэтак трымцелі хутчэй выскачыць замуж...

О, як яму адзінотна было цяпер! Жыццё, здавалася, скончылася, наперадзе нешта абсалютна невядомае і страшнае... Ён і дагэтуль бываў далёка ад радзімы. Адзін. Але тады ён ведаў, што гэтая адзінота ягоная часовая, што пройдзе месяц-два, і ён вернецца назад, у звыклае жыццё. А цяпер. Што яго чакае цяпер? Гэтая невядомасць палохала. Аж да таго, што жыць не хацелася. У яго нават варухнулася думка – павесіцца... Альбо залезці на самы высокі паверх гатэля і скочыць уніз... Далейшае жыццё яму здавалася бессэнсоўным, непатрэбным у сваёй незразумеласці і няпэўнасці.

Ён тады злавіў сябе на гэтай думцы і спалохаўся. Адчай і самота сапраўды былі моцнымі. Але ж не настолькі! Не настолькі, каб скончыць жыццё самагубствам? Не ты адзіны цяпер у сваёй адзіноце і самоце – казаў ён сабе – што калі ўсе пачнуць забіваць сябе пасля першых выпрабаванняў “дарослацю”? Трэба неадкладна выводзіць сябе з гэтага стану, інакш і сапраўды да самагубства недалёка.

Ён схапіўся за гэтую думку, як за саломіну, разумеючы, што пакуль не ўвагнаў сябе ў стан, з якога вярнуцца нельга, пакуль яшчэ можа крытычна мысліць і ўсведамляць навакольнае, трэба нешта змяняць. Прынамсі, выйсці

з гэтых шэрых сценаў, з гэтага гатэльнага пакоя з высокаю, упрыгожанаю ляпнінай, трохметроваю сталінскаю столлю, якая цісне на яго ўсім сваім цяжарам, пагражаючы абваліцца, упасці ды раструшчыць, і наводзіць на такія думкі...

І ён пайшоў у горад, у знакаміты парк, у якім быў толькі аднойчы, у дзяцінстве: у трэцім класе іх, як лепшых вучняў, прывезла сюды на экскурсію піянерважатая.

Парк знаходзіўся зусім блізка ад гатэля, за некалькі сотняў метраў, і быў сапраўды раскошным, багатым. Старым. З былым княскім палацам, на якім вылучаўся надпіс ранейшым правапісам "Палац піонэраў", і знакамітым лебядзіным возерам. Ён спусціўся ўніз да птушак. Лебедзяў было чатыры: два белыя і два чорныя, і дзюбы чорных здаваліся больш чырвонымі, чым белых. Гледзячы здалёк на іх, тут, на прыродзе, сярод зеляніны і жыццёвага хараства, ён выпусціў на волю і самую галоўную думку, ад якой і было яму вусцішна і самотна: там, у вялікім горадзе, адкуль прыехаў, ён развітаўся з дзяўчынаю, якую кахаў... Кахаў без узаемнасці, але, тым не менш, на нешта спадзеючыся. Там ён штодзень быў побач з ёю... І вось гэтая павуцінка надзеі, якую ён так песціў і аберагаў, абарваная... Усё. Больш ніколі ў жыцці яны не сустрэнуцца. Дым, які выйшаў з цыгарэты, назад у яе не вернецца. Яны цяпер не ў розных гарадах – яны на розных планетах... І зразумеў гэта ён тут, у гатэлі. І далейшае існаванне стала бессэнсоўным, непатрэбным, вусцішным... І пацягнулася шыя да пятлі...

Ён стаяў на беразе возера, стаяў каля вады – яшчэ адной стыхіі, якая ўмее забіраць чалавечае жыццё, хаваць у сабе чыесьці сумлівы і гора. Лебедзі, прывучаныя да падачак, ужо плавалі каля яго, аднак, ён не зважаў на іх. Як яму было кепска! Як яму было самотна! Як яму было адзінока! Як раздражнялі яго гэтыя шчаслівыя сваім птушыным шчасцем нахабныя і сквапныя лебедзі. І як выводзіў з сябе рогат дзяўчыны, з гідкім папіскваннем, што стаяла з хлопцам на масце па-над возерам. Злаваў, але і ацверажаў. Усё часовае, супакойваў ён сябе, усё праходзіць. Пройдзе і гэта. Жыццё ёсць змаганне. І трэба жыць. Каб выканаць сваё прызначэнне, дагэтуль невядомае яму... І якое, можа, так і застанецца неразгаданым да апошніх дзён... Трэба жыць!.. Як бы цяжка ні было... Як бы ні палохала тая невядомасць, што прытаілася недзе наперадзе...

Ну хіба гэта можна назваць сном?

Сны бываюць яркімі і падрабязнымі. Але ж не настолькі... Ці не варта ўзяць яго за нейкую аснову, за пункт адліку? Бо трэба ж з чагосьці пачаць, ад чагосьці адштурхнуцца... Але – як дакладна: жыццё ёсць змаганне...

## 8.

Блукаючы па калідорах і паверхах інтэрната, Славік звярнуў увагу, на якой мове ён размаўляе. На "трасянцы", як і большасць хворых, як і амаль увесь персанал, апроч хіба Станіслава Сцяпанавіча, мову якога ўмоўна, у параўнанні, можна было назваць рускай, хоць наўрад ці жыхары, да прыкладу, Свярдлоўска палічылі б яе сваёй з-за набытага акцэнту і шыкоўных мясцовых слоўцаў – навязлівых і непазбыўных, бо ёмкіх і дасціпных. У Славіка, хіба, уласна беларускіх – літаратурных – словаў было трохі больш, чым у палешукоў з жыхароў інтэрната ды персаналу. Аднак, усё ж мова ягоная была не мінскаю, а хутчэй, таксама паляшуцкаю. Зрэшты, тут усе казалі "му" замест "мы", "мула", замест "мыла", "буў", а не

“быў”, адзін ён “мыкаў” ды “быкаў” і ўжо гэтым, таксама як і Станіслаў Сцяпанавіч, адрозніваўся ад астатніх.

Славік назіраў за жыццём насельнікаў інтэрната і бачыў, што апроч сэксуальнай заклапочанасці, найбольш турбаваў іх заўсёдны голад. Кармілі хворых, якія былі хворымі “на галаву”, альбо былі без ног, без рук ці старымі, аднак, у цэлым, можна сказаць, фізічна здаровымі, не проста кепска, а вельмі дрэнна. Ранкам падфарбаваная вада, часта без цукру: гарбата з кавалкам хлеба. У абед такая ж вада, але ў талерцы, і ў ёй плавала колькі макаронінаў альбо крупінаў ці кавалачкаў бульбы, рыбіныя косці альбо ніткі мяса і лыжка прэснай кашы на другое. Увечары зноў лыжка кашы ці жменя макаронаў. Казалі – у дзяржаве крызіс, праблемы, няма грошай. Ён гэта разумеў: у ягонай дзяржавы заўсёды былі праблемы з харчамі і слова “дэфіцыт” ён памятаў. Асабліва пакутавалі ад голаду ляжачыя, калекі і тыя, хто не меў ні капейкі пенсіі. Маладыя ж дэбілы, алігафрэны, якіх выпускалі ў вёску, маглі падпрацаваць там і нешта зарабіць альбо ўкрасці.

Дэбілы ўвогуле адразу прынялі яго “за свайго”. Нават не так: яны палічылі Славіка ніжэй за сябе. І пакуль ён і сапраўды быў, як малое дзіця, не разумеў нічога, пасмейваліся з яго і здзекваліся. Някрыўдна, але жорстка. Налілі яму паўшклянкі віна, “чарніла” – выпі. Сказалі сок. Ён выпіў, а яму, з ягонымі слабымі псіхікай ды страўнікам рабіць гэта яшчэ ніяк нельга было. Ён, бы ў памараку, блукаў па калідоры ад сцяны да сцяны, падаў, галёкаў нейкую нібыта песню, а яны хадзілі за ім услед і рагаталі... Далі закурыць – у Славіка “паехала” галава ад тытуню, бы ад мацнейшага наркотыку. Прывялі маладую дэбілку і за “выпіць” прымусілі яе распрануцца нагала перад імі ўсімі, і найперш, вядома, перад Славікам, і паказваць, што ў яе ёсць. П’яная голая дзяўчына са слінявымі вуснамі, раскірэчанымі нагамі і клокам ускудлачаных рудаватых валасоў... выклікала ў яго яшчэ большую агіду, чым апранутая. Іншых жа гэта “завяло”, яны накінуліся на яе і па чарзе згвалтавалі пры ім... Прымушалі і Славіка, але ён, калі падштурхнулі, сілай падвялі зусім блізка да бездапаможнай, у слязах дзяўчыны, званітаваў проста на яе засмарканы спермай жывот... а потым міжволі крутнуўся ў руках, што сціскалі яго, і здаровыя дэбілы адляцелі, як пушынкі. Ён здзівіўся: цягліцы аднекуль памяталі прыёмы, як вырывацца з абцугоў чужых абдымкаў... Яшчэ больш здзівіліся хворыя, якія з таго часу пачалі нават пабойвацца яго і жартаваць кінулі.

Што яго ўразіла не менш. Мала таго, што гэтыя людзі з інтэрната самі па сабе былі страшныя – недагледжаныя, недакормленыя, абы-як апранутыя, дык яшчэ і ў большасці з іх былі кепскія зубы. І ўсмешка іхняя выглядала дзікай, як у разбойнікаў з мульцікаў... Зубы ім ніхто не лячыў, а калі ў кагосьці пачынаў невыносна балець зуб, яго вырывалі. Часам самі хворыя, каб і да ўрача не хадзіць. Абвязвалі, чаплялі неяк ніткай і цягнулі... Пры гэтым той, у каго вырывалі зуб жудасна крычаў, а астатнія рагаталі... І гэтыя бяззубыя, шчарбатыя і ўпалыя раты ў нестарых яшчэ людзей, найбольш палохалі яго напачатку. А потым прывык. Нават навучыўся бачыць іх прыгажосць: бо і сярод пачварных ёсць прыгожыя і непрыгожыя, бо прыгажосць – рэч адносная, як і ўсё ў гэтым свеце...

І яшчэ Славік заўважыў, як жорстка абыходзіцца персанал з хворымі – за людзей не лічыць. Санітары-мужчыны білі іх за любую, самую малую, правіннасць. Білі бязлітасна, з асалодай, атрымліваючы ад гэтага, відаць, найвялікшае задавальненне. Не да крыві – навучыліся, але збівалі таго, хто нібыта парушыў “парадак” так, што некалькі дзён ён не выпаўзаў з палаты,

пакуль не агойтваўся. Дзяўчат гвалтавалі, прымушалі “іграць на дудцы”, прычым задавальнялі сваю патрэбу з дзікай радасцю, адкрыта, не зважаючы ні на кога побач, не саромеючыся, быццам вакол іх былі не чалавекі...

Статус жанчыны тут увогуле быў зведзены да нічога: да ролі самкі – бы ў жывёльным статку... І самі жанчыны з персаналу нібы гэтага не заўважалі. Найперш медсёстры са старэйшых, якія не адставалі ў жорсткасці ад мужчынаў. Крычалі на хворых, абзывалі брудна і крыўдна, білі беспакарана. Прычым, хлопцам у сваёй злосці і нянавісці стараліся пацэліць нагой менавіта ў пахвіну – каб балючай...

Хоць Славік і разумеў, што, відаць, па-іншаму з такімі людзьмі, як гэтыя хворыя, нельга, бо не прымаюць і не баяцца яны нічога, апроч сілы, бо калі быць з імі добрым і ласкавым, дык на галаву сядуць... Але, тым не менш, падавалася яму гэта несправядлівым.

Асабліва цяжка было старым. Нармальным, звычайным людзям, але састарэлым і бездапаможным, ад якіх адмовіліся родныя і блізкія ды аддалі сюды. Відаць, у дзяржавы і сапраўды былі кепскія справы, калі яна трымала ў адным доме-інтэрнаце і дэбілаў, і старых, што ўсё жыццё працавалі на яе. “Старикам везде у нас почёт...”, – спявалася ў знакамітай песні, якая колькі разоў гучала па радыё і тут. Як здзек. Што ж, большага “пачоту”, пэўна, яны не заслужылі, як дажываць свае апошнія дні ў дурдоме сярод алігафрэнаў...

І яшчэ Славік заўважыў: усё тут было на нервах. Трымалася на нечым тонкім, бы павуцінка, што ірвецца імгненна і непрадказальна. Знешне спакойны чалавек мог у хвіліну сарвацца з ланцугоў з-за нейкага нязначнага, непрыкметнага, здавалася б, слова ці ўчынку, разысціся да пены на губах і біцця галавой аб падлогу, да ірвання адзежы на сабе і бесперапынных наскокаў на ўсіх сустрэчных, як на сценку, каб збіць, стаптаць, знішчыць... Супакойваць яго накідваліся санітары ўдвох-утрох і толькі пырскі сліны ляцелі ва ўсе бакі...

Аднак і голад, і жорсткасць асабіста Славіка пакуль міналі. Яго палюбілі і медсёстры, і санітары. Стараліся падтрымаць ласкавым словам і падкарміць прынесенымі здому прысмакамі. Яго шкадавалі... Чаму яго? Чаму пашанцавала стаць любімчыкам і недатыкальным менавіта яму? Хіба ж можна на гэтыя пытанні адказаць? Хто растлумачыць, чаму чалавечы статак раптам пачынае любіць аднаго і ганіць іншага... Нават псіхолагі могуць толькі даваць свае надуманыя здагадкі ды меркаванні, а праўды не ведае ніхто.

Такім было жыццё вакол Славіка. І трэба было ўваходзіць у яго, вяртацца і прымаць тым, якое яно ёсць: найчасцей жорсткае і несправялівае, рэдка – добрае і шчаснае... Гэта ён сяк-так разумеў нейкім глыбінным розумам. Аднак больш за ўсё яго здзівіла вось што: аднойчы, блукаючы па калідорах, ён падышоў да вакна ў холе, за тэлевізарам. Звычайна, ён спыняўся каля вокнаў у канцах калідора, з якіх быў бачны толькі лес і трохі хатаў вёскі. Вакно ў холе выходзіла на другі бок, іншы, чым у ягонай палаце і па краях калідора, і з яго прад Славікам адкрыўся від на амаль усю вёску. Яна аказалася немаленькай: па гэты бок некалькі вуліцаў цягнулася кіламетры на два, і туды, зразумеў Славік, быў зрушаны вясковы цэнтр. З-за дрэваў вызірнуў белы цагляны двухпавярховы будынак са сцягам – сельсавет. Сцяг на ім быў... Славік хітнуў галавой і працёр вочы... Мроіва не прапала... Сцяг быў такі, які ён бачыў колькі разоў у снах у руках людзей: бел-чырвона-белы, а не чырвона-зялёны, як павінна было б быць у гэтай дзяржаве, як было, калі ён жыў у ёй раней...

І тады Славік зразумеў, што казаць пра нейкае выздараўленне і вяртанне пакуль рана. Бо гэтыя колеры сцяга над сельсаветам – ці не ёсць працяг ягоных сноў-мрояў, ці не ёсць трызненне на яве... Такога не магло быць, не можа, бо не было амаль ніколі за гісторыю гэтай краіны...

І ён адчуў, што зусім заблытваецца: дзе сон, дзе ява, дзе ён сённяшні, а дзе... учарашні, пра якога яшчэ трэба згадаць...

## 9.

Славік сядзеў на пасту і гутарыў з медсястрою Таняй, мясцовай дзяўчынай гадоў васямнаццаці, якая пасля школы не прайшла па конкурсе ў медыцынскі інстытут і працавала тут дзеля “стажу”, каб праз год лягчэй было яшчэ раз паспрабаваць паступіць... З ёю яму было добра, бо ён адчуваў (а цяпер ён больш адчуваў, чымсьці разумеў: як сабака), што і ёй прыемна з ім, што і ён сімпатычны ёй. Таня, каб дастаць нейкія лекі, расчыніла шафу, насупраць якой ён сядзеў, і там бліснула нешта падобнае да здымка чалавека – нейкага дужа знаёма-незнаёмага яму мужчыны. Гэта быў... твар чалавека, які яму колькі разоў... сніўся... толькі значна старэйшага... Славік падхапіўся да Тані:

– Хто там у цябе? Пакажы...

– Дзе? – перапытала здзіўлена Таня.

– У шафе!

– Ха-ха-ха! – зразумела і засмяялася, – нікога там няма. Гэта ж люстэрка...

– Як нікога? Я ж бачыў, там чалавек, пакажы...

– Глядзі, – Таня шырока расчыніла дзверы.

Славік падняўся, падсунуўся бліжэй, каб лепш разгледзець таго чалавека і ўбачыў, што гэта не здымак, а нейкае шкло і чалавек у ім рухаецца – жывы.

– Сябе не пазнаў, Зайка? – усміхнулася Таня.

І сапраўды, не адразу Славік зразумеў, што ў люстэрку ён сам... Перастала ўсміхацца і Таня, ёй дайшло, у чым рэч, і яна стаяла моўчкі, падцяўшы вусны і міжволі склаўшы рукі на грудзях, быццам адразу пасталела.

Так, той чалавек у снах і гэты ў люстэрку – і ёсць ён, Славік. А сны, такія яркія і запамінальныя, бо гэта ягонае мінулае ці нешта звязанае з ягоным мінулым. Запамінальныя, можа, яшчэ і таму, што ён прахопліваўся пасярод ночы і доўга ляжаў з расплюшчанымі ў цемру вачыма, згадваючы тыя “фільмы”, якія толькі што паглядзеў і нібыта працягваючы іх. Але што ў іх, тых снафільмах, была праўда, а што – уласна сон?.. Ці ўсё толькі сон, хай і з ім самім у “галоўнай ролі”... Як яму разабрацца ў гэтым, каб не заблытацца яшчэ больш?

Калі зноў дзяжурыла Таня, ён папрасіў яе яшчэ паказаць яму люстэрка. Яна расчыніла шафу, а сама адышла, быццам па справе. Славік асцярожна зазірнуў у люстэрка. Адтуль глядзеў на яго чужы яму чалавек, у твары якога ён з цяжкасцю пазнаваў свае, так – свае, рысы. Па-першае, там быў не хлопец, а мужчына. Малады, але мужчына... Па-другое, твар у гэтага чалавека быў відочна нездаровы: замоцна схуднелы – адныя вочы, якія гарэлі напаўтвару, блішчэлі дзіка-хвора, глыбока, сквапна зазіраючы ў таго, хто цяпер глядзеў у іх. І ён спалохаўся сябе самога... схапіўся за гэты чужы яму твар, заплюшчыў вочы, але і ў цемры, пад рукамі ён адчуваў

тыя – свае і не свае – скулы і пашчэнкі, яміны вачэй і цвёрдасць носа... Нос... Так, нос быў ягоны. Буйны, паляшуцкі і з заўважнай гарбінкай. Такі ж нос, толькі без гарбінкі, быў і ў яшчэ аднаго чалавека, які яму таксама сніўся – у сябра-журналіста, і таму іх незнаёмыя людзі лічылі ледзь не братамі. Ён саромеўся свайго носа. Ён камплексаваў з-за яго. І, мажліва, яму і не шанцавала ў каханні якраз з-за гэтай сарамлівасці. Ён жартаваў з хлопцамі, што можа прысніцца дзяўчатам толькі ў эратычных снах. І меў на ўвазе якраз свой нос.

Некалі, праз два-тры гады вучобы, наязджаючы з Мінска ў вёску і сустракаючы там сваіх былых аднакласнікаў, ён здзіўляўся, гледзячы на іх, як хутка яны сталеюць, як грубеюць рысы іх твараў. І смяяўся ў адказ, калі яны яму казалі тое ж: трэба бачыцца часцей, каб не заўважаць, як мы старэем...

З самім сабою ён не бачыўся... амаль тры гады.

Так, там у люстэрку быў ён. Зрэшты, Славік у гэтым ужо ні на хвілю не сумняваўся. Проста ён не прымаў пакуль сябе новага.

Змучанага, змененага хваробай, пасталелага, калі не пастарэлага...

## 10.

З таго выпадку ён крыху па-іншаму пачаў ставіцца да сваіх сноў і “трызненняў”. Там, у снах, пабачанага ім у люстэрку чалавека, а значыць яго самога, звалі зусім не так, як тут, не Славікам... Яго аклікалі, здаецца... зусім іншым імем. Але чаму ж яго завуць Славікам? Гэта пакуль не ўкладвалася ў ягонай галаве, прымушала пакутаваць. І ад залішніх галаўных боляў у тым ліку. А тут яшчэ Станіслаў Сцяпанавіч са сваім навязлівым жаданнем дапамагчы і ласкавымі роспытамі: ну як справы? як галава? не баліць? што снілася? як спіцца?..

Ага, Станіслаў Сцяпанавіч якраз і можа патлумачыць, чаму яго завуць Славікам... І ў бліжэйшы момант ён скіраваў да прыадчыненых дзвярэй кабінета доктара. Той сядзеў, унурыўшыся ў нейкія паперы.

– Можна да вас? – спытаў Славік.

– Заходзь, цёзка, – ветліва сказаў Станіслаў Сцяпанавіч (мо ветліва, а мо і паблажліва, але ўсё ж не так, як да іншых, а дабрэй...) – што ты хацеў?

– Нічога. Проста пагутарыць. Мне чамусьці здаецца, што мяне завуць не Славік, а неяк інакш...

– Ну-ну... Можа быць. А як?

– Не ведаю. Спрабую думаць, і пачынае балець вось тут... – Славік паднёс руку да галавы, паказаў, – і ўсё... і больш не магу... як не пускае нешта далей... Але мне здаецца, што раней мяне звалі іначай. Не Славік... А чаму мяне ўсе завуць Славікам?

– Ну, наколькі я ведаю, гэта было адзінае слова, якое ты сказаў, якое ты прашаптаў, апрытомнеўшы на нейкі час у бальніцы. Таму цябе так і запісалі Славікам. Ні прозвішча, ні іншага імя ў тваёй гісторыі хваробы няма. Ты сам павінен цяпер іх успомніць...

– Не магу... Хачу і не магу.

– Не спяшайся... Не прымушай сябе. І не хвалюйся. Ты і так успомніў шмат. Ты малайчына. Я ўжо казаў табе: калі ўспомніш што новае, не саромейся – раскажы. Мне, напрыклад. Гэта дапаможа нам. Добра?

– Добра... Я вам усё расказваю.

Ну што яшчэ ён мог яму адказаць? Распавесці пра свае сны-трызненні? Якія? Тыя, дзе ён з Таняй? І што гэта дасць? Іншыя “сны” пра “горад”, пра “сяброў”, таксама могуць быць такімі ж дадумкамі чагосьці, а не праўдай, не тым, што было з ім, а простымі мроямі... І можна не толькі самому не разабрацца, а і Станіслава Сцяпанавіча збіць з тропу...

Не, і яшчэ раз не – падумаў Славік. Пачну расказваць патроху толькі тады, калі ўспомненае ў мяне самога складзецца ў больш-менш цэльную карціну. І яшчэ адное ён для сябе вырашыў, каб не заблытацца ад пачатку і канчаткова: тут, у інтэрнаце, у гэтым жыцці, заставацца Славікам... І такім чынам падзяляць гэтых двух, так ён падумаў, гэтых двух людзей: таго, што жыве тут, і таго, што жыў там...

У блакнот, які яму даў Станіслаў Сцяпанавіч, ён вырашыў нічога з успамінаў не запісваць – хай застаецца чыстым і ляжыць навідавоку. Сам жа папрасіў бабу Маню, каб прынесла сшытак унучкі-школьніцы. І ў ім пачаў паціху рабіць запісы ўзгаданага і хаваць у сваім ложку пад матрацам. Чысты блакнот і ручка заўсёды ляжалі на тумбачцы каля ложка, ён глядзеў на іх і радаваўся сваёй прыдумцы, не здагадваючыся, што Станіслаў Сцяпанавіч, раскруціўшы аднойчы асадку, пабачыў, што колькасць пасты ў стрыжні паступова змяншаецца, зразумеў, што Славік робіць патаемныя запісы, знайшоў іх і чытаў, калі яго не было ў палаце... Але наіўны Славік пра гэта не здагадваўся...

А прымроілася-ўспомнілася Славіку, ці “прыснілася”, ужо нямала... Толькі, адно ва ўсім гэтым па-ранейшаму спыняла яго: не мог ён сам разабрацца, дзе праўда, а дзе ягоныя дадумкі... І ніхто ў гэтым не здольны яму дапамагчы. Ніхто. Бо ён пераканаўся: успамінаць трэба на яве, а не паводле сноў. Іначай, можна толькі яшчэ больш заблытацца. Бо часам сніліся яму абсалютна фантастычныя, неверагодныя прыгоды, якія, зразумела, падаваліся яму рэальнымі, пакуль спаў. Часта ў снах ён лятаў: падскокваў і плыў нізка над зямлёю, раскашуючы ў пачуцці палёту і волі... Альбо, скажам, сніў, як лезе на нейкую крутую гару, зрываецца і падае, ляціць у жудасным страху ўніз, але не разбіваецца, а ўстае і зноў караскаецца, баючыся сарвацца. Нарэшце, шчаслівы ўзлазіць на вяршыню і... прачынаецца ў сваім ложку ажно ўспацелы ад перажытага...

Вядома, гэтага не магло быць у жыцці. Падобны сон ён лічыў сімвалічным – знакам таго, што пройдзе праз усе цяжкасці і ўрэшце рэшт даб’ецца свайго. Гэта відавочна. Але былі і сны рэалістычныя, звычайныя. І як не прыняць іх за праўду, як аддзяліць тое, што на справе было ад таго, што прыснілася, каб не выплюхнуць разам з прыснёным важныя падзеі з мінулага?

Ён так і запісаў у сваім таемным сшытку: “Не ведаю, што праўда, а што сон, дзе я сапраўдны, а дзе прыснёны...” І як адрозніць адно ад другога ён прыдумаць не мог. Бо не было ў яго памяці – той асновы, той глебы, якая іншым дазваляе не з’ехаць з глуздоў, не заблытацца ў саміх сабе. Бо ўспаміналася яму начамі ўсё не запар, а кавалкамі: адтуль, адсюль – патроху. Розныя падзеі. Зусім не звязаныя між сабою. З розных гарадоў – як мінімум з двух, здагадваўся ён. І яшчэ з вёскі. Уперамешку. Фрагментамі...

Каб неяк упарадкаваць згаданае ноччу, ён сыходзіў з палаты ад Сашкі, які, калі не ляжаў пластом у ложку пасля ўкола, быў невыносным і навязлівым: лез з пустымі – бесталковымі, непатрэбнымі – размовамі, шумна дурачыўся, пырскаючы слінай... Сыходзіў у хол, сядаў ля вакна

на адзіноце, на самоце, і мог сядзець так гадзінамі: ад палудня да вячэры, ладуючы падзею да падзеі, адбудоўваючы сваё мінулае, як дзіця з рознакаляровых кубікаў ды плашак канструктара складвае нешта падобнае да будынку...

Станіславу Сцяпанавічу не верылася, як урачу, што Славік так хутка аднаўляецца, так прагрэсуе. Столькі часу праляжаць у бяспамяцтве, у коме, і цяпер пачаць узгадваць сваё мінулае! Ну ці не цуд... Праўда, не зусім згадваць: цяжка разабрацца пакуль, дзе яго сны цяперашнія, а дзе ўспаміны пра мінулае. Але якраз сны і дапамагаюць яму вярнуцца ў сённяшняе жыццё, адаптавацца ў ім. Інакш было б зусім цяжка... Мозг працуе. Ён, мусіць, працаваў і тады, калі Славік "спаў", так, спаў, і стан ягоны, відаць, пасля траўмы быў падобным да летаргічнага сну. Так, бо інакш адбылося б поўнае разбурэнне свядомасці... Зрэшты, думаў Станіслаў Сцяпанавіч, я гэтаму не вучыўся і трэба папытаць у спецыялістаў у Гомелі альбо ў Мінску, ці магчыма такое? І як увогуле бывае ў падобных выпадках... Ці паспрабаваць у кніжках пашукаць адказу... Хоць, апроч агульных, апісаных у кнігах, паводзінаў, відаць, бываюць і выключэнні – у кожным канкрэтным выпадку адбываецца па-свойму.

Ці не з такім выключэннем з правілаў я і маю справу ў гісторыі са Славікам? – думаў Станіслаў Сцяпанавіч.

## 11.

Славік разумеў, што яму трэба займець тут сябра, з якім ён мог бы проста размаўляць і, між іншым, дзяліцца думкамі, а то і "снамі". Не трымаць усё ў сабе, а час ад часу пераказваць узгаданае, каб нейкім чынам упарадкаваць тое для сябе. Але – дзе ўзяць такога сябра? Ён перабраў у галаве тых, каго ведаў і прыкідваў: з кім можна падзяліцца сваім самым таемным.

Баба Маня... Можа быць. Але што яна яму параіць? Ды і ці гатовая яна да сур'ёзных размоваў. Да доўгіх размоваў. Яна вечна некуды спяшаецца. Ёй трэба паспець усё зрабіць. Ды і якая яна баба? Ёй, можа, трохі за пяцьдзясят. Мае дзве ўнучкі. Таму і завуць бабай. А яна яшчэ жанчына ў самым... Славік адразу адкінуў гэтыя думкі. Не, баба Маня не падыходзіць. Трэба чалавек больш вольны. Як мінімум.

Станіслава Сцяпанавіча, згадаўшы, Славік адразу адпрэчыў. Давяраць яму ён не мог. Таму і ўтойваў запісы. І не спяшаў яму душу раскрываць. Чамусьці Славіку не хацелася давяраць і давярацца гэтаму чалавеку да канца. Нешта спыняла – мо тое, што называецца інтуіцыяй, калі яна ў яго была?.. Але – не... У любым выпадку нельга пакуль раіцца з ім, нельга. Не... Самому ва ўсім трэба спачатку разабрацца, а потым ужо ўрачу пераказваць.

Сцяпан... З ім ён час ад часу гуляе ў шахматы. Добры дзядзька, але – просты вясковец, які жыве толькі сваімі клопатамі... Здаецца, Сцяпан ні пра што не думае, а толькі пра гульню, і ад гутарак пра іншае адмахваецца, як ад назойлівай мухі. Не, яго разгаварыць будзе цяжка, а не тое што раіцца з ім пра нешта.

Таня... Яна, хоць і зусім маладзенькая, магла б яго зразумець. І дапамагчы, захоўваючы таямніцу. Але яна дзяжурыць праз двое сутак на трэція. Не зможа ён вычакаць столькі яе, калі закарціць пра нешта тэрміновае пагаварыць. Тут трэба чалавек, да якога можна падысці ў любы момант, можа, нават ноччу пабудзіць.

Значыць, нехта з інтэрнацкіх, з “хворых”.

Сашка... Не, і думаць нявáрта. Калі ён будзе ў больш-менш нармальным стане, дык разнясе, разбрэша ўсё, пра што даведаецца, бо іншых ведаў і падзеяў у ягонай галаве няма, не трымаюцца. А калі ў яго прыпадак... Не. Ну вядома, не... Да таго ж Сашка вельмі любіць салодкае. Асабліва цукеркі. Шакаладныя. “Кара-кум”, “Беларускія”, “Маска”... – паўтарае ён назвы, як заклінанне. І за цукерку гатовы зрабіць усё. Нават самую гадкую прыкрасць. А тым болей – расказаць чужую таямніцу... Разнясе па інтэрнаце, разбалбоча адразу ж... Ды Сашка і выслухаць не можа: ён на месцы і пяць хвілінаў не ўседзіць.

Ён згадваў іншых насельнікаў інтэрната, з якімі тут пазнаёміўся. Цікавыя тыпы. Адзін хадзіў з галавой, апушчанай да зямлі, і з кішэнямі, набітымі нейкімі паперамі ды паперкамі – старымі газетамі са здымкамі, абгорткамі цукерак, папяроснымі і цыгарэтнымі пустымі пачкамі, увогуле рознымі “прыгожымі” абрыўкамі паперы, якімі даражыў больш, чым грашыма і якія ўвесь час і ўсюды шукаў і падбіраў... Другі, з горда ўзнятай галавой і з крыху пагардлівай усмешачкай падыходзіў да Славіка на калідоры некалькі разоў на дзень, працягваў руку, каб “пазнаёміцца”, а дакладней, назвацца і зноў расказаць пра сябе, хто ён, адкуль і якім вялікім начальнікам некалі быў... Трэці... Трэці ненавідзеў усё і ўсіх. Пазіраў на свет спадылба і каб здавацца страшнейшым – зыркаў цяжка, злосна, як самурай. Ён падыходзіў да кожнага сустрэчнага і казаў глухім голасам: “Я цябе ўб’ю”. З-за слінявасці ў яго выходзіла: “убю”. Яго так і звалі ўсе – Убю. Праходзячы па калідоры Славік стараўся абмінуць яго, але раз-пораз натыкаўся і чуў услед пагрозлівае шыпенне: “Я цябе ўбю!”, да якога ніяк не мог прывыкнуць... Чацвёрты... Чацвёрты, пяты, шосты, сёмы... звалі сябе вядомымі – гучнымі – гістарычнымі імёнамі і незразумела напраўду так лічылі ці... дурачыліся ў дурдоме... “Фантазія” іхняя, праўда, сягала не так далёка: не было сярод іх, як “прынята”, Напалеона альбо Македонскага, затое быў Машэраў, які даказваў усім, што не загінуў у аўтааварыі, а яго проста выжылі і схавалі сюды, у дурдом, каб не быў канкурэнтам... Гарбачову. Быў Гагарын, якога з падаючага самалёта выхапілі і ўратавалі іншапланецяне, а потым вярнулі на зямлю, але ніхто ў гэта не верыць і таму ён тут... Быў таксама Сталін, які хадзіў увесь час грозна надзьмуты з рукамі за спінай і пакусаным алоўкам замест люлькі. Быў Шолахаў, у якога з кішэні на грудзях тырчэла з дзясятак зламаных асадак і алоўкаў, а ў руках – брудны скрутак пашарпаных папераў... Усе яны настойліва, а часам і пераканаўча, з красамоўнай белай пенай вакол вуснаў – распавядалі пра сябе... Але большасць тут усё ж былі “безымяннымі” дэбіламі – проста Васькамі, Ванькамі, Сашкамі, Колькамі... незалежна ад узросту. Усіх іх яднала адно: у гэтым доме іх найперш цікавілі жанчыны, дзяўчаты. Яны цікавалі за імі, увесь час хацелі ўшчыпнуць, памацаць, зацягнуць куды... і маглі размаўляць толькі пра жанчын, толькі “пра гэта самае”, як яны казалі. Дарэчы, сярод дзяўчат і жанчын, сярод Галек, Танек, Валек, Лілек... не было ніводнай “царыцы Кацярыны” альбо “Церашковай”. Іх нейк не цікавіла зямная слава...

Састарэлыя, нармальныя дома людзі, тут замыкаліся ў сабе, больш ляжалі ў ложках ці то ад слабасці, ці то ў дэпрэсіі і, зрэдку сабраўшыся ўдвох, утрох, маглі гаварыць толькі пра сябе – успамінаць перажытае. Дзяды распавядалі пра вайну, пра службу ў арміі, а бабулькі – пра сваіх дзяцей, калі яны ў іх былі. Кантакту з імі ў Славіка чамусьці не атрымлівалася.

Ага... Вось яно... Бязногі “афганец”. Валодзька. Які таксама колькі разоў клікаў пагуляць у шахматы... Можа быць. І гульня тут акурат дарэчы. За гульнёй шмат пра што можна пагаварыць.

Валодзька... А вось ён якраз – можа быць, можа быць... І Славік вырашыў прыгледзецца да гэтага хлопца.

Валодзька быў сапраўдным “афганцам”, а не прыдуманым, у сэнсе не нейкім інвалідам, што патрапіў у аварыю ці п’яны пад колы аўтамабіля. Ён сапраўды ваяваў у Афганістане і там страціў ногі. Да таго ж ён быў дзетдомаўцам, сіратой. Нікога з родных у яго не было. Славік паназіраў за ім дзень-другі. Нармальны хлопец. Але – што яму не спадабалася: “хітрасць” Валодзькі. Наколькі наіўная і заўсёдная, адкрытая і відавочная, настолькі і непрыемная. Валодзька нікольні не саромеўся гэтага, а часам нават і ганарыўся, нібыта хітрасць замяняла яму розум. Але так – была яна сапраўды ад розуму, а не ад хцівасці...

І сапраўды, падумаў Славік, Валодзька не вінаваты ў тым, што яму даводзіцца хітраваць і падманваць. Само жыццё яго паставіла ў такія ўмовы. Хітруючы, ён выжываў, рабіў сваё жыццё ў інтэрнаце прасцейшым. Зрэшты, тут хітравалі ўсе – у залежнасці ад магчымасцяў і розуму. Абдурыць кагосьці не лічылася заганай, а наадварот – гэтым хваліліся і з падманутага смяяліся, усяляк здзекаваліся.

Славік падумаў-падумаў і вырашыў згуляць з Валодзькам у шахматы, каб бліжэй пазнаёміцца з ім і, магчыма, пасябраваць.

## 12.

Вялікая радасць здарылася ў інтэрнаце: у холе нарэшце адрамантавалі тэлевізар. У першы вечар дазволілі паглядзець яго ўсім насельнікам пятага паверха. Праграма ішла толькі адна і глядзелі ўсё: ад навінаў да нейкае перадачы пра балет. Пад наглядам санітараў каля тэлевізара сабраліся ўсе. Славіку зрабілася ажно вусцішна ад аднаго выгляду стварэнняў, што насялялі гэты паверх – самых страшных і пачварных з якіх ён дагэтуль не бачыў. На іх тле нават Сашка вылучаўся, як здавалася, адэкватным выразам твару.

Па-праўдзе, глядзець было немагчыма, бо каля тэлевізара, як ні пакрыквалі санітары, панавала разгульнае вяселле, усеагульная радасць, рогат бесперастанку. Асабліва падчас балета. Але Славіка больш уразіла іншае. Навіны пачаліся з застаўкі, на якой мільгануў бел-чырвона-белы сцяг і герб “Пагоня”, а потым дыктарка некалькі разоў сказала “ў нашай краіне” і “выбары першага беларускага прэзідэнта”, Расію – назвала суседняй дзяржавай, а замест СССР гаварыла ўвогуле нейкае СНД, расшыфроўваючы як Саюз незалежных дзяржаваў...

Ад усяго гэтага ў Славіка пачала кружыцца галава, і яму падалося, што падае з зэдліка. “Дзе я? – думаў ён, – куды я патрапіў? Беларусь – незалежная дзяржава? Беларусь мае свае гістарычныя сцяг і герб? І выбірае свайго прэзідэнта... Не можа такое быць. Гэта сон. Гэта мроя. Гэта няпраўда. Я і сапраўды ненармальны чалавек. Я трызню...”

Ён устаў і падышоў да вакна, за якім некалі разгледзеў сцяг над сельсаветам. Сон працягваўся: над тым будынкам і сапраўды лунаў бел-чырвона-белы сцяг. Славік заплакаў, гледзячы на яго, заплакаў ці то ад роспачы, ці то ад радасці ўсведамлення, што гэта ява.

Славік выйшаў з хола. На пасту насупраць сядзела Таня – было якраз яе дзяжурства.

– Зайка, ты плачаш? Што такое? Хто цябе пакрыўдзіў?

Як мог, ён патлумачыў, што здарылася.

– Ага, дык ты нічога не ведаеш... Бедны. Пакуль ты спаў, – яна так і сказала: спаў, – СССР разваліўся, так-так – распаўся... Беларусь цяпер незалежная рэспубліка. Дзяржава. Мае свой даўні герб. І сцяг. Той самы: бел-чырвона-белы... Хутка будуць выбары першага прэзідэнта. Пра гэта і перадача па тэлевізары.

Вось яно што... Такое яму і ў снах прымроіцца не магло... Адбылося тое, за што яны... так... некалі яны з хлопцамі збіраліся змагацца без аніякай надзеі не толькі на перамогу, нават проста на перамены, бо СССР – гэты калос, хай і на гліняных нагах, здаваўся непарушным. Прынамсі, у бліжэйшай будучыні. Так, у бліжэйшай... А за той час, што Славік ляжаў без прытомнасці, Савецкага Саюза не стала... І Беларусь цяпер – не-за-леж-на-я дзяр-жа-ва... Пра гэта яны маглі хіба марыць. І вось яно – сталася... Як жа шмат важных падзеяў ён прапусціў...

А яшчэ Таня паказала яму новыя грошы – беларускія! І няхай то былі "зайчыкі" – звяры родных пушчаў ды балотаў – але ж гэта былі "свае" грошы: упершыню за такую вялікую гісторыю, свае... Славік зноў расчуліўся, гледзячы на іх, і слёзы свае не хаваў.

Тэлевізар змяніў жыццё ў інтэрнаце. Дакладней, не тэлевізар, а надыходзячыя выбары прэзідэнта. Да іх заставалася некалькі тыдняў, і ўсе, і супрацоўнікі, і насельнікі інтэрната, якія, нягледзячы на свой стан, мелі права голасу, гаварылі і спрачаліся пра адное: за каго галасаваць. Кіраўніцтва ў сваёй большасці было за прэм'ер-міністра Кебіча. Сёй-той, праўда, цішком спачуваў Пазняку ці Шушкевічу. Санітары ж і сёстры разам з хворымі аднагалосна сыходзіліся на думцы: толькі за Лукашэнку. Малады, харошы, з сяла, дзярэктарам буў... Словам, свой хлопец. А гэтыя кебічы-шушкевічы накраліся ўжо дык няхай на пенсію йдуць.

Інтэрнат так і гуў на розныя галасы: Саша, Сашка... за Сашку, за Лукашэнку... Калі Славік чуў гэтае "за Сашку...", прад ім няўмольна паўставаў воблік лапавухага суседа па пакоі і ягоная шчаслівая ўсмешка... Усе Сашкі здаваліся яму такімі – іншых ён не ведаў.

Славік не меў права галасаваць. Па-першае, яго не было ў спісах, бо ніхто не разлічваў, што ён апрытомнее. Па-другое, не было ў яго ніякіх дакументаў, нават прозвішча пакуль не было – адно імя. Але ў гутарках і абмеркаваннях ён прымаў непасрэдны, актыўны ўдзел. І яму таксама вельмі падабаўся Лукашэнка. Славік гатовы быў глядзець яго на экране тэлевізара дзень і ноч: неакрэплыя мазгі прасілі гэтага чалавека, як наркотыку. А калі той прыкладаў руку да сэрца і нешта казаў, Славіку ажно плакаць хацелася, так палюбіў яго. Нават калі ён вёрз абсалютную лухту – верылася. І не аднаму яму, заўважаў Славік. Асабліва ўпадабалі гэтага кандыдата вясковыя ды інтэрнацкія жанчыны. І не адзін раз Славік чуў ля тэлевізара: "Які мужчына! Які мужчына!!! Калі б можна было, я б яму не толькі голас аддала..." І ўспрымалася гэта зусім не як жарт... Падчас выступаў кандыдата Лукашэнкі да тэлевізара нельга было падступіцца. Калі ён заканчваў, тут і пачыналася: за яго, за яго галасаваць... толькі за яго... наш, наш, свой... ён ім пакажа!..

Каму ім, што пакажа? Не важна. Пра гэта ніхто не думаў. Жаданне помсты за сваё няўдалае, скалечанае жыццё – перамагала іншыя пачуцці. І каб жа толькі ў такіх інтэрнатах – па ўсёй краіне, асабліва ў вёсках.

А пакараць за бязладдзе, за рэзрух мог менавіта ён... Усіх. Камуністаў і дзермакратаў. Без разбору. Злосці ў народзе накапілася праз край. Адчуць гэта і скарыстацца здалеў толькі ён. Прагай помсты свяціліся найперш ягоныя вочы. І людзі тое бачылі.

Сярод хворых, якіх разам урачы і санітары называлі "кантынгент", адзін Валодзька-афганец быў за Пазняка. Ці на справе, ці насуперак іншым... Дык яго аднойчы ледзь не прыбілі з крыкамі: "фашыст! нацыяналіст! паліцай!"

А ўвогуле "кантынгент" асабліва агітаваць не трэба было за каго галасаваць. Як і сясцёр ды санітараў, што спакутаваліся ад безграшоўя, пустых крамаў, інфляцыі ды беднасці. Ім хацелася пераменаў і яны гатовыя былі верыць любым абяцанням, нават ад пачатку абсалютна невыканальным. А прыгажэй за ўсіх гаварыў і больш за ўсіх абяцаў якраз Лукашэнка: запушчу заводы, якія стаяць, карупцыянераў – адпраўлю ў турму, катэджы, што растуць пад Мінскам, быццам грыбы, забярэм і аддадзім шматдзетным сем'ям, кожнай маладой сям'і дам кватэру, каб не перашкаджалі бацькі ў першую шлюбную ноч, усім жадаючым дам пятнаццаць сотак на дачу... Дам, дам, дам... як звон гучала ў вушах і слова гэтае не пакідала абыякавым нікога... Вось ён наш заступнік, міжволі думалася ўсім, вось хто разгоніць усю гэтую шушару, што накралася і набудавала катэджаў, толькі ён, адзін ён...

Станіслаў Сцяпанавіч спрабаваў спрачацца, казаць, ну няўжо вы не бачыце, што ён проста балбатун, і Кебіча яму не перамагчы, бо за Кебічам сіла – улада, міліцыя, КДБ... За ім гарады, сталіца, а такія, як нашая, вёскі нічога не вырашаць, хоць і прагаласуюць за гэтага папуліста. Яно то, здавалася, і так: праўду ён казаў. Але... Калі Станіслаў Сцяпанавіч захацеў узяць сабе ў падтрымку Славіка: ну скажы, ці не маю я рацыі, хто пераможа на выбарах? Славік упэўнена, нібы зазірнуўшы ў будучыню, адказаў адназначна: "Пераможа Лукашэнка". Станіслаў Сцяпанавіч рукой махнуў у роспачы: і ты таксама...

У хвіліны, калі Славік быў сам-насам, ён быў за Пазняка. Нейкім далёкім розумам ён адчуваў-разумеў, што толькі з ім можна звязваць надзеі на лепшае. А той, пра каго сёння гудзе інтэрнат-дурдом, назаўтра ж забудзе ўсе абяцанні, прадасць усё і ўсіх, нават сваю жонку...

## 13.

І сёстры, і хворыя не маглі не заўважыць, што Славік, тоячыся, усё нешта піша ды піша. Да яго ледзь не прыліпла новая мянушка – "пісацель"...

Вядома, інтэрнат не родны дом, а палата не твая кватэра, дзе можна ўпотайкі рабіць нейкія запісы. І тады ён адкрыта пачаў нешта занатоўваць у блакнот, што даў яму Станіслаў Сцяпанавіч, і не хаваць, ведаючы, што яго "знаходзяць" і чытаюць. Туды ён запісваў розныя свае "ідэі", што прыходзілі яму ў галаву, пэўна, з вычытаных у кнігах і часопісах, але пераасэнсаваных, дадуманых, а значыць, як яму здавалася, "сваіх". Адной ён захапіўся так, што прысвяціў ёй некалькі "сур'ёзных" запісаў. Яму захацелася раптам стварыць агульную сістэму распазнавання розных тайнапісаў, невядомых моваў. Павінен жа быць у іх аснове нейкі не адкрыты яшчэ агульны прынцып, універсальны закон, код, які дазволіць "прачытаць" забытыя мовы, што захаваліся, можа быць, толькі ў запісах невядомымі

літарамі ці знакамі на гліняных таблічках, папірусе, камянях ці нават у кнігах, і... зразумець мову іншапланецянаў, якія прыляцяць некалі да нас. Вось уявім: прызямліліся яны – як з імі паразумецца?.. А тут Славік са сваёй сістэмай. Калі ласка, карыстайцеся...

Калі гэта яму абрыдла, бо ніякога "закону" ён не вынайшаў, захапіўся іншай "ідэяй": наш сусвет – жывы арганізм... Сонца і планеты – гэта звычайная клетка, у якой ёсць ядро і атамы. І планеты-атамы круцяцца вакол ядра-сонца. З такіх клетак складаецца нешта жывое і мы – увесь наш свет – знаходзімся, можа, у назе нейкага коціка альбо ў крыле камара, якія жывуць і паміраюць на сваёй планеце, што круціцца вакол свайго сонца, але гэта ніяк не ўплывае на нас, як і нашае існаванне на іх ці тых, хто ў нас, з-за несумяшчальнасці і несуадноснасці памераў... Бо гэтакса-ма клеткі нашага цела ёсць цэлыя планетныя сістэмы, а мы – сусветы для кагосьці. І ўсё паўтараецца здрабняючыся альбо павялічваючыся да бясконцасці... Калі ён думаў пра бясконцасць, галава ягоная пачынала кружыцца: нібыта ён усведамляў, што гэтая бясконцасць павінна недзе скончыцца, але дзе і як?.. І ў чым тады наш сусвет вісіць ці куды падае? – ягоны неакрэплы розум бунтаваў і не хацеў прымаць таго, вочы засціў туман, бо канца сусвету ніякім чынам не магло быць...

Славік заўважыў, што пасля прачытання падобных "ідэяў", а ён ужо дапісваў імі адзін блакнот і папрасіў прынесці другі, Станіслаў Сцяпанавіч пачаў ставіцца да яго больш спакойна – пэўна, гэта ўкладвалася ў ягоныя "рамкі" паводзінаў такіх хворых, як Славік. І яго, відаць, не палохала, а, можа, і радавала тое, што яшчэ не акрэплы розум Славіка палез раптам у нейкія "філасофскія" глыбіні, мяркуючы па тых запісах. А Славік стаў пісаць ужо нейкія афарызмы ды сентэнцыі, кшталту: "Рабі для іншых больш, чым для сябе... – вось мой дэвіз, па якім я буду жыць далей...". "Калі я змагу аблегчыць лёс хоць аднаму чалавеку, дык значыць жыў я не дарэмна"...

Дзе ты будзеш жыць, "хвілосаф", думаў Станіслаў Сцяпанавіч, усур'ёз успрымаючы гэтыя радкі. Тут ты будзеш жыць для іншых? Тут ты будзеш аблягчаць жыццё іншым? У гэтым інтэрнаце? Якім чынам?.. Не, трэба неяк асцярожна паразмаўляць з хлопцам, каб з ім нічога не здарылася. Бо ідэі гэтыя могуць завесці яго далёка... І ў здаровых людзей, бывае, ад падобных думак галава кругам ідзе, "дах" едзе: ад іх да поўнага вар'яцтва – адзін крок...

Але гэтую размову ён усё адкладваў і адкладваў, аж пакуль Славіку самому не абрыдла пісаць у тым блакноце.

## *Частка другая.* **Я ведаю – я памёр.**

### 1.

Дызель-цягнік, што замяняў у гэтых мясцінах электрычку, як звычайна перад выхаднымі, быў перапоўнены. Дачнікі, якіх Славік неўзлюбіў з-за таго, што яны свой сорам пакідалі дома і лічылі, што выпраўляючыся на лецішча, можна апрануць усё самае вынашанае і непрыдатнае, ехалі недалёка. Кіламетраў праз сорак ад горада выветрываўся нават іхні пах цвілі і старызны ў вагоне. З незнаёмых, нязвыклых твараў заставаліся толькі рыбакі ды паляўнічыя, што дабіраліся ў ягоны край, багаты рыбай і дзічынай. І, як заўсёды на выходныя, з горада дамоў ехала шмат нядаўніх

вяскоўцаў. Яны па-зямляцку збіраліся ў купкі і скарачалі трохгадзінную дарогу гульнёю ў карты.

Колькі ён папаездзіў у гэтым цягнічку, што, як казалі, спыняўся каля кожнага слупа і цягнуўся марудна-стомлена, нібы стары, знясілены працай конік. Як вывучыў ён гэтую дарогу за чатыры гады вучобы ў інстытуце. Якой знаёма-абрыдлай і разам жадана-сваёй была яна яму...

Хлопцы і дзяўчаты гулялі ў карты, у "дурня", гуляў і Славік таксама, калі да яго падсеў Андрэй – хлопец з суседняй вёскі, які хадзіў у іхнюю школу ў дзявяты-дзясяты клас, быў камсоргам, скончыў школу на год раней за Славіка, вучыўся таксама ў Мінску і, здаецца, сёлета, так-так, сёлета, скончыў свой журфак...

Ага, Андрэй... Гэта быў Андрэй... Ён звярнуўся да Славіка ці проста спытаў нешта? Спытаў. Так, спытаў:

– Ты дзе цяпер? Здаецца ж, адвучыўся ўжо...

– Ды тут, адкуль еду – у Гомелі.

– Ха! І я ў Гомелі. Па размеркаванні. Ну і нудны ж я табе скажу гарадок...

– Гэта табе пасля сталіцы так здаецца. А ўвогуле – нічога горад.

– Ну, месцамі і сапраўды нічога... Парк, цэнтр... – і раптам спытаў: – Ты адзін прыехаў? Сяброў завёў?

Славік сумеўся:

– Не...

– Не? Тады прыходзь да нас. Мы ў рэдакцыі збіраемся. У нас свой гурток. Думаю, й табе будзе цікава.

"Гурток" збіраўся кожную сераду. Знаёмым Славіку быў тут толькі Андрэй, але ён якраз і кіраваў усім. Прыйшло чалавек дзесяць хлопцаў і дзяўчат. Што адразу здзівіла яго: усе размаўлялі выключна па-беларуску. Андрэй прадставіў яго як свайго земляка і сябра. Назваў... Калі думкі Славіка зноў даходзілі да імя, галава ягоная пачынала балець недзе ўнутры, а там, дзе ён намацаў рубец, што застаўся ад, пэўна, глыбокай раны, пачынала нібыта звінець – з-з-з-з... І звон гэты балючы перакрываў словы, і ён нічога не мог пачуць, толькі абхопліваў галаву рукамі... Аднак, ранейшае імя, ён згадаць пакуль не мог, як ні стараўся. Таму заставаўся Славікам.

Што было на тым гуртку? Першае пасяджэнне яму запомнілася тады добра, бо яго захапілі і ўзрушылі новыя знаёмцы. Ён увогуле цікавіўся гісторыяй, быў гэта ягоны любімы, можна сказаць, прадмет у школе. І калі б не спорт, то хутчэй за ўсё паступаў бы на гістфак. Школьныя падручнікі ў наступны клас ім звычайна прывозілі з раённай кнігарні напрыканцы траўня, у апошнія дні перад канікуламі. Цікаўнасць перамагала, і ён за тры летнія месяцы прачытваў увесь падручнік гісторыі наперад...

Хлопец Янка... Ага, дарэчы, імёны ва ўсіх гурткоўцаў былі наўмысна беларускія ці збеларушчаныя: Сяржук, Вінцэсь, Алесь... І Андрэй тут быў Андрусём... Дык вось, Янка прачытаў лекцыю пра невядомыя старонкі гісторыі Гомеля, распачаўшы яе ад радзіміцкага князя па прозвішчы Воўчы Хвост, які разбіў на Сажы палянаў... Сказаў, што хоць афіцыйна Гомель і старэй за Маскву, на самой справе ўзрост горада яшчэ значна большы, прынамсі, як мінімум, гадоў на дзвесце-трыста, што і пацвярджаюць раскопкі, якія яны разам з выкладчыкам-археолагам праводзяць на гарадзішчы ля ручая Гомій, што і даў назву горада, у парку каля кінатэатра імя Ісачанкі. Расказаў і пра тыя "цёмныя" гады з трынаццатага

па васямнаццатае стагоддзе, пра якія нічога невядома, быццам гісторыя старажытнага места пачалася толькі з прыходам сюды расейцаў, а Вялікага Княства Літоўскага тут і блізка не было.

Потым лекцыю прачытаў мастак Сяржук, за ім Алесь... Увогуле ўсё выглядала б звычайнай краязнаўчай суполкай, калі б не нейкая ўрачыстасць і таямнічасць ці, дакладней, таямнічая ўрачыстасць, з якою гаварылі пра простыя, здавалася б, рэчы гурткоўцы. Нібыта за тым, што яны сабраліся, стаіць нешта большае, нібыта яны якіясьці змоўцы, "дзекабрысты" ці "падпольшчыкі".

Што стаяла за гэтай таямнічасцю і своеасаблівым "масонствам" ён зразумеў, калі яны з Андрусем вярталіся дамоў.

– Ты ведаеш, якія ў беларусаў сапраўдныя сцяг і герб? – спытаў Андрусь.

– Што значыць сапраўдныя? Сцяг у нас чырвона-зялёны з арнаментам. Адметны, мне падабаецца... Мы былі ў будатрадзе, у Сібіры, дзе жыло шмат беларусаў-землякоў, дык, калі ад'язджалі, калі развітваліся, мужчыны знялі наш выцвілы сцяг, які вісеў над лагерам, цалавалі і плакалі, прасілі пакінуць ім на памяць...

– Цікава... Яны, як і ты, відаць, іншых сімвалаў і не ведалі. Вось ты кажаш, у Сібіры. А адкуль там узяліся беларусы?

– Не ведаю. Пэўна, на камсамольскую будоўлю некалі прыехалі – завербаваліся.

– Ты ўпэўнены?

Славік паціснуў плячыма.

– А пра ГУЛАГ, пра раскулачванні ў 30-я гады, пра ссылкі ў Сібір у тым ліку і за вернасць гістарычнаму, сапраўднаму сцягу ды БНР не чуў?

– Што такое БНР?

– Беларуская Народная Рэспубліка, ведаеш пра такую?

– Не...

– О, як у нас усё запушчана, – нязлосна пажартаваў Андрусь, – доўга расказваць... Калі я кажу сапраўдныя сімвалы, гэта азначае – гістарычныя, а не прыдуманыя, намаляваныя і навязаныя нам камуністамі пасля другой сусветнай вайны, бо да вайны ў савецкіх рэспублік сцягоў не было. І пад гэтым чырвона-зялёным сцягам ніхто ніколі не ваяваў, што б там ні казалі ветэраны і як бы ні плакалі землякі...

– Ну не ведаю я іншага сцяга. І што?

– ...Глядзі, – і Андрусь дастаў з кішэні два значыкі. На адным чаргаваліся тры палоскі: белая, чырвоная і белая, а на другім быў коннік з тарчай і мячом, узнятым над галавою. – Пад такім сцягам змагаліся слуцкія паўстанцы з бальшавікамі, а гэтаму гербу, які называецца "Пагоня", сямсот гадоў. Пад ім нашыя продкі перамаглі крыжакоў у 1410 годзе пад Грунвальдам, маскалёў пад Оршай у 1514-м. Чуў пра такое? Не... Ну як жа, зразумела: мы па адных падручніках вучыліся. Я спецыяльна пагляддзеў іх цяпер. Там ёсць пра "лядовае пабоішча", як Неўскі нібыта патапіў пяцьсот псоў-рыцараў, а пра бітву народаў, дзе беларусы з палякамі ды летувісамі разбілі больш за трыццаць тысячаў тэўтонцаў – ні слова. Але нам пра гэта не гаварылі, нам казалі, што нашая гісторыя пачалася з 1917-га года, з Кастрычніцкай рэвалюцыі... А да таго Беларусь была лапцюжнай і мужыцкай... А ў нас вялікая гісторыя і Беларусь павінна стаць незалежнай краінай, а не нейкай там рэспублікай у складзе СССР. Э, ды ты яшчэ шмат чаго даведаешся, калі з намі будзеш. Мы не проста

так збіраемся. Мы будзем змагацца за Беларусь, за незалежную Беларусь. Нават, калі давядзецца, то і са зброяй у руках...

“Са зброяй” – гэта было занадта смела сказана. Чаму раптам панесла Андруся на такую шчырасць пасля першай сустрэчы, Славік так і не зразумеў. Але менавіта гэтыя словы і зачапілі яго. Спачатку спалохалі: агаломшылі. Як гэта змагацца? З кім змагацца? Навошта... За што? І тут згадаўся яму іншы даклад, пачуты на тым паседжанні. Даклад Алеся пра тое, як напрацягу двухсот гадоў знішчалася, забаранялася, выкаранялася акупантамі беларуская мова. І што цяпер у Беларусі няма ніводнае беларускамоўнае вну (і праўда, падумаў ён тады, – няма), радыё і тэлебачанне, газеты – спрэс расейскамоўныя, і калі далей так пойдзе, дык заўтра мова народа – немалога, еўрапейскага – памрэ, і нашая найпершая задача ўсяляк зберагаць і адстойваць сваю мову, паўсюль і заўсёды размаўляць на ёй, як бы цяжка ні было, як бы нам ні забаранялі і не здзекваліся з нас розныя прыхадні. Алесь прачытаў напрыканцы словы нейкага паэта, здаецца, аварца Расула Гамзатава, які напісаў: “Калі мне скажуць, што заўтра памрэ мая мова, дык я гатовы памерці сёння...” Неяк так... І вось за гэта, за сваю мову, за сваю гісторыю, “за сваю ідэнтычнасць”, сказаў Алесь, і змагалася большасць народаў свету супраць розных каланізатараў. Будзем змагацца і мы. “Буду і я... – паддаўшыся агульнаму настрою, падумаў тады Славік, – ...змагацца за сваю мову, культуру, гісторыю, за незалежнасць...” А цяпер, паслухаўшы Андруся, дадаў: за свой сцяг і герб – пад сваім сцягам і гербам... і, калі трэба, нават са зброяй у руках...

Прыняў гэта неяк адразу і без вялікіх сумненняў. Відаць, так яно і бывае, толькі так і не інакш: альбо адразу, альбо ніколі...

Ім пашанцавала: Гарбачоў пачаў ужо сваю “перабудову”. Тады само паветра было насычанае жаданнем і чаканнем зменаў. “Партыя, дай парулiць!” – гучала нібы ад камсамола, а на самой справе ад усёй моладзі, што пасля “пяцігодкі пахаванняў” састарэлых маразматыкаў з Палітбюро зразумела: так далей жыць нельга. Маладым хацелася нешта рабіць, хацелася пераменаў, і дзеля гэтага яны гуртаваліся, стваралі нефармальныя аб’яднанні. Што і як змяніць, за што змагацца, можа, яшчэ да канца не было зразумела і акрэслена. Але сам дух змагання за свабоду і права самім выбіраць, як жыць, ужо лунаў над краінай...

– А чаму ты літоўцаў назваў летувісамі? – спытаў ён у Андруся.

– Таму што яны самі сябе так называюць... Таму што сапраўдныя літоўцы – гэта мы. І так, а не беларусамі, нас называлі аж да дзевятнаццатага стагоддзя, а яны – жамойты, жмудзь, аўкштайты... І Вялікае Княства Літоўскае – нашая дзяржава, дзе дзяржаўнай мовай была беларуская. І Статут ВКЛ – першы ў свеце звод законаў, фактычна Канстытуцыя, напісаны на нашай мове. І Скарына... Эх, калі б наш народ ведаў сваю гісторыю, хоць бы так, як ведаюць летувісы, калі б быў не такім забітым... Прабач, гэта доўгая размова... Спадзяюся, табе ў нас спадабалася і ты будзеш прыходзіць у гурток, на нашыя лекцыі па гісторыі.

– Прыйду. Сапраўды цікава. А ты мне такія вось значыкі дастанеш?

– Знайду.

Развіталіся яны словамі: “Жыве Беларусь!”. Ён ішоў дамоў і згадаў, што менавіта гэтыя словы ён бачыў раней надрапаныя ў адной гомельскай тэлефоннай будцы, але тады і не здагадваўся яшчэ, што яны азначаюць, як і не ведаў тое, што напісалі іх тыя самыя гурткоўцы-“падпольшчыкі”, хаваючыся ад міліцыянтаў.

Гэта яшчэ не было змаганне, але гэта быў ужо супраціў, які незаўважна набіраў сілу і тут, у краі, дзе, здавалася б, усё нацыянальна-патрыятычнае было вынішчанае аж да пятага калена... Таму і не дзіўна, што да той сустрэчы з Андрэем Славік не задумваўся нават: дзе жыве, як жыве... Калі і цікавіла яго гісторыя, дык хутчэй Старажытнай Грэцыі і Рыма, а не зямлі, што была пад нагамі. Амерыканскі фільм "Спартак" быў любімым фільмам, з рускай гісторыі ведаў былінных багатыроў, Пятра Першага ды Аляксандра Неўскага, а з беларускай – нічога, хіба подзвігі партызанаў у вайну – Колю Гойшыка, Валю Коцік ды Марата Казея, чыё імя насіў іх піянерскі атрад: які ўжо там Грунвальд... Вучыўся, займаўся спортам, і нават задумацца не мог, што гісторыя – вось яна: побач, вакол. Жыў, як усе, як набяжыць, у нейкіх дурных клопатах і не было часу спыніцца і агледзецца, каб задумацца: хто я і адкуль...

Таму, можа, і перавярнула ўсё ў ім гэтае паседжанне і размова з Андрэем-Андрусём: як маланкай шандарахнула, але не аглушыла, а асвятліла шлях наперад, паказала мэту жыцця, якую ён якраз і шукаў у гэтыя дні ў новым, чужым горадзе...

## 2.

Тым часам, начамі, Славіку пачала сніцца яна – дзяўчына, з якой ён некалі сябраваў, якую... кахаў.

Але найчасцей тая дзяўчына снілася яму так, быццам яна з ім тут, у інтэрнаце, а не ў тым горадзе, у Гомелі, дзе яны гулялі па вуліцах, размаўлялі пра нешта неістотнае... Ён разумеў нават у сне-мроіве, што яна не можа быць, побач з ім, але нічога не мог зрабіць. Прачнуўшыся, ён думаў, што яна з таго, ранейшага ягонага жыцця, а не з гэтага, бо тут такой не было дакладна. Але, калі яна яму снілася і паўтаралася ў снах, то ён стаў лічыць яе рэальнай асобай.

Аднойчы ў сне ён пачуў яе імя: Люда. Так ён і пачаў называць яе ў сваіх думках. Паступова звестак пра Люду – прыгаданых і вылушчаных са сноў, рабілася ўсё болей. Ён ужо ведаў, што яна студэнтка ўніверсітэта. Але нешта турбуе яе ў сувязі з гэтым... Ён ведаў, што цяпер яна не ў Гомелі, бо з'ехала адтуль. Але куды? Дзе яна можа быць? У якім іншым горадзе? Ці мо вёсцы? Гэтага пакуль ён згадаць ніяк не мог. У ягоных вушах гучаў ейны голас, у вачах – стаяла мілая постаць хударлявай дзяўчынкі з дробнымі, тонкімі рысамі твару, маленькім вострым носікам і светла-жытнёвымі валасамі...

Здаецца, ён адчуваў яе рукі ў сваіх руках, яе галаву на сваім плячы, пах яе валасоў... Вусны ягоныя шукалі і краналіся ейных вуснаў і шапталі "каханая"...

Яна была такой блізкай і такой... недасягальнай.

Ён не ведаў, а таму бясконца сумняваўся, ці ёсць яна, Люда, недзе на белым свеце ўвогуле, ці яна не прыдумка ягоная, навеяная... Таняй альбо яшчэ якой дзяўчынай. Калі яна ёсць, дык дзе яна цяпер? Ці памятае яго, ці згадвае? А можа, і яму не варта ўспамінаць яе, бо, падобна, каханне іхняе тады неяк раптоўна абарвалася, і можна лічыць, што яны рассталіся назаўсёды... Магчыма, яны пасварыліся, раз'ехаліся ў розныя гарады і забыліся адно пра аднога.

Дзе яна ўсе гэтыя гады? Што з ёю, хто з ёю? Так, яна магла за гэты час выйсці замуж, нарадзіць дзетак... Жыве цяпер сваім жыццём, сваімі

клопатамі і турботамі... Бывала, дзяўчаты і з войска хлопцаў не чакалі – нейкія там адмераныя і пэўныя два гады, а тут столькі часу прайшло і дзе ён – ці жывы – невядома... Дык ці трэба пра яе згадваць і толькі раніць сябе? І ці трэба шукаць яе?

Трэба... Яму трэба, каб прыгадаць самога сябе...

Трэба хоць бы таму, што гэтыя ўспаміны ці не найлепшыя з ягонага мінулага – светлыя і шчасныя...

## 3.

І ён прыгадваў далей ды патроху парадкаваў свае ўспаміны...

Увосень пасяджэнні "Талакі", а яны так, па мінскім прыкладзе, назвалі сваю суполку, сталі больш люднымі. Вярнуліся з вакацыяў студэнты. Ага, менавіта тады, там, на адным з пасяджэнняў ён і вылучыў для сябе дзяўчыну – тую самую Люду. Яна сарамліва трымалася збоку, але тое, што адбывалася, казалася тут, ёй, безумоўна, было цікава. Была яна першакурсніцай філфаку мясцовага ўніверсітэта, спрабавала пісаць вершы. Зрэшты, у гэтай суполцы амаль усе былі людзі творчыя – мастакі, паэты, празаікі, гісторыкі... Адзін ён выглядаў "белай варонай" – спартоўцам, хай сабе і з цікавасцю да гісторыі. Ён назіраў за імі такімі рознымі (за мітуслівымі і гарачымі, якія бойка адстойвалі свае думкі і перакананні, за маўклівымі і занураными у сябе, што за вечар не прамаўлялі ні слова) і думаў: як жа вы будзеце змагацца за Беларусь? Вершамі? Карцінамі? Дык гэта смешна... Зборам подпісаў бацькоў дзеля стварэння беларускамоўнага класа ў заводскім раёне горада, як рабілі гэтым летам? Ну, сабралі трыццаць подпісаў з неймавернымі высілкамі, а дырэктар школы перад першай "лінейкай" за некалькі хвілінаў усіх бацькоў "разагітаваў". І толькі шасцёра не адмовіліся ад сваіх подпісаў – і ўсе не беларусы, а тыя, што некалі прыехалі на камсамольскую будоўлю "Гомсельмаш" і засталіся ў горадзе. Але дзеля шасці вучняў клас адчыняць не сталі.

Ну а стварылі б той клас – што змянілася б? Тут ён падзяляў думку Андруся, які выказаўся па-журналісцку вобразна, супакоіў іншых, каб моцна не перажывалі за няўдачу: што такое адзін клас на паўмільённы горад – дзясятак васількоў у бязмежным калгасным полі... хатні акварыум з дэкаратыўнымі рыбкамі пасярод мора-акіяну, населенага акуламі... Так, пагаджаўся ён, беларусізацыю школаў пачынаць трэба не знізу, а зверху, з галавы. Альбо хоць бы адначасова. А для гэтага трэба мець сваю ўладу. Каб не прасіць, і нават не патрабаваць, а рабіць паступова і мэтанакіравана. І так, каб гэта быў не прымус, а палітыка, якая трымаецца на ўласным прыкладзе. Загаворыць па-беларуску ўрад, загаворыць і народ. Так было ў іншых краях, так будзе і ў беларусаў. Ад іўрыту засталася адна кніга, габрэі па розных краінах размаўлялі на ідыш, але з'явілася свая дзяржава і адрадзілася з нічога мова, адноўленая, дарэчы, выхадцам з Беларусі... Па-свойму, але падобна было і ў чэхаў, і ў нарвегаў... Значыць, аснова – улада. Ці можна атрымаць яе ў нашых умовах? Ці мажліва гэта? Зразумела, нічога немагчымага няма: бальшавікі змаглі, кубінцы, побач з Амерыкай, здалелі... Усе вялікія імперыі распадаліся ўрэшце рэшт. Не вечная і савецкая. І трэба быць гатовымі да гэтага.

Славіка пачаў цікавіць іншы супраціў. Яго зацікавілі баскі, ірландцы. Слова "змагацца" ён разумеў менавіта так, як яго разумелі ірландскія ці хоць бы ўкраінскія патрыёты. І як беларускія ў дваццатых гадах... Пер-

шай пра гэта ён сказаў Людзе. Восень стаяла цёплая – залатая, і яны зрабілі звычкай гуляць вечарамі па горадзе, па ягоных старых драўляных – дарэвалюцыйных, габрэйскіх – вуліцах. Трэба сказаць, што былі гэтыя мясціны адметнымі і, пэўна, адзінымі такімі на Беларусі. Захаваліся яны амаль у цэнтры горада, трохі наводшыб, каля рэчкі, але займалі даволі вялікую плошчу. Тут некалі жыў мясцовы "сярэдні клас". Сустракаліся дамкі проста музейныя: аздобленыя драўлянымі карункамі-ліштвамі, з каванымі металічнымі ўпрыгожваннямі. Цуды, што невядома як перажылі войны ды пажары, што не раз пракочваліся па гэтай зямлі. Яны хадзілі па вузкіх вулках, на якіх месцамі захавалася брукаванка, і радавалі сябе шчаслівымі адкрыццямі-знаходкамі будынкаў мінулага стагоддзя: то дома купца, то відочна звычайнага гомельскага багатага габрэя, а то, хутчэй, нейкага чыгуначніка – інжынера ці майстра... Яны блукалі, забываючы, у якім стагоддзі жывуць, размаўлялі пра ўсё і ні пра што, ім было добра разам.

– Баскі, – паўтарыла Люда, – кажуць, у нас ва ўніверсітэце, быў такі гурт "Баскі". Там гралі хлопцы, якія пісалі песні і спявалі па-беларуску. Адзін з іхніх сяброў чапляў пры дзвярах дыскатэкі беларускі сцяг – чырвона-зялёны – і прымушаў усіх перад уваходам цалаваць яго... Хлопцы ўжо скончылі вучыцца, але такія вось легенды пра іх засталіся – мне адразу распавялі іх, як толькі паступіла...

– Я ведаю гэтых хлопцаў. Заспеў некаторых тут. Але цяпер усе яны па вёсках. Па розных вёсках. Настаўнічаюць. А хто і ў войску. Забрылі служыць, каб абламаць... "Баскамі" яны назваліся невыпадкова. Ёсць такі народ у Іспаніі, які змагаецца за сваю незалежнасць.

Часам і сапраўды тыя хлопцы з "Баскаў" прыязджалі на паседжанні гуртка, хоць жыццё і раскідала іх па ўсёй вобласці, сувязі між сабой яны не гублялі. Тым больш, што справа іх не знікла марна – з'явілася вось цэлая суполка аднадумцаў... Той, пра каго казала Люда, што прымушаў пры ўваходзе на дыскатэку цалаваць сцяг, працаваў у Веткаўскай раённай газеце карэспандэнтам, пісаў неблагія вершы і бачыў у тым сваю будучыню. Ён у "Басках" не граў і не спяваў. Увогуле, "Баскі" – была хітрая абрэвіятура з першых літараў прозвішчаў хлопцаў удзельнікаў гурта. "Б" цяпер быў у войску, "А" настаўнічаў у Рэчыцкім раёне, "С" – у Веткаўскім, а "К" – у Жлобінскім... Разам яны больш не сабраліся. З "Б" і "А" Славік пазнаёміўся потым праз Андруся бліжэй, асабліва, калі пераехаў у Мінск, і ў іх з'явіліся агульныя справы.

Славік працягваў сустракацца з хлопцамі і дзяўчатамі з "Талакі", але яшчэ слаба і абсалютна няпэўна ўяўляў, што сам будзе рабіць далей і як. Бо разумеў, што вершаў складаць не стане – не яго гэта, што пойдзе крыху іншым шляхам, чымсьці ўсе гэтыя "пісакі". Аднак, яму падабалася быць сярод іх. Асабліва цікава было, калі з выступамі прыязджалі пісьменнікі з Мінска, Полацка, барды з Оршы, Гародні. Яны чыталі свае творы, спявалі песні, проста гутарылі. Адзін з мінскіх хлопцаў запомніўся яму найболей, бо казаў не толькі пра вялікую забытую беларускую гісторыю, не менш значную культуру, як і ўсе, а пра тое, што ў сапраўднага беларуса павінна быць усё прыгожа: калі ты размаўляеш па-беларуску, ты павінен быць ва ўсім прыкладам для іншых: у паводзінах, у маральнасці, у інтэлекце, у адзенні... "Тым больш у адзенні, – падкрэсліваў ён, – до вясковасці! У нас прывыклі – раз ты размаўляеш па-беларуску, значыць ты "калхознік", да таго ж апрануты неахайна, абыяк. Не і яшчэ раз не... Калі я размаўляю

па-беларуску, я суперінтэлігент. Ва ўсім. І прыклад іншым, як трэба сябе паводзіць, як выглядаць...”

Тая сустрэча адбылася ў іх у тым самым знакамітым гарадскім парку, дзе яны сабраліся ўпершыню пасля таго, як іх выгналі з рэдакцыі. Ён выйшаў з парку ў горад разам з Людай, ішоў і разважаў над гэтымі словамі мінскага госця, калі раптам трохі папераздзе іх спынілася міліцэйская машына, з яе выскачылі двое міліцыянтаў і накіраваліся подбегам да іх. “Вашы дакументы!” – голасна выгукнуў адзін і казырнуў. “А ў чым справа?” “Вы падобны да злачынца, якога мы шукаем...” “Калі ласка, вось дакумент”, – сказаў ён, а сам падумаў, як добра, што ён прыхапіў з сабой пасведчанне з працы. Міліцыянт разгарнуў чырвоную кніжыцу, угледзеўся ў фотакартку. “Калі хочаце, давайце пройдзем да будынка, дзе я працую, ён тут побач... Там пацвердзяць маю асобу”. “Не трэба...”, – адказаў міліцыянт, нешта запісаў сабе, і не спытаўшы дакументаў у сяброўкі, развітаўся: “Да пабачэння!”, – і пабег да машыны. “Не хачу я больш з вамі бачыцца”, – буркнуў ён яму ўслед, але гэты выпадак прымусіў Славіка задумацца, што невыпадкова пыталі ў яго дакументы міліцыянты. Відаць, за імі ўжо сачылі і проста высвятлялі для нечага ці некага, хто ён.

Разгадка прыйшла неўзабаве.

## 4.

Пераход з рускай на беларускую мову даўся Славіку лёгка. Усё ж скончыў ён вясковую школу і да дзясятага класа ўвогуле вучыўся па беларускіх падручніках. Праўда, настаўнікі ў іх школе ўжо з пятага класа выкладалі толькі па-руску. Пачалося ўсё з новага дырэктара школы – матэматыка, якога за рускія тэрміны так і празвалі “тождество” – надта нязвыклым беларускаму вуху падалося гэтае слова, больш прывычна і куды працей было па-нашаму: “тоеснасць”. То была змена пакаленняў у іхняй школе: старыя настаўнікі пайшлі на пенсію, а таму разам з дырэктарам прыехалі яшчэ чацвёра маладых, якія пачалі выкладаць большасць школьных прадметаў па-руску. Перад дзясятым класам, калі ён усвядоміў, што будзе паступаць вучыцца ў інстытут, дзе ўсё таксама па-руску, спецыяльна з’ездзіў у райцэнтр і купіў сабе падручнікі на рускай мове.

Славік быў выдатнікам, амаль выдатнікам, і яшчэ – займаўся спортам. Настаўнік фізкультуры – самбіст, арганізаваў у школе барцоўскі гурток. Славік і там быў лепшым, стаў чэмпіёнам вобласці, прызёрам рэспубліканскіх спаборніцтваў і выканаў норму кандыдата ў майстры спорту. А таму, пытанне куды паступаць вучыцца для яго вырашылася адразу: вядома, у інстытут фізкультуры. Так і настаўнік раіў. Для вясковага хлопца з небагатай сям’і гэта было не горшым варыянтам.

Паступіў без праблемаў. І там вучыўся выдатна. Праўда, асаблівымі спартыўнымі поспехамі не вылучаўся. На другім курсе стаў майстрам спорту і далей не пайшоў. Зразумеў, гэта не ягонае. Тым болей, “спорт высокіх дасягненняў” трымаўся на анаболіках, на спецыяльных леках, карацей. Калі, каб яму “ісці” далей, ехаць на чэмпіянат СССР, паўстала неабходнасць “калоцца” з мэтай нарасціць “мышачную масу”, ён катэгарычна ад гэтага адмовіўся. І цалкам пераключыўся на навуку, хай і спартыўную.

Інстытут скончыў з чырвоным дыпломам, але на кафедры барацьбы застацца не ўдалося: не было вакансіяў. Месца намячалася толькі гады праз тры і загадчык кафедры паабяцаў, што яно будзе абавязкова ягоным.

“Пакуль, – сказаў, – паедзь у вобласць, папрацуй, набярыся вопыту, а праз год вяртайся да нас у аспірантуру, а там і на кафедру...”. На размеркаванні, са сваім чырвоным дыпломам, ён ішоў першым з курса, а таму месца выбраў сабе не самае горшае: усё ж другі па велічыні горад Беларусі, праца інструктарам у абласным упраўленні спартыўнага таварыства “Спартак”, а не ў нейкай вёсцы настаўнікам фізкультуры.

Цяжэй пакуль было з бацькамі, якія не разумелі яго. Хоць вёска і была беларускамоўнай, яны, выправіўшы сына ў горад, думалі, што там ён “чалавекам стане”. Напачатку не маглі нарадавацца. А потым, калі па сканчэнні пачаў прыязджаць і размаўляць з імі не па-руску, як было ўжо і цешыла іх, і нават не па-вясковаму, а па-беларуску – на літаратурнай мове...

– Ты што здурнеў, сынок, – сказаў яму бацька, які працаваў калгасным брыгадзірам, цягнуўся да начальства, да мясцовай “інтэлігенцыі” і таму сам на людзях стараўся размаўляць нібыта па-руску, хоць толькі “да” і “нет” у яго і атрымлівалася амаль без акцэнту: амаль... – ніхто ж у горадзе так не гамоніць. Усе смяяцца з цябе будуць. “Калхознікам” за вочы зваць...

А калі ён пачаў казаць бацьку, што беларусы маюць вялікую гісторыю і трэба ганарыцца сваёй мовай і культурай, той адразу яго абсёк:

– А вось у палітыку, сынок, не лезь...

– Якая тут палітыка, – пасміхнуўся ён, – гэта ж мова...

– Знаю якая... Табе не казалі. А матчын дзядзька, твой дзед стрыечны, яшчэ перад вайной паехаў у Мінск, вучыўся там, вершы пісаў па-беларуску, прыязджаў сюды, пра гісторыю нам малым расказваў, кніжкі з вершамі чытаў, і загрымеў у Сібір... Не знаем, дзе і костачкі яго ляжаць... Нацдэм сказалі... Перапужаліся ўсе тады – страшкае слова... Цяпер будзе тое самае. Я камуніст і знаю, што кажу. Партыя не дарue ніякіх ухілаў. Дазволіць выявіцца ворагам і – пад нож іх... Таму кідай сваю мову, калі жыць хочаш.

Мачыха маўчала, але відаць было, што яна цалкам на баку бацькі. А ён падумаў: дзед, аказваецца, паэтам быў... І рэпрэсаваны ў трыццатыя... Дык вось адкуль у мяне цяга да беларушчыны... Гены, як-ніяк... Трэба пацікавіцца ім, вершы пашукаць у бібліятэцы і пачытаць...

А потым пачаліся праблемы і на працы: літаральна праз некалькі месяцаў сустрэчаў у “Талацэ” Славіка выклікаў да сябе начальнік упраўлення, якога таксама здзіўляла тое, што ў Славікавай мове цэлыя фразы пачалі гучаць па-беларуску, хоць ён стараўся размаўляць на працы па-руску, выклікаў і разгублена сказаў:

– Табой зацікавіліся там...

Дзе там тлумачыць не трэба было: пра ўсё казала інтанацыя, з якой гэта вымаўлялася.

## 5.

Цікаўнасць тая была невыпадковай. Яны з хлопцамі даўно заўважылі, што нехта фіксуе ўсе іхнія размовы. Пра гэта казаў Андрусь, якога зацягаў рэдактар газеты да сябе ў кабінет на гутаркі. Прычым, назаўтра ранкам рэдактар перадаваў іх вячэрнюю гамонку на гуртку з такімі падрабязнасцямі, што Андруся ажно жах браў. Зразумела, ніякой крамолы яны там не гаварылі, былі чыста гістарычна-этнаграфічныя даклады і спрэчкі. Але ўжо адно тое, што размаўлялі яны толькі па-беларуску не магло не выклікаць падазрэння і цікавасці пэўных службаў. Пра тое, што за імі сочаць казаў і Сяржук, якому Славік верыў, як сабе. Сержука, дарэчы, першым выклікалі

"туды". Што ў яго за гутарка была, не ведае ніхто, але па тым, як потым трымаўся Сяржук, адчувалася, што ён выкруціўся... І вось на табе – зацікавіліся ім. Начальнік сказаў, што паведаміў гэта яму па сакрэце ягоны сябар "адтуль", з якім яны разам гулялі ў футбол за "Гомсельмаш", а цяпер ходзяць па суботах у лазню. "Глядзі, – сказаў начальнік, – ты хлопец разумны, перспектыўны, не сапсуй сабе кар'еру. І калі паклічуць, успрымі тое, што будзе адбывацца, вельмі сур'ёзна. Там не жартуюць...".

Славіка выклікалі на "прыём" літаральна праз тры дні пасля гэтай размовы. У шэры дом каля старога парку ён ішоў з трывожным хваляваннем. Як да зубнога ўрача. Праігнараваць "запрашэннне" не мог, хоць ісці зусім не хацелася.

У невялікім і не дужа ўтульным кабінеце сустрэў яго мужчына гадоў пад сорак. У цывільным касцюме, без гальштука, з расшпіленым верхнім гузікам кашулі, выглядаў ён даволі простым чалавекам – сваім дзядзькам, а не нейкім там супер агентам. Калі Славік увайшоў, ён адразу пстрыкнуў выключальнікам і запаліў святло, хоць у пакоі і без таго было светла, бо на вуліцы – сонечна. З першых словаў чалавек, які назваўся Паўлам Мікалаевічам, даў зразумець Славіку, што ведае пра яго калі не ўсё, дык вельмі шмат. Чым агаломшыў, хоць Славік і быў нібыта гатовым да гэтага. Усё ведаў Павел Мікалаевіч і пра іхнія, як ён сказаў, "пасядзелкі".

– Малады чалавек, – павучальна прамовіў Павел Мікалаевіч, – я не разумею, навошта вам гэтыя гульні ў Беларусь. У вас усё так нармальна складваецца па жыцці. Я ведаю, вы з няпростай сям'і, дзяцінства вашае было цяжкім, а паглядзіце з кім вы звязаліся? Вы ведаеце, хто бацька Сержука? Не? Дык папытайце ў яго, пацікаўцеся. Ён генерал. Міліцыі! А ў Віктара, ці як там яго па-вашаму, Вінцэся, намеснік міністра, у Івана, ці як там – Янкі, у гаркаме партыі працуе, трэці сакратар... Па ідэалогіі, дарэчы... Вядома, ім можна і павыпендрывацца, – таткі калі што прыкрыюць. А хто абароніць вас? Яны вам яшчэ не прапаноўвалі са зброяй у руках бараніць Беларусь ад акупантаў-маскалёў? Што, прапаноўвалі ўжо?

Павел Мікалаевіч запытальна ўзіраўся яму ў вочы і маўчаў. Трэба было нешта казаць.

– Не, – выціснуў ён з сябе.

– Дык прапануюць. Не сумнявайцеся. І што вам за гэта будзе вы ведаеце? – Павел Мікалаевіч зноў пільна ўгледзеўся ў яго. – Літаратуру добра ў школе вучылі? Някрасава? – Чахотка і Сібір...

Ён маўчаў. Шчыра сказаць – трохі разгубіўся. Ад новай інфармацыі, што пачуў ад гэтага чалавека, ад таго, што і сапраўды задумаўся пра свой лёс. А той ціснуў далей:

– Скажу вам, што ўсё адбываецца пад нашым кантролем. Думаеце, мы дадзім падняць галаву тут гэтай швалі, як у Прыбалтыцы? Франты, панімаеш, задумалі... не ўдасца! А калі і ўдасца, дык пад нашым шчыльным кіраўніцтвам. Лабусы ніколі не былі нам братамі, яны заўсёды былі ворагамі славянаў. Дык няхай пацешацца пакуль свабодай. А ў нас – прысячэм гэтыя гульні на корані. І жорстка. Не сумнявайцеся.

Славік маўчаў.

– Мы тут параіліся, – працягваў Павел Мікалаевіч, які, пэўна, адчуў у ім слабіну, – і вырашылі прапанаваць вам супрацоўніцтва. Я ведаю, вы хочаце пераехаць у Мінск, у аспірантуру. Што ж, варта. Абароніце кандыдацкую. Мы вам дапаможам. Вы хлопец талковы. У Мінску будзеце працягваць займацца сваёй любімай справай, у тым ліку і гісторыяй, калі вам гэта так

падабаецца. Хадзіць на розныя іхнія пасяджэнні – там таксама “суполак” хапае. Вы ж ведаеце многіх хлопцаў, што называюць сябе “свядомымі беларусамі”, якія адсюль туды пераехалі. Але пакуль папрацуеце тут. Час ад часу будзеце сустракацца з нашым чалавекам ды сёе-тое расказваць. І ўсё... Мы дамовімся, як, дзе і калі. Вы не сумнявайцеся – ніхто пра гэта не даведаецца... Ніколі. Гарантую.

Павел Мікалаевіч увесь час назіраў за ім і са свайго вопыту здагадваўся: гэты адмовіцца, не пагодзіцца. Славік, вядома, быў разгублены, але трымаўся даволі ўпэўнена. Павел Мікалаевіч бачыў, што ўгаварыць падобраму яго не ўдаецца і змяніў тон на больш грубы:

– Калі вы думаеце, што мы не ведаем, чым вы там займаецеся, пра што гаворыце, дык вы памыляецеся. У нас усюды ёсць вушы. Вы ўсе ў нас пад каўпаком. Мы дазваляем вам гэта рабіць, каб выявіць патэнцыйных ворагаў і трымаць пад кантролем. Я хачу вас выцягнуць з той яміны, у якую вы патрапілі па ўласнай недасведчанасці, паддаўшыся ўгаворам аднаго сябра – вы разумееце, каго я маю на ўвазе... Я ведаю – вы наш, вы спартсмен, вам няма чаго рабіць з тымі адшчапенцамі, якія мо толькі і думаюць, як зганьбіць, аклеветаць краіну ды эміграваць адсюль на захад.

Славік маўчаў, сядзеў, апусціўшы галаву, і думаў: значыць, і да нас дабраліся... Бацька меў рацыю... Тое, што ў гэтай краіне ўсё адсочваецца, ён не проста здагадваўся, ён быў перакананы ў тым. Але каб настолькі... І галоўнае, цяпер, калі нібыта дазволілі дыхаць лягчэй, вальней, калі пачалася пе-ра-бу-до-ва і, як грыбы пасля дажджу, пачалі расці розныя нефармальныя аб’яднанні... Аказваецца, служба не дрэмле, усё пад яе кантролем... І ў “Талацэ”, сярод, здавалася б, сваіх, невыпадковых, хлопцаў і дзяўчат, ужо ёсць “стукачы”. І мала ім іх, яны яшчэ і мяне хочуць завербаваць... Не, ні за што! Бо шыла ў мяшку не ўтоіш і рана ці позна яно вытыркнецца, і пра гэта стане вядома, як бы не абяцалі таямніцу... Як я тады ў вочы хлопцам пагляджу? А калі і не даведаецца ніхто, усё роўна – “сексотам” быць не хачу!

Павел Мікалаевіч убачыў, што Славік сядзіць агаломшаны, і вырашыў даціснуць:

– Вы ж яшчэ не служылі ў арміі, так? У інстытуце ваеннай кафедры не было... Дык вось, увосень будзе чарговы набор у Афганістан. Не хацелася б рэкамендаваць нашым сябрам забраць вас на службу, прынамсі, звярнуць увагу на тое, што вы яшчэ не служылі... – зрабіў паўзу і працягнуў: – Я не настойваю, каб вы менавіта сёння прынялі рашэнне. Падумайце... Пазваніце мне напрацягу тыдня па гэтым нумары, – дастаў з шуфляды і падаў падрыхтаваны аркушык з напісанымі на ім лічбамі.

Вось гэта і было памылкай “вярбоўшчыка”. Калі б ён не даў магчымасці падумаць, хто ведае, як яно было б: мог бы і даціснуць Славіка, узяць подпіс, тым больш, напалохаўшы войскам. Але, калі быў дадзены час узважыць, на гэтым усё і скончылася. Ужо з шэрага будынка Славік выходзіў з цвёрдай перакананасцю: лепш, калі давядзецца, пойдзе ў Афган, на вайну, чым стане “стукачом”.

Афганістан Славіка не страшыў. Некалі, у школе, у дзясятым класе, ён, акрылены патрыятызмам, нават думаў падаць заяву ў ваенкамат і не паступаць вучыцца, а пайсці добраахвотнікам выконваць “інтэрнацыянальны абавязак”, змагацца за вызваленне афганскага народа ад ярма капіталістаў. Тады, дзякуй Богу, хапіла розуму не зрабіць гэта. Але цяпер, калі яго ставяць перад выбарам, то... на супрацоўніцтва ён не пойдзе. У любым выпадку – не... Лепей ужо войска.

## 6.

Так, "Талаку" ўрэшце выгналі з рэдакцыі: нядоўга цярпелі. Каб захаваць суполку, трэба было шукаць мажлівасць недзе збірацца. Колькі разоў пасядзелі-пагаманілі на кватэры ў Сержука. Пакуль ён не заспеў у сябе "вадаправодчыкаў". Сталася тое выпадкова. Аднойчы Сяржук выйшаў з дому раней, але на тралейбусным прыпынку згадаў раптам, што забыў узяць з сабой абяцаную камусьці кнігу. Вярнуўся, адчыніў кватэру, а там у ванным пакоі калупаюцца нейкія невядомыя людзі ў добрых цывільных касцюмах. "Хто вы такія? Што тут робіце?" "Мы вадаправодчыкі...", – мужчыны відавочна не чакалі, што гаспадар кватэры вернецца і заспее іх... "Хто вас выклікаў? Як вы патрапілі ў кватэру?" "Мы з ЖЭСа, нас ЖЭС паслаў зрабіць..." – і не дагаварыўшы што – хуценька рэціраваліся, ледзь не забыўшы свой чамаданчык. Той, што вяртаўся па яго, сказаў Сержуку на парозе шэптам: "Прабач, хлопец..."

Было зразумела, што за "вадаправодчыкі" прыходзілі. Таму пасля гэтага пачалі збірацца, пакуль цёпла, у парку... Прагульвацца па ім, размаўляючы. Праўда, тут ужо было не да лекцый па гісторыі. Сыходзіліся, каб проста пабачыцца і не страціць сувязь. Урэшце, згадалі пра моду на маладзёжныя нефармальныя арганізацыі, што кацілася па краіне. Вырашылі афіцыйна зарэгістравацца ў гаркаме камсамола, як суполка, што цікавіцца краязнаўствам і мінулым сваёй зямлі. Спрацавала. Больш за тое, з'явілася надзея, што з дапамогай камсамола ўдасца "выбіць" памяшканне. Што і зрабілі.

Але выдзелілі ім – Андрусь дабіўся, які якраз і адказваў за асвятленне камсамольскага жыцця і нефармальных аб'яднанняў у газеце, – падвал у адным з дамоў на паралельнай цэнтральнай вуліцы. Іншага месца ў вялізным горадзе ім не знайшлося. Падвал да таго ж лічыўся бамбасховішчам і ў яго вялі цяжкія жалезныя, даўно нефарбаваныя іржавыя дзверы, якія расчыніліся са страшным скрыпам і натугай. Бетонная лесвіца ныряла глыбока ўніз і выводзіла ў змрочныя сутарэнні. Адзіная лямпачка пад нізкай бетоннай столлю ўсё доўгае памяшканне не асвятляла – толькі пачатак яго. Далей была цемра і здавалася, што скляпенні бамбасховішча не маюць канца... Першае, што яны ўбачылі ў кволым святле самотнай лямпачкі – гару зваленай старой пашарпанай мэблі.

– Гэта з кватэры аднаго крымінальніка, – патлумачыў начальнік ЖЭСа, які прывёў іх у падвал. – Ён цяпер зноў сядзіць і сюды больш не вернецца: з дому яго выселілі... Можаце карыстацца, калі вам што спатрэбіцца.

Брыдка было, асабліва таму, што ўсё тоўстым слоем пакрывалі пыл і бруд, але хлопцы разгрэблі грудок мэблі, выцягнулі даволі прыстойны круглы стол, канапу, некалькі крэслаў... Якраз пад лямпачкай зладзілі нейкі ўтулак. Астатнюю мэблю аднеслі ў далёкі цёмны кут.

Селі адпачыць – у бамбасховішчы да ўсяго было душна і сыра – Славік ажно ўспацеў, цягаючы мэблю. Панавала лёгкая ўзбуджанасць: нарэшце займелі нешта сваё – адсюль не пагоняць...

– Мы тут як першыя хрысціяне, – сказаў Андрусь, – яны некалі таксама сустракаліся і маліліся ў пячорах, у катакомбах... А сёння ледзь не палова свету прымае іх веру і Бога... Няўжо ў нас не атрымаецца нешта змяніць хоць бы тут, у нашым маленькім краі?

## 7.

І ўсё ж найчасцей начамі сніліся-мроіліся Славіку не сябры, не бацькі, не праца і не "вярбоўшчыкі", а Люда. Каханне іхняе, пачаўшыся бойка, перарастаць у нешта іншае, большае ці меншае, не спяшалася. Было яно цнатлівым і доўга далей пацалункаў не йшло. І гэта іх не палохала.

Увогуле яму з жанчынамі, ці, дакладней, дзяўчатамі, не шанцавала па жыцці. У школе ён ледзь не з першага класа кахаў адную дзяўчынку. Выбраў, як на свой густ, напрыгажэйшую. А яна і сапраўды была найлепшаю і падабалася надта многім. Настолькі многім, каб не заўважаць яго. Ён захварэў на яе, цэлымі ўрокамі крадком пазіраў у бок парты, за якой сядзела яна, і не мог вочы адвесці, забываючы пра ўсё і не заўважаючы іншых. Але аднойчы на кар'ерах ля цагельні, дзе яны купаліся, ён убачыў, як суседскі хлопец, што толькі прыйшоў з арміі, ціскаў на траве ягоную Светку, а меншыя дзеці стаялі вакол і назіралі, як ён залазіць ёй то ў трусы, то пад станік... Потым, увечары, ідучы разам у клуб, той самы сусед са смакам расказваў яму, як водзіць пасля кіно Светку ў закінутую клуню на водшыбе, і хваліўся, якая яна гарачая і ненасытная... Сэрца Славікава разрывалася на часткі ад болю, хацелася плакаць і... біцца, мясіць гэтага хлопца нагамі, качаць яго па зямлі за тое, што ён спляжыў ягоную мару. А Светка, Светка яму і потым падабалася, можа, яшчэ і больш, і нянавісці да яе ў яго не было. Была нібыта пагарда ад таго, што ён нешта пра яе ведае такое – пра што сама яна не здагадваецца.

Не дужа шэньціла яму на ўзаемную "любоў" і на ягоным курсе ў інстытуце. Яму падабалася адна дзяўчына з гімнастак, якую ён вылучыў для сябе яшчэ на "бульбе". І без ніякай надзеі сох па ёй усе чатыры гады вучобы, хоць і чуў пра яе гулі з іншымі хлопцамі, з трэнерамі на зборах, і гатовы быў дараваць нават два спароны, што зрабіла яна на другім і трэцім курсах... Але – не лёс...

Гэта якраз па ёй і сумаваў ён тады, калі ўпершыню прыехаў у Гомель і, не стрываўшы самоты, што раптам апанавала ім, пайшоў у парк.

А цноту сваю Славік страціў на трэцім курсе, калі прымусілі яго паехаць працаваць, ці як казалі "на практыку", у піянерскі лагер фізруком. Начальніца лагера неяк пасля сумеснай вечарыны, якую яна разам з важатымі зладзіла ці не дзеля таго, каб падпаіць яго, адзінага, калі не лічыць старога ветэрана-загадчыка гаспадаркі Іванавіча, мужчыну ў той лагернай змене. П'янага яна зацягнула Славіка да сябе ў пакой, у ложак, дзе і прачнуўся ён ранкам голы побач з жоўтай гарой – начальніца была з такіх, пра якіх Іванавіч жартаваў: пляснi па жываце – да раніцы дрыжэць будзе... Цэлы дзень не ведаў ён куды падзецца. Яму здавалася, што ўсе дазналіся пра ягоную "прыгоду", і таму гэтак хітра на яго паглядваюць. Нават дзеці са старэйшых атрадаў, а не тое, што дзяўчаты-піянерважатыя. А Іванавіч, дык і наогул пры кожнай "выпадковай" сустрэчы па-змоўніцку падміргвае яму...

Славік не хацеў сабе прызнавацца, але сёе-тое з той ночы памятаў, яно яму спадабалася і вабіла... Пад канец змены ён перакаштаваў-перакуштаў амаль усіх піянерважатых, якія лёгка ішлі да яго, як да свайго. Яны былі з іншага інстытута – педагагічнага, і, пэўна, спадзяваліся, што раз'едуцца і ўсё забудзецца. Так яно, урэшце, і сталася. Начальніца лагера напачатку хацела быць у Славіка адною, а потым змірылася і на развітанне, на сканчэнне змены, нават прэмію выпісала – без крыўдаў.

Цяпер ён не шукаў спецыяльна “гэтага”, і таму з Людай яму было проста добра. Як, здаецца, і ёй з ім. Акрамя пацалункаў на развітанне – у шчочку, нібыта жартам, яны нічога больш сабе не дазвалялі. Можа таму, што пакідалі “гэта” на потым, абсалютна ўпэўненыя ў тым, што будуць разам нягледзячы ні на што.

Але хто мог прадбачыць, што ў іх жыцці здарыцца... непрадбачанае.

## 8.

У бамбасховішчы, яны зразумелі, што хопіць замыкацца ў саміх сабе, трэба неяк выходзіць на людзі.

– Раз мы талака, дык трэба і ладзіць талокі, – сказаў Сяржук. – якраз набліжаецца чарговы камуністычны суботнік, дык ці не з’ездзіць нам у Ветку? Там, ведаю, распачалі рэканструкцыю мясцовага музея – вельмі цікавага, дарэчы, у ім ёсць старадрукі 16-17 стагоддзяў, шмат абразоў... Варта пабачыць гэта ўсё, а заадно і дапамагчы ў рамонце...

Ветка – гарадок стараверскі, у ім і ваколіцах сапраўды захавалася шмат рарытэтаў – старадаўніх кніг і абразоў, выкупляць якія ў бабулек за капейкі ды перапраўляць за валюту на захад даўно ездзілі масквічы з ленінградцамі. Не цікавіла нічога толькі беларускіх навукоўцаў. Але сярод веткаўцаў знайшоўся чалавек, які не пабаяўся рызыкнуць і пачаў збіраць спадчыну стараевераў – Фёдар Шкляраў. Дакладней, не збіраць, а ратаваць ад знішчэння. Бо камуністы ў змаганні з рэлігіяй сотнямі адбіралі ў вернікаў старадрукі і абразы, звозілі ў райцэнтр і палілі імі грубкі – ацяплялі так свае кабінеты ў райкаме і райвыканкаме... А Шкляраў, калі надышла чарговая адліга, якую назвалі перабудовай, скарыстаў момант і на аснове свайго таемнага збору стварыў унікальны музей. Спачатку хатні, а цяпер вось пад яго выдзелілі асобны будынак.

Дырэктар музея, якому ўжо сказалі, што прыехала з Гомеля нейкая моладзь, якая гаворыць па-беларуску і хоча працаваць бясплатна на рамонце дома, сустрэў іх на парозе, гаворачы сам сабе пад нос, але каб і яны пачулі:

– Гаварят па-беларускі... Ну і пускай... Абы сабак па уліцы не ганялі...

“Талакоўцам” гэта спадабалася, бо то была ці не першая станоўчая рэакцыя на іх беларускасць. Хай і грубаватая. Часцей ім даводзілася сустракацца з іншым – з неразуменнем і адкрытай пагардай. Бо чыстая, літаратурная мова даўно не гучала тут, а, можа, і не гучала ніколі. Зрэшты, як і руская. Размаўлялі ў большасці на так званай “трасянцы” спакон веку. Асабліва ў гэтых мясцінах – на памежжы з Расіяй. Хоць якраз тут, побач з вернікамі-кансерватарамі і захавалася найбольш беларускага дахрысціянскага фальклору на мове, паганскіх святаў і... ручнікоў, посцілак ды іншых тканых вырабаў з найцікавымі ўзорамі, што таксама былі сабраныя ў музей Шкляравым.

Праца была простай: падай-прынясі, падмяці-выкінь... Але і яна была дужа патрэбнай, бо рамонт будынка былога веткаўскага купца ў самым цэнтры горада на плошчы, што, як і маскоўская, мела назву Красная, рабілі самі музейныя супрацоўнікі на чале з майстрам на ўсе рукі, цесляром, столярам, разбяром па дрэве, мастаком... дырэктарам. І любая дапамога была тут не лішняю. За гарбатай пасля працы ў цесным музейным пакойчыку яны вырашылі прыязджаць сюды на кожныя выходныя.

Між талокамі яны па-ранейшаму па некалькі разоў на тыдзень збіра-

ліся ў сваім падвале, слухалі лекцыі па гісторыі, спявалі песні. Ізноў гэта нагадала Славіку нейкае сектанцтва. Бо развіцця не было. Так, ён любіў гісторыю. Так, ён любіў беларускія песні. Асабліва народныя. Тыя, што спявалі ў іхняй вёсцы на вяселлях, хрэсбінах, увогуле на святах аж да "акцябскіх". Але не тыя, што спявалі "талакоўцы". Асабліва неўзлюбіў тую, што гучала найчасцей, са словамі: "сабралася бедна басота..." Пэўна, усё ж, быў у яго розум задужа канкрэтны. Ну якая басота? "Цвет" інтэлігенцыі сабраўся – дзеткі бацькоў з высокімі пасадамі, усе з закончанай вышэйшай адукацыяй ці студэнты вну... Ну не бачыў ён за гэтым тонкага жарту, пакеплівання з саміх сябе. Наступаюць на тыя ж самыя граблі, думаў ён: шляхетны Янка Купала з "нашаніўскай" камандай сядзелі ў віленскіх кавярнях за філіжанкамі кавы і складалі вершы пра "дурных" ды "цёмных" лапцюжных мужыкоў для... дурных ды цёмных лапцюжных мужыкоў, як яны, відаць, лічылі... І тут праз семдзясят гадоў зноў – "басота"... А яшчэ расказваюць пра "найбагацейшую" гісторыю.

Але не гэта галоўнае. Ён разумеў, што калі не будзе нейкага руху наперад, то гэтыя пасядзелкі большасці чальцоў хутка надакучаць і яны разбрыдуцца. А развіццём ідэі магло быць толькі канкрэтнае змаганне, тое, пра што шапнуў яму Андрусь пасля першай сустрэчы ў рэдакцыі і што спадабалася яму найбольш: рэальная барацьба за незалежнасць, якой можна было б зацікавіць, заінтрыгаваць, і ў якой быў той самы патрэбны патэнцыял, перспектыва, бо экстрым заўсёды больш вабіў пэўную частку моладзі, чым розныя "спеўкі" ды лекцыі...

## 9.

Той чалавек у цывільным больш Славіка да сябе не выклікаў. Мажліва, хапала "стукачоў" і без яго, мажліва, чакаў, што Славік сам прыбяжыць, мажліва, зразумеў, што Славік супрацоўнічаць не будзе, а хутчэй за ўсё – трэба ж было кагосьці з "дысідэнтаў" пакінуць "на развод", каб было за кім сачыць і, адпаведна, недарэмна хлеб есці. Так думаў Славік, згадваючы тую не надта прыемную для яго размову і радуючыся, што не чапаюць больш, не клічуць да сябе. А што сочаць... дык няхай – асцярожней буду.

Пранесла?.. Не, аднак... Пра яго не забыліся. І недзе на пачатку восені, як толькі аб'явілі новы прызыў у войска, яму прыйшла позва ў ваенкамат.

Усё было б добра, калі б не сустрэчы з Людай. Адслужыў бы – не праблема. Але ён баяўся яе страціць. Яна то студэнтка, другі курс, ёй яшчэ вучыцца ды вучыцца, але ж за паўтара года войска ці мала што можа адбыцца...

У той дзень яны пайшлі прагуляцца па ваколіцах Гомеля, якія ён тым часам палюбіў больш, чым сам горад...

Палюбіў крынічку на былым крутым беразе Сожа, за Домам культуры інвалідаў па зроку, куды па ваду хадзілі толькі абраныя: тыя, каму адкрылася чысціня яе вады, ці – тыя, хто проста не ленаваўся прайсці сотню метраў па горадзе, а потым спусціцца з высокае стромы ўніз, да яе чыстае вадзіцы, бо не хацеў піць з крана вадкасць, якая пахла хлоркай ды іржой усіх труб, праз якія прайшла...

Палюбіў блукаць з Людай між ярка-зялёных лазовых кустоў па белажоўтым сыпучым пяску, што быў некалі дном рэчкі, якая змяніла рэчышча; палюбіў і сам Сож шырока-прыгожы тут, поўна-выпуклы, калі глядзець з берага, ад вады, ціхі і ласкавы ля ног і хуткаплынны пасярэдзіне...

Палюбіў напаўразбураную царкву, якая, казалі, была пабудаваная некалі па праекце знакамітага архітэктара Растрэлі. Яна стаяла пры вёсцы з файнай назвай Валатава на ўзвышшы ля старога рэчышча Сожа, і на рэштках яе сценаў любілі трэніравацца мясцовыя альпіністы. Калі яны з Людай упершыню прыйшлі сюды, ён быў уражаны іржавымі крукамі, што ўпіліся ў цела царквы: яно падалося яму жывым, і ў Славіка ажно забалела ў сярэдзіне яе болем, нібыта гэтыя крукі забівалі ў яго самога, і то не іржа была, а кроў...

Іх вабіла гэтая царква і часта, вандруючы па ваколіцах горада, яны і не заўважалі, як зноў і зноў ногі прыводзілі іх сюды. Менавіта каля царквы ў той дзень, калі прыйшла позва, ён і сказаў Людзе:

– Ведаеш, мяне бяруць у войска. Учора прынеслі позву... – Памаўчаў, гледзячы, што яна адкажа на гэта, і спытаў: – Будзеш мяне чакаць?

Люда страсянула галавой: не можа гэтага быць... Яна, відавочна, не была гатовая да такой навіны. Але зразумела, што ён не жартуе, і таму праз кароткі одум з сумам адказала адным словам:

– Буду...

– Ну, ты так адразу, не падумаўшы, сказала. А мне служыць мінімум паўтара года... Гэта – немалы тэрмін... Прыкінь: амаль дзясятая частка твайго жыцця...

– Ну і што, не ведаю, што ты хочаш сказаць. Але мне яшчэ вучыцца больш за тры... амаль чатыры... гады. Дык што тыя паўтара года... Праляцяць незаўважна... Вось, каб была я на пятым курсе, тады, магчыма...

– Што магчыма?

– Ды нічога. Проста ў нас у суседнім блоку ў інтэрнаце пяцікурсніцы жывуць. Размеркаванне папярэдняе ў іх прайшло – усім у вясковыя школы... А яны так да горада прывыклі. Цяпер з глуздоў з'язджаюць, вар'яцеюць, каб застацца ў Гомелі.

– Так ужо і вар'яцеюць...

– Ага... З-за адной з іх нядаўна хлопца-гамяльчаніна выключылі з універсітэту. Ён сказаў, што ў Афганістане служыў і "коркі" нейкія падробленыя паказаў, што медалём узнагароджаны. Мо пахваліцца перад ёй хацеў, цану сабе набіць... А яна даведалася, што хлопец паступіў пасля школы і нідзе служыць не мог. Калі яе кінуў, у камітэт камсамола напісала, што ён ганьбіць сваім учынкам памяць тых, хто аддае інтэрнацыянальны доўг і свае жыцці ў Афганістане. Усе думалі, што пасмяюцца з яе дурніцы, а там наладзілі разборкі і хлопца выключылі з камсамолу. А потым, аўтаматам, і з універсітэта.

– Во як сур'ёзна ў вас, якія жарсці!.. А мяне і сапраўды ў Афганістан паслаць могуць. А там страляюць і забіваюць...

– Не кажы так. Усё будзе добра. У цябе ж вышэйшая адукацыя. І ты адзін у бацькоў... Цябе не пашлюць на вайну... Але... Я ў любым выпадку цябе чакаць буду. І пісаць. Часта-часта.

Гучала шчыра і пераканаўча. Толькі – што можа быць пераканаўчым і тым болей даўгавечным у гэтым узросце?.. Адно Славік зразумеў яшчэ вастрэй: яму сапраўды не хочацца губляць гэтую мілую дзяўчынку, і з часам яна і сапраўды можа стаць яму цудоўнай сяброўкай-жонкай. У размове яны незаўважна для сябе ўвайшлі ў царкву, і толькі цяпер ён заўважыў, што стаяць пасярод яе, перад тым месцам, дзе павінен быць алтар.

І ён сказаў, гледзячы ў высокае неба над галавой:

– А давай вось тут перад вачыма Бога, якому нішто не замінае бачыць

нас: ні сцены, ні столь – сімвалічна заручымся: паабяцаем адно-аднаму, што б з намі ні здарылася...

Славік замоўк, засумняваўся: навошта ён гэта кажа? Але Люда падышла да яго, стала поруч, узяла за руку і ўгледзелася ў алтар...

– Паабяцаем, што?..

– ...Быць разам... назаўжды... і нішто нас не разлучыць...

І яны пакляліся ў вечнай вернасці, перашкодай якой не стане... нават... Пра гэта яны і думаць тады не хацелі...

## 10.

Напачатку была "вучэбка", якая пакінула яму адзін успамін. Славіка прыпуталі ў прыбіральні, каля ўмывальнікаў, тры сяржанты, аднаму з якіх ён адмовіўся чысціць боты. Яны ведалі, што ён "вучоны" – мае па сканчэнні інстытута вышэйшую адукацыю, і гэта яшчэ болей злавала іх, але яны і не здагадваліся, што ён самбіст... І з той прыбіральні выпаўзалі на чатырох, крапаючы крывёй з разбітых насоў і губ на вечна мокрую падлогу.

Словам, пасля гэтага яго не толькі не чапалі, а нават набіваліся ў сябры. Андрусь, спачуваючы яму, казаў на развітанне, што ніколі, ні за што не пайшоў бы служыць толькі таму, што не хоча, не ўмее і не здольны прымусіць сябе выконваць бязглуздыя загады, кшталту: капаць адсюль і да абеду, альбо фарбаваць лісце па восені ў зялёны колер. Бязглуздых загадаў і сапраўды хапала ў "вучэбцы", як і начальнікаў-ботаў, але ён стараўся на іх не зважаць.

Атрымаў лычкі малодшага сяржанта, ужо ведаючы, што пойдзе служыць у Афган. Зрэшты, ён у гэтым ніколькі не сумняваўся, яшчэ ў ваенкамаце прыгадаўшы тую гутарку з чалавекам з "органаў". Тым больш і "вучэбка" месцілася на самым поўдні СССР, паблізу афганскай мяжы – у Туркменіі.

І ўсё ж ён не думаў, што будзе гэтак цяжка. Полк іхні ў баях не ўдзельнічаў, стаяў у тыле. Аднак абстаноўка была баявой і раз на некалькі дзён нехта з салдатаў прападаў без вестак, альбо некага знаходзілі прастрэленым ці з перарэзаным горлам. Гінулі і знікалі хлопцы ў асноўным па сваім глупстве, пагнаўшыся за "прыгодамі" на сваю галаву, ці як гучала ад камандзіраў пасля чарговага выпадку – "на сваю жопу". Ведалі яны пра гэтыя знікненні і тым не менш лезлі ў недалёкі кішлак па нейкую выпіўку, а сёй-той і па наркотыкі, на якія падсеў тут.

А ўвогуле "шураві-інтэрнацыяналісты" паводзілі сябе з мясцовымі бесцырымонна і нахабна: не як сябры, а як заваёўнікі-гаспадары. Асабліва афіцэры і прапаршчыкі. Кожны хацеў нешта ўрваць, каб дамоў прыехаць не з пустымі рукамі.

Славік не паддаўся гэтаму памкненню, але частку грошай, што выдаваліся як нібыта заробак, вымушаны быў здаваць у агульны кацёл – на дэмбель. Каб і самому, звольніўшыся, атрымаць нейкую капейку, за якую ў бліжэйшым кішлаку можна было купіць недаступную ў Саюзе мару маладзёнаў – да прыкладу, японскі магнітафон "Шарп".

З першых дзён ён пачаў весці дзённік. Пісаў па-беларуску. Ніхто не разумеў, што ён там крэмзае, ды і асабліва не цікавіліся. Але аднойчы дзённік ягоны патрапіў у рукі землячку – лейтэнанту асабісту. Той пачытаў і пераклаў запісы камандзіру палка. Дзённік знішчылі, спалілі

перад строем, а ён атрымаў дзесяць сутак гаўптвахты – "губы". За антысавецкія, неінтэрнацыялісцкія настроі, за ачарненне імя савецкага воіна... А папросту – за праўду, якую фіксаваць, запісваць нельга было. Шкада, вядома, дзённіка, але наогул, яму яшчэ пашанцавала, бо за гэта маглі адправіць і ў штрафны батальён...

То быў яму ўрок на ўсё астатняе жыццё: будзь асцярожным і душу сваю не раскрывай ні перад кім, ні перад чым – нават перад чыстым аркушам паперы. Асабліва паперы, бо што напісана пяром, то... ужо дакумент супраць цябе.

І, падобна, памяць пра той выпадак жыла ў ім дагэтуль.

Намінальна ён лічыўся ў разведроце. Але сядзелі яны ў гарнізоне і нікуды не выходзілі. Да пары да часу. Калі да дэмбелю заставался літаральна сто лічаных дзён, раптам распачаліся буйныя баі на поўдні, каля Пакістану. Там "духі" акружылі горад Кандагар, бамбардавалі яго, білі з артылерыі, і трэба было дапамагчы сваім выстаяць і адбіцца. Вось тады ён і ўбачыў вайну зблізку, убачыў смерць сяброў – зазірнула старая з касой і яму ў вочы.

На верталётах іх кінулі на адну з вышыняў прыкрываць праход войскаў па дарозе. Трое сутак у страшэнную спякоту ўдзень і невыносную халадэчу ўночы яны сядзелі на голым узгорку за грудкамі сабраных абломкаў скалаў і камянёў і ўжо трохі разняволіліся, супакоіліся ды зусім не чакалі нападу. "Духі" ссунуліся на іх з навакольных гор пад раніцу чацвёртых сутак. Добра, што адзін з вартавых паспеў перад смерцю націснуць курок і даць чаргу ў неба. Інакш, перарэзалі б іх там усіх, як авечак... І давялося Славіку страляць па іншых людзях, якія яму асабіста не былі ворагамі, але лёс паставіў іх па розныя бакі адной жыццёвай дарогі і сказаў, што ўсім месца на ёй не хопіць... Можа, якраз тады і награшыў ён, за што і расплочваецца цяпер... Але што яму было рабіць: па ім стралялі і ён страляў у адказ. Выконваў не інтэрнацыянальны абавязак, а бараніў сваё жыццё – такое крохкае, аказваецца, кволае, як у немаўляці. Прычым, стараўся страляць прыцэльна, бо ад гэтага залежалі яшчэ і жыцці ягоных сяброў...

Пакуль падышла дапамога, з іхняе роты засталося менш за палову. І большасць з жывых – параненыя, пакалечаныя, а ў яго, як ні дзіўна, ні драпіны, толькі плячо сіняе ад аддачы прыклада кулямёта. У баі не заўважалася, а пасля смылела доўга... Але бой той потым часта бачыўся яму ў кашмарных снах і кожны раз не паспяваў ён на выручку сябру Сёму, зямелю з-пад Віцебска, і кожны раз прачынаўся ў халодным поце і пераконваў сябе: жывы Сямён, застаўся жывым... усё добра, я ж паспеў... І сапраўды, так і было: ён злаўчыўся тады ў апошні момант павярнуць рулю свайго кулямёта ў бок "духа", які выскачыў з-за скалы проста на Сямёна. І цяпер ужо стаяў у вачах той "дух", які, падаючы, так глыбока зазірнуў у яго...

На шчасце, паколькі ён меў вышэйшую адукацыю, служыць яму было, у адрозненне ад іншых, не два гады, а паўтара. Бо яшчэ паўгода ў той "мясарубцы" ён бы не вытрымаў: ці псіхіка здала б, ці не выжыў бы...

Так, адслужыўшы, ён вярнуўся ў Гомель. Сам горад застаўся ранейшым, але жыццё ў краіне памянялася кардынальна. Перабудова набрала ход, асабліва ў газетах. Першы тыдзень ён абклаўся старымі выданнямі і не мог начытацца – насыціцца праўдай... Праўдай пра мінулае, пра ГУЛАГ і сталінізм, пра вайну і партыйных бонзаў, але не пра Афган...

## 11.

Валодзька-афганец служыў пад Кабулам. Пра тое, як страціў ногі, ён згадваць не любіў. На ўсе пытанні ў яго была адгаворка, якую ці сам ён прыдумаў, ці нехта навучыў так казаць. "Легенда" была спрошчанай і нібыта пазычанай з кіно: няроўны бой, выбух гранаты ля ног і – медсанбат. Як у тым фільме, хай і не пра вайну: падкаўзнуўся, упаў, адкрыты пералом, гіпс... Славік, ведаючы афганскія рэаліі, Валодзьку не паверыў: якая граната ля ног? – усё можа быць, вядома, але... Стаў перапытваць. І Валодзька здаўся ды распавёў праўду, як афганец афганцу, папрасіўшы нікому не казаць. Усё было, як для Афгана, больш проста і звычайна: збег з часці ў самаволку і падарваўся літаральна за сотню метраў на міне...

– Ёлкі-палкі, – раздражнёна кінуў Валодзька сваё любімае выслоўе, – табе не збрэшаш... А мне дык усе тут вераць.

Шчырасць гэтая была адказам на Славікаву адкрытасць. Бо сам Славік перад тым сказаў яму, што згадаў сёе-тое са свайго жыцця. Прынамсі, што таксама служыў у Афгане. Прычым назваў некалькі момантаў, па якіх "інтэрнацыяналісты" бясспрэчна пазнавалі і прызнавалі сваіх. І гэта іх яшчэ больш зблізіла. Славік, нарэшце, знайшоў чалавека, якому можна было паспрабаваць даверыцца, раскрыць душу, з якім можна было параіцца. У пэўных межах, зразумела, пра якія Славік не забываў. Валодзька аказаўся не такім і дурным, як прыкідваўся, розум у яго быў не засмечаны, і ён мог дапамагчы Славіку адкінуць некаторыя ўспаміны і звярнуць увагу на тыя, што яму падаліся неістотнымі.

Згадкі пра Люду і Гомель Валодзька вылучыў сярод іншых. Хоць яны зачэпак не давалі, бо Славік не мог ведаць, дзе цяпер тая дзяўчына. Аднак яны маглі вывесці на ягоных бацькоў, якія, зразумела ж, не мянялі месца жыхарства. А Славік з Людай перад ягоным сыходам у войска разам з'ездзілі да іх у вёску, дзе бацькі наладзілі нешта кшталту "провадаў", бо так прынята... Толькі – як і куды яны тады ехалі, Славік пакуль прыгадаць не мог. Ніякіх назваў у ягонай галаве не ўсплывала, як і ў згадках пра Андрэя. Пэўна, яны былі настолькі звычайнымі і знаёмымі яму, што проста сцерліся, у адрозненне ад Гомеля ды Мінска. Як і прозвішча бацькоў, а значыць, і ягонае.

Валодзька перастаўляў каня з с6 на е5 і, хітра прымружваючыся, казаў Славіку:

– Вось каб ты шпокнуў там у бацькоў на сене сваю Люду, тады б ты ўсё помніў...

– Чаму на сене?

– Сена пахкае, а пахі найлепей захоўваюць памяць пра мінулае. Цяпер бы панюхаў скошанай травы і ўспомніў бы, як цябе завуць і з якой ты вёскі.

Валодзькавы словы пра пахі Славіку запомніліся. Ён стаў зважаць на гэта. Але колькі тых пахаў было цяпер вакол яго? Прынамсі, вырашыў ён, у папярэднім сваім жыцці ніколі не ляжаў у бальніцы, бо бальнічныя пахі, якія панавалі ў інтэрнаце, і смурод, што ішоў ад хворых, яму ні пра што не нагадвалі. А пахі ў двары – кветак, дрэваў, травы, былі настолькі агульнымі, што таксама нічога новага яму не казалі. А вось пах самагону, якім дыхнуў на яго аднойчы Сцяпан, рэзка ўдарыў яму ў галаву, і ён нібыта пачуў злосны вокрык мачыхі на п'янага бацьку: "Клішун сраны,

ты дзе гэта так набраўся, адыдзі ад малога, поскудзь!”, бо бацька тым часам нахіліўся над ім і хацеў пацалаваць... Ён адчуў, як колецца бацькава шчаціннe, і нават страсянуў галавой... Так, Клішун – гэта была вулічная мянушка бацькі, які хадзіў трохі нага за нагу чапляючы і шоргаючы. Даволі рэдкая мянушка і яна магла чымсьці яму дапамагчы. Ад клічкі да прозвішча шлях доўгі, аднак...

Аднак – гэта хоць нешта.

Успамін пра Люду – а Славік хацеў верыць, што гэта ўспамін, а не прыдумка, і сны пра Таню – а ён зразумеў ужо, што гэта сны, а не рэальнасць, абудзілі яго імкненне да жанчын. Ён не думаў пра тое, што ён бачыў на калідорах і ў палатах. Ён проста прагнуў ласкі, гульні, якая пераходзіць у каханне і доўгую-доўгую асалоду, а не ў механічныя рухі, працу ды пот. “Я пяць разоў запар магу...” – чуў ён, як хваліўся адзін. “А я сем...” – перабіваў яго другі. Ну і што? Ды хоць сто, думаў Славік, справа ж не ў тым... Але тэма гэтая пачала яго ўсё больш і больш непакоіць. І толькі адзін чалавек, толькі адна дзяўчына ва ўсім гэтым вялізным доме магла зняць гэтае ягонае хваляванне. Так-так... вядома ж, толькі Таня. Якая па-ранейшаму сімпатызавала яму. Таму ейныя дзяжурствы паступова ператвараліся для Славіка ў святы.

Калі ўсе на пятым паверсе клаліся спаць, калі аб’яўляўся “адбой” і палаты замыкаліся на ноч, Славік прыходзіў да Тані, і яны падоўгу размаўлялі, здавалася б, ні пра што, бо гутаркі гэтыя былі своеасаблівай любоўнай гульнёй маладых людзей, прыемнай ім абоім. Ён не кранаўся Тані, сядзеў насупраць, усім сваім целам адчуваючы яе блізкае калена, і яму дастаткова было таго, што яна побач. Яны размаўлялі і ціхія галасы іх, спачатку жорсткія і калюча-вострыя, паступова і незаўважна для іх саміх размякалі і плавіліся, рабіліся лагоднымі і плаўнымі, быццам яны гладзілі і лашчылі адно аднога. Пра што яны гаварылі? Цяжка пераказаць. Сэнс быў неістотны. Але кожнае слова было, прынамсі, так ім здавалася, на сваім месцы і не парушала гармоніі іхняга ўзаемства, якое не пераходзіла межы дазволенага.

Потым, калі Славік сыходзіў ад Тані, бывала і пад ранак, ён, лежачы ў ложку, думаў: “А што робіць цяпер Таня? Што думае, застаўшыся адна, яна? Няўжо і ёй іхнія адносіны нагадваюць... з’яву, якая называецца...” Ён нават у думках не хацеў ужываць тое слова, але іншага не ведаў... “ананізм”. І ці не пара з гэтым канчаць?

Першы крок, магчыма, і незаўважна для сябе, кіруючыся нечым падсвядомым, зрабіла Таня, якая падчас вясёлай размовы, смеючыся, нібыта незнарок, узяла ягоную руку. І ён учапіўся ў яе маленькую, з тонкімі-тонкімі пальцамі, гарачую далоньку і не адпусціў, прыціснуў да сябе, а яна, не вырываючыся, у радасным смеху дакранулася да яго пляча сваімі грудзьмі – укалола іх цвёрдасцю... Славік пацягнуў Таню да сябе, пасадзіў на калені, і вусны самі знайшлі вусны...

## 12.

Гомель прыняў Славіка можна сказаць ветліва. Асабліва старыя сябры і знаёмыя. Героем яго ніхто не лічыў, але павагі дадалося: усё ж пабыў на сапраўднай вайне. У краіне за гэты час адбыліся сякія-такія змены. Дэмакратызацыя, якая, казалі, адрознівалася ад дэмакратыі гэтаксама, як

каналізацыя ад каналу з чыстай вадой, ахапіла краіну. “Талака” разраслася. І стала даволі вядомай нефармальнай арганізацыяй.

Люда была ўжо на трэцім курсе. За час ягонай службы яна нiколькі не змянілася. Не пасталела нават. Засталася тым жа горкім дзіцём. Іх вандроўкі па ваколіцах аднавіліся.

– А з кім ты хадзіла тут, пакуль мяне не было?

– Ні з кім... Не хадзіла я сюды. Не магла. Бо тут кожны куст пра цябе нагадваў бы. А тым больш – царква...

– Дзякуй... Твае лісты для мяне былі вось гэтай жыватворнай крынічкай... Ты сама не ўяўляеш, як гэта важна ў войску, што цябе нехта чакае.

Яна не распытвала Славіка пра Афганістан, і ён быў удзячны ёй за гэта, і яшчэ больш уразумеў, што яна менавіта той чалавек, які яму патрэбны побач. Але, хоць Людзе трэба было яшчэ вучыцца два гады, заставацца ў Гомелі ён не хацеў. Тры гады ссылкі “маладога спецыяліста” заканчваліся, і ён вырашыў ехаць у Мінск, паступаць у аспірантуру. Добра, што так атрымалася: дэмабілізаваўся ён у траўні і яму не трэба было губляць дзеля гэтага год. Летам ён падвучыў нямецкую мову, каб здаць іспыт, і паехаў. З Людай яны вырашылі, што трэба пачакаць пакуль яна скончыць універсітэт, а ён крыху асвоіцца ў Мінску. Потым яна прыедзе да яго і яны – возьмуць шлюб...

Гэта здавалася ім разумным.

Да таго ж, з Гомеля выганяў Славіка і Чарнобыль, які здарыўся яшчэ перад ягонай выпраўкай у войска. Тады ён ішоў служыць, зусім не ведаючы праўды пра тое, што насамрэч адбылося: спачатку Гомель поўніўся рознымі чуткамі. Аднак святкаванне Першамаю прайшло як звычайна, да дня Перамогі горад не выселілі... Хоць размовы пра тое былі. А потым, калі адпала пагроза новага выбуху на атамнай станцыі, усе і ўвогуле супакоіліся: раз’ехаліся капаць грады на лецішчах, у вёсках, садзіць бульбу, уцягліся ў працу, маўляў, якая там радыяцыя: не пячэ, не коле... У партыйным друку пісалі хіба пра герояў-пажарнікаў, якія цаною жыццяў ўратавалі ўсіх ад большай бяды. Пра небяспеку радыяцыі, пра тое, як берагчы сябе ад яе, што можна есці, піць, а што не – ні слова. А ўвосень яго загрэблі...

У газетах у войску ён чытаў сёе-тое пра высяленне ды перасяленне, але не думаў, што гэта набыло тут, на Гомельшчыне, такія маштабы. Больш за палову вобласці засыпала цэзіем, стронцыем ды іншай радыяцыйнай халерай з табліцы Мендзялеева. Сам Гомель неяк абышло краем, але ўжо ў той самай Ветцы – усяго за нейкіх дваццаць кіламетраў – дазіметры зашкальвалі і жыць там было немагчыма. Пагаворвалі пра высяленне ўсяго горада, а музейныя рэчы, каштоўнейшыя старадрукі ды абразы, хацелі перавезці ў Гомель ці Мінск.

Вядома, і ў сталіцы было неспакойна, але там у яго магла б быць любімая праца... Ды і палітычнае жыццё туды перамясцілася істотна, і там ён быў больш патрэбным.

## 13.

Чым болей Славік назіраў жыццё ў інтэрнаце, тым яскравей яно нагадвала яму дзяржаву ў мініяцюры. За гэтымі кратамі ў выглядзе ўзыходзячага сонца было ўсё не так міла, як магло падацца збоку. Кіраваў усім галоўны ўрач, ён жа па сумяшчэнні дырэктар – Станіслаў Сцяпанавіч. Славіку не хацелася называць яго дыктатарам, дэспатам альбо нават самадурам, бо з

ім ён быў умеру добрым і мяккім. Але з іншымі, у тым ліку і з персаналам інтэрната – жорсткім і ўладарным. Магчыма, інакш тут, на краі свету, у гэтай Богам забытай вёсачцы, у далечыні ад усялякага начальства – нельга было. Гаспадарка немалая і без цвёрдай рукі, яна даўно б развалілася, рассыпалася ў часы ўсесаюзнага бязладдзя і безуладдзя. Але з іншага боку на гэтай жорсткасці і боязі квітнела беспакаранасць і несправядлівасць. Станіслаў Сцяпанавіч стварыў своеасаблівую вертыкаль сваёй улады і трымаў пад кантролем усё зверху да нізу. Было ў яго чынавенства – персанал: наместнікі, загадчыкі аддзяленняў, урачы, медсёстры... Быў "народ" – хворыя ды старыя. Быў і свой спецназ – санітары, гатовыя ў любы момант прыдушыць любое незадавальненне. Была і апазіцыя, якая тое незадавальненне зрэдку выказвала – хоць бы тым, што задавала пытанні ды казала пра тое, што галадуха, што вопратка знасілася... Была і свая турма – карцэр для асабліва буйных і самых незадаволеных нечым...

Сістэма страху дзейнічала спраўна. І бездакорна. Персанал трымаўся працы, баяўся, каб Станіслаў Сцяпанавіч не звольніў, бо куды ж пойдзеш тады ў вёсцы? У калгас?.. Але тут хоць нейкая стабільнасць, усё ж праца дзяржаўная, пад'есці можна на кухні і заробак своечасова выплацяць, не тое, што ў калгасе, дзе нават трактарысты і даяркі гарбеюць за капейкі, і тыя, калі і аддаюць, дык вялікае свята... І "кантынгент" таксама быў амаль пастаянным. Асабліва нікога ў інтэрнаце не лячылі, тым больш не "выпісвалі". Тут жылі і паміралі. Так, для большасці хворых і састарэлых выхад адсюль быў адзін – на "зялёныя", гэтак насельнікі называлі могілкі пры недалёкім лесе...

Пазней Славік даведаўся, пры ўсёй сваёй любові і павазе да галоўнага ўрача, што ў інтэрнаце яго не проста не любяць, а ненавідзяць, і за вочы называюць па скарочаных ініцыялах – "эсэс"... Ведаў пра гэта, відаць, і сам Станіслаў Сцяпанавіч, бо не аднойчы потым чуў ад яго Славік: лепш няхай ненавідзяць, але баяцца, чым бардак тут разводзяць...

Між іншым, бардак у прамым сэнсе разводзіў у інтэрнаце і сам Станіслаў Сцяпанавіч. Зрэшты, дзіўна было б, калі б ён не змог скарыстаць сваё становішча, бо, па вялікім рахунку, ён быў не проста гаспадар – ён быў цар і бог. І не толькі Славік хадзіў у ягоных улюбёнцах. Было ў яго і некалькі маладых дзяўчатак – "дурак", якіх Станіслаў Сцяпанавіч час ад часу "прымаў" у сваім кабінеце. Праз некалькі месяцаў, відаць, нападпітку, бо атрыманы на інтэрнат спірт ён хаваў у сябе, Станіслаў Сцяпанавіч нават прапанаваў адну з іх Славіку. Той катэгарычна адмовіўся.

– Як урач кажу табе – не адмаўляйся: лепшага лячэння, чым тэрапія маладой дзяўчынай, чалавецтва яшчэ не вынайшла, – сказаў Станіслаў Сцяпанавіч, – я табе раю: хутчэй на папраўку пойдзеш... І яшчэ не тое ўспомніш... – падміргнуў, – а яна – дэбілка, усё роўна нічога не разумее...

"Ага, не разумее... – падумаў Славік, – вы ж не такі наіўны... Гэта яна якраз добра разумее, бо з усіх інстынктаў ён самы жывучы... І тое, што яе топча менавіта галоўурач, а не нейкі там прыдурак ці нават санітар, у сваім асяроддзі скарыстоўвае напоўніцу..."

Ён не раз чуў, як "алігафрэнкі" хваліліся сваёй сувяззю са Станіславам Сцяпанавічам – гэта іх узвышала ў вачах іншых. Проста ён раней не даваў таму веры: навошта тое Станіславу Сцяпанавічу? Не мог і Станіслаў Сцяпанавіч не ведаць пра пахвальбу. Але і ён, пэўна, скарыўся сваім невынішчальным інстынктам і пляваў на ўсё, што пра яго маглі гаварыць. Бо разумеў: размовы гэтыя ўсё роўна будуць, нават, калі будзе

ён сьвяцей за святога, бо быць у такім куратніку і не скарыстаць мажлівасці паласавацца... Ніхто яго не зразумеў бы і ніхто ўрэшце рэшт, нават манах з манахаў – праз год, праз два, праз дзесяць – не ўстояў бы, не змог захаваць сваю “чысціню” тут, сярод блуду і спакусаў... А ён доўга трымаўся. І «здаўся» не так даўно – гадоў пяць таму, калі зразумеў, што баяцца яму ў такой глухамані пры суцэльным бязладдзі ў краіне няма чаго: далей гэтай вёскі не пашлюць; калі падумаў раптам: яшчэ пару гадоў і ён шкадаваць будзе, што не пакарыстаўся вольніцай... Адважыўся адзін раз і далей ужо спыніцца не змог – рассмакаваў... Спачатку яшчэ ацвеіражаў яго абавязак перад жонкай, а потым супакоіў сябе, што дзяцей у іх усё роўна няма і аддаўся волі лёсу... Таму і раіў цяпер Славіку не стрымлівацца. Да таго ж, відаць, пакуль нічога не ведаў пра стасункі, якія завязаліся ў таго з Таняй...

Але пасля гэтай “шчырасці” Славік зірнуў на Станіслава Сцяпанавіча па-іншаму. І зразумеў, што ў гэтым сяміпавярховіку пасярод лясной, далёкай ад цывілізацыі, вёскі, самы няшчасны не прыкаваны да ложку алігафрэн, якога ўсе завуць Залатаром, бо ходзіць ён пад сябе і есць сваё дзярмо, калі санітаркі не пачуюць смурод і не паспеюць вымыць, і не Сонька-мамулька, якую... э, ды што там казаць – ніхто з ўсіх тутэйшых хворых-калек, інвалідаў не такі няшчасны, як галоўны ўрач Станіслаў Сцяпанавіч, які дабраахвотна сядзіць за гэтымі кратамі ў выглядзе ўзыходзячага сонца ўжо дваццаць пяць гадоў...

## *Частка трэцяя.* **Палескі Настрадамус.**

### 1.

Славіка перавялі на першы паверх: бліжэй да зямлі – там было, аказваецца, некалькі палат для “выбраных”. Каб гуляў у двары, сярод кустоў і дрэваў, ды набіраўся на свежым паветры сілаў. Яму трохі шкада было развітвацца з Сашкам, да якога прывык, як да роднага, але ён разумеў, што гэта трэба. Дый не далёка яго пераводзілі, не ў іншы інтэрнат, а значыць, у любы момант ён мог прыйсці да Сашкі ў пакой “у госці”, як і той да яго...

Славік быў рады, што нарэшце пакінуў прапахлы спермай і лекамі калідор пятага паверха і апынуўся тут. У невялікім, метраў сто на сто пяцьдзесят інтэрнацкім дворыку, агароджаным вакол высокім – метраў тры ці больш – шчыльным плотам, ён знайшоў сабе зацішнае мейсца, дзе ўпадабаў сядзець. Сядзець і думаць. Думаць і згадваць. Зрэшты, згадваць, гэта не зусім дакладна, бо калі ён і сапраўды намагаўся зазірнуць у мінулае, у яго пачынала балець галава і ад бяссілля нешта ўспомніць накочвалася хваля болю, а потым – гневу на сябе, злосці, роспачы і ледзь не істэрыкі. Ён стрымліваўся і пераводзіў вочы на блакітнае неба, на зялёныя вершаліны акацыяў, на павольныя белыя хмаркі, а – думкі на нешта цяперашняе, ад чаго галава не балела, бо было яно зразумелым, вядомым і простым. Успомніць нешта сваё, пра сябе, альбо пра тое, што было з тым чалавекам, які жыў у ягоным целе першыя дваццаць пяць ці трыццаць гадоў, яму ўдавалася толькі ноччу ў паўдрымоце, паўсне-мроіве і ён верыў і не верыў таму, што згадваў. Не верыў, бо мог лічыць гэта снамі, а не тым, што было на яве, не верыў, бо не верыў і самому сабе.

А яшчэ Славік заўважыў, што, не памятаючы мінулага, ён пачаў прадбачыць будучыню. На некалькі хвілінаў, гадзінаў, дзён наперад. І не толькі, мабыць... Не, ну ці можа прадбачыць на некалькі гадоў наперад ён праверыць пакуль не мог, а вось тое, што будзе праз некалькі хвілінаў (гадзінаў ці дзён), ён мог прадказаць амаль дакладна. Скажам, сядзіць ён у сваім пакоі-палаце, чытае, і раптам яму ў галаву, здавалася б, ні з таго ні з сяго прыходзіць думка, што вось зараз да яго зойдзе Станіслаў Сцяпанавіч... І сапраўды, праз якую хвілю дзверы расчыняюцца, і ў палату заходзіць... так, Станіслаў Сцяпанавіч.

Трэніраваў (ці правяраў?) ён сваю здольнасць прадбачыць, гуляючы ў шахматы са Сцяпанам і Валодзькам. Да прыкладу, Сцяпан яшчэ не пахадзіў, а Славік ужо ведаў, якую фігуру ён будзе рухаць. І атрымлівалася, нібыта той не сам ходзіць, а падпарадкоўваецца Славікаваму загаду. Зрэшты, можа, так яно і было. Бо Славік, падобна, валодаў і дарам, блізкім да гіпнозу: прымушаць іншых людзей да нейкіх дзеянняў, учынкаў па-за іхняй воляй.

Потым Славік заўважыў яшчэ адну сваю здольнасць: паглядзеўшы на чалавека, праз нейкі час ён мог расказаць пра яго шмат – мінулае і будучыню, хваробы і клопаты, добрае і кепскае: быццам бы не проста чытаў ягоны твар, на якім гады пакінулі шмат пазнакаў былога, а зазіраў у душу...

Пра чужое ён мог расказаць... А пра сваё... Ён паспрабаваў, застаўшыся адзін каля люстэрка, угледзецца ў твар чалавека перад сабою – у свой твар – убачыць ягонае (сваё) мінулае і будучыню. І не змог... Галава, як і раней гэта было, дакладней, як і заўсёды – забалела, закружылася... Ён сеў міма крэсла на падлогу, губляючы прытомнасць і з’язджаючы ў цемрыва.

Да нейкага часу пра гэтую ягоную здольнасць – прадбачыць будучыню – ніхто не ведаў. Але аднойчы, зірнуўшы на бабу Маню, ён убачыў, што можа здарыцца з ёю праз некалькі гадзінаў. І вырашыў папярэдзіць яе. Сказаў:

– Вы збіраецеся сёння пасля абеду ехаць у райцэнтр на аўтобусе... Можна, я папрашу вас, каб вы не ехалі нікуды. Адкладзіце сваю паездку на заўтра.

Баба Маня здзівілася:

– Зайчык, а адкуль ты знаеш, што я хацела ехаць? Я ж нікому пра ета не казала...

Ён маўчаў. Тады яна спытала:

– Можа, ты знаеш і чаму мне трэ ехаць?

– Ведаю, – адказаў ён, – вы хацелі на прыём да ўрача, у вас вось тут баліць, – ён паказаў на грудзі бабы Мані, – але, прашу вас, сёння нікуды не едзце... Я сам вас пазней вылечу.

Апошняе ў Славіка само сабой вырвалася. Пэўна, каб канчаткова пераканаць бабу Маню не ехаць. Ён не ведаў нават, як гэта здарылася. І не ведаў, як лячыць будзе. Аднак сказаў. Бо дужа ж шкадаваў бабу Маню і хацеў стрымаць яе ад паездкі, бо не было ў яго тут чалавека бліжэй і радней – па нейкіх невыказальных і неўразумелых адчуваннях – не было...

Баба Маня сумелася. Пра свае болькі яна нікому не расказвала, нават дачцэ. Адкрыцца думала толькі доктару ў раённай паліклініцы...

Славік так пераканаўча прасіў яе не ехаць, што яна паслухалася яго. А пад вечар стала вядома, што кіроўца мясцовага аўтобуса загаварыўся з падабраным па дарозе пасажырам і выехаў на павароце на сустрэчную паласу. А там “масквіч”... Удар лоб у лоб, кювет... У аўтобусе ніхто не

загінуў, але пабіліся і паламаліся людзі моцна. А вось кіроўца сустрэчнай – на месцы насмерць...

Баба Маня прыбегла да Славіка ў той жа вечар, як толькі даведалася пра здарэнне. Узняла перапалох на сем паверхаў інтэрната. Усе толькі і гаварылі пра тое, што Славік – прадказаў аварыю і не пусціў яе ў райцэнтр да доктара.

Баба Маня села ля ложка Славіка і рашуча сказала:

– Лячы мяне. Пакуль не вылечыш – не пайду ад цябе!

Славік сумеўся:

– Ды не ўмею я....

– А нашто казаў?

– не ведаю, само сказалася...

Баба Маня крыху адтала, паласкавела:

– Каласок мой, а адкуль знаў пра аварыю?

– Ды не ведаў я.

– А чаму прасіў мяне не ехаць?

– не ведаю... Проста падумалася, што вам не трэба ехаць – вось і сказаў. А што там здарыцца не ведаў.

– А чаму так угаворваў мяне? А тады сказаў, што сам вылечыш...

Славік адвярнуўся да сцяны, паказваючы тым, што не хоча размаўляць з бабай Маняй. Ён і сапраўды не ведаў, як убачыў, што ёй не трэба ехаць на тым аўтобусе... убачыў і ўбачыў... Проста прыйшло ў галаву аднекуль, калі падумаў пра яе, а адкуль – хто ведае?

– А як жа ты дазнаўся, дзе ў мяне баліць?

– Бачу.

– Як?

– не ведаю, бачу і ўсё. Бачу, дзе ў грудзях у вас баліць.

– Зайчык мой, ты хоць прытуліся датуль, дзе ў мяне баліць, – папрасіла баба Маня.

Відаць, яна паверыла ў Славікаву сілу адразу і беспаваротна. У палескіх вёсках вера ў знахараў ды ведзьмакоў жывучая.

Славіку сорамна было кранацца менавіта гэтага месца ў бабы Мані, тым болей, трэба было да голага... Але падумаў: не адстане яна, ды і – не так страшна гэта, што тут такога, дакрануся, хай супакоіцца. Наіўнасць ягоная і гэтым разам спрацавала. Да таго ж, хацелася яму зрабіць дабро бабе Мані, якая яго выхадзіла. І ён прыклаў руку да мяккіх грудзей жанчыны і ўяўна прыдушыў рачка, які быў там завёўся. Прыдушыў, выцягнуў і выкінуў у расчыненае вакно... Абтрос рукі, выцер іх аб коўдру і адчуў такую стому, бы на трэніроўцы трохгадзіннай пабыў. Ажно ногі падагнуліся і пот на ілбе ў кропелькі сабраўся...

Баба Маня охнула, нібы і сапраўды ён нешта вырваў з яе грудзей, а потым абмякла, як заснула. Пасядзела яшчэ трохі каля Славіка з апушчанай да грудзей галавой і, бы п’яная, пайшла, нават не падзякаваўшы.

А Славік і сам сур’ёзней задумаўся: што ж ён сапраўды можа? І першае, што зрабіў дзеля праверкі сябе – запісаў прагноз на магчымыя вынікі выбараў, да якіх заставалася менш за тыдзень. Пісаў не думаючы, а слухаючы ўнутраны голас, быццам нехта дыктаваў, і ён толькі паспяваў занатоўваць... Якая яму розніца, хто пераможа на выбарах – ды ніякой, абсалютна абыякава. Не дужа хвалявала яго гэта. Проста хацелася праверыць сябе такім чынам...

Проста праверыць? Не, відаць, усё ж “палітыка” не адпускала яго, а значыць, было ў ягоным жыцці раней нешта цёмнае, звязанае з ёю, пакуль не згаданае да канца, але важнае, каб зразумець, як і чаму ён апынуўся ў інтэрнаце. І таму спрагназаваць, а дакладней прадказаць, яму захацелася менавіта вынікі выбараў, а не што іншае... Ён пісаў і пасміхаўся сам сабе, настолькі нерэальнымі падаваліся яму лічбы.

Назаўтра баба Маня прывяла да Славіка сваіх зяця і меншую ўнучку. Зяць, п’яны, згубіў недзе правы кіроўцы і не мог знайсці. Славік падумаў і сказаў, дзе яны ляжаць. Унучцы было тры гады, але яна не гаварыла. Славік убачыў – дзяўчынёха спалоханая: яе малую падняла на рогі карова. Сказаў гэта бабе Мані. Тая пацвердзіла: было такое. Як зняць “спуг” Славік не ведаў. Проста прыгарнуў да сябе дзяўчынку з жаданнем аддаць ёй сваю дабрыню і дабрыню ўсяго навакольнага свету, якога не трэба баяцца...

Правы знайшліся адразу – там, у тым самым месцы, якое і назваў Славік. А ўнучка пад вечар паказала на малако і сказала бабе: “Дай!..”

Гэтага хапіла, каб праз некалькі дзён чутка пра знахара Славіка, які не толькі прадказвае будучыню і знаходзіць згубленыя рэчы, але і лечыць людзей ад самых страшных хваробаў, пайшла з вёскі па ўсім раёне і далей. Пра гэта шапталіся на лавачках пры хатах, у чэргах у крамах, а потым пра дзіўны выпадак прадказання аварыі, карыстаючыся “галоснасцю”, напісала раённая газета.

## 2.

Стук у вакно – заўсёды трывожны... Асабліва ноччу. Хто можа прыйсці, калі не вораг? А пад ноч нават сябар становіцца ворагам. Прывучаныя сталіншчынай ды партызаншчынай беларусы на генетычным узроўні баяцца груку ў вакно. Вось і Славік, пачуўшы ад шыбы “тук-тук, тук-тук-тук”, страпянуўся і напяўся. І трывожна забілася сэрца. Ён прахапіўся.

Быў позні вечар, добрыя летнія прыцемкі. Аказваецца, ён заснуў пасля вячэры на сваім ложку. Прылёг і незаўважна задрамаў. Вячэра была сытнай, бо святочнай – сёння з ранку ішлі выбары першага беларускага прэзідэнта. Скрыні для галасавання стаялі ў холе на першым паверсе пры ўваходзе. Інтэрнацкія прагаласавалі дружным натоўпам, як толькі стала магчыма: з чатырох гадзінаў раніцы яны не спалі, соваліся па паверхах – кожны лічыў за гонар укінуць бюлетэнь у скрынку першым. Двое самых дужых дэбілаў нават пабіліся ля скрыні за гэта. Пакуль яны валтузіліся, астатнія баязліва стаялі і назіралі. Валодзька не вытрываў, рашуча падкаціў у сваім вазку да скрыні, кінуў бюлетэнь, і стаў на ўвесь ранак героем размоваў у інтэрнаце, бо, як казалі, “зламаў цэлку”... За ім пайшлі да скрыні іншыя і хвілінаў праз пятнаццаць пасля пачатку пад мітусню, цісканіну і страшэнны гвалт справа была зробленая.

Вяскоўцы ж цягнуліся ўсю раніцу аж да абеду. Славік трохі паназіраў за імі, паслухаў – размовы былі толькі пра адно: “Ты за каго?”, “За Лукашэнку...”, “І я за яго...” – і шчырая радасць аднадумцаў таньчыла на тварах, падвяселеных чаркаю ў буфеце, адчыненым з нагоды свята...

Свае надзеі на будучыню і вяскоўцы, і жыхары інтэрната звязвалі толькі з адным кандыдатам. Зрэшты, якія надзеі, на што? Калі б іх цяпер спытаць, ніхто не змог бы пэўна адказаць, апроч таго, што абрыдла ўсё і хочацца чагосьці іншага. Лепшага жыцця? Відаць, так, але што значыць лепшага? Ні

вяскоўцы, ні тым больш хворыя патлумачыць гэта не змаглі б, бо разумелі нават апошнія з апошніх: тое, чаго ім хочацца, наўрад ці рэальнае ў гэтай краіне і ў гэты час, бо цудаў не бывае... Але людзі пакуль жывуць – спадзяюцца, і заўсёды знаходзіцца той, хто гэтай надзеяй скарыстаецца...

...А ў вакно стукаў, дакладней па вакне, прыбіваючы шыбку, якая даўно ўжо абяцала выпасці, бо трымалася на чэсным слове і адным цвічку, інтэрнацкі столяр. Нешта ж яго прывяло да Славіка, інакш мог ён гэтую работу зрабіць і заўтра. А вось прыйшоў у нядзелю, у выходны дзень і так позна. Цвярозы, па ўсім, хоць і свята. Ён убачыў праз шыбу, што Славік прачнуўся, падхапіўся на ложку, і заўсміхаўся яму: расцягнуў шырока, да вушэй, свае вусны, не паказваючы зубы, бо трымаў у роце цвічкі.

Гэта быў Сцяпан – шахматны сябар Славіка. Мужчына гадоў за пяцьдзясят, не па-вясковаму тоўсты і пузаты. Ён любіў выпіць, пажартаваць і пасмяяцца – “кхе-кхе-кхе-кхе...”. Кожны раз смех ягоны пераходзіў у кашаль, ён казаў – сардэчны: “бо сэрца ў мяне добрае”. Сэрца ў Сцяпана сапраўды было добрае, але хворае, адсюль і адвіслае пуза, адсюль і задышка...

“Кампаніі” ў яго ў вёсцы не было. Праца не бі ляжачага, амаль увесь час вольны, а вясковыя мужчыны, трактарысты ды шафёры ад відна і да цямна былі хто ў полі, хто на лузе, хто на ферме, а таму ён знаходзіў сабе сяброў сярод больш-менш нармальных насельнікаў інтэрната. Славіка ж увогуле палюбіў. Сцяпан чытаў газеты і сёе-тое петрыў – не, не ў палітыцы: у жыцці. У адрозненне ад сваіх аднавяскоўцаў ён ад пачатку цвёрда і пераканана быў супраць Лукашэнкі.

– Ну што? Прагаласаваў? – спытаў Славік.

– Угу, – неяк надта самотна адказаў Сцяпан, не вынімаючы з роту цвічкоў.

– За каго?

Сцяпан выплюнуў на руку цвічкі:

– Цьфу! За каго, за каго!.. За яго...

– За Лукашэнку? – здзівіўся Славік.

Сцяпан кіўнуў.

– Як? Чаму? Ты ж збіраўся за Пазняка...

– А й сам не знаю, зайшоў у кабіну і як памарак які-та насунуўся: шах, і за яго прагаласаваў. Вуйшаў, думаю, што я зрабіў? Нашто? Чаму? А паправіць ужэ німа як... І не адзін я такі – будта ачмурэнне якое на ўсіх находзіла ў тых кабінках...

Сцяпан памаўчаў вінавата і збянтэжана, пацiснуў плячыма і спытаў Славіка:

– Згуляем?

Ён даўно знаравіўся гуляць у шахматы са Славікам. Прынёс дошку, паказаў, як ходзяць фігуры. Славік збольшага і сам памятаў, бо некалі гуляў даволі някепска, толькі чамусьці ніяк не мог успомніць, як ходзіць конь. І калі Сцяпан сказаў: “буквай “Г”, ён вельмі здзівіўся: ніколі б не здагадаўся... Усе ходзяць проста, а гэты... загагулінай нейкай.

Конь, між іншым, быў любімай фігурай Сцяпана. Гуляў ён двума сваімі канямі надзіва ўдала, нават бліскуча, і таму Славік звычайна ў пачатку партыі стараўся выбіць у дзядзькі коней. Калі ўдавалася, то лічы ўжо выйграў. А ўвогуле гульня Сцяпанава была песняй. У войску ён служыў матросам на караблі Паўночнага флоту і там, падчас доўгіх паходаў, а ён казаў, што быў і ў “кругасветцы”, насабачыўся гуляць у шахматы. Хва-

ліўся нават, што аднаго разу выйграў у самога “чымпіёна міру Анатолія Карпава”, які ў Мурманску наведаў іх карабель і згуляў адначасова з трыццаццю маракамі. І хоць час службы ягонай якраз супадаў ці не з маленствам Карпава, Славік таго не аспрэчваў, бо надта падабаўся яму той смачны дзядзькаў аповед.

Усе фігуры Сцяпан называў на стары лад: слана – ахвіцэрам, ладдзю – турой, ферзя – каралевай... І меў дзясятак трапных выслоўяў, якія паўтараў перад ходам. Асабліва любіў ён ужываць розныя нямецкія слоўцы, кшталту “донэрвэттар”, “шайзэ” ды “о, майн гот...”, якіх нахапаўся ў сваім дзяцінстве, калі разам з бацькамі быў вывезены на працу ў Нямеччыну. Цяпер ажылі яны ў ім пасля таго, як старэйшая ўнучка па чарнобыльскай праграме пабыла ў Баварыі і нават не хацела адтуль вяртацца ў сваю вёску, так ёй спадабалася. Сцяпан унучку здрадніцай не лічыў, бо і ў яго пра тыя ваенныя гады засталіся не самыя горшыя згадкі: з “баўэрам” ім пашанцавала – добры немец быў, спагадлівы, прынамсі, пасля калгаснай нішчымніцы і галадухі, там ён упершыню пакаштаваў масла, цукеркі і “ад пуза наеўся хруктаў”...

Сцяпан вельмі не любіў прайграваць. Спачатку Славіку цікава было назіраць за ім, выйграваць і прайграваць па ўласнай ахвоце, а потым гарачлівасць і ўзбуджанасць Сцяпана яму крыху абрыдлі і ён пачаў адмаўляцца ад гульні, маўляў, не магу – галава баліць. Вось і цяпер ён паднёс руку да скроні. І Сцяпан зразумеў, расчаравана-спачувальна хітнуў у адказ.

Славік згадаў, як Сцяпан паспрачаўся пра вынікі выбараў з адным з санітараў і яны прыйшлі да яго, каб “рассудзіў”. Сцяпану падабаўся Пазняк, асабліва ягоныя выступы на паседжаннях Вярхоўнага Савета: разумна гаворыць, прыгожа і па-нашаму...

– Не, Пазняк не мае шанцаў, – сказаў Славік.

– Ну вядома, – адразу падхапіў супернік Сцяпана, – ён жа паліцай – немцам служыў, а такіх у нас не любяць... А шчэ кажуць – ета ён убіў бацьку Лукашэнкі...

– Дзе ты такое чуў? – раззлаваўся Сцяпан.

– У газетах пісалі, што Пазняк паліцай.

– Як ён мог быць паліцаем, дурная твая галава, калі радзіўся пасьлі вайны... ну, ці пасьлі вызвалення Беларусі. Ты знаеш, колькі яму гадоў? І як ён мог убіць бацьку Лукашэнкі на вайне – з калыскі смальнуць? Ды ты пачытай біяграфію – на кожным слупе вісіць – Лукашэнка радзіўся ў пядзісят чацёртым годзе... Ад каго ён тады радзіўся? Ад убітага на вайне бацькі?

Санітар сумеўся:

– Ну, сам Лукашэнка казаў, што яго бацька на вайне пагіб. Я па цілівізару бачыў.

– І ты верыш? Прыкінь сваімі курынымі мазкамі, як такое магло буць? Як жа яго бацька на вайне ўбіты, калі ад вайны прайшло пядзісят гадоў, а яму ж сарака няма, ён за цябе маладзей, а ты ж пасьліваенны.

– І праўда, ён жа малады саўсім... хоць і лысы... – сказаў санітар, – ай-яй, во накруцілі-і... І каму трэба такое вудумляць, нашто так брахаць нам у вочы...

– Каму-каму, – задаволена хмыкнуў Сцяпан, – такім як ты, што верац не думаючы...

Але дарэмна Сцяпан павесялеў, бо Славік паўтарыў яшчэ раз для яго:

– Пазняк не выйграе выбары, пераможа Лукашэнка... У другім туры.

І вось Сцяпан прагаласаваў... Відаць, нейкае падсвядомае пачуццё віны і прывяло яго так позна да Славіка. Віны перад самім сабой, ад якой было моташна на душы – так, што нават выпіць не хацелася, а карцела з кім-небудзь пагаварыць. Таму і прыцёгся да Славіка, нібыта шыбку падрамантаваць.

Яны ўсё ж згулялі адну партыю: не змог Славік вось так адпусціць яго. Але Сцяпан увесь час маўчаў і, хутка прайграўшы, моўчкі сышоў, прабачліва і вінавата кіўнуўшы Славіку...

Вынікі першага тура выбараў Славік угадаў з дакладнасцю аж да працэнта. Ведаў ён, чым скончыцца і другі тур, паспрабаваў пабачыць і далей. Але – зазірнуў і сам сабе не паверыў, вельмі ўжо змрочнай падалася яму будучыня... Адсюль, ад сёння, яму і думаць не хацелася, што ўвогуле магчыма тое, што ён бачыў, а таму ён адмахнуўся ад тых відзежаў, скінуў усё на свае нездаровыя фантазіі ды прыдумкі...

## 3.

Знайсці ў Мінску аднадумцаў і наладзіць з імі кантакт Славіку было не цяжка. Ён шмат каго ведаў па іх удзелу ў сходках гомельскай “Талакі”. Да таго ж тут адным з лідараў быў Сяржук, які пераехаў на працу ў Мінск, уладкаваўся мастаком у нейкі часопіс. Культурнае і літарацкае жыццё на гэты час гуртавалася ўжо вакол Таварыства маладых літаратараў пад назовам “Тутэйшыя”, у якім рэй вялі якраз гомельскія хлопцы. Ён пабыў пару разоў на іхніх пасяджэннях і канчаткова пераканаўся, што гэта не яго. Ён разумеў, што хлопцы займаюцца цікавай ім самім і патрэбнай, пэўна ж, іншым справай. Але ён не збіраўся ісці ў літаратары, маляваць ці песні спяваць. А таму распачаў працу над кандыдацкай па дужа актуальнай і цікавай яму самому тэме: спалучэння спорту і працоўных навыкаў, выкладаючы пры гэтым у адной ПТВ фізкультуру. Там ён выбраў сабе групу хлопцаў, за якімі сачыў для доследаў па дысертацыі. Прыдумваў для іх спецыяльныя фізічныя практыкаванні па развіцці менавіта тых цягліцаў, якія запатрабуюцца ў іхняй прафесіі муляра, рабіў тэставанні і... паступова далучаў да беларушчыны, бо заняткі вёў на мове. Ён зыходзіў з таго, што рана ці позна тым літаратарам-барацьбітам спатрэбяцца не толькі галовы, але і моцныя рукі.

Ён працягваў хадзіць на пасяджэнні, бо нідзе больш сваіх аднадумцаў не ведаў, хоць і пачаў раздражняць яго іхні плач па занядбанай мове, па растаптанай культуры і размовы пра неабходнасць адраджэння... Асабліва абурала і злавала Славіка гэтае слоўца “адраджэнне”. Ды не адраджэнне, спрабаваў спрачацца ён, але яго не слухалі, не адраджэнне, а вяртанне. Бо адраджаецца наноў нешта не проста забытае, а загінулае, мёртвае, нам жа трэба вяртанне да сваіх каранёў. Вяртанне! Вяртанне нас, а не нам: вяртанне нас саміх да мовы, да гісторыі. Нам трэба пазітыў, а не плач, нам ёсць да чаго вяртацца, на што абаперціся...

Між тым падзеі развіваліся імкліва. У тую ж восень быў створаны спачатку “Мартыралог Беларусі”, а потым і “Беларускі Народны Фронт”. І зноў ён спрачаўся з хлопцамі: які “фронт”, навошта “фронт” у мірны час... У знявечанай войнамі Беларусі павінна быць табу на гэтае слова. Чаму не “рух”? Беларускі народны рух – вось тое, што трэба, іначай можна толькі адштурхнуць ад сябе людзей. Ды ніхто яго не слухаў... Затым былі

“Дзяды”. Калі ў першых дзвюх падзеях ён не прымаў ніякога ўдзелу, дык на “Дзядах” атрымаў не толькі “дэмакратызатарам” (так называлі дручкі, якімі на амерыканскі манер узброілі тады савецкіх міліцыянтаў) па спіне, але і нюхнуў слезацечнага газу –”чаромухі”.

Ён прайшоў увесь шлях амаль да Курапатаў, а мітынгоўцы кіраваліся менавіта туды, бо там бальшавікі-сталіністы напрыканцы трыццатых гадоў расстралялі больш за сто тысячаў нявінна рэпрэсаваных. З надзеяй глядзеў на Пазняка: вось ён лідар. Сядзеў у аснежаным халодным полі наўколенцах разам з усімі ў атачэнні міліцыянтаў. Быў рады і ўзрушаны. І яму нікольկі не было страшна. Ён маральна падрыхтаваўся ўжо прайсці за Беларусь нават праз турмы, калі спатрэбіцца. Зрэшты, да гэтага ён быў гатовы і раней, але тут ці не ўпершыню адчуў, што ён не адзін... Адчуў, што ёсць разам з кім і ёсць за што пазмагацца. І, магчыма, вельмі хутка...

Было зразумела, што гэтым усё не скончыцца. Імперыя канала на вачах. Людзі ўдыхнулі вольнага паветра і ап’янелі ад яго. А ап’яненне свабодай, а дакладней, у гэтым, савецкім, выпадку – беспакаранасцю, бо раней за падобныя мітынгі можна было атрымаць лагер, кулямётную чаргу альбо вар’ятню, заўсёды робіць людзей больш смелымі і актыўнымі. Першымі выйшлі на вуліцы з пратэстам маладыя казахі ў Алма-Аце. Іх жорстка разагналі. Потым крывава выбухнулі Сумгаіт і Баку... Затым міліцыянты і салдаты папрацавалі сапёрнымі рыдлёўкамі ў Тбілісі...

Пасля выбараў народных дэпутатаў у Вярхоўны Савет неспакойна было і ў Беларусі. Але папераздзе ўсіх была Прыбалтыка. У студзені 1991-га паўстала Летува – запатрабавала самастойнасці і аддзялення ад СССР... Славік выправіўся ў Вільню: балазе, гэта ад Мінску ўсяго 170 кіламетраў. Стаяў каля тэлевежы з бел-чырвона-белым сцягам. Можна лічыць, што сапраўднае выпрабаванне страхам ён прайшоў менавіта тут. Асабліва, калі на абаронцаў з гучным металічным лязгатам выпаўзлі прыплюснутыя аграмадзіны танкаў і пачуліся стрэлы – для Славіка то быў амаль другі Афган... Пасля гэтага, казаў ён сваім сябрам, яго асабіста нішто не спыніць і трэба браць прыклад з летувісаў, іначай незалежнасці не бачыць нікому: ні ім, ні нам. Выйсці з савецкай турмы народаў можна толькі разам і, магчыма, праз хрышчэнне кроўю...

Але і ў Мінску гэбісты зноў пра Славіка згадалі...

Ён выкладаў ужо ў інстытуце фізкультуры, куды яго ўзяў на працу загадчык кафедры, які даведаўся пра наробкі Славіка да кандыдацкай – прачытаў у спартыўнай газеце – і згадаў пра сваё абяцанне былому найлепшаму студэнту. Аднак не паспеў Славік адпрацаваць і паўгода, як інстытуцкі “назіральнік” паклікаў яго да сябе. Славік ведаў да каго ідзе, але не думаў, што той будзе не адзін. Калі зайшоў, інстытуцкі гэбіст сказаў:

– Тут з табой хочуць пагутарыць, – і сам з кабінета выскачыў.

Невядомы ў цывільным назваўся Іванам Сяргеевічам. Зрэшты, ён мог назвацца і Дзмітрыем Паўлавічам, і Сямёнам Ігнатавічам, якая розніца, наўрад ці, разумеў Славік, гэта ягонае сапраўднае імя.

Іван Сяргеевіч ведаў усё, у тым ліку і пра гутарку ў Гомелі.

– Ну вось, – сказаў ён, – не паслухаліся вы нас тады і мінімум паўтары гады згубілі... Але мы не сталі перашкаджаць вашаму пераезду і ўладкаванні ў інстытут. Хацелі, каб вы зразумелі, што яшчэ можаце страціць. Цяпер у вас добрая праца, а можа быць яшчэ лепшая. І кандыдацкая на падыходзе. Не ламайце ў чарговы раз свой лёс. Мы ведаем, што вы тут вярнуліся да сваіх ранейшых спраў, да старых знаёмых. Наведваеце іх паседжанні.

Думаю, вам не цяжка будзе раз у месяц сустракацца з нашым чалавекам і расказваць яму, чым яны займаюцца, даваць некаторым характарыстыкі... – і, убачыўшы, што Славік сядзіць апусціўшы ў скрусе галаву, маўляў, зноў пачынаецца, дадаў, – вы не спяшайцеся з адказам, падумайце, а праз колькі дзён мы з вамі зноў сустрэнемся. У гэтым пакоі. І – спадзяюся: гэтым разам адказ будзе станоўчым, а не такім, як мінулы – вучыцеся хоць бы на сваіх памылках...

На тым развіталіся.

Што было рабіць? Цяпер ужо, відаць, не выкруцішся, разумеў Славік. Памазгаваўшы трохі, ён вырашыў параіцца з Сержуком. Той ніколькі не здзівіўся, але задумаўся сур'ёзна.

– Не ты першы пра гэта расказваеш, – вымавіў нарэшце, – дзякуй, што даверыўся... Грунтоўна за нас бяруцца. Прадбачу, яны ад цябе не адчэпяцца... Я параіў бы пагадзіцца. Але інфармацыю для іх фільтраваць. Не ты адзін там будзеш. Некалькі хлопцаў ужо прызналіся ў вярбоўцы. І мы параілі ім даць згоду. Хадзіць на сустрэчы, дакладаць нешта... Падумай сам, можа, і табе варта зрабіць тое ж? І калі вы будзеце даваць ім адпаведныя звесткі, то мы зможам і перайграць іх... Падумай... Бо ўрэшце рэшт вырашаць, што і як рабіць, толькі самому. Ніхто тут табе не дарадца.

Між тым, за гэты час Славік у Мінску паабабіўся і ўбачыў, што ўсе гэтыя пісьменнікі-мастакі-гісторыкі з апазіцыі ніколькі не ўяўляюць, у якую бойку яны ўлазяць. Бо тут аднымі выступамі-заклікамі, артыкуламі ды лозунгамі не абыйдзешся. Прайшоўшы Афган і маючы за плячыма хай і кароткую спартыўную кар'еру, Славік усведамляў, што час ужо думаць і пра атрады самаабароны. І пачаў пацiху-патроху ствараць сваю структуру з надзейных хлопцаў – пэтэвэшнікаў і студэнтаў, якіх дзяліў на "пяцёркі", каб кіраўнікі "пяцёрак" ведалі ў твар толькі яго і астатніх чатырох. Стаўку рабіў на глыбокую канспірацыю, на падполле, рыхтуючыся да доўгай барацьбы. Час быў няпэўны, непрадказальны. Адліга-перабудова магла скончыцца чарговым пахаладаннем, і тады спраўдзіліся б словы бацькі: "партыя выявіць сваіх ворагаў – і пад нож...". Таму пра "пяцёркі" пакуль не здагадваўся нават Сяржук. "Няўжо ў шэрым доме пра іх пранюхалі?" – думаў Славік. І сам сябе супакойваў: "Не, калі б даведаліся, тады не сталі б мяне выклікаць... Зрабілі б стукачом каго іншага", – і сам сабе пярэчыў: "А можа, якраз наадварот – вырашылі пачаць з галавы..."

– Лёгка табе казаць, – спакойна, у тон Сержуку, сказаў ён, – а сам ты што рабіў бы на маім месцы? Не спяшайся, не спяшайся, – спыніў ён Сержука, калі той памкнуўся адказаць яму, – ты не ведаеш – мяне яшчэ ў Гомелі хацелі "сексотам" зрабіць. Я адмовіўся. Таму і апынуўся ў Афгане. Мне так і сказалі: не будзеш супрацоўнічаць – пойдзеш у Афган. Я і пайшоў... Я катэгарычна супраць прыстасаванства ў любым выглядзе. І мне штырліцы ніколі не падабаліся: служыць адным і іх жа здаваць другім... Гэта не па мне. Я ўвогуле супраць любога супрацоўніцтва з ворагамі, нават супраць калабарацыі. Хоць на вайне ўсё зразумела – разведка, шпіёнства, інтарэсы сваёй дзяржавы... А тут... Навошта гэта? Зрэшты, якая калабарацыя? Якое шпіёнства? "Стукацтва" – найгоршае з таго, што наогул можа быць... Тут трэба мець асаблівы характар, а я не ведаю, ці змагу весці двайную гульню... Відаць, не сумею... Я чакаў, што ты мяне падтрымаеш, скажаш не звязвайся з лайном, вымажашся ўсё роўна. А ты... На што ты мяне штурхаеш?

– Ды не штурхаю я... – Сяржук ці не пакрыўдзіўся. – Кажу ж: табе самому вырашаць. Аднаму табе. Але не забывай і пра агульную справу. Не завярбуюць цябе – завярбуюць іншага. І мы яго ведаць не будзем. Але калі ты будзеш даваць дазаваную інфармацыю, дык той будзе зліваць усё, напоўніцу... А мы яго за свайго лічыць будзем. Дык што лепей для нас, для справы? Ты сказаў пра Афган, пра вайну... Няўжо ты не разумееш, што мы і сапраўды даўно тут, як на вайне. І нам, якія толькі вучацца змагацца, супрацьстаяць прафесіяналы. Зразумей, пра-фе-сі-я-на-лы. Будзь "двайным агентам". Але нашым, а не іхнім. Трэба толькі верыць: тое, што ты робіш – дабро... Адно скажу табе: не падпісвай ніякіх папер, пагаджайся толькі на сустрэчы...

Словы гэтыя спадабаліся Славіку. Значыць, хлопцы ўсё ж нешта разумеюць, падумаў ён, да чагосьці рыхтуюцца, небяспеку і рызыку пралічваюць... Але ісці ў "сексоты" ён не хацеў.

– Ты ж ведаеш, што не мяне аднаго вярбуюць? Так, я прызнаўся, але знойдуцца тыя, што прамаўчаць. Падпішуцца і будуць рабіць сваю чорную справу. І я нават не буду ведаць, хто за мной сочыць. Я нават не ведаю, хто ты? Чаму я павінен табе верыць?

– Ну вось, пачынаецца... Яны толькі таго і хочуць, каб паміж намі разлад пайшоў. Каб мы перасварыліся, падазраючы адзін аднаго ў тым, чаго няма. Верыць ці не верыць – справа асабістая. Я ж вось табе веру... Не спяшайся. Падумай. На гэта трэба ісці альбо не ісці абсалютна свядома. З халоднай галавою, – Сяржук міжволі ўсміхнуўся, відаць, згадаўшы каму належаць гэтыя словы. – Ты ўжо адзін раз пацярпеў не згадзіўшыся. Чым цяпер цябе могуць запалохаць? Другі раз на вайну не пашлюць: няма вайны... Хіба што пачнуць пужаць звальненнем з працы ды іншымі жыццёвымі праблемамі і абяцаць спрыянне, кватэру ды ўсё такое... Але тут кожны сам выбірае... Кар'ера змагара з акупантамі за свабоду свайго краю не самая горшая ў свеце... Ты сам казаў, што гатовы пацярпець за гэта. Ну вось і прыйшоў час выбару...

Сержука ён выслухаў уважліва, але ж канчатковае рашэнне і сапраўды прымаць яму. Ён ведаў, што такое даць згоду на супрацоўніцтва. І яму да апошняга не хацелася гэтага рабіць.

Але выбар быў невялікі...

## 4.

Дні цягнуліся марудна і чытанне не дапамагала... Але гэта азначала, што Славік стаў адчуваць час, яго ходу – няспешную і запавольную тут, што было добрым знакам: да яго пачало вяртацца пачуццё жыцця. Блукаючы па інтэрнацкім дворыку, які толькі напачатку падаўся яму невялікім, ён знайшоў у ім яшчэ некалькі файных мясцінак. У адным з кустоў акацыі ён убачыў прыхаванае між галінак гняздзечка невядомай птушкі, у якім ужо вывеліся маленькія. Ён затойваўся і падоўгу назіраў, як яны таўкуцца ў цеснаце і разяўляюць да неба чырвоныя з жоўтым роцікі ў чаканні бацькоў. У куце двара, пад высокім інтэрнацкім плотам, ён знайшоў чмялінае кубельца – проста дзірку ў зямлі, з якой з тоўстым гудам выляталі і ў якую вярталіся нечым заклапочаныя прыгожыя пухнатыя стварэнні. Ён мог падоўгу назіраць за імі не стамляючыся. Нешта гэта яму нагадвала. І аднойчы раптам ён згадаў – ясна і ярка, што некалі даўно, у дзяцінстве, яны з хлопцамі гэтаксама назіралі за чмялямі, а потым вырашылі паспрабаваць

здабыць чмялінага мёду. Падказаў ім, як зрабіць тое, дзед. Каб выкурыць чмялёў з іхняе схованкі, яны над выхадам у зямлі распалілі цяпельца. Адныя чмялі кружлялі над сваім домам і не маглі патрапіць у яго, а іншыя, што былі ў ім, гінулі ад агню і дыму. Потым хлопцы раскапалі гарачую зямлю над чмяліным гняздзечкам і дасталі соты, падобныя да маленькіх бочачак, і елі, высмоктвалі з іх духмяны мёд, жавалі і выплёўвалі вязкі воск... Славік так ясна згадаў той выпадак, што нават адчуў у роце смак таго мёду. Ён гэтак захапіўся ўспамінам, што і не адзначыў для сябе важны момант: ён упершыню успомніў штосьці не ў паўсне, а на яве...

...Але больш за ўсё ўпадабаў ён сядзець на адной лаўцы, з усіх бакоў затуленай маладымі дрэўцамі акацыі, дзе можна было падумаць на адзіноце. Ён сядаў на яе, дастававаў прыхаваны дубчык, і маляваў-чыркаў ім перад сабой на пяску розныя фігуркі ды літары. Гэта не перашкаджала яму, а наадварот дапамагала складваць асобныя кавалачкі мазаікі ўспамінаў у цэльныя малюнкі. За ўсё лета на Палессі прайшло толькі некалькі кароткіх дажджоў. І тыя прашумелі ноччу. А таму пясок быў сыпкі, лёгка прымаў на сябе ягоныя крамзолі і гэтак жа лёгка, нагой, яны сціраліся-раўняліся, і зноў можна было нешта крэсліць... Занятак бясконцы, заварожвальны сваёй паўтаральнасцю. Славік згадаў, што ў адным часопісе ён чытаў артыкул-дыскусію: ці ўмеў Ісус Хрыстос пісаць, ці быў ён пісьменным? Звестак пра гэта няма. Ёсць толькі ў Новым Запавеце, у Евангеллі ад Яна, згадка, што калі кніжнікі ды фарысеі прывялі да Хрыста жанчыну, спойманую на чужаложстве, каб асудзіў яе, ён сядзеў і нешта пісаў "пярстом" на пяску. Ісус сказаў ім словы, якія ведаюць многія: "Хто з вас без граху – хай першы кіне ў яе камень...", – і зноў, нізка нахіліўшыся, пісаў на зямлі. Што: літары ці нейкія знакі – ніхто не бачыў...

Славік мог гадзінамі сядзець на гэтай лаўцы – малюючы і засяроджваючыся на сваім так, што не чуў нічога вакол. Праўда, і тут пабыць на самоце ўдавалася яму не заўсёды. Бо адпачываў у двары ён не адзін. Выпускалі на прагулкі і іншых. Былі сярод іх і маладыя дзяўчаты, якія здалёк, і асабліва ззаду, выглядалі даволі прывабнымі і нават нечым нагадвалі Таню. Але Славіка яны не цікавілі: ён слізгаў па іх вачыма гэтаксама, як па навакольных дрэвах, кустах, аблоках... Не, дрэвамі і аблокамі ён любаваўся, ён мог падоўгу глядзець на іх: яны не перашкаджалі думаць. А дзяўчаты гэтыя выклікалі ў яго толькі раздражненне, а часам і агіду, асабліва сваёй навязлівасцю і доўгімі, як яны, відаць, лічылі, шматабяцальнымі, позіркамі. Стаялі непадалёк, навідавоку, і ўсяляк імкнуліся прыцягнуць ягоную ўвагу да сябе. Гэта чамусьці нагадвала Славіку адносіны ў статку малпаў і ён, адарваўшыся ад сваіх думак і заўважыўшы на сцяжыне за кустом дзяўчыну, якая, злавіўшы ягоны позірк, адразу ж падміргвала яму, уставаў і сыходзіў у іншую мясціну ці вяртаўся ў свой пакой.

Затое тыя дзяўчаты цікавілі мясцовых маладзёнаў-падлеткаў. Першы раз ён сутыкнуўся з гэтым літаральна на другі дзень жыцця на першым паверсе, шукаючы ў двары месцейка па сабе – у меру ціхае, і, калі гэта можна тут, у перыметры агароджы, бязлюднае. Ён забрыў у густа зарослы акацыяй самы далёкі кут двара, засмечаны бруднымі абрыўкамі паперы, іржавымі бляшанкамі, бітым шклом... Меркаваў, што там ужо нікога не будзе, але пачуў у зарасцях шолахі і чыесьці стогны. Ён падумаў, што камусьці трэба дапамога і рынуўся туды. Зайшоў за куст і агаломшаны спыніўся. Трое неінтэрнацкіх – вясковых – хлопцаў стаялі са спушчанымі штанамі і шморгалі рукамі туды-сюды... а чацвёрты ляжаў на адной з маладых дэбілак і торгаў голым

задам. Яна і вохкала, скосу паглядваючы на Славіка. У руцэ яе ён заўважыў кавалак булкі, шчака таксама была адтапыраная. “Батон есць, галодная, пакуль яе...”, – зразумеў Славік і перавёў вочы на хлопцаў... Яны пазіралі на яго з відочнай нянавісцю і пагардай. Самы здаровы паспешліва падцягнуў штаны, нярвова хаваючы тое, што ніяк не хавалася, і падышоў да Славіка.

– Што табе тут трэба? Жыць надаела? Дак мы здзелаем шчас табе харакіры... – правёў вялікім пальцам па горле, дзеля нагляднасці.

Славік усміхнуўся, згадаўшы, што такое “харакіры”.

– Што лыбісся? Драпай адсюль і нікому не гавары, што бачыў. А то знойдзем і зарэжам.

Славік не спалохаўся тых пагрозаў. Пры ўсім пры тым, гэтыя хлопцы – маладыя і ружовашчокія, дагледжаныя і вольна апранутыя падаліся яму людзьмі з іншага свету, і ён менш бы здзівіўся, каб убачыў у гэтым засмечаным інтэрнацкім кутку спарванне зэдліка са сталом, а не чалавекаў... Славік стаяў амаль не рэагуючы на выкрыкі і паглядаў на хлопца. Той сам сумеўся.

– А мо і ты хочаш? Колька, злазь, дай енваліду папробаваць.

Славік адвярнуўся і пайшоў прэч, пачуў толькі ўслед мат і словы:

– ...Дак нікому не гавары, а то – зарэжам...

Ён і не збіраўся нікому казаць. Ён здагадваўся, што пра гэта і без яго ўсе ведаюць. У вёсцы нічога не схаваеш. Тым болей, ён быў упэўнены, што нехта з тых герояў камусьці пахваліўся ўжо, а той пераказаў іншаму, і Станіслаў Сцяпанавіч пра гэтыя справы ведае, але не перашкаджае ім. Чаму? Хай пацешацца... І адны, і другія. Абы па згодзе, без прымусу, без гвалту. За хлеб надзённы... З усіх жыццёвых задавальненняў Бог пакінуў інтэрнацкім насельнікам толькі гэтае. Відаць, і сапраўды – сэкс апошні прытулак чалавека... Пакуль у ім застаецца хоць штосьці чалавечае... Няма ў жыцці шчасця, дык няхай хоць такое ім будзе: “Хто з вас без граху – хай першы кіне ў... мяне камень...”?

## 5.

Чым болей Славік згадваў, тым мацней у ім абуджалася пачуццё перасцярогі, пачуццё небяспекі. Гэта ён лічыў сваёй самай важнай адваёвай у жыцця і пачаткам выздараўлення. Сашка ды іншыя хворыя гэткага адчування не мелі. Іх шчырасць і адкрытасць здаваліся бязмежнымі, як лясы вакол вёскі. У Славіка ж недзе ўнутры ад першых дзён, як ён вярнуўся з цемрыва, жыло разуменне таго, што не ўсё, што ведаеш, што ўспомнілася, трэба расказваць. І чым болей ён згадваў, чым здаравейшым рабіўся, тым мацней і яскравей было яно. Асабліва пасля размоваў са Станіславам Сцяпанавічам, які, убачыўшы ягоныя поспехі і паслухаўшы размовы, пачаў настойліва распытваць, што ён памятае. Славік тады схітраваў і цяпер парадаваўся за сябе, што быў здольны на гэта. Можа, то была генная нелюбоў да начальства, а можа, прачнулася інтуіцыя... Ён нейк адчуў, што ўрач гэты мае свой інтарэс і хутчэй за ўсё не той сябар, якому можна давяраць. І што ўвогуле ў яго сяброў няма. Нідзе, тым болей – тут... Пакуль не згадае дакладна, хто ён і што з ім здарылася – лепш маўчаць. Можа, ён учыніў нейкае злачынства, а можа, яго нехта за нейкую таямніцу забіць хацеў... У любым выпадку нельга пакуль паказваць выгляд, што нешта прыгадалася.

Але і адмоўчвацца немагчыма, бо здагадаюцца, што ён штосьці ўспомніў і хітруе – трымае ў сабе, утойвае. Трэба заставацца для ўсіх нібыта гранічна

шчырым, наіўным, як малое дзіцё, як Сашка. Добра, што ў Славіка была магчымасць паназіраць за ім і ён цяпер ведаў, як трэба сябе паводзіць і які выраз твару мець, каб паверылі ў шчырасць... А таму Славік распавёў Станіславу Сцяпанавічу, што яму пачалі сніцца-мроіцца выпадкі з чыйгосьці жыцця, мажліва, і ягонага былога. І пераказаў свой успамін-сон пра Афган. Бой за вышыню, крыкі ды стогны сяброў, якія і сапраўды, нават цяпер, калі расказваў, стаялі ў ягоных вушах: ён абхапіў рукамі галаву, каб не чуць іх, і заплюшчыў вочы... Доктар задаволена пасміхаўся, гледзячы, як ён перажывае, ківаў галавой і казаў:

– Вось-вось... Так і павінна быць... Усё нармальна... На пачатку і будзе згадвацца самае яркае з перажытага. Не хвалюйся. Значыць, ты выздараўліваеш... – хоць сам і не паверыў, што Славік быў у Афгане. Падумаў: наслухаўся ў інтэрнаце размоваў інвалідаў, сярод якіх было папулярна выдаваць сябе за герояў, за “афганцаў”, таму і трызніць. Можа, і сніць нешта, але пад уражаннем чужога, пачутага тут, бо свайго – няма...

Але, тым не менш, пачаў заходзіць да Славіка з роспытамі часцей. Славіку ж, які не мог яму адмовіць у гутарцы, стала ўсё цяжэй і цяжэй утойваць згаданае і аднекваца на пытанні. Адно хіба супакойвала яго: у гэтым інтэрнаце быў ён не адзін такі, хто не памятаў свайго мінулага. Наколькі ён зразумеў, былі яшчэ дзве жанчыны і сем ці восем мужчынаў, большасць з якіх жылі тут ужо не адзін год, але так нічога пра сябе і не ўспомнілі: ні месца, адкуль яны, ні імя, ні родных. Трымаліся яны адасоблена, паводзілі сябе ціха, нібыта хацелі быць незаўважнымі: як цені соваліся па паверхах, па двары, усе ў саміх сабе, часам нешта мармычучы пад нос, і нагадвалі нейкіх манахаў і манашак, што ходзяць, шэпшучы малітвы... Розум у большасці з іх аднавіўся да ўзроўню двух-трох ці пяці-шасці гадовых дзяцей. Яны хадзілі нават як дзеці, і былі яны крыўдлівыя ды плаксівыя. Славік неўпрыкмет паназіраў за імі дзеля таго, каб асабліва не вылучацца і не выдаць сябе. Аднак хутка зразумеў, што цяпер ужо гэта позна: ён не мог ды і не хацеў быць падобным да іх. Падабенства заставалася толькі ў адным: ён таксама любіў адзіноту і на самоце праводзіў большую частку дня. У астатнім, ад пачатку, ён рэзка адрозніваўся ад гэтых людзей: лёгка ішоў на кантакт, на размову, яго любілі тут, і... ён нешта ды змог згадаць са свайго з перажытага і расказаць Станіславу Сцяпанавічу.

“Не вылучацца” – гэта яму так думалася. На самой справе Славік ад першых дзён, як ачуўся, і асабліва, як акрыяў і пачаў хадзіць, зрабіўся ў інтэрнаце даволі папулярнай асобай, да якой цягнуліся іншыя. А калі ён прадказаў будучыню і вылечыў бабу Маню, слава пра яго, як пра экстрасэнса – а слова гэтае пачалі шырока ўжываць і ў вёсках пасля тэлетрансляцыяў Чумака ды Кашпіроўскага: адзін зараджаў ваду, а другі рассмоктваў шнары ад ранаў – пайшла гуляць па інтэрнаце і далей. Як ні дзіўна, ад пачатку не аспрэчыў магчымасць ягоных здольнасцяў і Станіслаў Сцяпанавіч, які сказаў, што, улічваючы атрыманыя Славікам траўмы і ягонае доўгае знаходжанне ў коме, гэта абсалютна рэальна. Такія прыклады ў медыцыне ёсць. Больш за тое, менавіта ў гэткіх выпадках, пасля клінічнай смерці, падобных траўмаў ці стрэсаў і адкрываюцца ў людзей нейкія звышздольнасці, як у той жа Вангі...

Да Славіка пацякла ручаінка людзей са сваімі бедамі, хваробамі і клопатамі, прыпыніць якую, пасля некалькіх удалых прадказанняў пра зніклых сваякоў, якіх знайшлі там, дзе ён сказаў, ды некалькіх вылечванняў цяжкахворых, стала немагчыма. З раніцы ля ўваходу ў інтэрнат

пачала збірацца чарга з тых, хто хацеў патрапіць "на прыём" да Славіка. Ручаінка гэтая не перасыхала ні на хвіліну і паступова пачала ператварацца ў рачулку. Сталі прыязджаць ужо і з суседніх раёнаў...

Станіслаў Сцяпанавіч, з мэтай паназіраць за Славікам зблізку, не тое, каб дазваляў яму "прымаць" у дзень не больш за дзесяць чалавек, а нават прымушаў гэта рабіць. Больш Славік і не мог: хутка стамляўся. Але ён і не здагадваўся, што Станіслаў Сцяпанавіч збірае з людзей за "кансультацыі" грошы, бо сам Славік рабіць гэта катэгарычна адмаўляўся. Праўда, Станіслаў Сцяпанавіч браў не сабе, а на патрэбы інтэрната – афармляў як дабрачынную дапамогу і купляў прадукты, абсталяванне, мэблю.

Славік патроху-патроху пачаў уваходзіць у смак, яму стала цікава бачыць абсалютна незнаёмага чалавека і "чытаць" чужы лёс, угадваць чужы клопат. Яго радавала і ўзбуджала, калі ён заўважаў, як здзіўляецца наведнік, пачуўшы ад яго нешта трапнае і дакладнае, пра што, можа, і сам забыўся... Заходзіла ў пакой жанчына. З парогу бачна – не вясковая. Нават па тым, як віталася, як сядала насупраць. І адразу пачынала казаць пра сваю патрэбу: "У мяне...". Славік даваў ёй знак – маўчыце, і ўзіраўся ў твар. І праз хвілю сам расказваў, што за нагода прывяла яе сюды. Выбіраў з убачанага самыя эфектныя моманты. Жанчына рабіла вялікія вочы і нерухомела. А Славік "чытаў" яе мінулае і гэта прыносіла яму не толькі задавальненне: так ён яшчэ і вывучаў чалавечае жыццё паводле лёсаў "пацыентаў" і сам уваходзіў у тое мінулае, успаміны пра якое ў яго былі сцертыя. Бо, па вялікім рахунку, лёсы людзей толькі падаюцца рознымі, на самой жа справе яны аднолькавыя аж да дробязяў... Асабліва, калі прыходзіць бяда ці хвароба. А здаровыя ды шчаслівыя да Славіка не ехалі.

Увогуле – яму хацелася дапамагчы ўсім-усім... Каму мог і чым мог. Найперш тым, хто жыў тут, у інтэрнаце. Аднак якраз іх ён ужо ўратаваць не мог... Сюды рэдка траплялі людзі, у якіх была будучыня. Найчасцей у гэтым доме проста дажывалі адведзеныя гады тыя, хто адсюль ніякім чынам ніколі не выкараскаецца, нават, калі і заставаліся ў яго недзе родныя альбо дзеці... Яны нікому не былі патрэбныя. І тут Славік анічога зрабіць не здолеў бы. Ён зазірнуў у мінулае жыццё аднаго, другога, трэцяй... і жахнуўся... Лепш бы ён гэтага не рабіў. Ён і не ўяўляў нават, і не думаў, што столькі гора і болю могуць насіць у сабе гэтыя кволыя і спакутаваныя целы... А часам і зла... Ну чым ён мог дапамагчы Івану-куксе, ад якога адмовілася жонка-п'яніца, а сам ён быў з дзетдома, і ногі ды рукі страціў не на вайне (хоць казаў усім, што ён "афганец"), а па ўласным глупстве – напіўся зімой у лютыя маразы, да дому познім вечарам не дайшоў, заснуў у снезе і да раніцы адмарозіў рукі вышэй локцяў, ногі вышэй каленяў, нос і вушы... І цяпер быў цурбаном, бервяном, якое з боку на бок перакочвалася з цяжкасцю...

## 6.

У Вільні Славік даведаўся і пра сумную вестку: Люду выключылі з універсітэта. За нацыяналізм. Дакладней, не выключылі, а папрасілі перавесціся на завочнае аддзяленне. Час быў ужо не той, але перастрахоўка ў рэктараце заставалася ранейшай... І ён з Вільні кінуўся ў Гомель.

"Нацыяналізмам" на факультэце назвалі праведзеную Людай з сябрамі вечарыну, прысвечаную нядаўна адзначанаму стагоддзю з дня нараджэн-

ня рэпрэсаванага адным з першых, яшчэ ў дваццатыя гады, беларускага паэта і палітыка, імя і творы якога было забаронена згадваць: нацыяналіст, бачыце... Ды яшчэ вершы чыталі з запаленымі свечкамі – камсамольцы і са свечкамі, ну-ну – аўдыторыя вам не царква... Прычым, вечарыну не забароненую, хоць і не афіцыйную. Люда проста паведаміла ў дэканаце, што пасля заняткаў студэнты збяруцца ў адной з аўдыторыяў, каб пачытаць вершы...

Пачыталі... Нехта далажыў. Меры прынялі... І гэта нягледзячы на перабудову, якая подбегам бегла, паводкай расцякалася па краіне, зазіраючы ў самыя аддаленыя яе куточкі; нягледзячы на тысячы публікацыяў, якія вярталі “незаслужана забытыя імёны бязвінна рэпрэсаваных”...

Удар быў моцны, неспадзяваны, непралічаны імі... Яны сплanavalі, што Люда давучыцца, ён абжывецца і...

– Што рабіць будзем? – сумна спытаўся Славік у Люды.

– Паеду ў вёску, у школу, папрацую настаўніцай. Буду вучыць дзяцей і сама давучвацца, – адказала Люда, – усяго год застаўся.

– А можа ўсё ж у Мінск, да мяне... – прапанаваў ён.

– Куды да цябе? На здымную кватэру, без прапіскі... Хто мяне на працу возьме? Як жыць будзем?.. Не, болей чакалі, пачакаем яшчэ...

Шчыра прызнацца, Славік і сам з цяжкасцю ўяўляў гэта, але не прапанаваць не мог. Хоць часы былі і сапраўды цяжкія. Савецкі Саюз канаў у канвульсіях. Гарады галадалі. Крамы стаялі пустыя. Тэрмінова была ўведзеная карткавая сістэма, як у вайну. Літаральна ўсе прадукты прадаваліся па талонах і ў пэўнай колькасці на чалавека: кілаграм цукру на месяц, кілаграм мукі, макароны, крупаў і г. д., дзве пляшкі віна і пляшка гарэлкі таксама на месяц... Прычым, талоны выдаваліся па месцы прапіскі, а значыць, гамяльчанам, якія пераехалі ў Мінск, трэба было іх атрымліваць і “атаварваць” у Гомелі – у Мінску гомельскія квіткі не дзейнічалі. Такія ж талоны ці чэкавыя кніжкі выдалі на ўсе тавары – ад шкарпэтак і трусоў да тэлевізараў і лядоўняў. І без іх купіць нешта ні ў сваім, ні ў іншым горадзе ці вёсцы было немагчыма. Але і па талонах ды чэках не дужа разгонішся. Калі ў гарадскіх крамах “выкідвалі” нешта, адразу збіралася чарга.

Пражыць, здымаючы кватэру, на яго сціплы інстытуцкі заробак удваіх ды без мінскіх талонаў было немагчыма. І Славік пагадзіўся з Людай: трэба пачакаць... Мо за які год жыццё іхняе трохі наладзіцца.

Развіталіся яны перад ад’ездам Люды ў вёску так, быццам ён яе на фронт праводзіў, так, як перад ягоным адыходам у войска, калі яму “свяціў” Афган... Люда заплакала, прытулілася да Славіка, шаптала: “Ты не забудзеш мяне... Ты не кінеш мяне... У...”, – так-так – Люда называла яго па імені... ага... яна называла яго па імені...

Ён нібы пачуў яе мілы-мілы, пяшчотны і ласкавы шэпт скрозь слёзы...

Яна шаптала... У-ла-дзя...

Уладзя!..

Дык, вось яно: нарэшце, ён згадаў сваё імя... (Дзякуй, Люда, ты і тут мне дапамагла... – падумаў ён.) Вось яно, імя, якім звалі яго ў тым папярэднім жыцці... Уладзя... Так, Андрусь, Люда, сябры мяне звалі Уладзя... Але бацькі клікалі інакай – Воўка. Ага, Воўка... Валодзя... Толькі я пра гэта нікому не скажу. Не скажу, пакуль не ўспомню ўсё... І таму не буду запісваць сваё імя нікуды...

Але, захваляваўся ён, як не забыць гэтае імя, маё імя? Ці, аднойчы ўспомненае, яно ўжо не пакіне мяне? Не забыць... Не забыць... Запісваць нельга... Але як запомніць?.. З чым, з кім звязаць маё імя, каб не забыць? А-а-а, ага... Валодзька-афганец... У яго маё імя, а ў мяне ягонае... У нас адно імя, і гэта я не забуду... Але ад цяпер буду працягваць думаць пра сябе так, як і раней – толькі Славік, ці ў крайнім выпадку так, як кажа баба Маня – Сонечны Зайчык, а сваё сапраўднае імя не буду згадваць ніяк і нідзе – гэта да пэўнага часу будзе мая самая вялікая таямніца...

Славік усхапіўся, сеў на ложку. Рубец-шнар на галаве не балеў, а салодка ныў... Была цёмная хмарная ноч, чорная-чорная: рукі, набліжанай да самых вачэй, не відаць, сон нібыта працягваўся, і ўспаміны паплылі далей...

## 7.

Станіслаў Сцяпанавіч бачыў, што Славік ужо адэкватна рэагуе на ўсе навакольныя з’явы, назіраў за тым, як ён гуляе ў шахматы, як размаўляе з іншымі. Найбольш яго ўражвала, як часам Славік трапна жартуе сам і разумее жарты. Бо, назіраючы за хворымі, ён заўважыў, што для большасці з іх “жартам” быў злосны і жорсткі здзек з бліжняга, са слабейшага – гэта выклікала ў іх буйны смех. А ўласна гумару яны не разумелі і з бяскрыўднага анекдота маглі не зарагатаць, а накінуцца на расказчыка з кулакамі... Станіслаў Сцяпанавіч назіраў за Славікам і верыў-не верыў сваім вачам: бо таго, што адбывалася, паводле медыцыны быць не магло. Прынамсі, ён не ведаў і не сустракаў у спецыяльнай літаратуры апісанняў выпадкаў, падобных Славікаваму. І ніводзін з тых бяспамятных, што гадамі жылі ў інтэрнаце, не тое, што не згадаў нешта пра сябе – яны бяздумнай травой хадзілі па калідорах, па падворку і заставаліся “рэччу ў сабе” з пустымі, увагнанымі глыбока ў сябе, вачыма, якія здаваліся сляпымі, бо на гук гэтыя людзі, бы робаты, паварочвалі галаву, а вочы заставаліся нерухомымі.

А вось Славік... Станіслаў Сцяпанавіч лічыў, што на ягоных вачах здзяйсняўся цуд... Цуд вяртання фактычна памерлага чалавека да жыцця, цуд, які без боскай міласці і боскага благаслаўлення адбыцца не мог. Ці не таму і праявіліся ў Славіка гэтыя экстрасэнсорныя здольнасці, што сам Бог парупіўся аб гэтым хлопцу, не захацеў яго забіраць...

Станіслаў Сцяпанавіч у Бога не верыў, быў ён камуністам са стажам, дый, нарадзіўшыся ў СССР і прайшоўшы школу атэізму ад акцябрацкай зорачкі да партбілета, да гэтага часу неяк і не думаў пра Бога ўвогуле: ёсць ён, няма яго – якая розніца. Для кагосьці ёсць, для кагосьці няма... Вера толькі тады вера, калі яна сляпая, без лішніх роспытаў. А хто пачынае задумвацца пра Бога і задаваць пытанні, той хутка ў гэтай краіне робіцца атэістам, бо адказы яму будуць адназначнымі... І толькі прачынанне Славіка, і найперш ягоныя надзвычайныя здольнасці, прымусілі Станіслава Сцяпанавіча задумацца: нешта ў гэтым свеце ёсць такое, што не паддаецца элементарнай логіцы і застаецца пакуль па-за навукай... Памятаючы пра мінскую візітоўку, ён хацеў усё ж хоць на крок быць паперадзе тых назіральнікаў, каб не нашкодзіць хлопцу, якога ён палюбіў. Не тое, каб палюбіў... але яму было шкада Славіка. Чамусьці ў ім ад пачатку жыла ўпэўненасць, што Славік не злачынца, а хутчэй ахвяра. Але ў гэтым трэба было яшчэ пераканацца...

Ён гутарыў са Славікам і нібыта павінен быў верыць таму, што той казаў: ён амаль нічога не памятае, але, мяркуючы па іншых назіраннях, гэта было...

трохі наіўнай хлуснёй. “Дзе праўда, дзе няпраўда?” – сумняваўся Станіслаў Сцяпанавіч. Але сумняваўся дзеля выгляду ды ў сваіх запісах у гісторыі хваробы. Бо чым болей ён кантактаваў са Славікам, тым сімпатычней ён яму падаваўся. І з кожным днём большала ўпэўненасць, што ніякі ён не рэцыдывіст і не крымінальнік. Яму карцела сказаць Славіку пра тое, што ім цікавяцца “людзі ў цывільным” з Мінска, але ён зноў жа сумняваўся: а раптам той і сапраўды нічога не памятае і гэтае веданне яму нічога не дадасць, а ён выкрые сябе. А таму імкнуўся толькі дапамагчы Славіку выкараскавацца з яміны, у якую той патрапіў з чыёйсьці дапамогаю. Бо здагадваўся: Славік “птушка” няпростая. Адчувалася, што ёсць у ім магутная ўнутраная спружына, якая цяпер была разамкнутая, разняволеная і бяздзейнічала. Але яна магла ў пэўны момант сцяцца... Славік ужо трохі набраўся сілаў, дужасці, і бачылася, што ў гэтае цела вяртаецца былая моц – рашучага і ўпэўненага ў сабе чалавека, цэльнага і мэтанакіраванага. Прынамсі, так думалася Станіславу Сцяпанавічу. Аднак ён разумеў, што не толькі таму ім цікавіліся людзі з “органаў”. Ён заўважыў, што Славік размаўляе на мове, блізкай да беларускай літаратурнай. А значыць, быў ён, як мінімум, з інтэлігенцыі. Магчыма, культурнай – літаратар, мастак, журналіст, а мо і – філосаф нейкі, а значыць, ідэйны лідар, бо адкуль у яго цяга да абстрактнага мыслення далёкага ад інтэрнацкага жыцця – аж да думак пра зоркі і быццё наогул... А таму, хутчэй за ўсё, належыў ён раней да нейкага “народнага фронту” ці “руху”. А за такімі ў гэтай дзяржаве сачылі заўсёды...

Прыём Славікам людзей Станіслаў Сцяпанавіч не павялічваў, хоць натоўп пад інтэрнатаўскімі дзвярыма рос не па днях, а па гадзінах. Прыезджыя займалі чаргу за некалькі дзён, жылі ў вёсцы суткамі ў чаканні, хто ва ўласнай машыне, а хто здымаў пакой у мясцовых жыхароў, якіх гэткі бізнэс таксама радаваў. Станіслаў Сцяпанавіч бачыў, што з дапамогай Славіка можна зарабіць немалыя грошы. Калі б быў ён звычайным хворым, магчыма было б не толькі павялічыць прыём тут, а нават наладзіць “гастролі” з выступамі ў клубах і дамах культуры, як рабілі гэта іншыя “экстрасэнсы” па ўсёй краіне. Але – паспрабуй, арганізуй... Тыя цікаўныя з Мінска адразу заварушацца...

Добра, што яны пакуль не тэлефанавалі. А сам Станіслаў Сцяпанавіч апярэджваць іх не хацеў. Хоць і добра разумеў: не можа маўчанне працягвацца бясконца.

## 8.

Адзін сон Славіка ўвесь час паўтараўся: ён едзе дамоў і ніяк не можа даехаць... То на аўтобусе, то на цягніку, то на “спадарожных”... Кожны раз здаецца, што родная хата ўжо блізка. Яшчэ трошкі, і ён будзе дома... Ён у думках ужо даехаў... Ён ведае, што іхні падворак ужо блізка-блізка. Там, за хатай, амаль насупраць, было – павінна быць! – і вось-вось пакажацца футбольнае поле, на якім ён прападаў усю вясну, лета і восень. Быў капітанам каманды і ўвогуле завадатарам ва ўсіх вясковых хлапечых гульнях ды справах у школе і пасля яе. Грошы на футбольныя, валейбольныя мячы збіраў ён, купляў сам і захоўваў у сябе пад ложкам, выносячы пагуляць сябрам. Прыціх трохі хіба ў інстытуце, дзе лідараў хапала і без яго...

Так, павінна быць хата: яшчэ паварот і... Але... Хаты ён не бачыць... Прачынаецца, так і не даехаўшы... Зноў і зноў правальваецца ў цемру, такую шчыльную і густую, што, здаецца, яе можна памацаць, ухапіцца,

пацягнуць да сябе і разарваць... І ён хапаў яе ў нямой злосці і намацваў перад сабою толькі пустату.

О, як не хацеў ён, як баяўся гэтых правалаў у цямрэчу. Як стараўся пазбягаць іх... Бо, каб ведаў хто, як пуста і цёмна ў нас унутры... Так пуста і цёмна, відаць, толькі ў сусвеце, у космасе. І таму словы: чалавек – гэта цэлы сусвет, абсалютная праўда...

Першымі вечарамі, калі трохі агойтаўся і пачаў усведамляць сябе, Славік баяўся нават класціся спаць і засынаць. Бо сон без сноў (ды і са снамі таксама) нагадваў яму менавіта той стан, у якім ён знаходзіўся дагэтуль некалькі гадоў, і вяртацца ў які яму не хацелася... Ён баяўся, што зноў праваліцца ў тую яміну і заўтра ранкам не вынырне з яе, не прачнецца... Памрэ зноў. І гэтым разам назаўсёды. Але страчаныя за дзень сілы і стома перамагалі – ён ляжаў з расплюшчанымі вачыма, не збіраючыся засынаць, ляжаў і думаў, і сам не заўважаў, як правальваўся ў сон...

Дык вось, адзін сон увесь час паўтараўся: ён ехаў дамоў і ніяк не мог даехаць... Бачыў лясную дарогу да роднага дому. Ведаў, што недзе там, за гэтымі дрэвамі пачынаюцца першыя дамы... чаго? Горада ці вёскі? Хутчэй вёскі, здагадваўся ён, ці ўскраіны невялікага раённага гарадка са звычайнымі драўлянымі хатамі. Не, усё ж вёскі... Але дакладна ён не ведаў, бо далей ніколі не сніў: прахопліваўся і не хацеў расплюшчваць вочы, каб прымусіць сябе дагледзець сон. Каб пабачыць сваіх бацькоў. Пачуць іх... Ды нічога больш на экране цемры, апроч самой цемры, ужо не ўзнікала, як ён ні стараўся ўявіць. І тады ён канчаткова “прачынаўся” разлаваны на сябе.

Пакуль з тых, каго ён успомніў, самай блізкай яму была Люда. І ён пачаў пасылаць у прастору, у неба, мольбы, як заклінанні, каб яна адчула, што ён жывы, каб яна пачула яго, стала шукаць і... знайшла. “Людачка, дарагая, – роспачна думаў ён у ноч, – калі ты ёсць недзе ў свеце, калі ты не прыдумка маіх сноў, адгукніся... згадай пра мяне... я жывы... я ёсць... знайдзі мяне... знайдзі!..”

Але гэта была часовая слабасць, бо за ёй прыходзіла разуменне, што нікому ён, тым болей Людзе, цяпер не патрэбны: адно слова – інвалід...

**9.**

Для бабы Мані і раней Славік быў ледзь не родным, а цяпер стаў і ўвогуле сваім. Яна старалася падкормліваць яго хатнімі прысмакамі і кожны дзень заходзіла да яго – нават, калі не працавала. Ад яе пачуў Славік пра дзеда, што некалі жыў у інтэрнаце:

– Буў у нас тут да цябе дзед адзін. Вядзьмак – так звалі яго. На сёмым этажы жыў. Вісока. Сам так хацеў. Лячыў усіх падрад замовамі. Шаптаў. Лячыў ад прыстрэку, ад зубнога болю, ад спугу... Толькі сваіх, інтэрнацкіх, лячыў. А да цябе, бач, з усяго раёна едуць...

– А дзе ён цяпер, гэты дзед?

– Памёр... – Баба Маня перахрысцілася, – у той дзень, як ты ажыў...

Да Славіка і сапраўды ехалі ўжо не з усяго раёна – з усёй вобласці. Ён працягваў прымаць людзей, лячыць іх, дапамагаць ім. Аднак, на жаль, вельмі мала з таго, што ён бачыў, з таго, пра што даведваўся, ён мог змяніць. Ён мог дапамагчы аднаму чалавеку – ўратаваць яго ад, здавалася б, невылечнай хваробы і тым перайначыць ягоны лёс і працягнуць жыццё (зрэшты, і гэта выпадковасцю, а не загадзя спланаванай, спрагназаванай

дзеяй – прадбачанай кімсьці сустрэчай яго, Славіка, і хворага менавіта тут і ў гэты час – назваць можна было з цяжкасцю), мог падказаць камусьці, як бабе Мані, не рабіць нешта: не ехаць сёння некуды на гэтай машыне альбо не ляцець на самалёце, але ўплываць на лёсы многіх людзей, на народ – ён не мог... Нават ведаючы, колькі няшчасцяў прынясе народу той ці іншы ягоны выбар, паўплываць на гэты выбар, ніяк не змог бы. Для гэтага яму спачатку трэба было б стаць чалавекам публічным, дапушчаным да тэлеэкрана, але ён разумеў, што гэта немагчыма...

Ён мог толькі дапамагаць простым людзям, тым, хто нейкім чынам дачуўся пра яго здольнасці і прыехаў сюды, мог убачыць, ад чаго пакутуе чалавек, што яго турбуе і вылечыць альбо падказаць, як пазбавіцца гора... І паколькі такіх людзей рабілася ўсё болей і болей, ён, каб абмежаваць прыём, па падказцы Станіслава Сцяпанавіча, сказаў, што будзе прымаць толькі дзяцей і толькі маці з дзецьмі. Ён ужо ведаў, дзе знаходзіцца. Гэта была прычарнобыльская зона Гомельшчыны. І хворых, нялечаных увогуле альбо недалечаных, ці тых у каго нешта балела, але да ўрачоў яны звяртацца не хацелі, затое па-ранейшаму, па-даўняму, верылі, што дапамагчы ім могуць толькі “знахары” ці “ведзьмакі”, да якіх адразу залічылі і “экстрасэнса” Славіка, было не проста шмат, а вельмі шмат.

Не паменшала іх і тады, калі ён пачаў прымаць і лекаваць толькі дзяцей...

## 10.

З неспатольным болем назіраў Славік за тым жыццём, у якое вярнуўся... пасля смерці. Назіраў нібыта збоку. І хоць не было перад ім усёй карціны, але і таго, што ён бачыў вакол і па тэлевізары, чуў па радыё, ведаў з газетаў, а таксама са згаданага з папярэдняга жыцця, хапала яму, каб зрабіць страшную выснову, нават не заглядваючы ў будучыню: людзей на гэтай тэрыторыі – а ён меў на ўвазе не толькі Беларусь, хоць найперш якраз Беларусь, а ўвесь былы Савецкі Саюз – адвучылі думаць, адвучылі самастойна прымаць рашэнні, адвучылі выбіраць... А як можна нешта выбраць, не ўмеючы прыняць рашэнне? І як можна прыняць рашэнне, развучыўшыся думаць? Больш за тое, многім з іх страх за заўтрашні дзень, за сваю будучыню замяніў розум. Страх штодзённы, заўсёдны, боязь зрабіць лішні крок, сказаць лішняе слова, бо любы твой учынак, любое слова могуць быць павернутыя супраць цябе – у кожным гарадскім доме, двары, у кожнай вёсцы памяталі такія выпадкі, калі сярэдначы будзілі іх сваім нахабным і няўкормным вуркатаннем “варанкі”. Хочаш не хочаш, а чарвячок страху пасяліўся ледзь не ў кожным і паціху з’ядаў любое памкненне не тое, каб да свабоды, волі, а нават да нейкага самастойнага дзеяння, учынку... За семдзясят гадоў суцэльнага запалохвання большасць ператварылася ў людзей, гатовых верыць любой хлусні, давяраць бязмежным хоць і невыканальным, але прыемным, абяцанням, цешыць сябе думкай, што вось мы перапакутуем, але нашым дзецям будзе лягчэй, нашыя дзеці зажывуць шчасліва – нармальна, галоўнае – каб не было вайны... Таму і робяць яны выбар, грунтуючыся на сваіх жаданнях і страхах, а не кіруючыся ўласным досведам і розумам, вераць нахабным абяцанням, а не праўдзе жыцця. Таму цяпер, калі гэта стала магчыма, і абіраюць сабе такіх лідараў-папулістаў, такіх, як стала модным называць – прэзідэнтаў...

Другі тур выбараў скончыўся тым, пра што Славік і ведаў: перамогай Лукашэнкі... І тады ён вырашыў зазірнуць у будучыню.

Нічые... Нічые надзеі не спраўдзяцца – убачыў ён. Ні тых, хто паверыў абранаму прэзідэнту, проста паверыў у ягоныя словы, што будуць змены да лепшага ў звычайным чалавечым жыцці, што зможа атрымаць кватэру для сваёй сям'і, як гэта было пры Саветах, ці займее стабільную добрааплочвальную працу, ці зможа развіць свой бізнэс... Ні тых, хто паспадзяваўся не на новаабранага, якому лёгка было паабяцаць на вярбе ігрушы, прычым ні на імгненне не засумняваўшы ў гэтым, а на ягоную каманду "маладых ваўкоў", якія, маўляў, наўмысна выставілі яго паперадзе сябе, каб выйграць і самім скарыстацца плёнам перамогі, адціснуўшы "калгасніка" ад улады... Ні тых, хто, зразумеўшы, што спыніць яго немагчыма, падумаў, што доўга пры ўладзе ён не ўтрымаецца: адна справа кіраваць саўгасам, які ён разваліў за пару гадоў, і зусім іншая цэлай дзяржавай... Ні нават ягоная пашпартная жонка, якая потым адмовіцца ехаць у сталіцу, скажа: "Мой Саша нідзе больш за два гады не працаваў, а таму я са сваёй вёскі ў Мінск і пераязджаць не буду..."

Сапраўды, бачыў Славік, адзін з самых сур'ёзных крызісаў улады будзе ў яго менавіта праз два гады – увосень 1996 года, але і тады, калі ад яго адвернуцца амаль усе паплечнікі, ён адзін пераможа ўсіх... Адзін! Бо мае д'ябальскае жаданне захаваць уладу, бо любіць і хоча ўлады, як мужчына хоча жанчыны, і такой прагі ўлады, як у яго, няма ні ў кога больш на гэтай зямлі. Але самае вялікае расчараванне чакае тых, хто паверыў у незалежнасць і адраджэнне. Бо такога заняпаду, у які патрапяць мова, культура і гісторыя Беларусі, гэты край не ведаў ні пры якіх акупантах... І ўсё гэта будзе рабіцца дзеля падкрэслівання "дружбы" з Расіяй, стварэння сумеснай дзяржавы і жадання патрапіць на "крамлёўскі прастол"... І такая магчымасць – блізкая-блізкая, у яго будзе, толькі рэалізаваць яе не ўдасца: расейцы своечасова апамятаюцца і новы ілжэдзмітрый не ўзыдзе імі правіць... а таму ўрэшце рэшт ўсё ператворыцца ў вымаганне ў Расіі танных энерганосьбітаў, крэдытаў, каб проста ўтрымацца пры ўладзе... паступовую здачу дзяржавы пад умелым кіраўніцтвам... Крамля... І над краінай запануюць усеагульныя жах і... страх...

Славіка агарнула роспач. Адно супакойвала яго: не раз гучала па тэлевізары, што па Канстытуцыі кіраваць дзяржавай ён зможа толькі два тэрміны – дзесяць гадоў, не больш. Што такое для гісторыі дзесяць гадоў – імгненне... А потым прыйдзе новы лідар і... Новы? Хто? Славік паспрабаваў зазірнуць далей... Няма там новага... Ага, той крызіс 1996-га года і будзе якраз таму, што ён захоча перапісаць – і перапіша! – Канстытуцыю, каб кіраваць і абірацца на пасаду бясконцую колькасць разоў... А потым "паплечнікі" скарыстаюць супраць сваіх апанентаў і канкурэнтаў той прыём, што быў апрабаваны на Славіку: з імі зробяць тое ж... і яны знікнуць бясследна... Бясследна для родных, для ўсіх. Знікнуць. А на самой справе будуць...

Няўжо нельга папярэдзіць іх? Сумленных людзей, "вінаватых" толькі ў тым, што хочуць дабра свайму народу...

Не, ну хто табе паверыць – інваліду з далёкага інтэрната. І як да іх дастукацца, бо сёння яны на кані, яны пераможцы, яны пры вялікай уладзе і магчымасцях – міністры і вышэй... Яны так высока ўзляцелі, што цябе і слухаць не захочуць, нягледзячы на славу "экстрасэнса"... І ці не прымроілася гэта табе, бо ніхто не ведае таго, што будзе, бо і будучыня можа змяніцца ў кожны момант...

Не, казаў нехта Славіку, усё ўжо адбылося наперадзе і ніхто не ў моцы змяніць тых падзеяў, у тым ліку і ты – тым болей ты... І ўсім вам застаецца толькі дачакацца іх, ці, як вы кажаце, дажыць да іх...

Славік ведаў, што паўплываць на "масы", на мноства людзей адразу ён не можа. Але можа на аднаго асобнага чалавека. На аднаго асобнага? Які сам уплывае на масы?.. А чаму б і не... І Славік паспрабаваў пранікнуць у таго чалавека, пра якога думаў, каб зразумець, чым ён жыве, якімі думкамі кіруецца, а даведаўшыся – паспрабаваць нейкім чынам паўздзейнічаць на яго, і... натыкнуўся на сцяну ледзь не ў прамым сэнсе гэтага слова. І зразумеў, што той чалавек, калі не сам мае нейкія здольнасці, дык завёў сабе экстрасэнсаў, якія абараняюць яго і блакуюць усе спробы пранікнення... Блакуюць? Абараняюць? Ці ўплываюць на яго і кіруюць ім?.. Адказу не было. "Хто пасее вецер – пажне буру...", зноў даляцеў аднекуль да Славіка голас, і ён зразумеў, што гэта пра таго, пра каго ён думае, і што скончыць той урэшце вельмі кепска. Вельмі кепска... І канец яму прыйдзе зусім неспадзявана і не адтуль, адкуль ён яго будзе чакаць... але будзе гэта не хутка... кіраваць ён будзе нават дольш... даўжэй, чым Брэжнеў...

Галава Славіка закружылася, забалела, і ён ледзь не страціў прытомнасць ад нахлынулых думак, ці... атакі ў адказ... Хістаючыся, ён устаў і пайшоў да будынку інтэрната. Яму трэба было сустрэць нейкіх людзей, каб загаварыць з імі пра што-небудзь і выбіць сябе з гэтага стану ачмурэння... Але быў пасляпалудзенны "ціхі час", і ніхто яму не сустракаўся, толькі каля ўваходных дзвярэй стаяла некалькі настырных наведнікаў, якія чакалі ягонага прыёму. І ён вырашыў падысці да іх.

Яго зацікавіла жанчына, якая трымала на руках дзіцё – дзяўчынку. Ён падышоў да яе, бо бачыў толькі яе, хоць звярнуць на сябе ягоную ўвагу назойліва стараліся іншыя: торгалі за рукаў, навісалі над плячыма, зазіралі ў вочы...

– Памажыце мне, – сказала маці, – памажыце маёй дачушцы.

Ён паглядзеў. Гэткіх чарнобыльскіх дзяцей, з падобнымі ды іншымі паталогіямі, ён бачыў ужо некалькі. І кожны раз вымушаны быў прызнацца сабе, што нічым дапамагчы не можа. Могуць толькі ўрачы. Маці разгарнула дзіцё і паказала голенькія грудзі, злева на якіх білася сэрца – адкрытае, не абароненае скабамі сэрца...

Ён не мог расчараваць гэтую жанчыну. Узяў на рукі дзіця, пагушкаў – дзяўчынка заснула.

– Усё будзе добра, – сказаў ён маці, – але сёння ж едзьце ў Мінск, там ёсць кардыялагічны цэнтр. Вас адразу прымуць урачы... Толькі яны могуць дапамагчы вам. Толькі яны... Ніхто больш... Не адкладвайце. Едзьце сёння ж...

І зусім спустошаны, не звяртаючы ўвагі на просьбы ды мольбы іншых наведнікаў, пайшоў да сваёй палаты.

## 11.

Славіку стала цесна ў інтэрнацкім двары. Добра, што Станіслаў Сцяпанавіч глядзеў паблажліва на тое, што хворыя хадзілі на падзаробкі ў вёску, дапамагалі бабулькам сена на кароўку накасіць, бульбу скапаць, дровы пасекчы... то і Славік пачаў выходзіць за інтэрнацкі паркан, каб пагуляць на большай прасторы. На гэтыя шпацыры ён зваў з сабою Валодзьку-афганца, якога па ягонай просьбе перавялі з пятага паверха на першы. Валодзьку таксама абрыд разведаны да драбніцаў двор, але адзін ён за

межы яго не здолеў бы выбрацца, бо колы вазка грузлі, вязлі ў сыпучым пяску разбітай машынамі ды трактарамі вясковай вуліцы – асфальту тут яшчэ не было. Да іх звычайна чапляўся маленькі шчанючок, які невядома адкуль браўся, калі яны выпраўляліся з двара, нібыта чакаў іх заўсёды. Шчанючок, якога яны назвалі Шарык, круціўся вакол іх – то забягаў наперад, то адставаў, то цёрся аб Славікавы ногі і ледзь не трапляў пад колы – сваёю мітуснёю адцягваў увагу і ствараў нейкі такі ўтулак, што і гэтая вёска, і гэтае наваколле рабіліся ім зусім роднымі...

Гутаркі ў дарозе, на прыродзе атрымліваліся больш душэўнымі і працяглымі, чым за шахматамі. Валодзька адчуваў сваю залежнасць ад Славіка і таму хацеў дагадзіць яму, як дагаджаў усім, хто быў вышэй за яго. Звычка гэтая выпрацавалася ў Валодзькі з гадамі інваліднасці, бо раней ён быў не такім, о, не... Але годнасць і гордасць сваю ён прыдушыў, прыхаваў у сабе, бо цяпер яны маглі толькі нашкодзіць. Жыццё прыціснула яго сваімі плячыма да сцяны, і што яму было рабіць у гэтым выпадку, як не хітрыць, не выкручвацца, каб выжываць...

Славік не верыў Валодзьку, бо гэта быў зламаны чалавек, зламаны лёсам і абставінамі, інвалід не толькі фізічна, але і... маральна, духоўна. Спадзявацца на яго не выпадала. Падчас іхніх шпацыраў быў такі выпадак: яны ўбачылі, што насустрач ім нясецца натоўп. Паперадзе яго бяжыць “дурдомавец” Хведзька. Відавочна, гоняцца за ім мясцовыя не проста так. Можа, Хведзька ўкраў што. Дагоняць – паб’юць да паўсмерці. У іх з Валодзькам быў час падумаць: паспрабаваць загарадзіць сабой Хведзьку і абараніць яго ці і самім уцякаць з дарогі. Славік стаў перад натоўпам і падняў руку: “Стойце!”. Разгарачаныя вяскоўцы спыніліся, стаялі цяжка дыхаючы, абапершыся на калы і перакрыкваючыся. Што Славік ім казаў, ён не вельмі памятае, але хлопцы паабураліся-паабураліся ды павярнулі назад. Толькі тады Славік азірнуўся і ўбачыў, што Валодзька яго кінуў, але далёка не ўцёк на калясцы, загруз у пяску, перакуліўся і цяпер ляжыць бездапаможны і няшчасны, нават не спрабуючы ўзабрацца ў вазок, ляжыць, прыціснуўшыся шчакою да зямлі, і вялікімі вачыма пазірае на Славіка. Можа, гэтая дзея, што адбывалася за спіной у Славіка, гэтая бездаможнасць і спыніла вясковых... Навошта Валодзька ўцякаў? Чаму? І Славік тады зразумеў – вось так Валодзька можа кінуць яго ў любы момант, у любой небяспецы. Перамагчы набыты тут інстынкт самазахавання ён не здалее... Але і з гэтым веданнем ён працягваў ”сябраваць” з Валодзькам, нічога яму не сказаўшы і не паўшчуваўшы ні трохі...

Тым болей, Славік заўважыў, што ў іхніх гутарках Валодзька мае свой інтарэс: раз-пораз спрабуе выцягнуць яго на шчырасць, прычым пра штосьці відавочна, ведае больш за яго. А таму ў іх час ад часу пачыналіся “гульні розуму”, у якіх кожны хацеў нешта выведаць у “суперніка”, пры гэтым ніякім чынам не выдаючы сваю ў тым зацікаўленасць.

– Я памятаю, як цябе прывезлі, – казаў Валодзька, – усе хадзілі глядзець на цябе, а ты ляжаў, бы мёртвы, не варушыўся, не стагнаў, вочы не расплюшчваў... і спаў ці не спаў – ніхто не ведаў. Усе дзівіліся, ёлкі-палкі: нашто цябе такога сюды прыпёрлі? І казалі: відаць, важная птушка, калі і такога даглядаюць... – і адразу выказваў здзіўленне: – Няўжо і сапраўды ты нічога не памятаеш?

Славік каціў яго перад сабою і думаў: добра, што ты не бачыш цяпер мой твар і мае вочы, а то пра многае мог бы здагадацца: “важная птушка” – гэта цікава.... А сам адказваў нібыта гранічна шчыра:

– Нічога не памятаю. Толькі сны нейкія дзіўныя сняцца. І я ў іх яшчэ больш заблытаўся – дзе сапраўднае нешта, а дзе прыснёнае...

– А што табе сніцца?

– Ды нейкія людзі, якіх я не ведаю і якіх тут няма. І я думаю: ці то яны з майго ранейшага жыцця, ці то проста сон.

– З ранейшага, з ранейшага, – упэўнена казаў Валодзька, – хіба можа прысніцца тое, чаго ніколі не было.

Яму відавочна хацелася “выцягнуць” у Славіка хоць якую новую інфармацыю, няхай і прыснёную. Сам то ён ведаў, што яму найчасцей сніцца якраз тое, чаго няма і ніколі не будзе, бо ў снах ён бачыў сябе, хай і ў гэтым інтэрнаце, але з дзвюма нагамі... У снах ён хадзіў, гуляў у футбол з хлопцамі, бегаў хутка, нібы лятаў... Прачынаўся і адчуваў ногі: яны нылі, свярбелі, асабліва ступні, пяткі... Ён хапаўся за іх і... намацваў рукамі пустую коўдру...

Колькі разоў, прачнуўшыся гэтак, ён плакаў да раніцы над сваім лёсам. Славік, вядома, можа вылечыць людзей ад нейкіх хваробаў, але яму, Валодзьку, ужо ніхто ніколі не верне ног...

– І я спадзяюся, што сапраўды з ранейшага, – казаў Славік, – і думаю, што хоць з дапамогай сноў нешта згадаю, бо на яве – нічога не помню. У галаву як цагліна замест мазгоў пакладзена... – стукаў сябе па ілбе: – Камень вось тут..

– Табе трэба хоць нешта ўспомніць. Мо ты і не сірата, як я, мо недзе бацькі цябе чакаюць, браты, сёстры... А можа, ёлкі-палкі, – Валодзька паварочваў галаву ўверх, каб сустрэцца вачыма са Славікам і вымавіць штосьці сакральна важнае, – нават жонка і дзеці... Дык што табе сніцца?

Славік памкнуўся было расказаць яму нешта з бяскрыўднага, напрыклад, сон пра Таню, які запаў яму ў памяць, але перадумаў. А іншыя сны – пра Гомель, пра Мінск – ён расказваць не хацеў. З той жа прычыны – асцярожнасці. Хоць Валодзька яму і сябар, хоць і думаў ён яго скарыстаць, калі не як памочніка ў сваіх заблытаных успамінах, дык як слухача, але пакуль не адважваўся. Ды нешта ж гаварыць трэба.

– Сніцца нейкі горад, а які – я пазнаць не магу... Відаць, я раней жыў у горадзе. Дамы, аўтобусы, трамваі...

– Трамваі? – спахапіўся Валодзька. – Трамваі ў Беларусі ёсць толькі ў некалькіх гарадах. У Мінску, у Віцебску, у Мазыры і яшчэ, здаецца, у Наваполацку... Бачыш, ужо прасцей: можна нейкім чынам зону пошукаў абмежаваць.

– А можа мне і не Беларусь сніцца...

– Не, цябе прывезлі з Мінска. Знайшлі непадалёк ад яго – у лесе. Значыць, сніцца Мінск. Але родам ты можаш быць з іншага трамвайнага горада... А людзі чым займаюцца ў тваіх снах? Пра што ты з імі гаворыш? Можна такім чынам тваю прафесію дазнацца. Ты ж некім быў, недзе працаваў. Мяркуючы па ўсім – адукацыю добрую меў, вышэйшую...

Славік зноў згадаў Таню. Менавіта яна, а не Люда ўспаміналася чамусьці першай у гэтай размове. Чым займаюцца людзі? Дакладнае пытанне – глядзі ты. Гэты Валодзька не такі просты. Можа, ён і сапраўды мне ў нечым здалее дапамагчы... Што сказаць яму, каб і сябе не выдаць і даведацца праз яго нешта? Я ж і хацеў мець якраз такога сябра.

– Праца не сніцца. Афган сніцца, а праца – не... І вучоба таксама не сніцца. А я ж недзе вучыўся, відаць, акрамя школы...

– А кім ты ў Афгане быў?

– Сяржантам... Пастой-пастой... – Славік вырашыў усё ж “даць нейкую інфармацыю”. – Мне сніцца, што служыў паўтара гады, а гэтага не можа быць. Служба ж ва ўсіх два гады.

– Якраз і можа: значыць, у цябе вышэйшая адукацыя. У нас у роце былі такія. А ў якіх войсках ты служыў?

– Не памятаю.

– Дзе вашая часць стаяла? Пад Кабулам?

– Не памятаю...

– Тэхніка якая ў вас была?

– Не памятаю... Бронемашыны, відаць, бэтээры... не памятаю...

Далей у адказ было толькі “не памятаю...” І пытанне да Валодзькі:

– Пра мяне ніхто не пытаў, ніхто не шукаў мяне, калі я ляжаў?

Валодзька крыху сумеўся і адказаў:

– Не... Пры мне – ніхто. Але лепш распытаць пра гэта Эсэса. Калі і пыталіся пра цябе, дык у яго.

Так яны кружлялі вакол ды каля, аднак нейкую выгоду з гэтых размоваў Славік усё ж меў. Пэўна, і Валодзька таксама. Але тое, урэшце, няважна, неістотна... Бо, галоўнае, яны гулялі на свабодзе, на прыродзе – выязджалі за вёску, на ўзгорак ля чыгункі, дзе раслі ажыны, якія ўжо даспявалі да чарнільнага колеру, дзе сарамліва чырванела жоўтабокая яшчэ шыпшына, дзе спявалі невядомыя нябачныя птахі, кружлялі стракатыя, няўлоўныя нават зрокам, матылькі... і дыхалася так вольна-вольна, што яны зусім забываліся пра свой надакучны інтэрнат... Часам яны дазвалялі сабе раскошу – распальвалі маленькае цяпельца... І тады спыняліся размовы. Вогнішча заварожвала іх. Славік і Валодзька маглі моўчкі бясконца глядзець на яго: маўчанне, якое жыве ў кожным з нас, перамагала і не падавала свой голас... У гэтым, у маўклівай любові да агню, яны супадалі цалкам. І не аднолькавае імя, дадзенае ім бацькамі, збліжала іх, а нешта большае, невытлумачальнае, паганскае... Яны зачаравана глядзелі на агонь, як ён патрэсквае і ападае, спальваючы сухія галінкі, спальваючы ўсё дрэннае, што вакол іх і ў іх саміх – кепскія думкі і дрэнныя справы...

## 12.

“Што ты за птушка і навошта ты зваліўся на маю галаву...”, – думаў Станіслаў Сцяпанавіч, ідучы да Славіка, які сядзеў на лаўцы ў сваім любімым куточку інтэрнацкага двара. Ніколі ён не думаў, што гэты хлопец, якога прывезлі сюды цурбаном нерухомым, можа даць яму столькі клопатаў... А тут яшчэ нейкія звышздольнасці ў яго праявіліся. Прадбачыць можа... Дык ён і пра тое, што я да яго йду ведае, і з якой размовай таксама?

Убачыў Славіка, прывітаўся. Той выйшаў нібыта з трансу, усміхнуўся ў адказ шчыра і міла:

– Дзень добры, Станіслаў Сцяпанавіч...

“Альбо ні пра што не падазрае і не здагадваецца, – падумаў Станіслаў Сцяпанавіч, – альбо ўмела прыкідваецца... Буду лічыць – другое. Не трэба недаацэньваць яго – ні ў якім разе...”. А сам сказаў:

– Ты ведаў, што я да цябе падыду цяпер?

– Не, я пра гэта не думаў. Каб даведацца нешта, мне трэба падумаць. Хай і міжволі, раптоўна, а не наўмысна, але падумаць.

– А можаш падумаць і ўгадаць пра што я хачу пагаварыць з табой?

– Магу паспрабаваць, калі гутарка будзе пра вас. Я не магу нічога

прадбачыць наперад толькі наконт самога сябе. Пра іншых магу, а пра сябе – не... Ніяк... Спрабаваў, але не атрымліваецца. Магу ўбачыць, што будзе з бабай Маняй увечары ці заўтра: дзе яна будзе і што будзе рабіць. Магу – пра Валодзьку, пра Сцяпана... А пра сябе – не магу... не ведаю, чаму так. Можа, таму, што не хачу... Падсвядома не хачу. І гэтае нехаценне перамагае жаданне, якое часам узнікае.

– Ого, малайчына! Во як ты фармулюеш ужо... А як ты патлумачыш сваё нехаценне?

– Ніяк... Каб жа я ведаў. Калі спрабую ў нечым разабрацца наконт сябе самога – пачынае моцна балець галава... Можа, я баюся менавіта гэтага болю?

– Ну, не спяшайся. У цябе цэлае жыццё наперадзе. Рабі толькі тое, што прыносіць задавальненне, а не боль.

– Так. Таму я і хачу паспрабаваць даведацца пра сябе праз іншых людзей, зазіраючы ў іх мінулае і будучыню. Мы ж жылі і жывем у адзін час. А значыць, у нас шмат падобнага.

– Калі гэта на карысць і табе, і людзям, дык чаму б і не. Але ўвогуле, прадказанне, прадбачанне, зазіранне ў будучыню – няўдзячная справа...

– Я ведаю... разумею.

– Як-небудзь я табе прынясу кнігі пра вядомых прарокаў, вешчуноў, аракулаў, што былі ў мінулым... Я цікавіўся некалі гэтым. Вось да прыкладу, самая знакамітая прадказальніца старажытнасці Касандра. Яна магла прадказваць найчасцей толькі непазбежныя непрыемныя падзеі. А які толк ад таго, што ты ведаеш, што гэта адбудзецца, калі пазбавіцца таго не можаш... Вось ты згадаў бабу Маню. Ты папярэдзіў яе, каб не ехала на аўтобусе. Але ж паехалі іншыя, табе невядомыя людзі, і патрапілі ў аварыю, якая ўсё роўна адбылася... І пацярпелі... Адзін нават загінуў. Табе не шкада яго?

– Шкада. Але я яго не ведаў і пра існаванне ягонае ды пра той выпадак не падазраваў бы, калі б не баба Маня. Ён жыў недзе паралельна. Колькі такіх аварый адбываецца штодзень... І страшнейшых... Тысячы. Усім не дапаможаш, усіх не пашкадуеш, жыццё не спыніш... Да таго ж... Ну калі б я сказаў тады ўсім не ехаць – ніхто б мне не паверыў і знайшліся б тыя, што паехалі... А калі б ніхто не паехаў, і нічога не адбылося, дык якое тады гэта прадказанне? Падман... Так можна "напрадказваць" чаго заўгодна, а калі не збудзецца, сказаць, што не збылося таму, што я вас папярэдзіў і вы падрыхтаваліся... Вось я магу сказаць вам: не падыходзьце зараз да інтэрната, бо з даху ўпадзе камень і заб'е вас. Вы не падыйдзеце, застанецеся жыць, а значыць, нічога не здарыцца з вамі, а я проста выдумаў гэта...

– Выдумаў? Але ж камень упадзе?

– Упадзе... Калі я гэта не прыдумаю, а ўбачу... І ўпадзе на вас.

– Вось як... Але, калі ты мяне папярэдзіш, я магу прайсці побач, міма...

– Не ведаю. Відаць... Але ў гэты час там можа ісці іншы чалавек... Нішто не адбываецца проста так. І камень упадзе не выпадкова.

– Значыць, усё ж непазбежнасць... Значыць, ёсць тое, што ніякім чынам не залежыць ад нас, і ты тое бачыш... Цікава... Вось Настрадамус, скажам... Таксама прадказваў у сваіх цэнтурыях непазбежную будучыню. Але так завуалявана – зацемнена, што найчасцей нашчадкі пачыналі разумець, што ён меў на ўвазе, пра што іх папярэджваў, толькі тады, калі падзеі ўжо адбыліся. Дык якая карысць ад такіх прароцтваў? Хіба толькі радасць ды задавальненне ўласна прадказальніку: маўляў, я ж казаў, што гэта бу-

дзе – рэвалюцыя там нейкая ці прыход да ўлады тырана... Але што з той радасці, калі самога прадказальніка ўжо даўно няма на гэтым свеце і ён ніколі не даведаецца: збылося наканаванае ці не збылося...

– Вы так думаеце? Вы сапраўды думаеце, што ён не ведае?

– О, няўжо?.. – Станіслаў Сцяпанавіч пільна ўгледзеўся ў Славіка. – Ну прабач, прабач... Тут мы пераходзім на такую тэму, ад якой у мяне самога галава кругам ідзе...

– Ну чаму ж... Тут усё проста – калі б насамрэч не было бессмяротнасці душы, дык яе трэба было б прыдумаць...

– Не, давай пра гэта не будзем... Я да чаго вяду ўвогуле. Прароцтва – гэта добра. Але ўсё ж гэта – гульня. Даруй. Калі прадказанне ці прадбачанне сур'ёзнае, то яно непазбежнае, а значыць карысці ад яго... Ніякой. Вось ты казаў Сцяпану – я ведаю, – што першы прэзідэнт прыйшоў надоўга, што б мы ні рабілі – на значна больш доўгі тэрмін, чым мяркуем цяпер і чым нават запісана ў Канстытуцыі... Дык што рабіць з гэтым веданнем? Нічога... Толькі жыць, проста жыць і чакаць, калі пройдзе ягоны час, што немінуча таксама, бо ўсе мы смяротныя. Так? Так... Я да чаго. Ты можаш лячыць канкрэтных людзей ад канкрэтных хваробаў. Гэта і ёсць тое, на што ты павінен скіраваць свой дар. А не траціць сілы, якіх у цябе і без таго няшмат, на нейкія прадбачанні.

– Я гэта і не раблю.

– Вось і добра. Лячыць, паўтару: дапамагаць канкрэтным людзям, ратаваць іх – найлепшае прымяненне твайго дару.

– Вы так думаеце? А я сумняваюся. Ці не грэх гэта? А як жа быць з прынцыпам – не нашкодзь?.. Людзі да мяне едуць з надзеяй, ім трэба дапамога... а я... я не ведаю нават, як гэта ў мяне атрымліваецца, што я бачу іх хваробы і... і... і... як лячу іх... я зусім нічога не ведаю... не ведаю ці сапраўды дапамог ім, вылячыў ці толькі адцягнуў час і... і... і... – Славік, калі хваляваўся, пачынаў заікацца.

– Ну, не перажывай. Не заводзься так. Я ж урач, і я заўсёды побач з табой.

– Дзякуй вам за ўсё... Дзякуй за гэтую размову. Мне сапраўды вельмі цяжка. Я таксама не разумею – навошта мне гэты... дар... Ён Божы? не ведаю... Калі я нічога не магу змяніць і ніхто не можа нічога змяніць, дык... Навошта гэтая мітусня... Хрыстос таксама ўсё ведаў. Ведаў на што ішоў і дзеля чаго ішоў на Галгофу... А чаго дабіўся? Ужо дзве тысячы гадоў без аніякіх поспехаў цягнецца гэтае змаганне за... за... Божа, даруй, якая каша ў мяне ў галаве!.. Прабачце, Станіслаў Сцяпанавіч, вы маеце рацыю: калі я і сапраўды магу дапамагчы хоць нечым, хоць аднаму чалавеку, дык трэба гэта рабіць... Бо інакш – дзеля чаго я жыву?

– Гэта цяжкія для цябе думкі. Пазбягай іх. Проста жыві... Я табе ўсё ж прынясу кнігу пра Настрадамуса. Цікавая рэч. Павучальная.

– не трэба... У вас ёсць Біблія?

– Ёсць.

– Прынясіце мне Біблію...

Пра "сваё" Станіслаў Сцяпанавіч так і не загаварыў са Славікам. А, відаць, дарэмна – шкадаваў ён, ідучы дамоў... Дарэмна. Бо хто ведае да чаго яму рыхтавацца цяпер... Ды і Славіку таксама... А мог бы сваёй цікавасцю папярэдзіць і яго. Зазірнуў бы Славік у маю будучыню, глядзіш, убачыў бы і сваю... А не толькі "камень з даху"...

## 13.

А ў Славіка і сапраўды пачынаўся крызіс. У галаву лезлі думкі, якія лішнія заўсёды, у любога чалавека, а тым болей у такога, як ён: “Дзеля чаго жыву?.. Навошта я выжыў?.. І ці выжыў... Я ведаю, што я памёр. І гэта ведаюць усе, хто мяне памятаў. І цяпер я жыву... ну, зразумела, жыву пасля смерці, але нібыта ў крэдыт... Ці маё гэта жыццё? Мяне няма ні ў якіх спісах. Адусюль выкраслены. Пахаваны і забыты ўсімі. У мяне няма нават імя і прозвішча, а без гэтага жыць немагчыма. Я магу ўзяць цяпер сабе любое імя, але гэта ўжо будзе іншы чалавек, а не той, што некалі нарадзіўся і жыў да... сваёй... да маёй... смерці. А таго чалавека, можа, ужо няма і ніколі не будзе?

Дык хто тады я? І навошта тут? Чаму мяне вярнулі? Каб людзей лячыць? не думаю. Каб прадказваць будучыню? Тым болей – не. Дык навошта мяне вярнулі сюды і чаму не пакінулі там? Чым я магу быць карысным, калі нават простае сутыкненне з гэтым жыццём мяне палохае і я не ўяўляю, як буду жыць, калі раптам мяне выпішуць з інтэрната. Хадзіць на нейкую працу, зарабляць грошы на існаванне. І жыць... Дзеля чаго? Навошта...

Зрэшты, гэта можна прыдумаць. А вось як?.. Як я буду жыць абсалютна непрыстасаваны да тых умоваў, у якіх жыве большасць у гэтай краіне? Я ж зусім не той чалавек, які жыў ува мне да тога выпадку, да... маёй смерці. Я іншы. У мяне іншая карма, бо іншы дзень народзінаў, іншы знак, а значыць іншы лёс: нельга двойчы ўвайсці ў адное і тое ж жыццё...

Дык навошта вяртацца ў ранейшыя ўспаміны, якія, магчыма, ужо і не мае, шукаць родных, якія, можа быць, даўно забыліся пра мяне – для іх я мёртвы. А мёртвыя таксама паміраюць – паміраюць тады, калі пра іх забываюць жывыя... Я зусім не ведаю таго чалавека, якім я быў дагэтуль. Цяпер я Славік... Маё жыццё тут і толькі тут. І трэба пачынаць яго з нуля, а не корпацца ў сабе з надзеяй згадаць тых людзей, якія мяне забылі, пахавалі... лічаць мёртвым і зусім не чакаюць, а можа і не жадаюць, майго вяртання ў іхняе жыццё...

Я жывы і мёртвы адначасова. Я ёсць і мяне няма. Я на тонкім лязе, на мяжы між жыццём і смерцю, смерцю і жыццём – між мінулым і будучыняй... але – мінулага ў мяне няма, а будучыня... ці ёсць яна? Я не ведаю дакладна, што было ў маім мінулым і хто я, і не ведаю таго, як складзецца маё жыццё ў будучыні і ці ёсць у мяне тая будучыня... Я пакуль маю толькі сёння. Я існую толькі тут і цяпер. І, значыць, у адрозненне ад тых, хто вакол мяне – ад Валодзькі, Тані, бабы Мані, Сцяпана... я магу пачаць з чыстага ліста, магу перапісаць сваё жыццё нанава... Гэта, відаць, файна, нарадзіцца адразу дарослым, нарадзіцца з ведамі, каб спасцігнуць якія немаўляці трэба некалькі гадоў... Дык чаму я не скарыстоўваю сваю перавагу над іншымі? Не над немаўлятамі, а над Валодзькам і Таняй, над Станіславам Сцяпанавічам, урэшце... Чаму? Як блыха, я магу скокнуць адразу з сёння ў паслязаўтра, бо ўчора і пазаўчора ў мяне фактычна няма, і нішто мяне не трымае, як іх. Перада мною ўсё адкрыта і... і... ўсё закрыта. У тым свеце, што за парканам дома-інтэрната, я жыць не змагу. Якраз з-за таго, чаго ў мяне няма і што ёсць ад нараджэння ў Тані і Сцяпана: у іх ёсць мінулае – грунт, глеба, аснова, напрацаваныя не толькі імі, але і тымі з іхняга роду, што былі да іх: бацькамі, дзядамі, прадзедамі. У іх ёсць дом, сям’я, продкі... А я... Вось выйду я за агароджу дома-інтэрната – і каму я там трэба? Куды мне ісці? Направа, налева, проста? Усе дарогі адкрытыя...

Усім. А мне – толькі адна: вярнуцца назад. Назад у дом-інтэрнат... Бо там, у новым жыцці, ніхто мяне не чакае і нікому я не патрэбны...

А таму я не магу і не хачу адсюль сыходзіць, я хачу застацца тут, у гэтым доме інвалідаў, які стаў мне ўсім – маёй радзімай, маёй сям'ёй – назаўсёды... Дык што: дзеля таго, каб пражыць апошнія гады тут, у гэтым пекле на зямлі мяне і вярнулі?"

Чым болей думаў так Славік, тым страшней рабілася яму ад разумення таго, што некалі давядзецца пакінуць гэты дом. У каторы раз, калі ён паспрабаваў зазірнуць у сваю будучыню, яму стала млосна ад болю, што раптоўным туманам насунуўся на яго, нібыта супраць падобных думак была нейкая "устаноўка", якая адразу заводзіла яго ў ступар... Але ж пра іншых ён мог думаць. І таму вырашыў пабачыць, што чакае яго краіну ў перспектыве. І аказалася, што вельмі хутка суседзі па Еўропе аб'яднаюцца ў супольны саюз, увядуць адзіную валюту (ён сам сабе пасміхнуўся,назіраючы за тымі пераменамі, што маляваў-паказваў яму нехта – ягоны розум ці яшчэ невядома што і хто... бо было яму смешна: ён і ўявіць сабе не мог, што літоўцы, якія так доўга хацелі незалежнасці і першымі ўвялі – вярнулі – свае грошы-літы, раптам адмовяцца ад іх... і няўжо адмовяцца ад сваіх марак немцы, ад франкаў – французы, ад ліраў – італьянцы?.. не, дарагі мой стомлены розум – гэтага ніяк не можа быць...). Што і ў Беларусі не будзе межаў? І Расія ўвойдзе ў гэты саюз... А далей – адна мова, адна нацыя, не нацыя... проста адна супольнасць – зямляне, з адною на ўсіх мовай... Дык за што мы цяпер змагаемся? Чаго мы хочам, навошта мітусімся? Якая незалежнасць? Якая мова? Калі ўсё роўна вернемся да таго, што было некалі... было да Бабілону. Да таго, з чаго пачыналася, толькі тады было, скажам, двое – Адам і Ева – (прыму дзеля прастасці гэтую "канцэпцыю"), у якіх была адна мова, а цяпер нас трыццаць мільярдаў, але мы адно цэлае, мы – зямляне... А не беларусы, расейцы, індусы, кітайцы, немцы, шведы, якуты, чукчы...

Стоп! Трыццаць мільярдаў? Ён пасміхнуўся сам сабе: адкуль такая лічба выскачыла? Цяпер на Зямлі і шасці мільярдаў няма... Трыццаць мільярдаў... Нічога сабе лічбачка... Значыць, будучыня ёсць... Хай сабе і з адной мовай (не нашай), і з адной верай (таксама не нашай)... Але... Стоп! Трыццаць ці трынаццаць? Мне не пачулася дакладна і я не паспеў перапытаць агаломшаны гэтай лічбай. Надта ж вялікая яна – трыццаць мільярдаў... Можа, усё-ткі трынаццаць? Гэта важна. Вельмі. Бо менавіта адсюль, з гэтае лічбы, пачнецца адлік назад. Нараджальнасць паўсюль, нават у Кітаі ды Індыі пачне скарачацца, смяротнасць перавысіць яе, як перавышае цяпер у еўрапейскіх ды іншых "цывілізаваных" краінах, і пастунова чалавецтва будзе адкочвацца назад, калі не да нуля, дык да тых самых двух – Адама і Евы... І ніякія праграмы ды законы нічога не змогуць зрабіць. На змену людзям прыйдуць спачатку клоны, потым робаты: штучны інтэлект – анёлы, – які пачне засяляць далёкія планеты, пакуль недзе не знойдзе такую, як наша, з патэнцыялам новых Адама і Евы...

Стоп! Што са мною? Адкуль гэтыя думкі? Дзе я гэтага набраўся? Няўжо там, пад тым кустом? Але там, дзе я быў, не было такіх паняткаў, як час і прастора. Тым больш – мова, словы. Аднак усё было зразумела без іх – было простае, неапасродкаванае ўсведамленне, якое прыходзіла на нейкай універсальнай, адзінай (зноў адзінай?)... мове... не ўвасобленай у словы. Бо слова будзе потым... Напачатку... Тут, на зямлі...

Што ж то было за месца? Дзе я быў?.. Ага, яно ўва мне і паўсюль... Ува

мне і паўсюль... Там нешта адбывалася: да мяне прыходзіла мамачка... я нібыта некуды ляцеў скрозь цемру – уверх да вабнага мяккага матавага святла... але гэта адбывалася не ў прасторы і часе, а ўва мне нерухомым – пад кустом. Час ішоў па-за мной – свяціла сонца, спявалі птушкі, па дарозе побач імчалі машыны з заклапочанымі і бесклапотнымі па-са-жы-ра-мі, па мне поўзалі ж-ы-в-ы-я мухі і мурашы... – а ўва мне ўсё спынілася. Жыццё ў тыя гады, калі я быў без памяці, ішло па-за мной гэтаксама, як ідзе цяпер, але мяне ў ім не было, тут прысутнічала толькі цела. А дзе быў я? Тут і нідзе... Нідзе і тут? Гэтага не можа быць... Я быў тут. Толькі тут. Тут!..

Усё крычала ўнутры Славіка, але знешне ён заставаўся спакойным: як і тады, раней, ён яшчэ жыў у сабе... Я памёр, але быў, думаў ён, значыць – смерці няма! Як няма пачатку і канца! Пачаткам не можа быць, не ёсць, нашае нараджэнне, а канцом – смерць. Нашае “я”, якое можна назваць душой, вечнае і яно жыве (як сказаць па-іншаму?.. існуе...) незалежна ад таго, маем мы цялеснае ўвасабленне ці не...

А значыць, усё ёсць бясконцасць і бясконцае ў часе і прасторы – як сусвет, космас – без пачатку і канца... Усё разгортваецца, бязмежна сціскаючыся ў адну кропку.

Разгортваецца бязмежна. Сціскаючыся...

У Кропку...

А таму Пачатак і Канец усяго – Кропка. Кропка, якой няма... Няма!

Вось так, адным махам, лёгенька, ён разабраўся з бясконцасцю, якая так мучыла яго... не трэба нічому вісець ці падаць у нейкай прасторы, бо – нічога няма.

Якое ёмістае слова – “няма”... Яно ўмяшчае ў сябе адказы на ўсе пытанні і вытлумачвае ўсе праблемы. Скажы сабе «нічога няма» і сапраўды – нічога няма. Усё прыдумка чыйгосьці стомленага розуму – твайго стомленага розуму...

Аднекуль прыйшоў і агарнуў сэрца Славіка супакой, яно перастала рвацца з грудзей, стукацца і кідацца, прасіцца, як птушка з клеткі... Хай будзе, што будзе, бо ні ад кога нічога не залежыць. Ну, дапусцім, праз мільярд гадоў патухне сонца, дык што нам сёння канчаць з-за гэтага самагубствам? Невядома яшчэ, што і як здарыцца. Бо будучыня мае такую асаблівасць: быць пэўнай на кожны дадзены момант часу. Але праз хвіліну сітуацыя памяняецца і зменіцца будучыня. Як у тым апавяданні Брэдберы пра растаптанага матылька... І невядома, што яшчэ будзе насамрэч: сёння будучыня нават у маёй свядомасці малюецца такой, а заўтра, можа быць – зусім іншай. Таму прадказальнікі так і пісалі – абсалютна неканкрэтна: некалі недзе з’явіцца такі лідар, які захоча запанаваць над усёй зямлёй і развяжа страшную вайну. А потым, пасля “страшнай вайны”, знаходзіўся нехта, хто перачытваючы “прадказанні”, біў сябе па ілбе: блін, дык гэта ж пра нас было (пра французаў, немцаў, рускіх... пра Напалеона, Гітлера, Сталіна...), а мы не зразумелі і не ацанілі своечасова прароцтва, дурні. А каб здагадаліся раней, маглі б захаваць мільёны жыццяў...

Ды нічога вы не маглі б – не варта дакараць сябе. Як нічога не мог і ваш прарок...

Ёсць некалькі агульных формулаў, якія спрацуюць абавязкова ў будучыні. Да прыкладу, у пэўнага чалавека якасці для таго, каб быць добрым кіраўніком (хай і дзяржавы) не супадаюць з тымі якасцямі, якія трэба, каб стаць добрым кіраўніком... І таму ён ніколі не будзе добрым кіраўніком, стаўшы кіраўніком, бо не дадзена... І так будзе заўсёды. І ўсюды.

Выйграваць выбары і кіраваць намі будуць не лепшыя людзі... Бо дабро можа перамагчы зло, толькі скарыстаўшы сілу зла, а тады яно само робіцца злом...

Таму большасць прагнозаў "настрадамусаў" якраз пра нешта дрэннае, што чакае нас і да чаго нас вядуць кепскія кіраўнікі. А пра добрае... Якое там добрае... Адкуль? Бо калі ёсць пекла ў сусвеце, дык яно тут... не ў гэтым канкрэтным доме інвалідаў, у які мяне вярнулі, а на гэтай планеце ўвогуле...

Пекла тут... Няма сумневаў... І як доўга гэта будзе працягвацца? Трынаццаць мільярдаў?.. Ці... усё ж... трыццаць мільярдаў чалавек?.. Але ў любым выпадку гэта азначае, што канец свету адкладваецца... І ў 2000-м годзе ён не адбудзецца. І ў 2012-м таксама, што б там ні прадказвалі розныя прарокі ды майя. І, відаць, у 2060-м – паводле Ньютана, канца свету не будзе... Але ж некалі ды ён адбудзецца. Бо як смяротны адзін чалавек, так смяротнае і ўсё чалавецтва. І нічога страшнага ў гэтым няма. Бо чалавецтва запраграмаванае на самазнішчэнне, таму і абыходзіцца гэтак жорстка з прыродай, з той маленькай, безабароннай планетай, якая яму дасталася... Зрэшты, не такой ужо і безабароннай, як здаецца, і шкадаваць трэба найперш дурных і нездагадлівых чалавекаў... Зямля была да іх, будзе і пасля іх...

Славіку прыгадалася любімая показка Станіслава Сцяпанавіча, з якой ён некалькі дзён не развітваўся і пераказваў усім: "Доктар, а мне можна піва? – Вы што, хворы? Якое піва! – Ну, не цяпер, а ў будучыні... – Якая будучыня!.."

"Добра, няхай, паверу: канец свету непазбежны, але калі, калі ён адбудзецца?" – спытаўся Славік. "Не пры тваім жыцці", – быў яму адказ... Мудра, – падумаў ён, – так сказаць, значыць, нічога не сказаць. Бо маё жыццё можа скончыцца заўтра, а паслязаўтра адбудзецца канец свету. Аднак я ўжо пра гэта не буду ведаць. Таму і кажуць, што смерць не страшная, бо пакуль мы ёсць – яе няма. А калі яна прыходзіць – нас ужо няма. Гэтаксама нястрашны і Апакаліпсіс ці Армагедон, бо пакуль мы ёсць – яго няма, а калі надыдзе яго час – нас не будзе... І, як нехта казаў, страшна не тое, што Апакаліпсіс некалі будзе, страшна, што яго можа не быць...

Але... але... але... агульначалавечыя праблемы – гэта бздура... бздура... глупства... І не трэба табе ў іх лезці... Забудзься... На гэтым свеце ёсць толькі адзін чалавек, які павінен быць цікавым табе і ў якім ты павінен разабрацца – гэта ты сам... Больш ніхто і нішто. Толькі твае адчуванні, думкі, пакуты і радасці належаць табе, пакуль ты ёсць... А таму, думаў Славік, мяне асабіста і турбуе больш за ўсё іншае – дзеля чаго мяне сюды вярнулі? Навошта? Чаму не пакінулі там, дзе было так добра? Дзе мая мама!.. Чаму? Што я не паспеў дарабіць на гэтым свеце? Я не ведаю... Няўжо, каб лячыць людзей, каб дапамагаць ім жыць, выжыць, выжываць, працягваць свае дні на гэтай зямлі? Няўжо?.. – зноў і зноў сумняваўся ён і, не знаходзячы іншых высноваў, сам сабе адказваў: можа быць... Можа, і так. Але – навошта, да прыкладу, вось гэтай дзяўчынцы з адкрытым сэрцам жыць? Што зменіцца ад таго, што яна выжыве, не памрэ цяпер, а застанецца? Ну вылечаць яе, яна вырасце, стане камусьці жонкай, народзіць сына, дачку... І што? Што з таго? Ці пазбавіцца яна тых пакутаў, што пераследуюць тут усіх? І ці будзе яна шчаслівай? А дзеці, яе дзеці, на якіх яна пакладзе сваё жыццё, таксама будуць народжаныя на пакуты... Дык навошта яе ратаваць, гэтую дзяўчынку? Не разумею... не ведаю... Не магу ўбачыць у гэтым нейкага вышэйшага прызначэння... Свайго і яе... Пэўна,

я зусім нічога не ведаю... Але тады – навошта... Зноў і зноў – навошта? Навошта? Навошта?.. НАВОШТА!!!

Думкі Славікавы пачыналі блытацца, набягаць адна на адну, словы перамешвацца і губляць пачатковы сэнс... Стома засмоктвала яго ў сябе і ён абмякаў, аддаючыся ёй.

Але, у выніку развагаў, адно ён разумеў канча: як бы тут, у гэтым доме ні было страшна, там, за ягонымі сценамі, за ягоным парканам, яшчэ страшней. І чым больш набліжалася для яго магчымасць пакінуць дом-інтэрнат, тым жахлівей яму здавалася неабходнасць зрабіць гэта. Куды ісці? Каму ён трэба там? У тым жорсткім свеце, пра які ён даведаўся, чытаючы лёсы не толькі жыхароў інтэрната, але і людзей, што прыязджалі да яго на лячэнне. Дык у інтэрнаце, усё было прасцей і прадказальней. Зразумела. А тое, што рабілася там: у Мінску, у Гомелі, у вёсцы за інтэрнацкім плотам – палохала яго бясконца неразуменнем: адкуль у людзей столькі жорсткасці і зла да бліжніх? Навошта гэта – "калі ўсе мы разам ляцім да зор", згадаў ён словы класіка. Так, навошта, калі нашае знаходжанне тут, на гэтым свеце, такое кароткае... І як давесці гэта іншым? Як пераканаць, што трэба быць дабрэй і спагадлівей і не толькі да бліжніх... што не трэба рыхтавацца да вайны... што трэба імкнуцца да асабістага шчасця кожнаму, і тады будуць шчаслівымі ўсе... што трэба жадаць і рабіць бліжняму толькі тое, чаго жадаў бы сабе...

Зрэшты, колькі розных прарокаў і павадыроў – спрабавалі ўжо давесці, данесці людзям гэтыя празрыстыя ісціны... а свет і зараз там... два тысячагоддзі мараль топчацца на месцы і ніяк не можа зрушыць з яго... тэхніка развіваецца, сродкі знішчэння прыроды і чалавека ўдасканальваюцца і павялічваюцца, а мараль застаецца там жа... а значыць... значыць, гэта ісціна: няма будучыні ў людства, у чалавецтва, а ёсць пагроза самазнішчэння... і дарэмна я стараюся зазірнуць у прышласць... там пакуль пуста... пустка... пустэча, над якой пануюць цішыня і цемра...

...такія, як былі да стварэння свету...

## *Частка чацвёртая.* Дым, альбо смерць і жыццё Уладзі Касінера...

### 1.

Пра тое, што Уладзя прапаў, Люда даведалася недзе праз месяц. Яны перапісваліся даволі актыўна. Бывала, Уладзя ў адказ на яе ліст дасылаў некалькі. А тут амаль месяц маўчанне і ніводнага – на чатыры яе лісты. Спачатку яна пакрыўдзілася – маўляў, знайшоў там, у Мінску сабе нейкую цацу гарадскую і пра яе забыў. Бывае. Звычайная справа. Навошта яна яму – недавучаная вясковая настаўніца. Але потым, супакоіўшыся, падумала, што не падобна гэта на Уладзю: ён бы нейкім чынам паведаміў ёй пра перамены ў сваім жыцці. Нешта тут не так: можа, што здарылася, можа, захварэў сур'ёзна... І вырашыла сама паехаць да яго ў Мінск.

Па адрасе на канверце знайшла кватэру, якую ён здымаў. Сустрэла яе сухенькая сівая бабулька гадоў за семдзясят, крыху прыгорбленая жыццём, але рухавая, з яснымі, светлымі вачыма – гаспадыня той двухпакаёўкі, у адным з пакояў якой жыў Уладзя. Сустрэла спачатку насцярожана, але ў кватэру пусціла. А потым, калі даведалася, што Люда даўняя сяброўка Уладзі, а дакладней, здагадалася, нявеста, заплакала...

– Добры хлопец... не піў, не курыў, дапамагаў ва ўсім, у краму хадзіў, калі прасіла... Прыветны. Уважлівы заўсёды... Як унук мне быў ...

Пасля бабульчынага “быў” слёзы нагарнуліся на вочы і Людзе: як гэта “быў”? А бабулька працягвала.

– З месяц ужо як прапаў. Раніцай пайшоў на працу і не вярнуўся. Ні ўвечары, ні на заўтра... Міліцыя прыязджала шукаць. Распытвалі мяне. А што я магу сказаць – ціхі, акуратны хлопец. У мяне да яго двое студэнтаў здымалі пакой, дык нацярпелася, ледзь выгнала. І дзевак вадзілі, і пілі беспрасветна... А на такога кватаранта, як ён, нарадавацца не магла. Казала: вось бы табе дзеўку добрую ў жонкі, дык я і кватэру адпісала б. А ён – дзяўчына ў мяне ёсць, вось уладкуюся лепш і забяру яе ў Мінск. Пра вас, мусіць, казаў...

Яны плакалі ўжо ўдзвюх, хоць Люда яшчэ не разумела, што ж здарылася... Усялякае бывае, але як можа ў вялікім горадзе ў наш час знікнуць чалавек без следу? Не вайна ж на вуліцы...

– Мне міліцыя нічога не сказала. Спыталі хіба – колькі дзён ужо яго няма... – Бабуля выцерла слёзы ражком хусткі, што ляжала на плячах, прысела. – А тады прайшло дзён дзесяць, мусіць, ці болей... Схадзі ты, дзетачка, у міліцыю, можа, табе што раскажуць... Шкада хлопца, вой як шкада... Прапаў, як і не было... – Агледзелася, быццам хацела ўбачыць Уладзю. – А я ўсё чакаю яго. Рэчы яго тут нечапаныя ляжаць. Музыка вунь стаіць, – паказала на магнітафон. – Можа, ён у больніцы дзе. Мо ў аварыю якую папаў... Схадзі ў міліцыю. Я сама схадзіла б, ды далёка па горадзе, а ногі ў мяне слабыя. Схадзі, дзетка...

Буйныя, нястрымныя слёзы каціліся па шчоках Люды, зрываліся, падалі на падлогу і разбіваліся... І разам з імі разбівалася і распырсквалася надзея...

## 2.

Вясною ў Мінску пачаліся страйкі рабочых. Такога Беларусь яшчэ не бачыла. Плошча Леніна – ці не самы вялікі па тым часе пляц у Еўропе – была запоўненая працоўным людам ад краю да краю. Казалі, што страйкуе больш за сто тысячаў чалавек з розных прадпрыемстваў горада. Ходзяць сюды пазменна, як на працу.

Чорна-шэрыя аднастайныя робы, камбінезоны і халаты зліваліся з асфальтам, і толькі твары гарэлі рашучасцю і нібыта асвятлялі сабой трывожна-змрочную плошчу. Лозунгі былі эканамічныя, але над шэрагамі рабочых светлымі сполахамі луналі бел-чырвона-белыя сцягі. Чырвоных, з серпам ды молатам, амаль не відаць. Камуністы здавалі пазіцыю за пазіцыяй, і даверу ім ужо не было. Тым болей павагі да іхніх сімвалаў. Людзей на плошчу вывела беспрасветнасць і... прага пераменаў. Ва ўсім. Можа, яшчэ не да канца ўсвядомлена: якіх? Але жыць па-ранейшаму з чэргамі ды талонамі, з мізэрнымі абясцэненымі заробкамі – яны не хацелі. Уладзя разумеў: вось ён прыходзіць яго час. І час ягоных хлопцаў. Міліцыя бяздзейнічала, але пагаворвалі, што ўлады могуць не стрываць і скарыстаць для разгону пратэстуючых войска – як у Вільні і Тбілісі. На плошчы пачалі ствараца дружыны самаабароны. А ва Уладзі былі практычна гатовыя некалькі “пяцёрак”. І таму ён прыйшоў падтрымаць страйкоўцаў не адзін і ад пачатку стаў поруч з лідарамі самаабароны. Да іх далучыліся адстаўнікі – афіцэры-вайскоўцы, якія разумелі неабходнасць арганізаваных атрадаў.

Гэтым Уладзя і прыцягнуў да сябе больш пільную ўвагу. Менавіта тады

пачаў яго абходжваць Славік-бард, з якім ён пазнаёміўся некалі на пасяджэнні “Тутэйшых”. Славік-бард, не па гадах каржакаваты і шыракаплечы, з крывымі, як у кавалерыста нагамі і рукамі каваля, у якіх гітара здавалася дзіцячай цацкай, нібыта выпадкова ўбачыў яго на плошчы і падыйшоў са словамі пра тое, што час ужо са зброяй змагацца за незалежнасць Беларусі, што трэба ствараць вайсковыя адзінкі – гэтыя думкі Уладзя ўголас ніколі не выказваў, але і не здзівіўся: імі было насычанае само паветра над пляцам і не аднаму яму прыйшлі яны ў галаву. Славік-бард увесь час круціўся каля яго і, безумоўна, пралічыў, што адбываецца. Зрэшты, схаваць тое было цяжка, а хутчэй – проста немагчыма. Да Уладзі падыходзілі хлопцы, дакладвалі пра сітуацыю. Акрамя таго была эйфарыя – партбосы перапалохаліся, здрэйфілі. Адчувалася, што іх стаўленік неўзабаве будзе адпраўлены ў “задні праход”. Надзея на блізкія перамены стала такой рэальнай, што і Уладзя сам, відаць, трохі страціў пільнасць.

Увогуле, быў ён максімальна асцярожным, да чаго прывучаў і сваіх хлопцаў, бо не вельмі давяраў розным “знаёмым”. Асабліва тым, хто дужа выхваляўся сваёй смеласцю. Не любіў ён і паказны (фальшывы) патрыятызм, які раптам стаў папулярным, і на вачах ператвараўся ў шавінізм, асабліва ў Расіі. Хапала падобных “патрыётаў” і ў Беларусі, якія адкрыта хадзілі з “Пагонямі”, намаляванымі на куртках на ўсю спіну, і лаялі ўжо не бальшавікоў, а маскалёў. Ён такіх да сябе стараўся не падпускаць. Яны падаваліся яму правакатарамі, бо сваім паказным “гераізмам” маглі нарабіць толькі шкоды і адвярнуць ад нацыянальнай ідэі звычайных людзей. Больш за тое, яшчэ з гомельскай “Талакі”, ён засвоіў ісціну, што самыя “смелыя” ў падпольнай барацьбе якраз тыя, хто мае “дах” і не абы-дзе, а менавіта ў “органах”. Яны правакуюць іншых на неабдуманыя ўчынкі. І таму трэба баяцца не тых, хто асцярожнічае, а тых, хто празмерна актыўнічае і падбівае супольнікаў на “смеласць”. Гэта чыстая падстава... З часам ён пераканаўся, што не памыляўся. І сапраўды, самыя смелыя і рашучыя ўрэшце-рэшт і аказваліся правакатарамі. А з іншага боку – некаторыя з ціхмяных, што наведвалі паседжанні той жа “Талакі” ці “Тутэйшых”, таксама былі са “стукачоў”, бо прыходзілі сюды, як на працу – ім было нецікава, яны з цяжкасцю даседжвалі да канца і ажывалі толькі тады, калі можна было разыходзіцца, ісці дамоў...

Славік-бард быў якраз са “смелых” і “актыўных” (меў заўсёдную кідкую бел-чырвона-белую стужачку на галаве, некалькі значкаў з “Пагоняй” на грудзях і нязменную сімпатыю ў моладзі), лез не ў свае справы і быў для любой дзіркі затычкай, таму ў фронце яму не дужа давяралі. Уладзя таксама трымаў Славіка-барда на адлегласці і да стварэння самаабароны не падпускаў і блізка. Але і “службы” не драмалі, справу сваю ведалі і цягнулі лямку да апошняга, па-свойму рыхтуючыся да мажлівых пераменаў...

Аднойчы ў другой палове дня Уладзя са Славікам-бардам разам выйшлі са штаб-кватэры фронту.

– Табе куды? – спытаў Славік-бард.

– На праспект Казінца, на сустрэчу.

– А мне на плошчу ягоную. Па дарозе, значыць. Давай таксоўку возьмем на дваіх, напалам...

– Давай, бо я не паспяваю.

Славік-бард кінуўся да вуліцы з узнятаю рукою. Праз колькі імгненняў каля яго спыніліся чырвоныя “жыгулі”. Прыватнік, але якая розніца, цяпер

многія так зарабляюць, спакойна падумаў Уладзя. Славік-бард зазірнуў у салон, перамовіўся з кіроўцам і паклікаў яго.

– За дзясятку завязе. Сядай, – і сам сеў наперадзе.

На светлафоры "жыгулі" прыпыніліся, прыцерліся да збочыны. Уладзя не паспеў зрэагаваць, не зразумеў нават, што адбылося: з двух бакоў да машыны падыйшлі моцныя мужчыны, расчынілі дзверы і селі справа і злева ад яго. "Ня рыпайся, парэнь", – папярэдзіў адзін з іх, які быў у джынсоўцы: – "Сядзі спакойна і ўсё будзе хара... добра", – дадаў другі.

Машына ірванула да выезду з горада. Мужчыны былі мускулістыя, "качкі" казалі пра такіх, і Уладзя нават праз адзенне адчуваў як перакатваюцца іх цягліцы – сядзець было цесна. Ён разумеў, што гэта не жарты. Але і не ўяўляў, што можа быць далей. Да Славіка-барда не апеляваў, бо той увагнуўся ў пярэднім крэсле, уціснуўся ў яго, каб быць не бачным яму.

– Задумаў гуляць з намі? Не выйдзе – не такіх абломвалі, – пачаў казаць той, што сядзеў злева, звяртаючыся, вядома ж, да Уладзі, але гледзячы наперад, застаючыся нерухомым, як помнік. – Думаў абдурыць нас, даваць дазаваную інфу... – Павысіў голас да злосці і павярнуўся да Уладзі. – Ты, сапляк, хацеў абыграць нас! Сваім дакладваць усё, а нам херню падсоўваць?.. Спачатку падпіску даеце, а потым у сваіх выданнях прызнанні друкуеце, як вас "стукачамі" рабілі. Свалата! Чысценькімі хочаце быць, калі смажаным запахла. Не выйдзе... Не на тых нарваліся!.. Мы ж цябе папярэджвалі, што ў нас вушы ўсюды, а рукі – доўгія... Войска ствараць надумаў – не выйдзе. Незалежнасці захацелася... Перакрыем кісларод. Мы вам галаву падняць не дадзім. Беларусь заўсёды была з намі і нікуды мы яе не адпусцім... І прыбалтаў таксама. Хай яны пацешацца пакуль. А ў вас такія думкі – прысячэм на корані. Паднялі галаву з дзярма – шах, і няма галавы.

Уладзя слухаў моўчкі, прыкідваючы, што для яго асабіста могуць азначаць гэтыя словы "прысячэм на корані", якія ён ужо чуў некалі? Любяць яны так казаць: "прысячэм на корані", "перакрыем паветра", любяць папалохаць... Але гэтым разам, у машыне, якая, падобна, імчыць за горад, гучалі яны не папераджальна, а страшней. Няўжо адважацца на... Не, відаць, прыпужаюць толькі.

Далей ехалі ў цішыні. Мужчыны надзьмута маўчалі, гледзячы ў вокны. Уладзя згадаў, што ў апошнія дні зніклі некалькі хлопцаў, з тых, што таксама не сядзелі склаўшы рукі. Іх пакуль не шукалі, бо нехта распаўсюджваў чуткі, што з'ехалі: хто дамоў – у іншы горад ці вёску, а хто да знаёмых ва Украіну, у Расію... Ды і ці будзе нехта шукаць кагосьці ў гэтай мітусні, у гэтым хаосе, што цяпер вакол. Кожны дзень знікаюць людзі на дарогах, найперш тыя, што едуць на сваёй машыне ці гоняць сабе машыну з-за мяжы. Дарога Брэст-Масква, да якой яны, падобна, кіравалі, ад заходняй мяжы да Смаленска падзеленая на ўчасткі ўплыву паміж бандамі рэкеціраў, якія дзейнічаюць жорстка і беспакарана. І міліцыя альбо нічога зрабіць з імі не можа, альбо сама ў долі...

Выехалі з горада. Уладзя разумеў, што яго заманілі ў гэтую машыну – Славік заманіў, – каб... Зноў не хацелася пра гэта думаць... Ён варухнуўся інтуітыўна, і тыя двое напружыліся і цісканулі яго з бакоў: "Ціха!" – прабурчэў адзін з іх і балюча штурхануў локцем. "Ну што ж, так проста я вам не дамся", – падумаў Уладзя, калі ўбачыў, што машына звярнула з шасейкі да ляска. Але і амбалы ведалі, пэўна, што ён самбіст. Як толькі "жыгулі" спыніліся, адзін з іх рэзка нахіліў яго галаву і ўдарыў рабром далані па карку. Уладзя на імгненне "адключыўся". Як мяшок выцягнулі яго

з машыны, аднак ужо ў наступны момант ён ачуўся. Згадалася “вучэбка”, але там быў цесны пакой, а тут вольны лес. І ён вырашыў не адбівацца, а паспрабаваць збегчы, уцячы. Ён бы вырваўся і, магчыма, уцёк, каб не Славік, які апынуўся ззаду. Калі амбалы адляцелі пасля падсечкі аднаму і ўдару ў пахвіну другому, Славік ускочыў яму на плечы, абхапіў рукамі шыю і павіс на ім, душачы і завальваючы на зямлю... Тут падаспеў кіроўца з нечым металічным у руках... Славік адхінуўся, трымаючыся за правае вока: Уладзя паспеў гвазДануць яму локцем.

Білі доўга. Ён аказаўся жывучым. Хацелі з’імітаваць бойку – нібыта напалі на яго нейкія п’янтосы, але грошай не знайшлі і ў злосці забілі насмерць. Таму зброі ніякой не скарысталі. Нават нажоў. Дабівалі нагамі і падабранымі пад дрэвамі тоўстымі галінамі, бы доўбнямі...

Нарэшце, Уладзя здаўся, абмяк. Пульс не прамацваўся, сэрца замёрла, не шалохалася. І тады Славіку загадалі зацягнуць яго пад куст і шваркнуць пляшкай па галаве...

## 3.

Ісці наўпрост у міліцыю Люда не адважылася: як патлумачыць, хто яна такая Уладзю... Паспрабавала спачатку знайсці Андруся, які быў земляком і даўнім сябрам Уладзі. Яна ведала, што ён працуе ў рэдакцыі адной з газетаў.

Ёй пашанцавала – Андрусь якраз быў на месцы, у сваім кабінеце: толькі што вярнуўся з камандзіроўкі. Пра знікненне Уладзі ён, вядома, нешта няпэўнае чуў, але не надаў значэння. Пераехаўшы з сям’ёю – малымі дзецьмі і жонкай у чужы горад, ён так закруціўся ў сваім бескватэр’і, безграшоўі, дробных праблемах ды клопатах, што за месяц нават не пацікавіўся лёсам сябра: Уладзя не турбуе, значыць, усё добра.

Яму было сорамна і няёмка перад Людай. Ён гатовы быў на любую дапамогу ёй, каб хоць крыху згладзіць, змякчыць сваю віну.

– Што рабіць?.. Што рабіць?.. Што можна зрабіць? – Андрусь узбуджана хадзіў па кабінеце, разумеючы, што месяц не малы тэрмін, каб без дай прычыны не з’яўляцца ў кватэры. – Эх, Уладзя! Эх, Касінер... Памятаеш, мы так яго звалі... Дзе ты? Як ты?. І дзе цябе шукаць?

Вядома, спадзявацца на тое, што Уладзя раптоўна захварэў ці патрапіў у аварыю і знаходзіцца недзе ў бальніцы не выпадала. Знайшоўся б за гэты час, азваўся нейкім чынам, хоць бы бабулі патэлефанаваў... Ці з бальніцы паведамілі б... Тым болей – яго шукала міліцыя. Пайсці туды? Так. Але спачатку трэба на былую працу Уладзі ў інстытут...

Сакратарка на факультэце відочна спалохалася, пачуўшы прозвішча Уладзі. Убачыўшы журналісцкае пасведчанне, яна, нічога не патлумачыўшы, правяла Андруся і Люду да загадчыка кафедры. Той расказаў ім: прыходзіў следчы, распытваў яго ды іншых... Непрыемна зморшчыў вусны і выдаў сваю версію таго, што адбылося, пра якую ведае цяпер увесь інстытут: маўляў, Уладзя быў замешаны ў нейкіх грашовых – валютных, – падкрэсліў ён, – махінацыях, на яго наехаў “рэкет” і ён прапаў... Знік сам ці дапамаглі... А, можа, і схаваўся недзе... Краіна ў нас вялікая: ад Брэста да Курыл... І цяпер на яго аб’яўлены ўсесаюзны вышук.

Андрусь і Люда зразумелі, чаму ў інстытуце ад іх, як ад пракажоных, шугаліся ўсе, калі толькі чулі прозвішча Уладзі. І толькі на выхадзе

прыпыніла і адклікала іх убок адна жанчына. Сказала: “Не верце нікому... Ніякі ён не валютчык. І ніколі нічым такім не займаўся. Гэта ўсё прыдумка гэбістаў. Ён сумленны хлопец... У апазіцыі быў. Я ведаю... Знайдзіце яго. Ён пакутуе ні за што... не верце нікому... не верце...”, – заплакала і знікла за дзвярыма аўдыторыі.

Узрушаныя Люда і Андрусь нават не спыталі, хто яна. Але слова «пакутуе» іх абнадзеіла.

На жаль, паход у міліцыю пасля гэтага таксама нічога не даў. Следчы, які вёў справу аб знікненні, сказаў ім пра “таямніцу следства” і пра тое, што на Уладзю аб’яўлены вышук. І дадаў: хутчэй за ўсё Уладзі ўжо няма сярод жывых, проста труп пакуль не знойдзены. Так і сказаў: труп...

– Як такое можа быць у наш час? – перапытаў Андрусь. – Быў чалавек і няма...

– Ведаеце, колькі ў нас цяпер такіх выпадкаў? Забылі ў якой краіне жывяце! – следчы раптам перайшоў на крык. – У нас ёсць звесткі, што ён займаўся валютнымі афёрамі! У асабліва буйных памерах! І за гэта яго маглі б прыбраць кампаньёны, якіх ён падвёў, ці канкурэнты.

– Ды не мог ён гэтым займацца...

– Адкуль вы ведаеце? Вы што – працавалі разам? Ну-ну, раскажыце. Можа, і прасвятліце нам цёмную справу, бо гэты “вісяк” мне абсалютна не патрэбны...

– Мы проста даўнія знаёмыя, сябры, і з ім ніякім чынам не працавалі. Я ўвогуле жыву ў вёсцы далёка ад Мінска, – сказала Люда.

– У вёсцы? Добрае прыкрыццё. Ну-ну... расказвайце... сябры.

– Вы што? – раззлавалася Люда. – Мы да вас па дапамогу, а вы свае праблемы на нас перакідваеце?

Следчы памякчэў:

– Прабачце, праца такая. Разумею, вам балюча гэта чуць... Але я не жартую. У нас нераскрытае злачынства – чалавек знік... І надзеі на тое, што ён знойдзецца – нуль працэнтаў... Таму я і чапляюся за любую нітачку.

На тым і развіталіся. Праўда, следчы ўсё ж узяў у іх кароткія паказанні пра знаёмства з Уладзем і ягонае жыццё да знікнення.

Выйшлі з міліцэйскага аддзялення Андрусь і Люда яшчэ больш засмучаныя, чым да таго.

– Што рабіць? – зноў спытаў сам у сябе Андрусь, – што будзем рабіць?

Паглядзеў на Люду... Што яны маглі зрабіць? Распачаць сваё следства? Якім чынам? Калі міліцыя за месяц нічога не знайшла... Яны і падумаць не маглі, што следчы, гаворачы пра труп, ведаў, што кажа, але яму настойліва параілі “забыцца” на гэтую справу, а ўсіх, хто будзе цікавіцца лёсам Уладзі – фіксаваць і пра іх дакладваць...

А тады Андрусь і Люда, агаломшаныя няўдалымі пошукамі, вырашылі пачакаць крыху – а раптам нешта прасвятліцца...

## 4.

Так прайшло амаль тры гады.

Тры гады, скрозь якія Люда не забывала пра Уладзю. Аднак – зноў і

зноў паўставала тое ж пытанне: што яна магла зрабіць? Пісаць кудысьці... Нешта патрабаваць... Але ў краіне такое бязладдзе пачалося. Сапраўды, развал. Ва ўсім. Найперш у эканоміцы. А потым і развал самой краіны пад гучнай назвай СССР. Якія там пошукі... Каму цікавы лёс нейкага чалавека, калі такое адбываецца...

І ёй заставалася толькі спадзявацца... На што? На Бога, на лёс...

На Бога... Яна згадвала тую іхнюю наіўную клятву ў вернасці перад алтаром разбуранай Валатоўскай царквы пад Гомелем і думала: ну хіба ж яны маглі прадбачыць такое? Баяліся Афганістана, лічылі, што самае страшнае можа быць там, але абышлося. А бяда прыйшла адтуль, адкуль яны зусім не чакалі...

Аднак, чым болей праходзіла часу, тым меней заставалася надзей на тое, што Уладзя жывы і знойдзецца. Спачатку яна думала, яго выкралі каўказцы да сябе ў рабства – такіх выпадкаў напрыканцы васмідзясятых, пачатку дзевяностых, было шмат. Хлопцы вярталіся з Чачні ці Дагестана, бывала, праз год-два і расказвалі журналістам жахі пра тое, што там робіцца, колькі славянаў знаходзіцца ў палоне як бяспраўныя рабы. Потым і гэтая надзея адпала... Сказаць, што яе амаль не было і на пачатку, пасля звароту ў міліцыю? Можа, й так. Толькі нешта ўсё ж стрымлівала Люду, нейкая патаемная, да канца не асэнсаваная нават, вера жыла ў ёй, што яны з Уладзем яшчэ ўбачацца...

Яна скончыла ўніверсітэт і засталася працаваць у той самай вёсцы, куды з’ехала па пераводзе на завочнае аддзяленне. У прычарнобыльскай вёсцы, дзе дзяцей у школьных класах з кожным годам меншала, якая памірала на вачах, бо жыхары з’язджалі з яе ў “чыстыя мясціны”. Трэба было і ёй уцякаць адгэтуль, ад усюдыпранікальнай радыяцыі, але яна прывыкла да дзяцей і не хацела пакідаць іх. Ды і як тут кінеш, куды паедзеш? Надта цябе чакаюць недзе...

Замуж не выйшла. Ад саўгаса атрымала катэдж з невялікім агародзікам – застаўся ад збеглага пасля Чарнобылю “спецыяліста”: парторга. Згадвала шчаслівыя хвіліны, што правяла некалі з Уладзем, і не бачыла нікога побач, хто мог бы замяніць яго. Вядома, мясцовыя хлопцы, трактарысты ды шафёры, заляцаліся да яе. Закахаўся нават адзін вучань-старшакласнік, які ёй і пасля школы год праходу не даваў, пакуль не забралі ў войска. Ісці за якога-небудзь іншага “трактарыста” яна не хацела. Хоць, што гэта азначае “за трактарыста” – галоўнае, каб чалавек быў талковы, казала ёй завуч Антаніна Пятроўна, якая сама гадоў трыццаць таму прыехала ў гэтую вёску па размеркаванні і засталася на ўсё жыццё, пабраўшыся з мясцовым хлопцам, на той час якраз трактарыстам. Хлопец з яе дапамогай скончыў Горацкую акадэмію і цяпер працаваў галоўным аграномам у калгасе. І яна, і ён усім былі задаволеныя, выгадавалі трох дзяцей, якія раз’ехаліся па краіне: старэйшая дачка працавала доктарам ажно на Сахаліне, а сыны жылі ў Мінску, і меншы давучваўся ва ўніверсітэце на юрыста...

Так то яно так, думала Люда, адна, вядома, не пражывеш... Дый нічым я не абавязаная Уладзю, не салдатка, не з вайны чакаю. Ну, сябравалі некалі, ну, знік ён трагічна, дык не трываць жа з-за гэтага ў адзіноце ўсё жыццё...

Дарэчы, пра гэта, пра Уладзю, у школе іхняй ніхто не ведаў. Ну, пэўна, і здагадваліся, што быў у яе некалі недзе сябар, але што з ім сталася – ніхто і не думаў: ці мала што па маладосці бывае – пасустракаліся і развіталіся... “Няшчаснае” студэнцкае каханне – звычайная рэч. Таму, можа, і выяўляла клопат да яе Антаніна Пятроўна, бо спачувала.

Усё так, зноў і зноў думала Люда, але супраць сваёй волі падпусціць да сябе кагосьці не жадала. Казала сабе: ну няхай прыйдзе каханне – такое, як у кніжках пішуць, калі за каханым хоць у горы... хоць на край свету... Гэта ж не выдумка, так і сапраўды бывае... А пакуль такога няма, дык навошта ж самой сябе гвалтаваць... І яна ўвесь свой час аддавала вучням, была іх любімай настаўніцай, і яны ёй замянялі і магчымага мужа, і сваіх дзяцей...

І толькі прачнуўшыся раптам сярод ночы, яна ціхенька плакала над сваім лёсам, над сваёй адзінотай... І думала, што трымае, не адпускае яе нешта ці нехта, хоць ты да бабак ідзі... І гэта не толькі памяць пра Уладзю. Хутчэй – гэта надзея, што ён недзе ўсё-ткі ёсць, жывы: бо магілкі ж ягонае няма... А таму трэба шукаць альбо яго, альбо... Не, пакуль не пабачыць яна ягонай магілкі – ён жывы, жывы!.. І зноў, і зноў успаміна яна тыя іх, зробленыя ў царкве пад адкрытым боскім позіркам з блакітнага неба, заручыны... Жартам ці ўсур'ёз зробленыя... Неістотна. Але ёй яны, тым болей цяпер, успрымаліся якраз усур'ёз.

Бо было тое ў царкве...

## 5.

Амаль тыдзень Уладзя праляжаў пад кустом. Удзень сонца свяціла яму ў самы твар. Спачатку голае голле ніяк не абараняла яго, але лістота на дрэвах і кустах з кожным днём распроствалася і гусцела... Твар ягоны і рукі абляплялі мухі ды мурашы. Ён ляжаў нерухома, але – ён быў жывы. Ён правальваўся ў пустэчу, а потым на хвілю выходзіў з яе, каб застагнаць і зноў праваліцца. Ён не памятаў ці расплюшчваў хоць раз вочы пад тым кустом. Ён не памятаў голля над сабою. Ён не памятаў нават сонца. Ён памятаў толькі ягоную спякоту і жар. Быццам сядзіць блізка да расчыненай грубкі. Колькі разоў цемра рассоўвалася. Гэта было тады, калі да яго прыходзіла маці. Яго родная мамачка, памерлая пры родах і якую ведаў ён толькі па адным здымку, знойдзеным у свайго дзядулі – яе бацькі. Мамачка – так ён называў яе, у адрозненне ад мачыхі, якую клікаў мамай – была апранутая ў лёгкую белую сукенку. Такую лёгкую, што яна свіцілася наскрозь. Мамачка была маладой – ягонага ўзросту – і прыгожай-прыгожай – у такую можна было закахацца. Мамачка ўзяла яго за руку і павяла некуды сярод светла-туманнага мроіва. Яны былі адны, але ён нібыта ведаў пра прысутнасць іншых... людзей побач, хоць і не бачыў іх. Ён адчуваў сябе адначасна і дарослым, і маленькім. Яму было добра. "Мамачка, я хачу застацца з табой", – прасіў ён, але яна яму адказвала: "Не сынок, табе яшчэ рана сюды, табе трэба вярнуцца...".

Так паўтаралася двойчы. Не – тройчы. Апошні раз прыходзіла да яго мамачка перад тым самым момантам, калі яго знайшоў хлопчык з недалёкае вёскі. Вясна была сухой, лес стаяў пусты, і вяскоўцы ў яго амаль не хадзілі. А чаму забег туды хлопчык? Мо дубец які ці свістульку выразаць хацеў, ці проста паглядзець: мо паспелі першыя ягады, а мо і грыбы з'явіліся? Ён быў удзячны таму хлопчыку. Так, удзячны, але... Але недзе глыбока ўнутры сядзела крыўда на тое, што ён разлучыў яго з мамачкай...

Пасля мамачка больш яму не снілася. Нават цяпер. Хоць яму вельмі хацелася з ёй сустрэцца. Ён бы больш не прасіўся застацца там, але ў яго ёсць аб чым распытаць яе...

Што было тады і што было потым? Летаргічны сон? Кома? Гэта

вырашаць урачам. Але Уладзя насуперак усяму і ўсім – вярнуўся да жыцця. Не тое дзіва, што вярнуўся, а тое, што вярнуўся праз такі час у сваё ранейшае цела... Болей за тое – ён амаль не страціў памяць, што ёсць неверагодным, ён загаварыў, успомніў літары, увогуле, шмат чаго ўспомніў, што таксама неймаверна, бо самым натуральным было б, што, нават ажыўшы, ён застаўся б маўклівай раслінай, якая лыпала б вачыма, але не магла б ні паварухнуцца, ні нейкім чынам выказаць свае пачуцці, тым болей – думкі... А яго яшчэ і пацягнула на філасофстваванне, на думкі пра лёс і будучыню ча-ла-вецт-ва, чаго раней, у тым сваім жыцці, ён ніколі не рабіў і не зрабіў бы... “Філасофстваваць – значыць, вучыцца паміраць”, – згадаў ён вычытаны недзе афарызм і ўсміхнуўся сам сабе: старажытныя ведалі, дзеля чаго мы жывем, а я ўсё сумняваюся...

Так, ён вярнуўся ў жыццё, каб... вучыцца жыць і паміраць... Наноў... Хоць самым верагодным было – назаўсёды застацца яму ў тым стане, які называецца “нішто”...

Усе мы прыходзім у гэты свет з нічога і сыходзім у нішто, – хто раней, хто пазней... І жыццё нашае ўціскаецца між двума невядомымі, адпаведнікам якім можа быць толькі слова цемра: паміж цемрай і цемрай... У кожнага з нас спачатку была цемра, і кожнага з нас потым чакае цемра. Але ў асобных людзей ёсць шанец, трапіўшы ў “нішто” вярнуцца адтуль, трапіўшы ў цемру, вынырнуць з яе. Хто дае ім гэты шанец? За што? За якія такія заслугі і дзеля якіх такіх добрых ці кепскіх учынкаў? Альбо: за якія такія правіны і дзеля якіх такіх пакутаў?

Чаму замест насычэння сабою глебы і ператварэння ў глебу некаторых з нас пакідаюць яшчэ на нейкі час хадзіць і думаць, любіць і забіваць, быць і жыць?.. Я ж не хацеў вяртацца. Прасіўся застацца там, з мамачкай... Бо жыве кожны з нас на зямлі пакуль хоча таго, пакуль чапляецца за жыццё, пакуль не здаецца, пакуль мае мэту... Я не меў ні мэты, ні жадання. Дык навошта, чаму я вярнуўся?..

Ну добра, не памёр я. Не стаў зямлёй. Не падтрымаў сваімі сокамі жыццё травінкі, дрэўца... Што мне рабіць цяпер з гэтым шчасцем? Як яго скарыстаць? Калі нехта хацеў мяне зберагчы для людзей, дык чаму дапусціў маё знікненне, маю смерць? Калі вырашыў вярнуць, чаму не вярнуў адразу, а толькі праз гады? Навошта была перарваная повязь паміж мною і... мною? Дзе я быў увесь гэты час? Не разумею... Зусім не разумею. Таму і не радуюся сваймy вяртанню. Таму і не ведаю, што з ім рабіць. Таму і губляюся – як жыць далей? Дзе жыць? Тут, у гэтым доме-інтэрнаце? Ці ўсё ж паспрабаваць вырвацца адсюль?..

Стоп! Я зноў зусім забыўся на тых, дзякуючы каму я трапіў сюды. Не сумняваюся: яны не дрэмлюць. А значыць, усё толькі пачынаецца. Не з нуля, хоць і наноў. А значыць, жыццё мне зноў не пакідае выбару. Бо што там наперадзе? Што там...

Яго палохала гэтая невядомасць. І яму хацелася бегчы ад яе назад... ва ўлонне маці. Ён быў, як нованароджаны. Але ў немаўляці ёсць мама ці няня, ёсць нейкі апякун. У яго ж нікога не было. Ён быў адзін на цэлым свеце... Ці можа хто сабе ўявіць, як гэта цяжка быць аднаму?..

Ці можа хто сабе ўявіць, як гэта няпроста – нарадзіцца ў дваццаць восем гадоў?

І чым больш Уладзя згадваў, чым болей акунаўся ў існае і ўсведамляў сябе ў гэтым свеце, тым болей яму не хацелася выздараўліваць канчаткова, пакідаць інтэрнат і вяртацца ў звычайнае жыццё. Ён не ўяўляў сябе

там. Інтэрнат быў ягоным усім... І ўратаваць яго магло толькі тое, што знайшліся б ягоныя бацькі, родныя, знаёмыя... Але шукаць іх, каб стаць ім абузай, лішнім клопатам, ён не хацеў... І таму вырашыў закінуць свае запісы і ўспаміны... Спакваля спела ў ім жаданне застацца тут, у гэтым інтэрнаце, назаўсёды, бо нічога лепшага ён не ведаў, бо жыццё за ягоным парканам страшыла яго бязмежна... Бо тут ён не быў такім адзінокім, як там. Бо ніколі яму не снілася, не ўяўлялася, не бачылася ягоная будучыня. Ці ёсць яна ў яго? І якая яна? Яму чамусьці думалася, што яна светлая. Такое было адчуванне. Ён не мог пакуль зазірнуць у сваю будучыню і ўбачыць яе. Проста яна яшчэ не аформілася ў словы і вобразы, падзеі і факты... але яна ёсць... праўда ж, ёсць...

Уладзя падзяліўся гэтым са Станіславам Сцяпанавічам і той супакоіў яго: не хвалюйся, усё будзе добра, нікуды мы аднаго цябе адсюль не выправім... І дадаў: вучыцца табе трэба, прафесію нейкую набываць, а тады ўжо думаць пра далейшае... А вучыцца можна і жывучы тут – паступіць у інстытут ці ва ўніверсітэт завочна. Я дапамагу аднавіць патрэбныя дакументы...

Сам жа падумаў: ну вось, пачынаецца тое, чаго і баяўся – часовае прасвятленне заканчваецца, арганізм Славікаў здаецца... Цяпер можа развіцца рэгрэс і вяртанне назад у той стан, з якога ён так нечакана выйшаў...

А потым задумаўся: не, усё ж не хапае мне спецыяльных ведаў у гэтым канкрэтным выпадку... Можа, гэта і не рэгрэс зусім, а наадварот: Славік цалкам адаптуецца да жыцця і таму пачынае пакутаваць ад нармальных чалавечых страхаў – звычайных клопатаў звычайнага чалавека: як жыць, як выжываць, дзе жыць, за што жыць і гэтак далей?..

## 6.

І вось раптам Уладзя пачаў сніцца Людзе. Ледзь не кожную ноч. Сны былі розныя: і проста згадкі пра іх сустрэчы, і трохі нечаканыя... Яны прагульваліся з ім па Гомеля, як гэта і было раней. Ён быў вясёлым і гаваркім... Яна прачыналася і, уражаная сном, доўга не магла заснуць. Згадвала, пра што яны размаўлялі ў сне, каб выцягнуць адтуль нейкія звесткі, і не магла... Адна толькі думка ўсё мацней і мацней апаноўвала ёй: Уладзя жывы, ён недзе блізка, ён думае пра яе, кліча да сябе, просіць знайсці яго...

І яна вырашыла зноў пашукаць Уладзю. А раптам ёсць нейкае прасвятленне ў следстве, а раптам у міліцыі нешта даведаліся пра яго. А можа, і праўда ён знайшоўся. Вунь жа казалі па тэлевізіі, што чачэнцы па-ранейшаму выкрадаюць на вакзалах рускіх і вязуць да сябе ў парабкі, у рабы... І людзі гадамі працуюць на чачэнаў, жывуць у пакутах, пакуль нехта не вызваліць іх альбо самі нейкім чынам не ўцякуць... З-за гэтага вунь зноў размовы пра вайну пачаліся.

Яна неяк нават сама сабе паверыла, што Уладзя знайшоўся. Ну не мог спартовец, які прайшоў Афган, так проста знікнуць... У тое ж, што Уладзя быў замазаны ў нейкія валютныя ці грашовыя махінацыі, яна, ведаючы яго, не верыла ад пачатку.

Згадваўся ёй Уладзя, як жывы, і яна затоена лавіла ў сабе пачуццё, што па-ранейшаму кахае яго.

Пакуль я яго памятаю, думала яна, ён жывы, пакуль кахаю – не памёр...

І таму, пад канец летніх канікулаў, паехала ў Мінск.

Андрусь за тры гады змяніўся. Пасаліднеў, пакруглеў, адпусціў жывоцік і модную бародку. Стаў намеснікам галоўнага рэдактара адной з рэспубліканскіх газетаў. Сустрэўшы выпадкова на вуліцы, яна не адразу пазнала б яго. Вядома, пошукамі Уладзі ён не займаўся: наогул забыўся не толькі пра сябра і земляка, але і адышоў ад сваіх былых паплечнікаў з "Талакі" ды "Тутэйшых", цалкам аддаўся газетнай працы – на "культуру". Гэта было зразумелым у першых 90-х гадах, калі поўным ходам ішла беларусізацыя, калі была надзея на лепшае жыццё, але цяпер, калі пачаўся адкат па ўсіх пунктах, і калі зноў дзясяткі тысячаў людзей сталі выходзіць з пратэстамі на вуліцы... тое было, як здрада...

– Ведаеш, – сказаў збянтэжаны нечаканым прыходам Люды Андрусь, – столькі часу прайшло, а мне таксама нешта не спакойна на душы. Не сярэднявечча ж на двары, не вайна – канец дваццатага стагоддзя... А тут знік чалавек, і нікому няма да таго справы... Давай паспрабуем папытаць у былых ягоных сяброў. Можа, яны займаліся пошукамі. Калі ён і сапраўды знайшоўся, то не могуць жа яны не ведаць: хоць на каго ды выйшаў, хоць нехта ды нешта чуў... Уладзя даволі цесна быў звязаны з тагачаснай апазіцыяй... Яна, дарэчы, нягледзячы на перамены, засталася практычна той жа. Давай звернемся да іх. Няўжо і там ніхто не цікавіўся ягоным лёсам?

Пасля некалькіх размоваў і сустрэчаў з былымі "талакоўцамі", "тутэйшаўцамі" ды "франтаўцамі" аказалася, што апошнім, хто бачыў Уладзю быў Славік-бард. Так па ўсім выходзіла.

Славік-бард прыкінуўся спачатку, што не памятае пра каго ідзе гаворка. Потым "успомніў" Уладзю... Уладзю Касінера. Толькі ці ён апошнім сустракаўся з ім?

– Даўно тое было... – прамовіў ён і аблізаў засмяглыя вусны, – столькі гадоў прайшло, столькі розных падзеяў адбылося... – Ён відавочна цягнуў час, разважаючы, што і колькі можна сказаць, а пра што трэба маўчаць нават пад катаваннем... – Усё змяшалася, і нічога я дакладна не памятаю. Мы бачыліся з ім тады ледзь не кожны дзень. Былі агульныя справы... А потым ён раптоўна знік. Куды? Як? Не ведаю... Хлопцы расказвалі ў міліцыі былі нейкія версіі. Праўдападобныя і неправўдападобныя... версіі... Нешта пра мафію, валюту... Чым пошукі скончыліся, а яго доўга шукалі – не ведаю. Ці знайшлі вінаватых, ці знайшлі яго самога... Неяк не пацікавіўся. Закруціўся, як і ўсе мы. Хоць справа і сапраўды цёмная... Трэба было б да яе вярнуцца... Але, дакладна, калі б Уладзя знайшоўся, то мы ведалі б пра тое. Думаю, да нас бы ён прыйшоў абавязкова, адгукнуўся б... Тут яго сябры – куды ж яшчэ яму ісці, як не да нас...

На тым і развіталіся.

## 7.

У першы год, калі ў інтэрнат прывезлі Уладзю пад імем Славіка, ягоным лёсам з Мінску цікавіліся даволі часта: прыблізна раз на месяц. Але месяцы складваліся ў гады, а сітуацыя не змянялася, стан Уладзі заставаўся ранейшым. І званіць пачалі ўсё радзей і радзей. Пэўна, пераканаліся, што ён ужо не апрытомнее, альбо калі і ачуецца праз нейкі час, дык без памяці і згадаць ды распавесці пра сябе нічога не зможа. Апошні раз проста папрасілі Станіслава Сцяпанавіча паведаміць ім, калі нешта здарыцца. Пад гэтым "нешта" разумелася хутчэй смерць Уладзі, чым ягонае выздараўленне.

Станіслаў Сцяпанавіч падазраваў, што там, у Мінску, ведаюць сапраўднае

імя “Славіка” і ягоную гісторыю. Але да іх у інтэрнат прыйшла разам з ім толькі кароткая “суправадзілаўка”: знойдзены ў лесе каля вёскі... траўня... 1991 года ў непрытомным стане. Паводле экспертызы праляжаў гэтак не менш за тыдзень. Далей ішло апісанне ранаў, пашкоджанняў і мажлівых вынікаў, сярод якіх і амнезія – страта памяці...

Вядома, разумеў Станіслаў Сцяпанавіч, тут у іх ёсць чалавек (а магчыма і не адзін...), які сочыць і за гэтым хлопцам, і за ім. І той чалавек даўно ўжо далажыў куды трэба, што Славік акрыяў. Хто гэта мог быць? Станіславу Сцяпанавічу стала цікава. Ну, вядома, найперш той, хто абходжвае Славіка, хто цяпер у ягоных добрых сябрах: каб быць бліжэй да яго і, карыстаючыся бездапаможнасцю ды даверлівасцю, паспрабаваць выведаць, што ён успомніў. Хто? Баба Маня? Не, не можа быць... Сцяпан-слесар? Таксама рэальна. Хоць ён і вясковы, адсюль родам... Не дурны мужык. А ягонае захапленне шахматамі, дзіўнае для простага вяскоўца?.. Так, пэўна, дакладае нехта з іх. А ўвогуле, гэта можа быць любы чалавек, пра якога я нават і падумаць не магу – з санітараў, з персаналу, з хворых ці састарэлых... Казалі, што пры Сталіне кожны другі “стукаў” на свайго суседа. Дык ці далёка мы ад таго часу адыйшлі, ці шмат што з той пары змянілася? Дурдом застаўся дурдомам.

Што казаць пра дзяржаву... Ёсць і ў яго самога тут некалькі “добраахвотных памочнікаў” і сярод хворых, і сярод персаналу, якія перыядычна, а то і па-за чаргою, калі здараецца нешта неардынарнае, дакладаюць яму, пераказваюць падзеі знутры, з падрабязнасцямі: дзе, калі, хто, з кім... Некалі ён на пачатку працы першага, хто завітаў да яго з даносам – выгнаў, хоць той і дастаўся яму ў спадчыну ад папярэдняга дырэктара і зайшоў па звычцы. А потым сам зразумеў, што без гэтага нельга і пакрысе завёў сваю “агентуру”. Дарэчы, і Валодзька-афганец быў адным з такіх – вушлы хлопец. Калі б не інвалід – далёка пайшоў бы... Вось ён якраз і можа дакладаць яшчэ і некуды “наверх”.

Дваццаць пяць гадоў таму прыехаў Станіслаў Сцяпанавіч сюды, у гэтую вёсачку працаваць. Пагадзіўся нібыта на павышэнне – усё ж галоўным урачом і дырэктарам прызначылі. Вырваўся сюды з-пад Бранска – тады была адзіная дзяржава – і абраў ён Беларусь яшчэ і таму, што тут, у параўнанні з Расіяй, жылося багацей, сытней... спакайней і культурней. І ні разу не пашкадаваў, што пераехаў. Адзінае, не збіраўся ён надоўга заседжвацца ў вёсцы. Думаў перабрацца ў бліжэйшы горад. Але і не заўважыў, як уцягнула яго жыццё. Спачатку затрымала перспектыва – на мейсцы драўлянага дома-інтэрната запланавалі пабудаваць новы, каменны. Калі праектавалі, парваў нервы адбіваючыся ад шматпавярховіка. Аднак яго не паслухалі: падлічылі, што адзіны гмах абыдзецца ці не ўдвая танней... Потым пачалася будоўля, якой у значнай меры кіраваў ён, затым абсталяванне... Пераехалі ў новы дом, а тут падаспела “перабудова”. І пайшло-паехала: не агледзеўся, як яшчэ дзясятак гадоў праляцеў. А тут ужо і пенсія... абжыўся... відаць, і паміраць давядзецца на Палессі...

Станіслаў Сцяпанавіч зноў згадаў Славіка – так, з Мінска пакуль не турбавалі. Не званілі падазрона даўно: ужо каля года. А сам Станіслаў Сцяпанавіч не спяшаў набраць той нумар з візітоўкі. Але адчуваў, што вось-вось званок з Мінска будзе, думаў пра тое і не ведаў, як на яго адказаць. Што сказаць? Праўду? Ну, вядома, праўду... Толькі праўду... Але якую праўду і колькі? Хто можа быць тым чалавекам, які сочыць і за ім, і што ён паведамляе?

Той нежаданы званок пачуўся, як звычайна бывае, раптоўна і заспеў Станіслава Сцяпанавіча знянацку. Уздрыгнуўшы ад настойлівага і рэзкага гуку міжгародняга, ён зразумеў: адтуль... Цікавіўся той самы наўмысна металёвы голас, які ён не забыў. На пытанне: “Як там наш пацыент?”, Станіслаў Сцяпанавіч не змог адказаць адразу ж, а праз паўзу толькі прамармытаў нешта няўцямнае. На тым баку насцярожыліся:

– Што такое? Вы нешта недагаворваеце?

Што сказаць? Станіслаў Сцяпанавіч задумаўся. Усё вы разумееце, прыкідваў ён, не хацеў я вам званіць і не збіраўся... І не толькі таму, што Славік яшчэ зусім слабы, што яму трэба набірацца сілаў і залішняя ўвага “органаў” можа толькі нашкодзіць неакрэпламу розуму...

Але цяпер адмоўчвацца не выпадала, трэба было нешта казаць. Нават калі ён схлусіць, хлопца не зберажэ. Можа наадварот выклікаць на яго агонь. І на сябе. Бо наўрад ці інфарматары не даклалі ўжо пра падзеі тут.

Паўза зацягнулася, мінскі суразмоўца адчуў гэта і перайшоў на “ты”:

– Калі будзеш нешта ўтойваць ад нас, то мы хутка разбярэмся з табой. Сядзеш у два дні... Ведаем мы пра твае справы... Ну што там? Расказвай.

Станіслаў Сцяпанавіч узяў тэлефон і падышоў да вакна – пад дзвярыма ў двор інтэрната з ночы стаяў натоўп у чарзе на прыём да Славіка. “Ну, канечне, яны ўжо ўсё ведаюць. Дзіўна было б, каб не ведалі... Таму і тэлефануюць.”

– Я ўжо сам збіраўся пазваніць вам, – прамовіў ён. – Пацыент ваш... наш... нядаўна апрытомнеў... ажыў... прыйшоў у сябе... Ён ужо ходзіць, размаўляе... Але, на жаль, мы нічым вам дапамагчы не можам: ён абсалютна нічога не памятае... Нават сваё імя... Так-так, правяраю... Трымаю пад кантролем... Так-так... сачу ўважліва...

Станіслаў Сцяпанавіч, па вялікім рахунку, не хлусіў: ён быў упэўнены, што наўрад ці нехта акрамя яго штосьці ведае з таго, што Славік змог узгадаць пра сябе. Мінскі суразмоўца яго не даслухаў, перабіў груба і нярвова:

– Ага, пацыент нядаўна ажыў... І ўжо людзей лечыць... Будучыню прадказвае. На прэзідэнта клявешча...

Станіслаў Сцяпанавіч здрыгануўся: і гэта ведаюць...

– Якое там – ён зусім слабы. А тое, што слава такая пра яго пайшла, дык вы ж разумееце, як гэта ў нас бывае: не паспееш...

– Разумею, – абарваў яго мінскі голас, – але чаму адразу нам не паведаміў, як абяцаў, чаму маўчаў столькі часу?

– Ды я назіраў за ім, як вы і казалі...

– Назіраў... Чакай нас – прыедзем – разбярэмся... І – шукай сабе новую працу.

Размова абарвалася. Той чалавек нават не развітаўся, як бывала раней. Проста паклаў слухаўку, як кропку паставіў...

Станіслаў Сцяпанавіч некалькі хвілінаў яшчэ стаяў у роспачы, трымаючы ў руках тэлефон і не зважаючы на раздражняльны піск...

“Шукай працу...” Дзе яе шукаць у гэтай вёсцы, да якой ён ужо прывык, у якой прыжыўся і пакідаць якую ў ягоныя планы не ўваходзіла. Думаў, сустрэне тут старасць, нават месца на могілках прыгледзеў...

“Давядзецца, відаць, некуды з’язджаць, – сумна падумаў Станіслаў Сцяпанавіч... – Гэтыя людзі словамі не раскідваюцца...” Але куды? Куды з’язджаць?.. На радзіму, на Волгу, пад Кастраму? Цяпер, у такім узросце

– каму ён там трэба, пенсіянер... І тут на пенсію, без сваёй гаспадаркі, без сваёй кароўкі, не пражывеш. А яны з жонкай ніколі нічога не трымалі: жылі з інтэрната...

І непрыемнасць гэтая – хто б мог падумаць! – здарылася ў Станіслава Сцяпанавіча з-за Славіка... Але крыўды на яго не было. Надварот, чым болей Станіслаў Сцяпанавіч назіраў за ім, тым бліжэй і сімпатычней рабіўся яму гэты няшчасны, мілы і добры хлопец, у якім увасобіліся ці не ўсе лепшыя і горшыя рысы, характэрныя народу. Народу, што, як і Славік, праспаў сваю незалежнасць, не памятае свайго мінулага, адлічваючы яго то ад сямнаццатага, то ад сорага пятага года, баіцца пакінуць дурдом, які называецца "саўком", і зажыць самастойна, народу, які нават імя свайго не памятае – беларусы, крывічы, ліцвіны...

## 8.

Прыезд Люды і размова са Славікам-бардам абудзілі і Андруся. І ў яго не спадаў цяжар з душы наконт лёсу сябра. Столькі часу прайшло, а ён не парупіўся нават яшчэ раз пацікавіцца ў міліцыі, хоць можна было проста патэлефанаваць... І няма яму цяпер апраўдання нібыта жыццёвымі клопатамі, тым самым бескватэр'ем, якога ён так і не пазбавіўся. Бо, як кажуць, апраўданні прыдумвае той, хто не хоча штосьці рабіць...

Ён паверыў Людзе, што Уладзя і сапраўды можа быць жывым. Можа, пакуль дакладна не вядома іншае, пакуль, як яна кажа, няма магілы... Чакала ж ягоная бабуля свайго мужа з вайны, не верыла той паперцы "загінуў без вестак", усё думала, што недзе ў палоне, медсанбаце ці ляжыць пакалечаны ў доме інвалідаў... Былі такія выпадкі. І нямала. Чакала, чакала, а таму больш замуж так і не выйшла... І колькі такіх удоў па Беларусі... А некаторыя ж дачакаліся: "жди меня і я вернусь..." "Блін, прычым тут лірыка...", – раззлаваўся Андрусь на сябе. Але дзе ж Уладзя можа знаходзіцца ўвесь гэты час? У турме? Гэта адпала пасля першых жа росшукаў. У міліцыі б ведалі і не ўтойвалі. За мяжой? Эміграваў? Мажліва. Але ў яго не было падставаў па-першае, з'язджаць-уцякаць, па-другое, не было прычынаў так доўга хавацца і не адгукацца. Абавязкова азваўся б нейкім чынам, даў бы знак сябрам: мне, фронтаўцам ці таму ж Славіку-барду. Дый не такі ўжо й вялікі наш свет, каб у ім схавацца з канцамі можна было...

Значыць, калі ён жывы, то трэба шукаць. Дзеля Люды, дзеля сябе самога... Яго выкралі? Можа быць. Чуў пра такія выпадкі. І бывала, што вярталіся людзі з Каўказа – пакалечаныя фізічна, маральна зламаныя. Як журналіст ён у гэта верыў. Але сам з такім не сутыкаўся. Усё можа быць. Аднаго не павінна – не можа цяпер знікнуць чалавек бясследна, і каб ні міліцыя, ні родныя не знайшлі яго ці... ягоную магілу, хоць бы праз год, праз два... праз тры...

Аднак, і тут ён зноў пачынаў сумнявацца, бо адразу разумеў: няма надзеі, што Уладзя недзе жыве і не падае пра тое знаку. І ўсё ж – а раптам? Можа, сапраўды займеў нейкі бізнэс – жылка такая ў яго была – з'ехаў у Маскву ці Піцер да сваіх афганскіх аднапалчанаў, змяніў пашпарт і грамадзянства, ажаніўся і жыве сабе прыпяваючы, забыўшыся і на Беларусь, і на беларускасць, і на мары юначыя...

Але першыя спробы пошуку Андрусю нічога не далі. Не было такога чалавека і ўсё. Нават аднафамільцаў-цёзак па ўсім былым СССР не

знайшлося. Сідарэйчанка Уладзімір Лаўрэнавіч (дзякуй бацьку за рэдкае імя і прозвішча) ні ў якіх спісах пасля 1991 году не значыўся. Быў ён у ліку студэнтаў, быў сярод тых, хто служыў у Афганістане і, аказваецца, узнагароджаны медалём “За адвагу”, пра што Андрусь не ведаў, бо Уладзя не хваліўся, быў у спісах зніклых вясной 1991 года. А далей – цьма, цемень, цемра, цішыня, пустэча, пустэльня... Ні магілы, ні пазнакі нейкай апроч: знік і знаходзіцца ў вышуку... Адзіны, апошні варыянт яму параіў праверыць ягоны рэдактар, з якім ён неяк падзяліўся сваім клопатам.

– Бываюць выпадкі, – сказаў рэдактар, – калі чалавек пасля траўмы ці няшчаснага выпадку, стрэсу, нейкага нягеглага падзення альбо ад таго, што злачынцы напояць нечым, каб абабраць, губляе памяць, забывае і не можа ўспомніць, хто ён. Такіх людзей звозяць у спецыяльныя бальніцы, а то і ў псіхбальніцы. Пашукай у іх.

Гэта быў варыянт, пра які Андрусь сам чамусьці не падумаў.

Але нідзе ў бальніцах і псіхбальніцах Сідарэйчанка У. Л. не значыўся. Не было такога хворага. Ну не значыўся і не дзіва: ён і не мог значыцца, паколькі там былі тыя, хто не памятаў, як іх завуць і каго не знайшлі родныя. Такіх было не дужа шмат на ўсю Беларусь і Андрусь, каб пераканацца, у Мінску сустрэўся ледзь не з кожным з іх, хто падыходзіў па ўзросце. Уладзі сярод іх не было, хоць кожны пазіраў на Андруся з надзеяй: а раптам я той, каго ты шукаеш?

Урэшце яму параілі з’ездзіць у адзіны на Беларусі інтэрнат, у які звозяць з усёй краіны самых безнадзейных хворых, што не памятаюць сябе, не могуць нічога ўзгадаць, і каго не пазнаў і не шукае ніхто з родных. Там запісваюць іх пад нейкімі клічкамі, нумарамі, ці месцам, дзе іх знайшлі: Слуцкі, Хвайніцкі, Пінскі ці яшчэ як...

– А раптам вам пашанцуе, – сказаў, прыкурваючы ў Андруся, незнаёмы ўрач з псіхбальніцы ў Навінках, сказаў і глыбакадумна пусціў дым у неба: – Такія выпадкі бываюць... Рэдка, але бываюць.

## 9.

Сны не давалі спакою Людзе. “Жывы ён, жывы...” – убіла яна сабе ў галаву, але дзе ён, як яго шукаць?

У адну з суботаў яна вырашыла з’ездзіць да бацькоў Уладзі – можа, яны што ведаюць... І была страшна здзіўлена тым, што яны ўжо і забыліся пра адзінага сына.

Бацька, праўда, пусціў п’яную слязу, а мачыха толькі галавой пахітала: прапаў, прапаў і дзе магілка нават не знаем...

– Міліцыя прыязджала, донька мая, – ласкава сказала мачыха, – аж з Мінска. Путаліся пра яго. Мусіць, шукалі, правяралі ці не ў нас дзе схаваўся?

“Ага, – падумала Люда, – раз шукалі, значыць, ёсць надзея, што ўсё ж не загінуў...”

– А што пыталі?

– Калі паследні раз прыяжджаў дадому, што казаў...

– А што з ім магло здарыцца не паведамілі?

– Не, толькі ў нас путаліся, а нам нічога не казалі.

– А вы ў іх чаму не спыталі, дзе ён?

– Дзе там... Перапужаліся самі, тайка мая. Страх такі: ета ж мі-лі-іцы-я... – Мачыха так жаласліва і маркотна зірнула на Люду, што ёй стала няёмка:

вядома ж, мачыха разумела, што зусім невыпадкова Люда прыехала да іх і пытае пра Уладзю.

У аўтобусе па дарозе дамоў Люда пачула размову двух бабулек, што сядзелі паперадзе: у суседнім раёне, у доме-інтэрнаце, з'явіўся чалавек, які не толькі лечыць людзей ад усіх хваробаў, як Кашпіроўскі, але і знаходзіць прапалых родных. Да яго з усёй Беларусі цяперака едуць... І ўсім памагае.

“Во яно, тое, што мне трэба... – з радасцю падумала Люда, – на бліжэйшыя выходныя трэба будзе паехаць да яго. А раптам... раптам ён і мне дапаможа ці падкажа што...”

Дамоў яна вярнулася з надзеяй на невядомага “экстрасэнса”. І тут ёй пазваніў Андрусь. Распавёў пра свае пошукі і пра апошнюю зачэпку – дом-інтэрнат.

– Не можа быць, – сказала Люда, – гэта ж зусім недалёка і ад мяне. А ад вёскі ягоных бацькоў дык і ўвогуле – літаральна дваццаць кіламетраў праз лес...

– І тым не менш, – сказаў Андрусь, – мяркую, варта праверыць і гэты варыянт, каб потым быць спакойным. Заўтра я еду туды, у той дом-інтэрнат. Калі хочаш, па дарозе заскочу па цябе і разам пабудзем.

– Вядома хачу. Я сёння чула, што там жыве чалавек, які дапамагае адшукваць родных. Заадно паспрабуем з ім сустрэцца і пагутарыць...

## 10.

Прыход журналіста і Люды Славіка-барда насцярожыў. Ён пастараўся забыць, выкрасліць з памяці той выпадак з Уладзем. Былі за гэты час у яго іншыя, больш рызыкоўныя заданні. Але тое было ці не першым сур'ёзным выпрабаваннем. Хоць увогуле “сакрэтна супрацоўнічаць” ён пачаў яшчэ студэнтам і да “Тутэйшых” прыбіўся невыпадкова.

Шмат вады за прамінулы час сплыло. Дабраўся ён да вяршыняў апазіцыі... Утварыў сваю арганізацыю, вядомую экстрэмісцкімі, правакацыйнымі дзеяннямі ды заявамі. Сярод іншых “апазіцыйных дзеячаў” ён вылучаўся сваёй актыўнасцю, рашучасцю і неардынарнасцю ўчынкаў ды выказванняў, за што яго адныя паважалі, а другія ненавідзелі, бо ягоныя выхадкі, пошленькія песенкі ды цытаткі з “прамоваў”, улады напоўніцу скарыстоўвалі супраць апанентаў – пісалі ў газетах, паказвалі па тэлебачанні, маўляў, бачыце якія яны і чаго хочуць....

Але ўпэўненасць той дзяўчыны, што Уладзя жывы, вымусіла яго перастрахавацца, пайсці да “куратара” і распытаць. Хоць да таго ён ні разу і на хвілю не засумняваўся, што Уладзі ўжо тры гады няма на гэтым свеце. Больш за тое, ён на ўсе сто адсоткаў быў упэўнены, што так і ёсць. Бо сам жа... Аднак пераканацца не пашкодзіць...

“Куратар” пасмяяўся з яго: знайшоў, што ўспамінаць. І адразу ж, нібы дубінай, аглушыў навіной, што Уладзя і сапраўды жывы і яны за ім сочаць...

– Як жывы? – перапытаў Славік, – не можа быць! Мы ж разам... – замоўк агаломшаны.

– Жывучы аказаўся... Праз тыдзень знайшоў яго хлапчук у тым ляску. Завезлі спачатку ў трупярню, а потым адзін дурань, які пачуў стогны, адправіў яго ў бальніцу. Тут мы ўжо нічога рабіць не сталі... Але не хвалюйся так: ён нічога не памятае. Не ведае нават, як яго звалі, хто ён і адкуль. не

дзіва – звычайная справа для тых, хто перажыў такое і праляжаў у коме столькі часу... Жыве ён, дарэчы, пад тваім імем: Славік. – "Куратар" падняў вочы і ўгледзеўся, як той рэагуе. – Да нядаўняга часу ўвогуле ляжаў, як мяшок з гаўном. А вось колькі месяцаў таму раптам ачуняў трохі, пачаў нават хадзіць... – "Куратар" выйшаў з-за стала, падыйшоў да Славіка, паляпаў па плячы. – Ды, не хвалюйся ты так, мы сочым за ім. Там у нас свае "памочнікі" ёсць. Дакладаюць. Нічога ён не памятае. Падкрэсліваю: ні-чо-га. Урачы гэта пацвярджаюць. А калі і ўспомніць што, дык хто яму паверыць? Палічаць за хворае трызненне. А мы – адразу даведаемся. Бо людзі пасля гэткіх траўмаў – адкрытыя, як трава, і шчырыя, як дзеці... Усё адразу расказваюць... Ім хочацца даказаць, што яны нармальныя.

Славік-бард сядзеў моўчкі, унурыўшы галаву ў плечы. Не, ён не спалохаўся, чаго яму было баяцца... "Дах" у яго надзейны. Імя сабе ён ужо зрабіў. Гэта там, у лесе, яго маглі прыкончыць разам з Уладзем, і ніхто не рыпнуўся б шукаць. А цяпер ягонае знікненне альбо нават "разаблачэнне" будзе нявыгадным і аднаму, і другому боку: і ўладам, і апазіцыі.

Але спакою не стала. Ідучы дамоў, Славік згадваў, як яго некалі "завербавалі". Яны выпівалі са старшакурснікамі ў сваім інтэрнацкім пакойчыку. А тут – рэктарская праверка. Уварваліся ў пакой – перапісалі ўсіх. Ён, можна сказаць, і не піў, проста прысутнічаў, але – запахла выключэннем. А яму так хацелася вучыцца...

Праз колькі дзён выклікалі яго да намесніка дэкана. Там ужо сядзеў той, каго называлі "куратарам" іхняга факультэта. Ад "органаў". Размова была нядоўгай. Яго не білі, не заціскалі пальцы ў дзвярах... Амаль адразу "куратар" паабяцаў Славіку, што калі той пагодзіцца на супрацоўніцтва, пахадайнічае, каб не выключылі. "Стукачом" Славік рабіцца не хацеў. І калі б цяпер, дык здолеў бы адмовіцца. А тады – другакурснік і нядаўні вясковец, здрэйфіў і падпісаў паперы... Яшчэ і абрадаваўся, што гэтым скончылася. Не разумеў, што туды трапляюць, як пад цягнік – аднойчы і назаўсёды...

Цяпер Славік ведаў, што п'янку тую наладзіў адзін сусед па пакоі – вядома ж, наўмысна, што ўсё было разыграна, як па нотах, бо па заканчэнні вучобы той хлопец адразу ж уладкаваўся на працу ў адпаведнае Берасцейскае абласное ўпраўленне... але на лёс свой Славік не скардзіўся. Адно толькі начамі мучылі думкі ды страх, што некалі ягонае "сексотства" стане вядомым. Асабліва пакутнымі сталі яны, калі падчас развалу СССР і ў першыя гады незалежнасці загаварылі пра неабходнасць перлюстрацыі... Тады ён сапраўды струхнуў і ледзь не прызнаўся ў сваім "супрацоўніцтве".

І вось пагроза "разаблачэння" паўстала зноў: аб'явіўся жывы Уладзя. І зноў ночы ягоныя сталі бяссоннымі. Ён сам сябе ўзненавідзеў за гэткую слабасць, але думак пра Уладзю пазбавіцца не мог. І выйсце бачыў толькі адное...

## 11.

Уладзя Касінер, ужо прыгадаўшы з большага пра тое, што з ім адбылося, як і за што яго забівалі, сядзеў у сваёй палаце ля расчыненага вакна і думаў усё пра тое ж: што яму далей рабіць? За "сонцавымі" кратамі была жаўціня яркага сонечнага дня. Бабіна лета. Сухое і цёплае. Сама бульбу капаць. І таму ў інтэрнацкім двары не было людзей: ніхто не гуляў –

усе, хто мог хадзіць і працаваць былі на вясковых гародах. Хто капейку зарабляў, а хто проста “за паесці” дапамагаў.

Але думкі Уладзі былі далёка ад гэтага светлага дня. “Я не адзін у гэтым свеце, – думаў ён, – вакол мяне так шмат людзей. Нават тут, у інтэрнаце. І кожны – асоба, кожны адметны характар, кожны са сваім лёсам, жыццёвым сюжэтам... І не ўсе яны добрыя. Наадварот, часцей подлыя, хітрыя, нахабныя. Бо ім трэба змагацца за сваё месца пад сонцам. Толькі я пакуль жыву ў самім сабе і нікога ды нічога не заўважаю. Усе, хто вакол мяне, нібыта тло, цені, манекены. Але ж гэта не так, зусім не так, зусім не бяскрыўдна... За мной, безумоўна, сочаць. Хто? Вядома, найперш сам Станіслаў Сцяпанавіч. Але ў гэтай дзяржаве нехта сочыць і за Станіславам Сцяпанавічам, і за мною, а нехта за ўсімі адразу... Такая шматпавярховая сістэма кантролю спрацоўвае найлепей, бо калі Станіслаў Сцяпанавіч, як першы ў дадзеным выпадку ў ланцужку, раптам захацеў бы нешта ўтаіць, то яму хутка сказалі б: “Што гэта ты... у нас тысячы вачэй, і не спрабуй...” “Ды я не...” “Як гэта! А чаму не паведаміў, замаўчаў?..” “Ды я...” “Глядзі, каб болей не паўтаралася...” А значыць, Станіслаў Сцяпанавіч стараўся дакласці як хутчэй, як раней, каб яго не апярэдзілі і ні ў чым не западозрылі. І такіх “Станіславаў Сцяпанавічаў” было ў кожным калектыве па некалькі, і працавалі яны навыперадкі.

Такім чынам наладжвалася і гадамі адбудоўвалася сістэма кантролю і страху ў грамадстве, у краіне, якая і па сёння дзейнічала бездакорна. Знешне быццам бы ўсё спакойна, усё добра і нічога ніякага нікому не пагражае – працуй і гора не ведай. Але – пра лаяльнасць не забывай і памятай кожную хвіліну. Язык не развязвай, а тым болей не падумай у нейкіх акцыях удзельнічаць. “Вялікі брат” за табой сочыць і ўсё пра цябе ведае... Ляпнеш што крытычнае пра ўладу, пасмяешся з лідара і мала не пакажацца: загрыміш... далёка. Кратаў у нас хапае, і не толькі ў выглядзе сонца, але і ў клетачку... Страх па-ранейшаму – наймагутная сіла ў кіраванні чалавечым статкам. Улады тое цудоўна ведаюць і карыстаюцца без сумненняў і напоўніцу. Бо страх – гэта брыдотны ўкус павука, які паралізуе нават імкненне чалавека да волі. Страх – гэта смярдзючы труп свабоды, гэта труна, магіла... Страх заўсёды адмоўны, бо ён не перасцярога і не асцярожнасць, а ступар, капітуляцыя, дэградацыя: ад мяне нічога не залежыць, а таму няхай будзе, як будзе, а я лепш не высунуся, перачакаю збоку... Мая хата з краю – адгаворка на ўсе часы.

Страх, як апраўданне бяздзеяння...

Кепска, калі ў дзяржаве асноўнай рухальнай сілай робіцца страх, думаў Уладзя, бо няма будучыні ў такой дзяржавы. Няма... Яна паціху канае, разбураецца знутры, банкрутуе і яе прыбіраюць да рук суседзі...

Тэорыю страху можна было б вывучаць на прыкладзе гэтага канкрэтнага дома-інтэрната, у якім ён жыў. Хоць бы тое, што чым менш мае чалавек, чым меншым рызыкуе і валодае, тым мацней за яго трымаецца і баіцца страціць. Дом-інтэрнат не проста дзяржава ў мініяцюры, гэта – своеасаблівы канцлагер, дзе ў жаданні выжыць кожны кожнаму робіцца ворагам. А калі ўся дзяржава адзін канцлагер? Калі ліпкія лапы павука-страху ты ўвесь час адчуваеш на сваёй шыі. Калі ведаеш, што кожны рух твой некім фіксуецца і можа быць скарыстаны супраць цябе... Усё адсочваецца, усё кантралюецца... Уладзя сам сабе сумна пасміхнуўся, бо ён бачыў: чым далей, тым больш жорсткім і татальным будзе рабіцца гэты кантроль, тым больш сродкаў дзеля яго з’явіцца. Усё новае, што будзе прыдумвацца ў

свеце з мэтай нібыта пашырэння масавай камунікацыі, на самой справе стане служыць кантролю за кожным дзеяннем і словам кожнага чалавека ў кожны момант ягонага жыцця... Тэлефоны, відэа, кампутары... – усё гэта бязмоўныя, безадказныя, усёбачныя, пакорлівыя шпіёны, якія будуць занатоўваць любы крок...

Няўжо і сапраўды так ёсць? Ці гэта выдумка майго хворага розуму? Бо тысячы – мільёны! – людзей жывуць і не заўважаюць гэтага. Можа, і здагадваюцца, што ўсё кантралюецца, але не сутыкнуўшыся сам-насам з гэтым, робяць выгляд, што нічога падобнага няма... як няма іншапланецянаў...

Ну і хай сабе. Але ў адным ён не сумняваецца: за ім тут, безумоўна, сочаць. Сёмым пачуццём, восьмым... дзявятым... ныркамі, пячонкай, скурай адчувае гэта. І пра тое, што ён жывы, недзе там, адкуль некалі прыйшоў загад яго "прыбраць" – ведаюць. Павінны ведаць... Калі не ад Станіслава Сцяпанавіча, які выглядае чалавекам прыстойным, дык ад кагосьці іншага. А значыць, прызнавацца пра тое, што ён прыгадаў, хто ён і што з ім здарылася, ніяк нельга. Нават Станіславу Сцяпанавічу. Трэба заставацца Славікам, прыкідвацца бездапаможным і менш кантактаваць з людзьмі. А то зусім расслабіўся: запісы, размовы, шахматы, Таня, прыёмы хворых...

Ён узгадаў ужо шмат. Вельмі шмат дзеля таго, каб упэўніцца адкуль, чаму і як ён сюды патрапіў, каб пераканацца ў тым, што няма для чалавека нічога больш страшнага за ягонае мінулае... Адно заставалася яму незразумелым: за што з ім так жорстка абышліся, чаму яго вырашылі... забіць: Навошта? Якую такую пагрозу ці небяспеку ён і ягоная "дзейнасць" камусьці ўяўлялі? Проста зачышчалі прастору? Дык нічым асаблівым ён не вылучаўся сярод іншых. Нават між ягоных сяброў былі больш актыўныя, больш яркія асобы. Ці гэта так яму самому здавалася, а "збоку" відней?

І тым не менш адказ на пытанні "За што?" і "Навошта?" ён у сабе не мог знайсці, а яны не давалі яму спакою... Зрэшты, можа, ён і недаацэньвае сябе. Нездарма ж сябры далі яму мянушку Касінер – так звалі беларускіх паўстанцаў-сялянаў, якія змагаліся за волю ў атрадах Касцюшкі і Каліноўскага...

Але яшчэ больш няўтульна было яму ад іншых думак. Добра, разважаў ён, ёсць "быццё" ўнутры мяне і я яго ведаю. Але ж ёсць яшчэ і "быццё" паза мною. Якое яно? Ну частку я бачу тут, у інтэрнаце. А што далей? Што там, за парканам, у тым жыцці адкуль едуць да мяне ўсе гэтыя хворыя і пакалечаныя? Тое, што паказваюць па тэлевізары? Але мне яно дужа не падабаецца. І я не хачу туды вяртацца. Не ха-чу!.. Бо не змагу жыць там. Але і тут заставацца нельга. Бо... Бо трэба нейкае развіццё, а тут можна толькі дэградаваць канчаткова. Тут я спыняюся... Ужо адчуваю, што пачынаю тармазіць, што перарос гэты дом, што трэба вучыцца... Трэба жыць далей. Таму людзі і не заседжваліся на адным месцы, таму заўсёды і плылі да невядомых земляў – Магелан, Калумб... – і адкрываючы іх, адкрывалі і прадаўжалі сябе... Таму цяпер зямляне імкнуцца да зор. І паляцяць – імкненне гэтае нішто не спыніць. Бо цесна ім стала на сваім кавалачку зямлі, на сваёй Зямлі... І мне цесна тут, у гэтым доме. І хоць я трымаюся таго, што ведаю, і мне страшна вярнуцца ў тое, што я бачу пакуль толькі па тэлевізары, і я не хачу губляць тое, што маю, дзеля чагосьці невядомага і, магчыма, варожага мне, усё ж трэба будзе адважыцца і адплыць адсюль... Рана ці позна, але давядзецца гэта зрабіць... Самому ці... пад уплывам абставінаў... Як? З кім? З Таняй? Не, яна сама яшчэ дзіцё... І я ёй нічога не магу прапанаваць... Я адчуваю, што недзе там, у прасторы, ёсць

людзі, якія памятаюць пра мяне і якія, мажліва, шукаюць мяне... не трэба адчаю, таго Хрыстовага адчаю: не трэба губляць веру, трэба да апошняга спадзявацца: яны не пакінулі мяне, як не пакінуў Бог свайго сына. Я з імі сустрэнуся... Некалі... І ў гэтым заключаецца непазбежнасць.

Непазбежнасць, каб прадбачыць якую, не трэба быць Настрадамусам...

Так, людзі, якія не забылі мяне, ёсць. Безумоўна, ёсць. Недзе. Але, я бясконца сумняваюся – што яны з тых, што мне сняцца і... мрояцца. Я ўзгадаў шмат, аднак не маю ніводнае рэальнае асобы, якая магла б стаць пунктам адліку для мяне і майго жыцця, якая пацвердзіла б мае здагадкі і... згадкі. “Дайце мне кропку апоры...”, – казаў Архімед. А я прашу пункт адліку. Але ў адказ – цішыня...

Пакуль я маю толькі мроі і сны, якія не магу назваць сапраўднымі ўспамінамі. Не магу... Бо гэта сны... Сны...

Зрэшты, перапыніў сябе Уладзя, а што ёсць і само нашае жыццё? Ці не сон? Так, сон. Сон... Усяго толькі сон... Адзін кароткі сон... Настолькі куртаты, што людзі нават не паспяваюць усвядоміць: хто мы, адкуль, куды і навошта? І сыходзяць, так і не зразумеўшы, што спалі...

Дзясяткі лепшых розумаў, геніяў чалавецтва, спрабавалі вытлумачыць саміх сябе і нас усіх, знайсці прычыны і апраўданні хоць бы ўласнага жыцця. Але сон не паддаецца аналізу і не падпарадкоўваецца законам логікі і прыроды. Ён проста цячэ з нічога ў нікуды. І ў кожнай кропцы сваёй ён ужо быў, ёсць і яшчэ будзе...

Усё, што вакол – ёсць сон. Які прысніўся Богу... ці травінцы... ці мне... Так, я таксама сплю, і мне толькі сніцца, што я прачнуўся... Таму я і не магу ніяк знайсці апору ў сваім мінулым...

Уладзя адышоў ад вакна, узяў часопіс. Разгарнуў і адклаў. Чытаць не было жадання. Думкі не пакідалі яго... О, калі б гэта быў сон... Тады было б усё проста і вытлумачальна. Але жыццё, на жаль, не сон. Асабліва тут, на гэтай пост... прасторы, у гэтай... ньюкраіне. Дзе ўсё засталося па-ранейшаму і дзе розныя “спецслужбы” яшчэ не хутка аддадуць сваю ўладу, умела “праводзячы стрэлкі” на народ, які сам будзе ва ўсім вінаваты за сваю “талерантнасць”, “цярплівасць”, “працавітасць”... Вось так лепшыя якасці стануць найгоршымі і “без віны вінаваты” народ будзе пакутаваць, цярпець бясконца і ганіць сваіх лепшых сыноў за тое, што яны не такія, “як усе”, што не служаць пакорліва, а яшчэ і галаву падымаюць, енчаць пра нейкую “мову”... Бацька меў рацыю?.. Няўжо бацька некалі казаў мне праўду? Праўду, якую выпакутавалі пакаленні... Няўжо менавіта ў гэтай пакоры і ёсць “мудрасць народная”: выжыць любым коштам... Няўжо дзякуючы гэтаму мы яшчэ ёсць? Калі б усе былі Касцюшкамі ды Каліноўскімі – нас бы даўно ўжо знішчылі...

Няўжо праўда ў бацькавых словах? Не лезь! Маўчы! Цярпі! Выцерыся... І – гадуй дзяцей. Важна не памерці героем, а проста выжыць... Бацька... Народ... Выжыць... Мова...

Думкі блыталіся. Беглі наперад, абганяючы ўсведамленне, азіраліся і вярталіся, каб пераплесціся ў яшчэ большы клубок супярэчнасцяў ці недарэчнасцяў... Уладзя не мог суўладаць з іх наплывам. Яму патрэбны быў суразмоўца. Больш дасведчаны ва ўсім гэтым. Хоць бы такі, як Андрусь. Каб дапамагчы разблытаць той клубок думак. Але побач нікога не было... Нікога... Такіх людзей яму трэба будзе яшчэ знайсці. Але як? Дзе?..

Уладзя страпянуўся: пачуў, як нехта шкрабнуў каля дзвярэй. Насця-

рожыўся: за дзвярыма дакладна нехта стаяў – не заходзіў і не адыходзіў – значыць, цікаваў за ім, віжаваў, падслухоўваў? “Вось табе, хлопец, і пацвярджэнне... – падумаў Уладзя. – Ці мо ў мяне ад усіх гэтых дурных думак пра ўсеагульны кантроль манія праследу пачалася?..”

На дыбачках, ціхенька, Уладзя падышоў да дзвярэй і рэзка расчыніў іх. Сашка, а гэта быў ён, адскочыў спалохана і спыніўся: стаяў схіліўшы галаву і ўсміхаўся яму – бяскрыўдна і ліслівa, як умеў толькі ён.

– Што здарылася, Сашка?

– Я, гэта, да цябе ў госці прыйшоў. Ага, у госці.

– Дык заходзь...

Сашка зайшоў, агледзеўся.

– Добра табе. Ты адзін у палаце. А мне замест цябе дурня нейкага падсялілі.

– І што?

– Жыцця няма. Дастаў. Цэлы дзень крычыць, вішчыць, свішча, на вакно кідаецца і сцыць уніз праз краты на галовы людзям... Побач з ім і мне ўжо няёмка дурнем быць...

“Глядзі ты, – падумаў Уладзя, – і Сашка можа разважаць... Цікава. Раней не заўважаў за ім...”

А Сашка сеў і вочкі на яго маленькай стрыжанай галаве не бегалі, як звычайна, а былі сумныя-сумныя. Уладзю стала шкада яго. Ён нейк зусім забыўся пра Сашку, выкінуў са свайго жыцця, выкрасліў... А прад ім сядзеў – ён гэта бачыў цяпер – не алігафрэн, а проста няшчасны, пакінуты ўсімі, нават роднай маці, чалавек, у якога не было іншага выйсця ў жыцці, як заставацца тут... “У яго няма, а ў мяне ёсць, – ці не ўпершыню падумаў ён так пра сваю будучыню, – у мяне ёсць... і не трэба здавацца... Усё нашае жыццё – змаганне... і не толькі з “ворагамі”, з наваколлем, а найперш з самімі сабой, са сваімі надуманымі сумненнямі і прыдуманымі безвыходнымі сітуацыямі ды праблемамі...”

– Ты вось хутка адсюль паедзеш, – сказаў Сашка, – а што я без цябе рабіць буду? У мяне ж нікога тут німа... нікога... німа... нікога...

– Куды я паеду? Мне няма куды ехаць...

– Я тут адзін... А ты паедзеш, я ведаю: ты адсюль паедзеш... – і сумна паківаў галавой. – Яшчэ да зімы паедзеш... Ты вось спаў зімой, не ведаеш нічога. А зімой тут халадна-халадна і страшка-страшка... Не хачу зімы... А яна прыйдзе, прыйдзе...

Вось гэтага Уладзя ніяк не чакаў ад Сашкі: “Дзіва, проста дзіва... і як я мог гэтак недаацэньваць яго: ён можа думаць, ён адчувае, ён чалавек... і яму адзінотна тут...”. І міжволі слізганула параўнанне: такое ж дзіва чакае і тых, хто паставіў на іншага Сашку, і не змогуць апамятацца яны, разбягуцца, як пацукі, пакінуўшы яму краіну...

Сашка падняўся і, больш нічога не кажучы, выйшаў. Калі ён ішоў да дзвярэй, Уладзя заўважыў раптам, як Сашка смешна чапляе нага за нагу – клішуе, і ўзгадаў свайго бацьку. Так, мянушка ў яго была Клішун... А яшчэ ў вёсцы звалі яго Сідар, успомніў Уладзя. І не толькі яго, а ўвесь іх род так абзывалі. І яго самога дражнілі: Сідар-підар... Значыць, Сідар не проста імя, а нешта большае... Гэта... прозвішча. Сідар... Сідараў... Сідарчук... Сідарэнка... Сідарчэнка... Сідарэйчанка... Вось яно!..

Чуллівасць не пакідала Уладзю. Ён не стрымаўся і заплакаў.

Уладзя і не думаў, што літаральна праз некалькі хвілінаў зноў паба-

чыць Сашку. Ён сядзеў у пакоі крыху агаломшаны нядаўняй размовай і згаданым... як з вуліцы, зверху ўніз, пранёсся страшны працяглы крык, амаль адразу ж пачуўся мяккі ўдар аб зямлю: гуп!.. Быццам упала нешта цяжкое і мяккае. Потым кароткая цішыня і – пачалася беганіна, мітусня, гвалт, плач... Уладзя выскачыў са свайго пакоя, абабег дом і згледзеў купку хворых, што стаяла пад сцяной. Падышоў, людзі расступіліся перад ім, і ён убачыў на зямлі ненатуральна скурчанае, скамечанае цела... Сашкі. Уладзя ўсё зразумеў. Сашка вярнуўся ў сваю палату, расчыніў вакно, праціснуўся скрозь краты – худому і гнуткаму зрабіць гэта яму было не складана, і скочыў уніз... Але чаму? Навошта?..

Сашка яшчэ быў жывы, хоць і ўпаў, падобна, уніз галавою. Ён часта дыхаў і з-пад разбітага ілба шырока расплюшчанымі вачыма пазіраў у неба. Потым павярнуў вочы, сустрэўся позіркам з Уладзем, глыбока хапануў ротам паветра і замёр...

Смерць і пахаванне Сашкі моцна запалі ў душу Уладзі, не давалі спакою. Дужа нечаканым і недарэчным гэта было. Ён не мог дараваць сабе, што не зразумеў тады, чаму прыходзіў да яго Сашка. А ён – прыйшоў развітацца... І Уладзя не спыніў яго.... Быў заняты сабой і сваім. А што чакае блізкага чалавека і не падумаў... Гэта недаравальна... недаравальна... Ён палічыў ужо сябе экстрасэнсам, які бачыць далёка, а не прадухіліў самае простае.

Здарэнне ўскалыхнула інтэрнат. Але ніхто, нават Славік, і ўявіць не мог, што гэта было не самазабойства... Сашку збіў і выкінуў праз вакно дэбіл – той самы Убю, якога падсялілі да яго ў палату замест Уладзі.

## 12.

Славік-бард, пасля таго, як даведаўся, дзе знаходзіцца Уладзя, не мог супакоіцца. “Вядома, нават калі Касінер нешта ўспомніць, гэта ніяк і нічым не будзе пагражаць мне, – разважаў ён. – Аднак перастрахавацца ўсё ж не пашкодзіла б. Хто яго ведае, як гэта можа паўплываць на далейшую “кар’еру” і ў “органах”, і ў апазіцыі... “Рэпутацыя” можа быць падарваная. І небяспека зыходзіць ад таго, пра каго я і думаць забыўся... ”

Славік-бард вырашыў цішком праведаць Уладзю. І не проста праведаць, а, калі ўдасца, прыбраць – раз і назаўсёды... “Гэтага чалавека не было ў маім жыцці і яго не павінна быць, – думаў ён, – дваім нам будзе цесна на гэтым свеце... А значыць, трэба дарабіць тое, што не ўдалося тады... Каб потым жыць спакойна. Зрабіць так, каб ён там, у тым інтэрнаце раптоўна памёр. Ці мала што можа здарыцца пасля тых траўмаў галавы, якія ён перанёс. Кровазліццё ў мозг... Мікраінсульт... Сардэчны прыступ... Трэба параіцца з “урачамі ў цывільным”, і ўсё будзе ў ажуры. І яшчэ – трэба даведацца, хто там, у інтэрнаце, свае людзі, каб дзейнічаць праз іх і з іхняю дапамогай”.

І ён зноў пайшоў да “куратара”.

– Што, няймецца, свярбіць... – пажартаваў той і зарагатаў, пачуўшы Славікаву просьбу, – баішся, ён нешта ўспомніць і кар’еру тваю апазіцыйную зарубіць. Нічога, у нас будзеш расці. Дарэчы, якое там у цябе званне? Можа, ужо вышэй за маё? Ну-ну, жартую... не бойся! Кажу ж: там надзейныя таварышы сочаць за ім – сам галоўурач, ён жа дырэктар дома-інтэрната, і яшчэ пару чалавек з персаналу ды пару з “хворых”, якія і за дырэктарам сочаць заадно.

– Дзіўна, але навошта яму захавалі жыццё. Ці не прасцей было прыкончыць пакуль ляжаў непрытомны.

– Ты ж ведаеш, у нас гуманнае грамадства, – “куратар” ізноў засмяяўся, як гусак: – Га-га-га!

Славік-бард сумеўся і прамаўчаў.

– Не, проста мы былі ўпэўненыя, што ты яго дабіў, – сказаў “куратар” пасміхаючыся, а Славіка зноў страсянула нібы токам працяла, – там, пляшкай – я ж цябе прасіў... А калі знайшлі яго і ён трапіў у бальніцу, да ўрачоў, то ўжо не сталі чапаць – хай пагуманнічаюць... Усё роўна ж ад яго ніякой небяспекі няма. А карысць ёсць.

– Якая карысць?

– А-а-а, ты не ведаеш... Ён там цяпер людзей лечыць. Экстрасэнс, панімаеш... Кашпіроўскі проста... А яшчэ будучыню прадказвае – Настрадамус, пта маць... Я вось і сам хачу да яго з’ездзіць, падлячыцца ад алкагалізму. Га-га-га! Патэнцыю падправіць. І калі генералам стану даведацца... Га-га-га!

Апошняе Славіка-барда пераканала канчаткова: трэба неадкладна ехаць у той інтэрнат. Гэтыя “жартаўнікі-рагатуны” разам з галоўным урачом-дырэктарам не ведаюць з кім маюць справу: калі Уладзя ажыў, то прыкінецца авечкай бязмозглай і абвядзе іх вакол пальца. Хто-хто, а ён добра памятаў Уладзю і ведаў, які той асцярожны і абачлівы... Славік глядзеў на “куратара” і злаваў: здаецца ж, разумны чалавек, а ўсё нейкія смех...ёчкі строіць. “Ці я пра нешта не здагадваюся, ці яны настолькі ўпэўненыя ў сваёй (і маёй) беспакаранасці... Але нутро, нутро не пераробіш. Памяць з галавы не выкінеш... Дый страх уласцівы ўсім, а не толькі тым, хто хоча здавацца лепшым, чым ёсць...”

– Слухай, а можа ты хочаш з’ездзіць туды, каб палюбавацца сваім былым калегам і пераканацца, што ён расліна, а не чалавек? Дык я пазваню ў інтэрнат, скажу, каб цябе сустрэлі, а?

Відаць, і ў ім прачнулася нешта спачувальнае. Але Славік нічога не сказаў на гэта. Прамаўчаў. І тады голас “куратара” пасур’ёзнеў, набыў металічны тэмбр:

– Без узгаднення не рыпайся нават... Калі што надумаеш, скажы мне. Ты да нас крывёю прывязаны. І не толькі Касінеравай... Павінен разумець, што ты не адзін такі: калі што, знойдуцца і на цябе рукі.

“Крывёю павязаны”... Павязалі... Гэта яны ўмеюць... – падумаў Славік. – Цяпер палохаюць... не трэба мне ваша дапамога. Сам заблытаўся, сам і расхлёбываць буду...” Ён даўно зразумеў, што няма на гэтай зямлі ў яго сяброў, а ёсць толькі ворагі. І няма на каго спадзявацца, апроч самога сябе, тым больш некаму верыць і давяраць свае думкі і намеры...

Славік кіўнуў “куратару”, нібы на знак згоды, развітаўся і выйшаў з кабінета.

Ён павольна крочыў дахаты і згадваў, як тое было некалі... Яго выклікаў тады гэты самы “куратар”. Сказаў: “Нам трэба твая дапамога. Ты бачыш, што робіцца ў краіне. Асабліва на ўскраінах. Па таксваных рэспубліках. Паднялі галовы нацыяналісты, незалежнасці хочуць, народных франтоў настваралі... І ў нас таксама заварушыліся. Трэба было б іх актыўнасць суцішыць трохі, прыпалохаць. Прайсціся па лідарах, па самых дзейных ды гарачых... Ты ўсіх ведаеш. Арганізуй нам сустрэчы з некаторымі дзеля больш блізкага знаёмства. Пагутарым з імі пра будучыню...”

Славік-бард тады і не падазраваў, чым могуць скончыцца тыя гутаркі ды прыпалохванні, думаў, як і яго, завербаваць хочуць... Першым, з кім

папрасілі сустрэцца, быў якраз Уладзя, які тады таемна займаўся стварэннем самаабароны. Па ўласнай ініцыятыве, пакуль нікому з кіраўніцтва пра гэта не гаворачы, каб лішне не засвяціцца. Відаць, хацеў прыйсці і сказаць: вось надзейныя хлопцы, без якіх нам не абысціся... І, пэўна, недзе на некім "пракалоўся", нехта "стукнуў", раз пра гэта даведаліся ў "органах". Бо Славік, хоць і здагадваўся пра тое, данесці не паспеў: значыць, было каму яго апярэдзіць.

Тая "сустрэча" закончылася знікненнем, альбо, як цяпер выявілася, няўдалым забойствам Уладзі. Потым былі яшчэ "знаёмствы". Цяпер, аналізуючы тое, што адбывалася, Славік-бард бачыў, што "выбівалі" найбольш перспектыўных, не чапаючы хіба толькі вярхушку – самых засвечаных: народных дэпутатаў ды блізкіх да іх... Пэўна, там, у шэрым доме з вежачкай ці, хутчэй, на Лубянцы, ужо пралічылі, што краіну, монстра пад назвай СССР, ім не ўтрымаць, што развал непазбежны (і ён адбыўся літаральна праз некалькі месяцаў), а як пойдуць справы далей – невядома... А таму варта закласці падмурак і паспрабаваць пакіраваць... калі не ў Прыбалтыцы, дык хоць бы ў славянскіх – у Беларусі ды ва Украіне... Захаваць расейскі ўплыў, рабіць стаўку на "сваіх"... Таму і выбівалі самых-самых. Непадкупных, зацятых, як ім здавалася, а значыць, небяспечных. Прычым, не столькі тых, хто быў навідавоку, не бесхрыбетных крыкуноў – філолагаў, пісьменнікаў, мастакоў, гісторыкаў – а найперш тых, хто меў за спінай жорсткую школу і мог у адказны момант узяць ініцыятыву на сябе.

Выпіваючы пасля адной з такіх "сустрэчаў", якая скончылася чарговым "знікненнем", куратар нібы наўмысна прагаварыўся: "Што гэтыя ўсе пісьменнічкі-гісторыкі са сваім плачам пра мову і мінулае... Баязліўцы яны, трусы ўсе, мы іх адным ногцем прыжмём, яны хвасты падціснуць і пад венік..."

Славік-бард глядзеў назад і жахаўся: колькі талковых хлопцаў у "мяцежныя дзевяностыя", пад рознымі, нібыта "эканамічнымі", падставамі – прадпрымальнікі, валютчыкі, пазыкі – згінула без следу. А яшчэ смерці ў бальніцах на аперацыйным стале, у аўтааварыях, няшчасныя выпадкі пры купанні, не кажучы ўжо пра "самапавешанні" ды "самастрэлы" – у арсенале спецслужбаў, пачынаючы з 20-х гадоў, было назапашана шмат варыянтаў "выпадковых смерцяў"... Прычым, працаваў на гэта, па ўсім, не адзін ён, і не адзін "куратар"...

Уладзя... Уладзя быў адным з першых... Але – чаму? Чаму выбралі менавіта яго? Нічым асаблівым ён не вылучаўся сярод іншых. Ні празмернай актыўнасцю, ні лідарскімі якасцямі, ні харызмай, як сказалі б цяпер. І ўбачыць у ім пагрозу, убачыць перспектыву мог толькі хворы розум. Ці нечым раззлаваны... Мусіць, я чагосьці не ведаю. Відаць, хлопца ламалі-ламалі ды не даламалі... Бо што з таго... Ну ствараў ён нейкія там "пяцёркі", ну і што? Згарнуць гэта было прасцей простага: аднаго запалохаць, другога заманіць абяцанкамі – і ўсё... Ну, магчыма, стаў бы ён з часам добрым памочнікам, нават правай рукой якога-небудзь лідара апазіцыі. Але не болей за тое. Сам бы ў кіраўнікі не лез ніколі – не той характар, не тыя амбіцыі. А хутчэй за ўсё праз год-другі наогул расчараваўся б у "змаганні", выйшаў з апазіцыі і працаваў бы дзе-небудзь спакойненька, чытаў лекцыі спартсменам, пісаў бы за кандыдацкай – доктарскую... Сядзеў бы ціха, як сябар ягоны – гэты журналіст Андрусь... Дык не, захацелі прыбраць менавіта яго. Дакладней, і яго ў тым ліку. Відаць, нехта з "куратараў" зуб на яго меў за нешта. Але – няхай бы забілі... З канцамі... Дык не – далі выжыць. І жыве, бач. Інвалід. Без памяці. Але жыве, блін! І ці мала чаго ён там можа наўспамінаць?!.

Трэба супакоіцца... Можа, Касінер нічога і не згадае. Нават, як завуць і хто ён... А можа... Можа... Можа... Не, пакідаць яго жывым ніяк нельга, нягледзячы на смяшкі і жарты “куратара”... Раз лечыць людзей, раз “Настрадамус”, дык значыць усё ж не зусім глузды страціў, хоць і праспаў у коме столькі гадоў...

## 13.

Да дома-інтэрната, у якім жыў Уладзя, з Мінска можна дабірацца дзвюма дарогамі: адна ідзе з боку Калінкавічаў, другая – з боку Рэчыцы... Праз Рэчыцу бліжэй, але Андрусю трэба было заехаць па Люду і ён, забраўшы яе, ехаў ад Калінкавічаў.

Славік-бард імчаў наўпрост – праз Рэчыцу.

Андрусь і Люда ехалі няспешна, аднак, тым не менш, атрымлівалася, што яны апярэджвалі Славіка на некалькі хвілінаў. Праўда, яны яшчэ не ведалі, ці ёсць у тым інтэрнаце Уладзя. Славік жа ведаў пэўна... Гэтым разам ён не хацеў сведкаў, і таму імчаў адзін, упарта ўзіраючыся ў дарогу і прадумваючы, што і як казаць галоўнаму ўрачу. Запалохаць яго, вядома ж, будзе не цяжка, але як перацягнуць на свой бок, як прымусіць дапамагчы зрабіць тое, што Славік надумаў?

“Як-як? – узлаваў на самога сябе Славік, – “куратар” казаў, галоўны ўрач наш чалавек. А там не проста інтэрнат, там, лічы, бальніца – адзін укольчык і ўсё... І ніякіх падазрэнняў: раптоўна ажыў – раптоўна памёр...”

Славік памацаў рукой кішэню, якая адтапырвалася ад ладнага скрутка грошай: “Усё будзе добра, – пераконваў ён сябе. – Адзін укольчык і – канцы ў ваду... Толькі – ніякой спагады, ніякога жалю... Гэтым разам схібіць нельга...”

***

Быў дзень. Сонечны, птушыны. Высока ў небе ляцелі журавы, жалобна курлыкалі, развітваючы з родным восеньскім краем перад дальнім выраем.

Уладзя сядзеў у дворыку інтэрната і чытаў Біблію. Падняў галаву да птушак у празрыста-светлым небе: жураўліны клін ляцеў проста на сонца... Падумаў: “Бог ёсць святло. Значыць, маё вяртанне з цемры да святла, ёсць... вяртанне да... Бога... Усё проста? Усё так проста!.. Мы жывем, пакуль імкнемся да святла, пакуль святло ў нас перамагае цемру...”

Яму стала спакойна і лёгка на душы. Мо ўпершыню за тыя месяцы, як ён ачуўся.

Уладзя адгарнуў Біблію на першай старонцы і прачытаў уголас, каб чулі дрэвы і птушкі: “На пачатку стварыў Бог нябёсы й зямлю. Зямля была бясформнай і пустой, і цемра была над бяздоннем; і Дух Божы лунаў над вадою. І сказаў Бог: хай будзе святло. І стала святло. І ўбачыў Бог святло, што яно добрае; і аддзяліў Бог святло ад цемры...”

Вось ён пачатак пачаткаў... Тое, адкуль усе мы прыйшлі і куды ідзем...

*1995, восень 2011.*



Галіна Каржанеўская



…хвіліны звіняць, як манеты, –
падстаўляй пад багацце руку!..

# Ніхто ні ў чым не вінаваты

* * *

Сам пасеяўся клён і рабінка ўзышла,
Хочуць жыць і расці
з дапамогай цяпла.

І каб вільгаці ў меру ім
(дожджык паліў),
Каб рука не зламала і бот не ступіў.

А як будзе – не ведаюць.
Год праміне –
І, дасць Бог, аніякае зло не кране.

Невыказна удзячныя
будзем мы ўсе...
Хай жа семя наіўнае вецер нясе.

* * *

У модзе сёння чырвона-белае.
І гэта густоўнае спалучэнне
Такое роднае, такое смелае –
Як промень сонечны
ў дзень асенні.

* * *

Калі пад ногі глядзець –
Не спатыкнешся.
Не спатыкнуўшыся,
Падаць не прыйдзецца.
А не ўпадзеш –
Як жа ты зможаш
Падняцца вышэй,
Чым быў?

* * *

На снезе я хацела б разабраць
Птушыныя рунічныя пісьмёны.
Усім без выключэння даруваць
Па самаму высокаму закону.

Чужым і блізкім.
(Блізкім мо найперш.)
Сказаць: ніхто ні ў чым не вінаваты.
Хоць ты і цяжка, можа быць, жывеш,
А хто лягчэй?
Алкаш у дзень зарплаты.

* * *

Жыла я падчас як у сне,
Самнамбулай нейкай блукала.
Мне доля руку падавала
Ды клікала гучна мяне.

Калі ж нас нагода звяла,
Я кніжачак стос прад'явіла,
Кажу ёй:
"Вось колькі прысніла!",
І доля мяне абняла.

* * *

Хмары сталі чарней і ніжай,
Наша хатка засумавала.
Цюльпаны ў сенцах паелі мышы –
Ото ж заразы!
        Каб іх парвала!

Крот свае перавыканаў планы,
Яму там цёпла, нібыта ў склепе.
Мокрай лістотаю дол засланы.
Дрэвам стала лягчэй,
а значыць – лепей.

Толькі вось птушкі кудысь прапалі.
Жабка не скокне з-пад ног малая.
Сто год са студні вады не бралі,
Вада, як і хата, людзей чакае.

* * *

Мы ехалі хутка – заложнікі спраў.
На ўзбочыне бусел чагосьці шукаў.

Такі засяроджаны быў і заняты,
Але не спяшаў, падалося, дахаты.

Кацілася сонца паволі за лес.
Было невядома –
з ахвотай ці без.

Зусім нетаропка збіраліся хмары,
Каб вільгаць жывіла
палі і абшары.

Ніхто не зважаў на узмыленых нас.
І быў паміж намі, на жаль,
        дысананс.

### ПА ДЫВАНЕ

Па дыване іду, па дыване –
Лісцёвым,
        залацістым, шапаткім.
Ужо нямала ног прайшло па ім,
І ён не рэагуе на мяне.

Крыху пазней,
праз тыдзень мо які,
Прысыплецца калючаю крупой.
І восень стане шэрай і слабой,
І перапіша год чарнавікі.

То я ў заўтрашні дзень забягу,
То ў мінулае раптам патраплю.
Наступаю на звыклыя граблі
(Лоб, на шчасце, зажыўшы крыху.)

Маё с ё н н я нібыта ўбаку –
Не ацэнена, не зразумета...
Вунь хвіліны звіняць, як манеты,–
Падстаўляй пад багацце руку!

Генрых Далідовіч



...Задобрываюць моцнага,
каб падпісаць з ім саюз!
Слабому, скоранаму, загадваюць!..

# Рурыкавічы і Рагвалодавічы

## *Раман у апавяданнях з прадмовай і пасляслоўямі*

### Апавяданне трэцяе. Яраслаў

*...Сын (Яраслаў), аслеплены ўладалюбствам,*
*заклікаў з-за мора варагаў на помач, думаючы... падняць меч*
*на бацьку... Неба, прадухіліўшы гэтую вайну*
*богаадступніцтвам, выратавала Яраслава ад злачынства*
*рэдкага...*

*Яраслаў заслужыў у летапісах імя гасудара мудрага...*
*Старажытная Расія пахавала* (у аўтара “погребла”)
*з Яраславам сваю магутнасць і росквіт*
(пераклад, удакладненні мае. – ***Г.Д.***).

М. Карамзін

**1.**

*Працяг. Пачатак у №2-3 (57-58).*

...Як ніколі дагэтуль за свае ўжо немаладыя гады (перакульвае за 35), сёння ён, Яраслаў, як многія лічаць, чалавек спакойны, уважны, глыбока затоены і рэдка калі

з вясёлай усмешкай, надзвычай узбудзіўся. Яшчэ б! Толькі што вёў цяжкую размову-спрэчку з некаторым наўгародскім знатным і рамесным людам і ўпершыню за паўдзясятка гадоў княжання пачуў нямала горкіх дакораў. Больш – толькі што ў абурэнні і запале паслаў іх на смерць. А гэта... Гэта азначае, што скончыліся гулі-перагулі з Ноўгарадам: усчаўся насутыч.

Ён – сярэдняга росту, плячысты, ужо са шчодрай сівізной на валасах і на барадзе, у лёгкім бурачковым карзне на адным плячуку паверсе шаўковай ліловай сарочыцы, – як толькі верныя яму растоўскія дружыннікі павялі на кару бунтаўшчыкоў, ацяжэла апусціў плечы, паставіў локці на дубовы навошчаны, таму бліскучы стол, а рукамі абшчаперыў галаву, адчуваючы, як на твары, шыі і плячах высочваецца пот. Не дзіва, што цяпер, у ліпень, можна ў душнаватай палаці прыпацець, ды на гэты раз пот не толькі збіраўся ледзь не ў поцекі, але і быў халодны. Значыць, не столькі ад разгарачанага цела, колькі ад моцнага ўзрушэння. Яно запаланіла душу. А ў вачах усё яшчэ гучалі звонам нядаўнія гнеўныя выкрыкі яму.

Паманілася паклікаць пакаёўнага і загадаць прынесці келіх, не – нават глечык фрызскага п’янкога віна і ўтаймаваць ім свой шал і сваю... віну. Ды ў апошні міг устрымаўся парушаць змалку дадзены маці Рагнедзе зарок: як бацька, не піць, не туманіць, а то і зрушаць хмелем розум. У гэты, “думны” пакой зайшоў чалавек. І па мала чутных, але знаёма падкрадных кроках пазнаў: былы яго пястун, стары баярын-ваявода Буды. Той стаў збоку. Маўчаў. Яраслаў не зварухнуўся, па-ранейшаму звешваў галаву, як напрацаваны конь.

– Усё, князь... – Буды асцярожна кашлянуў, падаў голас угодліва, хрыплавата, з задышкай (што ні кажы, пад семдзясят гадоў ужо; многія столькі не жывуць ці ў такім узросце самі не ўздзябурацца на каня, не ўвішныя, як гэты жыўчык). – Заўтра пра гэта будзе ведаць і ўвесь Ноўгарад... Ты ляж, пастарайся паспаць, а я загадаю сабраць нашых вояў (значыць, звышверных, са сталых баяраў і дружыннікаў). Возьмем пад назірк усе слабоды. Найбольш – кавальскую, скуль яе вадар Пракоп. Вось што яшчэ, князь, – нахіліўся ў паклоне. – Сам-насам перажывай, але іншым сваёй скрухі не паказвай. Ноўгарад павінен адчуць тваю моцную дзясніцу. Не гардавусіць і не сваволіць. Як не займаўся дурыкамі пры пасадніку Дабрыні. Сам ведаеш, той, каб правесці хрост, не цырымоніўся, не асцерагаўся ўжыць і меч, і агонь...

Пры маладым па бацьку браце Вышаславе тут не проста пасаднічаў, а сапраўды, уладзіў і гаспадарыў бацькаў дзядзька Дабрыня. Калі яго наўгародцы забілі, то тут пасаднікам паставілі ягонага сына Касняціна (Канстанціна); той таксама хацеў заверхаводзіць, але навагародцы яму гэтага не дазволілі. Дый Яраслаў адпіхнуў убок, як і свайго пястуна. Апусціў іх да памагатых. Буды моўчкі згадзіўся, тым больш, што быў першыдарадца, на княскай радзе садзіўся па правую руку Яраслава, а вось Касняцін спадлобнічаў і, як перадаваў яму Буды, п’яны абураўся: “Я – не папіхач яму. Вуй! Больш чым на палавіну старэйшы! Я – сын Дабрыні, а ён яго бацьку на столец ў Кіеве ўссадзіў! Няўдзячныя!”

– Загадай падаць каня, – падаў голас Яраслаў, далоньмі пагладзіў рэдкія валасы на галаве (пасля высокага лоба пасярод былі рэдкія валасы, па баках – вялікія залысіны, а на макаўцы блішчэла лысіна).

Калі выйшаў з харама, каля ганку ўжо чакалі ягоныя гняды, з агністымі вачыма і рыжа-чырванаватай грывай жарабец ды ахова – як і звычайна, без даспехаў, толькі кожны з мячом. Паблізу сустрэў і няпрошаны гурт

наўгародцаў – сваякі, знаёмыя тых, каго ён сёння запатрабаваў нібыта на перамовы. Яраслава супакоіла, што мужчыны голавалосыя і разам з жанчынамі цяпер не толькі пасхілялі галовы, але і ўпалі на калені. Значыць, прыйшлі не патрабаваць свайго, а прасіць.

– Разыходзьцеся, – вывеўшы з-за хорама каня, махнуў на іх рукой Буды – невысокага росту, невялікай сілы, але вельмі ўвішны, без макуша на галаве амаль спрэс лысы, толькі з пасмачкай рыжых валасоў за высокім маршчыністым лобам, перад ім, Яраславам, з паслухмяным позіркам зеленкавых хітрых вачэй, з Касцяціным і знаццю асцярожны і выкрутлівы, а з іншымі ашукліві і часамі неміласэрны. Але так, каб яго злачын быў незаўважны. Таму і непрыемны многім за гэтую рысу характару. Ды патрэбен. Найперш яму. Яраславу. Ён яго рукамі робіць тое, чаго не хоча чыніць сваімі. Вось і цяпер Буды закрывадушнічаў: – Змоўшчыкі і забойцы ў порубе. Пра іх княская воля будзе аб'яўленая заўтра. У князя, апроч іх, шмат і іншых турбот.

Каленаніцыя ўскінулі рукі, загудзелі, але Буды так борздка ўскочыў на каня і грозна выхапіў з похваў меч, што люд напалохана паўсхопліваўся і пачаў адступаць.

Дзень згасаў. Тут, на ўзвышку дзяцінца, было добра відаць, як ужо не гарачае сонца знізілася блізка да краю зямлі, вабячы за сабой дзённую яркасць і развітальна ашчодрываючы неба вакол сябе, а таксама і верх агароджы, што была вакол дзяцінца ў некалькі чалавечых ростаў з акораных, глыбока ўкапаных у дол сасновых і яловых бярвёнаў. Цяпер Яраслаў зусім не пазважаў на цяперашнюю, перадвячэрнюю часіну дня: найперш падумаў, што дзяцінец, а ў ім і ён пад надзейнаю абаронай. У ёй некалькі радоў, а міжраддзе засыпана зямлёй. Паверсе вытапталі вартавы вал, а яго асланілі вострым коллем і шчытамі, каб не ўзлезці на вось такі тын, не трапіць у вартавых стралою. Калі ж праз адчыненыя вароты і па апушчаным мосце мінулі роў, то ўбачыліся асвечаныя сонцам абнесены агародаю пасад з багатымі двух і трохпавярховымі дамамі знаці ды купцоў (іхняе жыллё, клеці, накрытыя дашчаным і дранкавым дахам, мелі свае, асобныя частаколы з завостраных сухадрэвін), драўляныя цыбулістыя цэрквы. Кінуліся ў вочы і шырокае бліскучае люстэрка Ільменя, стужка Волхава, а за ім – не ахаваныя тынам старыя і новыя пабудовы. Яраслаў перавёў позірк уніз, на “торговище” – плошчу, куды сходзяцца вуліцы, дзе звычайна вядзецца гандаль паміж наўгародцамі і чужаземцамі і дзе збіраецца веча. Яно можа адбыцца і заўтра ды быць бурлівае...

Яраславу завабілася патрапіць у жончын летні хорам, хоць не заўсёды меў там суціш і пяшчоту. Усе ў Ноўгарадзе ведалі: ён калі не пад жончынай пятой, то не вельмі любімы, мусіць шукаць у яе ласкі. Але не кожны разумеў, чаму ён, такі строгі, мяккі, нават падатны перад Ірынай. Найбольш смелыя нават даволі адкрыта пацяшаліся: гэта паводзіны пажылаватага мужчыны з юнай красуняй, ахвотнай да ўсялякіх выбрыкаў і вымудраў.

На гэты раз Ірына сустрэла яго ў прасторнай шыкоўнай святліцы, дзе часцей бавіліся яе землякі, чым нават ён. Ледзь не на палову маладзейшая, высакаватая, светлавалосая, пасля родаў папаўнела ажанчыненая і яшчэ болей ахарашэлая. Як заўсёды, у багатым княскім убранні на манер свайго роду. Паўблакітнымі вачыма, дзе рэдка бывае бляск, перахапіла ягоны позірк – сёння не звысоку ці паблажліва, а запальна, ад чаго высокі лоб яе паяснеў, прадаўгаваты роўны нос яшчэ больш вызначыўся, як і

поўныя прыгожыя губы. Гэтая яе цікаўнасць дала яму надзею на змены ў іх сямейным жыцці.

– Рады бачыць цябе, любімая, – усміхнуўся радасна, пакульгаў да яе (левая нага была карацейшая за правую).

Яна, сёння спачуваючы яго калецтву, ступіла насустрач, але блізка не прытулілася, толькі першая пацалавала ў шчаку і прызналася на ломанай наўгародскай гаворцы:

– Я ждал тебья.

І цяпер не сказала, што шчаслівая бачыць яго тут. Канечне, хацела не столькі сузіраць, колькі пачуць ад яго навіны. Можна было пагуляць, адкласці на пазней вестку, але паасцерагаўся выклікаць незадавальненне. Дык і пазбег дзейкання:

– Вінаватыя ў смерці тваіх дружыннікаў пазбаўлены жывата.

Маладая, але добра адчула, што гэта значыць. Для іх абоіх і для іхняга дзіцяці. Ды ўхваліла:

– Вось цяпер ты – князь! Сям'ю, верных сяброў абараніў! – Замітусілася пачціва. – Прысядзь. Адпачні. І не бойся. Ёсць каму цябе абараніць...

Схмурыўся. Не сказаць, што не меў страху з-за свайго падману, з-за пралітай крыві. Тут, у Ноўгарадзе, не прасцей, чым у Кіеве альбо ў Полацку: люд добра ведае сваю даўніну, запаветы прадзедаў, нецярпімы да непачцівых, мае пашану да самапавагі, гонару, нават гордасці.

– Паказаў і баярству, і чэрні, хто тут уладар!

“Паказаў!” А яму і ёй рана-позна не могуць “паказаць!”

– Прысядзь, адпачні, – зноў заўгоднічала. – А я загадаю падаць табе вячэру.

## 2.

Пакуль Ірына адлучалася, ён не мог зноў і зноў не падумаць пра свой лёс. Калі тут памёр Вышаслаў, наўгародцы, ведаючы, што Святаполк і яго жонка-”ляхіня” ў апале ва Уладзіміра, папрасілі, каб да іх князіць той прыслаў яго, Яраслава, паколькі растоўцы хвалілі яго. Зазгоднічалі. Ды як было не паразумецца, калі ў Ноўгарадзе быў лад і ўсяго тут хапала – лесу, поля, хлеба, свойскай жыўнасці, дзічыны, скур, рыбы, мёду, лёну, руды, на многія акругі былі вядомыя наўгародскія цесляры, кавалі і іншыя майстры і майстрыхі, у гаспадарскіх дамах і на вуліцах было дагледжана і чыста ад укладзеных плашак ці аплазаваных бярвёнаў, а на беразе ракі часта куродыміліся лазенкі. Далёка былі вядомыя наўгародскія купцы. Яны не толькі гандлявалі дома і паблізу, але плылі па Волхаве ў Нева-возера, па Неве-рацэ – у Варажскае мора, а па ім – у Скірынгсал, куды, як лічылася, з'язджаліся купцы з усяго свету. Дзе вадою, дзе волакам дападалі і да Дняпра, а па ім – у Кіеў, далей – да Панційскага мора, а самыя заможныя з дарагімі таварамі – па ім у Візантыю. Праклалі ў розныя блізкія, а таксама далёкія землі і санныя шляхі, па якіх цягнуліся абозы. Зімой любілі наўгародцы збірацца, як тут казалі, у “ватагі” па сотні і больш люду ды разбойна ісці далёка па розныя лясныя, вадзяныя здабычы, а заадно і прыгнятаць тамашні вольны люд. Па Наўгародскай Праўдзе ці на вечы вырашалі, як паводзіцца паміж сабой і з іншаземцамі, дык не варта было задзірацца. Тым больш, што наўгародцы ганарыліся: яны – самыя тут даўнія, раней за Полацк і Кіеў займелі князя, сталі горадам-дзяржаваю, а потым і Наўгародскай зямлёю. Тое, што пэўны час іхні князь – другі

пасля вялікага князя кіеўскага, гэта па іхняй згодзе. Лішняга Кіеву яны не саступалі і не дазволяць. Хоць і ў іх было не без турбот: наўгародцы любілі і "шалить". Час ад часу здараліся маёмасныя і сямейныя спрэчкі, п'яныя бойкі, агаворы, махлярства, крадзяжы ў горадзе і за ім, рабункі па лясных дарогах як іншаземных, так і сваіх гандляроў, вядзьмарства.

Ды тут прымяшалася, нават глыбока раніла Яраслава асабістае: саслабелы Уладзімір (а занепадаць пачаў пасля Ганнінай смерці) заявіў баярству ў Кіеве, што пасля ягонай смерці на пасадзе вялікага князя павінен быць Барыс з Растова. Як першы хрысціянскі ягоны сын. Гэта Яраслава глыбока пакрыўдзіла. Параіўшыся з Будам, Касняціным і наўгародскімі баярамі, ён рашыў паказаць бацьку характар: ты некалі зрабіў вольным князем у Полацку Ізяслава, а чаму не быць мне вольным тут? Тым больш, што Рурыкавічы павяліся якраз адгэтуль. Але... Сам загадзя ведаў, які можа быць яму адказ. Ізяславава ў Полацку, а яго тут княжанне – не адно і тое ж. Брат, хоць і "па кудзелі" аднавіў, а потым і падоўжыў прадзедаўскі род, а ён, Яраслаў, як і бацька некалі, як Вышаслаў, прысланы. Склалася так, што наўгародцы не заснавалі сваёй княскай дынастыі, з часоў Рурыка ім (часта і па іхняй просьбе) даюць князёў, а бывае, і пасаднікаў, хоць яны пільна сочаць за новымі верхаводамі. Рурыкаву сыну Ігару (праз пляменніка Алега), унуку Уладзіміру паспрыялі сесці ў Кіеве і ўзвысіць яго; у сябе самаўпраўства пасадніка Дабрыні не сцярпелі; маладога Вышаслава прыбралі да рук; і за кароткі час Дабрыневага сына (яго вытурылі палачане) падпарадкавалі; з ім, Яраславам, у іх ідзе прыцірка. Але як згадзіліся, каб ён тут завёў свой род, так пры непаладзе яны, "лихие", могуць і скасаваць дамову ці нават распрявіцца... Таму з імі трэба трымаць вуха востра, у тым-сім і паддобрывацца... Вось яго рэзкі бунт супраць бацькі спадабаўся, ім палесціла, калі даў грамату спыніць плаціць Кіеву даніну – штогод дзве тысячы срэбных грыўняў. Гэта не быў вялікі цяжар для не бедных наўгародцаў, але яны, скупаватыя і ганарлівыя, ажно пакланіліся яму; бацька, асцерагаючыся, што такая машна і сіла, як Ноўгарад, можа выйсці з-пад яго рукі, ускіпеў ад шалу і прагі правучыць сына і яго горад сілай. Пакуль той, раптоўна састарэлы (яму было за шэсцьдзясят) збіраў дружыны, вырашыў не спаць у шапку і Яраслаў: маючы ад наўгародцаў помач, падаўся да шведаў. Па наймітаў.

У дарогу яму наўгародцы сабралі нашмат больш дзвюх тысяч грыўнаў. Але яны не зусім зацікавілі заможнага ад рабункаў Олафа Шотконунга. Больш было да спадобы іншае – калі ён без згоды з баярствам і вечам падмеўся (канечне, з падманам) прызнаць яго права на ладажскія землі. Паспрыяў і яшчэ адзін зручны выпадак.

У Растове ён быў жанаты. Ці, лепш сказаць, знатныя баяры звялі яго са сваёй родзічкай. Ды пажыў з ёй нядоўга. Яна, як аказалася, шчырая і сціплая, памерла пры родах, пакінуўшы яму сына (цяпер Ілья пры ім у Ноўгарадзе). Засмучаны, ён ухіляўся ад новай жаніцьбы, толькі праз пэўны час задавольваўся "начнымі жонкамі". У Ноўгарадзе таксама некаторыя баяры пачалі падшукваць яму малодку – калі не яго палавінай, дык хоць суцешніцай у спальні. Ды ён не спяшаўся заводзіць у сваім хораме гаспадыню, каб не падпасці пад націск яе радні. Адчэпліваўся ад сватоў жартачкамі, чым вабіў іншых знатных бацькоў дачок. І вось у Олафа ён пабачыў яго дачку-красуню Інгігерду. Ужо ў немаладога, у яго ўспыхнула маладое пачуццё. Большае за разлік, што яму выгадна мець такую жонку. Але была адна загвоздка: пакаханая была ўжо засватаная з

пляменнікам Олафа нарвежцам Олафам Харальдсонам. Нечакана ягонае засмучэнне разагнаў тамтутэйшы конунг Эймунд. Канечне, за важкі мяшэчак з грыўнамі ды за абяцанак шчодра плаціць яму за будучую наймітцкую службу. Той надавуміў яго "адкрыць адзін важны сакрэт" бацьку Інгігерды: пляменнік хоча пашлюбавацца з яго дачкой дзеля далёкай задумы. Каб пасля жаніцьбы пазбавіцца ад яго і стаць уладаром адразу дзвюх зямель – нарвежскай і шведскай.

Хлусня напалохала Шотконунга; пляменнік кляўся, што на яго паклёпнічаюць, а юная Інгігерда рвала на сабе валасы: "Не пайду за старога, пляшывага і крывога!", ды па цвёрдавай бацькавай волі (той даў ёй сваю дружыну, вызначыў за вена – пасаг – Ладагу), са слязьмі і з нянавісцю да яго, Яраслава, паехала з ім, каб стаць наўгародскай княгіняй Ірынай. Тут жа адразу ўпарта паказала, як гаварылі ў Ноўгарадзе, нурманскі (варажскі) нораў: хачу мець свой асобны хорам, а пры ім бацькаву дружыну. Многія наўгародцы былі людзі заможныя, але Ірына перасягнула ўсіх: абставілася дарагімі дыванамі, пастаўцамі з люстэркамі, апраўленай срэбрам і золатам, а таксама срэбранай і залатой пасудай (нарабаванае ў шматлікіх еўрапейскіх землях). Трымала нямала нявольнікаў і з імі абыходзілася люта. Не дапускала да сябе мясцовых гусляроў, баянаў і казачнікаў, мела спевакоў і ахоўнікаў скандынаўскіх легенд (скальдаў) з землякоў, цешылася ігрой на флейтах з Правансаліі. Яе выезды з дружынай, увабранай ва ўсё шведскае, у латах, з мячамі і коп'ямі, з закінутымі на спіну шчытамі, спачатку зацікаўлівалі наўгародскіх разявакаў, а затым пачалі наганяць страх. Любіла завітаць на склады наўгародскіх і чужаземных купцоў, выбраць упадабанае (футры, пасуду, розныя ўкрасы) і ўзяць нібыта ў доўг (тыя давалі, але пасля яму гэта выходзіла бокам). Ён мусіў патураць і яшчэ цярпець іншае вялікае засмучэнне: праз сваіх людзей і праз свае руны Ірына не пакідала знацца з любімым Олафам. І яшчэ адным яна ашаламіла ўсіх: перад родамі загадала, каб ёй прынеслі чашу свежай конскай крыві. Апускала туды, у "боскі напітак", рукі, каб "быў сын і каб ён прывык да крыві і не баяўся яе праліваць для храбрасці, заваёвы чужых земляў". Нарадзілася ж дачка. Яраслаў быў рады і ёй. Тым больш, што Ірына згадзілася назваць яе ў гонар ягонай маці-манахіні Анастасіі. Ён верыў: усё разумнае і добрае, што было ў ёй, павінна перадацца і ўнучцы (не памыліўся. – *ГД.*).

Уладзімір, усё больш слабеючы, не нападаў; вольныя ад вайны Ірыніны дружыннікі ад гультаявання разляноціліся, а лайдацтва запатрабавала буянства. Яны не толькі пры выездах любілі пакрасавацца каптанамі з чорнага сукна з бронзавымі зашпількамі на грудзіне, шырокімі скуранымі портамі і вузкімі, кароткімі зашнураванымі спераду ботамі, чорнымі шапкамі з чырвонай каймой. Яшчэ сваволілі фрызонскімі сабакамі-ваўкадавамі, якія злосным гірчэннем перапуджвалі дзяцей і жанок, прыахвоціліся задарма выпіць у дамах багатых гараджанаў, залучыць прыгожую дзяўчыну, а то і маладзіцу. Яны зусім не зважалі на Наўгародскую Праўду, але тут жа спасылаліся на яе, калі ім давалі ўсяго толькі адпор. Маўляў, па ёй не толькі за забойства, але і за абкрыўду, абразу іншаземнага госця заможнаму трэба плаціць яму штраф, а беднага аддаць ім у нявольніцтва ці навечна выгнаць з горада. Яны ж – госці і ўсяго толькі молада гарэзнічаюць... Не выпадкова некалі Уладзімір іхнім землякам не даў шмат запатрабаванага (шчодра толькі разлічыўся за ўзяцце Полацка, насыпаўшы грыўнаў і надзяліўшы кожнага варажскага воя па маладой і прыгожай палачанцы) і выдаліў тых з Кіева...

Ад наўгародцаў пайшлі яму, Яраславу, чалабітныя-скаргі, але Ірына не

дазваляла хоць крыху паўшчуваць “гарэзнікаў”. Цярпенне пацярпелых было не бясконцае, тым больш, што ў наўгародцаў ужо не меней паўтары сотні гадоў то затухалі, то зноў усчыналіся розныя, у тым ліку і ваенназабойныя, стасункі з варагамі-нападнікамі. То з Ладагай запрашалі іх (Рурык), то білі і выганялі. Змагаліся з імі і на суседніх іншаплямённых землях. Калі гэтыя новыя гурмой напалі на дом знатнага наўгародца Парамона, разрабавалі яго і пагвалцілі дачок, то слабада, дзе ён жыў, накінулася, абкружыла “весялуноў” і без літасці перабіла ўсіх. Ірына дамаглася, каб ён пакараў “бунтаўшчыкоў і крыўдзіцеляў”. Іначай, прыпалохала, яна і яе землякі пакінуць яго. Ён, ясна, не хацеў у небяспечную для сябе часіну страціць важкую падмогу. Пайшоў на хітрыку, запрасіў завадатараў расправы на перамовы. Гутарка павялася цяжка, з абвінавачваннямі: перамоўчыкі дакаралі яго за патуранне нахабнікам, а ён выгаворваў за самасуд. Урэшце ўсё магло абысціся не цяжкой караю. Ды тут разышоўся смелы, задзірысты каваль Пракоп: ты навёў набрыдзь не для нашых, а для сваіх інтарэсаў, распусціў яе! І ўрэшце, што вывела яго з цярпення: ты – сляпы крот і глухі цецярук, усе кажуць, што Ірыніна дачка – не твая, а нурманская! Тут ён павярнуўся да Будага – той, плюснуўшы вачыма, адказаў: такое нельга сцярпець. Тады ён у парыве гневу прыпадняў руку, павярнуў яе і апусціў вялікі палец уніз – так у Рыме гледачы на трыбуне давалі знак гладыятару-пераможцу дабіць зраненага. Буды гукнуў ахову – тая ўміг уварвалася, усіх маўчуноў і крыкуноў пад аголенымі мячамі пагнала з грыдніцы. Ноўгарад “обагрился кровью...”

Пакуль усё гэта за колькі хвілін мільганула ў галаве, Яраславу падалі вячэру – засмажаныя вэнджанае мяса з яйкамі, рыбу, зялёную цыбулю, хлеб, кіслае малако. Ірына адпусціла прыслужніцу, пачала сама накладаць яму на талерку смачныя кавалкі.

– З раніцы расінкі ў роце не было, – прызнаўся, – але не хочацца есці. Цягне на сон.

– Паеш, мілы, – папрасіла яна.

“Мілы!” – радасна ўстрапянулася ягонае сэрца. Не мог не паслухацца, падсілкаваўся.

– Хадзем у нашу одрыну (спальню), – бадай, упершыню прамовіла слова “наша” і, здаецца, першы раз ахвотна прытулілася, а пасля ў абдымку павяла яго ў сваю спальню.

...У гэтую ноч яны далі пачатак новаму жыццю. З надзеяй, што цяпер будзе сын.

## 3.

Яраславу выпала доўжыць пачатае дзедам Святаславам: у Растове, мацуючы яго, абслаўяньваў племя меранаў (летапіснае “меря”), меў варункі з мурамай, мардвой і чарамісамі, а тут, у Ноўгарадзе, дзеля яго інтарэсаў знаўся з лівамі, чудзінамі, важанамі, наровамі, а каб зацвердзіцца сярод весі дзеля “паўночнай сталіцы” (Ноўгарада), задумаў на тых землях, на рацэ Ра, што ніжэй па цячэнні называецца Іцілем (Волга), пабудаваць новы горад свайго імя. Таму, маючы нямала турбот, і тут пачынаў дзень рана, яшчэ на досвітку.

Сёння ж таксама абудзіўся на золку. Каля ненакрытага жончынага боку. З замілаваннем слухаў, як Ірына, лежучы на спіне, ціхенька і роўна дыхала, маючы моцны малады сон. Засцярожліва, каб не рыпнуў ложак,

прыпадняўся на локці і азірнуў поўненькае, светла-матавае, пяшчотнае і на дасвецці жончына цела – раскіданыя светлыя валасы прыкрываюць гладзенькія шчаку, прадаўгаватую шыю, бліжэйшы вабны плячук, але не засланяюць паўкруглыя тугія грудзі, вабкі жывот, стройныя ногі, абхіленыя толькі па калені летняй коўдрачкай. Адхінуў валасы з твару – ён цяпер, без ніякага натужання, лагодны, выпраменьваў маладзенькую яснасць, супакаенне ўсцешанай душы і быў падобны на лік соннай шчаслівай жанчыны. Ад дотыку сваіх жа валасоў Ірыніны светлыя бровы варухнуліся, а за гэтым і яе спакусна паўраскрытыя вусны; яна штосьці невыразнае мармытнула на роднай мове, пасля павярнулася пакатай да яго спіной і несвядома нацягнула коўдрачку на акруглыя, прыгожыя ў сваёй важкасці клубы. Мо каб быў маладзейшы, то інакай сябе адчуваў бы, пагарэзаваў бы і пабудзіў, але нашмат старэйшы, на ўсю моц сталай, малазведанай ласкі душы любаваўся такой простай, але і такой нябеснай праявай жаночай маладосці і красы.

– Спі-спі, любоў мая, – шапнуў, поўнячыся радасцю, што, можа, з гэтай ночы ў іх жончыная непрыязнь зменіцца на людскасць і дабросць, і ён нарэшце зведае такое жаданае і для князя сямейнае шчасце: гэтай ноччу, як ніколі, Ірына была гуллівая, узбуджальная, упершыню нават забыўлівая ў блізкасці і жарскасці.

Апрануўшыся, на дыбачках выйшаў са спачывальні ў паўзмрочны перадспальны пакой, дзе, спаважна падняўшыся з лаўкі, яго ўжо сустрэла зусім не сонная, а ўзбуджаная Ірыніна пакаёвая – яе зямлячка, пажылая і кастлявая Рынгала. І па яе ажыўленым позірку здагадаўся: яна чакала якраз яго. Штосьці залапатала па-свойму, але ён яе не зразумеў. Толькі ясна было адно: Кіюв, Кіюв... Значыць, нейкія навіны не з Ноўгарада (а наўгародцы ўжо і цяпер, раннем, могуць забуяніць), а з “паўднёвай сталіцы”. Павабіла рукой: ідзі за мной. Спусціліся па драўлянай, з прыгожай разьбой лесвіцы, засланай дыванам, узбоч сцяны, дзе ў гаршках яшчэ невыразна вызначаліся кветкі, на першы паверх. Па ім, па доўгім таксама з дыванам праходзе, прыкрочылі да палаты, дзе прыймалі не надта знатны люд. Тое, што вестка магла быць з Кіева, захвалявала не менш за наўгародскую пагрозу. “Што за весцьчь? Бацька ідзе сюды? Хутка бой з ім?”

У простым пакоі са сталом і лаўкамі быў, сапраўды, чалавек у кіеўскім строі. Яшчэ малады, чарнявы, у звычайных мокрых валовых ботах і каптане, стомлены – вызваленыя ад навушніцы кучаравыя валасы ліпліся да ўпацелага лоба, а вочы запалыя. Значыць, зведаў змушанае бяссонне. Цяжка падняўся, абапёрся далонямі аб стол. У адной руцэ быў згорнуты скрутачак.

– Здароў быў, князь, – нізка схіліў галаву. – Я – скараход з Кіева. Табе – весткі ад сястры тваёй, Прадславы. Вось, – падаў граматку.

“Гэтаму пасланцу вер. Як і мне”, – напісала яна.

– А весткі ад яе, князь, вусна.

“Верная слову свайму, – падзякліва падумаў пра сястру. – Калі апошні раз бачыліся ў Кіеве, дык без маёй просьбы падмелася перасцерагаць ад усякіх злыбед... Значыць, насоўваецца ліхасць... “ – пахаладнеў. Ды як не здранцвееш, калі трэба падымаць меч на...

– Памёр ваш бацька, вялікі князь кіеўскі... – перапыніў яго думкі скараход.

Што? Яраслаў ад нечаканасці нібы пачуў і быццам не зразумеў нічога, таму і ўголас перапытаў: – Што?

– Памёр ваш бацька, вялікі князь кіеўскі, – пачуўся адказ-паўтор зморанага чалавека.

Вось так. Не стала бацькі, супраць каго замысліў бунт. Значыць, мо і ён, ягоны сыноўскі ослух, даканаў надарванага зямным быццём яго жыццядайца. Значыць, нямала хто будзе вінаваціць яго. Ды... Цяпер, пакуль усё не ўтрасецца, уварвання з Кіева не будзе.

– Садзіся, – сказаў ганцу і сам апусціўся насупраць стала на лаўку. І да Ірынінай пакаёўніцы: – Прынясі добрага віна і закусь. – А госцю зусім без разгубленасці: – Што перадае мне Прадслава?

– Верныя твайму бацьку мужы знатныя хацелі гэтую весць утаіць на час. Каб дачакацца з паходу на печанегаў Барыса з дружынамі. Ад яго печанегі збеглі, і ён іх не знайшоў. Вось да яго, амоцненага, верныя твайму бацьку і паслалі ганца. Але Барыс не захацеў займаць бацькава месца. “Не пайду супраць старэйшага брата, ён цяпер мне за бацьку”, – адказаў. Значыць, прызнаў за вялікага князя Святаполка. Дружыны махнулі рукой на дзівака і разыйшліся па сваіх землях. Кіеўскую сустрэў Святаполк і асыпаў яе дарамі з вялікакняскай казны. Яна прысягнула яму як вялікаму князю...

У Яраслава нянавісць да Барыса раптоўна змянілася на міласць – выходзіць, не прагны да ўлады. А вось Святаполк... Што ж, мае поўнае права на пасад кал не як Яраполкаў сын, то як Уладзіміраў. Старэйшых за яго цяпер няма. Але з ім, уладалюбцам, фанабэрнікам, двудушнікам і вераломцам, закрочыць ліхасць і чорная часіна. Пад знакам помсты за бацьку Яраполка ён пастараецца зжыць са свету ўсіх супернікаў, Уладзіміравічаў.

– Святаполк падаслаў забойцаў да Барыса, – пачаў пацвярджаць яго здогад ганец. – Яны цяжка паранілі Барыса. Абаронцаў ягоных забілі. Нелітасціва пасеклі отрака Грыгорыя Угрына. А каб зняць з яго шыі залаты ланцужок з грыўнай, падораны Барысам, адсеклі яму галаву. Брат яго, Майсей, дужа зранены. І ў небяспецы вялікай.

Каб іншым разам, то Яраслаў усміхнуўся б з гэтых спачувальна-горасных навін Прадславы пра братоў Угрынаў: яна (бедная, бацькам адлучаная ад мужчынскай ласкі) употайкі кахалася з Майсеем. Дык во і клапоціцца дбала пра любімага.

– Зраненага Барыса прывезлі да Святаполка, але той загадаў дабіць яго, – скараход збіраў апошнія свае чалавечыя сілы, каб ясна мысліць і пераказаць Прадславін наказ. – Сястра твая перасцерагае: Святаполк паслаў згубіцеляў-ірадаў і па душу Глеба, Святаслава. І па тваю, князь...

“Так і ёсць, – Яраслаў зноў зведаў халодны пот. Цяпер не столькі ад страху, колькі ад жудасці. – Усіх нас– пад корань... Во Каін...”

– Хоча падкупіць печанегаў, каб не прапусцілі Мсціслава з Цьмутаракані ў Кіеў. Паслаў свайго чалавека да цесця, Баляслава.

“Загадзя ўсё прадумаў злыдзень! З усіх бакоў абкладаецца!”

– І яшчэ адна навіна ад сястры тваёй, князь. Візантыя ваюе з балгарамі, дык ёй цяпер не да Кіева. Прадслава змушала мяне завучыць на памяць словы: “... дык ёй цяпер не да Кіева...”.

Яраслаў яшчэ раз здзівіўся: якая разважлівая сястра, якой спадручніцай была б любімаму мужу! (Ён тады яшчэ не ведаў аднаго жаху: асвечаныя ведамі і мудрасцю візантыйцы павяліся... звышбязлітасна: асляпілі 15 000 запалоненых балгараў. І яшчэ тады не зведаў, чаму Прадслава падала свой загадкавы знак пра Візантыю).

Пакаёвая са слугамі прынеслі сняданак яму і скараходу. Яраслаў не дакрануўся да ежы, а той з прагай выпіў вялікі келіх віна, паспрабаваў есці, але ўміг панік, а потым аббясілена ткнуўся тварам на стол.

Скарахода Ірыніны слугі-мужчыны перанеслі ў спальную палату; Яраслаў, не зважаючы на дождж, толькі атуліўшыся непрамакальным шведскім плашчом, няспешна падаўся ў свой летні дом, што быў паблізу Ноўгарада, за Юр'евым манастыром. Як ніколі, думкі, душа былі раздвоеныя. Трэба было жалобіцца, што не стала бацькі і вялікага князя Русі, а ён не адчуваў нават смутку. Яго перасільвалі тайнае суцяшэнне. Але і трывога. Што да неспакою, то ён быў не столькі ад боязі падасланага забойцы, колькі за тое, да чаго яму хутка трэба будзе прычыніцца...

Не мог не падумаць з падзякай аб Прадславе. Шчыра любіць іх, братоў па няшчаснай маці (ён тады яшчэ лічыў яе менавіта такой, не ведаючы, што яна з-за іх, уладкаваных дзяцей, адраклася ад зямных радасцей), беражэ. Хоць, бач, Прадслава засмучаная за Барысаву загібель, шкадуе Глеба, хоча ўратаваць таго. Міласэрная. Па-свойму гаротніца. З-за незразумелай бацькавай любові. Красуня з красуняў, а вось замуж выйсці не дазволіў. І да Праміславы не дапусціў жаніхоў. Чаму? Не пазбавіўся любові да іх маці? Бачыў яе, маладую, шчодра адароную красой, у асобе дачок? Дзіўная, не зусім здаровая бацькоўская любоў! Які там набожнік! Мучыцель! (Раней, асабліва тады, калі шанавіта апынуўся ў Ноўгарадзе, адкінуў усе папрокі бацьку за былое, але вось нядаўна, калі забунтарыў, набіраўся злосці супраць таго.). Ён, Яраслаў, крыху запомніў маці. З самага ранняга побыту асабліва ўрэзалася ў памяць адно: калі ў матчыную святліцу ўвайшоў злы бацька і агаліў меч. Маці, багата і хораша ўвабраную, засланіў высакаваты для свайго ўзросту іхні Ізяслаў. Таксама з дастаным з похвачкі дзіцячым мячом. Збялелы што снег, але з рашучасцю ўдарыць бацьку. Яраслаў, бадай, нічога не зразумеў з таго, што дзеецца, але і, як лічаць, маленькай дзіцячай душой адчуў вялікую небяспеку для маці, брата і памкнуўся да іх. А ён жа тады не хадзіў. Ды нейкая незразумелая сіла падкінула – ён загаласіў і... пабег! Бацька ажно анямеў. Ад непарушнай жонкі і ад іх, сыноў – старэйшага са зброяй і ад малодшага, імтанутага з месца. Павярнуўся і рушыў са святліцы... Яраслаў пасля таго дня больш маці і брата не бачыў, толькі нядаўна, едучы ў Ноўгарад, завітаў у Полацк, пазнаёміўся з пляменнікам Брачыславам, пабыў з ім каля кургана-гары дзеда Рагвалода і бабулі Прадславы (там знайшлі вечны спачын і два дзядзькі), куды палачане насуперак епіскавай волі падхавалі рана памёрлых і маці, і брата, сынаўца Усяслава. Тады хораша пагаварылі – ён і Брачыслаў. Той спадабаўся раннім ясным розумам, развагаю, хоць яму было не больш дзесяці гадоў. Мо і дзедаў ды бацькаў лёс, матчыныя, баяравы мудрыя парады пачалі прызвычайваць яго змоладу сталець, гаспадарыць. Дамовіліся тады, што Полацк і Ноўгарад паміж сабой будуць мірнічаць і гандляваць.

...У сваім летнім доме Яраслаў не паімкнуўся пабачыцца з Касняціным і сынам, а зажадаў сустрэцца з Будым: першы падабраў толькі бацькаву жорсткасць, але не глыбокі розум; Ілья – па гадах недалёка ад Брачыслава ды зусім не мае самастойнасці-разваротку таго, а вось трэці, Буды, – бадай, шасцігаловы змей, патрэбен для гутаркі і пры людзях, і сам-насам. Без лішніх слоў той ведае: ён, Яраслаў, спажываў і будзе спажываць ягоную выкрутлівасць; трэба – залучыць ягоную думку, трэба – сваю падасць як яго, каб не высоўвацца самому. У іх ужо даўнавата наладзілася своеасаблівая змова-гульня.

– Спачуваю, князь, – Буды вось і цяпер не ўпаў на калена (знае, што непатрэбен такі прытвор), а толькі нізка схіліўся, бліснуў жоўтай, з чырвонымі пражылкамі лысінай.

Яраслаў у тон Буду журботна хітнуў галавой. Выяўлена сыноўская журботнасць. Княскае – наперадзе. Паказаў рукой: садзіся. Насупраць за сталом.

– З сённяшняга дня рашуча запыняй вольныя прагулянкі, – перасцярог Буды, – для сваёй рашучасці... Падасланец калі не сам дабярэцца да цябе, то падшукае нібыта скрыўджаных табой наўгародцаў...

Вось і ў гэтым спачуванні Буды закінуў пробны камень у вызначэнні паняцця "сваёй рашучасці". На гэты конт ён, Яраслаў, шматлікага не давяраў Буду, але той унікаў, разумеў. Але цяпер – зусім іншае. Буды павінен яго падштурхнуць...

Некалькі хвілін – іспыт адзін аднаго. Буды па позірку зразумеў і сказаў тое, што трэба яму:

– А так, Яраслаў, гэта табе... нябесны знак...

"Нябесны знак...". Канечне, цяпер яму паратунак. Ад бацькавага гневу. Але Буды хоча сказаць не толькі пра гэта... Той без ніякае натугі зразумеў тыя думы-задумы, што ў яго песціліся з таго часу, калі дайшоў сюды погалас пра Уладзіміраву хворасць. Гэта і добра, і небяспечна, калі самы блізкі памагаты не толькі разумее намёк, але і невымаўленае. Не кожны князь жадае мець такога падсобніка: часта бывае, той не шчыруе, ранапозна можа нанесці ўдар у спіну. А Буды – якраз такі нягоднік: у свой час быў абласканы Яраполкам, а потым затлуміў таму галаву рознымі хітрыкамі-ашукамі і перадаў-прадаў яго Уладзіміру, за што яму далі мянушку Блуд. Хоць яму, Яраславу, такое не пагражае: перабежчыка-прадаўцу Будага-Блуда чакае смерць, калі Святаполк – Яраполкаў сын. Значыць, павінен служыць яму, Яраславу. Як верны пёс. Так што ягонае мярзотніцтва карыснае. Без такіх акаянцаў-шэльмаў, бадай, не абыходзіцца ніводзін уладар.

– Наўгародцы ўжо ўведалі пра ўчыненае, – павёў далей сваё Буды. – Загулі. Канечне, склічуць веча. Захочуць мо і прагнаць цябе. Але цяпер ты не толькі не пацерпіш, але і павядзеш веча за сабою...

"Павядзеш!" Хто ведае, як будзе паводзіцца абураны натоўп. Толькі загадзя ясна: проста так не даруе забойства сваіх гараджанаў. Веча наўгародскае – сіла вялікая. Гэта не полацкае, дзе веча пачало збірацца толькі праз чвэрць стагоддзя, пры немаўляці Брачыславе, і тым больш не кіеўскае, дзе, лічы, яго ніколі не было; там моцныя князі з часоў Алега і раду збіраюць толькі для таго, каб выявіць ёй сваю волю. Так што цягаў воўк авечак – могуць пацягнуць і воўка... Здаўна вядома: наўгародцы ўмелі і могуць хутка пераняніць мірны характар на воінскі. Адно спадзяванне на тое, што паасцерагаюцца Святаполка. Калі той прыбярэ яго, Яраслава, то і адменіць дадзеныя ім прывілеі. Значыць, патрэбны дзьве рэчы: выціснуць з сябе слязу (мо і нацерці вочы цыбулінай), пакаяцца і нацкаваць наўгародцаў на Святаполка. Вось тады мо і "павядзеш...". І яшчэ вялікая надзея на Прадславу. Трэба папрасіць яе, каб падкупіла каго з тых, хто цяпер блізка да Святаполка...

– Многія наўгародцы не могуць не паспачуваць табе ў тваім горы вялікім, – адгадваў ягоныя думкі Буды. – А калі ты павыбачаешся і пристрашыш Святаполкам, то суцішацца. А калі...

Яраслаў апусціў галаву, слухаў і добра разумеў, што значыць гэтае новае, не да канца прамоўенае "а калі...". Яно можа сцвердзіцца толькі

тады, калі наўгародцы даруюць яму, згодзяцца пакінуць сваю працу, сем'і, возьмуць у рукі зброю і збяруцца ў раці, каб пайсці з ім і за яго ў Кіеў. А гэта... Не адбылася вайна з бацькам, дык не пазбегчы яе з братам. І трэба ўдарыць першым!

– Што рашаеш, Яраслаў? – запытаў Буды. – Калі наўгародцы памогуць, пойдзеш на Святаполка ці будзеш чакаць ад яго міласці і ласкі?

– А ты што параіш? – пацікавіўся дзеля прыліку.

– Не пойдзеш – прыйдзе ён. Не проста так збірае сілу.

– Вялікая кроў пральецца. Братазабойная!

– Праўда, так ці гэтак яе нямала нацячэ. Ды яе праліў ужо Святаполк, – супакоіў Буды. – І яшчэ большую пралье. Не ён такі першы і не апошні...

Недагаварыў: апроч дзеда Святаслава і прадзеда Ігара, астатнія князі ішлі да вялікай улады ў Кіеве праз забойства, у тым ліку і родных братоў. І рана-позна іх ухвалялі, кланяліся нізка.

– І ў іншых так жа, – супакойваў далей Буды і напамінаў: – Сам жа ведаеш, нядаўна кароль чэхаў Баляслаў Рыжы, як толькі сеў на пасад, загадаў гвалтам пазбавіць мужчынскай сілы брата. Другі брат выратаваўся толькі ўцёкамі. Ляшскі кароль Баляслаў выгнаў братоў, а некаторых небяспечных яму родзічаў асляпіў. А франкі, грэкі, хазарскія і печанежскія ханы... А хвалёная Візантыя!.. Рэкі і братняй крыві пралілі... Так што, паўтаруся, спажывай нябесны знак табе... Не марудзь вельмі, ідзі. А вось з Палацескам трэба перамовіцца, заручыцца, што ён не ўдарыць табе ў спіну. Хоць... Не ўдарыць. Пакуль што...

Буды хацеў сказаць, што цяпер, пасля смерці Уладзіміра, пэўнае права на пасад у Кіеве мае Брачыслаў. Як самы старэйшы Уладзіміраў унук. Але вось іменна толькі пэўнае: бацька, Ізяслаў, не быў вялікім князем кіеўскім, яго вотчына – Полацк.

– Пашлі ганца ў Палацеск, – натхніў Буды. – Нібы запытай, ці будзе Брачыслаў зрыцца на Кіеў. Палацескія гардавусы задаволяцца ўжо і тваім запытам. У тваю бітву са Святаполкам не ўлезуць. Ім цяпер лепш сініца ў руцэ, чым журавель у небе. Найперш – свае, палацескія, інтарэсы. І трэба зрабіць усё, каб пра забойства Святаполкам Барыса ведалі чым далей... І не зашкодзіць, князь, пусціць чутку, што Святаполк не толькі жадае ад цесця Баляслава змяніць веру ад Канстанцінопаля на веру ад Рыма, але намерыўся і перадаць ім і землі нашы. Хлусня, канечне, але яна цяпер трэба... Добра было б, каб пра гэта якую граматку ўмела падрабіць і каб яе люду паказваць... Тады апраўдана было б Святаполка схапіць і зжыць са свету... А пасылаць перасцярогу ў Мурам Глебу не спяшайся... І ён, і Святаслаў з Драўлянскай зямлі, і Усевалад з Уладзіміра слабыя, табе не памогуць. А Мсціслава, канечне, печанегі не дапусцяць.

Блуд ёсць Блуд. Раіць прыбраць як не адзінакроўных, так і родных братоў-супернікаў чужымі рукамі, а сябе падаць іх заступнікам. Ніколі яшчэ не зведваў такога ўзрушэння-ўструсу, як за апошнія некалькі дзён. І асабліва за гэтыя суткі. Хоць і ў ягоных братоў, сясцёр гэтыя дні былі мала сказаць трывожныя – адчайна-небяспечныя. Не аднаму з іх рашаўся лёс: жыць ці не. А калі быць на гэтым свеце, то як? Было-ішло ва ўсіх, апроч Святаполка, усё больш-менш гладка – і раптам... Усё – употырч!.. Блуд больш не насядаў і не падспешваў. Мо і адчуваў-бачыў: некалі Святаслаў, збіраючыся ісці на непрыяцеля, пасылаў таму вестку: "Іду на вы!", а Яраслаў будзе памоўкваць, але рушыць на брата...

“...Не видя лучшего средства, Ярослав прибегнул к великодушию оскорбленного им народа”, пакаяўся на вечы (“я – безразсудный”), заплакаў па бацьку, але нейкі час “народ безмолствовал”, пасля паспачуваў яму. “Ярослав отер слезы и продолжал”, “воспламенил их усердие известием о новых убийствах Святополковых, набрал 40 000 россиян, 1000 варягов” і “вступил в поле” (тут і далей задвухкоссенае належыць М. Карамзіну. У іншых крыніцах колькасць “россиян”, г. зн. наўгародцаў і іх суседзяў, іншая: 30 000, 3000. А “вступить в поле” азначала “пайсці на бітву”. – *Г.Д.*).

## 4.

Яраслаў пакінуў у Ноўгарадзе кіраваць за яго, князя, маладога сына (яму, як і стрыечніку Брачыславу было 15 гадоў), пасаднікам – пажылога Касняціна (Ноўгарад быў з рэдкіх гарадоў, дзе маглі кіраваць удвух – князь і пасаднік, і апошні часамі меў большую моц) і адправіўся ў паход па вывучаным ужо стагоддзямі шляху “з варагаў у грэкі”. Пасля Ільменя, наўгародска-пскоўска-гарадоцкай ракі Ловаць і волака па сушы патрапіў у Дняпро і паплыў па ім. На сваіх ладдзях ды плытах, а таксама і на сярэдняга аб’ёму свейскіх дракарах, кожны з высока ўзнятым носам і абстрашаны галавой злога дракона (вялікіх дракараў, што рухаліся не толькі пад вёсламі, але і пад парусамі, маглі ўмясціць шмат вояў і коней і якія зведалі не адно мора, навялі жах на шмат плямён і народаў, не ўзялі з-за іхняй груvасткасці). Абуджаючы цікаўнасць прырэчных насельнікаў (“Ноўгарад на некага ідзе вайной”), падаваліся спачатку па сваёй, крывіцкай, а потым між залежнымі ад Кіева радзіміцкай і дрыгавіцкай земляў, мінулі Магілёў, Оршу, Рэчыцу. За імі Дняпро стаў значна шырэць: яго папоўніла Бярэзіна. А далей уніз, калі дасягнуць яго Сож, Прыпяць і Дзясна, ён яшчэ болей шматводны, разальецца ўбакі. Пасля Рэчыцы Яраслаў замарудзіў рух і паслаў наперад ужо і выведнікаў па берагах (коней “пазычылі” ў прырэчных паселішчах), усё часцей клікаў іх да сябе з адной і той жа турботай: паказаліся Святаполкавы дазнавальнікі (а значыць і перадавыя сілы) ці не? Нельга дапусціць, каб той зашчаміў іх на рацэ, не даючы высадзіцца. Нарэшце яму даклалі: мясцовыя кажуць, што, плаваючы па Дняпры, бачылі шмат вояў на блізкай зямлі севяранаў, каля Любеча. Значыць, Святаполк там будзе сустракаць яго.

Услед за ахоўнымі ладдзямі павольна плывучы ў Эймундавым дракары з полагам ад дажджу, Яраслаў агледжваў берагі: на якім з іх, дзе спыніцца. Нейкае пачуццё падказвала: трэба зрабіць гэта на правым (лоеўскім) боку. Каб іх адгароджвала Дняпро і каб сабраць у адзін кулак сілу і схаваць запасныя дружыны. Хоць аколле тут было няпростае: ёсць дубовыя дубровы, але невялікія, больш хваёва-бяроза-асінавых лясоў з зараснікамі featureзнага кустоўя, шмат поймавых паплавоў і лугоў, старыц, імшарын, балотцаў з пратакомі, трыснягоў, чароту. Цяпер, ужо ў позню восень, прыдняпроўская прырода тут была стракатая: і ўдзень неба нізкае, захмаранае, імжыць-цярусіць дробным халодным дажджом, ад чаго дняпроўская вада зацемненая і змрочная; дубы пашарэлі, але яшчэ не скінулі лісце (вунь у гэтай дуброве збірае жалуды статак дзікоў); сярод зялёных хвой жаўцеюць з рудаватым адлівам бярозы і асіны, разам з кустоўем назбіралі макрэчы; паплавы і лугі абшарэлі ды за асеннія часіны авадзянелі, а балотцы з пратокамі сталі сажалкамі (сярод іх ёсць і выгарыны, што сталі дрыговінамі – выгаралы глыбока торф, а яміна заліта вадою, а паверсе

яе трава-паплывуха; выпадкова ступіш туды – неспадзявана шухнеш на дно, а сплеценая трава не дасць выбрацца). Яраслаў уздыхнуў: нязручныя мясціны для высадкі, тым больш для стаянкі. Паселішчы (як меркаваць па дарогах да іх) – у лясах ці за поймамі, каля распрацаванага поля. Хоць ужо позняя часіна, але яшчэ не зазімак. Вось раз-другі выблукалі з лесу мужчына і жанчына з пляценікамі, поўнымі зялёнак і апенек, але тут жа зноў шунулі ў лес. Праз дзень-два ўжо мо і не ўбачыць чалавека: люд сыдзе. Што з дабра возьме з сабой, а што схавае. Калі мінулі нешырокую, на крокаў дваццаць з хвосцікам, Песачанку, што непадалёку паселішчаў пры ёй (Сяўкі, Дзяражычы, Глушэц) убірала ў сябе ваду з блізкага наваколля і несла яе ў Дняпро, паказаў рукой: кіруем да берагу.

Прысталі. Яраслаў, як толькі ступіў на зямлю, адразу ж загадаў Будаму паставіць варту на гэтым беразе і пільна сачыць за другім, а то і пераправіцца туды дазорцам. Яму і Эймунду, Будаму і знатным дружыннікам пасярод сухога прагалу пачалі ставіць шатры з прывезеных скур і палатна; іншыя вакол іх ладзілі сабе буданы з тонкіх дрэвін, галля і трыснягу. Для знаку тым, хто будзе прыбываць усю ноч, запалілі на беразе касцёр.

Сілу сабралі і за некалькі дзён былі ў баявых настроі ды здольнасці. А што далей? Ад Святаполка – ні гу-гу. Не кідаецца праз Дняпро і іх не кліча перайсці. Канечне, як і яны, таксама хоча ўведаць, колькі і чаго ў суперніка. А тут з кожным днём надвор’е мала сказаць даецца ў знакі – даймае: то ціш, сонечны пробліск, лёгенечкае цяпло, то раптам вецер-скавыш, хмарнасць, познеасенніх ўлівень і сцюдзёнасць, а тады – стынь, пад раніцу сівы дол, днём мокрая снежная крупа. А затым – замаразкі, лёдзік на лужынах. Усё гэта, зразумела, не несла добрага настрою змакрэлым, многім прастуджаным і варагам, і наўгародцам. Пачала расці буркатня. Паслалі раз, другі выведнікаў на той бераг – не вярнуліся. Значыць, перахапілі іх. Адправілі ганца-перамоўцу да Святаполка: саступі вялікакняскі пасад сыну старэйшага брата, Брачыславу. Адказ: ён – тут збоку-прыпёку, а вось я – старэйшы за ўсіх вас, дык і мне сядзець у Кіеве. А калі ты, Яраслаў, прыйдзеш без медавухі і пірагоў, то і я цябе сустрэну без іх.

Значыць, не баіцца. І мо найбольшая надзея на даўніх ворагаў – лютых печанегаў, радых і ўмяшацца ў кіеўскую міжусобіцу, і пажывіцца, і аслабіць Русь. Калі ж да абодвых берагоў набліжаліся нясцерпныя, то між імі пачыналіся перасварка і абразы. Адтуль захмялела крычалі на наўгародцаў: “Хіба вы – ратнікі?! Вы – цесляры-няўмекі! Даўбежнікі!”. А то дражнілкі з калючай гульнёй слоў: “храмец” і “харамец”. “Храмцом” называлі яго, Ярослава, а слова “харамец” азначала “хорам” (“не ўмееш ваяваць, дык ідзі да нас рубіць новы вялікакняскі хорам”). Нават ваявода Святаполкаў дазваляў сабе зяваць Яраслава асабіста “Баязлівы ты, князь! Як заяц! Ідзі, дык хоць крывую нагу выраўняем!” А ім з гэтага берагу: “Вы – паслугачы і лёкаі! Ваш верхавод – Каін! Забойца братоў Барыса, Глеба, Святаслава! І Яраслава хоча загнаць у магілу! Дзяржаву нашу ляхам перадаць!”

Калі ўжо прыціснуў мароз і зямля ацвярдзела, а сажалкі і азерцы, дзе вада стаяла, аскарыніліся даволі тоўстым (не прабіць костачкамі сагнутай рукі) лёдам (наледзь бралася і па дняпроўскіх берагах), калі ад холаду не ратавалі ні буданы, ні вогнішчы, злыя выкрыкі пачуліся і тут, у іх стане:

– Доколе бездействовать будем? Нас считают за неумек и боязливцев!

– Заживо сгнием или замерзнем!

– Князь, решайся! Иначе уйдем к семьям!

Канечне, стаянне зацягвалася. Яраслаў, Буды і Эймунд, старэйшыны дружын рашылі: хуткая зіма павінна пайсці ім на помач. Паўднёвым качэўнікам, людзям прыкіеўскай зямлі будзе цяжэй вытрываць халадэчу, чым наўгародцам і яшчэ больш паўночным, звыклым да лютасці прыроды варагам. Адпаведна, ішла вайна цярпення і нерваў. Але, бач, яны, нервы, здаліся і ў холадастойкіх. А што тады ў мерзлюкоў? І Яраслаў гадаў-мучыўся: чаму няма ніякага знаку ад таго, чаго ён прасіў у Прадславы. Дзе віжы яе вернага, блізкага да Святаполка чалавека?

І тут перад раннім, але не надта цёмным передвячэр'ем (зямлю запарушыў лёгкі, сыпкі, па-сапраўднаму ўжо зімні), у шацёр да Яраслава радасна ўбягае Буды.

– Князь, перабежчык...

Па дазволе Яраслава ў шацёр ступіў малады дружыннікі вой, упаў на калені:

– Князь, чаго марудзіш?

– Патлумач, – сярдзіта сказаў ("изрек") Яраслаў.

– Твой дабрадзей ужо тры разы пасылаў табе сказаць, дзе і калі табе напасці. Але ты...

– Я пасланцоў ад "дабрадзея" не бачыў, – у тым жа тоне "отвествовал" Яраслаў, але тут жа зразумеў, што пасланцоў дабрадзея, перахапілі, але заадно ацяпліўся думкай: а ўсё-такі мілая Прадслаўка знайшла свае пуцявіны ў Святаполкавым атачэнні, і яе надзейны чалавек перадаваў і вось цяпер даносіць тое, што менавіта яго, Яраслава, ратуе. Таму строга, але прыязна:

– Гавары, што табе даручылі сказаць.

– Сятаполк неабачліва разлучыў сілы, свае – каля ракі і між азёрамі, а печанегі – асобна за азёрамі. Вінапійца. Гуляе, як пераможца ўжо. А воі яго ад стаяння, ад халадэчы злыя. Печанегі – яшчэ больш, ужо цяпер патрабуюць ад Святаполка вялікай аплаты. Іначай пагражаюць сыйсці. Дабрадзей падказвае: лепш за ўсё уночы напасці на Святаполка – п'янага і соннага.

Гэтыя весткі абагрэлі Яраслававага сэрца; ён махнуў рукой Будаму. І той па гэтым позірку зразумеў: Яраслаў не проста запрашае падыйсці, а патрабуе падаць карту. Азначэнне даўніх пуцявін з "варагаў у грэкі", дзе на добра выраблены пергаменце былі выкладзены залатой ніцяй Дняпро, сінімі – прытокі да яго, карычневымі – гарады, жоўтымі – найбольш значныя паселішчы.

– Паказвай, – сказаў перабежчыку Яраслаў, – дзе стан Святаполкаў і дзе запыніліся печанегі. І дзе іх заспець знянацку...

А калі той пра ўсё расказаў, Яраслаў задаволена пацёр рукі і павесялела павярнуўся да Будага:

– Скажы ўсім, каб ірвалі на сабе кашулі...

Той, што бывае рэдка, не зразумеў, зірнуў няўцямна.

– Перапраўляцца будзем глухой ночай, – патлумачыў таму. – А каб не пераблытаць сваіх і чужых, няхай кожны з нашых паверсе шолама павяжа белую хусціну. І яшчэ скажы: як толькі мінем Дняпро, ладдзі адштурхоўваць ад берагу і пускаць іх па цячэнні. Ладдзі перахопяць у Чарнігаве. Пераможам – вернем іх, ганебна прайграем, ляжам тут – яны нам будуць непатрэбныя...

Канечне, пасля такой ягонай строгай, нават суровай волі наўгародцы не могуць не біцца да смерці!

## “З Рукапісу”

“Нестар у сваім летапісе, напісаў, што Святаполк і Яраслаў, асцерагаючыся адзін аднаго, “стояша месяце 3 противу собе”. Тацішчаў, ведаючы ваенныя стасункі, толькі пасміхнуўся на гэта і сказаў, што тут славуты летапісец, як чалавек не ваенны, як і шмат усюды, хацеў нямала чаго перабольшыць на карысць пераможцы... Можа, паціснуў плячыма Тацішчаў, мірнае супрацьстаянне і было. Ды не больш за “тры сядміцы” – тры тыдні: нават з жалезным ладам не кожнае вялікае войска здолее без упарадкаванага жылля, без руху вытрываць, лічы, у балоце ў безупынныя сіверныя асеннія дажджы, у марозна-снежную сцюжу і застацца баяздольнай сілай.

Яраслаў рызыкнуў на бой першы. Сапраўды, яшчэ да світання першыя з перабежчыкам-праваднікам перабраліся на другі дняпроўскі бераг разведчыкі і ціха прыбралі варту, пасля падаліся і астатнія, “отринуша лодье от берега” (тут і далей задвухкоссенае з Нестара) і па надоечнай задуманасці двума патокамі без шуму напалі на сонныя лагеры Святаполка і печанегаў. Вось тут наўгародцы пачалі грэцца – і крыкам-ровам, і сякерамі на доўгіх тапарышчах ды мячамі заспелі Святаполкавых вояў знянацку, ашаламілі, без літасці пярылі-хвасталі і калолі-праціналі іх. Не хутка пачалі даваць ім адпор. Толькі праз нейкі час Святаполкавы вoі ачунялі. А калі націск нападнікаў паслабеў, то “бысть сеча зла”. Урэшце “одалати нача Ярослав”, супернікі завагаліся, пахіснуліся і адступілі да возера перад станам печанегаў, спадзеючыся знайсці там помач. Але на возеры, дзе лёд мог лёгка ўтрымаць аднаго чалавека, ад мноства люду пачаў прасядаць, трэскаць, і ў праёміны навек хлынулі як адны, так і другія. Неўспадзеўкі , адкуль ні вазьміся, стаўся няўмольна-забойны набег і для печанегаў. Тыя, што не палі ад абрушаных страшных сякер, не столькі абараняліся, колькі паімчалі да сваіх табуноў за лагерам. Іх праследавалі пеша, а потым і на захопленых іхніх жа конях.

“И одоле” Яраслаў. Ён пераможцам уехаў у Любеч (там, на дняпроўскім беразе, ляжалі перакуленыя і ўжо накрытыя шапкамі снегу наўгародскія ладдзі), а потым і ў Кіеў, дзе яго як выратавальніка і героя віталі святаслужнікі і гараджане ды дружна прысягнулі яму як вялікаму князю (канечне, сама шчыра і цёпла сустракалі ягоныя сёстры Прадслава і Праміслава, і ён сардэчна прыгалубіў іх. Потым нават запюшчыў вочы на тое, што Прадслава кахаецца з асобаю зусім не княскай крыві, з уграм Майсеем. І таго не зачапіў: ён і забіты яго брат, Барысаў пястун Георгій, выступілі супраць Святаполка). Яраслаў таксама, як і Святаполк, не паскупіўся, падчысціў бацькаву казну і шчодра адарыў наўгародцаў і варагаў. Як падлічылі мы з Тацішчавым па названых лічбах розных летапісаў, мог ад радасці патраціць каля 125 пудоў срэбра. Задаволеныя наўгародцы павярнулі дамоў; варагі засталіся пры ім на службе; Святаполк, не паспеўшы прыхапіць жонку, са жменькай вояў “бежа в ляхи”, да цесця Баляслава.

Скажу шчыра, я не разумею яго (Святаполка). Як старэйшы пасля памёрлых Вышаслава і Ізяслава меў поўнае права на кіеўскі пасад, дык навошта забіваў малодшых братоў, сам на сябе наклікаў справядлівыя абвінавачванні і сам даў меч помсты ў рукі Яраславу? А той не толькі нёс кару, а... сам, малодшы, парушаючы даўнія звычаі, захопліваў уладу! Святаполк ужо наперад спяшаўся адным махам пазбавіцца ад супернікаў? Хоць... Хіба толькі ў яго аднаго рукі ў братняй крыві? Менш у іншых, каго нават назвалі святым? У таго ж Уладзіміра – губіцеля будучых цесця і цёшчы, швагроў, брата?! Але чаму іменна на Святаполка абрушылі гнеў і ганьбу летапісцы, а праклящце – праваслаўная царква?!.

І падумаў я, грэшны, так: доўга летапісы пісаліся манахамі пры манастырах. Імі апекавалася царква, а ёй зямное кормнае давалі князі. Вось летапісцы і славілі ўладных карміцеляў. Яраслаў (цяпер і пазней, што яшчэ пабачым) мог са свя-

таслужнікамі павесціся сурова: яны, мала сказаць, прынеслі яму шмат гаркоты. Але дараваў за тое, што яны пры ягонай вялікакняскай уладзе ўхвалілі яго, пераможцу, а Святаполка зганьбілі. А каб перамог Святаполк?.. (пра гэтыя нюансы паводле Я. Ермаловіча пазней. – *Г.Д.*). Ці менавіта такі быў бы Нестараў летапіс? Пазнейшыя перапісчыкі ў старыя хронікі тое-сёе дадавалі сваё – “порой разные сказки и басни, лелей властвующим”, – як слушна гаварыў мне Тацішчаў. А як, казалася ўжо, вывезены з Полацка летапіс доўга хавалі, а цяпер (напомню: Ян Ермаловіч пісаў так у 1740-ыя. – *Г.Д.*) мо, як хітра ўсміхаецца Тацішчаў, схаваюць і навек. Значыць, могуць і ўвогуле знішчыць! Не патрэбен полацкі погляд нават на сваю гісторыю! А якраз пры Яраславе набраў сілы Полацк і кінуў яму выклік!.. Нестар, на першы зірк, даволі спакойна сказаў сваё слова пра яго, той выклік, але і напусціў туману... Пазней перапісчыкі яшчэ больш натуманілі, а вось Тацішчаў дык... (да таго полацкага выкліку мы хутка вернемся. – *Г.Д.*).

...Дзед, Святаслаў, пасля адной перамогі над кімсьці думаў пра новую над іншымі; бацька, Уладзімір, закладаў новыя гарады і цэрквы; унук, Яраслаў, у знак свайго ўзнясення задумаў пачаць пакідаць пра сябе памяць у Кіеве трыумфальнымі Залатымі варотамі і закладаннем царквы святой Соф'і ды такой, каб была самая вялікасная на Русі, каб з часам цэнтр праваслаўя на ўсходнеславянскіх і іншых землях замацаваць у Кіеве, каб сюды з усіх канцоў крочылі паломнікі... Неўзабаве да яго пераехала Ірына і па часе нарадзіла другое дзіця, таксама дачку. Яе назвалі Елізаветай. Яраслаў палічыў: пабіты Святаполк не мае для яго пагрозы. Таму супакоіўся...”

...“надеясь княжить мирно”, але “Святополк еще не думал уступать ему престола” (М. Карамзін).

## 5.

Здалёку велічна водамі розных рэк і рачулак плыў любімы не толькі многімі мясцовымі людзьмі і плямёнамі, але таксама іншаземцамі Дняпро ад Кіева, каб патрапіць у Панційскае ці, як некаторыя называлі, Рускае мора і папоўніць яго водарам славянскіх зямель. Багата сонечнае, паўблакітнае, з бела-падсіненымі воблакамі ліпеньскае перадвячэрняе неба, бязветраніца, а значыць і амаль нячутны цёк вады, булькане воддаль вясёлых рыб, што выскоквалі з вады, птушыныя галасы, пільны назірк за паплаўкамі ўторкнутых у пясчаны бераг вудаў – усё гэта суцешвала Яраслава. Ён, закасаўшы да каленяў лёгкія парты, а па локці – рукавы шаўковай сарочыцы, сядзеў на нізкім столачку і песціў падэшву і пальцы ног у цёплай вадзе, быў у засяроджаным, прыемным задуменні, калі думкі пра ўсё і пра нішто. Ды гэта не столькі думы, колькі няпэўныя мроі, што спрыяюць адлучыцца ад усякіх разваг ды турбот, бавіць час “мірно”.

Ахоўнікі нікому не дазвалялі ісці па гэтым беразе (“князь размышляет”), ды вось яго суціш парушылі конскі тупат, незадаволеныя галасы ягоных дагэтуль сцішаных вартаўнікоў. Вось крокі сюды. Павярнуў галаву: старэйшына суправодзіць маладога дружынніка.

– Князь, – схіліўся той у паклоне, – навіны. І непрыемныя...

Яраслаў яшчэ не цалкам абудзіўся ад задумення. Ды і не чакаў нейкай вялікай бяды. Ні ад чужаземных ворагаў, ні ад сваіх непрыяцеляў.

– Старожа за Бугам перадае: на ляшскай зямлі з усіх бакоў збіраецца раць...

“Раць?”. Гэта, канечне, адно відочнае: Святаполк усё-такі ўпрасіў Баляс-

лава сабраць сілу і ідзе з ёю сюды. Значыць, не выйдзе мірна княжыць: трэба зноў права на княжанне дабівацца таксама сілай. Пазалетась гэта было праз напад, летась і цяпер зноў прыйдзецца адстойваць сваё праз абарону. “З усіх бакоў”. Гэта – што: палякі, угры і германцы? Тады з яшчэ аднаго боку чакай ім падсобнікаў – печанегаў. Бліжэйшых да іх, малдаўскіх. А гэта...

Зноў, як і заўсёды ў небяспечную хвіліну, адчуў і ў цёплую часіну знаёмы прыкры холад на спіне. Пралік! Які вялікі яго хіб! Летась нямецкі імператар Генрык II папрасіў яго памагчы асадзіць “общаго их врага” (М. Карамзін), Баляслава; ён выступіў, але не праявіў руплівага баявога імпэту: бярог свае нешматлікія дружыны. Імператар мусіў падпісаць з Баляславам нялёгкі для сябе мір і затаіў на яго, Яраслава, злосць. Больш – як перадаюць віжы, пачаў нацкоўваць Баляслава на Кіеў: маўляў, хіба не бачыш, Яраслаў слабы, адбірай свае, захопленыя Уладзімірам гарады на Чэрвенскай зямлі, ратуй запалоненую дачку. І Баляслаў летась прыходзіў; Кіева не ўзяў, але падпаліў яго. Пажарышча спапяліла не менш 700 будынін – большасць горада, у тым ліку і пачатак пабудовы царквы святой Соф'і (М. Карамзін мякка пра стасункі Яраслава з Генрыкам II: “Ярослав худо воспользовался благоприятными обстоятельствами... дал ему (Баляславу) время заключить мир с Генриком”).

Павольна вяртаючыся ў свой кіеўскі хорам (ён – першая вялікая каменная будыніна ў Кіеве, яго пабудавала прабабуля Вольга, калі пабыла ў Царгорадзе і паглядзела, якія цуды і абарону надзейную можна рабіць з каменя), Яраслаў яшчэ раз спасцігаў цяжар таго, да чаго гэтак імкнуўся. Ношку ўлады дзяржаўнай. Найперш у міжусобных бітвах і войнах з суседзямі, якія таксама нясуць на плячах яе, сваю ношку, перададзеную прадзедамі, і ахвотныя пажывіцца за кошт Русі.

Як ведае ад людзей вучоных, першымі са славян пачалі адзяржаўлівацца чэхі, маравы, славакі, лужыцкія сербы, а таксама асобныя славенскія і харвацкія землі. Іх, пазбавіўшыся аварскага ярма, злучыў князь Сама (623 – 658); па яго імені і назвалі тую дзяржаву. Але яна без ягонай моцнай рукі тут жа распалася. Тым больш, што ўзмацнілі націск германскія плямёны. Пасля ўзнікла Вялікая Маравія; таксама пала (906) пад ударамі ўграў ці мадзьяраў (венгры). Выдзеліліся чэхі (Пражскае княства на чале з Пржэмысламі); супраць іх завязалі войны ляхі, а калі яны адужэлі, то гэта таксама не зусім узрадавалася германцаў... Цяпер вось трэба сачыць аднаму за іншымі Генрыку, Баляславу і яму, Яраславу... Яны, два заходнія і ўсходні ўладары, зараз, у 2-м дзесяцігоддзі 2-га тысячагоддзя, апынуліся не толькі як сучаснікі, але і як закладнікі таго, што здзеілі іх бацькі ўслед за сваімі і што трэба доўжыць ім, нашчадкам. Так склалася, што прыкладна ў адзін час уладанні папярэднікаў пачалі не толькі буйнець, але і станавіцца дзяржаваю (У Кіеве і Ноўгарадзе лічаць, што гэта пачалося з 862 года, калі паклікалі князіць Рурыка ў Ладагу, а потым у Ноўгарад і калі той пасля паслаў сваіх васалаў у Полацк і Кіеў; у Кіеў мог прыбыць Алег, а вось пра варажскага дабрадзея-прысланца ў Полацк нічога невядома, нават ягонага імя; “9 стагоддзе ёсць стагоддзе ўтварэння дзяржаў як для Усходняй, так і для Заходняй Еўропы”. С. Салаўёў). Невялікім асобным плямёнам было ўжо цяжка ўстояць; мацнейшыя яшчэ заўзяцей падміналі слабейшых. Як шчытом, засланяліся рознымі прыгожымі словамі, а намер, дзеі былі адны – разбойныя. Атон I у 962 годзе многія германскія, былыя рымскія, некаторыя славянскія

(палабы) і іншыя землі злучыў у адзін кулак (пазней – Свяшчэнная Рымская імперыя). Мешка I (князіў у 960 – 992-м), удала ваюючы з лю-цічамі за Паморʼе, з чэхамі за Сілезію і з іншымі славянамі, з германцамі, пачаў ладзіць моцны падмурак палянскай (польскай) дзяржавы. Мячом скарыўшы землі віслян, Кракаў, яго сын, Баляслаў, пачаў узводзіць на тым падмурку гмах. Святаслаў – князь кіеўскі (964 – 972), – займеўшы ранейшыя заваёвы, разграміўшы моцны Хазарскі каганат (той выдзеліўся ў асобную сілу з 650-х і доўга тузаў многія славянскія землі) , паўноч-накаўказскіх ясаў і касогаў, вяцічаў, прыструніўшы ісільскіх (волжскіх) булгараў, пасля – саму царыцу дзяржаў Візантыю, спрабуючы заваяваць вядомае з 680-га Балгарскае царства і зрабіць яго цэнтрам сваёй дзяржавы, стаў вялікім князем разгорністага падпарадкавання пад найменнем Русь ці Руская зямля. Яго сын, Уладзімір, не толькі захапіў у ёй уладу і наса-лоджваўся валадарствам. Калі цяжка паклаў руку на вяцічаў, яцьвягаў, радзімічаў, пабіў печанегаў, пашырыў уладанні за Буг (туды ў паходы яшчэ раней хадзіў Алег) і прыняў хрысціянства, то тыя прыгробы яшчэ больш узвысіў і ўмацаваў. Таму і не дзіва, што раўнівы Баляслаў (тыя чэрвенскія абшары за Бугам з гарадамі Чэрвен, Хелм (Холм, Хэлм) і суседняе лічыць сваімі; на іх пасягаюць і белыя харваты) цяпер хацеў бы мець на чале Русі зяця. Як хутка даведаецца Яраслаў, у яго ёсць і яшчэ адзін грозны супернік: угорскі (венгерскі) уладар Іштван I. Той, князь з 997-га, жалезнай рукой скасаваў племянныя ўдзелы, у 1000 годзе стаў каралём, каралеўства падзяліў на акругі, а на чале іх паставіў верных яму ішпанаў – упраўленцаў. А даведаецца таму, што Іштван асцерагаўся Уладзіміра, а цяпер у помач Баляславу паслаў свае дружыны. Значыць, і ён супраць таго, каб Яраслаў па-арлінаму распасцёр крылы.

Дык вось і цісне цяжар вялікакняскай улады – хочаш ці не хочаш, а мусіш умешвацца ў вялікія спрэчкі маладых і агрэсіўных дзяржаў, а значыць – быць пабітым ці суперніка златошыць. Адным словам, серба-нуць align рознага, па-свойму вялікага – як радасці і славы, так і ліха з горасцю ды ганьбай... А тут яшчэ трэба вуха востра натапырваць з Ноўгарадам і асабліва з Полацкам ды з блізкімі не раз бітымі ўжо, але з усё яшчэ неўтаймоўнымі печанегамі. Ды і з Цьмутараканню трэба асцярожнічаць: брат, Мсціслаў, патрабуе большага ўдзелу; ён, Яраслаў, дае яму Мурам. Не хоча: мала...

Цяпер не толькі адзін прахвост Буды, які па моцы свайго перакручанага розуму спасціг тайны глыбіні яго сэрца і душы, можа зразумець... ягоны, Яраславаў, адчай. Так-так, сваю новую і самую страшную паняверку ў сабе: набежны Баляслаў – зусім не безбароды, ужо валадарыць больш 20 гадоў, дабіўся шмат, тым больш у вайне з Генрыкам. Цяпер ён – герой з герояў сярод сваіх падуладных. У свой час, яшчэ як след не амоцнены, шукаў падмогі ва Уладзіміра, шчыра, па закаханасці прасіў рукі ягонай дачкі-красуні Прадславы ды меў халодную. Адмову. Хіба не пакрыўдзіўся? Пры жыцці моцнага Уладзіміра асцерагаўся, а сёння... А цяпер, калі Свя-таполк і ён, Яраслаў, столькі паклалі сваіх вояў... А калі яшчэ дачка яго тут, у Кіеве, палонніцай, то ўсё змешваецца – асабістае і дзяржаўнае...

Раней там, пры Бугу, жылі дулебы, доўга ратуючыся ад Аварскага ка-ганата. Таго, ваяўнічага, урэшце разграмілі франкі. Ды склалася так, што пасля дулебы разышліся. Адны з іх пайшлі па цячэнні Буга і аселі паміж землямі драўлян, дрыгавічоў, яцвягаў і мазаўшан і некаторыя з іх сталі бужанамі – берасцейцамі, драгічынцамі і падпалі пад уладу Тураўскага

княства. Іншыя дулебы пасяліліся каля Заходняга Буга і пачатку Прыпяці, сталі валынянамі, заснавалі гарады Валынь (сталіца), Луцк, Бужск, Турыйск, Чартарыйск, Ратну, а за Бугам – Белз і Холм (на той час горадам лічылася і абмацаваная пабудова тыпу замка). Перад Бугам Уладзімір пабудаваў горад свайго імя і зрабіў яго сталіцай Уладзіміра-Валынскага княства, куды княземі паслаў самага малодшага свайго сына з Рагнедай, Усевалада. Забужскія землі, захопленыя Уладзімірам, – асаблівая турбота Баляслава.

Пакуль Буды, малодшыя ваяводы, тысяцкія і сотнікі дазбірвалі дружыны, а цівуны са старастамі – абоз, Яраслаў падбаў пра іншае. Перагаварыў з Ірынай, а потым з Прадславіна (сяло, названае Уладзімірам у гонар дачкі Прадславы. Было на левым беразе Лыбедзі за 2 вярсты ад цэнтра Кіева) паклікаў у Вышгарад, у свой хорам на высокім беразе Дняпра (за вёрст 7 ад Кіева; тут пры бабулі Вользе былі яе святліцы, адрыны і клеці для сабранай ёй даніны) паклікаў сясцёр. Дваякае пачуццё адчуў, убачыўшы іх: Прадславе ўжо за трыццаць пяць, Праміславе – крышку за трыццаць. Але абедзьве так усё яшчэ не замужам, не маюць сваёй сям'і. Люба паглядзець на іх: малодшая чарнявая валасамі і на вочы, станістая, праўда, стрыманая, не вельмі гаваркая, нават крыху замкнёная, то цяжка зразумець, што і як яна думае, а старэйшую маці-прырода, мабыць, ахарашыла ўсім, што магла даць жанчыне. Яна і цяпер ужо ў паважны ўзрост ззяла маладосцю і красой: па-юнаму стройная, высокагрудная, русявыя валасы аблашчваюць пакатыя плечы, ясны высокі лоб, блакітныя вочы, сакаўныя губы пад роўным прыгожым носам вылучаюць цяпло і дабрыню, што выплываюць у мяккай, сардэчнай усмешцы. Нельга стрымацца, не падабрэць душой ад Прадславінай жвавасці, ад глыбіні яе душэўнасці. Хоць... Якраз яе неўзлюбіла Ірына, нагаворваючы, што тая ведае нейкія вядзьмарскія чары, каб гэтак маладзіцца (значыць, не шчырая хрысціянка). А вось Праміславу набліжае да сябе. Таму сёстры рэдка бываюць у Кіеве, больш бавяць час па-за ім. І гэта, канечне, зусім не да засмучэння, а да спадобы Прадславе з-за яе інтарэсу... Цяпер падышлі, пацалавалі яго.

– Ты ўстрывожаны нечым, брацік? – патушыла жыццярадаснасць Прадслава.

– Ды невясёлыя весці прыйшлі, сястрыцы, – адказаў. – Святаполк і Баляслаў вядуць раць на мяне.

Слухалі схмурана.

– Вось думаю Ірыну з дзецьмі, вас адправіць у Ноўгарад... На ўсякі, так сказаць, выпадак...

Не ва ўсім адкрыўся: задумаў разам з Ірынай адвезці долю казны, а таксама схаваць там і Святаполкаву жонку (адны даследчыкі пісалі, што яе імя нідзе не ўпомненае, іншыя называюць яе Гертрудай, а ў праваслаўі Елізаветай): на яе, Елізавету, у яго былі свае разлікі... Сёстры адчулі яго-ную трывогу.

– А можна мы ад'едземся ў Палацеск? Там і перачакаем ліхалецце, – папрасіла Прадслава. Ясна было, што не хацела разам падавацца з непрыязнай братавай. Тым больш, што з жонкай Ізяслава і маці Брачыслава Соф'яй пасябравала: перапісваюцца, перадаюць адна адной падарункі. І яшчэ адно ўгадаў Яраслаў у яе задуме: калі падасца ў Полацк, то не толькі з сястрою. А і з Угрыным. Акрыялым пасля ранення (ён, лічы, прыпоўз пасля расправы з Барысам да Прадславы ў церам на Лыбедзі, упаў у двары без прытомнасці), з рубцом на шчацэ, але відным мужчынам, па якім сохне не адна кіеўлянка.

– Я не хацеў бы, каб вы туды ехалі, – сказаў. – Не трэба даваць палацескім баярам лішніх козыраў... Зразумейце мяне не толькі як брата, але і як вялікага князя...

– Тады Прамілава як хоча, а я застануся тут, – пачала настойваць старэйшая сястра. – Дый люду будзе лягчэй, што мы не ўсе пакінем Кіеў.

– Хочаш застацца з-за яго? – незадаволена завёў роспыт Яраслаў. І, бачачы, што заўсёды ўпэўненая Прадслава ўсё ж сумелася, упершыню падакараў: – Яго брат Барысу, а ён табе ўслужыў, але ж... Ён... Ён – слуга бацькаў і твой, а ты – дачка вялікага князя! Мне ўжо не раз пра гэта напамінаюць. Раней бацька не адпускаў цябе замуж, а цяпер сама не ідзеш. Ужо двум князям адмовіла. Ён як муж табе... Ці мо тайна з ім шлюб узяла?

Канечне, найбольш каханнем Прадславы і Майсея Угрына коле яму вочы Ірына: маўляў, твая сястрыца-красуня ганьбіць ваш род, цябе, брата. Яе маці не хацела некалі выходзіць замуж за Уладзіміра з-за таго, што “ён – сын рабыні”, але ж тая, Малуша, была не з просталюдзінаў, а дачка забітага Вольгай драўлянскага князя Мала. А хто гэты прыхадзень Угрын? Без роду і племені, найміт, шукальнік багацця і славы. Яраслаў разумеў: усё гэта – праўда. Але дагэтуль нібы нічога не заўважаў, не ўшчуваў сястру: яна ж мо і выратавала яго ад падасланых забойцаў. Ды ўсвядомліваў і іншае: як вялікі князь, не павінен глядзець скрозь пальцы на такое сестрыное свавольства.

– Ты цяпер, Яраслаў, пра іншае думай, – без звычайнай вясёласці, нават упершыню рэзкавата асадзіла яго Прадслава. – Цяпер няма такога князя, якога я магу палюбіць ці які табе вельмі патрэбен... А калі я табе замінаю, дык, кажу, адпусці ў Палацеск. Назаўсёды. Ці буду жыць пры сынаўцы, ці, як і маці, у манастыр пайду, не буду табе парушынай у воку...

– Пасля разбяромся, – упершыню не проста сказаў, а хмурна буркнуў, даючы знак, што размова скончаная.

Наўгародцаў у Кіеве не было, а паклікаць іх не мелася часу; сабралі варажскі атрад, свае нешматлікія дружыны і рушылі ў Валынію. Па знаёмым, у 981-м пракладзеным Уладзімірам шляху (Буды быў у тым паходзе, дык ведаў туды дарогі – па лясах, стэпе, узгорках, праз рэчкі Гарынь, Стыр і Тур'ю), па дарозе далучаючы невялікія атрады з Луцка, Уладзіміра-Валынскага і іншых гарадоў (брата не было; сказалі: збаяўшыся Святаполка, збег да чэхаў). Прыбужская старожа данесла: Святаполк з Баляславам захапілі некалькі чэрвенскіх гарадоў і сталі лагерам перад Бугам, мо і чакаючы, з якой сілай падыдзе ён, Яраслаў.

Па дарозе адпачылі, а да Буга наблізіліся ў светлы і цёплы перадполудзень, каб можна было з усімі і свежымі сіламі ўступіць у бой. Яраслаў сам пад'ехаў да ракі: яна тут не вельмі шырокая і, мабыць, за лета крыху абмялелая, а за ёй, на лагчыне ўжо са скошанай травой, не так і шмат непрыяцельскіх шатроў і палатак (за імі ў загарадках стаялі коні). Ды, канечне, хітры Баляслаў не проста абраў для стану скошаны луг: абапал яго быў густы і даволі высокі лясок з бяроз, асін, аляхоўя, што ўсё было зарослае дзікім кустоўем – значыць, немалыя сілы схаваў за бярэзнікам ды алешнікам. Кінешся на сенажаць – трапіш у абоймы з абодвых бакоў. Яму, Яраславу, выпадае прыхаваць дружыну-другую толькі за адным абшарам лесу. Таўсцейшыя бярвёны Баляслававы воі цяпер валаклі коньмі да ракі – для пераправы. Канечне, цесляў – хто з закасанымі па локці сарочыцамі, хто голы па пояс, з загорнутымі па калені партамі, босы –

адразу ж абсыпалі стрэламі. Хоць цеслі маглі быць і свае, з прыбужскіх мясцін. Ацалелыя паўцякалі ад вады і з яе.

Як і часта было, ёсць і яшчэ будзе паміж непрыяцелямі, ні цяпер, ні назаўтра бітвы яны не пачалі. Вычэквалі. Ды, як звычайна ва ўсім свеце ў такі момант, паміж імі ўспыхнула перапалка-лаянка.

З таго берагу:

– Кулявы! Клыпша (Кульгавы)! Пукі не пузно, уцекай! І не да Кіева, а да Ноўгарада!

Адгэтуль:

– Сегодня мы переломаем ноги убийце братьев!

Вось там на гнядым цяжкім кані да таго берагу пад'ехаў тоўсты і, як было відаць, знатны лях. У бліскучай кальчузе, у шлеме з пер'ем заморскай птушкі, з пазалочанымі і пасрэбранымі накладкамі з арнаментам і пасрэбранай барміцай, з мячом, але без шчыта. Канечне, гэта быў Баляслаў: пагалоска пра ягоную незвычайную мажнасць ужо даўно была вядомая многім. І, бач, у баявым стане – гэта значыць, для сваёй вагі дадаў яшчэ металёвы цяжар. А калі ўзброй, – то і змагар з мячом!

Цяпер ужо задзёрзнічаў не малады вой, а стары Буды:

– Пузан!

Яраславу не зусім спадабалася гэтая абраза яго ваяводам суседа-князя, але не супыняў: загадзя ведаў, што ніякіх перамоў не павядзецца, бітва будзе немінучая. У кожнага свае інтарэсы, і іх не споўніць без праліцця крыві.

– Бораў!

– Вепр скалечы зграю псув! – агрызнуўся Баляслаў.

– Ты?! Ды і я, стары, скалечу тваё пуза трэскаю!

– Зобачым! Дзісяй будзе вам хрэст баёвы! А для мяне – забава!

На вачах усіх падняў вольную руку, махнуў ёй некалькі разоў пароснаму – тут жа загулі трубы. У Яраслава ахаладнела душа: не толькі выскачыла безліч ужо гатовых да бою вояў з шатроў і палатак, але, як і прадугадаў, выімкнулася конніца з-за абодвых ляскоў. Тупат заглушыў наваколле. Трэба было вяртацца ў свой стан і падымаць сваіх вояў, дык Яраслаў паспеў толькі ўбачыць: Баляслаў з аголеным мечам першы кінуўся ў раку, а за ім яго ахова і вої ўжо так узбурболілі ваду, што, здавалася, яна выскачыць з рэчышча.

Падалі трывогу і іхнія трубы.

– У бой! – закрычаў пярэднім конным з кіеўскай і варажскай дружын Яраслаў. – Мы павінны адолець! Пераможам – асыплю грыўнамі!

Неўзабаве (а Яраславу здавалася, што яны марудзяць) іхняя лавіна імчалася на чужую, конскія тупат і храп, чалавечыя ярасныя крыкі, трэск паломаных капейных дрэўкай, лязг мячоў – пярэднія хто сам па сабе, а хто з канём падалі, грувасціліся, затоптваліся капытамі сваіх і чужых коней. Яны вялікімі стратамі стрымалі Баляславаў націск (той прапусціў паперадзе іншых і, як Яраслаў, назіраў за бітвай зводдаль); сеча перайшла ў лютае пабоішча; многія з нападнікаў прабіваліся менавіта сюды, дзе ў невялікім атачэнні сядзеў на кані Яраслаў; яго ж вої асабліва рваліся да Баляслава і Святаполка.

Калі парадзелыя дружыны пачалі крок за крокам адступаць, Яраслаў увёў у бой запасную дружыну. Папоўніў свае сілы і Баляслаў. І, як адразу запрыкмеціў Яраслаў, большымі і асабліва добра ўзброенымі – канечне, ваяўнічымі германцамі. Збіванне адны адных закіпела з новым дужаннем. Але Яраслаў бачыў: ім не пацясніць ворага, самае вялікае, што ўдалося, гэта зноў угрузнуць у бітве. К вечару ўжо не дружныя шэрагі, а раскі-

даныя на гурты яго воі радзелі на вачах. А іх абкружалі і абкружалі з усіх бакоў; да Яраслава падскочыў упацелы, збялелы, але ні кропляй крыві не абпырсканы Буды: дагэтуль больш крычаў, гнаў у бой, махаў мячом, чым імкнуўся пусціць яго ў смяротны ход.

– Князь, сіла наша тае, – перасцярог са страхам. – Нас усіх пераб’юць. Давай ратавацца... Мо ўдасца выскачыць з гэтага пекла...

– Да сваіх людзей! – зайшоўся злосцю ён.

Буды запыніў на ім вырачаныя вочы, дзе апанаваўся жах, а потым паныла, а то і адрачона паціху павярнуў на поле бою, дзе, асуджаны на пагібель, лена замечаваў, а хутка ад удару кап’я рухнуў вобзем. Астатнія ўжо адбіваліся без ніякага ладу. Перад заходам ўсё яшчэ гарачага сонца і па-ранейшаму яснага, нібы ўражанага ад пралітай чалавечай крыві і болем скалечаных неба Яраслаў, мала сказаць, быў уражаны – ашаломлены, рэхнуты да страты свядомасці сваёй такой вялікай паразаю. Адно было выйсце... Паклікаў пальцам трох кіеўлян, аднаго варага і... ганебна кінуўся наўцёкі.

Не ў Кіеў. Туды цяпер яму дарогі няма! Узяў яго, сталіцу вялікай дзяржавы, сілай і праз сілу іншых страціў. Не павярнуў і ў Полацк да пляменніка Брачыслава. Той, можа, нават не адчыніць яму вароты: калі ён, дзядзька, завяліказакнязіў, то нібы забыў аб пэўным праве Брачыслава на гэты ж пасад. Палачане не маглі не пакрыўдзіцца за тое, што вадзіў іх за нос. А калі і ўпусцяць, то толку яму будзе мала: наўрад ці змогуць вярнуць яго ў Кіеў. А быць там князем-выгнаннікам, ізгоем, – ніякая не радасць. Загадзя прадуманы яго шлях павёў у Ноўгарад. Хоць...

Хто ведае: а ці прыме і той яго цяпер? Могуць папікнуць: мы столькі патраціліся, люду свайго пакінулі на полі бою з-за цябе, а ты... Ці не напомніць яму, безабароннаму, панесеную ад яго крыўду? Пераможцу, як некалі казалі ў Рыме, усё даруюць, а бітаму – не. Любы недавярак можа кінуць пагардлівае, абразлівае слова, што цяжэй, страшней аплявухі! Наўгародцы могуць сказаць цвёрда: не трэба нам такога няўдачлівага князя, возьмем новага – твайго сына Іллю ці абыдземся пасаднікам, Дабрыневым сынам Касняціным. Балазе, абодва будуць паслухмяныя...

І яшчэ адно гняло душу: пасля яго сённяшняй паразы, канечне ж, узвысяцца Баляслаў і яго дзяржава. Як усё больш пачынае гучаць, Вялікапольска. Цяпер Баляслаў, канечне ж, стане каралём з блаславення Рыма. Дык вось у славянскай спрэчцы больш, чым пры Уладзіміру і Мешку, насунуўся – мо і надоўга – новы суровы і кровапралітны двубой: Русь і Польша... І ён будзе не без “дабрадзеяў”, не без уцягвання па разліку і прымусе іншых...

## 6.

Да Ірыны ў яе шыкоўную святліцу стомлены, не набраўшы сіл і за ноч, Яраслаў прычыльгікаў на наступны дзень прыезду ў Ноўгарад (яму на радасць, варта ўсё ж адчыніла перад ім вароты). Светлавалосая красуня – у падпаясаным рудаватым сарафане з вышытымі ўзорамі каля шыі і па падоле паверсе ліловай сарочыцы, у трохкутняй скіндачцы з ліловай празрыстай накідкай на плечы, без ніякіх упрыгожанняў, але ўсё роўна, папаўнелая і па-новаму апрыгожаная пасля другіх родаў, дык яшчэ больш мілейшая сэрцу – сустрэла не сярдзіта, але і не вельмі радасна. Канечне, ужо збеглыя з ім варагі расказалі ёй пра ягоны разгром.

– Пабіты я, Ірына, – не вітаючыся, прамовіў нявесела. – Ушчэнт... Ледзь з-пад носа іх уцёк...

Яна не ачарніла і не абяліла яго, няўдачніка. А калі ступіў, каб абняць, знайсці ў яе жончыную спагаду, ласку ў цяжкія хвіліны, яна сёння толькі злёгку падалася і пацалавала. Не ў губы, а ў іх куточак.

– Прысядзем, – стрымала ягоныя засмучэнне і любоўны парыў, адхілілася і пакрочыла да засланага абрусам стала, дзе цяпер не было кветак. – Што ты думаеш рабіць? Цяпер, калі вывез Елізавету, то Святаполк можа прыйсці і сюды...

Што ён мог адказаць? Калі да страшнай напасці быў яшчэ і гол як сакол (“сакол” – акоранае бервяно, ім нападнікі разбіваюць вароты чужой крэпасці). У яе, Ірыны, у гэты час быў не толькі свой скарб, але і той, што з ёй адправіў сюды з Кіева. Хоць казну ўжо магла пераправіць на сваю радзіму. Здольная на нечаканыя, свавольныя ўчынкі.

– Трэба ехаць да твайго бацькі і зноў прасіць падмогі, – сказаў. – Калі ты, канечне, выдзеліш аплату...

– І я паеду з табой, – ажывілася. – Мне будзе лягчэй угаварыць.

– Не, – папрасіў. – Тут гэта могуць палічыць за нашы ўцёкі.

– Уцяклі з Кіева – трэба збягаць і адгэтуль, – рэзка сказала. – Я тут ні за нішто не застануся. Святаполк і на мяне ды дзяцей можа падаслаць забойцаў. А то і сам прыйдзе, цяпер ужо цябе не асцерагаючыся... Адпомсціць ноўгарадцам за падмогу табе, паставіць свайго пасадніка і змусіць плаціць яму даніну. Пераможца. А пераможцы...

– Дакараеш, – боль паласнуў сэрца. – Але мае воі біліся мужна. Не іх віна, а бяда, што ў Баляслава была большая і лепей загартаваная сіла. Ды ёсць жа яшчэ і мне шанец. Толькі, ясна, за большую, чым раней плату...

– Без цябе я тут не застануся, – стаяла на сваім Ірына. – А што будзеш рабіць з Елізаветай? З сабой павязеш?

Ён пра гэта яшчэ вельмі не думаў. А вось што да Ірыны, то прадумана не хацеў яе браць з сабою. І зусім не дзеля непрыемных размоў у Ноўгарадзе. Асцерагаўся: яна нават з дзецьмі можа застацца на бацькаўшчыне, пахіліцца да каханца. Не напамінае пра таго, але яго душа адчувае: яе сэрца ўсё яшчэ з любасцю б’ецца для сэрца таго.

– Наўгародцам не скажам, колькі маем срэбра, – заўсёды разліковая, дзелавіта сказала яна. – Калі хочуць, каб Святаполк не папомсціўся, дык няхай не скупяцца, а вытрасуць для нас свае кашалі!

Да Яраслава ўвялі знаёмага ганца з Кіева.

На гэты раз, хоць заявіўся таксама цёплай часінаю, той не імчаў ва ўвесь дух, дык быў не зморааны, як колькі гадоў таму. Яраслаў сустрэў яго ў сваім летнім хораме, у прасторнай, з дубовымі сталом і лавамі грыдніцы па-хатняму – у простых партах і белай вышыванай расшпіленай на грудзіне кашулі, – узбуджана, але са стрымліваннем, па звычцы цярэбячы ссівелую бараду. Што за весці са страчанага ім і зноў авалоданага Святаполкам Кіева?

– Вітаю, князь, – госць прыпаў на калена. – Мяне зноў прыслала сястра твая. Прадслава. І ад князя Баляслава маю што перадаць...

– Што – Баляслаў? – абарваў, злуючыся, што кіеўскі (!) пасланец назваў яго не вялікім, а проста князем.

– Пасля бітвы на Бугу асадзіў і ўзяў Уладзімір. Люд яго паланілі і павялі ў няволю за Буг.

Уладзімір-Валынскі – уладанне самага малодшага па Рагнедзе брата Усевалада (некаторыя летапісцы пісалі, што Баляслаў тады авалодаў Бярэсцем і заняволіў яго люд; неверагодна: тое Бярэсце (сённяшні Брэст)

было ў складзе Тураўскай зямлі, якой да нядаўняга ўладарыў Святаполк; іншыя зазначалі, што Баляслаў скарыў горад брата Яраслава – значыць, Уладзімір. – *ГД.*). Ды Яраслаў цяпер не запытаў пра лёс аднакрэўніка, яго нервова непакоіла іншае:

– А Кіеў? Што – Кіеў?

– 14 жніўня здаўся Баляславу. Яго павітаў епіскап. Кіеўляне зноў прысягнулі Святаполку.

Слухаць гэта – шпількі ў сэрца. Там – не так, як у Ноўгарадзе, дзе люд мае свой голас! Там – дворня! Чэлядзь! Кланяюцца, слугуюць таму, хто ва ўладзе! Кленчылі Святаполку, пасля – яму, а цяпер – зноў Святаполку! І... епіскап! А ён жа, Яраслаў, падмеўся ўважыць яго просьбу, згадзіўся будаваць сабор святой Соф'і... А калі пасля пажару пабудова запынілася, супакойваў: не пераживайце вельмі, будзе новы! Самы вялікі і галоўны на Русі! Мураваны!

А пасыльны абледзяніў з галавы да ног яшчэ адной навіною:

– Анастас перадаў казну Баляславу...

Той быў абласканы бацькам, Уладзімірам, ім, а цяпер... Здраднік. Хоць чаго чакаць ад такіх! У свой час прадаў сваіх, калі паспрыяў бацьку заваяваць Херсанес у Таўрыдзе (Корсунь у Крыме), чым памог таму змусіць быць больш згаворлівымі візантыйскіх базілеўсаў, узяць замуж іх сястру Ганну, а праз шлюб з ёю – хрысціянства, чым ход Кіева, Русі пайшоў па новым шляху. Прыгрэў таго і ён, Яраслаў. Шмат срэбра з казны яму давяраў. А той, бач, перакінуўся з епіскапам да пераможцы. Адусюль – удары. Нават нібыта цяперашняе жончына халоднае, як у рыбы, спачуванне – зусім не прыліў супакою, веры і надзеі ў сваю далейшую шчаслівую долю.

– Пойдзе Святаполк сюды, на Ноўгарад? – міжволі вырвалася ў яго самае-самае трывожнае запытанне.

– Думаю, не. Цяпер Кіеў у руках трымае не Святаполк, а Баляслаў. А яму не трэба далёзныя краі. Яму найперш патрэбен Кіеў. Дык ён адны свае дружыны з нашым і вышагародскім дабром адаслаў дадому, іншыя пакінуў у нас, разаслаў па блізкіх валасцях на пракорм. А ляхі цешацца, здзекуюцца з люду... Кажуць, нават Святаполку не падабаецца, як яны паводзяцца: ён – як бы паслугаты цесця і іх...

Ясна. Як ён, Яраслаў, і лічыў: Баляславава запаветная мара: заўладаць Кіевам. Хоць... Хоць пацешкі, здзекі яго як чужынца не могуць не зрабіць сваё, супярэчнае яму: выклічуць у кіеўлян абурэнне, гнеў і помсту. Тут Баляслаў не зазірае далёка, надта хутка забыў, што не так даўно зведаў за такое ў Багеміі ці што нядаўна зведалі варагі тут, у Ноўгарадзе: мясцовыя адпомсцілі крыўдзіцелям-іншаземцам. Так было, ёсць і будзе: годны народ можна перамагчы, пасля ацалелых хітрыкамі, маной, абяцанкамі-цацанкамі суцішваць, усыпляць, але ўсё роўна хтосьці абудзіцца, падасць абураны голас і возьме помсны – справядлівы! – меч...

– Князь, – умяшаўся ў ягоныя думкі ганец. – Кажу, я і ад Прадславы...

– А яна – што? – нястрымана ўхмыльнуўся ён. – Таксама цёпла вітала былога жаніха?

– Не, князь, – запэўніў той. – Яна – як і маці твая, годная і гордая. Не кланяецца скаральнікам. Больш – выказвае ім пагарду і непакору. Яе і Праміславу Баляслаў груба зняволіў, трымае за нявольніц. Ён хоча абмяняць іх на дачку. На зямлі палацескай. Святаполк паслаў ужо ганца ў Палацеск, каб сынавец твой Брачыслаў перамовіўся з табой і ўчыніў гэты абмен. Яму будуць дары вялікія за цётак, а табе застаецца Ноўгарад. Толькі...

– Што – “толькі?” – выдушыў з сябе.

– Толькі табе прыйдзецца зноў плаціць даніну Кіеву. І большую, чым плаціў раней.

Не цяжка зразумець: Баляслаў і Святаполк хітруюць-гуляюць. Як кот з мышшу. Уга, так ужо і спакойна Святаполк пакіне яго тут, прадчуваючы: ён зноў можа прыйсці адгэтуль з сілай. Па-новаму шукае любы шанец, каб не толькі выдаліць яго адсюль, але і знішчыць. І чужымі рукамі. Дык і Брачыслава кліча ў абменніка не проста так. Нібы хоча ўважыць і ў выпадку яго, Яраслававай, адмовы настроіць супраць, каб яны, вуй і сынавец, сутыкнуліся лбамі, аслабілі адзін аднаго. А яму, Яраславу, – пастка з чатырох зашмаргаў: ад падасланых забойцаў, ад ваеннага ўварвання. Але пакуль што цесць і зяць, панёсшы вялікія ахвяры і страты, выбралі трэцюю і чацвёртую: калі зноў пачаць плаціць даніну Кіеву, то і зноў ён і Ноўгарад – залежнікі, цяпер Святаполку; наўгародцы гэтага не сцерпяць, могуць выгнаць яго і ўзамен за вольнасць прыняць Святаполкавага пасадніка. Не боль ім, што ён стане князем-ізгоем, свае інтарэсы даражэй. Ды... І пры такой смяртэльнай небяспецы нельга вяртаць Елізавету Святаполку: у іх рана-позна могуць завесціся сыны, Баляслававы ўнукі – яго супернікі на кіеўскі “стол...” і дзедавы паслугачы. А гэта таго яшчэ больш умацуе.

Ганец пільна назіраў за ім і бачыў: ён у одуме моршчыць лоб.

– Ні-я-ка-га аб-ме-ну не бу-дзе! – цвёрда, склад за складам адчаканіў Яраслаў і прыстукнуў кулаком па стале.

Даверáны Прадславы не паверыў вушам сваім, вырачыў вочы: ён, брат, адракаецца ад сясцёр? Прадслава ж ратавала яго ад загібелі!

– Так і перадаць Баляславу? Прадславе?

– Ты што – глухі? – ярасць падкочвала да Яраслава. Як да загнанага ў кут і зацкаванага выжламі ваўка.

– Цяжкі лёс чакае сясцёр тваіх... – Уздыхнуў на ўсю грудзіну ганец. – Баляслаў паздзекуецца з іх. Надта з Прадславы... І з-за... Угрына кінуў у поруб, на ланцугу трымае...

– Прэч! – ужо шалёны прыліў гневу шухнуў да Яраслававай галавы, і ён гатовы быў ударыць вернага заступніка яго сястры, які таксама рызыкаваў сваім жыццём і для яе, і для яго. – Прэч з маіх вачэй! Іначай!.. За непавагу, за ослух!..

“Ярослав, устрашенный могуществом короля польского (Баляслаў тады яшчэ не быў каралём. – *Г.Д.*) и злобой брата, думал уже, подобно отцу, бежать за море к варягам; но великодушние новгородцев спасло его от сего несчастья и стыда. Посадник Коснятин, сын Добрыни славного, и граждане заменитые, изрубив лодки, приготовленные уже для князя, сказали ему: “Государь! Мы хотим и можем еще противиться Болеславу. У тебя нет казны: возьми все, что имеем...” Немедленно призвали корыстолюбивых варягов на помощь и сами вооружились...” (М. Карамзін).

Апэўнены Яраслаў паклікаў да сябе сына, Іллю. Той – высакаваты і ўжо па ім, па бацьку, яшчэ ў маладыя гады залысіністы, але па характары бязвольны пад націскам Яраслава і Касняціна і асабліва пад насмешкамі мачыхі (яна лічыла яго за блазнаватага) – заявіўся з пакорай, кінуўся цалаваць рукі яму, “родителю”.

– Слухай, – строга абсек яго ён. – Ты яшчэ ні разу не вызначыўся як княжыч. Бальшун, але ўсё яшчэ бы сысун! Даю табе важны княскі наказ.

Споўніш як след яго – будзе табе гонар, пагалоска добрая, схібіш – табе ганьба.

– Слухаюся, бацюшка.

– Дык слухай. Табе трэба з'ездзіць у Палацеск. Да стрыечнага брата твайго Брачыслава. Ён тваіх гадоў, але ўжо не гнездавік, а лётны драпежны ястраб. Можа высока ўзлятаць і далёка глядзець... Калі не помачы, то міру з ім шукае люты вораг наш Святаполк. Я не магу паслаць туды Касніцына: там яму ці не адчыняць варот, ці, упусціўшы, заб'юць. Ты папросішся да Брачыслава ад майго імя. Я дам табе на гэта давеਰанасць. Але ўсё, што трэба мне, будзеш гаварыць сваімі словамі... І будзеш Брачыславу паўтараць і паўтараць: не трэба верыць Святаполку, трэба ратаваць маіх сясцёр, а тваіх і Брачыслававых родных цётак... І яшчэ застраш: Святаполк – двудушны, вераломны. Калі асядзе ў Кіеве, то зруйнуе палацескую вольніцу. А з ім, Брачыславам, будзе тое, што з Барысам і Глебам, са Святаславам! Чуеш?

Ілля слухаў, але на ягоным твары не было ніякага ўзрушэння. Найперш паднявольваўся. Касняціну, тым больш – яму, бацьку, які пасля другой жаніцьбы адлучыў яго ад сябе, аддаў на пеставанне Касняціну. А той ляпіў з яго патрэбны сабе мякіш.

– Дык вось едзь у Палацеск. – І па-простаму: – Паўтарай і паўтарай Брачыславу: я, толькі я – самы верны яму вуй. Як і бацька, ушаную яго права на Палацеск, буду берагчы яго. Больш – я згодны з ім уехаць у Кіеў, дзе мы будзем правіць разам... Чуеш: разам?

Ілля не ўсё разумеў, уталоплена пазіраў ў вочы.

– Усё проста, – Яраслаў пачаў злавацца на сына. – Брачыслаў не павінен выйсці супроць мяне, а памагчы. Дык вось перадай ад мяне: паб'ём Святаполка – у Кіеве будзем правіць удвух. Я і ён. Не, скажы інача́й: ён і я. Значыць, пастарайся спадабацца Брачыславу. Але вельмі не шчыруй. Не гавары, што я хацеў ехаць да свеяў і што Касняцін з баярамі пасеклі мае лодкі! Іначай ён падумае: я – слабы! Калі мы будзем у Кіеве, то ты станеш князем тут. Хоць...

Недагаварыў, а сын не зразумеў, што ён хацеў дадаць да гэтага "хоць". А Яраслаў падумаў пра дзве рэчы: падамне Ноўгарад сына. Ды па старшынстве сюды будзе імкнуцца брат Мсціслаў з далёкай Цьмутараканi...

"Начало княженя Ярослава (в) Кыеве. В лето 6524". Гэта значыць, у 1019 г. Яраслаў перастаў бегаць з Ноўгарада ў Кіеў і наадварот. "Отер пот" (задвухкоссенае Нестара) і пасля пераможнай сечы са Святаполкам і печанегамі, пакаяння, ужо яму вітання епіскапа і прысягі кіеўлян зноў дамогся вярхоўнай улады, каб зноў уцешвацца і`хваляваацца за яе...

## 7.

Яраслаў збіраў раду з баярамі, старэйшымі дружыннікамі ў Вышгарадзе, што быў за сем вёрст ад Кіева на высокім беразе Дняпра (гэта было вена – пасаг – прабабулі Вольгі, дзе яна захоўвала сваю даніну), а вось адпачываў у бацькавым загародні́м цераме ў блізкім ад Кіева Берастове. Згаджаўся з Ірынай, што гэтыя драўляныя церам, розныя пабудовы для слуг і коней, агарода калі не спарахнелі, то ўжо састарэлі. Пара будаваць новае. Ды ўгаворваў яе: аднак цяпер варта не столькі пра сябе асабіста дбаць, а пра Кіеў. Ачомаемся пасля нядаўніх рабункаў і страт, пабагацеем – тады і новае для сябе пабудуем.

Зараз ён сядзеў на акораным, злёгку абпаленым бервяне, што ляжала на тоўстых калодах. Насупраць у цяньку пад высокай і ўжо таўставатай ліпай на такім жа сядзені прымасціліся Ірына і маладая нянька. Дзяўчына трымала між калень неўмаля, іхняга сына-першынца, Уладзіміра. Той – у мяккіх атопачках і ў даўгаватай, па костачкі сарочыцы, для свайго ўзросту (паўтара гады ) высокенькі, толькі худзенькі – парываўся паімкнуцца насустрач яму, бацьку. А ён прыапусціўся на сагнутыя калені і маніў рукамі: ідзі-ідзі да мяне! Сам некалі доўга быў сядун, стаў на ногі, пайшоў ажно ў тры гады, дык вельмі хваляваўся за дзяцей: калі затупаюць і ці не будуць кульгаць яны. У сына ад прагі ступіць самому гарэлі чарнявыя вочкі, але ён баяўся, цягнуў за руку няньку, каб яна павяла яго за руку. Ды Ірына падштурхоўвала ў плечыкі, натхняла: ідзі сам, не будзь баязліўцам! Тым больш княжычу! Яраслаў выпростаўся, падышоў, падняў сына пад пахі і перанёс яго на сярэдзіну даўно ўжо гладка вытаптанай дарожкі, апусціў на дол, а сам адступіў на крокі тры і зноў павабіў рукамі. Дзіця завагалася на тоненькіх няроўных ножках, ад боязі бездапаможна замахала рукамі, вырачыла вочкі і шырока разявіла роцік. У хадуне тупае, нават спрабуе бегчы, а вось так – ні-ні!

– Ідзі-ідзі! – зноў пачула бацькоўскі заклік. – Хутка табе не пару крокаў, а ў Ноўгарад ісці!

Меў на ўвазе тое, што летась там, у Ноўгарадзе, нечакана памёр старэйшы сын Ілля. Касняцін і баяры яго пасланцу кляліся, што гэта “выйшла па волі Божай”. Ён не зусім паверыў – баяраў не зачапіў, а вось Касняціну не паверыў, загадаў зняволіць, не зважаючы, што ягоны бацька Дабрыня шмат і верна служыў яго бацьку Уладзіміру, а ён – яму. Мала хто ведаў, дзе той, – у Мураме або ў Растове. Як потым нямногія ўвазнаюць: Касняцін пакінуў гэты свет “па волі Божай” ці яго прыдушылі ці пранізалі мячом у цямніцы. Цяпер Ноўгарадам кіраваў пасаднік, але ўжо абвешчана: праз нейкі час туды прыбудзе князіць Уладзімір.

Вось гэты Уладзімір, каб не ўпасці, закрычаў і... зрушыўся з месца, замітусіў ножкамі. Пабег! Яраслава сэрца мігам напоўнілася бацькоўскай радасцю. Падхапіў сына, прытуліў, пацалаваў:

– Малайчына! Малайчына!

Хацеў усклікнуць: калі ты заждгаў, то можна ўжо і пра брацыка табе дбаць. Але стрымаўся жартаваць: Ірына, летась нарадзіўшы Уладзіміра, астудзіла яго новы мужаў любоўны парыў. “Дай мне адпачыць. Ды пасля ўсяго таго, што перажыла...”

Аддаючыся такому простаму, але і такому вялікаму бацькоўскаму шчасцю, і не заўважыў, што паблізу апынуўся пасланец ад яго новага ваяводы. Апусціў сына на ногі і падпіхаў яго затэпаць да маці – не, хлапчаня абшчаперыла яго нагу і нізавошта не хацела паўтарыць свой першы жыццёвы подзвіг. Тут і заўважыў госця. Позіркам запытаў строга: ну, якая-такая мусовая патрэба тут мяне турбаваць? Той ведаў, што Ірына не любіць, калі ёй не давяраюць княскія сакрэты, дык і пры ёй паведаміў:

– У паход трэба ісці, вялікі князь...

У які-такі паход? Хто можа нападаць? Пабітыя пазалетась печанегі падтулілі хвост; паралізаваны і звар’яцелы ад паразы Святаполк загібеў; Баляслаў (таго за перамогу над ім пры Бугу пачалі называць Храбрым), адваяваўшы на левым і захапіўшы новыя на правым беразе Буга гарады, супакоіўся, мае цяпер не ваенныя, а іншыя клопаты: дабіваецца ласкі ў рымскага папы, каб той блаславіў яго на каралеўства. Але той марудзіць:

хоча, каб у Польшы было яшчэ больш вернікаў па рымска-хрысціянскім абрадзе. Найперш сярод новых, нядаўна далучаных. Дык што – Мсціслаў вядзе сюды раць, не задаволіўшыся ні Цьмутараканню, ні Мурамам? Зноў – вайна? На гэты раз з родным братам! Непачцівы, ганарысты той! Ідзе на яго, старэйшага!

– Ідзе па сушы ці плыве па моры? – запытаў Яраслаў, ведаючы: калі Мсціслаў рушыў па зямной цвердзі, то заявіцца з лютымі ворагамі – печанегамі. А яны прагнуць паквітацца.

Ганец пазіраў на яго няўцямна, а потым пацiснуў плячыма:

– Якое мора? Яго ж між намі няма.

– Якое-якое! – перадражніў Яраслаў. – Панційскае! Ці, як называў мой дзед Святаслаў, Рускае!

– Не, князь, – цяпер уцяміў усё пасыльны. – Весці з іншага боку. Наш чалавек з Усвят перадае: на Ноўгарад пайшоў Брачыслаў.

Ён не паверыў вушам сваім:

– Брачыслаў? На мой Ноўгарад?

– Так, князь.

Ну, сынавец! Ну, свавольнік-няўрымста! Буян! Асмеліўся на тое, пра што яшчэ перасцерагалі бацьку: не варта даваць волі Полацку, не трэба, каб ён мацаваўся! Рана-позна скочыць! Як рысь на спіну нават ласю! Вось Брачыслаў і напаў. Ды ў які час. Калі за апошнія тры вайны ўсяго за чатыры гады Кіеў і Ноўгарад абяскроўленыя. Выклік яму, Яраславу! Ды які выклік! Замахнуцца на горад, які першы паклаў падмурак супольнасці – Русі! Які вабны прыклад для іншых! Не, трэба асадзіць бузуна!

– Пакарай строга паганца, – парушыла ягоныя думы Ірына. – Каб не панадна было!.. І яму, і іншым!

Набіраўся злосці, але, павольна едучы ў Вышгарад, не мог думаць і пра іншае – пра свае стасункі з не зусім чужым, духоўна блізкім па дзеду Рагвалодзе, маці, брату Ізяславе Полацкім. Да нядаўнага спачуваў яму за некаляшняе бацькава злачынства над ім і яго княскай сям’ёй, радаваўся, што вернуты ў яго брат спраўна князіць і шчыра засмучаўся, што зарана пакінулі гэты свет маці, ён, Ізяслаў, і яго старэйшы сын. З прыемнасцю ў Кіеве спазнаўся з сёстрамі, а ў Полацку дык зусім пазнаёміўся з сынаўцом, з Брачыславам, быў падзячлівы яму за цёплы прыём, за яго няўмяшанне ў ягоную сутычку са Святаполкам. Ды нядаўна... Пазалетась і сёлета ўзімку... Ад яго, Яраслававага ўчынку, былі ашаломленыя як у Полацку, так і тут, у Кіеве...

Ён намагаўся пра тое не ўспамінаць сам і не хацеў, каб пра яго напаміналі іншыя. Пазалетась не заступіўся за сясцёр, не абмяняў іх на Святаполкаву жонку – усе кажуць, абураны, нават разгневаны Баляслаў згвалціў Прадславу, якую некалі хацеў па-людску ўзяць замуж, а пры адыходзе з мяцежнага да яго Кіева (сабе на шкоду і Святаполк нямала пастараўся, каб тут і ў іншых гарадах зямля загарэлася пад цесцевымі нагамі) яе і Праміславу вывез сабой у палон. Яраслаў ажно сцепануўся. Як і тады, калі чытаў граматку, напісаную рукой Прадславы і перададзеную яму верным ёй чалавекам.

“У бацькі, – пісала яна, – вялікі грэх за забойства нашых дзеда Рагвалода і бабулі Прадславы, дзядзькоў, за гвалт над маці. Потым ён вас, сыноў, ушанаваў. Усім даў удзелы, і вы задаволіліся. А вось маё і Праміславіна жыццё апустошыў. Кажуць, любіў вельмі, дык не хацеў адпускаць ад сябе. Ды каменем на сэрца была гэтая яго любоў. Але цяпер яго, памёрлага, няхай судзіць Бог. Цябе ж, жывога брата, мы, жывыя, маем права судзіць. Ты подла

непадзячлівы. Я перасцерагала цябе ад бяды, а ты вось як адплаціў! Мог нас, сясцёр, адпусціць у Палацеск, дзе мы ў пашане былі б. А ты аддаў нас на ганьбу! Клянешся ў любові да Бога, а парушаеш запаведзі яго. Няцяжка здагадацца, чаму і з-за чаго ты гэта ўчыніў. Ды яно цябе не апраўдвае. Ты страціў розум і душу з-за прагі ўлады, з-за таго, каб Святаполк і Елізавета не мелі дзяцей... Яны іх і не мелі б, паколькі ты перамог і давёў Святаполка да пагібелі... Мяне цяпер не выменьвай: не хачу нават бачыць такога брата, як ты... Ты не годны быць сынам нашай гаротнай і ў той жа час святой мамы і братам шчырага, справядлівага і мудрага Ізяслава. Я хацела праклясці цябе ды не раблю гэтага з-за іх, маці і брата... Судзі сябе сам.”

Прадслава не напісала яму больш ні радка. Канечне, ён не мог захоўваць такі яму сястрын прысуд, кінуў кавалак пергамену ў агонь... Прадслава пісала праўду. Горкую. Але ісціную. Ён не мог не зразумець гэта. Ды не мог спазнаць сябе ў іншым: чым болей даймала свядомасць, грызла сэрца віна, тым больш злаваўся. Не на сябе. На іншых. І не толькім на Баляслава за ягоны далёка не хрысціянскі ўчынак, нават на... Прадславу і Прамíславу. Таму і сваёй рукой гатоў быць пранізаць кінжалам таго, хто хацеў пры ім пашкадаваць сясцёр. Ці вось пра абяскроўленасць Кіева і Ноўгарада. Хто іх да гэтага давёў? Ён. Войнамі. І чаму ды за што? Як справядліва кажа Прадслава, за прагу вялікай улады. Але нават перад самім сабою не столькі каяўся, колькі на людзях кідаўся ў набожнасць (падмеўся нанова пачаць будаваць у Кіеве мітрапаліцкі храм. І зноў жа не без тайнага разліку: хацеў, каб мітрапаліт быў не прыезджы, а свой, больш падлеглы) і горача прапаведаваў... светлы розум і дабрыню чалавечую...

І яшчэ па-свойму спадзяваўся на лекара-час. Сёстры – незамужнія дочкі былога і сёстры цяперашняга вялікага кіеўскага князя – не засталіся без увагі польскіх суседзяў, князёў і каралёў. Да Прамíславы пасватаўся ўгорскі (венгерскі) князь Ласла Рыжы, стрыечны брат караля Іштвана І. Пайшла. Хоць не солад ёй там будзе: Іштван – дэспат, усіх трымае ў моцным і цяжкім кулаку. Пад ім стогнуць як простыя, так і знатныя людзі. Ён паслаў ёй віншаванне з падарункамі. Яна не адказала... Хоць, можа, і таму, што так рашыў павесціся Іштван? Яшчэ цяжэй было Прадславе. Да яе не прысылалі сватоў, канечне, дачуўшыся пра прыставанне да яе Баляслава; яго жонка ажно кіпела ад рэўнасці і злосці; Угрын сядзеў у порубе, потым яго выкупіла маладая, багатая палячка-удава і загарэлася ажаніць яго з ёю, а той, адданы Прадславе, нават пазіраць не хоча на дабрадзейку-спакусніцу... Канечне, усе там, апроч Угрына, з палёгкай уздыхнулі, калі ўжо немаладую ўзростам, але ўсё роўна заварожліва прыгожую паланянку пачаў прасіць стаць яму жонкай чэшскі князь Баляслаў ІІІ... Перавёў дых і ён, Яраслаў, таксама паслаў Прадславе віншаванне і дары, але, кажуць, яна аддала іх іншым...

Ці вось сёлета, ранняй зімою... Полацк даўно ўжо, з часу “сватання” Уладзіміра да полацкай князёўны, ні з кім не ваяваў, дык амаль за трыццаць гадоў абагацеў. Яго князь, сынавец Брачыслаў, як той малады воўк, набраўся развагі, спрыту, сілы. Яму мала было ўжо таптацца каля логава, хацелася адысціся, пусціць у ход меч, кап’ё, лук. Вось ён, Яраслаў, і падумаў, каб залучыць таго сабе ў спадручнікі ды спажыць яго малады запал, хітра заманіў: памажы расправіцца з Каінам, вярнуцца ў Кіеў. Пасля там удвух у згодзе, у памяць добрую да ўсіх нашых “па кудзелі” будзем правіць Руссю. Брачыслаў, канечне, разважаў, раіўся з баярамі і ў дамоўлены час прайшоў узбоч Заходняй Дзвіны па сушы, мінуў рэчку Абалянку, сустрэў яго каля Ршы (Оршы), дзе смаленскі Дняпро рэзка паварочвае

на поўдзень, імкнучыся да Панційскага мора. Святаполк, печанегі былі ўшчэнт разбітыя; пасля Брачыслаў на радзе з баярамі і дружыннікамі сядзеў побач з ім і меў важкі голас таксама вялікага князя. Яму ў Кіеве пабудавалі хорам, а месца вакол назвалі Брачыслававым дваром. Тут ён мог сам-насам прыймаць самых розных гасцей. Праўда, не грашыў гэтым, у многіх варунках, дзеях не ўладнічаў паасобку, раіўся з ім (вось яму Прадслава і Праміслава пісалі, расказвалі, што і як робіцца на іх новых землях, як складваецца жыццё ў іх саміх).

Свет вялікі і заадно малы; асабліва на мацерыку, дзе здаўна праклад-зены заваёўніцкія і гандлёвыя пуцявіны; далёка дачуліся: у Кіеве разам з дзядзькам уладзіць малады, прыгожы, разумны і, галоўнае, магутны князь-халасцяк. Адусюль пайшлі сваты – так-так, у розведы да Брачыслава з багатымі дарункамі ад уладароў плямён і краін, каб аддаць за яго сваю дачку. Вось пасла і з Даніі ад Кнута Вялікага, які падкаленіў не толькі Данію, але і Нарвегію ды англійскія землі, да "караля Русі" прывезлі паклон: ці не мог бы ён ашчасліваць яго малодшую сястру Эстрэль? Няма слоў, Данія тады была моцная дзяржава; Эстрэль на партрэце спадабалася; яна з вялікім пасагам прыбыла ў Кіеў; маладыя шчыра пакахаліся (пра жаніцьбу Брачыслава і Эстрэль версія І. Масляніцынай паводле асэнсавання ёю дацкіх хронік і скандынаўскай "Эймундавай сагі". – *Г.Д.*). І тут...

Як яму нашэптвалі прыстаўленыя ім да Брачыслава выведнікі, ім адразу ж захапілася Ірына, схіляла яго да блізкасці, ды ён не паддаўся на жаночыя спакусы. Ірына затаіла злосць. Эстрэль яна сустрэла прыязна: багатыя дары дасталіся і ёй, а яшчэ як-ніяк амаль зямлячка, маглі весці бяседы на зразумелай мове і пра славутыя подзвігі іхніх землякоў, спяваць любімыя песні. Ды, як кажуць, чорная кошка прабегла і між імі (мо і з-за таго, што малодшая Эстрэль хацела быць нароўні з ёю. Як жонка таксама вялікага і, на яе думку, больш галоўнага князя; тады яшчэ не зналі, што і як учыніла яе, мякка кажучы, натурыстая маці са збеглым у Данію самым малодшым братам Яраслава Усеваладам; пра той жах пазней. – *Г.Д.*). Яны ўсё больш і больш пачыналі сустракацца, а калі бачыліся, дык між імі апаноўвалася халодная ветлівасць. Ірына дзень за днём нагаворвала яму, Яраславу, на Брачыслава і ягоную жонку, у праваслаўі Анастасію (у гонар Рагнеды, Брачыслававай бабулі-манашкі): гадуй-гадуй змеяў на грудзіне! Рана-позна ўджаляць! Мабыць, няма страшнейшай сілы, чым жаночыя нашэпты, папрокі, абразы, а ўрэшце і слёзы!.. Яраслаў пацярпеў пляменнікаву роўнасць, пачакаў, пакуль у яго зноў збярэцца сіла, перамовіўся з баярамі, дружыннікамі і аднойчы на радзе не даў сесці побач з сабою. "Вось што, сынавец, – сказаў пагрозліва. – Стала мне ведама: задумы цёмныя супроць мяне і маёй сям'і выношваеш! За здраду мог бы цябе зняволіць. Ды не буду дзеля памяці светлай усіх, хто нам радня "па кудзелі!" Вяртайся ў свой Палацеск і сядзі там ціха!" Карацей, агаварыў. Як некалі Ірынінага жаніха перад яе бацькам.

Брачыслаў пакінуў Кіеў. Канечне, без славы вялікай. Як змоўшчык супраць дзядзькі, "які прытуліў яго як сына". Кажуць, яго Анастасія не вельмі загаравала, што з Кіева патрапіла ў Полацк, паразумелася з Брачыслававай маці, і яе там не толькі прызналі за жонку іхняга падманутага князя, але і палюбілі. І вось... Брачыслаў – на Ноўгарад!.. Канечне, гэта – не проста так скачок Полацка...Трэба ісці і, як кажа Ірына, збіць пыху з сарвігалавы! Каб іншым не панадна было падняць галаву, забунтаваць! Хоць... Хоць гэта ўжо за ім, Яраславам, – новая варожасць Ноўгарада і Кіева з Полацкам...

Мо і далёка наперад... Што ж, каб ён быў полацкі князь, як брат Ізяслаў і пляменнік Брачыслаў, то мо таксама паводзіўся б, як яны. Але ён не полацкі, ён – вялікі князь Русі. Дык мо і варта было б падначаліць, як і ў Ноўгарадзе, полацкую гордасць...

"Паглядзім, – падумаў. – Без бітвы не абысціся. А яна калі не ўсё, то многае пакажа і рошыць..."

Першы ўлегцы (без абозу) са сваёй варажскай дружынай паімчаўся з Кіева Эймунд. Яраслаў нават здзівіўся: у таго ледзь не ўспыхнулі агнём вочы ад радасці, калі пачуў пра Брачыслававa ўварванне ў Наўгародскую зямлю. Прадзед, Рагвалод, самае вялікае асмельваўся пасля смерці Святаслава і пры малалетнім ноўгарадскім князі Уладзіміры нападаць на памежныя плескаўскія (пскоўскія) землі, два-тры разы заскочыў у наўгародскія, а вось праўнук... Яраслаў палічыў: заўсёды незадаволены, хмурны Эймунд (а засмучаны таму, што яму мала заплацілі за апошнюю перамогу над Святаполкам і печанегамі) адчуў пах здабычы – яе, канечне, будзе везці Брачыслаў, дык вось можна перахапіць нарабаванае першаму і добра пажывіцца.

Яраслаў не развітаўся з Ірынай (сказалі, што яна з дзецьмі раптоўна выехала ў Берастова) і паволі, везучы з сабой правізію, таксама пакінуў Кіеў. На гэты раз падаўся з дружынамі не па Дняпры (нялёгка веславаць супраць цячэння), а ўздоўж яго на конях. Балазе шлях быў дагледжаны перад яго апошнім паходам сюды – дрэвы і кусты павысяканыя, балоты і балотцы вымашчаныя, а па прыдняпроўскіх рэчках перакінутыя масты. За Любечам трусіў пад ціхім і цёплым даждом у сярэднемесячны дзень, далей – пры яркім сонцам і парнасці і не мог па-новаму не здзіўляцца. Дрыгавіцкае звычайна вельмі ажыўленае прырэчча было абязлюдзенае – ні начных вогнішчаў пастушкоў коней на гуртавым лузе, ні раніцай на сенажацях касцоў у лапцях, зрэбных кашулях і партах ды ў саламяных капелюхах, ні босых, у белых касынках вясёлых жанок каля падсушаных пракосаў, ні коп і стагоў, а ў паселішчах – ні душы, толькі чуўся мляўкі сабачы брэх. Пахаваліся насельнікі. Сям-там сустракалі з хлебам, малаком, яйкамі, засмажанымі курамі, зялёнай цыбуляй толькі пастаўленыя ім старасты, цівуны, падвойскія, знатныя людзі са сваёй чэляддзю. Ад іх і даведаўся, што люд затаіўся не проста з-за варожасці, а з-за Эймундавых пабораў коней і ежы ("Сам злупцую мярзотніка!") і што для Брачыслава пад назіркам яго вояў гацяць балотцы, наводзяць масты праз рэчку Судому паблізу паселішчаў Дуброўка і Парэчча (так у М. Карамзіна; хутчэй за ўсё Брачыслаў перапраўляўся праз раку Ловаць: сённяшняе пскоўскае Парэчча якраз паблізу яе. – *Г.Д.*). Калі робяць гаці і масты, значыць будзе сюдой везціся, сапраўды, вялікая здабыча і ісці вялікі палон.

Прылужжа з нечапаным сіўцом, вытаптаная каровамі, коньмі і асабліва авечкамі паплавіна, а бліжэй да ракі прасторны, ужо скошаны, але яшчэ амаль без атавы, з рэдкімі чорнымі кратовінамі луг, абапал лісцёвы, а далей хваёвы лес па абодва берагі здаліся не зялёныя, высокае неба – не блакітнае, сонца – не яркае, а ўсё пацямнела ўваччу: да новага з акораных бярвёнаў маста вось пад'ехаў... Эймунд на чале сваёй дружыны. І ў гарачыню ў даспехах, з мячамі. Значыць, чакалі, што на сёмы дзень Брачыслававага паходу ён, Яраслаў, можа апынуцца тут. Хоць маглі сутыкнуцца за Ловаццю, ужо на віцебскіх абшарах. Эймунд запыніў каня, прыклаў руку да лоба і пачаў пазіраць сюды. Да яго дружыны пад'ехалі полацкія воі, а за імі паказаліся коні, запрэжаныя ў высока напакаваныя дабром калёсы, а за імі – людзі. І

іх усё большала і большала. Як пачало хутка бачна, іх была не адна тысяча. Маладыя мужчыны і жанчыны, дзеці. Пярэднія згледзелі яго раць, загаласілі. А хто не нёс неўмаля, ускінулі рукі ўгору. Зразумела. Хто хоча ісці ў палон, быць не гаспадаром на сваёй зямлі, а рабам?! Сціснулася сэрца: значыць, Ноўгарад разрабаваны, а то і спалены. Калі нападзе Мсціслаў, то на гэты раз ужо не будзе ад Ноўгарада помачы. Вось пад'ехаў і стаў каля Эймунда Брачыслаў. Мо і сшапталіся яшчэ ў Кіеве? Брачыслаў – рослы, русявы (валасы доўгія, на высокім лобе і зашыйку бел-чырвоная стужка), з русявымі вусамі, але па маладосці яшчэ безбароды, у вышываных ботах з увабранымі ў іх палатнянікамі, расшпіленай па грудзіну белай шаўковай сарочыцы. Ён і ў Кіеве не прагнуў ні ў чым раскошы. Казалі, такімі былі і ягоныя бацька і прадзед па Рагнедзе Рагвалод. Прайшло толькі паўгода, як яны не бачыліся, але здаецца: ён рэзка амужнічыўся. Пасуровеў. Пазірае спадылба. Але і гэта яго, прыгожага, зусім не брыдчыць. Надае нават вялікаснае аблічча. Быў бы ва ўсім такі ягоны Ілля! Каля пярэдніх ног Брачыславага гнядога каня стаяў высокі рыжаваты, з цемнаватай спіною ваўкадаў (некаторыя князі пры сабе на час сну трымаюць маленькіх сабачак-абярэгаў: тыя пры падыходзе чужога чалавека ўсчынаюць пранізлівы ях).

Па абодва бакі ракі воі стаялі моўчкі, не дражнілі адны адных. Толькі лемантавалі запалоненыя, рваліся сюды, ды ім перагарадзілі дарогу коп'ямі полацкія дружыннікі .

"Брачыслава з Эймундам мне не адолець, – зеляніна і светлата ў вочы, а свядомасць у галаву пачалі вяртацца да Яраслава. – А калі і паб'ём, то гэта будзе Пірава перамога, а я – палкаводзец без арміі. Тады Мсціслаў возьме Кіеў голай рукою. Хочаш ці не хочаш, а трэба ісці на перамовы. Але як і пра што дамаўляцца?".

Эймунд штосьці горача гаварыў Брачыславу, паказваў сюды рукой. Мабыць, угаворваў напасці, пераконваючы, што ваенная ўдача, а з ёю і багатая здабыча будзе за імі. Яраслаў азірнуўся, даў знак, каб яго дружыны былі непарушныя, а сам адзін падаўся да маста. Запыніўся. Гукнуў:

– Сынавец, давай перамовімся.

Было ўжо чуваць, як гарачыўся Эймунд: не-не, не ідзі. Давай знак трубіць на бой. Мы адужаем яго. І Палацеск табе нізка пакланіцца! А пазней рушым на Плескаў! Або на бліжэйшыя землі радзімічаў ці дрыгавічоў! На яцвягаў альбо пашукаем выйсця да Варажскага мора! Палацеская дзяржава разрасцецца! Будзе моцная славянскасцю!

– Сынавец, – папрасіў ужо Яраслаў. – Не слухай яго. Не вер юдам. Прадаў мяне – прадасць і цябе. Будзе служыць таму, хто больш заплаціць.

Брачыслаў павагаўся. І, здаецца, не вельмі слухаў Эймундавы ўгаворы. Апусціў руку на хораша ўпрыгожаны дамаскі меч, паправіў яго і тузнуў каня. Ехаў спакойна, у вачах – ніякай боязі. Запыніў каня ўзбоч. Не павіталіся. Не міргаючы, пазіралі адзін аднаму ў вочы. Блакітныя ў Брачыслава, яны вылучалі дабрыню. Толькі цяпер суровую. І ніякай віны ў іх.

– У спіну ўдарыў, сынавец, – падакараў Яраслаў. – Адпомсціў?

– Ты ж паклікаў на перамовы, – безуважна адказаў Брачыслаў, – а не на малібоны (папрокі). А калі гаварыць пра помсту, то яна – наўгародцам. За тое, што прадзеда, прабабулю з сынамі забілі, многіх паланілі і прадалі ў рабства, а Палацеск разрабавалі і спалілі. Я, каб ты ведаў, больш міласцівы: многіх наўгародцаў пабіў, у палон вяду, але горад не падпаліў. Я – баявы князь, а не варвар-дзікун. А пра перамовы маё слова такое, вуй: давай разыдземся мірна. Табе нас не адолець. І кіеўскага пасада больш нават не бачыць...

– “Мірна разысціся!” – нервова перакрывіў ён. – Які мір, калі напалі на маю дзяржаву!

– Што ж, – пачуў спакойны адказ. – Калі лічыш мяне вінаватым, то спрабуй пакараць. Бой – дык бой! Мае вoi поўныя рашучасці пастаяць і за мяне, абылганага табой і выгнанага з Кіева, і за Палацеск!

– Спажываеш выгадны шанец!

– А хіба гэта не логіка дзяржаўцы? Рагвалодавіча і “па кудзелі”, і па духу? І хіба так лёгка не паслухацца Рады і веча? Яны прынялі на службу – яны за пралікі ды няўдачы і прагнаць могуць... – Усміхнуўся. Гарэзна. Не зважаючы, што ён ўсё ж малодшы, пляменнік. – І яшчэ ёсць адно, што цябе змусіць пайсці на перамовы... Твая Ірына з дзецьмі ў Палацеску... Хацела падацца з Эймундам у Ноўгарад, але я не ўзяў... Так што ёсць пра што перамаўляцца! І строга: – Сясцёр ты лёгка аддаў на ганьбу, а любімую жонку з дзецьці, думаю, пашкадуеш?

У Яраслава адняло мову. Не, не за тое, што пляменнік вось гэтак смела і калюча сцябае па вачах. Ды Эймунд – Эймундам: хцівец. А вось Ірына?.. Што за яе выбрык? (У летапісах будзе тлумачыцца гэта тым, што яе сілай прывёз да Брачыслава Эймунд. – *ГД.*). Сышла ад яго? Ён – муж-пакідалец?

– Давай прысядзем, ногі замлелі за доўгую дарогу, – папрасіў Яраслаў, першы спешыўся, махнуў рукой свайму дворнаму. А калі той падбег, загадаў: – Прынясі лаўкі, стол. Квасу халоднага, – медавухі ці віна не наказаў падаць: ведаў, што пляменнік, як і бацька, не п’е моцных напояў.

Хутка тое, паходнае, стаяла тут. Слуга прыпадняў накрыўку з глінянага збана і наліў рудога ад падсмажаных хлебных скарынак пітва ў гліняныя конаўкі. Сеўшы, Яраслаў адпіў першы: не атручана. Доўга маўчаў. Утаймоўваў думкі і разгубленасць. А каб схаваць гэта, марудна цадзіў квас.

– Дык як мірна мы можам развязаць завязаны табой вузел? – запытаў праз некалькі хвілін.

– Як Македонскі – гордзіеў... – Брачыслаў бачыў ягоную пакуту. Пацяшаўся.

– Што і па чым, па-твойму, нам секчы?

– Ты – вуй, старэйшы і мудрэйшы. Дык падказвай сваё выйсце.

– Здабыча – здабычай, Бог з ёю, – уголас пачаў разважаць Яраслаў. – А вось палон адпусці. Ірыну вярні ў Кіеў.

– Ясна, – сказаў Брачыслаў. – Гэта – выйсце для цябе. А што – мне ўзамен?

– А што ты хочаш?

– Вяртаю я – вярні і ты. Віцьбеск, Усвяты, – Брачыслаў загнуў на левай руцэ мезенец, а пасля пачаў загінаць і большыя пальцы. – Дай заруку, што Смаленск не будзе пасягаць на Ршу і Копысь. Пацвердзі наша права на Менск, Нямігу і Лагожаск. Пакуль што гэта – усё. Але ні ў чым не саступлю. Іначай мір будзе знаходзіць меч. Выбірай.

Яраслаў і зазлаваў, і заадно ўразіўся пляменнікай рашучасці і настойлівасці. А тады:

– Дарагую плату хочаш.

– Не вельмі. Тым больш, што я ўсё роўна буду мець названае. Ты калі не страціш дружыны сёння – страціш хутка ў бітве са Мсціславам... – пацешыўся як пераможца: – Так што пішы, давай грамату, іначай больш запатрабую, скажам, на дрыгавіцкай зямлі!

– Вымагацель! – здаўся Яраслаў.

– А мне, вуй, не выпадае быць іншым... Ды не столькі я вымагаю, колькі

вымагаюць палацескія інтарэсы! Іначай, кажу, мне не даруюць. Ні цяпер, ні пазней. Палічаць баязлівым ці бесталковым, а то проста абэлтухам!

– Яны, гэтыя вашы інтарэсы, павядуць цябе і на латгальскія і іншыя землі? Не выпадкова ж ты памежны горад Браслаўль збудаваў! Думаю, і на яцвяжскія землі, на Літву зырышся! (Здаецца, без значных гарадоў паселішчы той, летапіснай, Літвы былі паміж сённяшнімі Мінскам, Навагрудкам, Слонімам і Маладзечна. Пазней там будзе некалькі дробных княстваў, але шмат князёў і міжусобнай барацьбы між імі. Іх мірным шляхам падпарадкуе Навагародак, запрасіўшы да сябе князіць Мендога ці Міндоўга, які мог быць выхадцам з полацкіх зямель. – *ГД*.).

– Як, вуй, у святой кнізе напісана, дасць Бог новы дзень – дасць і ежу!.. – Быў поўны маладой радасці Брачыслаў, ужо не прадчуваючы, а ўпэўніўшыся, што выводзіць Полацкую дзяржаву на новы ўздым. – А ваяўнічыя Яцвязія ды Літва – спакусна смачныя скібы!.. І не для аднаго мяне. Не так, вуй?

– Ладна, – скрушліва прамовіў Яраслаў. – Пра Яцвязію, Літву ды пра іншых пагаворым пазней. Цяпер хачу пачуць ад цябе іншае. Калі на мяне нападзе Мсціслаў, на чыім баку будзеш?

– На сваім... – Брачыслаў не пакідаў усмеху.

– Пamажы мне, – папрасіў Яраслаў. – Як-ніяк мы з табой ўжо добра знаёмыя. Я на вялікія ўступкі для цябе пайшоў. Мсціслаў – таксама вуй табе, але ўсё ж незнаёмы чалавек... Не думаю, каб у выпадку перамогі ён запрасіў цябе ў Кіеў...

– Ды не патрэбен мне ваш Кіеў! Мне і ў Палацеску ўсяго хапае. Адно скажу пэўна і цяпер: меч першым на цябе не падыму, – ужо засур'ёзнічаў пляменнік. – А пра тваю просьбу пра падмогу пагавару на Радзе, а то і на вечы. Гэта ў вас веча мала значыць, а ў нас яно моц мае. Дае срэбра і да срэбра – я трачу. Каб цяпер узяць гэтага Эймунда, таксама буду гаварыць з вечам. Думаю, пашлем яго пасаднікам у адну з валасцей.

– Ну, і за гэта дзякуй,– схіліў галаву, але не шчыра і не радасна Яраслаў. – А Эймунда аддай мне. Я яго пашлю... на неба. Ці, лепш сказаць, у пекла. Ці сыдзі і пакінь яго тут.

– Не. Ён зрабіў для мяне вялікую паслугу... Каб не яго пераход, ты так са мной спакойна не гаварыў бы! Нягоднік, але патрэбны мне. І мо не толькі сёння... Ну, кліч, вуй, пісца, давай грамату складаць ды падпісваць. З-за яе я гатоў сёння і медавухі альбо іншаземнага віна конаўку выпіць!..

## З "Рукапісу"

"Неўзабаве пасля наткнення каля Судамы альбо Ловаці Яраслава і Брачыслава полацкія пасаднікі спакойна сядзелі ў Копысі, Оршы, Віцебску, Усвятах. Полацк займеў вольны і вельмі выгодны, без мытні і пошліны доступ да шляху "варагаў у грэкі". Эймунд застаўся на службе ў Брачыслава, яму далі воласць. Ірына вярнулася ў Кіеў. Як яна апраўдвалася за свае ўцёкі з яго, невядома. Ды як хітрая жанчына ўлесціла Яраслава: у новым годзе ў іх нарадзілася дачка, Ганна. Потым яшчэ ў іх будзе пяць сыноў і дачка. Яны працягнуць род Рурыкавічаў-Яраслававічаў надоўга, а вось Яраслававы браты Мсціслаў і Усевалад у гэтым былі нешчаслівыя: іхні род абарвецца на іх жа. Брачыславу Бог доўга дзяцей не даваў, Полацк вельмі перажываў, каб не перасекся род Ізяслававічаў.

Як я даведаўся з трыманага ў руках полацкага летапісу, па-свойму склаўся лёс

у Рагнедзіных дачок. Не былі доўга паланянкамі, больш – выйшлі замуж за князёў. Але не былі шчаслівейшыя за маці. Праміслава трапіла ў венгерскае каралеўства па любові, стала маці, ды зведала пакутніцкую долю... У міжусобіцы загінуў муж, тры сыны мусілі ўцякаць; два старэйшыя апынуліся ў дзядзькі Яраслава, у Кіеве. Самага старэйшага Эндрэ (у Кіеве яго называлі Андрэем) ён пашлюбаваў з дачкой Анастасіяй і памог яму срэбрам ды золатам вярнуцца і стаць каралём. Канечне, зрабіў гэта не толькі па дабраце сваёй. Ды праз гадоў 14, у новай міжусобіцы, Эндрэ быў забіты самым малодшым братам. Якая вялікая радасць была ад гэтага Праміславе – удаве, маці?! Не праліла шмат слёз? Ці неяк суцешвалі сын-брата-забойца, сярэдні? Ці супакойвала таксама маладая ўдава, яе нявестка-пляменніца (яе назвалі Агмундай)? Яна была разважлівая, спакойная, як і бабуля Рагнеда-Анастасія, кніжніца, цалкам прысвяціла сябе Венгрыі: зладзіла бібліятэку, два манастыры (першыя там каменныя будыніны), натхніла каралеўскага юрыстыка-пісара, епіскапа Мілаша пачаць пісаць аб'ёмнае даследаванне "Дзеі венграў".

Прадслава выйшла замуж за чэшскага Баляслава III. Ды не чакала яе шчасце вялікае: ці не праз тры гады пакінула гэты, пайшла на той свет па-ранейшаму красуняй. Чаму? Пры росквіце жыццёвых сіл?

...Нестар, а за ім і іншыя нахвальвалі-узвышалі Яраслава, дык панапісвалі, што ён там, на Судоме, даў бой, перамог Брачыслава і што той, сынавец, нібыта пужлівы заяц, кінуў-рынуў усё, усіх і збег з поля бою без аглядкі. Але ці трэба гэтаму верыць? Нават і таму, што "пераможаны" Брачыслаў не толькі не страціў кавалка сваёй зямлі, а... пашырыў яе і па-ранейшаму быў незалежны ад Яраслава! Пры ім ніхто не асмеліўся нападаць на Полацкую зямлю, і яна з кожным годам багацела і набіралася моцы. А сам Брачыслаў двойчы з Яраславам хадзіў у ваенныя ўдалыя паходы. На Яцвязію і Літву..."

## Ад аўтара

*Брачыслававы паражэнне-поспех... Цяжка адшукаць ва ўсёй сусветнай гісторыі прыклад: пераможца нічога не ўзяў, а... яшчэ адарыў пераможанага і сышоў!*

*М. Карамзін услед за Тацішчавым і іншымі затуманіў тлумачэнне: у асноўнай сваёй гістарычнай працы ён, Карамзін, зазначыў: "как вероятно", Брачыслаў скарыўся, а Яраслаў "оставил его в покое". Толькі дробненькім шрыфтам у дадатку (а іх і цяпер не ўсе чытаюць!) заўважыў: Брачыславу тут жа дасталіся Віцебск і Усвяты. Вось так! Вось як проста і лёгка Яраслаў расшчодрыўся, каб суцешыць ім пабітага!!! Пазней С. Салаўёў таксама прыбег да такога хітрага прыёму: у сваёй "Истории России с древнейших времен" зноў жа высновы падзяліў на дзве часткі. У першай, на асноўных старонках, спачатку паўтарыў версію Нестара і іншых, але, праўда, вышукаў для яе сваю падставу: "Ярослав видел, что надобно что-нибудь прибавить Брячиславу к его волости, иначе Новгород никогда не будет безопасен..." І яшчэ, нібы спахапіўшыся ды прынізіўшы падзею: "Если только он не дал их (Віцебск і Усвяты. – **Г.Д.**) за жену, похищенную Эймундом". А ў дадатку да свайго даследавання ён, С. Салаўёў, выяўляючы больш шчырае і праўдзівае тлумачэнне, ці не выказаў ісціну? Калі вылучыў "желание Ярослава заключить союз с Брячиславом против Мстислава?!"*

*Задобрываюць моцнага, каб падпісаць з ім саюз! Слабому, скоранаму, загадваюць!*

*(Працяг будзе)*

Васіль Дэбіш



...тут, на зямлі гэтай,
мы – толькі цені...

# Мая свечка

* * *

Не спалася. Не змружыў нават воч.
Бо страціў сон, бо хтосьці мяне клікаў.
Ці гэта жураўліны клін курлыкаў?..
Ці згадкі мяне клікалі праз ноч?..

Свяціўся чысцінёю сад мой белы,
І пах мядовы з груш і яблынь цёк.
І ясна так, так светла зіхацела,
Бы сотні сонцаў, мокрае лісцё.

* * *

Сціскае ноч халодным колам
Кусты, развіліны дарог.
Зіма ўжо хутка. Гоняў голых
Я чую дзікі, страшны стогн.

Бы мерцвякі, застылі грушы.
Гразь. І з дажджом пякучы снег.
Ноч... Сцісне горла і задушыць,
Здаецца, гэты змрок мяне.

* * *

Крычаць у небе журавы.
Трывожныя насталі ночы.
Лісток апалы, шчэ жывы,
Малітву ціхую шапоча.

Не спіцца мне. Я страціў сон.
Іду па вуліцы, па сцюжы.
І гул званоў, і неба звон –
Разбітым шклом замерзлых лужын.

* * *

*Максіму Багдановічу*

Вось і птушкі замоўклі ў гаях.
Змрок накрыў і дарогі, і гоні.
Разгараецца свечка мая,
Што запалена на падваконні.

Ты гары, мая свечка, гары!
Матылёчак ты мой, яснакрылы.
Не згарай да апошняй зары.
Дай жыццём мне нацешыцца, мілы.

Мяне, любая, ты не журы,
Што так рэдка шапчу пра каханне.
Маё сэрца палае, гарыць,
Толькі блізіцца час развітання.

Я ўсяго толькі госць на зямлі.
І, калі мяне болей не стане,
Свечку, любая, ты запалі...
Матыльком прылячу на спатканне.

* * *

Свет напаўняецца сумнымі спевамі.
Цёмна так стала навокал і днём.
Парк пастарэў, і між чорнымі дрэвамі, –
Змрочна кружляе, крычыць вараннё.

Людзі навокал такія няветлыя.
Колькі ж прайшло, як рунелі палі,
Сонца свяціла вялізнае, ветлае,
Цуда-аблокі над намі плылі?..

Колькі ж прайшло, як з табою кахалі?..
Сёння  няма каму слова сказаць.
Белыя птушкі ў нябёсах прапалі, –
Чорныя пёры да долу ляцяць.

* * *

Прачнуцца сярод ночы...
Страх сэрца скалыхне:
Так жудасна грукоча
Гадзіннік на сцяне.

Раз’ехаліся дзеці,
Пакінулі сябры.
Адзін на цэлым свеце.
Душы адчайны крык.

Дождж за вакном хлюпоча...
Як там сынок, унук?..
Прачнуцца сярод ночы.
Да ранку не заснуць.

* * *

Прынесла ноч мне смутак, неспакой.
Сцякае сонца з хмар. Святлеюць дрэвы.
Прачнуўся я сягоння сам не свой:
Прымроіўся мне сёння бераг левы,

Дзе скончу назаўсёды свой палёт
Я ва ўладаннях змрочнага Харона.
Так, левы бераг – вечны холад, лёд,
А правы бераг – неспакой да скону.

### *ВОЗЕРА*

У дно ўцяліся вербалозы,
Нібы кінжалы, гнуцца аж.
І танкаствольныя бярозы
Глядзяцца ў возера наўсцяж.

Дна не відно зусім – сутонне.
Зжаўцелы на вадзе лісток,
Яго кудысьці хвалі гоняць...
Там замка бель, што ўкляты ў змрок.

Там волі дух – на дне – жаданы
Лунае. Дзед, як свет, стары
Пасе там зорак караваны
І разнявольвае вятры.

Гляджу на хвалі. Апантана
Плывуць кудысьці. Звон нябёс
Чуцён. А возера, як панна,
Гайдае сонца ў промнях кос.

## *НАЦЮРМОРТ*

Скідае дрэва лісце ў жорны восені.
Як куст бружмелю, ссохлы нікне дзень.
І косіць, косіць дождж даўгімі косамі
Палі, зусім пустыя, ноч і дзень.

Дзе гоман плыў, цяпер маўчанне дзікае.
У вокны зрэдку сонца зазірне.
І жаласна ў хляве карова рыкае.
А з кветак, што завялі, смерцю тхне.

** * **

З пакінутага горада начнога
Сышоў ліхтар, ледзь свеціць ля дарогі.
За мной мой цень пляцецца, змрочны, шэры –
Нам доўга, аж да ранку, крокі мерыць.

## *ПЕРАД ЦАРКВОЮ*

Тленнае ўсё на зямлі. Мы – пясчынкі з табою.
Дзе б ні было, прыпынюся я перад царквою
І памалюся на крыж, і схілю я калені.
Тут, на зямлі гэтай, мы – толькі цені.
Воблака цені, якое ціхутка сплывае.
Гучна на свет мы з’яўляемся, ціха знікаем.
Так, нас не будзе калісь. Толькі плакаць не трэба.
Станем травой прыдарожнай ці птушкаю ў небе.
Ластаўкі шчасна выводзяць кругі над зямлёю...
Тленнае што ні вазьмі, але ўсё і жывое.

## НІТКІ ДУМАК

* * *

Навастрылі дзюбы
кропелькі
дажджу.

* * *

Дабравест...
Сыплецца белы снег,
звініць...

* * *

Каровы прагна п’юць
з рэчкі
неба.

* * *

Сонны пастух выпускае з хлява
маладзенькае
сонца.

* * *

Жнівень.
Гарыць ядловец
сонца.

* * *

Божа! Як хутка час бяжыць:
заснуў на хвіліну – у вясне,
а прачнуўся – зіма.

* * *

Страшна ступаць па расе
на золку –
зорак асколкі.

* * *

Узіраюся ў люстэрка –
шукаю свой
твар.

* * *

З ацяжэлых галін
скідае восень лісцяў
успаміны.

* * *

Трыснёг самотны
стыне ў вадзе –
адбітак кратаў.

* * *

На касцёльным цвінтары
ціха ўкленчыла
малітва.

* * *

Прамень сонца
злавіла кветка
і не хоча адпускаць.

* * *

З летуценняў
нарадзілася
сонца.

* * *

На камені – звіліны.
А, можа, ён, як чалавек,
мысліць?

* * *

Дождж.
Чарвяк з-пад ліста спалоханым вокам
сочыць.

---

“Дзеяслоўцы” шчыра віншуюць Васіля Дэбіша
з пяцідзесяцігоддзем і зычаць яму плёну
ды поспехаў у творчасці!

Лідзія Арабей



...– Чево-чево? – перапытала дзяўчына.
– Кавы, кавы! – гаркнуў на яе Міхась.
– Роднай мовы не разумееш,
у Кітаі жывеш?..

# Жыццё не спыняецца

***Апавяданне***

Іван Каляда ішоў па вуліцы Фрунзе ўніз, да плошчы Перамогі. У руках яго была торбачка, у якой ляжаў кашалёк. У кашальку – дзвесце тысяч, якія дала жонка, выпраўляючы за пакупкамі.

– Пахадзі па праспекце, кажуць, там у супермаркетах прадукты дзешавейшыя. А, можа, лепш сходзі на Камароўку, – падумаўшы, сказала яна. – Там выбар большы.

І вось Іван ішоў, размахваючы торбачкаю, па вуліцы Фрунзе да праспекта.

Іван Каляда быў паэтам і, як казалі, таленавітым паэтам, крытыка хваліла, яго запрашалі на выступленні ў школы, у інстытуты і там слухалі і прымалі, здаецца, прыязна. Звычайна, калі ён ішоў вось так, без вялікага клопату, у галаве яго круціліся словы, радкі, часам прыходзіла цікавая рыфма, якую ён стараўся запомніць і, прыйшоўшы дадому, запісваў.

Цяпер у галаве было пуста.

Некалі па вуліцы Фрунзе ён хадзіў даволі часта, на ёй стаяў Дом літаратараў, пабудаваны за кошт пісьменніцкіх ганарараў. І гэты дом быў быццам ягоным домам, тут можна было сустрэць калег, пагаварыць пра літаратуру, пасядзець у кавярні. Апошнім часам, калі даводзілася хадзіць паўз гэты будынак, у яго з'яўлялася адчуванне, быццам ён сустрэўся з жонкаю, з якой развёўся і якая жыве цяпер з іншым мужыком. Такое адчуванне падступала ўжо і цяпер, бо набліжаўся да таго дома, хацеў і ў той бок не глядзець, ды міжволі павярнуў галаву. Увагу прыцягнула шыльда, якой раней не бачыў. Спыніўся, прачытаў: "Кафе "Старый Тифлис". Работаем с 12 до 24".

Не паверыў сваім вачам. Гэта ў іх доме, доме беларускіх літаратураў, у іх сціплай кавярні – "Кафе "Старый Тифлис"! Хто ж гэта пусціў сюды грузінаў, да якіх Іван увогуле ставіўся даволі прыхільна, не меў ніякіх прэтэнзій, але хто адкусіў ад будынка такі кавалак і кінуў чужым людзям?

Паглядзеў на гадзіннік, яшчэ не было дванаццаці, але быццам нейкая сіла штурхнула Івана, і ён адчыніў дзверы.

Перад уваходам у кавярню, за нейкім бар'ерчыкам сядзеў лысаваты мужчына ў гарнітуры, пры гальштуку, перабіраў нейкія паперы. Іван падумаў, што мужчына, можа, зараз яго затрымае, але той не затрымаў, і Іван адчыніў дзверы ў былую кавярню пісьменнікаў.

Там было цёмна і пуста, за столікамі яшчэ ніхто не сядзеў, але перад ім, як з-пад зямлі, вырасла дзяўчына, мусіць, падавачка.

– Здравствуйте, – сказала Івану ветліва.

Наструнены, абражаны, Іван сказаў ёй не вельмі прыязна:

– А чаго гэта вы вітаецеся па-руску, а не па-грузінску?

– Я магу і па-грузінску, – весела сказала дзяўчына і сапраўды залапатала па-грузінску.

– Вот, изучаю язык, – хвалілася яна.

– А колькі ў вас каштуе шашлык? – сам не ведаў чаму, спытаўся Іван.

– От восьмидесяти тысяч, – адказала дзяўчына.

– І да калькі?

– Ну, до двухсот тысяч.

Жонка дала Івану дзвесце тысяч, каб ён купіў прадуктаў на цэлы тыдзень. А тут адзін шашлык – дзвесце... Ды, мусіць, адным шашлыком яны тут не абыходзяцца, да шашлыку трэба віно ды трава нейкая... Грузіны ж без травы нічога не ядуць...

– Бывайце здаровы, – не вельмі ветліва сказаў Іван і выйшаў з кавярні.

Пры выхадзе затрымаўся каля таго лысага, за бар'ерчыкам.

– А вы тут кім працуеце? – спытаў насцярожана. Чакаў, што чалавек адкажа, можа, якой грубасцю, падобна: а якая табе справа? Але мужчына адказаў міралюбіва:

– Я тут ахоўнік.

Іван хмыкнуў. Цікава, каго ён тут ахоўвае, ад каго ахоўвае?

Спытаў таксама быццам міралюбіва:

– А хто ходзіць у гэтую кавярню?

– Найбольш грузіны, – адказаў той.

Іван выйшаў з будынка, несучы ў грудзях крыўду, абразу, злосць.

Не адразу зразумеў, у які бок яму трэба ісці, пайшоў угору па завулку Румянцава. Ішоў і не пазнаваў завулка. Гмахі, гмахі, высачэзныя дамы. Цікава, хто займе гэтыя будынкі? У грудзях у яго ўсё дрыжэла, забыўся пра жончына даручэнне. Ачомаўся, калі дайшоў да вуліцы Казлова. І тут яго зноў пацягнула не ў той бок, недзе ж тут, недалёка, была “Кнігарня пісьменніка”, можа, і яе ўжо некаму аддалі? Ногі самі павялі.

Грымеў трамвай, грукаталі машыны, шчыльнаю плынню ішоў народ.

У кнігарні трапіў нібы ў ціхую завадзь. На паліцах акуратна і моўчкі стаялі кнігі. Ніхто тут нічым не грукаў, не грымеў. Пакупнікоў не было, толькі каля паліцы з дзіцячай літаратурай стаяў мужчына, які здаўся Івану нечым знаёмым.

Іван пахадзіў каля аддзела беларускіх кніг. Нічога цікавага для сябе не знайшоў, яшчэ раз азірнуўся на мужчыну, што перабіраў дзіцячыя кнігі, і ледзь не вылаяўся сам сабе. Дык гэта ж Міхась, каб ты згарэў, даўно не бачыў, а ён так змяніўся. Ссівеў увесь, ды яшчэ бараду адгадаваў.

Міхась быў таксама пісьменнікам, пісаў прозу, у яго былі даволі прыстойныя апавяданні, аповесці, напісаў нават раман.

Іван падышоў да Міхася, стукнуў па плячы. Той спачатку спалохаўся, потым азірнуўся, усміхнуўся.

– Здароў, Каляда! Я ледзьве пазнаў цябе, ссівеў і яшчэ гэтая бародка... Ну сапраўдны дзед.

– А я і ёсць дзед, нават прадзед, вось, праўнучцы кніжку выбіраю.

– І на якой мове?

– На беларускай.

– Дык малайчына, а то ў мяне ёсць знаёмыя, іх дачцэ – тры гады, яшчэ і гаварыць не ўмее, а яны ўжо апроч рускай мовы вучаць яе ангельскай, пра беларускую і слухаць не хочуць. Хоць самі беларусы, можа, у дзясятым пакаленні.

Пакуль яны гаварылі, у краму не зайшоў ніводзін пакупнік. Потым зайшлі двое хлопцаў з рукзакамі за плячыма, на выгляд студэнты, але іх цікавілі не кнігі, а віншавальныя паштоўкі. Доўга перабіралі.

Міхась тым часам выбраў дзіцячую кніжку з малюнкамі, пайшоў у касу плаціць, потым вярнуўся да Івана.

– Ну, а сярод дарослых кніг нічога не знайшоў? – спытаў яго Іван.

– А што там шукаць... Учарашні дзень, – адказаў Міхась.

– Што праўда, то праўда, я таксама там пахадзіў. Зборы твораў Шамякіна, Танка, Навуменкі. Маёй і тваёй кнігі там не ўбачыш.

– Цяпер, брат, каб выдаць кнігу, трэба мець вялікія грошы, – пагадзіўся з ім Міхась. Адкуль іх узяць? Мы з жонкаю жывем на пенсію.

– І мы з жонкаю на пенсію.

Па іх такі было відаць, што яны не багацеі. І па адным, і па другім былі далёка не новыя пінжачкі, купленыя, мусіць, яшчэ да перабудовы.

Выйшлі з крамы. На вуліцы было па-ранейшаму шумна, грукатна, ярка свяціла сонца, па тратуары бясконца ішлі людзей. І аднаму, і другому не хацелася разлучацца, так рэдка сустракаюцца, калі яшчэ сутыкнуцца.

– А ці не пасядзець нам з табою ў кавярні, выпіць па кубачку кавы, пагаварыць? – сказаў Іван.

– А што, давай, – ахвотна згадзіўся Міхась.

Спачатку яны хацелі зайсці ў кавярню на плошчы Перамогі. Міхась адчыніў дзверы, але там было цёмна і пуста, відаць, яшчэ не працава-

ла, і яны зайшлі ў балаган, якіх апошнім часам панастаўлялі па ўсім праспекце. Рэкламавалі ў тых балаганах піва. У тым, куды яны зайшлі, піва "Аліварыя".

У балагане было занята не шмат столікаў, за адным два хлопцы смакавалі піва, далей сядзела нейкая кампанія – хлопцы, дзяўчаты.

Іван і Міхась селі за вольны столік.

– Ты ведаеш, – хмура сказаў Іван, – я цяпер у такім настроі... У нашым былым Доме літаратараў, на месцы нашай сціплай кавярні, адчынілі кафэ"Стары Тыфліс". Ты бачыш, што робіцца, беларусаў зусім даканаць хочуць.

Міхась выслухаў гэта, здаецца, абыякава.

– Ведаю я пра гэту кавярню, чытаў у "Народнай волі". Але пасля таго, што зрабілі з нашым Саюзам пісьменнікаў, мяне ўжо нічым не здзівіш.

Да іх падышла падавачка, тоненькая зграбная дзяўчына на высачэзных абцасах, у белым фартушку.

– Что вам? – спытала ветліва.

– Два кубачкі кавы і... – пачаў Міхась.

– Чево-чево? – перапытала дзяўчына.

– Кавы, кавы! – гаркнуў на яе Міхась. – Роднай мовы не разумееш, у Кітаі жывеш?

Дзяўчына ад таго тону нібы спалохалася, залыпала вачыма, пачырванела.

– Кофе, что ли, – перапытала.

– Кавы, кавы, – не збавіў тону Міхась. – І два бублікі.

– У нас бубликов нет, – быццам ужо вінавата адказала дзяўчына.

– А што ў вас ёсць?

– Расстегайчики...

– Цягні расцягайчыкі...

Дзяўчына пайшла, цокаючы сваімі высачэзнымі абцасамі.

Іван усміхнуўся.

– Ну і злосны ты...

Міхась адказаў хмура:

– Я, браток, маўчу, трываю, але скора загукаю...

– Толку некаму ад твайго гукання. У мяне знаёмая ёсць, дык яна кажа: "Мы людзі незалежныя, ад нас нічога не залежыць".

Падавачка прынесла каву і дзве булачкі, якія ў іх чамусьці называліся расцягаі. Ад кавы ішла пара, але не чулася паху, якім звычайна струменіць сапраўдная кава.

Іван сербануў і зморшчыўся.

– Гарачая, халера, і смаку ніякага, адна гарката.

– Гарачая – гэта помста нам, каб мы языкі паапякалі, – сказаў Міхась.

Яны пачакалі, пакуль крыху астыне кава.

– Пішаш што-небудзь? – спытаў Іван у Міхася.

Той паскроб сваю нядаўна адгадаваную бародку.

– Талстой пад старасць некалі сказаў: "Столькі тоўстых кніжак напісаў, а ні жыццё, ні чалавек не палепшалі". Дык калі пасля Талстога, пасля Дастаеўскага, пасля Быкава нічога не змянілася, навошта мне псаваць паперу.

– Але ў Расіі пасля Талстога, пасля Дастаеўскага з'явіліся новыя харошыя пісьменнікі – Бунін, Купрын, Горкі... А паэты – Блок, Ясенін...

– То ў рускіх пісьменнікаў, у іх мова ёсць, – сумна запярэчыў Міхась. – А ў нас, бачыш, – беларуская дзеўка, па ўсім відаць – беларуская, не ведае, што такое кава.

– Выдатна яна ведае, прыдурваецца, – з горыччу сказаў Іван.

Ён сядзеў змрочны, пакаштаваў каву, але яна яшчэ была гарачая.

– Ведаеш, – хмура сказаў Іван, – па-мойму, цяпер не пісаць – тое самае, што ў вайну без бою здавацца ў палон. Трэба адстрэльвацца да апошняй кулі.

– Апошнюю пакінуць сабе? – не без скепсісу сказаў Міхась.

– Можа, і так...

– Кінь, – махнуў рукою Міхась. – Начыталіся мы і напісаліся пра самаахвярнасць, гераізм. І ў цябе такога хапала.

– Хапала, – прызнаўся Іван. – Быў час, быў век, была эпоха, як пісалася ў "Лысай гары".

Цяпер Міхась прыгубіў каву, яна ўсё яшчэ была гарачая.

– Паэма харошая, кепска толькі, што хлопцы пасварыліся.

– Славу не падзялілі...

– А што ты думаеш, слава не кілбаса, на кавалачкі не парэжаш.

– І ўсё-ткі трэба пісаць, – гнуў сваё Іван.

– А дзе друкавацца? Я ўсё жыццё друкаваўся ў "Полымі", нейкі час нават працаваў там, а цяпер мне адтуль далі, як гэта кажуць, ад варот паварот. Рэдактар сказаў – "Хто сябруе з "Народнаю Воляй", у "Полымя" твораў не носіць".

– То пішы ў стол, – не здаваўся Іван.

– Напішаш у стол, а яно трапіць пад стол, у кошык для смецця.

– А можа, нехта некалі выцягне адтуль ды надрукуе?

– Ты вялікі аптыміст, Іван, а сам хоць пішаш?

Іван адпіў глыток кавы.

– Не так даўно ў адной крыху ліберальнай газеце надрукаваў пяць вершаў. Днямі прыслалі ганарар – сто тысяч. Дасюль нашу ў кішэні, каб адчуваць сябе багатым.

– Некалі ў Расіі казалі, – вяртаўся да свайго Міхась, – што ў іх два цары – Мікалай другі і Леў Талстой. І Мікалай другі не можа перамагчы Талстога. Вось як высока ставілі ў Расіі пісьменніка, параўноўвалі з царом. А ў нас? Твораць здзек з нашага брата. Хутка жабраваць пачнём. Вуліцы Быкава дасюль у Мінску няма, а вуліца Іллі Гурскага ёсць. А хіба Гурскі быў пісьменнік? Калі яму трэба было напісаць у сваёй аповесці пра якуюнебудзь птушку, то ён адгортваў энцыклапедыю і спісваў адтуль, што пра тую птушку гаварылася – дзе селіцца, колькі яек адкладае.

Кава ўжо крыху астыла, і яны пілі па глыточку, прыкусваючы тым расцягаем.

– Можа, дасць Бог, нешта пераменіцца, – дапіўшы сваю каву, сказаў Міхась.

– Дасць Бог... Ты, можа, і ў Бога ўжо паверыў, цяпер жа такі рэлігійны бум?

– Так, браток Іван, брыдка глядзець, як учарашнія ваяўнічыя атэісты сёння абразы цалуюць, хрысціцца і абдымаюцца з папамі. Я не веру ні ў Бога, ні ў чорта, ні ўраду, ні сябрам.

– Сябрам трэба верыць, – запярэчыў Іван.

– Сябры могуць такой подласці нарабіць, ніякі вораг не дадумаецца.

– Што праўда, то праўда, – пагадзіўся Іван, ён выпіў ужо сваю каву, з'еў расцягай.

Сядзелі моўчкі.

Яны былі, вядома, аднадумцы, хоць тут крыху і паспрачаліся. Абодва былі нібы выключаны з жыцця, у цяперашняй сітуацыі не хацелася пісаць, адбілі ахвоту, а крывіць душою, пісаць не пра тое, што думаеш – не хацелася.

Пара было разыходзіцца, але разыходзіцца зноў не хацелася, калі яшчэ сустрэнуцца, шчыра пагаворань, бо цяпер, як агледзішся, то шчыра і пагаварыць няма з кім.

На каленях у Івана ляжала торбачка, напаміналa пра жончына даручэнне. Мусіць, ужо злуецца там, што доўга яго няма, а ён жа яшчэ і да Камароўкі не дабраўся. Трэба было разыходзіцца.

Іван паклікаў дзяўчыну, палез у кішэню, дастаў кашалёк. Міхась таксама дастаў грошы.

– Кінь, – спыніў яго Іван. – Я заплачу, я ж атрымаў ганарар. Цэлых сто тысяч. Можа, хопіць заплаціць за каву.

– А можа і не хопіць, – засумняваўся Міхась.

– Ну, калі не хопіць, то дадасі.

Але грошай хапіла, нават засталося тысяч дзесяць.

Яны разлічыліся, выйшлі на вуліцу, і тут шумную, з грукатам машын.

– Табе ў які бок? – спытаў Міхась.

– Мне да аўтобуса.

– А я пяшэчкам, мне тут недалёка.

– Ну, то бывай, калі яшчэ пабачымся. А бараду згалі, зусім дзедам выглядаеш.

– А, што там барада, – махнуў рукою Міхась.

Яны разышліся, пайшлі кожны ў свой бок.

Прыпынак аўтобуса быў недалёка, і Іван скора дайшоў да яго, спыніўся ў купцы людзей, што чакалі свайго маршрута.

Аўтобус падышоў даволі хутка, і Іван улез у шчыльна набіты салон. Увайшоў і здзівіўся, бо адразу пачуў даволі малады голас, які чытаў верш на беларускай мове.

Над белым воблакам
Пад сінім небам
Душа мая лунае,
І ў таго воблака, у таго неба,
Як жыць мне на зямлі, пытае...

Аўтобус крануўся, загрукацеў, Іван далей не чуў верша, ён глянуў туды, адкуль гучаў голас.

Пасярод натоўпу, што ехаў у аўтобусе, стаяла дзяўчына, у берэціку на светлых валасах, у белай вышыванай блузцы, з сумкаю цераз плячо і чытала вершы – адзін за адным. Іван не чуў, што яна чытала, даляталі толькі некаторыя словы, радкі.

Дзяўчына скончыла чытаць і загаварыла да пасажыраў:

– Гэта мае вершы, яны надрукаваныя вось у гэтай кніжачцы, – яна падняла ўгору зборнічак у шэрай папяровай вокладцы, маленькі, падобны на брашурку. – Можа, хто захоча купіць?

– А колькі каштуе? – пачуўся голас з задняй пляцоўкі.

– П-пяць тысяч, – заікнулася дзяўчына.

– Ого! – сказаў той самы голас.

Іван убачыў, што ніхто з пасажыраў не палез у кішэню, не выняў кашалёк і не купіў той зборнічак.

Дзяўчына схавала сваю кніжачку ў сумку і пачала прабірацца да выхаду. Людзей у аўтобусе было шмат, і неяк так атрымалася, што дзяўчына затрымалася побач з Іванам.

Ён адчуваў да яе і спагаду, і спачуванне, і нават нейкую павагу. Трэба ж, не пасаромелася чытаць вершы перад людзьмі, якія да паэзіі былі, мабыць, больш чым раўнадушныя.

Іван спытаў у яе:

– Дзе выдалі вы свой зборнічак?

Дзяўчына глянула на яго з апаскаю – можа, хоча пасмяяцца з яе? Але перад ёю стаяў пажылы чалавек і, здаецца, не збіраўся насміхацца. І яна адказала даверліва:

– У выдавецтве “Мастацкая літаратура”, мне выплацілі ганарар маімі кніжкамі, далі пятнаццаць экзэмпляраў, сказалі, каб сама прадавала.

У Івана запякло ў грудзях. Дзе, калі такое было, каб так прыніжалі аўтара.

– Я куплю ў вас кніжачку, – сказаў Іван.

Дзяўчына зноў недаверліва глянула на яго, але па ўсім было відаць, што чалавек гаворыць сур’ёзна. І ўсё ж перапытала:

– Праўда?

– Праўда, праўда, – заківаў галавою Іван.

Вочы дзяўчыны засвяціліся сарамлівай радасцю.

– Але ведаеце, мне зараз трэба выходзіць, давайце выйдзем разам.

Яны праціснуліся да выхаду, выскачылі з аўтобуса, і той паехаў далей.

Іван палез у кішэню, дастаў пяць тысяч, падаў дзяўчыне. Тая выняла з сумачкі сваю кніжку. Калі яна вымала, Іван убачыў, што ў той сумачцы, шчыльна адзін да аднаго, ляжала яшчэ шмат экземпляраў.

– Дзякуй вам, – сказала яна.

– Гэта вам дзякуй, што пішаце вершы і не саромеецеся прадаваць. Трэба пісаць, нягледзячы ні на што, ратаваць, ратаваць...

Ён не сказаў, каго і што ратаваць, як ратаваць, бо сам не ведаў. Можа, гэта дзяўчына здагадаецца, што і як трэба ратаваць, каб не знікла нашая краіна і нашае самабытнае мастацтва.

Але жыццё не спынялася, і трэба было есці, жыць. Камароўка была ўжо побач, і Іван, паціснуўшы на развітанне руку дзяўчыне, пайшоў у шумлівы бок рынка.

Дзяўчына засталася на прыпынку – чакала наступнага аўтобуса ці тралейбуса, каб і там пачытаць вершы і, можа, прадаць яшчэ адну кніжачку.

Антон Рудак



...было толькі тое
што ў выніку снамі зрабілася...

# Музыка ў паветры

### ЗОРКА

самалётамі неба распоратае
як іголкамі
дзіркі свецяцца
людзі іх называюць зоркамі
латку – месяцам

там мядзведзіцы белыя
умкі
лапкай нос прыкрываюць употай
вецер сыпле згары падарункі
аэрапортам

і лятуць угару феерверкі
і грукочуць салюты
ўночы
зорка долу без парашута
раптам скочыць

а калі я яе пабачу
і жаданае ўрэшце спраўдзіцца
падзялюся з табой
дзіцячай
лепшай радасцю

### ВЕРХНІ ГОРАД

вер – мы сустрэнемся ў горадзе
дзе ліхтары адбіваюцца ў хмарах
мы сядзем на воблаку і пагаворым
бязлюдныя вуліцы ўкрые туманам
мы будзем прыпальваць проста ад зорак
а нашыя словы падхопіць вецер
і панясе іх urbi et orbi
распавядзе ўнукам і дзецям.

зваротны адлік
тры, два, адзін
дзесьці ўгары
ўдарыць гадзіннік
забомкае
валяцца знічкі ўніз
вярніся ў дзяцінства
мяне з сабою
вазмі
і мы застанемся ўдвох
змоўкні, я сам усё добра помню
кожнае слова: ацiхлы двор
музычнае школы на плошчы свабоды

старыя сябры маладыя зноўку
і зажылі пухіры на далонях
маці крык далятае з вокнаў
чуеш: воўка, пара дадому!
вецер паўторыць urbi et orbi
чэрці, анёлы ці простыя людзі
спі спакойна, мой верхні горад
веру – усе там будзем.

### АЎТАПІЛОТ

скочыўшы без парашута праз адчыненыя дзверы
я лячу скрозь стратасферу пералічваючы страты
я ў нішто даўно не веру не люблю не спадзяюся
я ўсяго зрабіў багата акрамя таго што мусіў
толькі сам і вінаваты

хто не хоча скочыць долу са сваіх шматпавярховак
я лаўлю ўсіх вас на слове не паліце і не спіце
не вучыце новых моваў не пішыце на санскрыце
на іўрыце і трансліце пагатоў адначасова
укантакце і у твітэр

уніз наперад галавою я збягаю па спіралі
балансуючы на краі танчу вычварныя танцы
дзе б мяне вы ні шукалі я знаходжуся на зломе
лепей нават не шукайце гэты свет мяне не зловіць
зрэшты ён і не збіраўся

пад крылом палае горад бомбы крыюць наваколле
таюць словы застаюцца толькі шкло бетон і камень
гэта ўсё роўнабакова мне пляваць што будзе потым
і дрыжачымі рукамі я запісваю размову
са сваім аўтапілотам

## *ПРАДЧУВАННЕ*

гэта можа здарыцца ў кожны момант
рана ці позна а ўсё адно
у кожнай барбары свая бона
якая напоіць яе віном
сядзім у бары і сонны горад
паволі сплывае на дно

вуліцы вымерлі сёння цёмныя
ў шчыліны вільня вылазіць вонкі
зорка палын залівае двары
водарам тонкім

прэч ад ракі дзе вядзьмаркі-дальтонікі
у фіялетавы неба колер
скокаюць з берага
але яно і само патоне

імёны мастоў безнадзейна забытыя
і заблукалыя сны з залюстроўя
ціха і стомлена перапытваюць
дзе з іх каторы

раней ці пазней усё так і адбудзецца
дарма што тэрмін пакуль невядомы
мы з табою яшчэ паваюем
за кожную вуліцу
гаморы й садому

## ПЕРАДКАЛЯДНАЯ

касцёл
гатычны аловак званіцы ў альковічах
цуд між палёў падарунак дасланы з космасу
ловіць сігналы з нізкага неба над вёскай
сувязь з нябёсамі лепшая тут за сотавую
меншыя кошты

мяжа
паміж светамі прывідная і даўняя
зямля абяцаная скарбы і кантрабанда
бетонныя доты слупы драты і шлагбаўмы
крыжы прыдарожныя з выцвілымі абразамі
як паказальнікі

бель
накрывае адчаем чорныя коміны
нават сабакі памоўклі ўсё спакойна
найбольшы узровень маўчання прыпаў на могілкі
супаўшы з адсоткам шчасця нібы выпадкова
замкнулася кола

К+М+Б+

каляды
мая беларусь непрыстойна заходняя
у вокнах палаюць агні бяз шуму і галасу
ладны вяпрук падыходзіць да скону годна
ён ведае правілы і не шкадуе ані
што ўсё гэтак склалася

## ХРОНІКА ПАДЗЕЯЎ

Увечары места схавалася ў снезе па вокны,
зрэнкі ялінак зялёныя мройліва звузіла,
цёпла задыхала дымам дрыготкім праз коміны,
сцяўшы пад коўдраю доўгія пальцы вуліцаў.

Уночы сталіца поўніцца рознай набрыддзю –
нават не трэба перапісу насельніцтва.
Дзесьці у хостэле, стомленая ад радасці,
Дзева Марыя люляе малога Езуса.

Уранку усе праспяць, акрамя маршрутчыкаў
і машыністаў аўтазаводскай лініі,
і пралятуць анёлы, усцяж фарбуючы
шэрыя сцены ў колеры бела-сінія.

Удзень, спахапіўшыся, горад патоне ў апокрыфах –
кожны сцвярджацьме, як быццам стаяў пры калысцы,
што, калі веры даць тром вандроўным астролагам,
у немаўляці будзе цяжкое дзяцінства.

І толькі, толькі
Божая Маці, развёўшы далоні пад покрывам,
рукі узняўшы над дахамі, стане маліцца.

## УЦЁКІ Ў ЕГІПЕТ

Колькі тае зімы – насамрэч невядома нікому
з прысутных тут,
празрысты сум недарэчных зім яшчэ не паспеў
нам усім надакучыць:
аблокі раскрыюцца над галавою раптоўна,
нібы запасны парашут
і будуць хіліць цябе ў сон хоць да скону дзён –
ці, прынамсі, да кучак.

У сне, бы ў заснежаным лесе, ты зможаш найлепей
угледзець усе сляды,
нябачныя воку дагэтуль, няхай бы яны і цягнуліся
за кіламетр,
і вымерлы горад ізноў адзавецца спалоханым рэхам
тваёй хады –
спустошаны назаўжды, як ён жыў далей,
калі б ты не прыехаў.

А ў нашай гісторыі будзе ўсё тое самае,
што і належыць спакон,
класіка жанру: пячоры, анёлы і пастухі,
чараўнікі, немаўляты,
вежы царквы і касцёла, каханы горад,
стомлены гарнізон,
сонная варта, зорны абшар, Каляды.

Не азіраючыся на вокны, ты будзеш спакойны
і ўсё шпарчэй
пакрочыш замеценай вуліцай з крыжам, што ўрэшце
зваліўся табе на плечы,
і толькі абменены на самагонку люгер
адцягне тваю кішэнь,
толькі завея і золкая вечнасць
адцягнуць вашу сустрэчу.

## СОН МІЛАША

па-над горадам зачараваным, нібыта у сне
прамінаюць князі, імператары ды базілеўсы
пад нагамі няўрымсліва вілія ў невараць мкне
я стаю на руінах няспраўджанага каралеўства

у спрадвечных мурах ні царква,
ні касьцёл, ні турма
ні патоп, ні вайна, ні рэпрэсіі, ні рэвалюцыя
і нарэшце ніякага сцягу на вежы няма
толькі конікі на паплавах каля рэчкі пасуцца

вастрабрамская маці не хіліць чала у журбе
прыціскаючы соннае места да сэрца далонямі
ўсе дарогі на свеце нязменна вядуць да цябе
над табою кружляе пчала і грукоча пагоня

спі, маленькая,
болей не прыйдзе жалезны ваўчок
калыханку табе я спяю, засынай у спакоі
я шапчу і міжволі прыслухваюся: па начох
хтосьці зноўку айчыну сваю называе літвою

## МУЗЫКА Ў ПАВЕТРЫ

з вечаровых сеансаў паддатыя кінамеханікі
прыходзяць дахаты адначасова з каровамі
трамваі ўначы звіняць на аціхлых ускраінах
дзе глебу раз-пораз
разорваюць шматпавярховікі

час забірае голас змывае колеры
на чорна-белую стужку няўмольна шчоўкае
сябры і ворагі звыкла мяняюцца ролямі
і бамбасховішчы робяцца танцпляцоўкамі

пара надыходзіць збіраць камяні спатыкання
і наўзамен руінаў пакінутых бомбамі
каб не пазбыцца набытых нядаўна навыкаў
героі падполля гурмою супольна з палоннымі

адпаведна з усімі правіламі маскіроўкі
будуюць кардонны горад блытаюць карты
каб вайна калі нават і вернецца ўжо не здолела
пазнаць тыя самыя вуліцы і заблукала

## АЛЬБЕРТ ЭЙНШТЭЙН

Альберт Эйнштэйн, прафесар Белдзяржуніверсітэта,
выходзячы з лабараторыі на падворак каля фантана,
запальвае цыгарэту і заляцаецца да студэнтак.
Дзяўчаты з яго смяюцца: вось чорт кудлаты,
як апантаны.

Альберт ужо размаўляе амаль без акцэнту,
хоць піша канспекты лацінкай.
Нядаўна, між іншым, прасіў прэзідэнта пра пенсію.
Здавалася, што дамовіліся. Аказалася – не зусім:
празь некалькі дзён па тым прэзідэнт застрэліўся.
Вось непрыемнасць.

А ў Мінску тым часам канец неспакойных трыццатых,
у кінатэатрах аншлаг:
Альберт са студэнтамі збег замест лекцый на новую
стужку Чапліна,
і кожны смяецца, як быццам не ведае, што адбываецца
па начах,
як быццам гэта сакрэт за сямю пячаткамі.

І толькі Эйнштэйну насамрэч усё абыякава, ён
усвядоміў даўно:
ці тут, ці ў Берліне загінуць – хоць шанец адзіны на сто –
а ніколі не позна.
А хтосьці абавязкова ўспомніць, а як і не ўспомніць –
усё адно.
Сур’ёзна, якая розніца. Усё адно.
Бо ўсё адносна.

## ЖНІВЕНЬ

гэты дом існуе пакуль я яго бачу наяве
а калі засынаю насамрэч знікае ў цемры
за вакном расплываецца горад і ўжо іначай
па кватэры становіцца мэбля

дываны абляцелі са сценаў
пасля шпалеры
апошняй тынкоўка
касякі а за імі дзверы
катастрофа
цяпер я не помню які я быў ростам
год скажам у восем

забыццё
нязведанасць

смерць
верасень
восень

але ненадоўга

неўзабаве і я супакоюся змоўкну
дажджамі халоднымі змокну
чуеш голас з маленства
мамін ці толькі здаецца
казка пра белага зайчыка
без капусты і пэўнага месца
дзе б прыстаць на зімоўку
а ў лесе цяпер небясьпечна
раней ці пазней сустрэнешся з воўкам

цьху ты глупства
выкінь дурное
на гэтай пустцы
год дзесяць таму збудавалі дом
зайчыку цёпла
бо ён даўно ўжо мёртвы
а мы жывём

было толькі тое
што ў выніку снамі зрабілася
пасткамі па завуголлях заўчаснай памяці
глянь у вакно
мы з табою зусім не выраслі
дрэвы ўсё тыя ж
не помню як называюцца

Зміцер Дзядзенка



...веды, назбіраныя стагоддзямі,
у спалучэнні з найноўшымі тэхналогіямі
даюць ашаламляльны эфект...

# Чыстка кармы

*Два апавяданні*

## Яйкі птушкі Рух

Слаўка Мангол нахіліў галаву і паглядзеў на чалавека, які ляжаў перад ім на цэментовай падлозе. Упарты, сука! Зрэшты, Мангол ведаў, што "халяўных" грошай не бывае і ўсе іх трэба адпрацоўваць.

Голая лямпачка пад невысокай столлю хіснулася ўбакі, і ў жаўтлявым няроўным святле ў істэрычным танцы замітусіліся святло і цені. Мангол пабачыў, што ў збітага ім на горкі яблык чалавека заварушыліся раскрываўленыя вусны. Ён штосьці шаптаў, звяртаючыся ці то да свайго ката, ці то да невядомага анёла-ахоўніка. Рукі збітага бяссільна драпалі падлогу. Але цэмент не прашкрабеш!

Мангол не збіраўся забіваць сваю ўпартую ахвяру. Яму далі заданне "раскалоць", прымусіць загаварыць. Гэта значыць, збіваць трэба было так, каб настрашыць больш, чым нанесці непапраўнае шкоды.

І тут Манголу прыйшла ў галаву думка. Ён пасадзіў чалавека, паклаў яго руку на стол і ўзяў малаток. Мангол загаварыў павольна, каб да збітага дайшоў сэнс словаў. Ён жа, здаецца, скульптар? Значыць, рукі яму патрэбныя для працы. Ён, Мангол, забіваць скульптара не будзе — ён зробіць так, каб той усё жыццё шкадаваў пра сваё неабдуманае рашэнне. Ну што, усё ясна? Будзем далей гуляцца ў маўчанку ці скажам урэшце, дзе ляжаць тыя яйкі?

Чалавек паглядзеў на Мангола і раптам... Раптам ён засмяяўся! Глядзець на тое, як смех вырываецца бурбалкамі з крывавых чырвона-чорных вуснаў, было непрыемна. Мангол загадаў, каб той сціх.

Смех абарваўся на высокай ноце:

— Дык значыць, яны табе нічога не сказалі? Не патлумачылі?.. Ну, яны, тыя, хто замовіў мяне... Я раскажу, але гэта доўга. Можна вады?

Спярша чалавек гаварыў перарывіста, з доўгімі паўзамі. Потым яны сталі крыху карацейшымі.

***

Я не скульптар, я мастацтвазнаўца. Дакладней, займаюся гісторыяй мастацтва. У тым сэнсе, што я хутчэй архіўны чарвяк. Мой занятак — не стварэнне карцінаў і скульптураў, а словы і вобразы, якія нанізваюцца на гэтую рукатворную аснову. Калі параўнаць мастака з чарупінай, якая дорыць нам перліну, то я — дыядэма, у якую гэтая перліна ўстаўляецца. Разумею, нясціпла, але...

У маёй працы, падрабязнасцяў якой я зараз расказваць не буду, каб не нагаворваць лішняга... дык вось у маёй працы ёсць свая спецыфіка — я працую са старымі дакументамі. Не часоў вайны — старэйшымі. І не царскімі — маім дакументам па 300-400 гадоў. Я ж кажу — архіўны чарвяк, спажывальнік зжаўцелых шаматкіх паперак... Так-так, не пераключаюся.

Неяк, корпаючыся ў гэтых старых дакументах і разбіраючы мудрагелістыя завітушкі старадаўняга пісара, я сустрэў нечаканы запіс. Ён апісваў падарункі, якія павезла з сабой вялікакняскае пасольства да двара французскага караля. У тым пераліку былі футры медзвядзёвыя, мёд гарнцамі, а таксама ўсялякія цікавосткі — напрыклад, бурштынавы бранзалет, на якім былі выразаныя карціны з гісторыі Францыі. У ліку тых цікавостак згадваюцца “яйкі птушкі Рух – пара”.

Калі я пабачыў гэта, дык не даў веры сваім вачам. Яйкі птушкі Рух — гэта ж нешта казачнае! Гэта Сіндбад-мараплаўца і “Казкі тысяча і адной ночы”. Як? Як у нашыя шыроты маглі трапіць яйкі птушкі Рух? І ці тая самая гэта птушка, пра якую мы чыталі ў дзіцячых казках? А можа, гэта проста нядбайнасць перапісчыка? Хто гэта зараз разбярэ праз 400 гадоў...

Але з таго часу “яйкі птушкі Рух” не давалі мне спакою — я стаў шукаць згадкі пра іх у апісаннях іншых пасольстваў. Я гартаў таўшчэзныя тамы і чыхаў ад векавога пылу. Пад маімі пальцамі праплывалі чужыя лёсы, чые гаспадары даўно ўжо спрахлі ў сваіх магілах. Яны звярталіся да мяне з нябыту, ажываючы на тыя кароткія імгненні, калі я чытаў іх словы, занатаваныя спрытным судовым пісарам. І той шляхціч Гізыцкі, які скардзіўся, што на яго жыццё двойчы рабілі замах хцівыя суседзі ды паказваў судовым чынам сляды ад куляў у сценах свайго дома. І той мешчанін Капыцька, які даносіў на свайго суседа, што той яшчэ 10 гадоў

таму, калі быў пажар у Траецкім манастыры, скраў пры тым пажары з царквы пацір срэбраны... Вось чаму ён 10 гадоў маўчаў?!

Але я мала зважаў на гэтыя гісторыі — я шукаў згадкі пра яйкі птушкі Рух. Пару разоў я пабачыў іх зноў — і зноў у пераліку падарункаў. На гэты раз атрымальнікамі запаветных яек мусілі стаць Папа Рымскі Урбан VIII ды імператар Святарнай Рымскай імперыі. У пасольстве да Папы іх была зноў жа пара, а імператару дасталося адно. Але і гэтым адным яйкам, паведамлялі Вялікаму князю паслы, імператар застаўся дужа задаволены.

Выглядала на тое, што яйкі птушкі Рух былі асаблівым дарункам, які давалі нават не ў кожнае пасольства. Але гэтае разуменне не праясняла для мяне таямніцы гэтых яек — ані іхнага паходжання, ані мэтаў, з якімі іх вазілі ў далёкія краіны.

Не, вядома ж, я разумеў, што яйкі маглі быць проста дзівацкімі штучкамі, якімі проста ўсцешваліся тагачасныя людзі. З гэткай самай дзіцячай непасрэднасцю збіраў пазней разнастайныя выродствы ў сваю кунст-камеру расійскі імператар Пётр Вялікі. Гэта яшчэ і ў XIX стагоддзі не было чымсьці незвычайным: людзі стаялі бліжэй да прыроды, таму ўсялякія выродствы і дзівацтвы лічылі цікавымі для сузірання. Адступленне ад нормы было нечым незвычайным, а не альтэрнатыўным развіццём, як прынята казаць цяпер...

Ой, пардон! Я зноў збіўся... Вяртаемся да яек, якія так зацікавілі некалі мяне, а цяпер настолькі цікавяць маіх невядомых пераследнікаў, што яны нават не паленаваліся наняць выбівалу звестак з маёй галавы.

Адкрыццё напаткала мяне нечакана, як тая табліца, якую прысніў нецвярозы расейскі хімік. Як зараз памятаю, я праглядаў альбом “Замкі Францыі”. Погляд з вышыні птушынага палёту — стваральнікі ніколі не бачылі гэтыя замкі такімі! Побач — фотаздымкі асобных пакояў, асобных элементаў дэкору: нізкія столі пакояў суседзілі на старонках з высознымі сценамі парадных залаў, статуі рыцараў (неад’емны атрыбут калідораў у такіх замках!) перамяжаліся габеленамі, чые фарбы былі ці не старэйшымі за тых самых рыцараў, партрэты ўладальнікаў чаргаваліся з барэльефнымі сцэнамі палявання ці бітвы... І нечакана я пабачыў выяву барэльефа, ад якога ў мяне проста заняло дыханне.

Гэта быў вядомы антычны сюжэт на тэму спароўвання Леды і Зеўса, які прыняў аблічча лебедзя. Сюжэт, вядома, не для дзяцей, што называецца, але старажытныя эліны непрыстойнасцяў у такіх адносінах не бачылі — яны ўсё ўспрымалі як абсалютна нармалёвую, прыродную з’яву. Гэтак жа сама прырода выяўляецца сама па сабе, па-за межамі нашага этычнага ўспрымання ў фільме “Легенда пра Нараяму” — бачылі?..

Так-так, я не адхіляюся, я працягваю. Барэльеф, пабачаны мной, належаў, вядома ж, ужо не антычнасці, а Рэнесансу — тады творцы толькі вярталіся да адкрыцця прыгажосці чалавечага цела!.. На барэльефе было некалькі сцэнаў. Там было спароўванне Леды і Лебедзя, потым было яйка, якое з’явілася ў выніку гэтага саюзу, а фінальная сцэна паказвала нараджэнне з яйка Алены Прыўкраснай — той самай, якая стала прычынай Траянскай вайны. І мармуровая статуя Алены вянчала фінал гэтага барэльефа — яна нібыта нараджалася не толькі з яйка, але і з папярэдняга барэльефа! Гэта была задума неверагодна прыгожая, дый увасабленне не горшае.

Але яйка! Яно найперш прывабіла маю ўвагу. Я даведаўся, што імя скульптара невядомае, а мясцовая легенда кажа, што скульптара, які стварыў гэтую прыгажосць, і не было зусім. Паводле легенды, мясцовы барон прывёз з крыжовага паходу з далёкіх усходніх земляў не толькі золата, але і яйка птушкі Рух! І з дапамогай свайго прыдворнага алхіміка ён стварыў з гэтага яйка скульптуру Алены Прыўкраснай. Легенда нахвальвала здольнасці алхіміка, які здолеў вывесці з яйка такі цуд і проціпастаўляла яго няздарам, якія з яек птушкі Рух панастваралі толькі гаргуліяў ды іншых пачвараў, якіх можна бачыць не толькі на Саборы Парыжскай Божай Маці, але і на мностве іншых сабораў ды замкаў.

Маё ўзрушэнне было настолькі моцным, што я проста не мог уседзець на месцы — я пайшоў бадзяцца па горадзе. Перада мной адкрыўся цуд! Я, фактычна, быў у нечым уладальнікам легенды, і адзін я ва ўсім свеце ведаў, што легенда існавала насамрэч. А магчыма... Магчыма, яна існуе і дагэтуль!

Толькі позна ўвечары, вяртаючыся дадому, я заўважыў, што ў той зусім не спакотны кастрычніцкі дзень я сышоў з дому ў пінжаку і хатніх тапачках. Падазраю, што сустрэчныя на мяне касавурыліся, але, прынамсі, нікога з знаёмых я не напаткаў.

Цяпер мяне больш не цікавіла, у якія краіны пасольствы вывозілі яйкі птушкі Рух. Іншае сталася маёй ідэяй фікс — цяпер мне карцела знайсці самое яйка. Як апантаны, я перагортваў старонкі манускрыптаў і тоўстыя старонкі судовых кніг — у гэтым папяровым моры я шукаў сваю перліну, адгадку сваёй таямніцы. Адкуль браліся яйкі таямнічай птушкі? Калі іх вывозілі раз-пораз, значыць, аднекуль іх бралі! Адкуль? Ці жылі ў нас птушкі Рух? Альбо недзе захавалася цэлае радовішча тых яек? Калі яны захаваліся з нейкіх дагістарычных часінаў, то, магчыма, гэтым і тлумачыцца тая акалічнасць, што з яек з'яўляліся каменныя статуі? Безліч пытанняў апанавала мной, і я не мог даць рады з адказамі на іх.

***

Мангол моўчкі слухаў, зрэдзьчас згодна ківаючы. Інструкцыі, дадзеныя яму, былі дакладныя. Калі ахвяра захоча гаварыць — хай гаворыць: усё сказанае ім запісваецца на ўключаны магнітафон. Пакуль ахвяра гаворыць, Мангол не павінен замінаць...

***

Чытанне старадаўніх манускрыптаў захапіла мяне. Цяпер я чытаў уперамешку: мемуары магнатаў ішлі следам за судовымі справамі, алхімічныя зборнікі ляжалі ў адным стосе з кнігамі па вядзенні гаспадаркі, трактаты па мастацтве ў маіх руках змяняліся трактатамі для паляўнічых. Для мяне адкрываўся нечуваны сусвет! Я нават не ўяўляў, колькі астролагаў і алхімікаў жылі ў нашым краі. У іхніх кампендыумах і грымуарах я раз-пораз сустракаў згадку пра яйка птушкі Рух: разам з ім абавязкова згадвалася саламандра — сімвал агню. У кнігах па гаспадарцы таямнічае яйка згадвалася толькі мімаходзь: маўляў, яно можа стаць цудоўнай аздобай шляхецкага палацыка альбо сядзібы — і больш ані слова!

Самымі багатымі на згадкі апынуліся, вядома ж, мемуары і судовыя кнігі. Не скажу, каб гэтыя дакументы нагадвалі даведнік па птушка-

гадоўлі, але, прынамсі, патрэбныя мне згадкі там можна было знайсці даволі часта. Якія гісторыі траплялі мне ў рукі! Напрыклад, Багуслаў Радзівіл ахвяраваў віленскім езуітам залаты каўчэжац італійскай работы і яйка птушкі Рух. Князі Друцкія-Любецкія судзіліся з магнацкім родам Стэткевічаў за валоданне яйкам птушкі Рух і лесам каля Баркалабава, прычым яйка ацэньвалася даражэй за лес. У скарзе каралю і Вялікаму князю амсціслаўскі шляхціч Мядзвецкі скардзіўся на свайго суседа Сапешку, што той Сапешка гвалтоўным чынам на яго маёнтак учыніў наезд і пабраў майна каштоўнага багата. А між таго майна было яйка птушкі Рух, што перадавалася як родавая каштоўнасць ужо цягам некалькіх каленаў ад часоў Жыгімонта Старога, калі продак Мядзвецкага Юры тое каштоўнае яйка прывёз як паходную здабычу...

Я дзякаваў Богу за тое, што беларуская шляхта так любіла судзіцца! Інакш бы мне ніколі не даведацца пра чарнакніжніка Бальтазара Буцкага, які жыў пры двары Агінскіх у пачатку XVIII стагоддзя. Яго звінавацілі ў чорнай магіі ды зласлоўі на Духа Святога — дастаткова грэх, каб апынуцца на вогнішчы. На судзе збянтэжаны алхімік тлумачыў, што шукаў філасофскі камень, каб ператвараць металы ў золата, і нічога агіднага Богу ў тым няма. Ён казаў, што д'ябла не ўшаноўваў, а тая істота, якую напалоханыя шляхецкія служкі бачылі ў яго, называецца саламандра, яна жыве ў агні. Менавіта яе ён, званы Бальтазар Буцкі, кідаў у агонь дзеля сваіх алхімічных пошукаў. І менавіта дзякуючы ёй з'явіліся тыя мармуровыя статуі, што аздабляюць палац ягамосцяў Агінскіх. Бо саламандра дапамагае падтрымліваць цягам некалькіх дзён бесперапынны агонь, нават калі сам алхімік ад стомленасці засне. А апаленыя на бесперапынным агні яйкі птушкі Рух, на якія так багатыя мсціслаўскія ўладанні Агінскіх, урэшце расколваюцца і спараджаюць на свет тыя статуі нечуванай анёльскай прыгажосці. Іншага спосабу атрымаць іх няма, бо расколатыя ўручную, без агню яйкі рассыпаюцца дробным друзам — пра гэта вядома здавён.

І далей казаў Бальтазар Буцкі, што не ўзносіў ён праклёны на імя Духа Святога і не выклікаў д'яблаў, а сам сабе паўтараў услых рэцэпты рэчываў, якія трэба дадаваць у агонь пад яйкам птушкі Рух, пакуль яно награецца. І няма ў тых словах нічога шатанскага: сульфур — гэта сера, меркурыё — азначае іртуць, салетра... Але вымушаны быў замоўкнуць на патрабаванне суда, бо суддзя палічыў гэта за магчымае чарнакніжніцтва.

Адным словам, не ўдалося алхіміку пераканаць суд у сваёй невінаватасці: расплаўлены свінец навек запячатаў горла, якое вывяргала агідныя блюзнерствы...

Затое я з гэтай гісторыі атрымаў амаль цэласную тэхналогію абыходжання з яйкам птушкі Рух.

Прыкладна ў гэты ж час, я адчуў, што за мной сочаць: раз-пораз я бачыў, як мяне зранку ад дома да архіву праводзіць адзін і той самы каржакаваты чалавек у скуранцы, а ўвечары ён жа ідзе за мной назад. Потым я заўважыў, што ў маю адсутнасць кватэру наведалі пабочныя госці: яны нічога не забралі, аднак мае выпіскі, датычныя яек птушкі Рух, былі перагледжаныя і складзеныя крыху не ў тым парадку, як гэта рабіў я. Я памяняў замкі дома, але мала ўстурбаваўся гэтым візітам: красці ў мяне не было чаго, а яйкі птушкі Рух маглі зацікавіць толькі

такога ж фанатыка, у якога я на той момант ператварыўся. Візіцёры — гэта, вядома, непрыемна, але я разумеў, што міліцыя гэтым займацца не будзе: у газетах столькі пішуць пра іхнюю марную барацьбу з арганізаванай злачыннасцю і рэкецірскімі групоўкамі, што марна было б спадзявацца, быццам яны кінуць усё і стануць займацца маёй кватэрай, з якой нічога не знікла.

Потым здарылася штосьці незвычайнае. У адзін з красавіцкіх дзён у сваёй паштовай скрыні я знайшоў часопіс, які зусім не выпісваў. Гэта было нейкае прамыслова-індустрыйнае выданне пра арганізацыю працы, назву якога цяпер ужо і не згадаю. Я падумаў, што паштарка памылкова ўзбагаціла мяне за кошт кагосьці з суседзяў. Але гэтая думка цешыла мяне толькі да таго часу, пакуль я не зазірнуў усярэдзіну часопіса. На старонцы з глыбакадумнай пазнакай “Змест” назва аднаго артыкула была абведзеная чырвоным стрыжнем — “Да гісторыі адной авантуры 1930-х. Прамысловая вытворчасць паркавых скульптураў па саматужніцкіх тэхналогіях”.

Аўтар, чыё імя мне ні пра што не казала, распавядаў пра эксперымент, пастаўлены ў самым канцы 20-х гадоў. Паводле ягоных звестак, тады ў Смаленску спрабавалі наладзіць прамысловую вытворчасць скульптураў даўнімі метадамі. Сыравінай для гэтых паркавых статуяў акурат і былі яйкі птушкі Рух — дакладней, аўтар называў іх яйкамі дагістарычных птушак. У тэксце распавядалася, як нейкі прайдзісвет і махінатар Абрыкосаў угаварыў чыноўнікаў з Наркамату асветы рабіць з гэтых яек статуі, якія мусілі ўпрыгожыць савецкія паркі. Ну, вы ж ведаеце ўвесь гэты бестыяр — розныя там дзяўчаты з вёсламі, піянеры з горнамі і барабанамі, рабочы і сялянка... Для пачатку яму дазволілі адкрыць невялікую майстэрню, і ёй жа ўрэшце ўсё абмежавалася.

Абрыкосаўскія скульптуры, як ён ні стараўся, атрымліваліся не тое, што нягеглымі... Яны былі папросту антысавецкімі, яны былі пародыяй на абвешчаную задуму. Дзяўчына замахвалася вяслом, каб адвесіць свайму візаві добрага кухталя, піянер з горнам стаяў сагнуўшыся, быццам яму балеў жывот, а рабочы і сялянка з дапамогай сімвалаў пралетарскай еднасці відавочна меліся вырашаць сваю сямейную спрэчку. І пры гэтым ва ўсіх быў такі зверскі выскал на твары, што ставіць гэтыя скульптуры ў парках, прызначаных для сямейнага адпачынку, было прызнана немэтазгодным. Невялікія бляклa-шэрыя фотаздымкі на глянцавых старонках часопіса паказвалі, як выглядалі творы майстэрні. Скажу па праўдзе, яны мала чым саступалі кадрам з сучасных фільмаў жахаў.

У пастанове камісіі атрыманыя скульптуры былі названыя яркімі прыкладамі дэгенератыўнага буржуазнага мастацтва, чужога пазітыўнаму светагляду савецкіх людзей. Майстэрню закрылі, усе яе работнікі адправіліся ўзводзіць Беламорска-Балтыйскі канал, сам Абрыкосаў праз год быў расстраляны як трацкісцкі шпіён і брытанскі агент. Альбо трацкісцкі агент і брытанскі шпіён — даслоўна я ўжо не памятаю. Дакументы ж, датычныя дзейнасці майстэрні, надоўга былі засакрэчаныя.

***

Мангол заўважыў, што мова ахвяры становіцца больш павольнай. Чалавек рабіў паўзы, спыняўся, цяжэй дыхаў. Часам здавалася, што словы

спыняюцца ў яго на языку і не хочуць з яго саслізгваць. Ён рабіў над сабой намаганні й выштурхоўваў непаслухмяныя словы...

***

Аўтар артыкула да ідэяў Абрыкосава паставіўся адмоўна: маўляў, цемрашальства нейкае, угрунтаванае на алхіміі. Што праўда, дадаваў ён, гэта ўсё адно не нагода для рэпрэсіяў.

Але мяне больш за ўсё зацікавіла дэталь, якую аўтар падаў між іншага, не надаючы ёй нейкай увагі. У артыкуле раскрывалася метадалогія, якой карыстаўся Абрыкосаў: гэта былі ўсе тыя самыя алхімічныя дзеянні, але наваяўлены творца-Франкенштэйн абышоўся без чытання заклёнаў і кідання ў агонь саламандры — палічыў гэта бабскімі забабонамі. Я адчуваў, што менавіта тут і была ягоная памылка! Ну, вядома, у чытанне заклёнаў я і сам не веру, але саламандра — гэта ж абсалютна матэрыяльны складнік, рукамі памацаць можна.

Я быў так усхваляваны, што не адразу задумаўся, адкуль у маёй паштовай скрыні ўзяўся гэты часопіс і хто яго туды закінуў. Зрэшты, варыянтаў было няшмат: гэта той мой пераследнік у скураной куртцы або нехта з ягоных напарнікаў. Але навошта яны гэта зрабілі? І чаму так сочаць за мной і маімі пошукамі?

Адказу чакаць давялося нядоўга. Праз некалькі дзён у сваёй паштовай скрыні я знайшоў... Не, гэтым разам быў не часопіс, а ліст. Звычайны ліст — адно што, выдрукаваны, а не напісаны ад рукі. Аўтары ліста пісалі, што ведаюць усё пра мае пошукі, што яны зацікаўленыя ў іх поспеху, бо таксама шукаюць яйкі птушкі Рух, і што яны прапануюць мне ўзнагароду. Калі я высветлю, дзе застаюцца паклады гэтых выкапнёвых яек, то мне дадуць энную суму — за знаходку і маўчанне.

Акурат калі я дачытаў гэты ліст і яшчэ трымаў яго ў руках, не ведаючы, што з ім зрабіць, у мяне зазвінеў тэлефон. Незнаёмы густы голас спытаўся, што я думаю наконт іхняй прапановы. За мной сачылі нават дома! У спалоху я кінуў слухаўку і больш у той вечар не падыходзіў да тэлефона.

Наступныя пару дзён я не выходзіў з дому: пакуль было магчыма абысціся без куплянння прадуктаў, я стараўся не паказвацца на вочы маім пераследнікам. За гэты час я ўпарадкаваў свае запісы, і гэта нечакана мне дапамагло: я зразумеў, дзе трэба пачынаць пошукі яек птушкі Рух! Я спаліў свае паперы, каб па маіх слядах не змаглі прайсці гэтыя невядомыя мне людзі. Хто яны — я не ведаў, але ўжо асабліва гэтым і не пераймаўся: калі б намеры іхнія былі чыстымі, мне б не сталі падкідваць ананімныя лісты.

Дзякуй Богу, мне не было патрэбы паліць абсалютна ўсе свае запісы — гэта заняло б занадта багата часу. Я знішчыў толькі ключавыя. Агонь прагна паглынаў аркуш за аркушам, а я ў гэты час адчуў сябе маленькім дзіцем — гэтак жа зачаравана я глядзеў на вогнішча ў дзяцінстве, спрабуючы зразумець душу агню. Я не зразумеў яе і цяпер, затое мне ўдалося спаліць усе масты, якія вялі ад мяне да таямнічых яек.

Як бачыце, я ўсё паспеў. Вашым гаспадарам не ўдалося нічога знайсці, іначай мы не размаўлялі б тут так доўга...

І яшчэ. Ведаеце, я баюся болю. Дакладней, не так: я занадта шмат чытаў пра катаванні нават сярэднявечныя, каб не зразумець, што прак-

тычна для кожнага чалавека можна знайсці балючую кропку і зламаць яго. Я не супергерой, я не зроблены са сталі... Але мне хапіла часу, каб не толькі спаліць паперы, але і з'есці з дзясятак пігулак перад вашым уварваннем. Падзейнічаць адразу яны не маглі, але мы размаўляем ужо дастаткова доўга...

***

Мангол агаломшана глядзеў, як чалавек зваліўся ў курчах на падлогу і пачаў хрыпець у агоніі. Потым ён падскочыў і стаў біць, біць, біць нагамі ў сляпой раз'юшанасці, аж пакуль цела не заціхла пад ягонымі ўдарамі.

## Чыстка кармы найноўшымі тэхналогіямі

Аркадзь Барысавіч стаяў перад пад'ездам бляклa-жоўтага дома. Бронзавая шыльда на доме паведамляла, што будынак перад ягонымі вачыма лічыцца помнікам архітэктуры канца дзевятнаццатага стагоддзя і ахоўваецца дзяржавай. Калі меркаваць па знешнім выглядзе будынка, то насамрэч дзяржаву не вельмі клапаціў стан помніка. Прынамсі, помнікі другой паловы дваццатага стагоддзя, размешчаныя на плошчах, выглядалі значна больш дагледжанымі і ахайнымі.

Мужчына перавёў позірк на шыльду, суседнюю з бронзавай. Яе выгляд больш пасаваў абшарпанаму помніку архітэктуры: на зашмальцаванай паверхні можна было разгледзець паўаблупленыя сузор'і (Аркадзь Барысавіч разабраў Вялікую Мядзведзіцу, якую ў старадаўнасці называлі проста Воз), старажытнаегіпецкі анк, масонскае Вока Бога і нейкія іншыя, ужо зусім выліналыя сімвалы. Пластыкавы простакутнік паведамляў кожнаму цікаўнаму, што сёння помнік архітэктуры займае таварыства з абмежаванай адказнасцю “Эсхаталогія”.

Барысавіч выцягнуў з кішэні выразку з газеты: “ТАА “Эсхаталогія”. Чыстка кармы, рамонт чакраў, спраўджанне жаданняў”. Адрас супадаў.

Дзверы паддаліся лёгка і без чаканага рыпення.

Віслашчокі вахцёр на ўваходзе, не адрываючыся ад дэтэктыва, паказаў сабе за спіну: лесвіца там. Аркадзь Барысавіч мімаходзь зірнуў на вокладку. Мяркуючы па ёй, у кнізе шукалі чарговы зніклы грааль, а трупы налічваліся дзясяткамі.

На лесвіцы наведніка сустрэў малады менеджар. Акуратная блакітная кашуля з кароткімі рукавамі, гальштук у тонкую жоўта-сінюю палоску. “Мабыць, пад кандыцыянерам працуе”, — з зайздрасцю падумаў Аркадзь Барысавіч, адчуваючы мокрую пляму на спіне сваёй кашулі: тэмпература на вуліцы нагадвала тропікі.

— Мяне зваць Анастас, як сталінскага камісара. І я рады вітаць вас у нашай кампаніі! Чым мы маглі б вам дапамагчы? У нас шырокі спектр паслуг! — усмешку менеджара можна было б хоць цяпер ставіць у рэкламу зубной пасты. — Веды, назбіраныя стагоддзямі, у спалучэнні з найноўшымі тэхналогіямі даюць ашаламляльны эфект! Вы атрымаеце адказы на ўсе свае пытанні і застанецеся задаволеныя нашым сервісам!

Наведнік разгублена развёў рукамі і гучна выдыхнуў паветра. Напорыстага Анастаса гэта ні на хвіліну не збянтэжыла:

— Я разумею, вы не першы прыходзіце да нас з такім... ммм... не да канца сфармуляваным пажаданнем. Давайце я вас правяду па нашым офісе, пазнаёмлю з асноўнымі паслугамі, а вы тым часам сфармулюеце свае пажаданні. Згодныя? Вось і цудоўна! Такім чынам. Я стану на нейкі час вашым персанальным вергіліем, які правядзе вас да вашага ж уласнага жадання.

І зноў рэклама зубной пасты...

У першым кабінеце, па словах менеджара, адбывалася праверка лёсу і спраўджанне жаданняў:

— Як вы можаце пераканацца, тут няма ніякіх старадаўніх бабчыных забабонаў! Усё — выключна на снове найноўшых тэхналогіяў!

У памяшканні стаяў з дзясятак кампутараў, але толькі тры з іх былі занятыя. Людзі за кампутарамі засяроджана складалі пасьянсы. Анастас прыціснуў палец да вуснаў: ціха, не замінайце! Выйшаў, і ўжо на калідоры, патлумачыў, што тут наведнікі самі, без пасярэдніка могуць атрымаць адказ ад Найвышэйшага Кону: трэба толькі загадаць жаданне і раскласці пасьянс. Калі ён сыдзецца, то можна разлічваць на спрыянне Вышэйшых Сілаў пры ажыццяўленні свайго жадання.

Наступны пакой, па словах менеджара, займаўся чысткай кармы:

— Тут у нас гуканепранікальныя дзверы, таму на калідоры нічога не чуваць. Вы падрыхтуйцеся, што я адчыню іх — і будзе трошкі гучна.

Пры адчыненых дзвярах Аркадзь Барысавіч падумаў, што менеджар дужа перабольшыў, сказаўшы “трошкі гучна”: віскат стаяў такі, што хоць святых вынось. Каля апарата, які нагадваў бармашыну, стаяў чалавек у белым халаце. Гэты “стаматолаг” арудаваў нейкімі фрэзамі і свярдзёлкамі над пацыентам, які паўляжаў у крэсле пад апаратам. Ніводзін з рычажкоў не дакранаўся чалавека.

Анастас апантана тлумачыў штосьці Аркадзю Барысавічу, актыўна жэстыкулюючы і паказваючы, то на сябе, то на пацыента, то на апарат. І толькі калі дзверы нарэшце зноў адрэзалі іх ад памяшкання з таямнічай “бормашынай”, наведнік пачуў заканчэнне фразы:

— ... пасля чаго чакры становяцца абсалютна чыстымі і непашкоджанымі. Дарэчы, для ўмацавання чакраў пацыентаў мы выкарыстоўваем алмазнае напыленне!

У наступным кабінеце, па словах менеджара, камлаў шаман, размаўляў з духамі продкаў. Аркадзь Барысавіч зазірнуў праз шчыліну ў дзвярах: у пакоі сядзеў з заплюшчанымі вачыма барадаты чалавек у цяльняшцы — ці то спаў, ці то медытаваў. На стале перад ім стаяла неадкаркаваная пляшка “Сталічнай”, бутэлька піва і гранёная шклянка. Аркадзь Барысавіч недаўменна азірнуўся на свайго “персанальнага вергілія”.

Той патлумачыў, што шаманскае камланне — старадаўні рытуал, які практычна не зазнаў пераменаў у наш час:

— Але вы бачыце, што мы ўсё ж не зануды, якія цвёрда трымаюцца кожнай літары старадаўніх правілаў. У старажытнасці шаман піў настой з мухамораў. У наш час яе паспяхова замяняе больш сучасны прадукт — так званы “ёрш”. Ну ведаеце, сумесь піва і гарэлкі... Для таго, каб шаман выправіўся ў падарожжа да духаў продкаў, ён павінен выпіць палову з кожнай пляшкі і абрынуцца ў транс. Другая палова сумесі яму спатрэбіцца дзеля вяртання назад з адказамі, якія дадуць продкі... Увогуле, мухаморы — гэта ўсё ж не наш метад: імі карысталіся больш у Азіі, у Сібіры. А

мы ж еўрапейцы, славяне, — Анастас падабраўся і стаў, здаецца, вышэй ростам. — Як вядома, у нас весяляцца піццём. Ну і, натуральна, адказы таксама шукаюць з дапамогай выпіўкі — in vino veritas...

З-за дзвярэй данёсся манатонны гуд: “А-я-белая-пту-у-ушка, а-я-белая-пту-у-ушка, а-я-белая-пту-у-ушка, а-я-белая-пту-у-ушка...” – Шаман настройваецца на транс, патлумачыў Анастас і прапанаваў ісці далей.

У наступным кабінеце не было нічога незвычайнага — спартанская офісная абстаноўка: стол з кампутарам, крэсла для гаспадара і тры крэслы для наведнікаў, шафа з нейкімі тэчкамі ў куце.

— Ну, вось мы і дайшлі да майго кабінета, — Анастас запрасіў Аркадзя Барасавіча сядаць. — Вы ўжо штосьці выбралі? Ці хацелі б азнаёміцца яшчэ з нашымі эксклюзіўнымі прапановамі? Хаця па вашых вачах бачу, што рашэнне вы прынялі...

— Ведаеце, я з Дзяржкантролю. На вашую фірму прыйшлі скаргі да нас і ў таварыства аховы правоў спажыўцоў — людзі скардзяцца на неатрыманыя паслугі, хаця аплату яны зрабілі своечасова і ў поўным аб’ёме. Вось мы і ладзім такую своеасаблівую “кантрольную закупку”. Я пераканаўся сёння, што ў вас тут махровы падман наведнікаў. Таму я накладаю арышт на вашую фірму, на яе дакументацыю... Па-апрашу не нервавацца!

Аркадзь Барысавіч націснуў кнопку выкліку на мабільніку, які ўвесь час трымаў у руках. Анастас глядзеў на яго сумнымі вачыма:

— Як жа так? Чаму вы не папярэдзілі адразу? У нас была б зусім іншая размова.

Наведнік пераможна пасміхаўся. Менеджар узняў руку і пстрыкнуў пальцамі...

***

Аркадзь Барысавіч стаяў перад пад’ездам бляклa-жоўтага дома. Бронзавая шыльда паведамляла, што будынак перад ягонымі вачыма лічыцца помнікам архітэктуры канца дзевятнаццатага стагоддзя і ахоўваецца дзяржавай.

Мужчына дастаў з кішэні газетную выразку з рэкламай фірмы “Эсхаталогія”, уважліва пачытаў яе і прамармытаў: “Нічога не разумею, адрас не той”...



Юры Гумянюк



...і не думаў,
што будзе
так кепска...

# Парадак словаў

### *СПЯКОТА*

Ты не думаў пра тое, што будзе,
не заўважыў таго, што ўжо ёсць,
рассачыўся ў смарагдавым блудзе,
у злудным кайфе шукаў прыгажосць.

Галасы нагадалі дзе клетка,
у якой сумаваў папугай, –
не суддзя, не падсудны, не сведка...
Інкубатарам стаў родны край!

Тут загінуў апошні філосаф
не ад суму – пад свіст г...нюкоў,
пад краплёўкай, рэнтгенам, наркозам
ды з усмешкай французскай Коко.

Адпачыў на шпітальных прасцінах,
прамінуў той пякельны кашмар,

іерогліфы ззялі на спінах
голых ляляў у летні пажар.

А ўваччу непатрэбныя людзі –
псіхапаты, зладзюгі, бічы...
І было усё тое, што будзе –
не спазнаць, не спыніць, не злічыць!

## *ДВАЙНІК*

Мой сябра, геній парадоксаў,
не спаў, не мроіў уначы,
смактаў павольна папяросы,
жадаў у космас уцячы.

Яго віталі марсіяне
ды ўзнагародзіў прэзідэнт.
Ён шлюбаваўся на паркане,
як самы лепшы суперкент.

І пехатою йшоў па моры
ў гумовых ботах навырост,
нібыта сын Анаксагора,
а можа нават сам Хрыстос.

Прастора ультрафіялету
яго цягнула ў цёмны лес.
Глядзеў у люстра – цень паэта,
мой сябра, геній, чэмергес...

## *КАРАГОД ЧАСУ*

Блукалі, зусім непатрэбныя
нікому, нават сабе.
Гучалі прамовы хвалебныя –
бы вецер у бляшанай трубе.

Вясна віравала шалёная,
і лета паліла вагнём.
Вакол крывасмокі зялёныя
крычалі: “Гарэлкі нальём!”

Вар’яты лятали на скутарах
па траўніку ўдзень і ўначы,
дзядуля пад плотам пакутаваў,
пад крамай бухалі бічы.

І восень сустрэла навінамі
з дзявятага года бадай.
Пантофлі запэцканы глінаю –
балотны і брудны наш край.

Героям было фіялетава:
штогод расквітаў карагод.
Такая ўжо доля паэтава!
Акыш! Забяры яго чорт!

## *PSIA KREW*

Краявід у люстэрку свядомасці,
бы ў талерцы з амлетам, спачыў.
Пагалоскі пра страту маёмасці
праляцелі, як спеў з родных ніў.

Засталіся карэспы ў кампутары
невядомых дагэтуль сяброў.
Ды сляды на дарозе ад скутара
прыхавалі сабачую кроў...

## * * *

*Паводле А. Блока*

Ноч. Вуліца. Ліхтар. Каляды.
І сэрца не грызе туга.
Даверыць таямніцу здрады
Маланка – Вольтава Дуга.

А на шчацэ не вусны Юды
Пакінуць пацалунку жар.
Ноч на Раство, як прадчуванне цуду.
Каляды. Вуліца. Ліхтар.

## *ПАРАДАК СЛОВАЎ*

Пераходжу з мовы на мову
ды на сходах псую пантофлі.
Парушаю парадак словаў.
Выліваю піва з куфля.

Разрывае вантробы смутак.
Сэрца грукае ў тахт самоце.
На спіне пагляд прастытутак,
бы жарынка на згаслым кноце.

Вератрус. Пераслед. Затрыманні.
Сябра зноўку сядзіць у малпоўні.
І ў жалобнай сукенцы пані
заглядае ў вокны, як поўня.

Парушаю парадак словаў,
Быццам пацеркі на ружанцы...
А сатрапы грэбуюць мовай
ды ўшчынаюць д’ябэльскія танцы.

## *НЯЎРОТЫКА*

І не думаў, што будзе так кепска...
Бо, здавалася, усё цалкам добра...
Не ратуе бацькоўская кепка,
А сястра – аднавокая кобра.

Зачыняюцца дзверы пакоя,
У якім нараджаліся вершы.
І каханка твая не з табою
(у жыцці, як у ложку, не першы!)

Адчуваеш сябе, быццам збеглы
Арыштант правінцыйнай вар’ятні.
Як у боўлінгу падаюць кеглі,
Так і свецяцца белыя пяткі.

Думкі сноўдаюць у іншасвеце,
Як стаіш ля зачыненай брамы.
Тварам д’ябла зіхціць у шклопакеце
крэатура вусатага хама.

## *ДЫЛЕМА*

Храналогія. Фота з Інэту,
як паштоўка нібы з забыцця,
не раскрые нам болей сакрэту...
Пазашлюбнае плача дзіця

і не можа, напэўна, спыніцца,
каб згадаць адпаведны сюжэт.
Можа, з’ехаць на тыдзень у Ніцу?
Ці да бляску надраіць паркет?

Мо на сметнік выкінуць рэчы,
што абрыдлі за столькі гадоў?
Рассачыцца ў нябёснай сінечы,
як метафара ў плыні радкоў...

Зміцер Баяровіч



...я знайду сабе
тоўстую кабету...

# З Новым ходам!

***Зацемкі***

**пачатак**

Тата ў дзяцінстве будзіць мяне пацалункам. Праз сон – пра парасон. Пра першы снег. І што трэба цёпла апрануцца, бо золка. На шчацэ козыт ад яго вусоў. У кватэры млосная раніца. Нягучны голас з залы. Я яшчэ роўна-роўна ляжу пад коўдрай, баючыся варухнуцца і незнарок крануць паветра. А ён, пакінуўшы шчыльны слупок святла ў дзвярах, выратавальна ідзе на кухню.

Так вецер перад навальніцай не выварочвае, а толькі прыадкрывае старонкі кнігі на падваконніку, быццам зазірае ў іх.

*16 верасня, 2011*

**яднанне**

Такі дзень, калі вады столькі, што яна аж здаецца цвёрдай. Такі час, што са стрэх праз коміны выпаўзае і нізка-нізка сцелецца пара. Гэткія лужыны, што лопаюцца люстэркі. Такі дождж, што, бывае, хвілінамі проста б'е у грудзі і прабівае дзіркі (і душа макрэе). Такая вільгаць, што нават пустэльняй не выратаваць горад. І колер – адзін. Такая прастора, што робіцца млосна ад аднаго толькі паветра. Настолькі вялікі ціск, быццам пусціў нехта з нацягнутай гумкі гэтыя стрэлы кропляў. І на вуліцы, абклееная шэрымі шпалерамі, – сцяна дажджу.

* * *

Толькі дзяўчына побач са мной на дыбачках, баючыся праліць на асфальт, шчыльна нясе да краёў напоўненую гарачай гарбатай шклянку.

І чамусьці здаецца, што ў гэтым свеце ўжо ніколі не будзе яднання.

*14.10.2011*

**мундштук**

Леанід Мендзелевіч штораніцу едзе на працу. Ён муштруе дзяцей выдуваць ноты: Леанід Мендзелевіч – трубач. Леанід Мендзелевіч кожную раніцу апрануты алоўкава: проста.

У Леаніда Мендзелевіча няма нават рознакаляровага шаліка, які, як правіла, павінен быць у кожнага творчага чалавека. Але гэта не бянтэжыць Леаніда Мендзелевіча – ён крочыць на працу муштраваць дзяцей выдуваць ноты.

Леанід Мендзелевіч мае гонар сёння граць у аркестры: ён раздрукаваў партытуры для ўсіх інструментаў, у тым ліку званочка і падвясных талерак. Дома склеіў раздрукоўкі бандам і падпісаў свой лісток: «1-я труба».

Леанід Мендзелевіч кожную раніцу выходзіць з метро апарань. Ён набывае «Кент» і 0,5 гарбузовага сока. Потым Леанід Мендзелевіч хаваецца ў школе.

Там ён адчыняе свой кабінет, вешае паліто ў шафу (дзверы ліпеюць, скрыгацяць – даўно трэба папрасіць, каб адрамантавалі), дастае трубу з чахла, прыкладвае яе да вуснаў.

І адчувае, што на ёй няма мунштука. Леанід Мендзелевіч сёння забыўся дома на мунштук.

* * *

На калідоры – смех дзяцей, у вокнах – такая непатрэбная вясна. Трубач Лёня доўга-доўга глядзіць перад сабой. І нібы ва ўсім свеце няма таго, хто мог бы яму дапамагчы.

*16.04.2011*

**вальс**

Раніцай пад маім вакном танчыў дворнік. Я цікаваў за віхраом лісця з-пад яго вальсовых падэшваў. Раз-два-тры, раз-два-тры... Калі раптам

яго заўважалі людзі (як дзіця, калі яму страшна ноччу, нязручна адчыняе дзверы ў пакой бацькоў-мілаванцаў), слупянеў. Хвіліну-другую мацюкаўся сам на сябе. А потым працягваў танчыць. І брыдкая вуліца зноў танула ў чысціні яго душы.

## рацыяналізм

Я знайду сабе тоўстую кабету. Я вырашыў. Я буду працягваць пець стансы і пісаць вершы на балконе, а яна будзе гатаваць цудоўныя супы ўвесь дзень на кухні, абціраццa фартухам, глядзець “Дом-2”, наведваць сваіх дзяцей ад трэцяга шлюбу (па яе словах, ён быў так падобны да Гранта) па выходных. Я – смяяцца. Яна будзе класці тры лыжкі цукру ў гарбату, праць мае рэчы, пахнуць малаком і капустай. А я выключна нічога не буду рабіць – толькі пець стансы і пісаць вершы на балконе.

Тоўстай кабеце будуць патрэбны ад мяне сухія абяцанні. І раз на месяц пяціхвілінная зачэпка для пажыццёвага радыкуліту. Тлустая жанчына будзе добрай, як я. Таму мы ніколі не будзем з ёй размаўляць.

Уласна, кабета проста фізічна будзе тоўстая. Гэта не абраза. Я знайду сабе такую, якой не прыйдзе ў галаву крыўдзіцца на гэтае слова. Я ёй нават буду пакідаць грошы на аплату ЖКП, часам абдымаць. Затое мае камоды будуць яе любіць, шафы і нават моль. Яна будзе класці мне парасон у сумку, трымаць язык за зубамі, выносіць смецце і мяне. Я – толькі пець стансы і пісаць вершы на балконе.

І мы будзем жыць разам шчасліва: адзін без аднаго. А любіць я буду цябе.

*25.05.2011*

## to be continued

Даўка-цёплы лістапад і рыжыя ружы. Твае дзве першыя літары імя (астатніх я не памятаю) як мне сляпая кардыната: Ві. Мы ідзем у тэатр – будынак з чырвонай зоркай над дзвярыма. Ідзем з розных бакоў на нейкае высокае мастацтва – з нізкімі намерамі. Прычынная сувязь сустрэчы мацнейшая за нашу з табой. Антрактны вечар, тактоўныя размовы, цікаўныя погляды. Ты – ледзьве ледзі. Амаль мілая, амаль Амалія (не зыходзіць з курсу: Ві). Ты трымаеш сябе ў маіх руках. Ты трымаешся рухава. І кожны вечар я толькі з гэтай прычыны ўспамінаю ўсе звесткі пра цябе, якія ёсць у маёй памяці.

Ты працуеш мантажніцай каторы год. Варта толькі ўскінуць галаву – там ты. На вокнах хмарачосаў, разам з промнямі восеньскага свету і бог ведае як даляцеўшым туды павуціннем казычаш аблокі. І, здавалася б, з вышыні ты павінна бачыць усіх. Здавалася, павінна, як анёл... А ты кахаеш.

* * *

Таму я зноў купляю квіткі на кінапрэм’еру. І для мяне ты, як чарговая няўдалая стужка, што мусіць вось-вось пайсці цітрамі, – працягваешся.

*6.11.2011*

## глупства

Мне 7 гадоў.

Я б'ю мух самаробнай хлапушкай. Дзед зрабіў яе з дрэва. Дзяржальна крыху слепавокае, а гумавы нарэшціц – былы кілімчык, аб які выціралі падэшвы.

Я б'ю мух на двары. На дзвярах сіняга гаража. Дзверы велькія, зачыненыя. Сонца амаль увесь дзень на іх, таму мух тут шмат. Часам яны садзяцца на правады ад разетак (тыя адседжваюцца за пагнутымі цвікамі), на выключальнікі. Але я іх цікую. І бацаю. Мухі, яны ж, так бы мовіць, дурныя. Вірлавокія – так, з крыллем, але што толку? Я выдзіраю іх з гумы хлапушкі, яны ўсе ў крыві. У гэтай няма нагі, у той крыла. Тлустая зменшылася напалову. Я скідваю іх на зямлю. На зямлі іх ужо шмат.

А я б'ю і б'ю – мух на дварэ. Адну за адной. А яны ўсё ляцяць, недарэкі. І я рагачу з іх, мне смешна. Я ганаруся вайной.

* * *

Мне 20. А мухі ўсё ляцяць. Толькі я ўжо пл***а***чу.

## Шалі

Так атрымліваецца, што нашае жыццё пабудавана на процілегласцях:

Каб цябе пачулі – трэба гаварыць шэптам. Ты знаёмішся з чалавекам і чамусьці адразу забываеш яго імя. Тое, што ты аддаеш – вяртаецца. І становіцца тваім назаўсёды. Падлога – столь. Тое, што ты думаеш пра іншых, не думаюць іншыя пра цябе. Самы блізкі чалавек – самы далёкі. Вялікая дабрыня – гэта вялікае зло. Вялікая дабрыня – гэта вялікая злосць (толькі для розных людзей па-рознаму).

Самы шчыры смех – да слёз. Не – так. Я – ты. І паміж усім – шалі.

*2011 – 2012*

## З Новым ходам!

Людзі купляюць дрэвы.

Людзі пахнуць ігліцай. На адну ноч спалучаюцца з лесам і вераць у лёс. Людзі ствараюць немагчымую канцэнтрацыю аперцэпцый: каханым – кахання, сябрам – сяброў, цяжарным – яшчэ большага цяжару на ўсё жыццё, палітрам – фарбаў, сынам – сыноў, ганарлівым – гонару, гумару жартаўнікам.

Людзі гуляюць у шахматы. Людзі блытаюцца: хто зараз ходзіць, хто кароль, хто пешка, чыя атака ці абарона. І, быццам, ужо не маючы ведаў, як разблытаць, здавалася б, самы безнадзейны мат – п'юць за працяг.

З Новым ходам!

Людзі апранаюць маскі. Людзі кладуць мармур, мары, Мармарыс, мора. Людзям выходзіць даражэй, чым планавалі – вомільгам.

* * *

І ты – як мне падарунак, схаваны бацькамі недзе ў столі. А я – бы дурное дзіцё, якое яго выпадкова знайшло, ды крычыць: гэта не тое, што я прасіў.

І вакол мяне яшчэ ёсць свята. А ў ім ужо няма шчасця.

*22 бясснежня, 2011*

Таццяна Прышчэпава



...я – сад вясной,

ты – снегапад...

# Ужо мінула лета...

* * *

Кубак разбіты.
Шчасця кавалкі.
Чай недапіты.

Чэрвень – у вокны,
Люты – у сэрца.
Крыўды валокны.

Белыя кудлы.
Светлыя мары.
Слёзы – лахудры.

Сумныя думкі.
Моцныя рукі.
Бітыя кубкі.

* * *

*А. А. Р.*

Не здолела адмовіць Вам,
Не здолела пачуцці сцерці.
Я ветру думкі перадам,
Што прытуліліся ля сэрца.
Няхай між сосен ён ляціць
І там схавае летуценні.
Мне ж – толькі вочы апусціць
І папрасіць маўчаць сумленне...

* * *

Прасцяг нябёсаў сініх –
Абедзенны абрус,
Аблокі ў макасінах
І ветру доўгі вус.

На сонечнай паляне –
Рамонкаў ліхтары,
У сотах – мёд духмяны,
Сваволяць камары.

Раскошны луг зялёны
Смяецца лебядой.
Ківаюць ціха клёны,
Кудлатай галавой.

Спякотаю сагрэты
Асенні дзіўны сон...
Ужо мінула лета:
Рыхтуйце парасон.

* * *

Зарослай сцяжынай у полі,
Іду, затаіўшы слязу.
Хачу толькі добрае долі –
Да сонца прашэнне нясу.

Не трэба мне золата, грошай,
Бо хопіць прастору нябёс,
Вясёлкі ў аблоках прыгожай,
Што дождж у далонях прынёс.

Прашу, бо прасіць – то ж не ўкрасці,
А што людзям трэба ў жыцці:

Надзеі на Бога і шчасце,
Ды сцежкаю поле прайсці.

* * *

Калі жнівень у рукі збярэ свае зорныя ліўні,
Калі лета прашэпча на золку туманным: “Бывай!”,
Кіну сумны пагляд я на мілы куток незабыўны,
І пакіну свой ціхі, ды ўсё ж такі велічны край.

Паімчыць у бясконцую даль хуткі бег электрычкі,
Пралятаюць за вокнамі вёскі, палі і лясы.
Вось гаротныя вербы абняліся, нібы сястрычкі,
Распусцілі да самае рэчкі свае валасы...

Я, як тая ракіта, смуткую ўсё ў гэтай дарозе,
І нікольki не вабіць сталічных агнёў мільгатня:
Мне ўсё хочацца бачыць, як дзесьці стаіць на парозе,
Захінуўшыся ў хустку, любімая маці мая.

Хоць пакрытыя вочы яе мітуслівай трывогай,
Толькі ўсё ж упрыгожыць усмешкаю стомлены твар,
І, як зачараваная, пільна глядзіць на дарогу,
Ёй цяпер усё роўна – ці снег на двары, ці пажар –

Яна будзе стаяць і шчэ доўга не зрушыцца з месца.
Мне пад позіркам гэтым не страшна любая бяда.
Яна будзе стаяць, але – трэба – і вернецца ў сенцы
Апрануцца цяплей і прыкрынуць разок на ката.

Ён жа, хітры, ўцячэ... Асыпаецца лісце з бярозы,
І пад покрывам гэтым ужо засынае зямля.
А я ведаю: будзе стаяць на парозе,
Захінуўшыся ў хустку, любімая маці мая.

* * *

Мы ішлі, раскідаючы жоўтае лісце нагамі,
У паветры стаяў дзіўны водар ад леташніх траў.
А між сініх нябёсаў, шырока махнуўшы крыламі,
Сумны жораў апошні у вырай ізноў адлятаў.

І яму не хацелася гэтай далёкай дарогі,
Не хацелася хмары магутным крылом рассякаць.
Ён ляцеў і за нас гучна клёкатам дзякаваў Богу:
Ты, як жораў, на шчасце, ніколі не зможаш лятаць.

* * *

Вы – сёння, Вы – заўтра і ўчора,
Вы – шчасце маё і праклён.
Вы – ярка бліскучыя зоры,
Вы – кветка з вясковых палёў.

Вы – дождж і грымота маланак,
Вы – сонца над дахам маім,
Расою акроплены ранак
І сцяг невядомых краін.

Вы робіце мне падарункі
(ах, як за вакном намяло!),
Я – Вам узамен – пацалункі.
Вы тушыце ціха святло...

* * *

Вы мне саступілі месца,
Усміхнуліся ласкава...
Болем зашчыміла сэрца:
Не запросіце на каву.

У кіно не сходзім з Вамі–
Нашы скончаны сеансы.
Думкі мнуцца пад нагамі,
Бо няма каханню шанцаў.

Нашы стоены жаданні:
Вы на працу, я да хаты...
І –усмешка ў развітанні,
І –пярсцёнак... Вы – жанаты!

* * *

Адна маланка на дваіх:
Мая – паэма, твой – трыпціх.
Грымоты гучныя ўначы:
Маё “чакай”, тваё “маўчы”.
Дажджы над Мінскам – нам з табой:
Тваё “бывай”, маё “пастой”.
Адна маланка – лёсаў шмат:
Я – сад вясной, ты – снегапад.

Маланкі адзінокі плач:
Я – “Дзверы там”, а ты – “Прабач”.



Аўгуст Стрындберг



...кроч смела наўпрост

і душой багацей...

# Мастацтва жыцця

## МОЙ СЯБАР І Я

Узгадай,
Студэнтамі мы былі: ты і я,
І марылі пра нашы ідэалы,
Не ведалі мы нават пра Заля
І рэалізм быў толькі ў кварталах.

Узгадай,
Калі нам трошкі грошай банк даваў,
З табой мы вустрыцы з віном смакталі.
Пасля, як ром нам думкі суцяшаў,
Мы ў светлых фарбах лёс наш уяўлялі.

Узгадай,
Мы тэатральныя з табой пісалі п’есы

*Пераклады былі зроблены слухачамі семінараў Цэнтра шведскіх даследаванняў да стагоддзя з дня смерці Аўгуста СТРЫНДБЕРГА.*

*Пераклады рэдагавала Вольга ГАПЕЕВА.*

Прыгожай моваю, што пасавала залі,
Як сыр, які смакуюць пасля ежы,
Як той лікёр, што ў каву дадавалі.

Цяпер
Мы ўжо старыя: кінуў ты спяваць,
Шукаеш супакой ў сваіх кліентах.
У дзённай справе цяжка рыфмаваць
І цяжка жыць: non canit plenum venter.

А я,
Я болей не пішу прыгожай мовай,
Бо палюбіў наяўную агіднасць.
Я кінуўся ў спрэчку за свабоду,
Ў якой нікому не вядома літасць.

Цяпер
Я п'ю звычайную гарэлку з селядцом,
Дзяцей гадую, не хажу у бары.
А ты з дзяўчынаю сваёш смакуеш ром,

Так, ты дагэтуль верыш ў нашы мары!

*Пераклала Тоня ЗАЙЦАВА.*

### БАБІНА ЛЕТА

Прэч ад шпітальных, прапахлых хлорам
падушак,
пацямнелых ад глухіх уздыхаў
і нячутных дагэтуль праклёнаў;
прэч ад начнога століка
з шклянкамі лекаў,
маліто ўнікамі і Гэйне,
я пайшоў на балкон,
каб паглядзець на мора.
Загорнуты ў плед з квяцістым узорам,
я сядзеў там і сонца свяціла
на мае жоўтыя шчокі
і бутэльку абсэнту,
зялёнага нібы мора,
нібы лапіны елак,
раскіданых усцяж вуліцы,
дзе людзі ішлі за труною.
Спакойнае мора,
суцішыўся вецер —
быццам нічога не дзеілася!
Тады прыляцеў матылёк.
Буры, агідны матыль,

Нядаўна быў вусенем ён,
а цяпер выпаўз
з свежаапалага лісця,
падмануты восеньскім сонцам,
вядома ж!
Дрыготкі ад холаду
ці то проста з нязвычкі
упаў ён на мой
плед з квяцістым узорам
І выбраў між кветак усіх,
між руж і анілінавага бэзу
дробную самую і непрывабную.
Хіба можна такім быць бязглуздым?!
Колькі часу мінула,
Я падняўся,
каб вярнуцца ў пакой,
а ён так і сядзеў,
той бязглудзды матыль.
Ягоны спраўдзіўся лёс —
цяпер ён памёр,
Што за дурнота!

*Пераклала Ката АМУРСКАЯ*

## ЗВАДНІК

«Шукае толькі бруд ён
каб кешкацца ў ім!»
Атручанаю куляй
ляціць услед за ім.

Блукае ён ды піша
пра лепшае ў жыцці,
сваё аддаў бы сэрца,
каб зноўку перажыць.

Пакпіць няма з каго тут.
Сядзіць ён у карчме
разгублены і злосны,
што глузду не стае.

Як боўдзіла дурное
за думкай не паспеў,
ён сам сабе ахвотна
“Ідэаліст,” – прапеў;

паразважаць каб трохі
куляе келіх грогу

бо засцяць вочы “блохі”,
каб выклікаць трывогу.

Затым ён хісткім пёркам
свой сапсаваны смак
размазваў па паперках –
ў пародыі, што жах.

Пра што гудзеш ты, муха?
Пра бруд гамоніш нам?
Здавольвай своё вуха
Тым, што ствараеш сам.

Ідзі! Пачысці зубы,
пакуль не ўкусіў!
Ідзі! Памый ты рукі
у музавым бідэ!

*Пераклала Ірына БУКШТАНОВІЧ*

## НАВАЛЬНІЦА

У час, як чуўся пах язміну,
Півоніі квітнелі.
Сядзела яна ціха ля каміну.
Ад кветак ды віна мы захмялелі,
Змяшаліся позіркі, думкі.
Навіслі навокал карункі,
Іх словы для нас заплятали.

Былі адны мы, пражывалі,
Быццам уласнае жыццё,
Жыцце адно адное, пачуццё
Збянтэжаннасці і пытанні паўставалі.
Вяселле сэрцы святкавалі.

Язмін так ясна асвячала
Тое сонца,
І пах яго з віною змешвала
Бясконца.

Сцямнела раптам усе навокал,
І ціха стала, і маркотна.
Не бачна сонца з-за аблокаў,
І кветкі хіляцца самотна.

Маўчалі мы, яна трымала
Маю руку, калі грымота разарвала

Урэшце ў вачах адбілася пытанне
Пра той агонь, ці чыніць ён растанне.
Але ж тады запырскала на шыбы,
Адлівы вокан. Ці можна было думаць,
Што дробненькія кроплі, мак то нібы,
Усе навокал клічнікамі размалююць?
Грыміць усё, жахлівыя дзівосы,
Над намі хмары ў агні гараць.
Так папракаюць нас нябёсы:
Бязглуздыя пытанні нельга задаваць!

*Пераклала Наталля РАМЕЙКА.*

## МАСТАЦТВА ЖЫЦЦЯ

Збяры усё тое, што бачыў ды чуў,
Ўзгадай усе веды, пакуты,
Ды кожнае кветкі, што пах адчуў,
Успаміны пажухлай лістоты,
І клёк, што выціскваў са спелых пладоў;

Пускай карані, ад тых ведаў квітней,
Якія збіраў ты з мінулых часоў,
Саджай сваё зерне у глебу ізноў
Кроч смела наўпрост і душой багацей.

*Пераклалі Ірына БУКШТАНОВІЧ*
*і Наталля ПЕТРАШКЕВІЧ.*

## СУЧАСНАСЦЬ

Пісьменнік быў яе каханым,
А замуж клікаў выдавец.
Адказ быў вельмі нечаканым,
У кожнай казкі свой канец.

Пісьменнік быў зусім збяднелы,
Не мог ён нават ажаніцца,
А выдавец занадта смелы,
Бо час жыццю яго змяніцца.

Пісьменнік добрым быў хлапцом,
Але ж ён меў адну кашулю.
Праз год дзяўчына з выдаўцом
Ператварылася ў матулю.

*Пераклала Наталля ПЕТРАШКЕВІЧ.*

### НАВАЛЬНІЦА

Калі красавалі язмен ды півоні,
Бязмоўна сядзела яна ля стала.
Позірк трымаў думкі ў палоне,
Хмелю ды кветак была ў тым віна.
Пэўнае слова рвалося на волю,
Пляло вакол нас павуцінне.
Мы пражывалі адзіную долю
На той ідылічнай карціне.
Працяжнік, пытальнік –
Вядомы нам змест.
Ну проста душаў шлюбны фэст!

Сонца свяціла шчодра,
Ды грала праменем.
Віно ўбірала водар
Дрымотнага язмену.

Раптоўна падае цямнота,
Грузнуць ў паветры гукі.
Дрыгоча ад жаху лістота,
Жывое ў чаканні мукі.

Знямеў. Маю руку яна кранае.
Прастроміў нашы целы жах.
Ці ў гэткім полымі сканаем? –
Трымціць пытанне ў вачах.
Вось кроплі стукнулі буйныя
Па шыбах вокнаў – і пацяклі.
Іх падпільноўваюць капкі малыя
І клічнікі пішуць. – Ты уяві!
Нарэшце грымнула недзе над дахам,
Хмара ў агні палае мацней.
Грукат той быў нябёсаў адказам
На надта дурныя пытанні дзяцей.

*Пераклала Люба ВАРАШУХА.*

### ПОЎНЯ НАД ДАЛІНАЙ

Між вольхаў бруіцца рэчка,
і хвалі мкнуць чарадой.
Кулік сядзіць задуменны
і слухае з чаратоў.

І раптам – і з ляскам, і з бляскам
між гор нясецца ландо!
Прымоўклі кулік і рэчка:
як колы калоцяць дол!

А горы паўсталі мурамі,
глядзяць пагардліва ўніз,
як шумны вазок-мурашка
упарта паўзе між глыз.

А поўня слухае з неба
і рэчку, і птушку, і дол,
і горы цалуе нанач,
і ззяе ў люстры-ландо.

*Пераклала Алеся БАШАРЫМАВА.*

## *МОЙ ЧАРОЎНЫ ЗАМАК*

Мой замак чароўны між лесу стаіць
Асветлены сонцам гарачым.
Да неба ён стромкаю вежай ляціць
І нібы міраж у ваччу зіхаціць,
З паветра сатканы няйначай.

Святіла пакліча дзень новы, а з ім
Запаляцца полымем вокны;
У замку жывём толькі мы з табой тым;
І дах яго роўніцца з лесам густым,
Узорам аздоблены звонку.

Ён золатам ззяе у дзённым святле,
ці меддзю на захадзе сонца,
ці месяц яго серабром паліе,
ці ноч чорнай цемрай яго абаўе,
пралескі сінечай бясконцай.

У замку тым толькі з табой мы жывём
Там сноўдаюць нашы ўспаміны;
Мы ў думках яго з нашых мараў спляцём
Вясновым празрыстым і сонечным днём,
І ў свеце ён будзе адзіны.

*Пераклала Наста ЛАБАДА.*

## *НА СКОНЕ ДНЯ*

Высока, калі за крайкай даху паглядзець,
Ёсць я там,
Дзе ластаўкі туляцца чарадамі,
Дзе вецер зноў гуляееца з лістамі,
Адкуль здалёк відаць азёры з белымі плытамі,
І птушак, што лятаюць над палямі.

Я быў бы там,
Каб крылы меў – я б здолеў даляцець.

Далёка, дзе сонца ўстае штодзень,
Я ведаю,
Яно жыве па-над блакітнымі лясамі,
Што побач з акіянам сціпла зіхацяць,
Дзе чуеш музыку, што нельга не ўзгадаць,
Чароўны спеў, які іскрыцца галасамі.
Я плачу
У душы, дзе блытаецца ўспамінаў цень.

За межамі блакіту сталых дрэў,
Дзе акіян шуміць,
Там маладосць мая і глупства пахаваны
Паміж яскравых і спакуслівых крыніц,
Там больш зусім не рухаюцца мары,
І дзе сябры, што так жыццю былі адданы?
Жыццё там спіць.
Усё лепшае сышло як ціхі спеў.

Туды ісці я не хачу і не параю,
Ніколі больш туды!
Да роднай хаты, дзе ложак мой такі далёкі,
Дзе бачны толькі сумныя аблокі,
Дзе ўсё знікае – застаюцца крокі,
Дзе захад патухае ля дарогі!
Застацца толькі тут,
На сконе дня – тут я і пачакаю.

*Пераклала Марыя МАСЯГІНА.*

## Валадзімер Барна



...Трэба свяціць роднай мовы храм,
Каб сышло на душы азарэнне...

# Шукаю слова...

* * *

Дзе ты,
Мая прадзедаўская хата,
што засталося ад цябе
на скронях Лэмкаўшчыны?
Не ведаю, і запытацца
н я м а ў к а г о!
ПРАДЗЕДА схавала
з я м л я Бэскідаў
ДЗЕДА прыняла
з я м л я Амерыкі,
БАЦЬКУ ўпавіла
з я м л я Украіны...

А я...
Я шукаю каранёў прадзедаўскай хаты,

*Пераклад
з украінскай –
Ніны МАЦЯШ.*

я разгадваю код свайго радаводу,
я вывучаю белыя плямы нашага жыццяпісу,
каб  в е д а ц ь :
            адкуль мой фамільны пачатак,
            хто растуліў мае вусны гэтаю моваю,
            дзе крыніца маёй Лэмкаўшчыны?

* * *

Мы пры жыцці
у т р о х
так і не сышліся
разам: Дзед,
            Бацька
            і я...

Толькі пасля смерці —
два іхнія здымкі
застылі на маім
рабочым стале...
І я штодня ім зазіраю
у вочы, мо разгадаю нешта
і сыну Андрэю паведамлю,
які ўспадчыў імя дзеда.
А спаміж тым намрою сабе
той шчаслівы дзень, калі...
у т р о х сыдземся
разам: Я (дзед),
            СЫН (бацька)
            ды ЎНУК...
            лэмкаў!

## НЕ ВЕДАЮ

Я не ведаю,
далібог, не ведаю,
што сказаў бы свайму
прашчуру стараветнаму,
калі б ён з’явіўся
з прамінулых стагоддзяў і
запытаў: «Як пажываеш,
                  праўнучку?»

Я не ведаю,
далібог, не ведаю,
што сказаў бы свайму
дзеду любаму,

калі б ён з’явіўся
з-за акіяну і
запытаў: «Як пажываеш,
ўнучку?»

Я не ведаю,
далібог, не ведаю,
што сказаў бы свайму,
бацьку роднаму,
калі б ён з’явіўся
раптам зараз
і запытаў: «Як пажываеш,
сыне? »

Я не ведаю,
далібог, не ведаю,
што ім адказаў бы я ўсім,
ды ў адным упэўнены:
я б нікому з іх не пабаяўся
паглядзець у вочы!

* * *

Не шукаем
прыстані жыцця,
Нам удолена
адна дарога —
Цераз быту
выцвілы прасцяг,
Праз штодзённе
слізкіх засцярогаў.

Трэба потам
упівацца нам,
Каб трымацца
нашага карэння,
Трэба свяціць
роднай мовы храм,
Каб сышло
на душы азарэнне.

* * *

ты выпі
мелодыю
срэбнае ночы
да дна

няхай прагучыць
яна чыста
у кроплях
расы
і песняю сонца
пральецца
у пространь
вясны
і стомлена
ляжа спачыць
надвячор'ем
у ноч
каб заўтра
спачатку ўсё
зноў паўтарыць
тайнотна

* * *

Стаю на краёчку таго
дня найапошнейшага,
які з лета ў восень
адплывае.
Стаю.
Душою ўвесь гару
і не ведаю, што мне рабіць —
так да цябе хачу я,
у тваё вечнае лета дабраты,
у тваё спраглае свята цеплаты,
ды човен — у восень адплывае.
Мне б,
мне б хоць позіркам
перакінуць масты ў тую даўніну,
угледзець бы цябе на міг,
што там ёсць ты рэальна,
тады б... тады б
я не задумваючыся змог
да цябе ў восень адплысці,
каханая.

* * *

Я — чысты,
вымыты як дзень,
Хачу цябе,
як вечар — ночы.
Хачу, каб ты
так ціха, ўзрушана

Мяне акрыла
ціхімі вуснамі
І агарнула
пяшчотнымі рукамі
У сваю цёплую
ахінку прагі.
І ўраз апала каб
расой прызнання,
І целам дрэва
прайшлася з ласкаю,
Ўсё акрапіўшы —
ад лістоты да карэння,
Ды так, каб змог
нам толькі расчыніцца
Невераемны гэты
свет кахання,
Што так разрося
голлем у нябёсы,
А яшчэ болей —
каранямі ўглыб.

* * *

Сяджу за столікам кавярні,
і ціша гэткая мяне агортвае,
што чую, як, дыхае сцяна...
Перабіраю подумкамі хвілі,
тыя, найдзівоснейшыя, адзіныя,
калі ўзляталі мы да неба
на крыллі ўзбураных пачуццяў,
і рассявалі над абсягамі ясноту
усаджваліся на плячах у зорак
і прызнаваліся ў каханні...
— Слухаю! — сказала па-ўгорску
смуглявая маладзічка-афіцыянтка,
раптоўна павярнула плынь думак,
ды так, што я не зразу й сцяміў,
дзе я, і без каго я,
і згопалу замовіў аж дзве кавы...
для нас з табою...

* * *

Верабейка маладзенькі
сеў на лаўку каля мяне
і, запытальна зірнуўшы,
«сказаў» штось па-свойму,

крутнуўся на лапках, зняўся на крыло
і паляцеў...
?
Не ведаю,
што мне казаў,
а ці пра штось пытаўся —
ды ўсё-ткі нейкім сёмым пачуццём
я зразумеў, уцяміў, што пташка гэта
мне паспачувала, бо, мабыць, у кожнага
на чужыне аблічча прамаўляе:
о, як усё ж сумуецца па родным краі!

## *У ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ*

Быў бы я
Кветкаю —
мабыць, усміхнуўся б
табе пялёсткамі...

Быў бы я
Небам —
напэўна, схіліўся б
над табою ў радасці...

Быў бы я
Ветрам —
відавочна, загучаў бы
для цябе аркестрам...
.......................
Але ж я,
я толькі — чалавек,
таму...
шукаю для цябе
такое слова,
у якім
на тле блакіту неба
пад гукі музыкі
пялёсткамі
ўсміхаецца
к в е т.

Ніл Гілевіч



…Няшчасная, няшчасная Расея!..
А яшчэ горш няшчасныя мы…

# Год дзве тысячы другі

***Выбраныя старонкі дзённіка***

*Заканчэнне. Пачатак у №№4-5 (53-54) за 2011 г. №1-3 (56-58) за 2012 г.*

*4-га студзеня.* Хадзіў на сход у Дом ветэранаў, атрымаў прэмію імя А. Майсені (па "Народнай волі"). Быў у зале і выпушчаны з турмы А. Клімаў, якога зала вітала як нацыянальнага героя, хоць я так і не ведаю: за што? Што зрабіў для беларускай ідэі? Нешта тут ад міфалогіі.

*5-га студзеня.* Крукам, дзень і ноч, сядзеў над артыкулам пра драматургію Янкі Купалы, пачаты яшчэ ў снежні. Здаецца нешта атрымалася, удалося зрабіць некаторыя важныя акцэнты, асабліва пры разглядзе "Гнязда".

*7-га студзеня.* Цэлы дзень перастукваў на машынцы артыкул (учора таксама). І такі дабіў, хоць позна вечарам. Гэта ўжо, можа, дзесяты мой артыкул пра Купалу, — калі лічыць і невялікія газетныя (публіцыстычныя).

*11-га студзеня.* Заходзіў Конан. Паабедалі, пагутарылі. Паказаў яму папку з рукапісамі (чарнавікамі) "Лысай

гары" — ён першы, хто пабачыў гэтыя паперы. Наконт аўтарства ў яго сумненняў не было і раней — неаднойчы мне намякаў пра гэта.

*20-га студзеня.* Хадзіў глядзець Арсенеў фільм пра Тарашкевіча ў кінатэатр "Змена" — спецыяльны паказ у сувязі з юбілеем. Быў і Арсень. Фільм выдатны. Давялося ўзяць слова і сказаць усё тое ж: што рабілі і зрабілі "ворагі беларушчыны" з намі. І што працягваюць рабіць!.. Якая малайчына Н.М. Макрыцкая, што арганізавала ў сваім кінатэатры такі кіналекторый!..

*21-га студзеня.* Дачытаў (дагартаў, дакладней) адну здаравенную таміну Я. Будзінаса "Дураки" (Вярцінскі ўсурычыў). Як я не памыляўся ў яе аўтары — гэтым чужым для беларускай культуры чалавеку! Якая хватка! Які цынізм! Вось дзеля чаго ім патрэбна "дэмакратыя".

*22-га студзеня.* Звaніла з Таргуноў старая настаўніца Вера Васільеўна Малько. Прачытала маю "Ведзьму", плакала, чытаючы, ну і вось патэлефанавала... Першы водгук на публікацыю (можа, і апошні? Ніхто ж п'ес не чытае).

Закончыў і перадрукаваў прадмоўку да кнігі "Шчыра як на духу". Апраўдваю задуму выдання, а ці не правалімся мы ("Кніга") з ёю?

*29-га студзеня.* Заходзіў брат майго сябра часоў акупацыі Лёні Кулакоўскага — Георгі. Вельмі падобны на Лёню. Божа, колькі ўскалыхнулася ў памяці, на дне душы! Якое вялікае маё няшчасце, што Лёня апынуўся за межамі Беларусі, — як аказалася — назаўсёды. Які быў бы, адчуваю, мне на ўсё жыццё сябар — не з пісьменнікаў, а проста з людзей, з тэхнароў, у прыватнасці (Лёня — інжынер-сталеліцейшчык, — якая прафесія!).

*31-га студзеня.* Быў на незвычайным вечары ў Музеі Купалы — на прэзентацыі кнігі пра замучаных рэпрэсіяваных у Сібіры беларусаў. Не хапае душы ўсё гэта вытрываць.

*1-га лютага.* Хадзіў на выставу трох мастакоў Ціхановічаў — дзеда, бацькі і ўнука. Бацька і ўнук — таксама таленавітыя мастакі — пакінулі гэты свет, а дзед (90 гадоў) — яшчэ трымаецца. І трымайцеся, Яўген Мікалаевіч! Трымайцеся! Ваша пазіцыя, Ваша слова — і сёння падтрымка маладых, — маральная, духоўная, чалавечая.

*6-га лютага.* "Народная воля" змясціла вершы "Дарагія мае грамадзяне", "Мастак", "Памяці Куліка". Пазванілі: Ліс, Марачкін, Сіўчык, Жуковіч і іншыя. Адзін з іншых сказаў: "усе вершаванае сёння на фоне тваіх — г....".

*10-га сакавіка.* Сход дэмакратычнай інтэлігенцыі ў Палацы мастацтва наконт Гімна РБ. Браў слова, расказаў, чаму не быў прыняты Гімн у 1991-1994. Прагаласаваў за "Магутны Божа".

*4-га красавіка.* Сустрэча на геафаку БДУ. Атрымаў ад зямлячкі кнігі Я. Гладкага. Быў на вечары Смольскага, у філармоніі. Маэстра высокага класа!

*6-га красавіка.* Хадзіў на выставу Марачкіна і "Пагоні". Шмат цікавага. Хлопцы працуюць таленавіта і — у належным кірунку.

*9-га красавіка.* Да паўдня сядзеў у Нацыянальнай Бібліятэцы, гартаў

часопісы часоў акупацыі. Пасля абеду — у мастака В.К. Барабанцава, пачаў маляваць (пісаць!) мой партрэт.

*23-га красавіка.* Быў у Салігорску, з У. Лапцёнкам. Прадавалі мае кнігі. Чытаў школьнікам вершы. І ў ДК. Звычайна, трафарэтна. Без энтузіязму. Гняце людская апатыя. Кніг купілі мала. Няма грошай — у тых, хто кнігу любіць і хацеў бы купіць. Прыходзіла на сустрэчу М.І. Мацюкевіч з дзяўчынкай — вялікая і мужная патрыётка. Не зламалася і пасля смерці сына (забілі бандзюкі).

*24-га красавіка.* Хадзіў у філармонію на вечар І.М. Шумілінай. Непераўзыдзеная ў нас піяністка. Назад вяртаўся з У. Конанам. Паплакаліся, папраклiналі.

*26-га красавіка.* З Лапцёнкавымі дзяўкамі — у Віцебску. Дзве вялікія сустрэчы: ва ўніверсітэце (адкрываў і вёў рэктар А.У. Русецкі) і ў Доме культуры. Вельмі шмат прадалі маіх кніг. Было безліч пытанняў, у тым ліку вострых. Усіх надзвычай хвалюе лёс Беларусі і беларускай мовы. Арганізатар сустрэч — нястомны І.А. Навумчык. Да прыезду ў абласной бібліятэцы — выстава маіх кніг. Усё было не фармальна, не дзеля “птушачкі”; у Віцебску сапраўды чакалі (як абяцаў Навумчык).

*6-га траўня.* Вечарам — на прыёме ў пасла Турцыі Шуле Соймал; яна ад’язджае, развітальны (грандыёзны!) банкет. Шкада, што не будзе такога сімпатычнага Пасла.

*7-га траўня.* З раніцы — у Скарынаўскім Цэнтры. Круглы стол “Дзяржава і культура”. Мала пачуў радаснага. Або “дзяжурнае”. афіцыйнае, або — баязлівае. Пабыў да абеду.

*15-га траўня.* Пасля абеду — у Нацыянальнай Бібліятэцы. Гартаю беларускія часопісы 1942-1944 гадоў: “Беларуская школа” (па якім я вучыўся), “Жыве Беларусь”, “Беларус на варце”, “Новы шлях”. Неймаверна цікава! Раблю шмат выпісак — у разліку на скарыстанне ў публіцыстычных артыкулах.

*17-га траўня.* Шаўчэнкаўскі вечар у Музеі Коласа (у двары пад дожджыкам). Гаварыў і прачытаў вершык пра Кабзара. Быў пасол Украіны А.А. Дронь — слаўны чалавек, сябар Беларусі, вялікі патрыёт, сапраўдны сын Бацькаўшчыны. Як выдатна ён разумее нашу беларускую сітуацыю! І колькі зрабіў для ўмацавання нашай дружбы! Як непадобны на яго нашы амбасадары (у большыні сваёй)!

*18-га траўня.* Ездзіў у Ліду (з дзяўкамі Лапцёнка) прапагандаваць выданні “Кнігі”. Трохі лепш, чым было ў Салігорску, але зноў жа — трафарэтна і... нават не ведаю, як сказаць. Свята не было — ні для мяне, ні для прысутных. Бо “прысутныя” — прыгнаныя ў залу навучэнцы нейкага ПТВ. Як раней прыганялі роты дзве-тры салдат (з іх палавіна — нацмены і беларускай — ні бе-моль). Ну, а як іначай? Свабодны вечар паэзіі па аб’яве? Прыйдзе 10-15 чалавек — як было летась у Зэльве. Была такая ганьба — што хоць засіліся.

*16-га чэрвеня.* Быў, па запрашэнні (па вялікай просьбе!), на Сойме Маладога Фронту. Вядома ж, папрасілі выступіць. Сказаў пра самае істотнае — што

ўсе надзеі на моладзь. І прачытаў “Кліч да беларускай моладзі”. А моладзь — ёсць!

*19-га чэрвеня.* Прэзентацыя кнігі “Шчыра як на духу” ў бібліятэцы імя Купалы. Усе (і Законнікаў, і Кудравец, і Вярцінскі) добра гаварылі. І добра пасля пілі віно. Але браў слова і адзін спартсмен, шабліст, чэмпіён, удзельнік “Сповеdзі” — о, якой дыхнула імпершчынай! Адкрытай і нахабнай. “Пушкин превыше всех! Вы что же — не понимаете? Язык Пушкина изучает весь мир, а вы тут...” і г. д.

*1-га ліпеня.* Званілі з СП, запрашалі на свята ў гонар Купалы ў Вязынку — каб выступіў на эстраднай пляцоўцы. Не паеду. Каб не трапіць у пастку. Хоць і крыўдна — страшна!

*17-га верасня.* Хадзіў да рэктара БДУ А.У. Казуліна — прасіў аб вяртанні на кафедру філфака Н.І. Вырашыў у маёй прысутнасці — імгненна. А то дзякаваць Богу!..

*21-га верасня.* Ездзіў на магілу М. Матукоўскага, а пасля быў і ў яго хаце ў застоллі. Хораша пра яго гаварылі Бураўкін, Сухарукаў, Глебава (вельмі хораша!). Паўспамінаў трохі і я. Побач сядзеў І.М.Л. Усё ў той жа іпастасі — ні то патрыёт Беларусі і беларускай культуры, ні то халуй Масквы. Яшчэ “далазіў”, што я думаю пра Гэнага.

*24-га верасня.* Адбыўся XIV з’езд пісьменнікаў. Старшынёй выбралі А.Пашкевіча — не без маёй дапамогі (у сваім слове я заклікаў: даць лейцы маладым!). Выбары ішлі ў аўдыторыі, напалавіну п’янай, і вёў пасяджэнне п’яненькі У. П. У арганізацыйным плане З’езд зусім не падрыхтаваны — відаць, І-ва, ведаючы, што ёй нічога не свеціць, наўмысна самаўхілілася ад падрыхтоўкі З’езда. Яна вельмі хацела, каб ён не адбыўся, каб застацца на пасадзе (як бы цяжка ні было). На маё здзіўленне — я атрымаў толькі 35 галасоў супроць (Быкаў і Барадулін — 59 і 62, Бураўкін — 43). 35 — гэта дробязь, гэта адных запраданцаў столькі было ў зале (да нават больш!).

Слова маё ўспрынялі так, як я і хацеў бы — усё зразумелі і засведчылі сваю салідарнасць, — і ў зале, і пасля ў кулуарах.

*20-га кастрычніка.* Колькі дзён таму быў на першым пасяджэнні Рады выдавецтва “Мастацкая літаратура”. Вельмі прасіў увайсці ў Раду дырэктар Мачульскі. Паразважыў — і даў згоду. На нейкі час. Калі толькі што-якое — калі будзе гнуцца не туды, — наша вам!..

*30-га кастрычніка.* Хадзіў на аргкамітэт па падрыхтоўцы Усебеларускага Сходу інтэлігенцыі, некалькі разоў браў слова ў спрэчках (усё яшчэ лезу, не ўгаманіўся). Быць адным з дакладчыкаў — як ужо размеркавалі, — адмовіўся. Не выцягну. Так і сказаў: не выцягну. Выдыхся да астатку.

Сказаў Б-ну, што пра мяне (якую няпраўду) нясе па “Свабодзе” Быкаў, — зрабіў выгляд, што нічога не чуў, не ведае. А няпраўды, вельмі крыўднай для мяне, абразлівай, — шмат: і Адамовіча я выгнаў з Беларусі, і супроць утварэння БНФ выступіў (заадно з Краўчанкам), і ад сораму за Закон аб мовах галаву апускаў (побач з Дземянцеем!) і сёе-тое яшчэ. Ах, Васіль, Васіль! Як жа ты паблытаў аднойчы мяне з некім! Як жа гэта сталася?!

*31-га кастрычніка.* Быў і браў слова на адкрыцці выставы Я. Драздовіча. Атрымаў яго альбом — цудоўнае, шыкоўнае выданне. (Марачкін уручыў — у аддзяку за эпіграф з Н.Г., якім адкрываецца кніга.)

Пасля там жа, у Музеі, цэлую гадзіну разглядаў экспазіцыю прац знакамітага фотамайстра 20-х гадоў Льва Дашкевіча. Дзяўчаты паабяцалі зрабіць для мяне адбітак здымка “Палац Тышкевічаў у Лагойску”. Цудоўныя здымкі! Які заслужаны перад беларускай культурай чалавек — і як мала ў нас пра яго ведаюць!

*12-га лістапада.* Быў на прэзентацыі Першага нумара “Дзеяслова”, у якім — і мае лірычныя мініяцюры. Выдатны часопіс пачалі рабіць хлопцы (Пятровіч, Акулін, Пашкевіч — рэдактары). На сучасным еўрапейскім узроўні. Дай Бог, каб нішто не перашкодзіла зрабіць яго стабільным выданнем. Між іншым, Пятровіч (галоўны рэдактар) папрасіў, каб я “Дзеяслову” прапанаваў сваю кнігу “Між роспаччу і надзеяй” (прачытаў у “Новым часе” ўрывачак — і яму спадабалася). Даць я не супроць — але кнігу трэба напісаць, пакуль што ёсць адна трэць, старонак 150. Гэта цяпер мой найвялікі клопат. Матэрыялу (і думак) накапіў на 1500 старонак. Ды ўсё не засяду, каб шрайбаваць далей.

*13-га лістапада.* Хадзіў на аргкамітэт па арганізацыі і правядзенні юбілею “450 гадоў Рэфармацыі на Беларусі”. Каб я прыняў удзел — наўмысна заходзіў прасіць аб гэтым Сіўчык (дарэчы, добра з ім пагутарылі, вельмі сімпатычны мне чалавек). На пасяджэнні я выказаў прапанову падаць Рэфармацыю як мага шырэй у гістарычна-культурным і асветніцкім плане, а не ў канфесійным. І сказаў, што ідэя юбілею будзе прынята неадназначна, — і гэта трэба мець на ўвазе. Філарэтаўцы, напэўна, устануць на дыбы. Трэба шмат гаварыць пра значэнне Рэфармацыі ў друку.

*14-га лістапада.* Праз усе “не магу” схадзіў на сустрэчу ў каледж паліграфістаў (быў і Э. Акулін). Застаўся непрыемны асадак: на ўзроўні 60-х гадоў была ўся методыка, увесь сцэнар сустрэчы. Усё тая ж недарэчная завядзёнка — карміць госця-паэта ягонымі вершамі (ды хоць бы вывучылі!) і рэфератамі пра творчасць Купалы (у гэтым разе Купалы, бо — да яго юбілею прыўрочана). Ах ці, Божа мой! Дзе ж мы так далучым моладзь да паэзіі?

*23-га лістапада.* Хадзілі з Нінай на юбілейны абед да суседкі Наталлі Сямёнаўны — ёй споўнілася 80. Якая мужная жанчына, як трымаецца пасля таго, што перанесла! Успаміналі, канечне ж, і Валодзю, 26-га — яго дзень народзін.

*26-га лістапада.* Вечар маладых паэтаў і бардаў у вялікай зале ДЛ. Уважыў Янку Лайкова, які надта ж прасіў, каб я адкрыў сваім словам сустрэчу, — і пайшоў. І быў пакараны. Гэта было зусім не тое, на што я разлічваў. Невыноснае для мяне трэнькание хлапчукоў і дзявошак на гітарах. Паэзіі не пачуў ні радка. А ў зале — чалавек 30-40, не больш. А я так сур’ёзна рыхтаваўся. Да канца не дабыў, дзесь у сярэдзіне, пасля таго, як выступілі з прывітаннямі Пісьмянкоў, Дранько-Майсюк, Гальпяровіч, — пайшоў дадому. Ёсць праблема! — як у гэтакім разе кажуць. Запанавалі прымітыў, убоства, графаманія.

*27-га лістапада.* Ну, чакаем вялікага грому. Ці вялікага паскудства і гадства. Але так мне гэта не пройдзе — гэтыя вершы ў сённяшняй “Народнай волі”. Вечарам зайшоў Сяргей: “Тата, Табе такога не “даруюць!” Як мог — супакоіў.

*28-га лістапада.* Прыехалі з Украіны: Р. Лубкіўскі, П. Засенка, М. Наенка, Ю. Заўгародні і А. Мамчыч (маладая паэтка). Арганізаваў гэта пасол А. Дронь — выдатны дзяржаўны муж, высокага рангу інтэлігент, і проста слаўны чалавек. Вечарам быў у яго ў гасцях — з гэтае нагоды. Былі таксама: Бураўкін, Законнікаў, Пашкевіч. Лубкіўскі прывёз вялізны том Багдановіча ў сваіх цудоўных перакладах, у бліскучым афармленні, — так хораша наш Максім яшчэ нідзе не выдаваўся, нават і на Радзіме. Вось што значыць любоў і павага!..

*29-га лістапада.* Дзень нашай нацыянальнай ганьбы. На сустрэчу з украінскімі паэтамі і пісьменнікамі ў БДУ (у БДУ! на філфаку!) прывялі (загналі) 30 студэнтаў і адну выкладчыцу. Гэта — днём. А вечарам, у ДЛ, на галоўнай святочнай падзеі, народу было паўзалы, у тым ліку... можа, два-тры пісьменнікі (апрача кіраўнікоў СП і запрошаных выступіць, г.зн. Бураўкіна, Законнікава і мяне). І ніводнага журналіста — ні з газет (нават з “ЛіМа”), ні з радыё, ні з тэле... На вялікім святе братэрства літаратур і народаў! І мы хочам, каб нас паважалі. Быў і выступаў пасол Украіны, вялікай дзяржавы, а з боку гаспадароў — ні аднае афіцыйнай асобы!.. Больш пачварнага рэжыму і ўявіць нельга!..

*30-га лістапада.* Зранку быў на Вайсковых могліцах ускладалі кветкі Купалу і Коласу. Затым — у Вязынцы, дзе А.А.Дронь даў “прыём”, і мы развіталіся з украінскімі сябрамі (з Вязынкі яны падаліся прама на Кіеў — “рафікам” еўрапейскай вытворчасці, цудоўным мікрааўтобусам, якім і прыехалі ў Мінск). Кожнаму з гасцей падарыў сваю кнігу ці кніжыцу, перадаў і томік для Тамары Каламіец.

*3-га снежня.* Ну, дык не памыліўся, пачалося! У сённяшняй “Звяздзе”. У маёй яшчэ нядаўна любімай “Звяздзе”! Пачала Бондар. Як сука, што з ланцугу сарвалася. Не сумняваюся, што гэта толькі пачатак, толькі сігнал да атакі. “Звязда” не апублікаваць не магла (жывёльны страх паралізаваў), але хоць бы адным радком адмежавалася ад гэтай гнюснай брыдоты! Не! Пагадзілася з фашыстоўкай цалкам. “Атрымаў па заслугах. Так яму і трэба!” Ну, што ж, віншую! І дзякую.

*5-га снежня.* За тры дні — 3-га, 4-га і 5-га — толькі адзін чалавек, Алесь Траяноўскі, пазваніў, выказаў абурэнне і папрасіў не браць да сэрца “брудную пісаніну смярдзючай пачвары”. Раблю выснову, што мае сябры “Звязду” не выпісваюць і не чытаюць.

*6-га снежня.* “НВ” змясціла рэдакцыйны артыкул у абарону Н.Г-ча. “Чытайце: пякучая праўда”. Артыкул моцны, пачвара атрымала па зубах як трэба. У нумары — і яе фашыстоўская вылазка, — каб чытачы пабачылі на свае вочы. Змешчаны яшчэ раз і мае вершы, якія трапілі не ў брыво, а ў вока.

З гэтае нагоды патэлефанавалі: чытачка Ір. Рыч, чытач Ал-др Ал-др., кампазітар Смольскі, мастак Вашчанка, Арсень Ліс і Ніна Мацяш. І ўсё... Болей ніхто не азваўся, не падтрымаў добрым словам, не асудзіў паскудніцу. Раблю выснову, што мае сябры і “Народную волю” не выпісваюць і не чытаюць.

*9-га снежня.* За апошнія тры дні пазванілі і падтрымалі мяне добрым словам Я. Мальчэўская (з Віцебска) і П. Місько.

Вечарам быў у Музеі Багдановіча — якраз Дзень Максіма. Запрасіў Э.Акулін, і я не сумняваўся, што вечарына прысвечана Вялікаму Паэту. Ашукаўся: сустрэча была прысвечана творчасці Эдуарда.

Дарэчы, ніхто з прысутных паэтаў (а былі і ўсе кіраўнікі СП, апрача Кудраўца) ні слова не сказаў мне наконт пасквіля Бондар у "Звяздзе", ды і наконт водпаведзі ёй у "Народнай волі". Як бы і не бачылі, і не чыталі. Не разумеюць, што публікацыя Пачвары — гэта пачатак таго страшнага, што ўжо аднойчы было ў Беларусі і кончылася 37-м? Ці, можа, яшчэ горш — думаюць: "а такі і варта, надта ж ужо... гэта самае!"? Ну, добра. Думайце, сябры, як знаеце. Але хто будзе наступны?

*10-га снежня.* Азваўся, нарэшце, і Янка Брыль. Пахваліў "абарончы" артыкул у "НВ". Параіў мне плюнуць на пасквіль...

*11-га снежня.* Сёння раніцой памёр Грахоўскі. Званіў унук Андрэй з СП, прасіў дапамагчы знайсці каго з начальства, у СП ні душы няма. Я знайшоў Акуліна, усё яму растлумачыў, той паабяцаў тэрмінова адшукаць Пашкевіча. Пазваніў Маруку, папрасіў перадаць Мачульскаму (сам не здымае трубку — нарада, так патлумачыў Марук). Пазваніў на кватэру С.І., пагаварыў з дачкой Тацянай. Калі будзе пахаванне, яны яшчэ не рашылі.

*12-га снежня.* Днём больш трох гадзін праседзеў у "Кнізе" ў Лапцёнка. Быў і старшыня Таварыства Прыгодзіч. Трымалі справаздачу кіраўнікі абласных аддзяленняў. Карціна зусім бязрадасная, фактычна арганізацыя кнігалюбаў развальваецца і гіне. Больш-менш весялейшая сітуацыя на Віцебшчыне. На Гомельшчыне засталіся дзве суполкі — Гомель і Мазыр. Тое ж і на Берасцейшчыне.

Усе ў адзін голас: няма беларускай кнігі! Наладзілі землякі свята паэзіі ў гонар Ан. Грачанікава — а ніводнай кнігі паэта на свяце не было. А адкуль быць? Ужо гадоў дзесяць яго творы не выдаваліся. Між іншым, маглі б узяць на сябе гэты абавязак улады вобласці. Само Таварыства памагло выдаць кніжыцы паэзіі Т. Мельчанцы і Н. Шкляравай.

Прапаганда беларускай кнігі сіламі дзяржавы нідзе не вядзецца. Зусім і ніяк! А рускіх (расійскіх) кніг усюды навалам, і рэклама на кожным кроку. Гэта і зразумела: гаспадар кнігарні мае расійскай літаратуры на сотні мільёнаў рублёў, і яе трэба прадаць. Дык яна і рэкламуецца. А беларускіх кніг у яго — на 6%, гэта ў лепшым выпадку. Дык і ліха з імі! Ці хто купіць ці не купіць — такой бяды, адзін працэнт пагоды не робіць (калі і гэты "адзін" ёсць — што сумнеўна).

У час пасяджэння зайшлі два агенты нейкай дзяржаўнай фірмы па распаўсюджанні расійскіх ілюстрацыйных часопісаў — два беларускія хлопцы, якія такім чынам зарабляюць грошы, у спадзяванні "скалаціць капітал" (што натуральна). Пакінулі ўзоры гэтых глянцавых размазюканых выданняў: "Разгадай" і "Сделай паузу". Такіх расейскіх выданняў — сотні, і завозяцца яны ў Беларусь мільёнамі экземпляраў. Тысячы кіёскаў і кнігарань забіты расейскай прадукцыяй, забіта, завалена ўся Беларусь! Не прадыхнуць! Пад гэтым навалам гіне беларуская душа, а значыць і сама Беларусь. Вось што значыць — антыбеларускі, антынацыянальны рэжым! Вось што значыць — нянавісць да "беларушчыны" ў душах кіраўнікоў краіны! Вось што значыць — рабскахалуйская прырода і парода тых, хто захапіў у Беларусі ўладу!..

У справаздачах прыводзіліся прыклады: маці адцягваюць у кнігарні малых ад беларускай дзіцячай кнігі, злосна прыгаворваючы: "Это на белорусской! Не надо!" Як і трыццаць гадоў назад. Нічога не змянілася! Нават яшчэ горш.

У 16.00 ужо быў у бібліятэцы імя Пушкіна — на сустрэчы з пісьменнікамі Берасцейшчыны (у рамках "Дзён Брэсцкай вобласці ў Мінску). Прыехалі: Н.

Мацяш, А. Каско, З. Дудзюк, А. Мазько, Ярына Дашына і інш., былі мінскія берасцейцы Р. Баравікова, Л. Дранько-Майсюк, У. Марук, В. Гардзей, яшчэ — У. Ягоўдзік. І чалавек 15 бібліятэкараў, усяго — чалавек 30. Вось такі "вялікі" літаратурны вечар, так сталічныя пабрацімы ўважылі і пашанавалі сваіх гасцей "берасцейцаў". Браў слова і на вечарыне і пасля ў застоллі. Асобна — тост за Ніну Мацяш. Хораша гаварылі і чыталі выдатныя вершы — госці. Несумненна, "берасцейскае вогнішча" сёння самае яркае. Але — які ж рэзананс? Які водгук? Які след у культурным жыцці сталіцы? Сем пісьменнікаў прыехала — сем прыйшло, 6 землякоў, ды стары Ніл Гілевіч. А дзе ж вялікая зала? Дзе тэлебачанне і радыё? Дзе карэспандэнты газет, у прыватнасці "ЛіМа"? Ды на сустрэчу з адной Нінай Мацяш павінны былі прыйсці сотні чытачоў беларускай літаратуры! Патрыётаў Роднага Слова!.. Божа, які сорам! Якая ганьба!..

*13 снежня.* Пахаванне С.І. Грахоўскага. А паўдванаццатай купіў кветкі і пайшоў на жалобны мітынг. Народу сабралася небагата (чалавек 150?), з іх — дзесяткі два-тры пісьменнікаў. Адкрыў — Кудравец. Затым гаварылі: Брыль, Гілевіч, Бураўкін, Тарас, Пашкевіч. Хоць быў прастуджаны, паехаў і на могілкі, аб чым, відаць, пашкадую: сопляў і хрыпаты ў бронхах дабавілася. А заўтра ісці ў тэатр (не пайсці — немагчыма).

На пахаванні, апрача маладых кіраўнікоў СП, не бачыў ніводнага 25-35-45-гадовага пісьменніка. Прыйшлі адны дзяды — каму за 50, за 60, за 70, за 80. Факт, які пра многае гаворыць. У пару нашай маладосці было зусім-зусім іначай. Старых, г.зн. настаўнікаў, маладыя шанавалі, і развітацца з імі было горка. Сённяшнім "маладым ваўкам" не тое, што не горка, ім проста — "да фені", "да лямпачкі", — як і творчасць дзядоў, так і іх смерць. У літаратуры сёння ёсць толькі яны — геніяльныя, несмяротныя, вечныя.

*14-га снежня.* Нягледзячы на прастуду, у тэатр "Беларускай драматургіі", на запрашэнне Анісенкі, усё-такі пайшоў, — бо ўжо запрашэнне паўторнае. Ды і хацелася паглядзець, што яны зрабілі з паэмы Купалы, — хоць і драматычнай, аднак жа надзвычай складанай для сцэнічнага ўвасаблення, бо — поўная сімволікі, алегарычных вобразаў такіх абстрактных катэгорый, як нараджэнне і смерць, як вясна і лета, як вясновыя і летнія святы... Спектакль вельмі відовішчны, маляўнічы, яркі, поўны маладой энергіі (часам аж залішняй), што моладзі (а ў зале былі пераважна старшакласнікі і гімназісты) асабліва падабаецца. Дарэчы, і ўсе выканаўцы роляў — зусім маладыя артысты, учарашнія выпускнікі ТМ Акадэміі. Энергія з іх аж прэ. Але ёсць і прычына для засмучэння — мова. Дакладней — вымаўленне. Тое, што і ва ўсіх тэатрах Беларусі. Вымаўленне — ніякае. Нават я (а многія строфы паэмы помню на памяць) не ўсё разумеў, што прамаўляецца на сцэне. А як жа — мінскія, гарадскія дзеці, школьнікі. Зрэшты, яны, па-мойму, у асноўным глядзелі, а не слухалі.

*15-га снежня.* Больш не магу — пара паміраць.

*18-га снежня.* "Народная воля" апублікавала тры лісты ў абарону Н.Г. ад грубага пасквілянцкага выпаду. Кліменцэнка сказала, што такія лісты ідуць у рэдакцыю патокам. Але ці будуць і яшчэ публікавацца — невядома. Ды такой бяды, калі не будуць! Важна, што ўжо народ сваё важкае слова сказаў. Асабліва значны момант падкрэсліў І. Лагуновіч: Бондар — гэта сучасны Бэндэ, з такіх лістоў-даносаў пачынаўся 1937 год. Важна і тое, што аўтары ўсіх трох лістоў — пажылыя людзі, удзельнікі Вялікай Айчыннай, а не зялёныя мітынгоўшчыкі ці хуліганы з "Зубра" — як бы сказала начальства. Маўляў:

хто заступаецца, хто абараняе? Дык вось дудкі, панове! Ветэраны Вайны і працы сказалі сваё слова.

Нечаканы і прыемны падарунак: Сакрат Яновіч прыслаў сваю мемуарную кнігу "Не жаль пражытага", з вельмі мілым подпісам. Кніга напісана рукой выдатнага майстра слова, гранічна шчыра, зусім даступна, часта — надзвычай дасціпна, яшчэ часцей — страшна балюча, горка, злосна, бязлітасна іранічна, роспачна, і ўсё гэта, апошняе, уваходзіла, калі чытаў, у маё сэрца. Прачытаў адным духам: за паўдня. Прынёс, сеў, разгарнуў і не падняўся, пакуль не прачытаў. Шкада, што "сюжэт" абарваўся на канцы 80-х. Думаю, апошняе дзесяцігоддзе было не менш цікавае ў жыццяпісу Сакрата. Можа, дапіша?

*19-га снежня.* Дні чатыры назад успомніў, што паабяцаў Пісьмянкову падборку балгарскага гумару і сатыры для рубрыкі "Класікі смяюцца". Уткнуўся ў зборнік "Смешки и болежки", і нечакана для сябе зачапіўся за адну "болежку" вокам і глуздом і — і пагнаў і пагнаў, на сёння ўжо эпіграм дваццаць гатова. Як бы знайшоў аддушыну ад чорных думак, ад беспрасветнай скрухі.

Прыкладна а паўтрэцяй, як і дамаўляліся, зайшла Н.М. Санько — з навагоднім падарункам: аж чатыры кнігі выдавецтва "Тэхналогія", сярод якіх неацэнны том "150 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі". Сапраўды, кнізе няма цаны. Што яны зрабілі, Санько і Саверчанка! І, вядома ж, Яўген Кулік, — асабліва, што датычыць афармлення (і не толькі!). І, вядома ж, Наталля Міхайлаўна Санько — і рэдактар, і карэктар, і стыліст, і макеціроўшчык... Пакуль што перагартаў толькі абегла, але магу пэўна сказаць, што здзейснены творчы і грамадзянскі подзвіг. Калі б гэту кнігу выдаць накладам 500 тысяч асобнікаў — каб у кожнай беларускай сям'і стала настольнай, — за адно дзесяцігоддзе ўсё насельніцтва Беларусі стала б нацыянальна свядомым і патрыятычным, і праблема нашага суверэнітэту і незалежнасці была б вырашана назаўсёды. Вядома ж, гэтая Кніга працавала б на душу і свядомасць народа не адна, а ў сукупнасці з іншымі (іх, дзякаваць Богу, нямала), але яна была б галоўнаю, тою, што "вядзе рэй", што цягне самы цяжкі плуг нашага нацыянальнага адраджэння. Як жа зрабіць гэта — як аддрукаваць і распаўсюдзіць 500 тысяч паасобнікаў?

*20-га снежня.* Прыйшла пошта з Балгарыі — газеты і лісты. У Сафіі, паведамляе Найдзен, выйшаў том-трыпціх: Купала, Колас, Багдановіч. Брава, сябры-браты балгары! Адбылася ўжо і прэзентацыя, як я зразумеў — досыць прадстаўнічая. Былі Рыма Германава і сын Давыдкава Яраслаў, апошні чытаў пераклады бацькі, што мяне кранула амаль да слёз. Дарагія, мілыя людзі!..

Апаўдні зайшоў В. Болтач, прынёс абяцаныя газеты з праўдай пра партызан Лагойшчыны (два нумары "Беларускай газеты") і расказаў пра ўчарашні агульны сход Літфонда Беларусі. Як і было задумана, да кіраўніцтва Літфондам прыйшлі лукашэнкаўцы. Тое, што расказаў Болтач, а пасля брат Мікола (па тэлефоне), паставіла ўсе кропкі на свае месца. Узяты магутны рэванш за з'езд. А галоўнае... галоўнае, што і выйсця няма: Літфонд даўно голы, ад "Іслачы" засталіся рожкі ды ножкі, ён даўно не дзейнічае, пустуе. Банда (іначай не назавеш) зрабіла сваю цёмную разбойную справу. Дзеля гэтага яна і прыбрала да рук Саюз пісьменнікаў, — з уласцівым ёй цынізмам і пагардай да беларускіх паэтаў і пісьменнікаў. Ну, а бедныя, няшчасныя капыловічы ды слаўковічы — ім абы хоць нейкая костка са стала, хоць абгрызеная.

Ну, што ж, праз колькі месяцаў гэтага СП, што здабыў перамогу на з'ездзе, не стане. Адбудзецца новы сход (кангрэс, з'езд), будзе выбрана новае кіраўніцтва,

— хто не падзяляе ідэйныя пазіцыі і агульны палітычны курс Урада, — прэч, вон, каб і духу не смярдзела! Або — сядзіце і не шкніцеся!.. Дык хоць пуцёўку са скідкай атрымаеце ў Дом творчасці, калі, вядома, ён будзе наш.

*21-га снежня.* Прачытаў учарашні "ЛіМ". Пра юбілей А. Васілевіч і У. Рубанава (было б 50 усяго). Добра напісаў пра А.С. Б. Бур'ян — справядліва. Усё-такі пісьменніца яна выдатная — і адметная. Чым? Інтэлігентнасцю, высакароднасцю таленту, а г.зн. сваёй чалавечай сутнасцю, "светлая Панна" ў нашай літаратуры, — сказаў Бур'ян. Правільна. Святло, дабрыня, любоў — у аснове. Можна і так сказаць: паэзія. Яе проза вельмі паэтычная. Такія апавяданні, як "Мыс Добрай Надзеі", — гэта ж паэма. Дый усе яе аўтабіяграфічныя аповесці. І эсэістычныя нататкі.

У маштабнага пісьменніка вырастаў таленавіты Рубанаў. Некалі я падтрымаў яго добрым словам, — яшчэ пасля першага апавядання ў "ЛіМе". Пісьменнік моцнай унутранай культуры думання і пісьма, уважлівы да стылю, прынцыпова строгі ў пошуках свайго слова, ды і мысляр цікавы, аб чым сведчаць апублікаваныя ў свой час яго афарызмы і дзённікавыя занатоўкі. І трэба ж! — на 42 годзе памёр, ды і з-за нейкай недарэчнасці, нібыта. Трэба будзе ўдакладніць у Масарэнкі.

*22-га снежня.* Каля 9 патэлефанаваў Алене Сямёнаўне — павіншаваў, пажадаў здароўя, падзякаваў. Падзякаваць ёсць за што. Хай Бог будзе міласэрны і дасць ёй "затрымацца" доўга-доўга.

Пазваніў і Масарэнку. Наконт смерці У. Рубанава ён сказаў: была п'янка, пілі "раял" (а гэта атрута), стала кепска, жонка не выклікала "хуткую" — і ўсё. "У труне, кажа, у яго былі чорныя пазногці". Уладзіслаў быў траюрадным братам Алесю; Рубанаў — гэта прозвішча па маці (бацькава — Фурсан). Вельмі цікавыя дзённікі Уладзіслава, па словах Масарэнкі, могуць загінуць (дзесяць агульных сшыткаў). Капаўся ў іх Асташонак, хваліўся, што шмат чаго ў іх павыкрэсліваў... Калі гэта праўда — то чорт ведае што робіцца! Крэсліць у чужых дзённіках?

*23-га снежня.* Напісаў лісты ў Балгарыю і Сакрату ў Крынкі, папраўдзе, не лісты, а разгорнутыя навагоднія віншаванні. Балгарскіх сяброў трохі праінфармаваў пра літаратурную сітуацыю ў Беларусі і пра сваё незайздроснае становішча, — не стала дзе друкавацца, пачну пісаць у прыскрынак. Сакрату сказаў колькі добрых слоў пра яго кнігу "Не жаль пражытага", ад якой і Ніна ў захапленні.

*24-га снежня.* Маладзечанскія хлопцы (М.Казлоўскі і А. Капуцкі) прывезлі наклад (100 асобнікаў) "Паланэза" Агінскага". Дзесяць забралі сабе (7 падпісаў і 3 у запас), мне засталося каля 90, з якіх кніг 20 раздам (родным, сябрам, у бібліятэкі), а рэшту трэба неяк прадаць, каб хоць трохі вярнуць грошы. (Ніна была засмучана, як даведалася, што кніга выйшла за мой кошт, і я яе разумею: у нашым жабрацкім становішчы і такія выдаткі досыць адчувальныя.) Афармленне кнігі мне спадабалася, асабліва — вокладка, колер і малюнак. Партрэт размешчаны няўдала (я яго ўвогуле не планаваў, гэта "самавольства" Міхася). Шрыфт — трохі "цяжкаваты", мог бы быць трохі святлейшы, рамачкі на старонках мне здаліся дарэчнымі, а Ніна палічыла іх лішнімі. Складзена кніга добра, маю на ўвазе падбор вершаў, але некаторых — не далічыўся, аб чым шкадую. Калі б кніга выйшла ў канцы 2000-га — было б лепш, бо, за выняткам 15-20 вершаў, усё астатняе было ў трэцім томе. Там наклад —

3000, а тут — 100. Выданне сімвалічнае. Зрэшты, так яно і задумвалася. Мне хацелася, каб новыя вершы і менавіта гэтыя дзве паэмы выйшлі асобным выданнем — як чарговы зборнік паэзіі. А ўвогуле — сумна. Ну што такое сто паасобнікаў? Хто кнігу ўбачыць і прачытае? Нешта на гульню крыху падобна. Як малыя дзеці (і я ў тым ліку) рабілі кніжачкі ў адным экземпляры, і нават дроцікамі счэплівалі.

*25-га снежня.* Адправіў віншавальныя лісты Н. Мацяш, Д. Бічэль, Ю. Голубу, у якіх пастараўся і сёе-тое сказаць не святочнае. Тое, што магло б стаць прадметам гаворкі больш шырокай, бо з такімі людзьмі ёсць пра што гаварыць і ў імя чаго гаварыць. Рад быў бы (даўняе жаданне!) і напісаць колькі слоў пра кожнага з іх, але... агіднае, абрыдлае пытанне: а хто надрукуе? Я ж не абмяжуюся размовай толькі пра майстэрства, — ні ў якім разе!..

*26-га снежня.* Адшліфоўваў эпіграмы, напісаныя крыху раней, і новыя, — з разлікам на “Народную волю”. Добра было б і эпіграмы, і жарты, і іншыя сатырычныя мініяцюры (фрашкі?) выдаць асобнай кнігай. Іх у мяне не менш як дзвесце, а можа, і болей. Адкінуўшы, вядома, не лепшыя. Не сумняваюся, што чытач (пакупнік) знайшоўся б. Але — каму прапанаваць, хто выдасць? Лапцёнак ухапіўся б, кніга дала б прыбытак, дык жа дарога “завалена” Першым Томам Збору, — пакуль не ўбачу і не прыцісну да сэрца Яго — ні аб якім іншым выданні не можа быць гаворкі.

Купіў і пагартаў новы нумар “Архэ” — дзеля Канвіцкага. Але пачаў з артыкула рэдактара часопіса В. Булгакава — агляду і аналізу кніг пра беларускі нацыяналізм (Арлова, Дубаўца, Лыча, Родзькі, Лукашука, Ёрша... У Н. Г-ча, канечне ж, прац на гэту тэму няма). Затым прачытаў інтэрв’ю з А.Хадановічам і матэрыялы аб ім, — нумар прысвечаны яму, як новай зорцы ў беларускай паэзіі.

*27-га снежня.* Брылёўна, як мы ласкава завем яе дома, забрала ў мяне рукапіс Чацвёртага тома — нібыта для канчатковай падрыхтоўкі да здачы ў набор. Рукапіс ляжаў у выдавецтве восень і зіму, тады, як стала вядома, што том пераносіцца на 2003, я забраў яго, недзе ў красавіку, каб там не пыліўся. Ну вось, месяцаў дзевяць праляжаў у мяне, а сёння Наталля панесла яго зноў у выдавецтва. Выказала пры гэтым нейкі аптымізм, але, але!.. Зусім не туды ўсё хіліцца, зусім не туды! Калі б прадаўся ці хаця б сядзеў моўчкі, “гніды падшчамя”, — дык быў бы і аптымізм, а затым і вынік.

Вярцінскі падсунуў мне нумар “Нёмана” з раманам А. Прахананава — наўмысна, каб я прачытаў. Дык такі і прачытаў. Канцэптуальна, па ідэйна-эстэтычнай і палітычнай сутнасці — нічога новага для мяне не адкрылася. Усё тое, што я і мог чакаць. Хіба што смачна выпісаныя сцэнкі ўразілі, але ж гэта — дэталі. А ўвогуле — няшчасная, няшчасная Расея!.. А яшчэ горш няшчасныя мы!..

*29-га снежня.* Паэт з Берасцейшчыны Іван Лагвіновіч прыслаў мне два свае зборнікі вершаў — “Разлукі выраёвыя” і “Піліпаўка” (2000 і 2001; блаславілі ў свет — Пракаповіч Мікола і Алесь Каско, малайцы хлопцы, што заўважылі і падтрымалі гэтага таленавітага паэта). Лагвіновіч больш трыццаці гадоў ахвяраваў Данбасу, палавіну з іх, калі не болей, у падзямеллі, калоў вугалёк для Радзімы, нажыў цяжкую хваробу лёгкіх, у 50 гадоў выйшаў на пенсію і вярнуўся на Бацькаўшчыну, з 1992-га жыве ў Баранавічах. Вярнуўся паэтам — сталым, моцным, самабытным і — з добрай беларускай мовай (у Данбасе шмат друкаваўся на данбаса-рускай).

Лагвіновіч пытае парады, ці варта яму ўступаць у СБП. Сам я гатоў выйсці з гэтага СБП, але рэкамендацыю яму напішу, — пакуль у Саюзе ёсць Каско, Пракаповіч, Мацяш і... я, грэшны, — ён будзе з намі.

*30-га снежня.* Не зусім дарэчы, бо — пераднавагодняя мітусяніна, зайшлі з “рабочым пытаннем” Андрэй і Алена Лапцёнкі. Яны будуць складальнікамі зборніка паэзіі пра Беларусь, які мяркуецца выдаць у серыі “Народная бібліятэка”. Задума гэта належыць Лапцёнку-бацьку; я горача яе падтрымаў: абавязкова такую кнігу трэба выдаць, — кнігу, якая будзе істотна адрозніваццa ад ранейшых (часоў СССР) тым, што не мецьме слядоў хваласпеву бальшавіцкай імперыі, што адлюструе самае шчырае і самае запаветнае слова беларускіх паэтаў пра сваю “краіну-бранaчку”. Натуральна, у ёй будуць прадстаўлены паэты новых пакаленняў і — што асабліва важна — паэты з беларускай дыяспары, паэты-эмігранты, слова якіх пра Беларусь раней на радзіме не гучала. Гэта я і сказаў сёння “на кансультацыі” ўкладальнікам будучай кнігі.

*31-га снежня.* Вось і завяршыўся 2002-гі — чорны, нядобры, неспрыяльны год. Нядобры і для маёй Радзімы, і для майго народ, а значыць — і для мяне. Нічога, што хоць бы трохі ўсцешыла душу, ён не прынёс.

А што напісаў за год? Жменьку “танкаў” ды дзесятак публіцыстычных цыдул? У такім узросце, калі трэба даражыць кожным днём? На што ж я зблоціў 52 тыдні? Да таго ж і здароўе ссадзіў — у нейкую разваліну ператварыўся... І ад Новага — анічогачкі не чакаю. Анічагусенькі!..

***

Завяршыўся 2002-і — завяршыўся і дзённік майго жыцця. Больш запісаў не раблю. Не бачу сэнсу. Каб нехта некалі зразумеў, у які час я жыў і як лёс са мной і з намі абыходзіўся, — дастаткова таго, што напісана: і ў дзённіку, і ў артыкулах, і ў вершах...

Бывай, мой самы шчыры суразмоўца! Сказаць “да сустрэчы”, на жаль, не магу. Бывай!

*Ніл ГІЛЕВІЧ*



Уладзімір Някляеў



...прыснілася,
што ёсць на свеце Бог...

# Знакі прыпынку

* * *

Веданне таго, што мы ніколі не скончымся, не знікнем, даецца нам яшчэ да жыцця, да зямнога лёсу — і яно, тое веданне, на час жыцця забытае ці аднятае, палягае ў аснове нашых фантазій пра неўміручасць. Калі не пра неўміручасць нас такіх, якія мы ёсць, дык пра неўміручасць нас нейкіх іншых, якімі мы ў той неўміручасці (вечнасці душы) станем... Так ёсць, так павінна быць, бо інакш мы не адважыліся б мець тых, пра каго немагчыма, невыносна думаць, што некалі іх нідзе не будзе — дзяцей і каханых. Так ёсць, бо іначай мы — вар'яты.

* * *

Першае, што помніцца, — маці...

Яна нахіляецца нада мной, за ёю — праз вокны — сонца, залатыя валасы казычуць шчаку, шчабеча рук яе радасць ластаўчыная: «Хлопчык мой...»

Светла. Святочна і далёка.

...Пройдуць гады — і буду чакаць сына. Пераканаы буду,

што народзіцца сын. Я ўяўляў сабе нашую з ім мужчынскую кампанію, нашыя з ім мужчынскія размовы...

Нарадзілася дачка.

Доктар рагатаў: «Тут вам не стол заказаў». І ва ўсім я вінаваціў дактароў з іх недарэчнымі жартамі.

Якія былі жарсці!

Сёння не ведаю, чым за дачку аддзячыць лёсу. Мы далі ёй імя Ева, што значыць жыццё. Шчабеча рук яе радасць ластаўчыная: «Татка мой...»

* * *

Мы з братам спазніліся...

У шпітальнай палаце стаялі шэсць жалезных ложкаў, і на пяці ложках ляжалі хворыя жанчыны, а шосты быў пусты, зусім пусты, з яго нават матрац знялі, праз драцяную сетку віднелася пафарбаваная драўляная падлога, пад ложкам нявытаптаная, таму нібыта гусцей пафарбаваная, чым пасярод палаты, дзе мы застылі, дапытліва пазіраючы на хворых старых жанчын, у якіх не было пра што пытацца, бо ўсё відавочна. Але я ўсё ж спытаўся: «А дзе Настасся Іванаўна?..» І пяцёра хворых старых жанчын неяк паспешліва, адна перад адной, я ніколі не забуду гэты хворы, старэчы хор, на розныя галасы прапелі, прамармыталі: «Памерла... памерла... памерла... памерла... памерла...»

Маці ляжала ў трупярні адна — зусім голая на высокай, мне па пояс, кушэтцы. Зрадзела-пасівелыя валасы, абветраны, снегам шэрпаны і сонцам палены твар, спрацаваныя, у вузлах і зморшчынах рукі, стаптаныя на падэшвах, стрэсканыя ногі і — ад грудзей па калені — гладкае-гладкае, белае-белае, маладое-маладое, яшчэ цёплае цела. Недагладжанае, недапешчанае, недалашчанае...

Мы купілі ёй самую прыгожую, якую толькі знайшлі ў Смаргоні, сукенку. Пры жыцці пра такую яна і не марыла.

Пры жыцці, калі я пытаў: «Што падарыць табе на дзень нараджэння?» — кожны раз адказвала: «А ты дай мне якую капейчыну, я сама сабе куплю што-небудзь...» І купляла парсючкоў. Каб вазіць мне і брату кілбасы, вяндліну... Цягала і цягала ў Мінск тое мяса разам з трохлітровікамі марынаваных гуркоў, памідораў. Прыязджала з такімі клункамі, што не падняць. Калі мы казалі ёй, каб не гарбела, не цягала, бо ўсё ў крамах ёсць, слухала, галавой ківаючы: «Ёсць — і дзякуй Богу...»

Аднойчы, не паддаўшыся на яе хітрыкі з капейчынай, за якую сама сабе яна што-небудзь купіць, я завёў яе ў смаргонскую краму і купіў ёй футра. Назаўтра, калі мы справілі дзень яе нараджэння і з’ехалі, яна пайшла на кірмаш, прадала футра і купіла парсючкоў...

Днём ёй не было калі, а ўвечары, пакуль вочы бачылі, яна чытала... Беларускія кнігі, расейскія, польскія... Яе здзіўляла, што людзі ўсё пішуць і пішуць, калі ўжо ёсць Святое пісанне, — і ёй цікава было: што ж яшчэ нехта можа прыдумаць, апроч таго, што прыдумаў Бог?

Траціну жыцця прарабіла яна бухгалтаркай у канторы машынна-трактарнай станцыі і расказвала майму малодшаму брату казку пра чарцяня з іменем Бухгалтар, якое прыдумала бухгалтэрыю.

Бацька быў хворы на рак, сам ужо не ўставаў, і мы не казалі яму, што маці памерла, пакуль не прывезлі яе дахаты ў труне. Вывелі яго, каб развітаўся, у пакой, дзе яна ляжала, і ён схіліўся да яе і спытаў, з ёй жыццё пражыўшы: «Хто гэта?..» І я да сёння — грудзьмі і спінай — помню, як працяло, наскрозь пранізала мяне гэтае, здавалася б, амаль вар’яцкае пытанне.

Мы пахавалі маці ў Крэве, дзе яна нарадзілася і куды хацела вярнуцца на вечны спачын — да бацькоў, да дзядоў, да продкаў... Побач з ёю пакінулі месца для бацькі.

Бацькавы продкі — на беразе Волгі, там ягоныя крэўныя магілы, і ён, памёршы ўжо, не хацеў класціся ў Крэве. Гэтак упарціўся, што, калі мы з братам везлі яго ў труне з Мінску, спыняў нас, не даваў ехаць машыне, глушыў і глушыў, як спрактыкаваны механік, матор. Потым ён ляжаў, знясілены змаганнем, у тым жа пакоі, у якім ляжала нядаўна маці, і я, стоячы на тым жа месцы, на якім ён развітваўся з ёю, пытаўся, над труной схіляючыся: «Хто гэта?..»

...Некалі мы схіляліся з маці над хуткаплыннай вадой рэчкі Крэўлянкі, адбіваліся ў ёй разам з небам і аблокамі, і маці пыталася ў мяне, малога, на мой адбітак паказваючы: «Хто гэта?.. Ну, скажы, хто?..» Я кідаў у ваду, у неба з аблокамі камень — і ў кружным рабінні на вадзе не ставала нікога.

* * *

У дзяцінстве, ранкам прачнуўшыся, я амаль заўсёды знаходзіў свае чаравікі — кожны паасобку — у розных кутах. Дзед казаў: «З табой дамавік гуляе». Хоць ведаў, што звычка ў мяне такая: кідаць, кладучыся, чаравікі абы-куды. І прыкмета аднекуль узялася: ісці ў адным чаравіку — скарачаць зямны шлях маці. Колькі крокаў ступіў — на столькі дзён скараціў. Таму, абуўшы адзін чаравік, я скакаў да другога на адной назе, але колькі я на адной назе ні скакаў — маці ўсё адно памерла.

Мы не можам ніяк, нічога і нікога ўратаваць?..

Хіба нельга было ўзяць адзін чаравік і басанож падысці да другога?.. Можна было. Але такое простае вырашэнне праблемы жыцця і смерці ніводнага разу не прыйшло мне ў галаву.

* * *

Прыснілася, што ёсць на свеце Бог.

* * *

Спытаўся ў сasнёнага Бога: «У чым сутнасць майго жыцця? Дзеля чаго я на свеце?..» Бог адказаў: «Дзеля апошняга імгнення. Уся сутнасць твайго жыцця ў апошнім імгненні».

У сне я падумаў, што пачуў банальнасць. Ці нават глупства, калі Бог не схітраваў. Што можа стацца ў тое апошняе імгненне?

Прачнуўшыся, зразумеў, што гэта не банальнасць. Тым больш — не глупства. Бог не кажа глупстваў нават у сне.

* * *

Усё, што ўсведамляе сябе, — смяротнае. Несмяротнае толькі тое, што сябе не ўсведамляе. Калі нават існуе яно ўсяго імгненне.

* * *

Уменне жыць — ва ўменні радавацца жыццю. Больш ні ў чым.

* * *

Усміхайся! Гэта раздражняе.

* * *

У Джона Фаулза: «Скептычная, але ўтульная ангельская душа — іронія напалам з умоўнасцямі».

Як бы да ўмоўнасцяў дадаць іроніі няўтульнай беларускай душы?

* * *

З літаратурнай крытыкі савецкіх часоў: «Адна з задач мастацтва — высвеціць патаемнае ў чалавеку...» І высвечвалі, які homo sovetikus патаемна перадавы патрыёт, грамадзянін, сямейнік...

Патаемнае ў чалавеку — брыдкае. Гэта найперш ягоныя патаемныя страсці. Комплексы. Хто стане хаваць прыгожае?..

Мала хто пакапаўся ў патаемным гэтак, як Дастаеўскі. Страсці кахання, сумлення, веры... А Зігмунд Фрэйд даводзіў, што патаемнае ў Дастаеўскім зусім іншае. Ён сцвярджаў, напрыклад, што страсць да гульні ў Дастаеўскім разам з везвыніковай барацьбой за тое, каб пазбавіцца ад яе, гэта працяг ягоных мастурбацый, непазбытая цяга да ананізму.

У самога Фрэйда, мяркуючы па ўсім, прыблізна гэткія ж патаемнасці.

А дзе ў Дастаеўскага пра «непазбытую цягу»? Нават у «Запісках з падполля», рэчы самай патаемнай, пра гэта няма. А было толькі, як можна здагадацца, у лістах да віцебскага гімназіста Уладзіміра Стукаліча. Тым жа гімназістам, па настойлівых патрабаваннях Дастаеўскага, спаленых.

Патаемнае ў чалавеку — гэта тое, што пасля яго — попел, прах, зямля. Толькі гэта.

* * *

Найцяжэй прывыкнуць да чалавечай разнастайнасці. Адсюль: інакшых не павінна быць!

* * *

Чаму самога хамелеона ніхто не папікае тым, што ён хамелеон, а чалавека з гэткімі якасцямі папікаюць, хоць чалавек з гэткімі якасцямі жыве гэтак жа натуральна, як і хамелеон?..

* * *

Літоўцы ў парку Грутас пад Друскенікамі музей зрабілі, сцягнуўшы ў лес пры беразе возера ўсіх бронзавах леніных, сталіных ды іншых правадыроў, колькі ў Літве іх знайшлося. Бібліятэку з экспанатамі сталінскіх часоў і творамі правадыроў змайстравалі, і ў бібліятэцы той (на сцяне на чырвоных шыльдачках) дзве цытаты з Леніна (пад ягонымі партрэтамі):

«Запомните. На Россию мне наплевать, ибо я большевик!»

«Будьте образцово беспощадны! Расстреливать никого не спрашивая и не допуская идиотской волокиты!»

Такі вось «лучший сын России», як пісаў пра яго... ды ці мала хто і што пісаў. У тым ліку і я ў паэме «Вера»: «Ёсць вера веры, гэта вера — Ленін».

Радкі з паэмы лёгка выкінуць. Нешта ці некага выкінуць з сябе куды як цяжэй.

* * *

Я сябраваў з Аляксандрам Кішчанкам, бліскучым мастаком. Пад скон жыцця (не ведаючы і не мяркуючы, канечне, што пад скон) ён стварыў неймаверных памераў габелен з выявамі найвыбітных прадстаўнікоў чалавецтва, назваўшы яго «Габелен веку». Як назіральнік працэсу, я захапляўся і якасцю, і маштабнасцю працы.

Калі габелен быў амаль завершаны, партрэты геніяў і герояў размешчаныя ад верху да нізу, у самым версе засталося месца, дзе, як вяршыня ўсяго, павінна была з'явіцца выява Бога. Кішчанка спытаў, хто там, побач з Богам, павінен, па-мойму, быць?

Пытанне не здалося мне дзіўным, мы размаўлялі і не на такія тэмы. Але як я ні спрабаваў, гэтак і не здолеў уявіць, хто ж з людзей – хай сабе нават выключна ў фантазіях аўтара мастацкага твора – можа суседнічаць з Госпадам? Не ведаў я, хто там, у самым версе на габелене павінен быць...

На прэзентацыі свайго ўнікальнага твора мастак Аляксандр Кішчанка паказваў прэзідэнту Аляксандру Лукашэнку, дзе той, як найвыбітны прадстаўнік чалавецтва, у дадзены момант знаходзіцца: у самым версе «Габелену веку». Побач з Госпадам. Нават трошкі вышэй.

І гэта зрабіў сапраўдны мастак. Настолькі сапраўдны, што можна было б меркаваць, што партрэт Лукашэнкі, размешчаны на габелене вышэй за выяву Бога, – гэта выклік. Вытанчаная дэманстрацыя супроцьстаяння мастака і ўлады, творчая знаходка, прыхаваная форма непрыхаванага здзеку. Так можна было б меркаваць, калі б яно было так...

* * *

Калі ў грамадстве ёсць супрацьстаянне мастака і ўлады, значыць, грамадства не свабоднае. Таму што свабодзе мастак не замінае. Свабода з мастаком не змагаецца.

* * *

Неяк Аляксандр Кішчанка, у якога, апроч таленту мастака, быў яшчэ і талент апавядальніка, распавёў пра сваё жыццё-быццё ў Кіеве ў адным жытле з Сяргеем Параджанавым.

Параджанаў, як усялякі паўднёвы чалавек, выдаваў сябе за тонкага знаўцу ўсіх на свеце напояў. І аднойчы прывёз гляк віна з Грузіі, сказаўшы, што ні Кішчанка, ні хто-небудзь іншы ў Кіеве такога боскага пітва не смакаваў, таму сёння ён ладзіць вечарыну, каб хоць сябры сапраўднага віна паспрабавалі і да скону за тое яму, Параджанаву, былі ўдзячныя. З тым і пайшоў кінарэжысёр Параджанаў на кінастудыю, а мастак Кішчанка, пакуль Параджанаў працаваў і збіраў гасцей, пабегаў па крамах, накупіў процьму рознай брыдоты, якая ў той час называлася вінам, зліў усё ў адзін тазік, дадаў цукру, мёду, спецый, нагрэў гэты жудасны кактэйль на агні, астудзіў і напоўніў ім гляк, перад тым разліўшы віно, якое ў гляку было, у пляшкі з-пад брыдоты. Вечарам з'явіўся Параджанаў з гасцямі, пачаў з гляка наліваць, разам з усімі піць, смакаваць, пытацца: «Ну як?..» – і ўсе вочы закочвалі: «О, боскае віно!..» – а калі тое «боскае» скончылася і Кішчанка з пляшак з-пад брыдоты стаў наліваць сапраўднае віно, дык усе госці (і першы Параджанаў) сказалі: «Якое г...»

Такія ўсе мы самельє – і так «разбіраемся» не толькі ў вінах.

* * *

У Міхася Стральцова ў вершы «Глухата» два апошнія радкі:

> Нянавісці да сябе
> Праз сцяну не пачую.

Калі глухата, дык, канечне ж, не пачую. Але ці не дакладней было б — не па слыху, а па руху, па сэнсе — не адчую? І нават не ў будучым часе, а ў цяперашнім: «Нянавісці да сябе праз сцяну не адчуваю». Не столькі праз нейкую сцяну рэальную, колькі праз тую, якая ў табе самім.

Зрэшты, пра што пытаюся?.. Стральцоў сам напісаў радок, які быў мне некалі рухам паказаны:

> І не даецца сэнс, нібы руцэ паветра.

І ён хапаў тое паветра, хапаў... Не ўхапіўшы, сагнуў локаць правай рукі — і зверху на яго далонь рукі левай: «Во!»

* * *

З Піменам Панчанкам на пісьменніцкім з'ездзе стаялі на лесвічнай пляцоўцы і курылі. У зале пляскалі ў далоні, тупалі нагамі, свісталі, зганялі з трыбуны прамоўцаў. Пімен Емельянавіч дакурыў цыгарку, кінуў акурак у сметнік і сказаў: «Трыццаць гадоў назад тупалі мацней».

* * *

Міхась Стральцоў задаваў, здаралася, зусім нечаканыя пытанні. Ну, да прыкладу: «Калі ты паэт, дак скажы, што такое кондак?..»

Пра кондак ніхто (у тым ліку я) нічога не ведаў. Але я дазнаўся з энцыклапедыі, што гэта такое, і калі ў бары Дома літаратара Міхась Лявонавіч запытаўся пра той кондак у Міколы Федзюковіча, я за таго адказаў.

«Кондак — жанр візантыйскай царкоўнай паэзіі, назва якога паходзіць, магчыма, ад грэцкага kontakion, што значыць кароткі, але больш верагодна — ад цюркскага kondgar, што можна перакласці як настаўленне на шлях ісціны». (З энцыклапедыі).

Прыкладна так, як напісана ў энцыклапедыі, я і сказаў.

Уразіў мой энцыклапедычны адказ не столькі Стральцова, які ўхвальна кіўнуў: «Малайчына, што прачытаў, паэту трэба ведаць прафесію», — колькі Міколу. Ён хадзіў ад стала да стала і ўсім прапаноўваў наліць і выпіць за мяне, стоячы, бо такіх разумных, як я, ён не сустракаў і ўжо наўрад ці сустрэне, хоць сам скончыў літаратурны інстытут. Аляксей Дудараў, з якім мы тады вельмі блізка сябравалі, амаль заўсёды і паўсюль бывалі разам, выпіць за мяне згадзіўся, але ўставаць, седзячы з Жэняй Янішчыц, не захацеў, спытаўшы: «А з чаго ты ўзяў, што Някляеў такі разумны?» Мікола пачаў тлумачыць яму, чаму: «Бо Някляеў ведае... ведае... бо ведае... бо...» — ніяк не мог ён, нахадзіўшыся ад стала да стала, успомніць, чаму я разумны, а Дудараў усё чакаў, не ўставаў, шклянка ўсё не налівалася, і Мікола скончыў знясілена: «Бо ты кондак!..»

«Не энцыклапедычна, але лагічна», — пачуўшы гэта і ціха засмяяўшыся, сказаў Стральцоў.

* * *

«О, таямніца кніг, скажы, з якіх людскіх глыбінь ты цуды здабывала? Твой зачынальнік слоў не знаў і мала свет разумеў, не меў матык і сох, маўчаў, як сом, пакуль бяда не ўзяла за шчэлепы яго і на пясок не кінула, пакуль сярод начы яго душы нямой, сканаць гатовай, не загадала: — Дыхай, плач, крычы, нябыт цяжкі пазбудзь не рыб'яй мовай».

Куляшоў...

Калі развіталіся, над труной вар'яцеў лютаўскі вецер, і снег ляцеў стужкамі, уверх, уніз і ў бакі, і стужкі скручваліся адна з адною ў трубачкі, жорсткія, як драцяныя, на якія чапляюць папяровыя кветкі.

Калі развіталіся, чорна-чырвоная стужка ў некага зляцела, яе перакідвала ветрам ад магілы да магілы — і ніхто яе не падымаў. З дэталяў чамусьці рэзка запомнілася менавіта гэтая беспрытульная чырвона-чорная стужка жалобы.

* * *

Паэзія — што? Паэзія — дзе?

Паэзія ўсё. Паэзія скрозь.

Звыклае пытанне — звыклы адказ. Банальны і разам з тым — агульнымі

намаганнямі геніяў і звычайна смяротнага люду — узведзены ў ступень ісціны.

Аднак любая ісціна — рэч рухомая. Хоць бы таму, што мае ступені разумення.

Сорак тысяч літаратурных кансультантаў скажуць вам: паэзія — у зямлі, у вадзе, у паветры. Разліта ўсюды. Трэба толькі бачыць.

Ісціна.

Толькі нідзе паэзія не разліта.

Калі яна ў вадзе, то вада тая ў глыбіні глыбінь. На паверхні ж — прывід, міраж. Фантастычнае відовішча, якое бачыш, але паміраеш ад смагі.

Смага — не прага піць, а прага жыць. Напіцца можна і атручанай вады. Але ж ідзеш, караскаешся, паўзеш да чыстай. Да той, якая цябе ўратуе. Тая вада — святая.

Паэзія — прага перажыць. Здольнасць нанава пражыць тое, што пражываецца толькі аднойчы. Намаганне прабіцца, прагрызціся, прарвацца на першароднасці думкі, пачуцця... Як да вады, да той святой, што цябе ўратуе.

Пры адсутнасці смагі і адсутнасці пражывання ствараем міражы і наталяемся міражамі.

* * *

Ёсць вершы з сакрэтамі — і ёсць з таямніцамі. Сакрэт разгадаў — і ўсё, верш назаўсёды скончыўся. Таямніцу ж не разгадаць. Да прыкладу, таямніцу Багдановіча: «Ў краіне светлай, дзе я ўміраю, у белым доме ля сіняй бухты...» Альбо таямніцу Бараташвілі ў перакладзе Пастэрнака: «Этот синий-синий иней мглы над именем моим».

* * *

Ганна Ахматава ў размове з Усеваладам Івановым:

«Я была в великой славе, испытала величайшее бесславие и убедилась, что в сущности это одно и то же».

Хто не пражываў такое, ніколі ў такое не паверыць. Але гэта праўда.

* * *

Выступаючы ў Менску на III пленуме праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў (1936 г.), Барыс Пастарнак сказаў: «В течение некоторого времени я буду писать плохо с прежней точки зрения, вплоть до того момента, пока не свыкнусь с новизной тем и положений, которых хочу коснуться».

З чаго раптам ён пастанавіў пісаць кепска «вплоть до того момента, пока...»

Зразумець гэта немагчыма, калі не ведаць, чаго Пастарнак баіцца. За два месяцы да пленума ў газеце «Известия» былі надрукаваныя два ягоныя вершы («Я понял: все живо...» і «Мне по душе строптивый норов...»), якія не спадабаліся нікому: ні літаратарам (Ю. Тынянаў, як сведчыць К. Чукоўскі, сказаў у звязку з гэтай публікацыяй: «Пастернак опустошен и пишет черт знает какую ерунду»), ні ўладзе, якая палічыла згадванне ў гэтых вершах імёнаў Леніна і Сталіна («И смех у завалин, И мысль от сохи, И Ленин, и Сталин, И эти стихи») здзеклівымі. Вось Пастарнак і спрабуе патлумачыць гэта тым, што стаў пісаць (і будзе пісаць яшчэ нейкі час) кепска, і пра тыя два свае вершы кажа амаль што словамі Тынянава, нібы Чукоўскі яму (што магло быць) іх пераказаў: «Два таких стихотворения я напечатал в январском номере “Известий”, они написаны сгоряча, черт знает как...»

Праз 20 гадоў, калі Сталіна ўжо не стане, Пастарнак напіша, што ў вершы «Мне по душе строптивый норов...» ён меў на ўвазе Сталіна і сябе: «Но кто ж

он? На какой арене / Стяжал он поздний опыт свой? / С кем протекли его боренья? / С самим собой, с самим собой». І скажа, што гэта была «искренняя, одна из сильнейших (последняя в тот период) попытка жить думами времени и ему в тон».

Гэта ўжо спроба апраўдання не перад некім (Тынянавым ці Сталіным), а перад самім сабой. Маючы свой досвед (дзякуй Богу, без пагрозы расстрэлу) у памкненнях «жыць думамі часу і яму ў тон», магу сказаць, што спробы такія безвыніковыя. Ні іншых (Тынянава ці Чукоўскага), ні самога сябе імі не падманеш.

* * *

Творчасць – гэта больш чым жывапіс, музыка, паэзія. Яна – практыкаванні ў свабодзе.

* * *

Ён любіць рух, жэст, дэталь.

Ягоныя вершы — строгая графіка. Экспрэсіі, пры якой праявы пачуцця вулканічныя, амаль бескантрольныя, воля даецца зрэдку:

Там, дзе ў лузе з любай
Мёд пілі пчаліны,
закусілі губы
да крыві каліны.

Амаль заўсёды на першым плане ў яго зрокавы вобраз — аб'ёмны, шматпланавы. Таму для стварэння верша яму бывае дастаткова аднаго радка: «На голас Блока выпаўзла змяя».

З ім не бывае пустых сустрэч. Бадай што прымаўкай стала знакамітае ягонае хочаш, я табе скажу...

Ён прамаўляе гэта без пытальніка.

— Хочаш я табе скажу: у Паўла Васільева ёсць радкі, якія мала каму сніліся... — І, прыжмурыўшыся, прачытае: «Так идет, что соловьи чумеют. Так идет, что облака стоят». Памаўчыць пасля, а ў паўзе ягонай — здзіўленне і радасць: як хораша, што ёсць яны, гэтыя радкі!.. Бо магло не быць.

Ён ганарыцца тым, што ў свеце існуе паэзія.

Бо паэт. Бо Анатоль Вялюгін. Бо адмірал, як называе яго Барадулін.

* * *

«Ядлоўцавы куст» Стральцова. Верш «На адпачынку». Памылка: «Шаленства у вачах. Імчыць суды штосілы». Выпраўлена ў выбраным: «Імчыць туды штосілы».

Шкада памылкі.

* * *

І яшчэ пра памылкі і суды...

Ю. Сцяпанаў у прадмове да 2-га выдання «Слоўніка рускай культуры» ўкладвае верш Лермантава «Хмаркі нябесныя...» ў вусны хлапчука «год 14 з хрыплым голасам і кулакамі для бойкі», які сядзіць «на зоне», на Поўначы ў калоніі для непаўналетніх, і які, чытаючы верш на памяць, у радку: «Кто же вас гонит: судьбы ли решение?» — слова «судьба» замяняе на слова «суд»: «...суда ли решение?» — і таварышы ягоныя, паслухаўшы верш, які ён прачытаў без аніякай інтанацыі («але больш пранізлівай інтанацыі, чым гэтая ніякая, — заўважае Сцяпанаў, — я не чуў») доўга маўчаць, і аказваецца, што, зробленая ў адпаведным месцы ў адпаведны час, памылка можа высвяціць у тэксце гэткія глыбіні, пра якія ніхто і не думаў.

* * *

Старацца казаць праўду, старацца пісаць праўду... А як бы гэта і казаць, і пісаць праўду, не стараючыся?..

* * *

Факт невідавочны з прычыны ягонай абсалютнай відавочнасці.

* * *

У палітыка Пятра Краўчанкі адна з найбагатых у Менску хатніх бібліятэк — і гэта не дзіва. Ён здаўна сябруе з літаратарамі, блізкі быў з Максімам Лужаніным, Барысам Сачанкам — зацятымі бібліяманамі.

Краўчанка — чалавек не рэзкіх рухаў, якраз такі, у якога павінна быць прыстойная бібліятэка. Ён з людзей, якіх можна дапускаць да ўлады хоць бы таму, што яны, валадарачы, нічога не паламаюць.

Шыкоўная хатняя бібліятэка палітыка Андрэя Клімава здзіўляе. Ні з якімі літаратарамі Клімаў не сябраваў і сябраваць не збіраецца. Ён чалавек рухаў рэзкіх, у доме якога не было б нечаканым што заўгодна ўбачыць, арсенал ці тэрарыум, але не бібліятэку. Хоць ён і сам піша...

«Калі я зазіраю ў самога сябе, у найцёмныя свае глыбіні, і бачу ў іх сябе самога такім, які я ёсць, то ўсе астатнія людзі, якімі б яны ні былі, здаюцца мне анёламі...»

Гэта ён не напісаў, сказаў мне ў размове, толькі-толькі выйшаўшы з турмы, куды ўпяклі яго далёка не анёлы — і дзе не анёлы дапякалі.

Я не ведаю, ці можна Клімава дапускаць да ўлады, дзе ён можа стаць небяспечным і для сябе, і для іншых... Але я ведаю, што людзей, здольных некаму прызнацца ў тым, у чым сабе самому прызнацца страшна, не шмат на белым свеце. Тут мала мець сілу, характар... Душа ў такіх людзях не тое, што ў іншых — пустое, і гэтага дастаткова, каб варта было знацца з імі, калі б нават не было ў іх нічога болей.

А ў Клімава ёсць яшчэ бібліятэка.

* * *

На чарговай раздачы падачак улады сваю падачку займеў нібыта журналіст, а насамрэч прафесійны сексот, які глумліва здзекваўся над Васілём Быкавым, Алесем Адамовічам, над найлепшымі сынамі Беларусі, што тытанічна намагаліся ўзрадзіць дух нацыі. І які трэба мець цынізм, каб гэтую падачку, выданую ўладай сексоту, назваць прэміяй «За духоўнае адраджэнне».

* * *

Крымскія школы пераводзяцца на ўкраінскую мову. Пра гэта — па ўсіх расейскіх інфармацыйных каналах, і паралельна з гэтым — пра Севастопаль, Крым і валюнтарыста Хрушчова...

Хрушчоў працаваў на Украіне ў Юзаўцы (Данецку), Харкаве, Кіеве... У Кіеве я спытаўся ў функцыянера з ведамства культуры, які за манументальнае мастацтва адказваў: «Чаму помнік Мікіту Сяргеевічу ні ў адным з украінскіх гарадоў не стаіць?..» Той здзівіўся: «А за што? Ён жа маскаль, камуняка...»

Такая во хахляцкая няўдзячнасць... Расея колькі войнаў за Крым праваявала, насмерць з туркамі білася, а Хрушчоў падпісаў паперу — і калі ласка: вось вам, друзі, Крым. Далучаю...

Да Беларусі, між іншым, таксама што-кольвечы магло далучыцца. Па байках, якія чуў я ў Маскве, Сталін напрыканцы вайны меў намер далучыць Кёнісберг да БССР, каб пазбегнуць памежнай пярэрвы ў камунікацыях — і наогул з эка-

намічнай мэтазгоднасці. Але ў такім разе трэба было пакідаць за Беларуссю і Беласточчыну. Таму ўмяшаўся ў сталінскія намеры паляк Ракасоўскі, які ўгаварыў пайсці разам з ім да Сталіна маршала Жукава: «По нашему мнению, товарищ Сталин, земля Пруссии, политая кровью русских солдат, должна быть только русской землей — и никакой другой».

Такая во пшэцкая сквапнасць...

Калі ўявіць (каб палякам моташна стала), што Ракасоўскі Сталіна з беларусамі не абдурыў і Беларусь — марская дзяржава, ці паўстаў бы сёння ў Менску помнік правадыру? Ну, хоць бы там, дзе ён некалі ўжо стаяў: на Кастрычніцкай плошчы (колішняй плошчы імя Сталіна) — задам да Палаца Рэспублікі і перадам да рэзідэнцыі Лукашэнкі...

Адным з аўтараў помніка (колішняга) таварышу Сталіну быў скульптар Заір Азгур. Неяк у майстэрні ягонай, забітай ленінамі, сталінамі і менш буйнымі правадырамі, крытык Рыгор Бярозкін, які паадпачываў у сталінскіх лагерах і да вайны, і пасля яе, на Азгура, што называецца, наехаў. Якраз за тое, што той рабіў сталінскі помнік. «Кінь ты, Грыша, — адмахваўся Азгур. — Сталіна іншыя рабілі, я толькі гузікі на ім ляпіў».

Такая во габрэйская хітрасць...

«Сталінскі гузік!» — называў нейкі час Рыгор Саламонавіч Заіра Ісакавіча.

Байку ж пра тое, чаму і як з маскальскага Крым хахляцкім стаў, пачуў я ад украінскага літаратара, якога часова (і выключна за высокамастацкія заслугі, як раней яно і ў нас бывала) запісалі ў дыпламаты. І даводзіў ён мне ў Варшаве, што маскалі наўмысна (дзеля глыбіннай гістарычнай канспірацыі) брэшуць і брэшуць, нібыта Крым быў далучаны да Украіны праз дурноту Хрушчова, праз нейкія хахляцкія ягоныя (якіх быць не магло!) сімпатыі і сувязі, і што наогул падараваная была Крымская паўвыспа ў імя братэрства савецкіх народаў ледзьве не па п'янцы. А насамрэч, у чым дасюль, маўляў, маскалям сорамна прызнацца, Крым быў закладзены пад каштоўныя савецкія паперы, якія толькі пад гэтую гарантыю на Захадзе, найперш у Амерыцы, і купляліся. У 1960 годзе настаў час абменьваць паперы на рэальныя грошы ды яшчэ сплочваць працэнты. Ні першае, ні другое, зразумела, нават не мелася на ўвазе, калі паперы выпускаліся. Але пазыка ёсць пазыка, а пад ёю — Крым. Вось тады і прыдумалі перадаць паўвыспу Украіне, на ўсялякі выпадак. Калі абыдзецца, дык абыдзецца, а калі не, дык Украіна — самастойная дзяржава з прадстаўніцтвам у ААН, і яна вам нічога не вінная.

Такое во яно ўсё, разам узятае...

З аднаго боку — абы-што. З другога боку, гісторыя — не тое, што было, а тое, што пра гэта набаяна, напісана, зьлеплена... Сталінскі гузік.

* * *

З Аляксандрам Лукашэнкам (дырэктарам саўгаса) і Зянонам Пазняком (навукоўцам) я пазнаёміўся ў розны час, але ў адным месцы: на студыі тэлебачання. З Пазняком — на праграме пра захаванне старога Мінска (пры будаўніцтве метро), з Лукашэнкам — на праграме пра наступствы Чарнобыля.

Мяркую, менавіта на тэлебачанні пазнаёміліся мы не столькі таму, што я там працаваў, колькі праз тое, што Пазьняк і Лукашэнка ўжо тады былі публічнымі асобамі — і шукалі публічнасці.

У праграме з удзелам Пазняка бралі ўдзел людзі казённыя (з гарвыканкама, саўміна), якія, як ні намагаўся я выправіць сітуацыю, Пазняку амаль нічога не далі сказаць. І ён, адсунуўшы мікрафон, замаўчаў дэманстратыўна...

У праграме з удзелам Лукашэнкі таксама бралі ўдзел казённыя людзі (з Саўміна, з Акадэміі навук), якім, як ні намагаўся я выправіць сітуацыю, Лукашэнка амаль нічога не даў сказаць. Захапіўшы мікрафон, ён гаварыў і гаварыў несупынна...

Пасля праграмы пра наступствы Чарнобыля старшыня Дзяржтэлерадыё Генадзь Бураўкін сказаў мне: «Глядзі, каб гэтага (ненарматыўная лексіка) ані ў якой праграме болей не было, ён усё тэлебачанне замудазвоніць...»

Неяк я напомніў пра тое Бураўкіну — ён запярэчыў: «Нешта ты блытаеш, не казаў я такога».

Магчыма, блытаю: не ён казаў... Але ж нехта казаў... І не магу ўспомніць: хто гэта ўжо тады быў такі прадбачлівы?

* * *

Зянон Пазняк, які ў пачатку 90-х гадоў патрабаваў вярнуць Беларусі Вільню і Смаленск, з канца 90-х сядзіць у Варшаве, дзе ў Сейме патрабуюць вярнуць Польшчы ўсходнія крэсы — Заходнюю Беларусь...

* * *

Карпаратыўнасць — вось з’ява насамрэч інтэрнацыянальная.

Амаль праз дваццаць гадоў пасля ядзернага выбуху ў Чарнобылі высокапастаўлены чыноўнік з МАГАТЭ даводзіць, што Чарнобыль не тое што не найвялікшая тэхнагенная катастрофа XX стагоддзя, а наогул ніякая не трагедыя. Так, драбяза, якая, калі не на карысць пайшла, дык ва ўсякім разе не ў шкоду...

У здатнай да ўсяго прызвычайвацца чалавечай свядомасці Чарнобыль усё больш пераўтвараецца ў нейкі сімвал, вобраз, метафару. Але рэальны Чарнобыль — гэта ўсё ж ядзерны выбух, выкід у жывое асяроддзе радыёактыўных элементаў, уздзеянне якіх вядзе да фізічнай і псіхічнай паразы людзей. У гэтым сваім уздзеянні Чарнобыль не можа сам скончыцца, неяк там суцішыцца і супакоіцца, ад яго можна абараніцца толькі наступам найноўшых тэхналогій, а калі іх няма, а іх няма, бо нямашака на іх сродкаў, грошай, дык спосаб абароны застаецца адзін — адступленне... Што і робіцца, каб заманіць ворага як мага глыбей на сваю тэрыторыю. Гэта традыцыйная наша стратэгія, у выніку якой толькі ў адной сям’і маіх блізкіх знаёмых, Анатоля і Наталлі, сталася так, што чарнобыльскую пухліну знайшлі спачатку ў малодшага сына, а пасля ў старэйшай дачкі. Пухліны выразалі, а дзяцей прызначылі ў інваліды. І пры гэтым на дзяржаўным узроўні (ва ўнісон з чыноўнікамі з МАГАТЭ) не саромеюцца даводзіць, нібы Чарнобыль, як той чорт, не такі ўжо страшны, як яго малююць, а асобным людзям радыяцыя можа пайсці нават на карысць. Ну, відаць, маецца на ўвазе тое, што ўсе беларусы — людзі нейкія асобна-асаблівыя.

Так ёсць — і не магло, і не можа быць інакш у Беларусі, якая наследуе дзяржаўныя традыцыі той краіны, у якой машыны, зброя, наогул любое жалеза мела свой кошт, сваю цану, і толькі чалавечае жыццё не каштавала нічога. Ну, загіне дзесяць, дваццаць, трыццаць мільёнаў, бабы, як Сталін казаў, новых народзяць.

У траўні 86-га года, калі я прыехаў у Чарнобыль, там тварыўся суцэльны бардак: усё нібыта ахоўвалася — і не было ніякай аховы, можна было залезці хоць у сам рэактар. Яшчэ нават не пазбіраныя былі, выбухам выкінутыя з рэактара, кавалкі графітавых стрыжняў, — і ўбачыў я не жалезных робатаў, а жывых людзей, апранутых у халаты хімабароны (нібыта супрацьрадыяцыйныя) маладых салдацікаў, смяротнікаў, якія звычайнымі шчыпцамі з падоўжанымі ручкамі тыя графітавыя кавалкі збіралі. Яны збіралі сваю смерць, але не разумелі, што рабілі, а тыя, хто разумеў і пасылаў іх на гэта, — разумелі, пасылалі і маўчалі. Маўчалі доўга, а калі ўжо вымушаны былі нешта казаць, дык казанка тая ў вуснах самага галоснага кіраўніка дзяржавы Гарбачова скіравалася да захаду, да перапалоханых немцаў, французаў, бельгійцаў, але не да сваіх. Убачыўшы ўвесь гэты жах, я спытаўся ў акадэміка Веліхава, які кіраваў тады (разам з акадэмікам Легасавым) ўсімі і ўсім у Чарнобылі: ну як, скажыце, такое можа быць?!. І ён даволі доўга тлумачыў мне

сутнасць закону вялікіх лічбаў... Пасля тлумачэнняў я сказаў яму, што зразумеў-такі сутнасць гэтага складанага закону: бабы новых народзяць.

Пазней, ужо пад восень, я паехаў у Чарнобыль з кінагрупай, і мы знялі там фільм, у якім цэнзары з Міністэрства сярэдняга машынабудавання — назву ж якую прыдумалі для атамнай прамысловасці! — пакінулі толькі тое, што сведчыла пра гераізм і патрыятызм (што, безумоўна, было), але без аніякіх салдацікаў са шчыпцамі... Перад гэтым былі знішчаныя стужкі, знятыя групай, у якую ўваходзіў мой сябар Анатоль Ярась — ён памёр ад раку.

Наш фільм ніякавата было глядзець, але і нічога ўжо нельга было ў ім выправіць, адзнятыя матэрыялы ў нас пазабіралі. Тады з іншай творчай групай я сабраўся ў Маскву, каб зрабіць тэлепраграму з акадэмікам Легасавым, але, пакуль мы збіраліся, ён скончыў жыццё самагубствам, павесіўся. Нехта казаў, што менавіта праз тое, што сталася ў Чарнобылі (Легасаў быў адным з праектантаў рэактара), нехта называў іншыя прычыны...

Знялі мы ўрэшце тэлеінтэрв'ю з акадэмікам Веліхавым, які, усяляк зацямняючы сутнасць праблемы, усё стараўся пераскочыць на высакалобую балбатню... Але ўсё ж на некаторыя пытанні быў змушаны адказаць наўпрост. Я спытаў: «Калі б нават не ў 30-кіламетровай зоне, а ў 100-кіламетровай аддаленасці ад яе, дзе-небудзь на Магілёўшчыне ці Гомельшчыне жыў нехта з вашай сям'і, што б вы зрабілі?..» — і ён, пакруціўшыся трохі вакол рознаўзроўневых дозаў радыяцыі, усё ж адказаў: «Вывез бы, бо жыць там нельга. Калі, вядома, жыць, а не паміраць...»

А мы вось, хто не памёр, жывём... І карумпаваныя чыноўнікі з МАГАТЭ разам з нашымі дзяржаўнымі кіраўнікамі даводзяць, як і ад пачатку даводзілі, што Чарнобыль нам зусім не ў шкоду, калі не на карысць.

* * *

Інтэлігенцыя — не тая сіла, якая здольная справіцца з дыктатурай, тыраніяй; а тым больш не па сіле гэта інтэлігенцыі беларускай, пра якую народ нават не здагадваецца, што яна ў яго ёсць.

* * *

Скрозь даводзяць, што сёння ўсё вызначаецца грашыма. Нібыта ніколі раней нічога грашыма не вызначалася...

Дый не грашыма — што яны самі па сабе? — а дачыненнем: чалавек і грошы, капейчына і годнасць.

Вунь граф Леў Талстой і памешчык Афанасій Фет гуляюць у карты. За сталом, апроч іх, яшчэ двое... Вечар, гараць свечкі. На стале сумёт грошай. У памешчыка Фета падае пад стол пяцірублёвая асігнацыя. Каратканогі, пузаценькі памешчык Фет лезе па яе, паўзе, вытыркаючы азадак, ракам... Граф Талстой бярэ сторублёвую асігнацыю, падпальвае яе і падсвечвае памешчыку Фету.

* * *

Грошы – згуба для таленту, але ў вашага сына такі талент, што грошай у яго ніколі не будзе.

* * *

Як цяпер дзяржаўныя грошы дастаюцца тым, хто набліжаны да Лукашэнкі, гэтак раней яны даставаліся тым, хто быў набліжаны да Кебіча, прэм'ер-міністра. Прадаваць зброю, калійныя ўгнаенні, метал, купляць энерганосьбіты, бавоўну, тытунь, паперу абы-каму не давалі і не дадуць. Як і займацца фінансавымі аперацыямі, з паветра рабіць грошы на розніцы курсаў валюты...

Апроч гэтых класічных спосабаў пераводу дзяржаўнага капіталу ў прыватны,

ёсць яшчэ і спосабы экзатычныя. Яны таксама магчымыя толькі пры асабістых кантактах бізнэсу і ўлады.

Вось праект «бізнэс-улада», які быў рэалізаваны ў пачатку 90-х.

Адзін бізнэсовец, які зараз шчасліва знаходзіцца за мяжой, і адзін прадстаўнік улады, які зараз шчасліва знаходзіцца ў адстаўцы і займаецца бізнэсам, дамаўляюцца пра тое, што яны знойдуць у Беларусі золата, якога так не хапае для шчаслівай будучыні народа і краіны. Што ж, дамоўлена, дык зроблена. З далёкай сібірскай рэчкі Залацінкі прыганяецца вагон залатаноснай пароды, якая высыпаецца ў кар'ер пад Мікашэвічамі. Гатова, золата ў Беларусі ёсць, а для недаверлівых, калі ласка, аналіз залатаноснай пароды з Мікашэвіцкага радовішча. Дзе ж яшчэ быць золату, як не побач з гранітам. Цяпер застаецца ўсяго нічога: выдзеліць пару мільёнаў долараў дзяржаўнага крэдыту для таго бізнэсоўца, які знайшоў тое залатое радовішча, каб ён пачаў ягоную прамысловую распрацоўку. Ну, і выдзелілі, і падзялілі... А будуць яшчэ казаць, што ў беларусаў слабаватая прадпрымальніцкая жылка.

* * *

Дзіўна чытаць паслясавецкаму чалавеку: «Не сам па сабе капіталізм прывядзе да роўнасці людзей і дабрабыту, а мараль, адпаведная расквітнеламу капіталізму».

Здаецца, аўтар пераблытаў словы капіталізм і камунізм, а рэдактар памылку не выправіў.

Але няма памылкі, бо аўтар (іспанец Раміра дэ Маэсту) — капіталіст. Філосаф, які сфармуляваў тэзу: «Укладанне грошай — праблема этычная».

* * *

Сярод пачынальнікаў цэнтральнаеўрапейскіх нацый было многа літаратараў. І Беларусь стваралася літаратурай, узнікаючы ў ёй як тэма, фабула, сюжэт. Адзін з доказаў таму — Вацлаў Ластоўскі.

Тое, што зроблена Ластоўскім, у небеларускім часе замглілася, а пасля выплыла з імглы, як нязнаная навіна. Тэкстамі, якія не кожнаму напісаць. Яны быццам бы простыя, аднак глыбінна простыя — такая проза Быкава. І ў Ластоўскага гэта найперш вершы ў прозе.

> «На грудзе, акружаным глыбокаю вадой, я горад збудаваў.
> Змацаваў яго дубоваю сцяной, байніцамі, на зводах мост
> уздоймны палажыў.
> У клеці звёз усякага дабра, — калі б на грод лягла аблога...
> І вояў здрадных, лжывых я разлічыў, каб з вернаю дружынай
> толькі дзяліць мой белы й чорны дзень...
> І от нахлынуў вораг многі.
> Ударыў я у звон трывожны.
> Дзынеў патужна цяжкі спіж...
> Аднак на клік мой зоўны ніхто ка мне не паспяшыў:
> У горадзе маім — такім мацоўным — адзін я быў!..»

У чым гэта саступае сённяшнім вершаказам, версэтам?.. Ні ў чым. Яно і не можа саступаць хоць бы таму, што было раней. У пачатку.

Ластоўскі, безумоўна, разумеў і тое, што ёсць насамрэч паэзія, калі напісаў: «Слязьмі душы, уздрыгамі душы — пішы!..»

* * *

Непадалёку ад чыгуначнага вакзала ў Мінску, на рагу вуліц Ленінградскай і Свярдлова (некалі Каломенскай), стаіць бронзавы хлапчына. Франтаваты, фацэтны: з кудзеркамі пад брылём кепкі, з расшпіленым верхнім гузікам кашулі пад караценькай куртачкай, пры фарсістым гальштуку... Стоячы ўзбоч ходніка і

хітравата прыкошваючыся, ён працягвае руку, нібы нешта ці то прапануе, ці то просіць — і ў пальцах ягоных часцяком дыміць цыгарка: прахожыя, дурэючы, частуюць. Мінаючы яго па дарозе з вакзала дахаты, я і да просьбаў, і да прапановаў ягоных быў абыякавы, пакуль Леанід Дранько-Майсюк не прыдумаў, што хлапчына гэты — Ваця Браніславец. А ў скверыку за ім, гнуткая і плаўная, бронзавая на бронзавай лаўцы, — Маня Ірмалевіч. У капялюшыку, трохі фрывольная, але што ж: часы змяніліся...

Наўрад ці скульптар ці архітэктар, займаючыся гэтым куточкам гарадской прасторы, думалі пра тое, каб выявіць у бронзе герояў рамана Кузьмы Чорнага «Сястра». Хоць гэта якраз тут, каля вакзала, дзе была цырульня былога камісара Абрама Ватасона, які «паразумнеў, голячы разумныя твары», і пачынаецца дзея рамана. Побач з гэтым скверыкам, тады Каломенскім, у доме, дзе гаспадарыў Радзівон Цівунчык, які жыў «выключна па сваіх прыватных справах», казаў усім «ганарова дзякую» і даводзіў: «Мы ўсе павінны быць народныя людзі». Тут завязваўся вузел сюжэта, тут скрыжаванне, на якім сыходзіліся і разыходзіліся героі рамана — аднаго з найлепшых твораў беларускай прозы. Ён і ў сусветнай прозе далёка не горшы, проста не заняў (не лёс, не склалася) належнае яму месца. Янка Брыль назваў яго «месцамі геніяльным». Ну, калі месцамі, тады большымі, бо ў ім нават эпізадычныя (нават без імені) персанажы выпісаны, як характары. Вунь мужык на хутары з «тварам абветраным, няголеным», з валасамі, якія «густа шчацініліся да самага каўняра салдацкае сарочкі», у шапцы са скураным брылём, якую ён ніколі не здымае, сядзіць сабе, з поля прыйшоўшы і плуга нацягаўшыся, самакрутку курыць і разважае:

«Яно вядома, што ніхто не можа ведаць, што напярод будзе. Кажуць, што ў сто год на зямлі з'яўляецца адзін чалавек, які ведае напярод, што на зямлі будзе. Дык іншы з іх сядзіць сабе рукі склаўшы ды глядзіць, як яно ўсё робіцца так, як ён прадбачыў, а іншы паглядзіць — дык жа яно нешта не так, як яму здавалася. От тут ён і пачынае арудаваць. Каб, канечне, было па ягоным... Можна сказаць, моцныя ёсць людзі на свеце...»

Пакурыўшы і паразважаўшы гэтак, ён «паволі падлажыў недакурак пад падэшву бота на падлогу і раздушыў яго; пасля адышоўся да парога і плюнуў цераз парог у сенцы».

Га?..

Ваця Браніславец жыў з пытаннем: «Я чужы ўсяму свету?!.»

Недзе тут, каля вакзала, Маня Ірмалевіч развіталася з ім...

У аддзеле ландшафтнай архітэктуры (пры Мінскім гарвыканкаме) мне назвалі імя скульптара (У. Жбанаў) і архітэктара (Б. Юрцін), якія працавалі ў былым Каломенскім, а цяпер Міхайлаўскім скверыку. На пытанне пра назвы скульптур адказалі: «Мужчына» і «Дама на лаве».

Дык чаму б не даць ім імёны?.. І скверык, які, па сутнасці, назвы не мае, а Міхайлаўскім называецца толькі таму, што прылягае да Міхайлаўскага (?) завулка, не назваць скверыкам Сястры?.. У гонар Кузьмы Чорнага і ягонага бліскучага рамана.

— Дзе спаткаемся, Ваця?

— У скверыку Сястры.

Пасядзім, пакурым, паразважаем... Моцныя, можна сказаць, ёсць людзі на свеце.

* * *

З прозы К. Чорнага (раман «Сястра»):

— Жыў слаўна, а як жылося?

— Клопату ў мяне болей, як мяне самой.

— Веснавая зямля была ціхая, як музыка.

— Яна хоча, каб дзіцё радзілася, а ён хоча пашыць сабе гарнітур з сіняга бастону... Так ні таго, ні другога і няма.

— У радасных палях засумавала лета і паволі памерла, любячы жыццё і хочучы жыць.

— Мы ўсе павінны быць народныя людзі.

— Я жыву па сваіх прыватных справах.

– Ядры яго дагары, пайшоў, як падмецены...

– Шушамець аддзяліць ад зерня.

* * *

У першыя дні майго жыцця ў Варшаве раптам апанаваў мяне адчай. Я страціў разуменне ўсіх прычын, па якіх апынуўся за мяжой, якія, здавалася, да рэшты разумеў ад'язджаючы – і не было сіл на тое, каб паспрабаваць зноўку ўцяміць: як яно ўсё так сталася?.. Я не жадаў ні чуць нікога, ні бачыць, не хацеў ведаць ні таго, што пра мяне кажуць, ні казаць нешта, што пра іншых ведаў.

Цяпер, па часе, я разумею, што псіхалагічны стан быў абумоўлены фізічным пачуваннем, тым, што я не ачомаўся ад інсульту, але тады душа, нутро маё знемагала – і пры чым тут інсультныя мазгі?..

Я не ведаў, куды сябе падзець. Мяне прадалі тыя, каго любіў. Значыць, трэба іх і ўсё з імі звязанае адкінуць, адпрэчыць. Забыць. Як не маё, як чужое.

У адпакаёўцы маіх даўніх, яшчэ студэнцкіх сяброў, дзе мясціліся мы ўшасцёх з коткай і сабакам, не было ніякіх беларускіх кніг, апроч маёй кнігі «Выбранае», некалі сябрам маім надпісанай, і я пачаў перачытваць самога сябе, і ўпершыню прачытаў сябе самога, як некага іншага, чужога – і шпульнуў кнігу ў акно. Праз пяць хвілін мне здалося гэтага мала, я выйшаў на вуліцу, дзе каля дзіцячага шпіталя два мужыкі калупаліся ў зямлі, папрасіў у іх лапату, знайшоў метраў за трыста закінуты двор, выкапаў яму і пахаваў кнігу, прытаптаўшы зямлю... Так яна там, мусібыць, і ляжыць – непадалёку ад беларускай амбасады.

Мне захацелася пахаваць мінулае – гэтак я ў ім усё ўзненавідзеў!..

Нічога і нікога пахаваць я не здолеў. Усё і ўсе ўва мне. Як тая, якую не перапісаць, закапаная кніга.

* * *

Калі я стаў старшынёй Саюза пісьменнікаў, застаючыся галоўным рэдактарам часопіса «Крыніца» і газеты «Літаратура і мастацтва», спачатку садралі шыльду над уваходам у рэдакцыю часопіса. Гэта ж трэба было ўночы ўстаць, перціся па горадзе з ломікам — рукамі цвікі з каменнай сцяны не вырваць. Можна было б падумаць, што зрабілі гэта бамжы, п'янтосы, каб на пляшку займець, шыльда была бронзавая, але неўзабаве садралі шыльду і на ўваходзе ў рэдакцыю газеты. Тая не бронзавая была і не адна вісела, разам з шыльдамі іншых рэдакцый, дык іх дэманстратыўна пакінулі... Значыць, не п'янтосы, тады хто? Не Лукашэнка ж Замяталіна з ломікам паслаў?.. І ўрэшце шыльду з дзвярэй майго кабінета ў Саюзе пісьменнікаў прынародна садраў адзін народны паэт, так што я, мусібыць, чэмпіён Саюза па садраных шыльдах.

* * *

За два гады тузаніны з Лукашэнкам і Замяталіным я вычарпаў ліміт трываласці. Па ад'ездзе ў Польшчу здалі нервы – і калі ў Варшаве пачаўся кангрэс міжнароднага PEN-цэнтра, я з'явіўся на яго расхрыстаны...

Які гэта пісьменніцкі кангрэс! Палітыкай ім статут не дазваляе займацца! Масоны! Пусціце мяне – я вам скажу, чым вы займаецеся!..

Не пусцілі... Карлас Шэрман не пусціў – каму там яшчэ было на мяне зважаць. «Ты зразумей, – бубніў ён мне, – зараз не час і не месца...» Даводзіў, што беларускі PEN-цэнтр яшчэ не перарэгістраваны – і наўрад ці, калі я выступлю, перарэгіструецца. Я казаў яму на гэта, што ён стары і пудлівы ліс – і толькі пазней зразумеў, што прычына асцярожнасці Шэрмана была не адно ў перарэгістрацыі. Карлас не ведаў, чаго ад мяне чакаць, і няведання пабойваўся. Тады я на яго за гэта злаваў, а пасля быў удзячны яму, што ён прыгасіў ува мне жарсці, не даў выявіцца ў ролі спсіхаванага эмігранта.

* * *

Рэдактар «Gazety Wyborczaj» Адам Міхнік страшна раздражнёны першымі публікацыямі пра маё з’яўленне ў Варшаве ў газеце польскіх левых «Trybuna», якіх і якую ён на дух не выносіць. Тым не менш паабяцаў падтрымку – і выклаў сваё асабістае меркаванне пра эміграцыю.

Міхнік згадаў польскую эміграцыю пачатку васьмідзясятых гадоў. Тысячы людзей з’ехалі за мяжу. Нехта – ратуючыся, хтосьці – пратэстуючы супроць увядзення ў Польшчы ваеннага стану. Калі ўсё мінула і яны вярнуліся – ніхто іх, вядома, эміграцыяй не папракаў. І ўсё ж вісела над імі нявыказанае: «А што ж вы, курвы, там рабілі, калі мы тут за алей для дзяцей у крамах біліся ды ў вязніцах сядзелі?..» І ніхто з гэтай эміграцыйнай хвалі – ні палітыкі, ні журналісты, ні акцёры, ні літаратары так і не здолелі вярнуць той маральны капітал, які мелі да эміграцыі, а тым больш папоўніць яго, ці здабыць новы. На першыя ролі і ў палітыцы, і ў журналістыцы, і ў мастацтве выйшлі тыя, хто заставаўся на радзіме, біўся ў крамах за алей і сядзеў у вязніцах.

Намёк у вельмі тонкай польскай вуалі – наскрозь празрыстай...

* * *

На прэс-канферэнцыі ў Варшаве папрасілі назваць прычыны, па якіх я пакінуў Беларусь. Я збіраўся назваць дзве: ціск улады і здраду сяброў. Але сказаў толькі пра адну. Пра першую. Пакуль казаў пра яе, зразумеў, што другая прычына нікога не цікавіць.

Ад мяне чакалі звароту да польскіх уладаў з просьбай аб палітычным прытулку. Не дачакаліся — і страцілі цікаўнасць.

Пасля прэс-канферэнцыі было некалькі інтэрв’ю — і журналістка з тэлебачання палічыла не лішнім папярэдзіць: «Толькі палітыка, пане, толькі палітыка...»

* * *

Доўга рыхтавалася сустрэча спікера (рэальна ўжо былога, але фармальна яшчэ дзейнага) беларускага парламента Шарэцкага з прэзідэнтам Польшчы Квасьнеўскім. Нарэшце, яго (Шарэцкага) пад Каляды прывезлі з Вільні ў Варшаву — і спачатку я, пасля Пазняк падрабязна тлумачылі яму, чаго ён павінен дамагацца на сустрэчы, што казаць. «Адразу прасіце прытулку для эміграцыйнага беларускага ўрада, у чым Кваснеўскі адмовіць, затое згодзіцца на ўсё астатняе...» У выніку наш спікер каля гадзіны распавядаў Квасьнеўскаму пра тое, якія б захады ён, Шарэцкі, зрабіў для вырашэння палітычных ды эканамічных праблем, з якімі сутыкаецца... Польшча.

«Дык у Беларусі ўсё нармальна?..» — спытаў, развітваючыся, прэзідэнт Польшчы і больш ні з былым спікерам беларускага парламента, ні з кім-небудзь яшчэ з беларускіх палітыкаў сустракацца не пажадаў.

Увечары Шарэцкі, цалкам сабой задаволены («Мы з ім пагаварылі, як прэзідэнт з прэзідэнтам!») чытаў мне свае вершы. Пра бярозы (ці пра дубы, пароду дрэва я ўжо не помню), якія на чужыне шумяць яму пра Беларусь...

* * *

Калі нехта й мог выйграць у Лукашэнкі першыя прэзідэнцкія выбары – дык гэта Генадзь Карпенка. Таму да другіх прэзідэнцкіх выбараў ён не дажыў.

Перад першымі выбарамі супернікі Карпенкі (Кебіч, Лукашэнка, Шушкевіч) зрабілі ўсё, каб Карпенка ў выбарах не ўдзельнічаў. Са 100 з лішкам тысяч сабраных ягонымі валанцёрамі подпісаў ЦВК прызнаў сапраўднымі 93000. З 78 дэпутатаў Вярхоўнага Савета, якія падпісаліся за вылучэнне Карпенкі кандыдатам у прэзідэнты, 14 дэпутатаў раптам адклікалі свае подпісы. Сярод іх толькі Дзмітрый Булахаў быў з каманды Лукашэнкі: кіраўнік ягонай ініцыятыўнай групы. Астатнія (якіх актыўна агітаваў дэпутат Алег Трусаў) падтрымлівалі Шушкевіча і Кебіча. Можна сказаць, што вось тыя 14 дэпутатаў і выбралі прэзідэнтам Беларусі Аляксандра Лукашэнку. Ці ва ўсякім выпадку: першымі за яго прагаласавалі.

* * *

...Карпенка быў вучоным, дэпутатам, дырэктарам, мэрам – і ў гэтым была ягоная моц. Разам з тым меў ён адну (але істотную) слабасць: сібарыцтва.

Увогуле сібарытам (калі жыццё дазваляе) быць не кепска. Ды не ў палітыцы, дзе ты можаш нічога не рабіць толькі ў тым выпадку, калі нічога не хочаш. А калі ты нічога не хочаш, дык што ты робіш у палітыцы?

У Карпенкі была магчымасць праз суд змусіць ЦВК зарэгістраваць яго кандыдатам у прэзідэнты, дабіцца ўдзелу ў прэзідэнцкіх выбарах. Ва ўсякім разе паспрабаваць гэта зрабіць. Ён не стаў займацца гэтым – і менавіта праз сваё сібарыцтва. А яшчэ праз свой амаль класічна беларускі, а значыць, не надта рашучы і недастаткова амбіцыйны характар. Праз гэта, між іншым, ён доўга не мог зразумець, чаму ягоны амбіцыйны паплечнік Віктар Ганчар апынуўся разам з не менш амбіцыйным Дзмітрыем Булахавым у прадвыбарным штабе Аляксандра Лукашэнкі.

* * *

Прасібарыціўшы прэзідэнцкія выбары, Карпенка стаў казаць, што не наспела яшчэ для прэзідэнтства ягоная пара. Для дырэктара саўгаса Лукашэнкі наспела, а для дырэктара завода, мэра, доктара тэхнічных навук Карпенкі – не...

Карпенка не верыў, што Лукашэнка можа стаць прэзідэнтам. Ён уявіць, дапусціць не мог, што нармальныя людзі могуць яго выбраць. Гэта была найістотная ягоная памылка: ён не адчуваў, што людзі гатовыя галасаваць за каго заўгодна, абы толькі супраць сістэмы і тых, хто яе ўвасабляе. Ён загадзя аддаваў перавагу Кебічу, бо быў яшчэ заварожаны сілай той сістэмы і тых людзей, асабліва людзей маскоўскіх, крамлёўскіх, якія Кебіча падтрымлівалі. У нейкі момант ён і мяне ў тым пераканаў – і я заклаўся на скрыню каньяку з Дзмітрыем Булахавым, што ўсе іх стараннi з Ганчаром і Фядутам марныя: Лукашэнка прайграе...

Прайграў я. Але й прайграў, хоць і выйграў, Булахаў.

* * *

Калі Лукашэнка стаў прэзідэнтам і прызначыў Віктара Ганчара віцэ-прэм'ерам (а не прэм'ерам і не кіраўніком адміністрацыі), у Ганчара даволі хутка ўзніклі сумневы ў правільнасці зробленай ім стаўкі.

У шпіталь, дзе ляжаў з гіпертанічным крызам Генадзь Карпенка, якога дамовіліся мы разам наведаць, Ганчар прыйшоў раз'юшаны. Гадзіну таму Іван Ціцянкоў (прызначаны кіраўніком упраўлення спраў прэзідэнцкай адміністрацыі) запрасіў яго ў свой кабінет, а ў тым кабінеце – гара футравых шапак. І ўпраўляючы справамі адміністрацыі прэзідэнта шырокім жэстам прапанаваў намесніку кіраўніка ўрада: «Выбірай любую!..»

– Я ўжо ашалеў у той кампаніі, у якой апынуўся, – казаў Ганчар, – і, можа, толькі гэтай шапкі мне й не хапала, каб з кампаньёнамі расплявацца!

– А я, Віця, узяў бы шапку, – іранічна збіў Карпенка напал з Ганчара. – Хоць ведаў бы, за што служыў. Пасля ўнукам бы паказваў, як будзёнаўку.

* * *

Неадольнае жаданне адолець.

* * *

Ён зірнуў аднойчы на свет праз дзірачкі ў гузіку. Дзірачкі былі дзве – і былі два светы: у кожнай дзірачцы свой.

Ён выламаў сэрцавінку гузіка — дзірачка стала адна. І свет стаў адзін – з няроўнымі, зубчастымі краямі.

Ён зраўняў краі – свет стаў круглы.

Ён прыйшоў да высновы, што самы вялікі цуд у свеце — дзірачка.

* * *

1999 год. Польскае тэлебачанне. Паўвекавы юбілей камернага тэатра. Тэлевядучы пытаецца ў былога дырэктара тэатра пра першы, пастаўлены 50 год таму, спектакль — і дырэктар ніякавата адказвае, што першы спектакль, праўда, быў пастаўлены па п'есе савецкага драматурга. «Але ўжо наступная пастаноўка, — устрапянуўшыся, доўжыць дырэктар, — была прыстойная...»

У студыі акторы, рэжысёры, драматургі — і ўсімі гэта ўспрымаецца зусім нармальна. А калі напрыканцы праграмы тэатральны крытык кажа пра Дастаеўскага: «Вялікі польскі пісьменнік, які змушаны быў пісаць па-расейску...» — ён зрывае хай не авацыі, але ўсё ж апладысменты.

У нацыяналізма, як і ў любой іншай калектыўнай з'явы, — праблемы з этыкай.

* * *

У 1920 годзе пад Варшавай насмерць біліся Беларуска-літоўскі полк з боку палякаў і 1-шы Омскі полк з боку рускіх. І ў тым, і ў другім — большасцю — беларусы.

Рэзаліся так зацята, што мала хто ацалеў...

За што рэзаліся?

Палякі — за польскае, рускія — за рускае...

Беларусы за чыё?

* * *

Прыйшла пара рухацца (Быкаў ужо ў Нямеччыне) з Варшавы ў Хельсінкі — і на развітанне з Зянонам Пазняком і ягонай жонкай Галінай вячэраем у Чэслава Сэнюха. Для Чэслава Зянон — найганаровы госць, таму чаго толькі на стале нестае, а Галіна раптам кажа: «Як я дахаты хачу! Хоць на ваду і на хлеб, але дахаты...»

Я гляджу на Зянона — дзве слязіны ў вачах. Нейкае імгненне... Наплылі і высахлі, але след іх застаўся ў паглядзе.

Каб не заўважылі, як мяне торгнула, выйшаў нібыта перакурыць...

Радзіма — разуменне шкоднае.

* * *

Пасля ўсяго, што перажылося ў апошні год, ніяк не чакаў, каб хто-небудзь чым-небудзь мяне расчуліў. Але такое сталася — і зрабіў гэта Быкаў, самы суворы чалавек нашай літаратуры. У кватэрцы ў Хельсінкі, дзе ён жыў паўтара гады і

дзе жыць цяпер мне, я знайшоў на пісьмовым стале гэткі прывітальны ліст, што шчымanula недзе там, дзе сэрца...

А дома ж ледзьве не кулаком гразіў: я табе дам!.. Любімы пісьменнік прэзідэнта!..

Вось і разбярыся.

У кожным дні мы розныя, у кожным моманце — іншыя.

Там, дзе мы былі, — мы ў натоўпе. «Раскрыжуй яго!..»

Там, дзе мы апынуліся, — мы самі ў сабе...

Ён пакінуў мне свой кампутар. Старэнькі, запылены. Я стаў яго чысціць і знайшоў прыклееную знізу пад маніторам паперчынку. На ёй напісана: «Ёсць першая старонка. З Богам!..»

* * *

Дабіваюся ад Стася (унука) адказу на тое, чаму ён зноў залез у мой кампутар, хоць абяцаў не лезці?.. Ён пакрыўджана і ўпарта маўчыць. Амаль крычу, каб не маўчаў, бо нічога нельга растлумачыць маўчаннем, растлумачыць нешта можна толькі словамі! Не дабіўшыся ніякіх слоў, сядаю працаваць, спрабую аднавіць тэкст, які Стась выпадкова знішчыў. Сам ён збягае ў лес — як заўсёды, калі крыўдуе.

Плюю на тэкст, іду шукаць... Знаходжу за валунамі, працягваю мезенец: «Добра, міравая. Гары ён гарам, той тэкст, вунь і без яго колькі ўсяго ў свеце...» Малы чапляецца сваім мезенцам за мой, але замест «Мірыся, мірыся і болей не біся» чую ў адказ: «Растлумачыць словамі можна толькі словы».

* * *

Спрабую давесці Стасю, якое дзіва — паэзія, але слухаць пра дзіва паэзіі ён не ў настроі. Тым самым і мяне з імпэту збівае, таму прамаўляю то нейкую няўцямiцу, то банальнасць... Маўляў, усе і ўсё — цені і пыл, а паэзія — вечнасць. Нязгасны чалавечы дух.

Мы ідзём узлескам, сцяжынаю ўздоўж мора, над якім, апускаючыся, палымнее і, здаецца, вось-вось падпаліць ваду вечаровае сонца. Стась спыняецца, глядзіць на мяжу вады і полымя, пытае: «А сонца пагасне?..» Адказваю, што калі-небудзь абавязкова — як і ўсялякі агонь. Як і ўсё...

Малога гэта не засмучае. Ну, пагасне дык пагасне... Ён ідзе далей так, як вядзе яго сцяжына, скача-падскоквае і, вынаходзячы рытм руху, раптам рыфмуе, падскокваючы: «Што для чаго, калі сонца пагасне навек, што для чаго напісаў хоць адзін чалавек?..»

* * *

Ідзём са Стасем у кнігарню, каб купіць яму якую-небудзь фінскую кнігу — ён ужо чытае трохі па-фінску, але толькі тое, што цікава. У кнігарні на стэндзе новых выданняў стаіць серыйны томік Агаты Крысці з невядомай мне назвай: «Нікому не ўдалося ўратавацца». Бяром, каб паглядзець, а гэта «Дзесяць мурынчыкаў». Гаспадар кнігарні тлумачыць, што назва перакладзена ў адпаведнасці з законам супроць расавай дыскрымінацыі. «Раней у нас, — кажа, — цукеркі былі, якія называліся «Пацалунак негра», цяпер яны проста «Пацалунак».

Я пытаюся:

— А чаму раман «Майстар і Маргарыта» Міхаіла Булгакава стаў раманам «Сатана з'явіўся ў Маскве?»

Гаспадар смяецца, ён з гумарам: «Расейцаў закон супроць дыскрымінацыі не датычыць».

* * *

На вакзале з грузінам выпадкова пазнаёміўся — прыехаў з Масквы ў Хельсінкі сыр купляць. 600 тон для пачатку. На фірме «Valio» яму сказалі: «У нас прадстаўніцтва ў Маскве — праз яго і купляйце».

Ён ашаломлены. «Слухай, дурдом! Я ім наўпрост жывыя грошы прапаную, а яны мяне сплаўляюць!.. Кажуць: мы не парушаем дамоўленасці! Якія дамоўленасці, калі жывыя грошы?..»

З такога гора пайшлі ў рэстаран. Афіцыянт гарэлку кілішкамі стаў насіць. Трыццаць грамаў у кілішку за пяць еўра. Пляшка абышлася, як білет да Масквы.

З яшчэ большага гора грузін захацеў станцаваць лезгінку. Аркестар — піяніст, кантрабасіст і ўдарнік... Яны не зразумелі нават, чаго ён хоча.

Вярнуліся на вакзал, выпілі ў бары піва. Грузін, як я ні супакойваў яго, расстройваўся ўшчэнт. «Слухай, няхай сыр не захацелі прадаць... Але не сыграць лезгінку?..»

Ён быў жывейшы за свае жывыя грошы... І раптам падумалася: колькі ж разоў слухаў я рэстаранную, заказаную аркестру, лезгінку? Сто, дзвесце, трыста?.. Ва ўсіх рэстаранах ад Берасця да Хабараўску. А хто-небудзь, дзе-небудзь, калі-небудзь лявоніху заказаў?..

Наўрад ці. Я не чуў.

* * *

Тут непадалёку ў бок Ramsinniemi (у Хельсінкі, Фінляндыя) гатэльчык ёсць невялічкі, мы са Стасем (з унукам) праз лясок туды на мора ходзім. Ад гатэльчыка спускаешся на пірс дашчаны, з якога даў нырца — і паплыў... Зручней, чым ісці да глыбіні па камянях ад берага.

За ўсё лета (а такога сонечнага і цёплага, нават спякотнага лета не было ў іх, кажуць фіны, ці сто гадоў, ці ніколі) ніхто нас ні разу не спыніў, не пераняў, а гэтым разам пераймае жанчынка і тлумачыць, што хадзіць нам сюды нельга, бо гэта прыватныя ўладанні. Ну, я прабачыўся, сказаў, што лічыў, пакольկі гатэль... а калі не, дык не.

Ідзем дахаты, дарогай тлумачу Стасю, што хадзіць сюды болей не будзем, бо тут усё прыватнае. Шпунт малы спыняецца, недаўменна азіраецца назад і пытае:

— І мора?..

Тое самае і мне, прабачаючыся, карцела спытаць у жанчынкі. Толькі не як чатырохгадоваму дзіцяці, а як савецкаму чалавеку.

* * *

Савецкая свядомасць (хай сабе нельга, але, калі хочацца, дык можна) найбольш раздражняецца драбязой.

Тут у другі бок праз другі лясок ёсць і пірс, і пляж, і мора — для ўсіх. На беразе альтанка, у якой можна кілбаскі ці мяса падсмажыць, а каля яе кафэ маленькае. Са знаёмым, які з Піцера прыехаў, узялі піва і кілбаскі ў краме — сядзім, п'ём, смажым... Піва скончылася, дакупілі ў кафэ, пайшлі ў альтанку. Бяжыць з кафэ гаспадыня: «Нельга!..» Што нельга?.. Аказваецца, піва, купленае ў кафэ, можна піць толькі ў кафэ, ці за столікамі побач. А ў альтанцы п'юць толькі прынесенае з сабой...

«Чаму так?..»

Яна і сама не ведае, чаму так, але і высвятляць з намі не збіраецца, чаму... Нельга — і ўсё.

Для нас гэта ідыятызм, і мы пачынаем даводзіць ёй, што гэта ідыятызм, шукаем спачування наўкол, але нам не спачуваюць. «Нельга — і ўсё». Два фіны, з якімі амаль па-сяброўску мы толькі што размаўлялі, адсоўваюцца і пазіраюць калюча.

Найлепей, не спрачаючыся, перайсці з півам пад парасон каля кафэ, там не горш. Дык не: мы выліваем піва на траву за альтанкай...

На пратэст наш ніхто і ніяк не рэагуе. Вылілі дык вылілі, гэта можна.

* * *

Не ведаю, скуль узялі фінскія мас-медыя гэтую інфармацыю, але яны сцвярджаюць, што да свайго апошняга трагічнага выхаду ў Баранцава мора саракааднагадовы камандзір атамнай падводнай лодкі «Курск» меў за плячыма толькі адзін так званы баявы паход. У той жа час камандуючы Паўночным флотам вінаваціцца ў смерці падводнікаў і кажа, што флот страціў свой найлепшы экіпаж. Дык калі экіпаж з камандзірам, у практыцы якога толькі адзін баявы паход – гэта найлепшы, то якія ж тады астатнія?..

Згадваецца пейзаж, які некалі мяне ўразіў: бухта ў Паўночнаморску. Яна гэтак застаўленая падводнымі лодкамі, эсмінцамі, крэйсерамі, што вады не відно. І ўсё гэта тапырыцца ва ўсе бакі марознай бранёю, радарамі, гарматнымі ствaламі, тарпедамі, ракетамі... На атамным крэйсеры «Кіраў», тагачасным флагмане Паўночнага флоту, я спытаў камандуючага: а нашто столькі? І ён адказаў, што зброі лішняй не бывае.

Я не пацыфіст, як Алесь Адамовіч, і не думаю, што зброя ў свеце ўвогуле не патрэбная, але перакананы, што вельмі часта яна бывае лішняй. А вось тыя сто васямнаццаць падводнікаў, пераважна хлапчукоў, якія загінулі на субмарыне «Курск», лішнімі ў гэтым жыцці не былі.

Трагедыя расійскай субмарыны...
«Як гэта так?..» – мяне пытаюць фіны,
Нібыта я расійскі адмірал...

Яшчэ жыве, як здань, Саюз адзіны,
Яго легенды і яго быліны,
І доўжыцца жахлівы серыял.

Хай рухнуў Рым – стаяць яго руіны:
Афганістан, Чачня, Чарнобыль... Міны
Раскіданы сярод пяскоў і скал.
Імперыя ўсё шчэрыць зуб звярыны,
І на шляху расійскай субмарыны
Паўсюль яе скарожаны метал.

Смерць не страсеш, як страшны сон з пярыны...
Як рускаму, мне спачуваюць фіны,
І ўсюды клін – куды сябе ні кінь...

За хлапчукоў расійскай субмарыны
Памолімся. Ва ўсіх нас Бог адзіны –
Амінь.

*24 жніўня 2000, Хельсінкі.*

*(Працяг будзе)*



Кастусь Цвірка



...усё добрае і кепскае ў адной краіне, мусіць, і праўда робіцца цяпер усіхным здабыткам...

# Дні мае, падарункі

***Вясковы дзённік, 2010***

*Заканчэнне. Пачатак у №№ 2-3 (57-58).*

* * *

Сурвэта... Не раз чуў у Зялёнай Дуброве і от сёння ў гаворцы з нашымі жанчынамі мільганула гэтае слова. Ведаў, што сурвэту, як і абрус, засцілалі на стол. Толькі ж якая паміж імі розніца? Лезу ў многатамовы «Тлумачальны слоўнік». Ды от дзіва: няма там такога слова. Як жа так? Успомнілася, што пра сурвэты пісаў і наш класік Кузьма Чорны. У аднатомнік выбраных твораў у серыі «Беларускі кнігазбор» мы ўключылі нават яго артыкул — «Слуцкія сурвэты», дзе расказваецца пра выраб сурвэт на Случчыне яшчэ з часоў прыгону, пра пашырэнне ў нас гэтага рамяства, пра тое, што слуцкія сурвэты ахвотна набывалі панскія маёнткі, што добры попыт мелі яны не толькі ў Беларусі, але ішлі на продаж і ў краіны Еўропы. Кузьма Чорны называе і імёны знакамітых майстроў-сурвэтнікаў Случчыны.

Пытаюся ў суседкі Вікці, ці займаўся хто ў нас, у Зялёнай Дуброве, вырабам сурвэтаў. Так, былі такія. І сярод іх — Ядвіся Цвірка. Адразу ж іду да яе, стукаюся ў хату — мо асталася хоць адна з яе сурвэт, каб сфатаграфаваць?

Ядвіся — ёй ужо скора дзевяноста — з год, як нічога не

бачыць: глаўкома. Пазнала мяне па голасе. Вельмі радая, што зайшоў — ёй хочацца з кім пагаварыць. Сядзім, гамонім. Пытаецца, ці не мог бы я прынесці ёй з свайго музея качалку — качаць (прасаваць) бялізну. Абяцаю прынесці — балазе ў мяне іх дзве.

Мне ж не церпіцца завесці гаворку пра сурвэты. Убачыўшы на яе стале плецены, з узорамі і фрэнзлямі настольнік, пытаю, што гэта такое. «Сурвэта», — чую адказ.

Яна пляла сурвэты, пасучы кароў. Іх у яе ажно сем. Дзеці засцілаюць у горадзе сталы куплёнымі абрусамі, а яе сурвэтамі чамусьці ганьбуюць. «Дурніца, — лае сябе Ядвіся. — Гадамі сляпілася, плетучы іх за кароўмі і от без вачэй асталася».

Пытаюся, ці мог бы я купіць адну з яе сурвэтаў. «Бяры, — кажа Ядвіся і, абмацаўшы, здымае сурвэту са стала, падае мне. — Толькі, можа, я памыю яе, потым забярэш». Але я сказаў, што самі памыем і, расплаціўшыся, панёс даволі вялікую, нават цяжкаватую Ядвісіну сурвэту ў свой музей.

Пра сурвэты расказвалі мне яшчэ случчанка Алена Васілевіч і гродзенка Хрысціна Лялько. У іх селішчах і цяпер можна знайсці сурвэты.

Ці ж не парадокс: бытавалі і дасюль бытуюць у Беларусі сурвэты, гэтыя цікавыя вырабы беларускіх майстроў і майстрых, а месца ў слоўніках для слова «сурвэта» не знайшлося. Успомніўся апублікаваны Уладзімірам Ліпскім у «ЛіМе» жарт асцюкоўца (жыхара вёскі Асцюкі на Палессі), які, зазірнуўшы ў слоўнік, вельмі здзівіўся: «Як жа так — срака ёсць, слова няма!» Гэтак жа сама можна сказаць і тут: сурвэта ёсць, адна з іх во ў маіх руках, а слова ў нашых беларускіх слоўніках няма.

* * *

Прачнуўся сярод ночы. Ад месяца, які, здалося, надта ж пільна глядзеў на мяне з акна. Заманулася паглядзець месячную ноч пад адкрытым небам. Выйшаў на дарогу, што ідзе паўз мой агарод у поле. Цішыня і воля!

Асцярожна ступаючы, каб не парушыць начную цішу, я раптам стаў, як укопаны: што гэта так ярка свеціцца на ўзмежку? Прыблізіўся. Ды гэта ж на самым версе высокай таўсматай сцяблíны раз'ясніліся так светла-жоўтыя кветкі — кожная з чатырох цесна самкнёных шырокіх пялёсткаў! Нібы хто выставіў сабраныя разам дзівосныя фантастычныя ліхтарыкі. Ды гэта ж цвіце дзіванна!

Заўважаў яе тут я і ўдзень. Ды ўдзень, на сонцы, пялёсткі дзіванны згортваюцца, і іх амаль не відаць. Хаваюцца ад сонца! Насуперак дмухелям (одуванчикам), што згортваюць свае пялёсткі ўночы, а раскрываюць іх удзень, насустрач сонцу.

Што ж гэта за з'ява ў прыродзе, дзіванна? Кветкі ночы, што раскрываюцца насустрач зорам і месяцу? Выходзіць, дзіванна — дзіця месяца? У адрозненне ад усіх іншых кветак — дзяцей сонца? Дзіва!

Ці не адсюль і беларуская назва расліны — дзіванна? У той жа час расейцы называюць яе вельмі празаічна — каравяк. Мусіць, таму што гэтую расліну, кажуць, вельмі любяць каровы і свінні. Канцы ніжняга лісця дзіванны — як апаленыя, бурачнага колеру. Відаць, таму Вікця і называе гэтыя зёлкі — бурачкі.

* * *

Сто гадоў Аляксандру Твардоўскаму! Сучасніку многіх з нас.

Аляксандр Твардоўскі... Ці па-належнаму ацэнена ў нас гэтая велічная постаць? Ён жа быў не проста найвыдатнейшы паэт, не проста літаратар. Гэта — чалавек, які тварыў гісторыю.

Полем змагання за народную волю ён зрабіў «Новый мир», у якім быў галоўным рэдактарам. Добра помню, як раскатурхваў ад усеагульнага сну наша закалыханае несусветнай камуністычнай дэмагогіяй грамадства, як будзіў народную думку

гэты самы папулярны ў Саюзе часопіс (тыраж яго даходзіў тады да 150 тысяч асобнікаў!). Ім, гэтым глыбока народным, бескампрамісным выданнем, Аляксандр Твардоўскі расхістваў самыя падваліны нялюдскага таталітарнага ладу. Які гвалт падымалі ахоўнікі гэтага ладу за тую праўду, што нёс людзям кожны нумар «Нового мира»! А як цкавалі за гэта самога галоўнага рэдактара, выкручваючы яму рукі, патрабуючы змякчаць вастрыню публікацый, прытушоўваць праўду!

Кожны нумар перад выхадам яго ў свет доўга мурыжылі ў «вярхах». Падпісчыкі здагадваліся пра прычыну затрымкі і з нецярпеннем чакалі часопіс у сваіх паштовых скрынках. Як адзін з гэтых падпісчыкаў я нават пазначаў на тыльным баку вокладкі, на колькі ён затрымліваўся. Вот дастаю цяпер нумары «Нового мира», якія захоўваю ў маёй дуброўскай бібліятэцы як самыя дарагія выданні. У руках — дзясяты, кастрычніцкі нумар часопіса за 1966 год. Дата яго атрымання — 28 снежня. Спазніўся як мінімум на два месяцы. А ў тыя ж часы кожны савецкі (ведама ж, дзяржаўны) часопіс не павінен быў выбівацца з «графіка», абавязкова выходзіць у месяц, пазначаны на вокладцы. Спазненне кваліфікавалася як своеасаблівае «ЧП». Далей праглядваю нумары «Нового мира» за 1967 год. Сёмы, ліпеньскі нумар часопіса прыйшоў да мяне толькі 25 жніўня, дзявяты, вераснёўскі, — 10 лістапада, адзінаццаты, лістападаўскі, — 13 студзеня наступнага, 1968, года, дванаццаты — 10 лютага і г. д.

Ды як бы ні тапталіся цяжкімі ботамі па падрыхтаваных да друку старонках выдання цэрберы таталітарызму, Аляксандр Твардоўскі, нібы той бясстрашны воін перад наступам сціжмы варожых зграяў, цвёрда стаяў на сваёй пазіцыі, да канца абараняючы кожную публікацыю, ні на ёту не адступаючы ад выбранага накірунку. Пра гэта сведчаць не толькі праўдзівыя мастацкія творы самых таленавітых пісьменнікаў — аўтараў «Нового мира», але і баявыя, бескампрамісныя публікацыі рубрык «Публицистика», «Очерки наших дней», «Дневник писателя», «Литературная критика», «В мире науки», «На зарубежные темы» і інш.

Нягледзячы на неаслабны ціск зверху, на цэнзурныя рагаткі, Аляксандру Твардоўскаму ўдалося пусціць у людзі самыя значныя творы савецкага часу, сярод якіх былі «Один день Ивана Денисовича» Аляксандра Салжаніцына, «Не хлебам адзіным» Уладзіміра Дудзінцава, «Созвездие козлотура» Фазіля Іскандэра, апавяданні Васілія Шукшына, аповесці Васіля Быкава і многія іншыя.

Паказальна, што «Новый мир» асабліва шырока адкрываў свае дзверы перад беларускімі пісьменнікамі. Апрача Васіля Быкава на яго старонках бралі старт у вялікі свет Аркадзь Куляшоў, Максім Танк, Янка Брыль, Пімен Панчанка, Аляксей Пысін, Анатоль Вярцінскі, Пятрусь Броўка, Вячаслаў Адамчык, крытык Рыгор Бярозкін... Беларускіх аўтараў друкавалася ў часопісе значна больш, чым любой іншай рэспублікі Савецкага Саюза, апроч, вядома, Расіі.

Тут мне бачацца дзве прычыны. Першая — бурны рост беларускай літаратуры пасля хрушчоўскай «адлігі», а другая — асаблівае спрыянне беларусам з боку самога галоўнага рэдактара «Нового мира». Ён жа быў родам з беларускай Смаленшчыны, якую гвалтоўна адарвалі ад Беларусі, зрабіўшы расейскай правінцыяй. З маленства чуў Аляксандр Твардоўскі з вуснаў сваіх бацькоў і суседзяў мілагучную беларускую мову, родныя беларускія песні, якія палюбіў усёй душой. Калі б яго родныя мясціны асталіся ў складзе Беларусі, Аляксандр Твардоўскі і пісаў бы па-беларуску, стаў бы выдатным беларускім паэтам. Ды такая ўжо доля беларусаў — аддаваць сваіх лепшых сыноў і дачок суседзям: Адама Міцкевіча і Элізу Ажэшку — палякам, Фёдара Дастаеўскага і Аляксандра Твардоўскага — расейцам. Ды ці толькі іх?

* * *

На белым аркушы паперы вывеў першыя сказы даўно задуманай кнігі пра славутага беларускага гетмана Януша Радзівіла — сына Крыштофа і Ганны Кіш-

чанкі. Што ў мяне атрымаецца, не ведаю, але пісаць пра яго буду. Бо гэта — адна з самых велічных постацяў у гісторыі Беларусі. Даўно б трэба было ачысціць нашага выдатнага дзеяча ад таго дзёгцю, якім яго вымазвала плойма гісторыкаў і літаратараў. Як здрадніка радзімы вымалеваў яго ў раманах «Агнём і мечам» і «Патоп» і Генрык Сянкевіч. Так, Януш Радзівіл быў здраднікам, здраднікам Рэчы Паспалітай, але ж не Беларусі. Вялікі гетман бачыў, як Беларусь (тады яна звалася Літвой) страчвала ў гэтай саюзнай дзяржаве суверэнітэт і паланізавалася. Таму і разарваў саюз з Польшчай, адняў ад Рэчы Паспалітай сваю Беларусь. Праўдзіва расказаў пра Януша Радзівіла Вітаўт Чаропка ў нарысе «Двухаблічны Януш». Толькі ці варта было называць яго «двухаблічным»? Мусіць, аўтара спакусіў тут каламбур: «Януш — Янус». Януш Радзівіл быў адданым патрыётам сваёй Радзімы — Беларусі. Іншая справа, што яму да пары да часу прыходзілася лічыцца з яе статусам пэўнай аўтаноміі ў Рэчы Паспалітай.

* * *

У Зялёнай Дуброве новая з’ява: па вуліцы ідзе, папікваючы, жоўтая машына — збірае смецце.

Гадоў пятнаццаць назад насупраць вёскі нейкія дарожныя службы, беручы пясок, бязладна паразварочвалі зямлю, нарабілі ўсякіх кар’ераў.

У гэтыя кар’еры дуброўцы пачалі зносіць і звозіць featuresрознае смецце, «прадукты жыццядзейнасці». А некаторыя, не даходзячы ўжо і да кар’ераў, кідалі ўсё проста перад імі. Паступова вырасла на відавоку вёскі вельмі непрыглядная, калі не сказаць жахлівая звалка.

Пазбавіць ад яе вёску памог сход. Нічога не скажаш, добра робяць улады, што тады-сяды наладжваюць сустрэчы з людзьмі. На адну такую сустрэчу з дуброўцамі прыехала ўсё наша начальства: старшыня Старадарожскага райвыканкама Васіль Усік, старшыня Дражненскага сельсавета Міхал Казлоў, старшыня калгаса Аркадзь Ніканoвіч. Там я і сказаў пра звалку. Усік паабяцаў яе ліквідаваць. І праўда: прысланы бульдозер згарнуў усё ў кар’ер, зраўняў яго з зямлёй. Ну, а для збору смецця знайшлі адмысловую машыну, якая праз кожную сераду і прыходзіць у вёску.

Ды от бяда: не ўсе яшчэ выстаўляюць для яе мяшкі са смеццем, па-ранейшаму валакуць у кар’еры, а то і проста кідаюць у лесе, куды скора будзе не ўвайсці ад пластмасавых бутэлек ды цэлафанавай тары — «выдатнага» дасягнення цывілізацыі.

* * *

Яблычны Спас. Пытаю ў Насці Акуліч:

— Ці можна да Спаса есці яблыкі?

— Да Спаса няможна есці яблыкі толькі тым, — адказала ўсязнайка Насця, — у каго памерла дзіця. Бо яно будзе пытацца ў сне: «Чаму з’ела мой яблык?»

* * *

Амерыканка. Так называюць у нас кусцістае, з дробненькімі зіркатымі кветачкамі пустазелле. Ад яго проста няма ратунку агароднікам. Пасееш на градзе агуркі, моркву, буракі, цыбулю, не ўспеюць яны ўзысці, набрацца моцы, як гэтае зіркатае ліха ўжо тут. Разрастаецца мігам: надта ж разгалінаванае і ўчэпістае ў расліны карэнне. Вырвеш — барада барадою. Не праполеш — і не ўгледзіш за ёй пасеянага.

Спярша я думаў, што гэта — свінакроп, які, помніцца, так разрастаўся ў нас на загоне, пакінутым на папар, што мне прыходзілася яго скошваць, як канюшыну. Спраўджваўся ў Вікці: ці не ён гэта? «Не, гэта не свінакроп», — адказвае

яна і праз хвіліну прыносіць каліва свінакропу — таксама з драбнацветам, ды не такое, як амерыканка.

Аказваецца, паявілася ў нас «амерыканка» нядаўна, гадоў дзесяць-пятнаццаць назад. «Гэта амерыканцы падкінулі яе нам на шкоду, — тлумачыць Вікця. — Як і каларадскага жука».

Я думаў, што гэта толькі Вікціна здагадка. Ажно тое ж самае расказалі мне пра «амерыканку» і ў Дубраўскіх Хутарах, і ў Падарэссі. Што ж, свет павузеў. Усё добрае і кепскае ў адной краіне, мусіць, і праўда робіцца цяпер усіхным здабыткам.

* * *

На полі за маёй сядзібай зжалі авёс. І ў наваколлі як бы папрасторнела і пасвятлела. А як хораша пахне пасланая на іржышчы камбайнамі свежая залацістая салома з дамешкам палявога зелля (бачу там прывялыя каліўцы мяты, сцяблінкі зярністай лебяды, белыя галоўкі дзяцельніку, усюдыісны пырнік).

Хоць сонца яшчэ грэе, ды чую спіной (хаджу ў адной рубашцы) і нагнаную паўночным ветрам сцюдзёнасць. Што тут казаць — лета неўпрыкмет саступае месца восені.

Перад сном ізноў іду падыхаць аўсянішчам. Воблакі на захадзе, якія адразу пасля закоту сонца гарэлі золатам, пацямнелі, зрабіліся цёмна-сінімі. Трохі паўднёвей выслізнула з-за лесу на неба роўная, як адсечаная, палавіна месяца, яркая, аж чырвоная, нібы нехта добра напаліў яе ў кавальскім горане і выпусціў на волю. І цяпер падсечаны месяц адзін пануе ў нябеснай прыстрані. Зоркі ў яго чырвоным святле бледныя, іх амаль што не відаць. Хоць неба, здаецца, і без воблакаў. На ім толькі нейкая прывідная, фасфарычная смуга.

Дзіўна, як тут ціха, у полі. Нідзе не абзавецца нядаўна няўтомная перапёлка. Няўжо адышла ўжо яе пара? І дзе бесперапыннае дагэтуль паскрыпванне ў траве драча? Няўжо ж пусціўся ўжо ў свой далёкі паход? Яшчэ ж на Ядвісінай буслянцы клякочуць буслы і ластаўкі шмыгаюць перад хатай. Але ж тыя паляцяць у выраі на сваіх падужэлых за лета крылах. А драч, кажуць, пеша туды выпраўляецца. Значыць, яму трэба болей часу, каб трапіць у цёплыя краі. Чуючы за сабой павевы сіверу, пэўне, дабіраецца туды подбежкам, можа, упадскок, упадлёт. Ды хто гэта калі ўбачыць?

* * *

Ядвіся ўспомніла мне даўнейшых старцоў-лірнікаў. У апошняга, якога яна бачыла, звісала на грудзях перакінутая праз плячо лера. Падобная яна была на бойку (якой збівалі масла) — з двума днамі. Старац круціў ручку, і лера іграла. А сам ён спяваў набожныя песні. Пры ім быў хлопчык. Смактаў нейкі пернік. Такі от малюначак з мінулага.

* * *

Сёння адарваў мяне ад Зялёнай Дубровы Мікола Ермаловіч: прыйшла чарга аддаваць на вёрстку нашай Ларысе Ваўчок аднатомнік яго выбранага ў серыі «Беларускі кнігазбор».

Мікола Ермаловіч — не проста выдатны гісторык. Гэта чалавек, які вярнуў беларусам Беларусь, выблытаўшы яе з густога павуціння векавой хлусні і ва ўсёй паўнаце паказаўшы нам яе дзяржаўную веліч у мінулым. Развеяўшы міф аб так званым літоўскім заваяванні Беларусі, ён бліскотна паказаў, што магутная сярэдневяковая дзяржава Вялікае Княства Літоўскае — гэта была ніякая не летувіская, не жамойцкая, як вякамі таўклі нам у мазгі сціжмы гісторыкаў-цемрашалаў, а беларуская дзяржава, слава якой больш чым пяцьсот гадоў грымела ў свеце.

Здавалася б, такому найважнаму для Беларусі адкрыццю беларуская дзяржава павінна была б даць самы шырокі ход, як мага большымі тыражамі выдрукаваўшы кнігі гісторыка-патрыёта і забяспечыўшы імі ўсе бібліятэкі краіны і самыя шырокія чытацкія колы. Ды, як гэта ні парадаксальна, такое не адбылося.

Праігнараваны дзяржаўнымі «структурамі», Мікола Ермаловіч вымушаны быў шукаць магчымасці выдання працы найвялікшай дзяржаўнай важнасці ў прыватных выдавецтвах.

З прапановай выдаць сваё даследаванне пра Вялікае Княства Літоўскае Мікола Іванавіч звярнуўся да мяне як выдаўца беларускай літаратуры.

Я чытаў даследаванне Міколы Ермаловіча яшчэ ў машынапісным «самвыдаце». Яно было для ўсіх нас, першых яго чытачоў, як подых свежага паветра ў затхлай атмасферы маны і камуністычнай дэмагогіі. І таму з вялікай ахвотай узяўся я рыхтаваць да друку самую галоўную кнігу Міколы Ермаловіча. Але на шляху да яе выдання стала непераадольная перашкода: дзе ўзяць на яго сродкі? Да якіх толькі інстанцыяў мы не звярталіся — глуха! На дапамогу інваліду па зроку, ужо амаль сляпому Мікалаю Іванавічу прыйшлі сабраты па няшчасці — таварыства сляпых, якое ўзначальваў тады дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі Нятылькін. І от, шукаючы кантору таварыства, я вяду пад руку Міколу Іванавіча Ермаловіча, каб аформіць фінансавую дапамогу на выданне ці не самай важнай для Беларусі кнігі XX стагоддзя.

Пусцілі мы кнігу праз выдавецтва «Беллітфонд», да стварэння якога я сам прычыніўся і стаў яго галоўным рэдактарам. У рукапісе кніга называлася так: «Вялікае Княства Літоўскае — беларуская дзяржава». Я прапанаваў аўтару назваць яе трошкі інакш, з большым сцвярджэннем — «Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае». Падумаўшы, Мікола Іванавіч згадзіўся з такім варыянтам і напісаў спецыяльную прадмоўку да кнігі.

Калі кніга, вёрстку якой яшчэ прагледзеў аўтар і ўнёс усе неабходныя праўкі, была аддадзена на друкарскі станок, мне пазванілі блізкія Міколы Іванавіча з вельмі трывожным пытаннем: «Дзе дзеўся Мікола Ермаловіч?» Так, рыхтуючы кнігу, мы вельмі часта сустракаліся з ім у Доме літаратара, але дзе ён быў цяпер, я нічога не мог сказаць. Душу агарнула трывога: хаця б усё было добра з Міколам Іванавічам. Ды нічога добрага чакаць было нельга: выдатнага нашага гісторыка збіла вечарам таксі, і ён трапіў у бальніцу, дзе яго ўжо не адратавалі. Ніякай мерай няможна было змерыць гэтай вялікай для Беларусі страты.

Як гэта ні шкада, кнігу свайго жыцця Міколу Іванавічу так і не давялося патрымаць у руках. Выйшла яна з друку праз некалькі дзён пасля яго гібелі. Гэтым неацэнным даследаваннем Мікола Ермаловіч выканаў сваё зямное прызначэнне.

І от я праз дзесяць гадоў узяўся складаць кнігу выбраных твораў Міколы Ермаловіча для нашай залатой серыі. Сядзеў над ёй у Мінску, сядзеў і тут, у Зялёнай Дуброве. Апрача галоўнай працы гісторыка «Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае» ў аднатомнік уключыў і яго найбольш цікавыя артыкулы, эсэ, апавяданні, пісьмы і нават вершы. Перад вёрсткай усё гэта патрабавалася мне давесці да ладу, напісаць каментар да іх.

Так што выбачайце, мае матыкі ды капачы, мой сад і агарод у Зялёнай Дуброве, я мушу вас пакінуць, пакуль не здам кнігу Міколы Ермаловіча ў друк. З яе людзі ўбачаць, якая гэта вялікая постаць у культуры Беларусі — Мікола Ермаловіч.

* * *

На сваім падворку тупае Насця Акуліч. Яшчэ нядаўна ў яе хляве рохкаў кабан-кормнік, за хатай на ялавіне пасвілася рабая карова. А раней цэлы гурт авечак выганяла яна з хлява на задворак. Пытаюся, што ж цяпер асталося ў яе,

не зусім яшчэ старой адзінокай жанчыны, праўда, падупалай апошнім часам на здароўе.

— Што асталося? А што бачыш, — адказвае Насця з усмешкай. — Кот, сабака да я, небарака.

Мінуў той час, калі вяскоўцы трымалі ў сябе кароў ды свіней да апошняга ўздыху.

* * *

Незвычайнае відовішча: над Зялёнай Дубровай — вялікая чарада буслоў! Усе высыпалі на вуліцу глядзець. Ляцелі буслы нізка, нікога не баючыся. За вёскай яны апусціліся. Адны паселі на блізкіх хвоях ды бярозах, другія — проста на зямлю.

Што ж іх сюды прывяло, дзеля чаго наведаліся ў нашу зацішную вёсачку?

У Зялёнай Дуброве буслы вядуцца толькі на Ядвісінай ліпе. Вечарам я прайшоў у той бок. Буслы, якія сёлета вывеліся, яшчэ сядзелі на буслянцы разам з бацькамі. Толькі выцягвалі ўверх свае чырвоныя дзюбы ды, здавалася, не зусім упэўнена ўзмахвалі крыламі.

Ды вось дзіва: раніцай, ідучы на прагулку, я ўжо іх там не ўбачыў. Буслянка была пустая. Не ўбачыў за вёскай і прылётных буслоў. Недзе на світанні яны адляцелі. Цяпер усё стала ясна: гэта ж яны прыляталі забіраць з сабой і нашых, дуброўскіх, буслоў. Каб разам ляцець у вырай.

Яшчэ большае іх нашэсце на Зялёную Дуброву было гады два ці тры назад. Сабраўшыся тут, яны сядзелі тады ўсюды — на дрэвах, на дахах хат, нават на маёй тэлевізійнай антэне, на вежы калгаснай вадакачкі, на полі за агародамі. Прыляцеўшы перад палуднем, яны і назаўтра не захацелі адлятаць. За што ж яны ўпадабалі так нашу Зялёную Дуброву?

Прычыну я ўбачыў на полі, за маім агародам. Там, сярод гурту буслоў, кінуўся мне ў вочы адзін з іх. Ён сядзеў — сядзеў, не стаяў, — апанурана апусціўшы ў зямлю дзюбу. Калі буслы вакол яго пачыналі з шумам узлятаць, гэты бусел станавіўся на ногі і, як відаць, хацеў кінуцца за імі, ды ўзмахваў толькі адным крылом, другое ж не хацела падымацца, адразу ж ападала. Мусіць, было падбіта. Тады буслы, пакружыўшыся ў паветры, ізноў апускаліся каля яго.

Цэлыя два дні і дзве ночы аставаліся тады ў нас буслы. Толькі на трэці дзень яны падняліся і вялікай грамадой, праўда, не клінам, як іншыя птушкі (можа, выстраяцца як трэба ў палёце?) паляцелі ад нас у вырай. Я паспяшаўся на поле паглядзець на падбітага бусла. Падумаў нават, што яму трэба неяк памагчы перазімаваць тут, папрасіць некага прыняць крылатага госця дзе-небудзь у хлеў. Ды на сваім месцы я яго не ўбачыў. Значыць, за гэтыя дні яго крыло зажыло, і буслы забралі свайго сабрата з сабой.

Я доўга глядзеў, як яны, паблісквеючы сваім белым апярэннем, ляцелі ўсе разам за сіні небасхіл. Ляціце ж, буслы, ляціце, нас, людзей, жыць вучыце!

* * *

Сёння 1 верасня. Залужская сярэдняя школа запрасіла мяне на ўрачыстую лінейку — святкаванне пачатку новага навучальнага года, якое завяршылася «ўрокам» — «Беларусь — твая Радзіма». З добрым, прыўзнятым настроем варочаўся я адтуль у сваю Зялёную Дуброву. Вельмі парадавала тое, што мая родная школа засталася беларускай не толькі на паперы. Настаўнікі, не ў прыклад іх калегам у многіх іншых школах, не адцураліся мовы свайго народа, вучаць дзяцей любіць Радзіму — Беларусь. Усе, уключаючы новага дырэктара Уладзіміра Пятровіча Усіка, сапраўднага інтэлігента, гутарылі са мной на чыстай беларускай мове. Нібы сярод блізкай радні пабыў я з імі, сапраўднымі патрыётамі сваёй зямлі, акрыяўшы душой. Вось хто ратуе Беларусь.

* * *

Чую па радыё: арыштавалі Уладзіміра Някляева. За тое, што нешта не так сказаў. Што пагладзіў некага не па шэрсці.

Агульнавядома: улада, якая баіцца сваіх выдатных паэтаў, — антынародная ўлада, і канец яе непазбежны.

* * *

Чытаю-перачытваю Кузьму Чорнага, і, як казаў Уладзімір Караткевіч, «раскошы поўныя рэкі ў сэрца маё плывуць». Якая жывая, зусім натуральная, незалітаратураная ў яго мова, мова нашай Случчыны. А якая вольная плынь яго апавядання!

* * *

Я не адразу зразумеў, што гэта за жаласлівы гук даляцеў з неба. Прыслухаўся, паўзіраўся, стоячы сярод поля за маім агародам. Жураўлі! Крлн-крлн-крлн — улавіла вуха іх прыглушаны далечынёю клік. У высокім-высокім паднябессі, пры самых воблаках ледзь змеціў я не зусім роўны жураўліны клін. Ён то хаваўся ў разарванай белай аблачыне, то ізноў выплываў з яе.

Унізе ляжала зямля, па якой ішла ціхая восень. Там і там чарнелі ўзараныя трактарамі разлогі палёў, усімі сваімі барвамі палымнелі наўкруга лясы і пералескі, шарэлі прымружаныя лёгкай смугою сцішаныя лугі-пералогі з парыжэлымі купінамі асакі ды зеленавымі яшчэ кустамі лазнякоў і ракітнікаў.

Тут, у самых аддаленых, не дасяжных людскому воку лясных закутках, на куп'істых, яшчэ не асушаных балацінах-імшарынах з рубінавым россыпам журавінаў і нябесным блакітам буякоў, жураўлі вілі свае гнёзды, выводзілі дзяцей, жылі-раскашавалі з самай вясны. Тут, сярод лясоў і балот, на зялёных берагах глухіх азярын, у чаратах ды аерах далёкіх павілястых рэчак — спрадвечная радзіма гэтых мірных вольналюбых птушак.

Ляцець у вырай, пакідаць родныя разлогі змушаюць іх халады, што нясуць паўночныя вятры-сіверы, набліжаючы суровую зіму з яе маразамі ды снежнымі завірухамі.

Крлн-крлн-крлн... Гэты журлівы жураўліны крык — спрасаваны жаль тысячагоддзяў, песня-плач, паланэз развітання з роднай зямлёй. Ці не з яго, птушынага паланэзу, узяў самыя пранізлівыя ноткі наш Міхал Клеафас Агінскі і для свайго славутага паланэзу, калі развітваўся з Радзімай?

* * *

Вікця:

— Жураўлі ўжо адляцелі. Ляцяць і забіраюць з сабой полудзень.

Гэта значыць: кароў ужо ганяюць не на ранкі, а на ўвесь дзень. Пастух астаецца без полудня, толькі перакусвае тым, што ўзяў у торбу.

* * *

Ад ясналісця пасвятлелі дні.
За селішчам — бы свечачкі, бярозкі.
Зара асін. А тут, на ўскрайку вёскі,
Як віцязь — клён у залатым агні.
У полі — пуста. Звезлі лета ў гумны.
Іржэўнік пасівеў ад імжакоў.
Іду ў лугі. Сумота хмызнякоў,
Як вечнасць, бор за імі многадумны.

* * *

Замест звычайнай ранішняй праходкі скочыў на веласіпед з пластмасавым вядзерцам на багажніку і — пад Асінава, глянуць грыбоў. У беразе лесу наткнуўся на краснагаловікі.

Калі вяртаўся назад, сустрэлася на вуліцы Вікця. Убачыўшы ў вядзерцы грыбы, зазначыла са смяшком:

— Ранняя птушачка зубкі калупае, а позная толькі вочкі працірае.

Разумею, што хоча гэтым сказаць: ранняя птушачка — гэта я, позная — яна.

Значыцца, сёння вярнуўся з двайной здабычай: з грыбамі і з новай Вікцінай прыказкаю, якую зладзіў на хаду і от цяпер запісваю на паперы, каб не забыць.

* * *

З кашом-пляценікам на сагнутым локці рукі — у лес: пайшлі баравікі. Калі настае іх пара, як тут уседзець у хаце?

Выглядваючы іх па верасах ды імхах, здаецца, цэлымі днямі кружыў бы па лясах ды ўзлесках. Захапленне з маленства. Ціхае паляванне.

Хадоў у грыбы ў нас безліч: вакол жа Зялёнай Дубровы — лясы і лясы.

Вельмі прыцягальныя грыбныя мясціны ў Дрычынскім накірунку (Дрычын — недалёкая вёска на Пцічы). Ісці туды трэба Конкай. Конка — шырокая, шляхавая дарога, зарослая па баках усякімі ляснымі дрэвамі і кустамі. Калісьці (больш за сто гадоў назад) тут працягнулі вузкакалейку, якой вазілі да станцыі Фалічы ўпрэжанымі ў ваганеткі коньмі лес — адсюль і назва дарогі. Ступаючы краем Конкі, пільна ўглядаешся ў траву, у лазнячкі ўзбочных канаў. І раптам аж ёкае сэрца: з-пад сіўцовай купінкі выглядвае гэтакі таўсматы курдупель у нераскапялюшанай яшчэ, шчыльна насунутай на галаву (пардон, на корань) шапачцы, якая не паспела яшчэ і пацямнець. Баравік! А побач, у канаўцы — глядзі — і другі, і трэці!

Так, нікуды не зварочваючы з Конкі, даходзіш, бывае, да самага Асінава, нашага дальняга поля. Назад ступаеш ужо другім краем дарогі. Хоць і многа па ёй праходзіць люду, але кожны нешта ды знойдзе. Надта ж любяць баравікі выскокваць з цяністых гушчарнікаў на святло, на людзі, проста ім пад ногі — тут толькі не варонь!

Але адной Конкай мала хто абмяжоўваецца. Звычайна збочваюць з яе — хто ўлева, хто ўправа, кожны на свае, аднаму яму вядомыя сцежкі-дарожкі, углыбляючыся далей у лес. Там можна кружыць лагамі-пералогамі без канца.

Вельмі слаўныя грыбныя мясціны і па Майсеевіцкай дарозе (Майсеевічы — вёска ў Асіповіцкім раёне, за шэсць кіламетраў ад Зялёнай Дубровы). Надта ж зманлівыя там узгорыстыя хвайнячкі з чыстым белым машком понізу. Ох, якія тояцца ў ім цёмна-рыжыя, аж чорныя (недзе кажуць — каштанавыя) «класічныя» баравікі, у разрэзе белыя, як сыр.

Цудоўныя хады для грыбовікаў і па Гаях — змешаных лясах, што шырокай паласой разлегліся на падыходзе да возера Скачальскага. Там, па верасах ды зялёных імшарынах між старых, парэпаных у камлях хвояў баравікі ўжо не такія — больш светлыя, на доўгіх танклявых ножках, але не менш прыгожыя. На Гаях, асабліва на ўпадзістых месцах, пры буячніках можна напаткаць элегантных чырвоных і жоўтых краснагаловікаў, не кажучы пра ўсякіх там лісічак, суравежак, махавікоў, таўстушак, бабак, палявых баравікоў, падрашэтнікаў, маслякоў...

Калі пачынаюцца грыбы, усе лясы гэтых трох накірункаў поўняцца людскімі галасамі. Сюды з’язджаюцца на машынах, на матацыклах, на веласіпедах грыбовікі з Старых Дарог, з Асіповіч, з Мінска. Ад раніцы да познага вечара не сціхаюць людскія перагукванні ды сігналы машын.

Што да мяне, то я чым далей уцякаю ад аматараў гэтакага «ціхага» паляван-

ня ў свае патаемныя, вядомыя, мусіць, толькі мне зацішныя грыбныя куткі, каб быць сам-насам з лесам.

Сёння я іду пад Альхоўку — наш колішні сенакос. Дарога туды калёсная, павілястая і ўсё — лесам, лесам. Хоць даўно ўжо тут ніхто не ездзіць, але яна не надта зарасла: сюдой жа ўсё яшчэ ходзяць дуброўцы — то ў грыбы, то ў ягады.

Па гэтай дарозе і абапал яе, у лясах і пералесках, — самыя грыбы. Знаходжу іх і цяпер. Найбольш лезуць на вочы суравежкі — чырвоныя, жоўтыя, зелянкавыя. Пападаюцца, хоць і рэдка, маслякі — тут, у змешаным лесе, не іх селішчы: яны больш любяць маладыя хвойнічкі. А вунь між чарнічніку жаўцеюць і лісічкі. З левага боку, з куп'я, выставіў сваю ярка-чырвоную шапачку малады цыганісты краснагаловік. Нахіляюся, каб падрэзаць, і бачу яшчэ два, такія ж маладыя, з нераскрытымі шапачкамі, гэтакія стаўбункі-мінарэцікі. Часцей растуць яны там, дзе ёсць асіны. Таму недзе называюць іх падасінавікі або асавікі. У нас жа завуць іх — краснагаловікі. За іх прыгожую, «красную» шапачку. Бываюць яны і чырвоныя, і жоўтыя.

Усе гэтыя грыбы і тут трапляюцца мне на тых жа самых месцах, дзе я знаходзіў іх у далёкім маленстве, больш чым паўвека назад. Таму больш пільна ўглядаюся туды і цяпер.

Лясная дарога раздвойваецца і нейкі час паралельна асноўнай ідзе і дадатковая: можа, быў тут раз'езд возчыкаў сена з Альхоўкі? Вочы самі сабой скіроўваюцца на ўтравелую броўку паміж гэтымі дарогамі. Там з маленства знаходзіў я чарнагаловыя, з попельным налётам ладныя баравікі-таўстуны. Колькі было некалі радасці, калі я выкарчоўваў іх адтуль, цвярдых, чыстых на зрэзе і беражна клаў у кошык!

І раптам — хіба ж не дзіва? — і цяпер адзін такі чарнявы баравік-крапак з той жа самай броўкі глядзіць на мяне!

Яшчэ аднаго немалога баравіка сустрэў я проста на дарозе, на самай сярэдзіне. Вылез і стаіць сабе, нікога не баючыся. Добра, значыць тут не праходзілі яшчэ канкурэнты-грыбовікі.

З Альхоўскай дарогі паварочваю ў малады хвойнік: вельмі зманьвае мяне нізенькі белы машок у прагалінах, дзе не раз спатыкаў я грыбное шчасце. Добра хадзіць па такіх светлых, далёка адкрытых воку лясных галінах, лёгка ступаючы па шарготкаму машку-лішайніку, не чапляючыся за голле і сукі-патырчакі. Хоць і светлы, амаль белы гэты машок, але і тут трэба добра прыглядацца. Бо цёмнарыжыя (каштанавага колеру) баравікі вельмі ўмеюць маскіравацца пад такія ж хваёвыя карынкі. Як і спадзяваўся, амаль адразу знаходжу тут то аднаго, то другога такога рыжуна.

Хай невялікі тут абход, але ж у добрым гуморы іду я назад, несучы дадому лясныя знаходкі.

* * *

Раніцай прайшоў на Конку, туды, дзе яна падходзіць амаль пад самыя хаты нашага канца вёскі. Узяў з сабой і вядзерца: тут жа добрае баравіковае месца. І праўда: пры зарослых хмызнякамі ўзбочных канаўках знаходжу аднаго, потым другога, трэцяга... Маладыя, крэпенькія баравічкі — залюбавацца.

Ды першы раз я не парадаваўся гэтаму нечаканаму нерушу. Бо калі адыходзіў адтуль, згледзеў з кійком у руцэ і невялічкім кашалём у другой прыгорбленую постаць Колі Карповіча, які ступаў па маіх слядах. Пасля інсульту далёка хадзіць у лес ён не можа — толькі тут, каля дома. Ды от бяда: у гэтым месцы ён ужо нічога не знойдзе пасля мяне. Калі б ведаў, што ён, зусім нямоглы, прыйдзе сюды ў грыбы, змалку любы і яму занятак, я абмінуў бы гэтае месца: хай бы пацешыўся хворы Коля знойдзенымі баравічкамі. Хоць ты вярніся і ціхенька паўсаджвай

іх назад. Але і гэта не зробіш, бо я ўжо іх падрэзаў нажом. Я адабраў у трохі старэйшага за мяне сябра і сардэчнага чалавека гэтую радасць, цяпер, пэўне ж, не частую ў яго госцю.

* * *

Вікця: «Бульба зарасла травой, а дзе галісцей, дзікі рыюць». «Галісцей» — ад слова «гала». Дарэмна шукаць слова « галіста» ў нашых слоўніках: не дайшлі да такіх слоўцаў мовазнаўцы.

* * *

Як люба слухаць мне гаворку маіх суседзяў — Вікціных дзяцей і ўнукаў, што кожныя выходныя ды ў водпускі з'язджаюцца з Мінска «дадому». Усе яны, услед за самой Вікцяй, гавораць на чыстай беларускай мове, мове сваёй зямлі. Ды от дзіва: калі, бывае, сустракаю іх у Мінску, яны ўсяляк пнуцца «русіць», сыплючы направа і налева «перламі» нашай знакамітай трасянкі. Так от мы, беларусы, падладжваючыся пад чужаземшчыну, дагаджаючы прыхадням і сваім адшчапенцам, і ломім свой язык, ломім сябе.

* * *

Іду вуліцай з кашом у руцэ.

— Што, касіць? — са смехам пытае са свайго двара Толя Корзун.

— Ага, касіць, — таксама смяюся яму ў тон.

«Касіць» — гэта браць баравікі, якіх сёлета — хоць касу закладай. І што цікава — найбольш іх не ў «традыцыйных» месцах, а пры лясных балоцінах, у асацэ ды буячніку, дзе ніколі не раслі. Той жа Толя першы раз за адзін заход набраў там цэлых тры кашы адных маладзенькіх і чыстых, як шкло, баравічкоў.

Таму амаль кожны дзень лячу і я з кашом у лес: паляўнічы азарт!

* * *

Кожная хата ў Зялёнай Дуброве — цяпер як праўдзівы грыбаварны пункт. Ідзе перапрацоўка дароў лесу, усе стараюцца не ўпусціць момант.

Наша хата — таксама не выключэнне. Жонка варыць грыбы са спецыямі ў вялікіх каструлях і раскладвае іх у слоікі, а я — «закатваю». У адных слоіках будуць у нас усякія, «збор-дружына», у другіх — толькі маладзенькія баравічкі. Ох, як прыемна будзе адкрываць нашы грыбы-грыбочкі зімой і выкладваць на сподкі!

Але мы больш за ўсё грыбы сушым. Кожны дзень я прапальваю ў печы і, калі ўсё выгарыць, засаджваю туды загнутыя па краях уверх лісты бляхі з раскладзенымі на саломе грыбамі: найперш гэта — баравікі, і маладыя, белыя, і жаўцякі: усе пойдуць у ход! Апроч баравікоў сушу я яшчэ краснагаловікі, бабкі, махавікі, маслякі, апенькі.

Што ж да жоўценькіх лісічак ды падзялёнак, то іх мы складваем у цэлафанавыя пакецікі і кладзём у маразільныя камеры халадзільніка. Зімой на скавародзе яны будуць як свежыя, як толькі з лесу.

* * *

Якое гэта ўсё-такі для душы свята — хадзіць-блукаць па баравіках, калі яны ёсць у лесе!

Але не меншае, калі для іншых грыбовікаў не большае свята: вышукваць і браць рыжкі.

Помню, ездзіў я раз на сваіх «Жыгулях» ў Валожынскім накірунку ў лес з заядлым грыбовікам Анатолем Вялюгіным. Апроч усяго іншага знайшоў ён там

адзін велікаваты рыжок. З выгляду здаровы, але добра пабіты грыбной мухай. Доўга круціў яго ў пальцах мой кампаньён: і спажываць такі сумнеўна, і выкінуць шкада. Усё ж ціхенька паклаў у свой кашэль: надта ж смакотны гэта грыб, праўдзівы далікатэс. Асабліва ў засоле. Ды пасля чаркі.

Другім разам з'ездзіць у рыжкі падбіў мяне Іван Чыгрынаў. Гэта ж было яго захапленне — рыжкі. Відаць, не раз паляваў за імі. І добра ведаў, дзе яны растуць. Убачыўшы непадалёк ад адной вёскі густа скапычаны каровамі выган пры хваёвым ляску, сказаў мне спыніцца. Выбавіўшыся з машыны, упэўнена падыбаў з сінім пластмасавым вядром па тым выгане, абмінаючы каровіны лепяхі і саміх кароў, якія якраз пасвіліся там і якія, убачыўшы гэтага цыбатага дзівака на сваім папасе, пападымалі галовы і з насцярогай сачылі за ім, перастаючы нават жаваць: што яму тут трэба? Добра там патупаўшы, і праўда навыпорваў Іван з дзясятак гэтых рыжа-паласатых грыбкоў, прытым здаровых, нечарвівых — на зрэзе іх полых ножак-карацелек аж ружаваты сок павыступаў кропелькамі. Паказваючы знаходку, ён пераможна глянуў на мяне, бо я не верыў, што можна было там нешта знайсці.

У ваколіцах Зялёнай Дубровы раней я часцяком знаходзіў рыжковыя селішчы. У нас таксама раслі яны больш на прылессях, дзе пахадзілі каровы, на выбітых іхнымі капытамі сцежках. Я кожны раз радаваўся, калі на іх нарываўся. Чамусьці мне добра запомнілася ўзвышаная лугавінка пры маладзенькім, прыземістым ельнічку (ніжнія лапкі елак слаліся па зямлі) у Шыях (так называюць у нас доўгія сенакосы, што шыюцца між лесу). Калі я туды ступіў, то раптам стаў, як укопаны:

Гляджу, пад елачкамі — неруш:
Яны, рыжманыя кружкі!
І тут і там — вачам не веру —
Па травяным лужку — рыжкі!
На крохкіх ножках-карацельках —
Няйначай, зверанят сям'я —
У зелянавых жылках ценькіх
Застылі ў страху між куп'я.
Я не спяшаў іх рэзаць, рыжых,
Хадзіў ля іх, паўз той лужок.
А калі браў, падоўгу слізгаў
У пальцах, як жывы, рыжок.

Гэтыя радкі напісаліся тады ж, «па гарачых слядах», так што яны, здаецца, дакладна перадаюць тую маю радасць.

Цяпер, калі Зялёная Дуброва асталася без кароў, напаткаць рыжкі стала ў нас значна цяжэй.

Але адну слаўную мясціну я ўсё ж нагледзеў. Гэта — Арэхава.

Да вайны Арэхава была невялічкая, да дзесяці двароў вёсачка на лясной паляне паміж Зялёнай Дубровай і Лядамі. Калі пракацілася кампанія па пераносе хутароў і дробных паселішчаў у большыя калгасныя вёскі і сёлы, арэхаўцам загадалі перабрацца ў бліжэйшыя Ляды. А каб яны доўга не раздумвалі, улады жывасілам пасцягвалі з іхніх хат стрэхі. З апошняй хаты страху спусцілі 22 чэрвеня 1941 года, калі ўжо грымела вайна.

Доўгі час там было поле. Зусім нядаўна яго засадзілі лесам. Вельмі прытульныя травяныя прагалкі між маладзенькіх хвоек і аблюбавалі рыжкі.

Туды і качу я веласіпедам. З гравейкі, якая злучае Зялёную Дуброву з Лядамі і Залужжам (а адтуль — і з усім светам), я скора зварочваю на пескавую дарогу, што павіваецца лесам, а потым убягае ў былую арэхаўскую вуліцу, абапал якой маўкліваю вартай пасталі старыя галіністыя кляны ды ліпы — усё, што асталося ад былога селішча. Па абодва бакі даўняй вуліцы і разбегліся роўныя рады маладога хвойнічку з палосамі беразнячку, заняўшы ўсё арэхаўскае поле.

Я стаўлю пад ліпай веласіпед і бяру ў рукі свой грыбны кашэль.

Першыя ружаватыя кружочкі рыжкоў знаходжу ўжо на самой вуліцы, усцеленай варсістымі лісцічкамі гусінай лапкі. Але больш за ўсё іх — у траве паміж маладымі пасадкамі і старым хвойнікам, які з усіх бакоў акаймляе арэхаўскую паляну.

Калі я пачаў іх памаленьку рэзаць і класці ў кашэль, з гэтага старога змрачнаватага хвойніку выйшаў з пустым кашом на сагнутым локці рукі спартыўнай камплекцыі хлапец.

— І што вы тут знаходзіце? — папытаў ён.

— Ды тое-сёе, — ухілістa адказаў я.

Ён бесцырымонна зазірнуў у мой кашэль з рыжкамі, але яны не зрабілі на яго ніякага ўражання.

— Няма грыбоў. Адышлі. Асталася ўсякая шантрапа.

Значыць, у «шантрапу» залічыў ён і рыжкі, якія здавён цаніліся нароўні з баравікамі. Дзіўна, што сённяшнія маладыя людзі не ведаюць сапраўдную іх цану. Я не раз бачыў гэтыя першакласныя грыбы збітыя чыёйсьці нагою, хоць былі яны крэпкія, зусім не чарвівыя.

* * *

Калі ехаў веласіпедам з Арэхава, убачыў на лаўцы Ядвісю. Суняўся перад ёй, паздароўкаўся. «Хто гэта?» — пытаецца: не бачыць, бедная. Назваўся, расказаў, што быў у рыжках. «Рыжкі — добра, але, хочаш, я дам табе адзін даўнейшы рэцэпт. Гэтак жа, як рыжкі, можна засольваць і сырыя суравежкі: памыў, паклаў шапкамі ўніз у якую дзежачку, пасаліў, прыціснуў гнётам і дні праз тры можна есці. Смак не горшы, чым у рыжкоў. Гэтак рабіў мой цесць, Сцяпан Цвірка. Для такога салення, — дадала яшчэ Ядвіся, — падыходзяць зялёныя, жоўтыя і белаватыя суравежкі. Не чырвоныя». Дык от чаму, падумалася, называюцца яны сыраежкі (у нас — суравежкі): іх здаўна елі сырымі. Засольваючы такім спосабам. А мы пра гэта забыліся. І забыліся, чаму яны так называюцца.

* * *

На ўсё знойдзецца ў народзе сваё трапнае выслоўе, змацаванае звонкай рыфмай і пушчанае ў свет як прымаўка. От і пра няшчасных (ці шчаслівых?) выпівакаў, волю якіх паралізуе неадольная цяга да гібельнай прывычкі, падае мне ў Лядах такую прымаўку 83-гадовая Антоля Пыза, з якой сяджу на яе лавачцы перад хатай:

Хто чаго ўкусіць,
Таго пакінуць не мусіць.

А такіх, хто «ўкусіў» таго зманлівага «зелля», сустрэнеш, на жаль, ці не ў кожнай, нават самай маленькай, такой, як Ляды і Зялёная Дуброва, вёсачцы. Цяперашняя наша беларуская бяда!

* * *

Бадзяючыся па лесе, натрапіў за Станком на Корзунаву дзялянку. Роўная, па калена зарослая густой здзічэлай травой зацішная палянка сярод лесу. Калі наш сусед і сваяк Коля Корзун рабіў лесніком, гэтую палянку выдзеліла яму лясніцтва для сенакосу. Коля быў на сёмым небе ад гэтага надзелу. Калгаснікам ён і марыць не мог пра такую раскошу.

Стаўшы гаспадаром дзялянкі, Коля прывёў яе да ладу, ачысціў ад кустоў і дрэўцаў, узараў цаліну, выгладзіў раллю баронамі і засеяў цімафееўкай з вікаю. Каб яе не травілі каровы ды ласі, абнёс наўкруга жардзяным плотам.

Для Колі гэта была «свая зямля», свой куточак волі сярод калгаснага пры-

гону, яго Эдэм. Даглядаючы сваю дзялянку, робячы тут сена для каровы, Коля адпачываў душой. І калі паміраў, папрасіў сына запрэгчы каня і звазіць на гэтую дзялянку, каб яшчэ раз паглядзець на яе і навек з ёю развітацца.

Не стала Колі ў тыя савецкія часы яшчэ ў маладым узросце. Загубіў яго той жа бесчалавечны Архіпелаг ГУЛАГ, у які быў закінуты на пагібель у 30-х гадах і ягоны бацька. Толькі бацька апынуўся там, за калючым дротам сталінскага канцлагера як «вораг народа», як зэк, а сын — як канваір гэтакіх зэкаў, сярод якіх ён мог бы сустрэць ды канвайраваць і яго, роднага бацьку: такую адбываў Коля вайсковую службу. У тым лагеры, расказваў ён, у лютыя маразы, не толькі зэкам, але і іхным канваірам не заўсёды знаходзіўся належны абутак, і Коля моцна застудзіў ногі, ад чаго атрымаў невылечную хваробу, якая і давяла яго да магілы.

Маўчыць сёння Корзунава дзялянка, зарастае «травой забыцця». Ніколі не прыйдзе ўжо сюды ні ён сам, ні хто-небудзь іншы. Нікому яна цяпер не патрэбна. Плот, якім ён некалі абгарадзіў свой дарагі запаветны куток, абваліўся, струхлеў. Я бачу ўжо толькі яго рэшткі. А скора не будзе тут і іх.

* * *

Разгарнуў адзін з самых першых сваіх вершаваных зборнічкаў і адчуў, як увесь твар заліўся агнём сораму. Пякучага сораму перад самім сабой. За бяздумную «ідэйную» траскатню. Толькі ці адзін я пападаўся тады ў шырока расстаўленыя сеці камуністычнага цемрашальства? Ды гэта мала суцяшае.

* * *

Слухаючы, як «русяць» новыя дуброўскія пасяленцы, успомніў паджылую паўнаватую жанчыну ў электрычцы, якой нядаўна ехаў з Мінска. Яна сядзела ў суседнім са мною купэ (ці адсеку?) і казала сваім кампаньёнкам такога ж веку: «Была я на Украіне — усе там гаворацъ па-свойму, па-ўкраінску. Адны мы, лапавухія беларусы, цураемся сваёй мовы».

* * *

Праходзячы ялавінай на агарод, спудзіў вераб'я. Ён сядзеў на рудай мяцёлачцы дзікага шчаўя, што хістанулася пасля яго. Ага, дзяўбаў выспелае насенне. Дык от чаму завуць людзі гэтае шчаўе вераб'іным!

* * *

«Аднагнездзікі» — называе Вікця сваіх двух агнякрылых пеўняў: вывеліся з аднаго гнязда.

Я ні разу не бачыў, каб яны біліся паміж сабой. І, мусіць, не таму, што яны ўсё ж — браты, а таму, што ў кожнага свая вялікая чарада курэй, свой гарэм-куратнік.

* * *

«Прагульваючыся», праехаў веласіпедам аж да Закруглення. Гэта — месца на Концы, на сярэдзіне паміж Зялёнай Дубровай і Дрычынам. Некалі дасюль даходзіла вузкакалейка. Закругліўшыся тут, праставала назад. Закругленне. Зразумелае кожнаму беларускае слова. Чаму ж тады замест яго бачу на дарожных указальніках у Мінску чужое нам слова, напісанае, праўда, беларускімі літарамі: «кальцо»? Няма і не было ў нас такога слова. Ёсць хіба кольца (ці колка) — маленькае кола. Ёсць яшчэ пярсцёнак (рускае «кольцо»). Чым жа кепска гучала б змест «трамвайнага (ці тралейбуснага) кальца» — «трамвайнае закругленне, тралейбуснае закругленне, закругленне 1, закругленне 2»? Вельмі натуральна і прыгожа, папраўдзе па-беларуску.

Убачыў гэтае слова ў такім значэнні і ў пяцітомавым «Тлумачальным слоўніку беларускай мовы» (1978), дзе прыводзіцца і адпаведны прыклад з Яўгена Васілёнка: «Мінуўшы закругленне, поезд выйшаў на гладкую мясціну і пачаў імкліва набіраць хуткасць».

* * *

Правялі з жонкай да аўтобуснага прыпынку самую малодшую маю сястру Яню — яна першая замкнула на зіму сваю хату. Цяпер будзе ўспамінаць у Старых Дарогах, у цёплай гарадской кватэры, Зялёную Дуброву. І чакаць новай вясны.

* * *

Бязладнымі крыкамі гусей поўніцца апошнімі днямі неба. Збіраюцца ў адлёт.

Пад вечар яны размашыстымі, на паўнеба шнурамі ляцяць у бок нашага возера. Пэўне ж, пераначаваць там, набрацца сіл перад вялікай дарогай.

Закарцела паглядзець, што яны там робяць, як начуюць, і от, бэрсаючыся ў высокіх сцяблінах багульніку ды буячніку, топчучы глыбокі жоўты мох, іду на зацішную Старую купальню. Гусі — усе тут, у гэтым баку возера, далёкім ад людскога галасу. Адны абселі ўзбярэжныя хвоі, другія — пагойдваюцца на азёрных хвалях, ныраючы зрэдку ў ваду, — ловяць рыбу?

Перабыўшы на возеры ноч, гусі здымаюцца адтуль і, строячыся ў кліны, кіруюцца ў бок Падзераў, на поўдзень. У далёкія цёплыя краі. У вырай.

Вунь адзін такі клін пралятае над вуліцай, над самымі нашымі галовамі. Выцягнуты ўперад чорныя шыі, зладжаныя ўзмахі крылаў.

Віцця, з якой я стаю каля яе варот, хрысціцца на гусіную чараду і голасна — каб яны пачулі! — прамаўляе:

— Ляціце ж, гусачкі, ляціце! Дай жа Божа, каб вы ізноў вярнуліся, каб вясной мы з вамі сустрэліся!

* * *

Астатнія прыгатаванні да ад’езду ў Мінск. Схадзіў у лес, наламаў яловых лапак і паабкручваў імі ад зайцоў усе свае дрэўцы, і садовыя, і дзікія. Заклаў у цэментовую яму і ўкрыў саломай добрага паўмяшка бульбы — каб можна было дастаць вясной: для яды і для пасадкі. Заслаў саломай градку з раней пасаджаным на зіму часнаком. Ну, а от цяпер прыбіваю да слупоў верхнюю і ніжнюю жэрдкі ў праходзе на агарод, якія адбіваў, каб прапусціць туды трактар. Акурат праходзіць міма Віцця і як бы сама сабе, але так, каб я чуў, дэкламуе запомненыя са школы радкі:

Бусел крыллямі махае.

Адлятае. Адляцеў.

— Дык гэты ж бусел, — жартам паказваю пальцам на сябе, — яшчэ не адляцеў.

— Але ж ужо крыллямі махае.

— Ну але, махае, — смяюся.

От дзіва: зімой рваўся сюды, у Зялёную Дуброву, а цяпер мару пра Мінск. Бо ўжо надта скора пачынае цямнець, дзень карацее і карацее. Яно то люба выйсці вечарам пад месяцам і зорамі за вёску, на пустэльную дарогу, паслухаць цішыню. Але доўга шпацыраваць гэтак усё ж надакучае. Хочацца на святло, на добра асветленыя ліхтарамі гарадскія праспекты і вуліцы, у светлыя, аж сліпучыя ад пераліўстых люстраў холы і калідоры бібліятэк — нацыянальнай і акадэмічнай, што ўсё больш становяцца для мяне другім домам: там жа — уся прэса, усе кнігі — ад самых старых да апошніх навінак: чытай, прасвятляй уласныя мазгі.

Ну, і прыходжу туды «чэрпаць» усё добрае, усё самае цікавае для «Беларускага кнігазбору», а таксама — для ўласных задумак. Там ніколі не надакучыць.

* * *

Я — воўк, ваўкалак!
    Астабрыдлі мне людзі!
Прэч петлі іх, пелькі,
    іх люстры, салюты!
Прэч, прэч іх законы,
    іх ёрмы і нормы,
Іх песні і пешні,
    іх норы і норавы!
Даволі ўжо ў гульнях іх
    бітаю быць мне,
У сецях дурноты іх
    рыбаю біцца!
Ураз перакінула —
    ледзь толькі з'еў я —
У воўка мяне
    чарадзейнае зелле!
Здзіраю з сябе
    ўсе апраткі я поўнасцю,
Адной акрываюся
    шэраю поўсцю!
Я — вольны!
    Пад небам — нашто тыя лахі! —
Так лёгка лагамі
    нясуць мяне лапы!
Узадзе —
    грымотнага горада клешчы,
Яго душагубы —
    бетонныя клеткі!
Мой дом цяпер —
    свет у асінах і сітніках.
Ні даху, ні сцен у ім —
    далечаў сінька!
Мне спальня —
    дзе ногі падкосяцца стомай.
У кусце лазовым,
    пад хвояй, пад стромай...
Во — лапу пад голаў —
    прылёг пад карчом я,
Накрыўшыся ночы
    пасцілкаю чорнай.
Я сплю, але слых мой
    пільнейшы мо ў сто раз:
Заўсёды на вахце ён,
    верны мой сторож.
У краечку вока,
    пільнуючы сон мой,
Збіраюцца зорак
    высокія соймы...
Ды спаць не дае мне
    ля голага голля,
Завёўшыся ў кішках,
    смоўж моташны — голад.
На ногі ўскідае
    мяне сярод ночы,
Ярамі глухімі,
    захлеўямі носіць.
Быў вынюхаў нос мой
    дзесь зайца дурнога —

Ім добра смаўжа
я ўлагодзіў бы тога!
Ды з месца шарак
так шарахнуў знянацку,
Што толькі па поўсці
зубамі я кляцнуў.
А потым на троп быў
ласіны натрапіў,
Мне пах ласяняці
аж драў ужо храпы.
Падпоўз пад яго я,
ласкавы і ціхі,
Ды во... капыта
паспытаў ад ласіхі!
Пабіты, паплёўся я
полем паныла.
Аж раптам мяне
штосьці ў норцы спыніла!
Ну ж я й завінуўся тут!
Што бор-машына.
І вось у зубах —
галапупцы мышыныя!
Пра гонар свой тут
мне не трэба баяцца:
Ніхто з мяне ў лесе
не будзе смяяцца.
Ніхто і не чуў тут
з лясное сябрыны,
Што гэта такое —
насмешкі і кпіны.
Тут і стракатуха-
сарока ніколі
З хваіны высокай
цябе не падколе.
Як з'еў галапупцаў я,
слізкіх і кволых,
Стаў гэтакі радасны
свет навакола!
Усход разгараўся ўжо —
шырай раз-пораз,
Бы крылы разгортваў там
птах яснапёры.
А понізу ў лозе
ў ракітнічак рэдкі
Сплывалі туманаў
малочныя рэкі.
З-за лесу, бы з горна,
скаваўшы, вясёла
Каваль нейкі выпусціў
сонцава кола.
Ад сонца ўцякаючы,
параскідалі
Па лузе туманы
крышталь ды каралі.
О людзі, палоннікі
тлумнага раю,
Ці бачылі раз хоць
вы раніцы радугу?
Бягу па расе я,
і кожны раз новы
Пад сонцам і месяцам
свет крышталёвы!

Ды лета мінула,
 і сівер злюцелы
Закідаў прасторы ўсе
 холадам белым.
Як босаму быць мне?
 Я выцягнуў выю
І ў самыя зоры
 ад дрыжыкаў выю.
О як бы пад небам,
 што безданню зеўрае,
Знайсці мне барзджэй
 адваротнага зелля,
Якое вярнула б
 да вас мяне, людзі,
Да вас, мае родныя,
 кроўныя, любыя!
Пад вашыя ёрмы,
 у горада клешчы,
У вашы нагрэтыя
 мілыя клеткі!

* * *

Усё — каля маіх варотцаў гарбаты, асфальтавага колеру мікрааўтобус. Гэта прыехаў мой унук Паўлік забіраць нас у Мінск — «на зімнія кватэры».

Зносім у машыну дары саду і агарода, саленні-варэнні, пакункі з бялізнай і адзеннем для мыцця ў горадзе. Цалкам загружаем зусім немалы аўтобусік.

Потым я замыкаю хату, усе пабудовы і прыбудоўкі, зачыняю варотцы, акідваю вокам панадворак, каб чаго не забыць. «Бусел крыллямі махае...»

Калі ўжо кіруемся да машыны, падыходзіць развітацца з намі Віцця. Цалуемся, абдымаемся. Калі я прытульваю суседку да сябе, у яе вачах бліскае сляза: усё ж мы зжыліся за доўгія гады, здружыліся, сталі як свае. Віцця ізноў астаецца адна. З катом, з сабакам Джэкам, з курамі і сваімі двума агнянымі пеўнямі-аднагнездзікамі. На адвітанне просім у Бога, каб мы ізноў убачыліся ўсе пасля зімы. Новай вясною.

Арына Вележ (Вячорка)



...Душа просіцца на волю.

Цела, адпусці душу...

# Стану птушкай...

## Слова пра Маму

***Хочацца думаць, што мама не памерла, а выправілася ў бестэрміновы адпачынак. За ўсімі сямейнымі клопатамі, бясконцымі музычнымі праектамі, рэвалюцыямі і акрэсцінамі ёй зусім бракавала часу на маляванне і паэзію, якія яна так любіла і якімі натхнялася.***

***Толькі ноччу, калі мы, дзеці, – галоўныя яе клопаты – засыналі, выцягвала свой мастацкі набор, алейныя фарбы, сшытак, аловак. Вершы – прысвячала, карціны – адразу даравала. Малявала найчасцей краявіды і нацюрморты, а апошнія гады – супрэматычныя абстракцыі.***

***Маміна жыццё, як джаз, напоўненае імправізацыяй. Апантаная беларушчынай, гуртавала вакол сябе студэнцкую моладзь, музыкаў, танцораў, рыцараў і навукоўцаў. Ёй удалася стварыць свой невялікі сусвет, напоўнены высакароднымі рыцарамі, сярэднявечнай музыкай і шчырай любоўю.***

***Сярод сотняў фотаальбомаў я знайшоў невялікі нататнік з вершамі, які мама зусім нядаўна набыла. Апошнія некалькі вершаў – пра смерць. І хаця кажуць, што смерць спасцігае нечакана, але чалавек адчувае. І звярніце ўвагу на верш “Цела цвёрдае, не гнецца...” пра тое, як душа рвецца на волю ад цела. Напэўна, гэта пра апошнія свае дні, якія мама правяла ў коме, змагаючыся за жыццё.***

***Слушна кажуць, не важна, колькі дзён у тваім жыцці, а важна – колькі жыцця ў тваіх днях. Мама жыла напоўніцу.***

**Франак Вячорка.**

### *НА КАРЦІНЫ КЛОДА МАНЭ*

*...Я Вас чакаў*
*Я Вас шукала...*



Расстацца лёгка –
сустрэцца цяжка.
Нішто не спыніць
імгненняў важкасць.

Ні вецер з мора,
ні кветак вабнасць.
Пачуццяў кола,
кахання ўпартасць
Праявяць ясна
расстання
марнасць

### *MON AMI!*



Можа быць, я цяпер закаханая
У сонца, неба, траву і вецер.
Фарбы любві беззаганныя
Тонка мастак прыкмеціў.

Думкамі апантаная,
Вонкі не вельмі гожая,
Але заўжды жаданая
Найперш табой, мой дружа.

* * *

Сарваныя кветкі –
Увядання букет.
Засохлыя сведкі –
Кахання макет.

Сарваныя з саду
Знаёмай рукой –
Фатальная страта
Вяртання дамоў.

Як згаслыя ўзгадкі,
Жыве ўва мне,
Як частка жыцця,
Букет на стале.



***

Дзе твае рукі? Дай мне іх,
Я складу глыбокія прыгаршчы,
Апушчу твар і наплачу даверху слёз,
Што ты зробіш?
Не выпялёхвай. – Схаладзееш.
Не выпівай. – Атруцішся.
Умый вочы. Дзе яны?
Памысныя, добрыя, ясныя.

***



Мы на раздарожжы.
Сваё мае кожны,
Кожны выбірае,
Як далей ісці.
    Толькі не ўяўляе,
    Што яго чакае –
    Цяжка паасобку
    Крыж свой пранясці.
Можа, раздарожжа
Ўрэшце дапаможа
Трапіць у пачатак,
А тады наноў
Крочыць асцярожна
Толькі там, дзе можна,
Дзе не загасае
Нашая любоў!

***

Са мною
    гарачае сонца!
Са мной
    прахалодны цень.
Я знаю такое адное ваконца,
Дзе радасць заўжды жыве!
    Хачу ў ім я убачыць,
    Таго, з кім я не заплачу,

Таго, з кім буду бясконца
Разам глядзець на сонца!..

***

Цела цвёрдае – не гнецца,
Душа лёгкая – імкнецца.
Цела цісне, наплывае,
Душа мяккая, жывая.
Цела падае ад болю,
Душа просіцца на волю.
   Цела, адпусці душу!

Не, – сказала цела, –
Не для гэтага трымцела,
Не для гэтага трывала,
Хачу, каб душа падняла,
Ў рукі ўклала шчыт і меч
Стому, тупасць ўсю пасеч.

Звонку бачна – ідзе бой,
Б'ецца рыцар сам з сабой.
Сонца сядзе, бой ападзе,
Цела злучыцца з душой

Страх у целе – ён ад болю...
Страх душы – ёсць страта волі.

***

Забярыце і скрадзіце,
Занясіце і схавайце
   Ад вока людскога.
Прытуліце, адагрэйце,
Прыласкайце, адамкніце
   Для сэрца жывога.
Падтрымайце, ухваліце,
Падыміце, узнясіце
   Над грэшным светам.
Паспявайце, аб'явіце,
Пахрысціце, абвянчайце
   З ясным небам

Стану птушкай...

Аксана Данільчык



…Чагось не хапае, шукаю…
Дзіўлюся. Хіба васількоў
больш няма ў Беларусі?!.

# “Жывая дзікарка” беларускай паэзіі

***Слова пра Зінаіду Бандарыну***

У прадмове да зборніка “Расстраляная літаратура” Анатоль Сідарэвіч задае справядлівае пытанне: “Колькі беларускіх пісьменнікаў бальшавіцкі рэжым на доўгія гады вырваў з літаратурнага працэсу? Нейкай дакладнай лічбы не ведае ніхто”[1]. Таму так важна вярнуць у шырокі літаратурны ўжытак кожнае імя, бо, не зважаючы на тое, што на працягу некалькіх апошніх дзесяцігоддзяў дзейнасць літаратараў 20-30-х гадоў даволі плённа даследуецца, некаторыя постаці яшчэ чакаюць нашай увагі. Адна з паэтак, што “выпала” з поля зроку сучаснага беларускага літаратуразнаўства – Зінаіда Бандарына, якая, хоць і не была рэпрэсавана, але на пэўны час увогуле перапыніла актыўную творчую дзейнасць. Яе паэтычная творчасць ужо некалькі дзесяцігоддзяў амаль нідзе не згадваецца, нават Міхась Скобла ў анталогіі беларускай паэзіі “Краса і сіла” абышоў яе сваёй увагай. Тым не менш, паэзія Зінаіды Бандарынай заслугоўвае не толькі ўвагі, але і падрабязнага разгляду. Праца з матэрыяламі яе фонду ў БДАМЛІМ у працэсе падрыхтоўкі даклада да “Узвышаўскіх чытанняў”[2] канчаткова ў гэтым пераканала.



*Зінаіда Бандарына на І Усебеларускім з'ездзе "Маладняка" у 1925 г. Фрагмент агульнага фотаздымка (БДАМЛІМ).*

У цэлым нельга сказаць, што творчы і жыццёвы лёс Зінаіды Бандарынай у мінулым пакідаў абыякавымі літаратуразнаўцаў і калег. Пра яе пісалі Максім Гарэцкі, Алесь Кучар, Мікола Хведаровіч. Станіслаў Пятровіч Шушкевіч прысвяціў ёй некалькі юбілейных артыкулаў, апошні з іх выйшаў у 1984 годзе. І пасля гэтага, бадай што, усё.

Біяграфія паэткі выклікала шмат пытанняў. Першае з іх было звязана з годам нараджэння: 1908 ці 1909? У розных крыніцах пазначаны розныя гады. Часцей за ўсё называецца дата 11 кастрычніка 1909 года (некаторыя крыніцы ўказваюць таксама 10 лістапада, але блытаніну з днём і месяцам лягчэй патлумачыць). Вядома, што яна нарадзілася ў Гародні, але М. Гарэцкі ў 1928 г. пісаў "нарадзілася ў сям'і "вайсковага", у той час, як у больш позніх звестках указана, што яна нарадзілася ў сям'і настаўніка. Бацьку звалі Аляксандр Фёдаравіч, маці – Таісія Аляксееўна. М.Гарэцкі таксама паведамляе: "Была ва ўцякацтве ад вайны. З малых год бачыла палітычную падпольную працу, перажыла арышт маці, зверскія здзекі палякаў"[3]. Гэтая старонка з жыцця сям'і Бандарыных, на жаль, пакуль што застаецца нявысветленай. У Зінаіды быў брат Вадзім Аляксандравіч, які пазней стаў вядомым хімікам. Ён нарадзіўся 22 красавіка 1909 г. (5 мая па новым стылі). Сын Зінаіды Бандарынай, якога ўдалося адшукаць, Канстанцін Мікалаевіч Бандарын сцвярджае, што насамрэч паэтка нарадзілася ў 1910 г. і, такім чынам, мела старэйшага брата. З ліста маці да Зінаіды, напісанага ўжо ў пасляваенныя гады, вынікае, што бацька з 1920 па 1941 год працаваў выкладчыкам, як удакладніў К. Бандарын, матэматыкі і старажытных моваў (ф. 75, воп. 1, адз. 142).

С.П.Шушкевіч, які асабіста ведаў паэтэсу яшчэ ў 20-я гады, у сваю чаргу, успамінаў: "Бацькі З. Бандарынай былі настаўнікамі, і дзяўчына рана пазнаёмілася з многімі творамі мастацкай літаратуры. Оду Гарацыя "Помнік" яна пачула ад роднага бацькі ў арыгінале і тут жа па памяці дэкламавала гэты твор у перакладзе М. Багдановіча"[4]. Народны пісьменнік Беларусі Ніл Гілевіч, які таксама асабіста ведаў З. Бандарыну ў пяцідзясятыя гады падчас яе працы ў ЛіМе, згадвае, што яе бацька, прынамсі падчас студэнцкіх гадоў паэта, выкладаў лаціну ў БДУ.

Пасля пераезду сям'і ў Мінск у 1920 годзе Зінаіда вучылася ў мінскай сямігадовай школе №15. Мяркуючы па звестках з пазнейшага ліста маці, Т.А. Бандарынай, да Зінаіды, тамсама нейкі час працаваў і яе бацька. С. Шушкевіч пісаў, што дзяўчына "у 1923 годзе... змясціла ў насценным друку свае першыя вершы, нават асмелілася паказаць іх Янку Купалу (ён жыў зусім блізка ад іх дома). У школе пачынаюць называць Зіну "наша паэтэса"[5]. М. Хведаровіч у сваім нарысе "Неспакойная" таксама згадвае, што на вершы маладой паэтэсы звярнуў увагу Янка Купала і неаднаразова дапамагаў ёй парадамі. Стасункі з сям'ёй народнага паэта захаваліся ў З.Бандарынай на ўсё жыццё.

Зінаіда была вельмі актыўнай у грамадскім жыцці, пасля заканчэння сямігодкі два гады працавала загадчыцай дзіцячага сада ў мястэчку Койданава, сама распрацоўвала і рыхтавала дыдактычныя матэрыялы. С. Шушкевіч згадвае: "Памятаю, калі я наведаў яе ў Койданаве, мне давялося чуць як маленькія самадзейныя артысты чыталі вершы на адным з самадзейных вечароў"[6].

У 1925 годзе З. Бандарына паступіла ў Мінскі педагагічны тэхнікум, дзе вучылася на адным курсе з паэтамі М. Лужаніным, Н. Вішнеўскай, П. Глебкам, С. Дарожным, В. Казлоўскім, з якімі і пасля заканчэння вучобы падтрымлівала




*I Усебеларускі з’езд “Маладняка” 25-29 лістапада 1925 г. Фотаздымак захоўваецца ў БДАМЛІМ.*

сяброўскія стасункі. Белпедтэхнікум тых часоў – гэта асобная старонка гісторыі беларускай літаратуры. Акрамя таленавітых студэнтаў, там былі і не менш таленавітыя выкладчыкі, такія як Якуб Колас і Язэп Лёсік. Такім чынам, сам асяродак спрыяў раскрыццю паэтычных здольнасцяў студэнтаў.

Лёс Зінаіды Бандарынай цесна звязаны з арганізацыяй “Маладняк”, заснаванай 28 лістапада 1923 г., якая ставіла перад сабой “задачу сабраць і аб’яднаць усе культурныя пісьменніцкія беларускія сілы”[7]. У машынапісе артыкула “Зінаіда Бандарына”, што друкаваўся пазней пад назвай “Неспакойная”, М. Хведаровіч успамінаў: “У 1925 годзе ў рэдакцыю літаратурнага часопіса “Маладняк” упершыню зайшла бялявая дзяўчынка са сваімі вершамі. Гэта было так незвычайна для таго часу. Тагачасная літаратурная моладзь прымала актыўны ўдзел у грамадзянскай вайне, мела ўжо вялікі жыццёвы вопыт і стаж грамадскай дзейнасці. З’яўленне амаль першай паэтэсы ў беларускай літаратуры было да некаторай ступені прыкметнай з’явай”[8]. Былы студэнт педагагічнага факультэта В.К. Падлоў у лісце ад 9 лютага 1970 г. да С. Шушкевіча пісаў: “Цяпер пра Зіну Бандарыну. Я ведаў яе яшчэ па Мінскаму педтэхнікуму, дзе пазнаёміўся на адным з літаратурных вечароў. Тады яна таксама чытала свае вершы. Увогуле ж, мы часта хадзілі ў педтэхнікум, бо там было шмат добрых таленавітых хлопцаў, а больш за ўсё сапраўдных бялявых беларускіх дзяўчат, што нас, студэнтаў, асабліва прываблівала, бо такіх ва ўніверсітэце, асабліва на педфаку, не было: у нас былі амаль усе ўжо «перарослыя», пры тым па нацыянальнасці самы разнастайны склад”[9].

Характарызуючы той час, І. Багдановіч адзначае: “Гэта была, можна сказаць, першая хваля жаночай беларускай лірыкі, бо раней у нашай літаратуры велічна і адзінока ўзвышалася толькі постаць Цёткі, у ценю якой сціпла дый самавіта вырасла “кветка-лілея” паэтычнага таленту Канстанцыі Буйло. 20-я гады сталі зорным часам і для беларускіх паэтэс”[10]. У Заходняй Беларусі ў той час друкуюцца творы Наталлі Арсенневай, а ў Савецкай Беларусі падымаецца новая генерацыя паэтычнай моладзі, і, у першую чаргу, дзяўчат.

З 1926 года З.Бандарына пачала публікавацца ў часопісе “Маладняк”. У той час ёй было ўсяго 16 гадоў. Акрамя публікацый у часопісах, у 1926 г. З. Бан-

дарына выпусціла сумесны зборнік з Н. Вішнеўскай і Я. Пфляўмбаум “Вершы”, у які ўвайшлі сем яе твораў: “Шэптам дзіўным”; “Слаўны дзянёк...”; “8 сакавіка”; “Завіхурыла спевам машына”; “І толькі ты”; “Галя”; “Не кажы”. Вершы і З. Бандарынай, і двух яе каляжанак, вызначаюцца магутнай энергетыкай маладосці, неўтаймаванай прагай жыцця і творчага самавызначэння. Рэдактарам кнігі быў Уладзімір Дубоўка.

М. Гарэцкі ў працы “Маладняк за пяць гадоў. 1923 – 1928”, апублікаванай у 1928 годзе, пісаў: “Бандарына паміж пяснярак “Маладняка” вызначаецца большай сувяззю з грамадскасцю, з сучаснаснасцю і асаблівай шчырасцю пачуцця”[11]. Акрамя таго, у раздзеле персаналій “Біяграфічна-крытычны слоўнік сучасных выдатных і тыповых маладнякоўцаў” з жанчын прадстаўлена толькі адна яна. Крытык адзначыў наступныя рысы яе паэтычнай творчасці: “У вершы “Апошняя вясна” – асабістыя перажыванні, каханне і развітанне з маладосцю, з каханнем. Глыбокае і далікатнае пачуццё. Элегічнасць. Прыгожая ясная думка, разам з некаторай нервовасцю.

Строфіка звычайная, рытмы лёгкія, далікатныя. Вобразы – з прыроды і навакольнага жыцця, заўсёды вельмі далікатныя, пяшчотныя, паэтычныя, але цалкам рэалістычныя, без усякіх сентыментальных салодкасцяў.

Даволі добрая мова, хоць часам трапляюцца расіянізмы”[12].

У 1927 годзе паэтэса скончыла тэхнікум і Народны камісарыят асветы прапанаваў ёй паехаць у Сібір, дзе яна працавала настаўніцай у беларускай школе ў пасёлку Медзякова Краснаярскага краю. Менавіта да “сібірскага” перыяду жыцця З. Бандарынай адносіцца згадка пра яе ў лісце М. Лужаніна да П. Труса (18 кастр. 1927 г.): “Піша Зіна з Сыбіру – плача небарака”[13]. Хутчэй за ўсё, верш Т. Кляшторнага “Ліст у Сібір” з прысвячэннем З. Б.[14], напісаны ў 1927 годзе, прысвечаны менавіта ёй (гл. ніжэй). У архіве С.П. Шушкевіча захаваліся ўспаміны В.К. Падлова пра “сібірскі” перыяд яе жыцця: “Прыкладна ў сярэдзіне верасня... я зайшоў у раённы аддзел НарАсветы (мая школа была ў цэнтры раёна) і, на маё здзіўленне, сустрэў там Зіну Бандарыну. Мы абодва былі здзіўлены такой нечаканай сустрэчы, але нашай радасці не было канца. Высветлілася, што яна такім жа лёсам была закінутая сюды, як і я. Яе прызначылі настаўніцай і Заг. пачатковай школы сяла Медзякова... Пасля яе афармлення на працу, мы пайшлі з ёй да мяне на кватэру, дзе жылі са мной яшчэ два настаўнікі-сібіракі, усе мы былі тады халасцякамі. Гаспадыня прыгатавала для нас любімую сібірскую страву – пельмені – з разліку: сібіракам па 120 штук, а нам, як беларусам, па 50 штук. Порцыі былі ёмістыя, і Зіна была ўражана, як можна з’есці ёй 50 штук пельменяў. Безумоўна, больш за два дзясяткі яна не адужала, а астатняе падчыстую даядалі мы ўтрох. З гэтага і завязалася ў нас з Зінай добрае, чалавечае сяброўства ў далёкай снежнай Сібіры. Часта яна прыязджала да нас у Райцэнтр і заходзіла да мяне. У хуткім часе я ажаніўся з сібірачкай-настаўніцай, і Зіна пасябравала з маёй жонкай і была заўсёды жаданай госцяй у нашай сям’і.

Зіна была вельмі сімпатычнай дзяўчынай, усе настаўнікі паважалі яе за кантактны і вясёлы характар. У далейшым усе ўжо ведалі, што яна паэтэса і заўсёды прасілі што-небудзь пачытаць з яе вершаў, але разумеў іх толькі адзін я”[15].

У 1928 годзе Бандарына вярнулася з Сібіры з туберкулёзам і назад ужо не паехала, а ўладкавалася ў гомельскую газету «Палеская праўда». У лісце да Паўлюка Труса яна пісала: “Зусім неўзнарок папалася ў рэдакцыю; ведаеш, прыехалі ў Гомель позна – месцаў добрых у школу няма, вось і ўхапілася за саломінку. Зараз крыху і шкадую, але нічога не зробіш. Праца, бадай, табе знаёма, вось толькі на ліха падсунулі літстаронку, ды з філіяй... валэндаюся. Прывітанне Каратаю, Серадзе і Адамовічу. Вітаю з паступленнем на педфак”[16]. У гэты ж час Зінаіда Бандарына пачынае пісаць прозу, у часопісе “Маладняк”, 1928, № 11, друкуюцца

яе “дарожныя нататкі” “Шуміць тайга”: урыўкі з дзённіка 1927-28 гг.”.

Тым часам для беларускай літаратуры набліжаліся ліхія часы. У 1929 годзе “Маладняк” спыніў сваё існаванне, ператварыўшыся ў БелАПП. Сітуацыя вакол другога літаратурнага аб’яднання, “Узвышша”, няўхільна пагаршалася. Многія беларускія паэты выехалі за межы Беларусі, часцей за ўсё на вучобу, але далёка не ўсіх гэта ўратавала ад рэпрэсій. На доўгі час Бандарына таксама пакінула Беларусь. На пачатку 30-х гадоў яна паехала вучыцца на літаратурнасцэнарны факультэт Інстытута кінематаграфіі ў Маскву, які скончыла ў 1933 годзе. М. Хведаровіч у нарысе згадвае, што яна праходзіла практыку на беларускай кінастудыі, дзе па яе сцэнарыю паставілі фільм “Энтузіясты”.



*Зінаіда Бандарына. Канец 30-х гг. Фотаздымак захоўваецца ў БДАМЛІМ.*

Аб маскоўскім перыядзе жыцця Зінаіды Бандарынай вядома значна менш, чым аб “маладняккоўскім”. Засталіся ўскосныя згадкі Юркі Віцьбіча ў лістах да Антона Адамовіча, якія дазваляюць меркаваць аб актыўным грамадскім і творчым жыцці паэтэсы, цесна звязаным з колам беларускіх пісьменнікаў. Так, Віцьбіч згадвае: “Паўлюк Шукайла спрабаваў зацягнуць мяне ў створаны ім МОНРП (Московское Объединение Национальных Революционных Писателей), Хвядос Шынклер па даручэньню Міхася Лынькова і Платона Галавача цягнуў мяне непасрэдна ў менскі БелАПП, Зіна Бандарына... цягнула мяне (па месцы тагачаснага жыхарства) у беларускую сэкцыю МАПП”[17].

Тым не менш, у 1931 годзе на радзіме выходзіць зборнік З.Бандарынай “Веснацвет”, па сутнасці, адна з першых кніг паэзіі, напісаных жанчынамі ў беларускай літаратуры (пасля кніг Цёткі (1906), Буйло (1914) і Арсенневай (1927). Асобная паэтычная кніга З. Бандарынай дае ўяўленне аб жыцці і зацікаўленнях маладой жанчыны Савецкай Беларусі канца 20-х – пачатку 30-х гг. XX ст. Яна складаецца з трох раздзелаў: першы прысвечаны, калі можна так сказаць, грамадскаму жыццю і сацыяльнаму асяроддзю лірычнай гераіні, другі – асабістым перажыванням, ён самы лірычны, а ў трэці ўвайшлі вершы або напісаныя ў Сібіры, або звязаныя з сібірскімі ўражаннямі. Калі ж гаварыць пра мастацкія ўплывы, то ў кнізе можна знайсці водгукі творчасці М. Цвятаевай, У. Маякоўскага, А. Блока, у некаторай ступені С. Ясеніна.

Амаль адразу ў друку з’явіліся рэцэнзіі – Юліі Дворкінай (“Маладняк”, 1931, № 9) і Эдуарда Галубка (“Узвышша”, 1931, № 8). Рэцэнзіі былі адмоўныя, поўныя даволі характэрных для таго часу абвінавачванняў у недастатковай ідэйнай падрыхтаванасці. Э. Галубок пісаў: “Ранейшая літаратурная дзейнасць Зіны Бандарынай, хоць і была нязначная сваімі памерамі і мастацкімі каштоўнасцямі, насіла на сабе выразныя адзнакі дробнабуржуазнай ідэалогіі, і вельмі часта ў яе творах мы бачылі выразныя нацыянал-дэмакратычныя ўплывы, якія знаходзілі сабе адбітак у вершах, дзе ў сумных і змрочных фарбах апявалася Беларусь і сум па сваёй роднай старонцы. Наяўнасць гэтых момантаў у вершах З. Бандарынай дала повад М. Гарэцкаму замаскаваць змест вершаў пісьменніцы, які, па яго словах, быў бясспрэчна каштоўным, і сцвярджаць, што творчасць З. Бандарынай адрозніваецца ад іншых пісьменнікаў сваёй элегічнасцю, пяшчотнасцю і далікатнасцю і што ў вершах яе адбіта “прыгожая ясная думка, але з некаторай нервовасцю”[18].

Вершы, якія ўвайшлі ў "камсамольскі" радзел кнігі, можна лічыць цікавымі прыкладамі палітычнай лірыкі, у першую чаргу з гістарычнага пункту гледжання:

За краіну сваю – рэспубліку,
За саюз Беларусі і Літвы
Многа соцень пажата кулямі,
Сотні ў магілках братніх ляглі.
*("Камсамол Беларусі")*

Прычым, няма падставаў сумнявацца ў шчырасці іх аўтаркі, якая імкнецца асэнсаваць тыя працэсы, што адбываюцца вакол яе, і тут яна ў некаторым сэнсе ідзе па шляху Цёткі, але вершы З. Бандарынай адрозніваюцца найперш выразнай пазіцыяй лірычнай гераіні, якая заяўляе аб сваёй жаноцкасці. Характэрным у гэтым плане можна лічыць верш "Да новых перамог (Жанчыне-работніцы ў дзень 8 сакавіка)". Гэтая пазіцыя актыўнай жанчыны праяўляецца і ў вершы "Адыйшоўшым", які сам па сабе можа стаць падставаю для грунтоўнага артыкула.

Тым не менш, тагачасная крытыка адзначала, што першы раздзел зборніка напісаны без глыбокага падыходу да з'яў камуністычнай рэчаіснасці. Э. Галубок беспадстаўна пісаў: "Такім чынам, вершы Зіны Бандарынай, замест палітычнай насычанасці, у яшчэ больш падкрэсленым выглядзе даюць нам матывы індывідуалізму тэмы свайго "я"[19]. Але ў вершах на палітычную (у дадзеным выпадку можна сказаць і сацыяльную) тэматыку паўстае асоба жанчыны, якая шукае сваё месца ў тагачасных рэаліях, спрабуе вызначыць для сябе прыярытэты ў грамадскім і асабістым жыцці. Што датычыцца другога раздзела, то Ю. Дворкіна дакарае аўтарку: "...у супярэчнасці з тым, што яна піша ў камсамольскіх вершах, ёй нават і жыць не хочацца"[20]. І ўсё ж такі найбольш удалыя, пранікнёныя вершы З. Бандарынай увайшлі менавіта ў другі раздзел зборніка.

Алесь Кучар у працы "Становішча і перспектывы развіцця беларускай савецкай паэзіі", надрукаванай у 1934 годзе ў часопісе "Полымя рэвалюцыі", прысвяціў З. Бандарынай раздзел "Ці патрэбна нам пяшчотная і жаноцкая лірыка", дзе адзначае, што "Зіна Бандарына паўтары стагоддзі пасля смерці гэтай пяшчотнай і жаноцкай лірыкі хоча яе культываваць"[21]. На пачатку ён спасылаецца на артыкул З. Бандарынай "Маё слова ў спрэчках" (гл. ніжэй), дзе яна ўздымае пытанне "злучнасці грамадскай і інтымнай лірыкі". Кучар крытыкуе верш "Мае крэдо", называе некаторыя яе грамадскія вершы "пустымі" і "халтурнымі", адзначае, што "грамадскасць ёй патрэбна толькі тады, калі ў яе жаночым сэрцы бываюць непрымірымыя пачуцці"[22].

Але ў якасці красамоўнага сведчання мастацкай якасці твораў З.Бандарынай можна працытаваць лірычны верш "Залатыя верацёны" (Ля ракі Масквы)", якім завяршаецца другі раздзел:

Залатыя верацёны патанулі
Ў ртутнай шыры...
Залатыя верацёны
Ў гэтым люстры дэбашыраць.

Так ці інакш, але кнігу вершаў З.Бандарынай можна лічыць адным з апошніх публічных усплёскаў яе паэтычнай актыўнасці. Ужо поўным ходам ішлі рэпрэсіі супраць беларускіх літаратараў, і ў хуткім часе Зіна Бандарына зусім парастала друкаваць паэзію. Пасля заканчэння маскоўскага Інстытута кінематаграфіі яна загадвала сцэнарным аддзяленнем Віцебскага кінатэхнікума (1933-1934), пасля пераехала ў Ленінград.

Л. Маракоў захоўвае ўспаміны С. Грахоўскага, дзе паэт згадвае, што Паўлюк Шукайла "калі ў Ленінградзе была арганізавана акадэмія мастацтвазнаўства, ... стаў

рэктарам гэтай акадэміі. Ён забраў туды Звонака, Бобрыка, Бандарыну. Яны там працавалі. Пасля ён знік"[23]. Такім чынам З.Бандарына тры гады была аспіранткай Дзяржаўнай Акадэміі мастацтваў у Ленінградзе (скончыла ў 1937), пісала сцэнарый да фільма "Соф'я Кавалеўская". Пасля працавала на кінастудыях і тэатрах Масквы, а з 1938 і па 1939 год – рэжысёрам Тэатра юнага гледача ў г. Архангельску, далей да пачатку вайны была на такой жа працы ў горадзе Горкім.

У час 2-й сусветнай вайны яна добраахвотна пайшла на фронт, была санінструктарам у Панфілаўскай дывізіі. Была кантужана (па некаторых звестках у 1943 г., але мяркуючы па лістах усё ж такі ў 1942-м). У чэрвені 1942 года яна атрымала адпачынак па медыцынскай камісіі і на месяц прыехала ў Маскву. У лісце ад 22 чэрвеня да маці яна пісала: «Коля (муж Зінаіды Бандарынай – *заўв. А. Данільчык*) – молодцом, только очень худющий и изнервничался за меня, с трудом верит, что я вернулась и жива... Все-таки очень он у меня хороший, порядочный человек и по-настоящему меня любит, а ведь я очень трудная жена. Теперь совсем стала дикаркой, боюсь даже в город выходить и с трудом осваиваюсь в комнате – тишина, радио, электро-свет, кажется все сном, а встанешь, и во сне родная и близкая фронтовая жизнь, там за девять месяцев я пережила все, о чем мечтала в юности: была крылатой, сильной, смелой. Если мне суждено жить, то теперь я имею право уйти в творчество, хочется писать. Только трудно обуздать свой характер, послушаться Колю, остаться здесь, а он просит, настаивает. А я, откровенно говоря, уже по дороге чуть не пересела на танк и не уехала обратно, привыкла, стыдно отсиживаться в стороне»[24].

Як вынікае з паштоўкі, дасланай удаве Янкі Купалы Уладзіславе Францаўне з Масквы ў Казань і датаванай 18.09.1942 г., Зінаіда Бандарына затрымалася ў Маскве даўжэй, чым планавала: "Родная, любимая тетя Владя! Очень соскучилась, а еще больше тревожусь, что с Вами. Звонила Мар. Антоновне, она тоже не получила обещанную открытку. Меня лично очень беспокоит Ваше здоровье и общее состояние. Чувствую, что много нервничаете, что могут встретиться непредвиденные обстоятельства. Щадите свои нервы. Ведь Вам самой себя надо беречь, а это самое трудное при такой натуре. Я пока все еще в Москве, благодаря хлопотам Коли. Только не знаю, увенчаются ли они успехом. За последнее время так привыкла часто быть с Вами, что несмотря на приезд половины, после В/отъезда почувствовала себя осиротелой. Обидно, что мы не вместе и я ничем не могу помочь, кроме искреннего сочувствия и огромной преданной любви. Скорее приезжайте. Привет от Коли и Мар. Антоновны. Целую. Ваша "шалёная" Зина"[25].

І, мяркуючы па ўсім, З.Бандарына болей не вярнулася на фронт, а пайшла працаваць у сцэнарную студыю ў Маскве. У сакавіку 1943 года ў яе нарадзіўся сын Канстанцін. А ў 1944 годзе муж Зінаіды Бандарынай, Мікалай Андрэеў, майстар мастацкага слова, заслужаны артыст Грузінскай ССР, разам з трупай з ансамбля Аляксандрава трагічна загінуў у Заходняй Украіне ад рук бэндэраўцаў. І ў тым жа 1944 г. Зінаіда Бандарына нарэшце вярнулася на радзіму.

Яна працавала ў часопісе «Бярозка», на Беларускім радыё (1945-1946), Доме народнай творчасці ў Гродна, дзе у той час знаходзілася і харавая капэла Рыгора Шырмы (1946-1948). У 1948-1950 была загадчыцай філіяла музея Янкі Купалы ў Вязынцы, супрацоўніцай газет «Зорка», «Літаратура і мастацтва» (1950-1956).

У бібліяграфічным даведніку "Беларускія пісьменнікі" гады з 1934 па 1945 не адзначаныя ніводнай паэтычнай публікацыяй, хоць М. Хведаровіч у сваім нарысе згадвае: "Страсныя патрыятычныя вершы Бандарынай у франтавым друку заклікалі байцоў стаяць" за родную Маскву"[26]. Даводзіцца спадзявацца, што гэта было напісана на падставе канкрэтных дадзеных, і з цягам часу даследчыкі змогуць іх узнавіць.

Пасля смерці Сталіна ў 1953 годзе дыхаць стала крыху вальней, у літаратуру прыйшло новае пакаленне пісьменнікаў, якое зацікавілася літаратурай дваццатых

гадоў. Ніл Гілевіч згадвае, што выбраў для кандыдацкай дысертацыі тэму па творчасці паэтаў, якія ўваходзілі ў літаратурнае аб'яднаньне «Маладняк». "Іх імёны і лёсы інтрыгавалі мяне даўно, яшчэ з першых маіх універсітэцкіх гадоў — хоць тады яны прыадкрываліся мне галоўным чынам па чутках, па нібыта выпадковых упамінаньнях падчас размовы са старэйшымі. (Памятаю, напрыклад, як мілая-мілая, заўсёды адухоўлена-узьнёслая паэтка Зінаіда Бандарына, на той час супрацоўніца «ЛіМа», спытала: «А Дубоўкі што-небудзь чыталі?». І калі я пакруціў галавой «не» — ціха, але з пачуцьцём, прадэкламавала: «О Беларусь, мая шыпшына! Зялёны ліст, чырвоны цвет!» — і ўвесь верш да канца. Уражаньне зрабіла на мяне надзвычайнае"[27]. Гэты эпізод паэт адносіць прыкладна да 1954 года.

Хутчэй за ўсё менавіта асабістае знаёмства з Янкам Купалам і сяброўства з У.Ф.Луцэвіч вызначыла жаданне З.Бандарынай напісаць аповесць аб дзіцячых і юнацкіх гадах паэта. Паэтэса атрымала творчую камандзіроўку і змагла працаваць у купалаўскіх мясцінах. Вера Андрэеўна Ніжанкоўская (удава Б.А. Тарашкевіча) згадвае: "Летам 1957 г. да мяне, як да старажыла, прывялі невялічкую, худзенькую жанчыну, якая цікавілася жыццём Купалы ў Радашкавічах. Гэта была Зіна. Адразу яна мне здалася нейкай свойскай, блізкай. Хутка мы перайшлі на "ты", хоць у мяне з другімі гэта рэдка атрымоўваецца. Нейкая яна была шчырая, добрая, сціплая. Жыла яна ў той час у вёсцы Сяледчыкі з сынам Косцікам. Гэта каля Вязынкі, дзе Зіна была пэўны час загадчыцай музея. Відаць, Косцю яна адаслала бацькам, а сама перабралася ў Радашкавічы. У той час у Радашкавічах жылі: Мальдзіс /у той час рэдактар раённай газэты/, ... Чарнушэвіч. Апроч мяне Зіна спатыкалася з Екацяр. Канстанц. Жэлязоўскай і Тамарай Аляксандраўнай Сакаловай, абедзьве настаўніцы музыкі, апошняя і крыху паэт. Я жыла з дачкой Ірай і старушкай "Санаўнай" – Софіей Александр"[28].

У рэцэнзіі на аповесць "Ой, рана на Івана..." Ніл Гілевіч адзначаў: «Вельмі пахвальна, што З. Бандарына рашылася напісаць твор аб пачатку жыццёвага шляху любімага паэта Беларусі. Кнігу на гэтую тэму даўно і з радасцю прынялі б чытачы, асабліва моладзь і школьнікі"[29]. Аповесць «Ой, рана на Івана...» (1956) неаднаразова перавыдавалася не толькі ў Савецкім Саюзе, але і ў асяроддзі беларускіх эмігрантаў. Вядома таксама аб планах Бандарынай напісаць падобную аповесць і пра Якуба Коласа, аб якіх гаворыць М. Хведаровіч: "У 1958 годзе, ужо будучы цяжка хворай, Зінаіда Аляксандраўна пачала працу над новай аповесцю аб народным паэце Беларусі Якубе Коласе і, атрымаўшы творчую камандзіроўку, паехала на радзіму паэта... збіраць матэрыял"[30].

Думаецца, Зінаіда Бандарына была добрым і спагадлівым чалавекам, бо ў БДАМЛІМ захоўваецца вельмі цёплы ліст Алеева (без даты, пасля 1957 г.) да яе (на жаль, пакуль невядома, хто гэты чалавек), у якім аўтар пасля чыста літаратурных тэмаў піша наступнае: "Некалі ты зрабіла вялікую справу для адной дзяўчыны. Было гэта гадоў шэсць-сем назад у Гродна. Ты прытуліла дзяўчынку, якая засталася ў вельмі цяжкіх умовах. Звалі яе Стася, прозвішча Гулевіч[31]. Дык вось цяпер гэтая Стася ў Мінску, яна салістка нашай оперы. Цябе яна шукала і даведалася пра цябе толькі тады, калі прачытала "Ой, рана на Івана". Яна цябе хоча бачыць, і ўдзячна табе так!.. Добрыя справы, Зіна, не забываюцца. Гэта мяне так кранула (твая вялікая чалавечнасць у гэтай справе), што не мог не сказаць табе пару шчырых слоў"[32].

Зінаіда Бандарына напісала таксама зборнік апавяданняў для дзяцей «Лясныя госці» (1960), кнігі «Дыпломная работа» (1953), «Галіна Ільіна» (1959, апошнія дзве – на рускай мове). Яна была сябрам СП СССР (з 1957).

Памерла Зінаіда Бандарына 16 красавіка 1959 года і была пахавана на Усходніх могілках у Мінску. Сярод іншых матэрыялаў, перададзеных маці Таісіяй Аляксееўнай Бандарынай у БДАМЛІМ, захоўваецца машынапісны зборнік «Выбраныя

вершы», датаваны 1961 годам (але, хутчэй за ўсё, падрыхтаваны самой паэткай), які складаецца са 129 вершаў (187 старонак). Амаль палова з яго – творы, напісаныя пасля зборніка «Веснацвет» (гэта значыць у 30-50-я гг.), і папярэдні аналіз дазваляе з вялікай доляй верагоднасці сцвярджаць, што большасць з іх нідзе не друкавалася. Асабліва вылучаецца верш "Не міраццa ў сэрцы..." (1958), які бачыцца своеасаблівым прысвячэннем пакаленню маладнякоўцаў і ўзвышэнцаў, на чыю долю выпала столькі пакут: "Труцілі і чысцілі зерне-насенне, / І чыстае жыта, як наша сумленне. / Чагось не хапае, шукаю... Дзіўлюся / Хіба васількоў больш няма ў Беларусі?!".

Вельмі хацелася б, каб публікацыя паэтычных твораў Зінаіды Бандарынай у часопісе "Дзеяслоў" прыцягнула ўвагу беларускіх літаратуразнаўцаў да гэтай цікавай аўтаркі і неардынарнага чалавека, а таксама дапоўніла нашае ўяўленне аб літаратурным працэсе 20-30-х гадоў.

*Аўтар выказвае шчырую падзяку сыну паэткі Канстанціну Мікалаевічу Бандарыну, а таксама супрацоўнікам БДАМЛІМ Віктару Жыбулю і Ірыне Гародка за дапамогу ў падрыхтоўцы артыкула.*

---

[1] Сідарэвіч А. Яны любілі Беларусь // Расстраляная літаратура: творы беларускіх пісьменнікаў, загубленых карнымі органамі бальшавіцкай улады / уклад. Л.Савік, М.Скоблы, К.Цвіркі, прадм. А.Сідарэвіча, камент. М.Скоблы, К.Цвіркі.—Мінск: Беларускі кнігазбор, 2008. – С 13.

[2] гл. Данільчык А. Зборнік З.Бандарынай "Веснацвет" як люстэрка жаночай паэзіі 20-30-хх гг. ХХ ст. // Пра час "Узвышша": матэрыялы Узвышаўскіх чытанняў (Мінск, 2008 - 2010). Вып. 5. / уклад. Г.В.Запартыка, В.В.Жыбуль, У.Г.Кулажанка; навук. рэд. М.І.Мушынскі.—Мінск, РІВШ, 2011.—С. 78—84.

[3] Гарэцкі М. "Маладняк" за пяць гадоў. 1923-1928 // Максім Гарэцкі: Успаміны, артыкулы, дакументы / (Склад. А.С. Ліс, І.У. Саламевіч; Бібліягр. паказ. і камент. І.У.Саламевіча). Мн.: Маст. літ., 1984. – С. 265.

[4] Шушкевіч С. Панфілаўка Зіна: Да 70-годдзя з дня нараджэння Зінаіды Бандарынай / ЛіМ, 1979, 12 кастр.

[5] Шушкевіч С. Шляхі і дарогі Зінаіды Бандарынай: Да 75-годдзя з дня нараджэння / ЛіМ, 1984, 12 кастр.

[6] Тамсама.

[7] Бабарэка А. Шлях "Маладняка": Да другіх угодкаў працы Ўсебеларускага аб'яднання поэтаў і пісьменнікаў "Маладняк" // Бабарэка А. Збор твораў у двух тамах: Том 1. Літаратурна-крытычныя працы. – Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2011.– С. 106.

[8] Хведорович М. Зинаида Бондарина. Нарыс, машынапіс. БДАМЛіМ, ф. 267, воп. 1, адз. 130. *Пераклад з рускай – А.Данільчык.*

[9] Ліст В.К.Падлова да С.Шушкевіча ад 9 лютага 1970 г. БДАМЛІМ, Ф. 71, воп. 3, справа 234. *Пераклад з рускай – А.Данільчык.*

[10] Багдановіч І. Авангард і традыцыя: Бел. паэзія на хвалі нац. адраджэння. – Мн.: Бел. навука, 2001. – С. 307.

[11] Гарэцкі М. Маладняк за пяць гадоў. 1923 – 1928 // Максім Гарэцкі: Успаміны, артыкулы, дакументы/ [Склад. А.С.Ліс, І.У.Саламевіч; Бібліягр. паказ. і камент. І.У.Саламевіча]. Мн.: Маст. літ., 1984.– С. 254.

[12] Гарэцкі М. "Маладняк" за пяць гадоў. 1923-1928 // Максім Гарэцкі: Успаміны, артыкулы, дакументы / (Склад. А.С.Ліс, І.У.Саламевіч; Бібліягр. паказ. і камент. І.У.Саламевіча). Мн.: Маст. літ., 1984. – С. 266.

[13] Ліст М.Лужаніна да П.Труса / У кн.: Трус П. Выбраныя творы / Уклад., прадм. і камент. Г.Запартыкі — Мн.: "Беллітфонд", 2000. – С. 285.

[14] Кляшторны Т. Светлацені: Вершы.– Мн.: Беларускае дзяржаўнае выдавецтва, 1928.– С. 27.

[15] Ліст В.К. Падлова да С.П.Шушкевіча ад 9 лютага 1970 г. БДАМЛІМ, Ф. 71, воп. 3, справа 234. *Пераклад з рускай – А.Данільчык.*

[16] Ліст З.Бандарынай да П.Труса. БДАМЛІМ, Ф. 66, воп. 1, адз. 1443.

[17] Ліст Ю.Віцьбіча да А.Адамовіча ад 20 лістапада 1950 г. // Архіўная кніга. Аўтар-

укладальнік - Лявон Юрэвіч: http://kamunikat.fontel.net/www/knizki/litaratura/emihranty/archiunaja/21.htm.

[18] Галубок Э. Зіна Бандарына – Веснацвет // Узвышша, 1931, № 8. – С. 113.

[19] Тамсама. – С. 115.

[20] Дворкіна Ю. Зіна Бандарына. “Веснацвет” / Маладняк, 1931, № 9.—С. 200.

[21] Кучар А. Становішча і перспектывы развіцця беларускай савецкай паэзіі: Артыкул. Машынапіс з рэдактарскай праўкай. БДАМЛІМ, Ф. 66, воп. 1, с. 1406, ліст 91.

[22] Тамсама. – ліст 93.

[23] Маракоў Л. Валерый Маракоў: лёс, хроніка, кантэкст. – Мн.: “Беларускі кнігазбор”, 1999. – С. 52.

[24] Ліст З.А.Бандарынай да Т.А.Бандарынай ад 22 чэрвеня 1942 г. БДАМЛІМ, ф. 75, вопіс 1, адз. 137.

[25] Паштоўка У.Ф.Луцэвіч ад З.А.Бандарынай. БДАМЛІМ, ф. 394, воп. 1, спр. 183.

[26] Хведаровіч М. Неспакойная // Хведаровіч М. Памятныя сустрэчы. Мн.: Дзяржаўнае вучэбна-педагагічнае выдавецтва Міністэрства асветы БССР, 1963. – С. 237.

[27] Гілевіч Н. Між роспаччу і надзеяй: Абрыс пройдзенага шляху ў сьвятле адной мары. – Дзеяслоў, 2006, № 3 (22). – С. 196.

[28] Ліст В.А.Ніжанкоўскай да С.Шушкевіча, б/д (1972?). – БДАМДІМ, Ф. 71, воп. 3, справа 234.

[29] Гілевіч Н. Аповесць пра паэта. – ЛіМ, 1957, № 7, 23 студзеня.

[30] Хведаровіч М. Неспакойная / Хведаровіч М. Памятныя сустрэчы. — С. 239.

[31] Хутчэй за ўсё, гаворка ідзе пра Станіславу Іосіфаўну Гулевіч, заслужаную артыстку БССР, салістку Беларускага Дзяржаўнага тэатра оперы і балета, камерную спявачку, якая паходзіла з сям'і рэпрэсаваных.

[32] Алееў. Ліст да З.А.Бандарынай (без даты, пасля 1957).—БДАМЛІМ, ф. 75, воп. 1, адз. 141.

## *Вершы Зінаіды БАНДАРЫНАЙ з машынапіснага зборніка “Выбраныя вершы”, 1961, БДАМЛіМ*

### *УНОЧЫ*

Мы з табой крылатыя абодва,
Поўдзень нас далёкі парадніў...
Разумеючы мяне з паўслова,
Ты не памыляўся, не маніў...

Я палю за папіросай папіросу,
І глытаю горкі сіні дым...
Зразумеў... Ды вось забыць не проста,
Бо цябе дамоў чакае сын...

У акне мільгае бліскавіца,
Ноч плыве павольна над зямлёй,
Нам і голас, і паходка твая сніцца.
Дзе ты, адгукніся, што з табой...

Спіць наш сын. А я спакой згубіўшы,
У акно з трывогаю гляджу...
Шалясціць у лунным свеце лісце,
Калыхаючы маю тугу...
..............................
Сіні ранак сунецца паволі,
Гаманлівай вуліцай плыве,

Аб табе прыгадваючы з болем,
Словы кіну ў невядомы след:
– Дужым будзе і прысуд адмысловы,
Твань, рыззё скідай з сябе, скідай...
Будзь шчаслівы, дружа мой, здаровы,
І да сына ў госці прыязджай.
*(15.06.46)*

* * *

Ноч чорным бархатам ахутала зямлю.
Спіць замчышча. Спіць помнік дзён над Нёмнам...
Ледва калышучы зялёную сцяну
Адпачывае ветрык неўгамонны...
А млечны шлях на небе – зораў гаць...
І маякі на Нёмане гарацЬ,
Ім зоры з неба таямніча мігацяць...
Зрываюцца, да Нёмана ляцяць...
У такую ноч, сябры, не можна спаць.
*(30.05.46)*

### ВЯСНА-СЯСТРА

Вярба ж мая кудравая,
Ды хто ж табе кудры завіў?!
Не суха лаза, ясна сонейка,
Ды сама красна вясна-сястра
Мае кудзеркі і парасчосвала,
Ды ў косанькі і пазаплётвала,
А грабеньчыкам быў буйны вецерка:
“Не гуляй, сястра, позна вечарам,
Позна вечарам небяспечна...
Не гуляй, сястра, рана пожнямі,
Рана пожнямі сколіш ножанькі.
Ты гуляй, сястра, як вясна красна
З цёплым вецеркам ды сустрэчным,
Ды са звонкаю крыніцаю-жывіцаю,
Ды з пралескамі гуляй пералескамі.
Як вясна красна, шчодра зерне сей
І спявай на ўвесь край!”
Ручаінкі бягуць гаманлівыя,
Будуць нівачкі урадлівыя,
Нашы дзеванькі не сярдзітыя,
Як вясна красна працавітыя.
*(20.04.45)*

* * *

Зноў лес шуміць...
У вясновым сінім небе
Знянацку ў міг
Лягла істужка срэбра

З прыгожаю і тонкаю разьбой,
То за аблокамі, над галавой,
Як лёс мой, рэактыўны самалёт,
Вядзе адважны малады пілот.
Я падняла руку, вітаю,
І разам з стужкай той, павольна таю.

*(1957)*

* * *

Занадта многа нагадала мне пісьмо
У лазурна-попельным канверце...
Яно стралой імчалася з Масквы
Ратуючы ад старасці і смерці...

Прыбоем у скалы б'ецца неба сінь,
І месяц сцежку прасвяціў к усходу,
І дзіўным нам здалося абаім,
Што сцежку тую трэба абыходзіць.

На плечы мне накінуў ты свой плашч...
У свежасці начной, бы ў казцы,
Саюз з рамантыкай мы заключылі наш,
Каб шчасце ад яе адкласці...

Яно прыйшло салёным пырскам хваль
У пагоні за турэцкай кантрабандай,
Яно аднесла нас у шыр і даль,
Сустрэла штормам, біла градам.

На варце, як гавораць, "на часах"
Стаялі кіпарысы ў прычала...
Над чайкаю драпежны нейкі птах
Кружыў... А я руку тваю ў сваёй трымала.
Экзотыка – магноліі і тонкі арамат
Гліцыніі з балкону. Таварышы на моры. Мы адны.
Ды, дзе ні глянь, дактарскія халаты
Варожыя пікеты ад вясны...

Не, дактары дваіх не ўратавалі,
Мы ўцяклі ад іх на скалы,
Каб чайкамі ныраць і ў моры плаваць
Навыперадкі кінуліся ў хвалі...

А месяц плыў, халодны і нямы
Не разумеючы адкуль узяліся мы,
Хто парадніў
Пяшчотны Крым
З сумотай, туманамі
Беларусі...

І хто знайшоў, і хто згубіў
Свой лёс у косах яе русых...

За мной у след
У сцюжы, балоты,
На поўнач, у Нар'янмар, Архангельск, Котлас
Ляцелі з крымскаю гліцыніяй лісты,
І ледакол іх дастаўляў ахвотна...

Мне маладосць нагадвае пісьмо
У лазурна-попельным канверце,
Яно стралой ляцела над Масквой,
Ратуючы ад роспачы і смерці.

*(1958)*

## НЕ МІРАЦЦА Ў СЭРЦЫ

Хаджу я, блукаю па жытніх палетках,
Шукаю любімую простую кветку.
Хоць знаю, у жыце расці ёй няможна
Душа знаць не хоча, шукае трывожна.
Крылом ахінае задумліва неба,
Не мірацца ў сэрцы "няможна" з "не трэба"

Хаджу я, блукаю па жытніх палетках,
Шукаю любімую сінюю кветку.
Ці маеш прыстанак?! Пытаю трывожна,
Хоць знаю, у жыце расці ёй няможна.
Блакітна-зялёны жытнёвы палетак
Мужнее без смецця, дужэе без кветак.
Труцілі і чысцілі зерне-насенне,
І чыстае жыта, як наша сумленне.

Чагось не хапае, шукаю... Дзіўлюся
Хіба васількоў больш няма ў Беларусі?!
Паўсвета прайшла б я і ўсюды шукала
Любімую кветку. Іду я памалу,
Разважліва ў думках свой лёс правяраю,
Без клопата жыць жа не маю я права.
Хаджу я, блукаю па жытніх палетках,
Шукаю любімую простую кветку.

*(Караліцчавічы 14.06.1958)*

*Публікацыю вершаў падрыхтавала вядучы архівіст
аддзела інфармацыі, публікацыі і навуковага
выкарыстання дакументаў БДАМЛіМ Ірына ГАРОДКА.*

Алесь Бяляцкі



...кніга стары,
праверааны таварыш і сябар людзей,
якія апынаюцца ў адзіноце...

# Асвячоны Беларушчынай

***Лёс і творчасць Хвядоса Шынклера***

Апынуўшыся ў Жодзінскай турме № 8, чакаючы разгляду касацыйнай скаргі, я напісаў заяву ў турэмную бібліятэку і папрасіў якія-небудзь беларускія кніжкі. Ведаў, што асэнсаванага і сістэмнага падбору кніжак у такіх бібліятэках чакаць не даводзіцца, бо зэкі звычайна чытаюць фантастыку і дэтэктывы, а беларускія кнігі тут і зусім рэдкасць. А таму, калі атрымаў з “кармушкі” адразу тры беларускія кнігі, шчыра падзякаваў бібліятэкарцы за іх. Потым пачаў разглядаць свой набытак.

Гэта былі “Першая справа Мегрэ” ў перакладзе Ніны Мацяш, “Агні хат” Адольфа Варановіча і – “Апошні рэйс” Хвядоса Шынклера. З кнігі Шынклера я і пачаў сваё чытанне. Яно навеяла на мяне некалькі думак, якія я вырашыў занатаваць. Зборнік выбранага Хвядоса Шынклера выйшаў у 1984 годзе ў серыі кніг пісьменнікаў-франтавікоў, якія не вярнуліся з вайны. Прадмову і каментары напісаў А. Лысенка.

Нарадзіўся Хвядос Шынклер 22 верасня 1903 года, на станцыі Ізяслаўль. Цяпер гэта станцыя “Беларусь” у Заслаўі. У кніжцы падаецца здымак гэтай станцыі тых часоў. Паглядзеўшы на гэты тыповы будынак з трыма ганкамі і шасцю

вокнамі, драўляным фасадам, з невялікім падстрэшкам, уваходам і чатырма комінамі на даху, я адразу згадаў, дзе бачыў падобны вакзал. У гэтым жа маладэчанскім накірунку давялося мне не раз сыходзіць на станцыі Уша пры мястэчку Краснае, а далей я ішоў пешшу кіламетры два ў Ракуцёўшчыну. Музей Максіма Багдановіча, дырэктарам якога я быў, аднаўляў там невялічкую шляхецкую сядзібу, у якой улетку 1911 года адпачываў і пісаў зусім малады Максім. Дык там вось, на станцыі Уша, побач з новым цагляным будынкам вакзала, стаяў пэўны час стары, але дагледжаны, абшаляваны, дарэвалюцыйны станцыйны будынак, які ў адзін момант разабралі, пранумаравалі бярвенні і перавезлі ў музей архітэктуры і побыту ў Строчыцы. Не ведаю нават, склалі яго ў Строчыцах ці так і ляжыць ды гніе ён у штабелі, але візэрунак гэтага старасвецкага вакзала стаіць у мяне ўваччу, бо менавіта ён некалькі разоў сустракаў і праводзіў Максіма Багдановіча.

Людзі, якія ў той час служылі на чыгунцы, лічыліся, ды і былі, людзьмі адукаванымі і забяспечанымі. Яны складалі своеасаблівую касту – тэхнічную эліту, бо наўшчыльную з чыгункаю, рухавіком тэхнічнага прагрэсу, былі гэтаксама звязаныя і іншыя цуды цывілізацыі – тэлеграф і электрычнасць. Дамы, у якіх жылі чыгуначнікі, зазвычай будаваліся недалёка ад чыгункі і вылучаліся дабротнасцю. У адным дамку ранейшых чыгуначнікаў у Рабкораўскім завулку ў Мінску цяпер месціцца філія музея Максіма Багдановіча. Можна меркаваць, што прыкладна ў такой хаце калісь і нарадзіўся Феадосій Шынклер.

Адразу ж прыцягваюць увагу імя і прозвішча будучага беларускага пісьменніка. Пра імя Феадосій, якое затым перарабілася ў беларускае Хвядос, піша сястра Феадосія, Марыя: “Маці і бацька неяк сустрэлі вельмі прыгожага і ветлівага хлапчука па імені Феадосій і па мянушцы “Дзюка” і вырашылі, што, калі ў іх народзіцца сын, то назавуць яго толькі так. І ўсё далейшае жыццё нованароджанага хлопчыка родныя звалі Дзюка. І сам Хвядос прыватныя лісты да родных і сваякоў падпісваў менавіта так. Што тычыцца прозвішча Шынклер, то тут цяжэй. Ва ўспамінах сястры і пляменніцы Шынклера, змешчаных у кнізе, нічога не гаворыцца пра паходжанне гэтага прозвішча, якое мае яўна небеларускія карані. Хутчэй за ўсё нейкі продак Хвядоса па мячы (бацькавай лініі) быў немцам. На жаль, таксама нічога не гаворыцца пра нацыянальнае самавызначэнне бацькоў Хвядоса. Кім сябе лічыў ягоны бацька Сяргей Канстанцінавіч Шынклер: нашчадкам абруселых ці апалячаных немцаў, палякам, а можа, тутэйшым беларусам? У 80-90-я гады Ян Неслухоўскі таксама пэўны час працаваў на чыгунцы, дык вось ён лічыў сябе беларусам, пісаў вершы па-беларуску пад псеўданімам Янка Лучына. Можна сабе ўявіць, што бацька Хвядоса, Сяргей Шынклер, быў з ім знаёмы і, можа, нават чытаў тыя беларускія вершы.

Пра верагодныя каталіцкія карані сям’і Шынклераў ускосна сведчыць апавяданне Хвядоса Шынклера “Блок”, у якім апісваецца пакіданне ў 1920 годзе акупаванага палякамі Мінска. У гэтым апавяданні, напісаным у 1930 годзе, хапае голых лозунгаў і пустых сказаў, кшталту: “Косіць ёмка панская каса. Правіць баль-касавіцу”. Але ёсць і дакладнае апісанне ахопленага баямі Мінска. Можна меркаваць, што галоўны герой апавядання, падлетак Уладзік, які жыве з бацькам і цёткаю Адэляй на Мікалаеўскай вуліцы, часткова апісаны з самога Хвядоса. Дык вось гэтая ягоная цётка Адэля, каб засцерагчыся ад рабункаў, вывесіла на вулічнай браме абраз Маткі Боскай. Гэтак тады зрабілі ў Мінску ўсе каталіцкія сем’і. У аповедзе Хвядос апісвае бамбёжку цэнтра горада з бальшавіцкага аэраплана, таксама згадваюцца пілігрымкі мінскіх каталікоў да Маці Божай Вастрабрамскай, якія арганізоўваліся па чыгунцы ў Вільню. І, урэшце, вельмі рэальна апісваецца пажар на Віленскім вакзале, які пры адыходзе падпалілі польскія жаўнеры.

Гэта адно з двух апавяданняў, змешчаных у кнізе, якія закранулі мяне і сведчаць, што ў Хвядоса Шынклера быў несумненны літаратурны талент.

Дык вось, вяртаючыся да дзяцінства Хвядоса, што згадвае сястра Марыя: “Наш бацька, Сяргей Канстанцінавіч Шынклер, служачы-чыгуначнік, неўзабаве пасля нараджэння сына, быў прызначаны начальнікам станцыі Рудзенск”. Зноў жа, я дзясяткі разоў праязджаў гэты Рудзенск, калі ехаў на электрычцы да Асіповічаў, а затым, перасеўшы на дызель, яшчэ тры прыпынкі ў накірунку Старых Дарог да станцыі Дараганава, дзе ў нас стаяла купленая на лецішча хата. Станцыйны будынак у Рудзенску захаваўся яшчэ з дарэвалюцыйных часоў. Раней, мабыць, быў ён цёмна-вішнёвага колеру добра прапаленай высакаякаснай цэглы, акурат, як цяпер выглядае вакзальчык у тым жа Дараганаве. Але будынак у Рудзенску патынкавалі і пафарбавалі ў жоўты і крэмавы колеры, і выразнасць чырвонае цэглы, падкрэсленая ўзорам, які аздабляў падмуркі, знікла.

У накірунку на Рудзенск неўзабаве паедзе больш людзей з торбамі, бо зачыняюць СІЗА на Валадарскага, а ў Калядзічах пачалі будаваць новы ізалятар. Там будзе гэтаксама і рэспубліканская турэмная бальнічка. Наўрад ці ў Рудзенску будзе спыняцца новая хуткасная электрычка, якую збіраюцца пусціць да Асіповічаў. Бо сваякі зняволеных са сваімі клункамі і хатулямі стануць выгружацца павольна і, пэўна ж, будуць прытармажваць запланаваную хуткасць.

Недалёка ад Рудзенска стаяла сядзіба Бонч-Асмалоўскіх у Блоні, шляхецкі засценак, у якім гаспадар арганізаваў патаемную друкарню, і ці не ўся эсэраўская літаратура ішла адсюль па чыгунцы ў Мінск. Праз Рудзенск у 1890-я гады з трыма дзецьмі ехала па чыгунцы ў вёску Вяззе Марыя Багдановіч, маці Максіма... Вось на гэтай станцыі і прайшло дзяцінства Хвядоса. Як сам ён пісаў, перайначыўшы вядомую прымаўку: “На чыгунцы я стаў хадзіць пехатой пад вагоны”. Цікава, што такое самае магу сказаць пра сябе і я. Мая мама, Ніна, працавала ў Карэліі ў мястэчку Вярстсіля, дзе мы жылі восем гадоў, стрэлачніцай на чыгуначным пераездзе. Часам брала яна мяне з сабою на працу. Адзін з нямногіх маіх карэльскіх успамінаў, які зусім нечакана згадаўся пры чытанні прозы Хвядоса Шынклера, датычыцца якраз чыгункі: стаіць мама на пераездзе, стройная, маладая, у сінім чыгуначным паліто, круглым барэціку на чорных смаляных валасах, трымае ў руцэ чырвоны сцяжок. Паўз яе з пыхканнем і грукатам праносіцца страшны паравоз. Але я не баюся яго, я ледзьве вышкрабся з хаткі стрэлачніка, бягу да мамы і штосьці весела крычу. Я памятаю яе трывожны вокрык, але ж я бягу да яе, цягнік мне не патрэбны.

Сям’я Шынклераў была даволі культурнай і інтэлігентнай. Як успамінала сястра Хвядоса Марыя: “У нашым доме была даволі вялікая бібліятэка з твораў айчыннай (пэўна ж, расійскай – *А. Б.*) і замежнай класікі. Маці да таго ж прывівала нам любоў да музыкі, тэатра. У яе быў цудоўны голас, яна ўдзельнічала ў аматарскіх спектаклях”.

Гэтыя лаканічныя радкі падаюцца мне да болю знаёмымі. Адразу згадваюцца атмасфера і стасункі ў сям’і Максіма Багдановіча – Адама і Марыі, якія былі вельмі і вельмі падобнымі. І ў адной і ў другой сям’і было па трое дзяцей, былі кранальныя сямейныя адносіны, было захапленне кнігамі, тэатрам. Бацька Максіма працаваў чыноўнікам у Гродзенскім банку, бацькі Хвядоса – чыноўнікамі на чыгунцы. Маці Максіма пісала апавяданні, маці Хвядоса спявала і грала з спектаклях. Менавіта ў такіх сем’ях дробнага чынавенства сярэдняга дастатку часта нараджаліся творча адораныя дзеці.

Марыя працягвае: “З дзіцячых гадоў Хвядос быў вялікі кніжнік. Садзейнічалі гэтаму бацькі, якія вучылі нас, дзяцей, цаніць перш духоўныя каштоўнасці, чалавечую дабрыню, высакародства”.

Захаваўся дзіцячы здымак Хвядоса, які змешчаны ў кнізе. Пяцігадовы хлопчык сядзіць у фотасалоне. На галаве ў яго саламяны брыль-панама. Ён налыса стрыжаны, адной рукой падпірае галаву, другая ляжыць на перавясле. На здымку

Хвядос выглядае бландзіністым, бялёсым. На пазнейшых здымках ён пасмуглее, валасы стануць чарнявымі, і адзінае, што застанецца нязменным – велікаватыя вушы і надзвычай прыгожыя цёмныя вочы.

Зноў жа, гледзячы на гэты здымак, я згадваю іншы – з Лёвам, Вадзімам і Максімам Багдановічамі, такімі ж малымі, стрыжанымі налыса, і ў гэткіх жа пахатняму простых кашулях. Мабыць, такая мода апранаць дзяцей была ў тутэйшай інтэлігенцыі, якая жадала быць блізкай да народу. Адзінае, што адрознівае гэтыя здымкі – сур'ёзны выгляд твару Хвядоса і гарэзлівыя тварыкі малых Багдановічаў. Можа, гэта звязана з тым, што на той час у Хвядоса была толькі адна старэйшая сястра, і яму не было асабліва з кім гарэзнічаць і свавольнічаць.

А якія могуць быць забавы ў станцыйных дзяцей? Малы Хвядос хадзіў слухаць, як гудуць тэлеграфныя слупы: "У маленстве трывожна білася сэрца, калі слухаў гудзенне тэлеграфных дратоў. Таямнічае, незразумелае, яно здавалася грозным. Я бег дадому, ратуючыся ад гэтай няўмольнай, нямоўкнучай і бязлітаснай сілы. Крыху старэйшы і больш упэўнены ў сабе, я доўга стаяў, прываліўшыся да гэтага тэлеграфнага слупа. Я ўслухоўваўся ў невыразныя шумы, што струменілі ў ім. Я намагаўся адгадаць у гэтых шумах чалавечую мову – словы, складзеныя з іх тэлеграмы. Марна!"

Я ў свой час ужо не слухаў шум слупоў! У 60-х гадах яны былі адначасова электрычнымі. Тэлефонныя драты ішлі ніжэйшым радам і былі танчэйшымі. Я кажу менавіта пра прычыгуначныя слупы. У Светлагорску, куды мы пераехалі, калі мне было ўсяго два гады, мая маці ўжо не працавала на чыгунцы. Яна пайшла на завод штучнага валакна прадзільшчыцай. У свае 18 гадоў у 1953-м годзе па вярбоўцы яна з'ехала ў лясную Карэлію, а ў 64-м з бацькам, маім братам і мною вярнулася на Радзіму. Тут пачалі будаваць заводы, з'явілася праца. І яны выбралі Светлагорск – нованазваны горад на месцы мястэчка Шацілкі, найбліжэйшы да бацькавай Рагачоўшчыны і матчынай Нараўляншчыны.

Першым улетку ў Светлагорск перабраўся бацька, збудаваў са смалістых дошак пакрытую чорным толем "урамянку" – светлую жоўтую хацінку майго дзяцінства, з аднаго пакоя, з печчу і халоднымі сенцамі. Падваліны былі засыпаныя пяском. Дзіўныя, злепленыя з разнастайных матэрыялаў – негабляваных дошак, абабітыя толем і іржавай бляхай, раскіданыя без асаблівага парадку ў лесе паміж чыгункаю і новымі мікраранамі, "урамянкі" былі своеасаблівымі беларускімі індустрыйнымі фавеламі, у якіх перабіваліся беларускія працоўныя, цярпліва чакаючы ў чарзе кватэру ў хрушчоўках. У такім курані мы пражылі пяць гадоў.

Я раблю такое доўгае адступленне, каб найперш самому прыгадаць, якім чынам атрымалася, што і маё дзяцінства прайшло каля чыгункі. Калі ўжо значна пазней, гадоў з пяць таму пачаў я распытвацца ў бацькі, а дзе ж стаяла наша "ўрамянка", ён сказаў, што за сто пяцьдзясят метраў ад пераезда праз чыгунку. Я здзівіўся і напачатку не даў веры. Няўжо мы жылі так блізка ад чыгункі? Наўпрост атрымлівалася метраў сто. Але потым падумаў і зразумеў, што тады, калі мне было чатыры-пяць гадоў, гэтая адлегласць здавалася значна даўжэйшаю, і таму да чыгункі шлях быў таксама непараўнальна доўгім. І пакуль мы, падшыванцы, дабіраліся да чыгункі, па дарозе з намі здараліся розныя цікавыя прыгоды. Там, ля чыгункі, мы атрымлівалі некаторыя жыццёвыя веды... Думаю, што Хвядос таксама рабіў шмат розных рэчаў, якія робяць прычыгуначныя дзеці: падкладаў капейкі на бліскучыя рэйкі пад цяжар бязлітасных колаў цягніка, махаў машыністам, каб узялі яго з сабой ці хоць бы пагудзелі, а можа, і перабягаў каляіну перад падыходзячым цягнікам, палохаючы да смерці машыніста...

Распавядаючы далей пра Хвядоса Шынклера, ягоная сястра Марыя гаворыць: "У брата рана выявіліся здольнасці філолага. Яго сачыненні былі адны з лепшых у класе". Гэта хіба што можна сказаць і пра мяне. Я таксама пісаў творы, якія

прызнаваліся нашымі настаўнікамі лепшымі, а з класа сёмага пачаў пісаць вершыкі. І такім гэта здавалася мне важным, такім значным, што ў мяне аж кружылася галава, як толькі я думаў пра гэта.

Пасля школы я паступіў вучыцца ва ўніверсітэт на філфак, а вось Хвядос пайшоў іншым шляхам. Мяркую, прычынаю гэтага была вайна, якая змушае людзей быць больш практычнымі і глядзець на жыццё цвярозымі вачыма. Бацькі Хвядоса аддалі хлопца працягваць вучобу ў Мінскую рэальную вучэльню. У параўнанні з гімназіямі, рэальныя вучэльні давалі найперш тэхнічныя веды. Рэалісты, калі працягвалі вучобу, паступалі на тэхнічныя спецыяльнасці, а гімназісты – на гуманітарныя. Нягледзячы на гуманітарныя схільнасці Хвядоса, бацькі ягоныя, мабыць, вырашылі даць сыну такую прафесію, якая магла б забяспечыць яму гарантаваны кавалак хлеба. Там жа ў Мінску ён атрымаў спецыяльнасць тэлеграфіста.

Нагадаю, што з такіх жа меркаванняў сыходзіў і Адам Багдановіч, бацька Максіма, калі адрадзіў яму паступаць на філалагічны факультэт Пецярбуржскага ўніверсітэта. І Максім, пасля заканчэння гімназіі, вымушаны быў вучыцца ў Яраслаўскім ліцэі на юрыста.

Хутчэй за ўсё з 17-га па 20-ы гады, калі ўлада ў Мінску шэсць разоў пераходзіла з рук у рукі, Хвядос знаходзіўся ў горадзе, бачыў усё на свае вочы. Напісалі пра бачанае ў гэты час у Мінску і ваколіцах Сяргей Пясецкі, Вацлаў Мацкевіч, Мельхіёр Ваньковіч. На жаль, усё па-польску. Ваньковіцкую аповесць “Шчанячыя гады” я прачытаў, а вось найцікавейшыя, пэўна ж, аповесці Пясецкага і Мацкевіча пакуль не змог. У Хвядоса Шынклера пра гэты час трагедыі для беларускага народа, падзеленага рэлігійна і па станах, будзе толькі адное апавяданне “Блок”. А трагедыя ж якая была – неперадавальная! Якія часы! У пакутах вайны, у бежанстве, у тыфозных кашмарах і залітых вадою смярдзючых акопах, распаласаваная фронтам на дзве часткі, харкаючы сухотнай крывёю і паміраючы ў гарачцы ад іспанкі, зненавіджаная суседзямі і прададзеная-зняважаная моцнымі гэтага свету ў Брэсце, нараджалася новая Беларусь. І адвальвалася ад яе, адрывалася з крывёю і шыпамі, мяса ад мяса, костка ад косткі, беларуская (ды каб жа беларуская!) шляхта. Збівалася ў Корпус Доўбар-Мусніцкага, у віленскія атрады добраахвотнікаў, у іншыя часткі войска польскага і сыходзіла адсюль назаўсёды, кінуўшы свой народ, незаўважна для сябе стаўшы яму чужаніцаю моўна, рэлігійна, культурна.

Не напісаў Хвядос Шынклер сваёй “Белай гвардыі”, як зрабіў гэта Міхаіл Булгакаў, перажыўшы ліхалецце ў недалёкім Кіеве, не напісаў... Чытаў жа ён купалаўскія “Тутэйшыя”, у якіх акурат апісваецца тагачасны Мінск, але не натхніў яго Купала, не натхніў, а шкада.

Жыццё між тым пайшло далей. Неяк усталявалася мяжа паміж саветамі і Польшчай... А Хвядос Шынклер, урэшце, апынуўся тэлеграфістам на чыгуначнай станцыі ў Асіповічах.

Мой бацька Віктар таксама быў сувязістам і тэлеграфістам. Дарэчы, перад вайной яго сям’я перасялілася ў Карэлію, і яны жылі на хутары, спешна кінутым фінамі, як згадвала бабуля Марыя, “бы ў раі”. А калі ў 1941 годзе пачалася вайна, яны эвакуяваліся ў Архангельскую вобласць, дзе бацька пайшоў вучыцца ў фабрычна-заводскую вучэльню, фабзу, як тады казалі, на сувязіста. Вярнуўшыся назад у Карэлію з эвакуацыі, ён падлеткам яшчэ лазіў па тэлефонных слупах, наладжваў тэлеграфную і тэлефонную сувязь. А затым служыў у войску сувязістам. Ёсць у мяне здымак, дзе бацька ў форме сядзіць за рацыяй, рука на ключы, ліхі такі сувязіст. Яны, сувязісты, у 53-м годзе першыя пачулі пра смерць Сталіна, а затым пра тое, што Берыя – вораг народа...

...У 20-я гады Асіповічы былі невялікім мястэчкам, не нашмат большым за

той самы Рудзенск, дзе прайшло дзяцінства Хвядоса. Усё жыццё ягонае круцілася вакол чыгуначнага вузла. Хвядос адначасова з працаю, на грамадскіх пачатках загадвае бібліятэкаю і клубам. Такім чынам, праявілася ягоная прывязанасць да кнігі, да асветнай працы. І вельмі рана, з дзевятнаццаці гадоў, ён пачынае пісаць як карэспандэнт і рэпарцёр у розныя літаратурныя выданні. Хвядос пісаў нататкі, фельетоны, рэцэнзіі і артыкулы. У апантанасці да пісання Хвядоса можна параўнаць з Максімам Багдановічам. У свой час я доўга ламаў голаў, навошта, напрыклад, Максім так натуралістычна апісваў у дзённікавых запісах свае інтымныя адносіны з Клаваю ў Крыме. І прыйшоў да высновы, што ён проста не мог жыць, каб не напісаць штодзень хоць некалькі радкоў.

Пэўна, магу меркаваць, што і тэлеграфічная кар'ера мала вабіла Хвядоса Шынклера, ён быў пры чыгунцы, працаваў на чыгуначным тэлеграфе, але самарэалізоўваўся ў пісанні.

Прыблізна ў той час умацоўвалася і вызначалася беларуская свядомасць маладога творцы. Цікава, што паўплывала на яго ўсведамленне – ці незалежніцкія беларускія газеты 19-20-х гадоў, ці сустрэча з беларусамі-незалежнікамі на якой-небудзь вечарыне, ці мітынгу, ці імпрэзе ў Беларускай хатцы. А можа, беларуская мова ўпершыню працяла яго на беларускіх спектаклях трупы Фларыяна Ждановіча? Ці ўсё ж ён быў з пакалення ўжо савецкай беларускай моладзі 21-га і наступных гадоў?

Гэтая мяжа – да 20-га і пасля 20-га года выразна адбітая на творчасці беларускіх пісьменнікаў. Не нашмат старэйшы за Хвядоса Шынклера Максім Гарэцкі, які выдаў да рэвалюцыі адзін празаічны зборнік, ужо ніколі так і не стане савецкім пісьменнікам. І нават пагодкі Хвядоса – Уладзімер Дубоўка, Уладзімер Жылка, якія хапанулі беларушчыну яшчэ да канчатковага ўсталявання ў Мінску савецкай улады, былі ўжо іншымі, асвячонымі гэтай беларушчынай, і нічым іншым, аж да смерці. Але ж у выніку 23-гадовы юнак шчыра вітае выданне двухтыднёвай беларускай старонкі "На Беларусі" ў рускамоўнай газеце чыгуначнікаў "Гудок": "Наш беларускі чыгуначнік часта не ведае беларускай мовы, бо палітыка царскай улады зрусіфіцыравала яго, а ў вывучэнні роднай мовы вялікае значэнне мае друк. І старонка "На Беларусі" бярэцца за яе выкананне. Вялікі атрад беларускага пралетарыяту будзе мець сваю беларускую газету, якая азнаёміць з жыццём, культураю роднага краю".

У гэты перыяд Хвядоса Шынклера можна лічыць болей культурным работнікам, які браўся за асветніцкую задачу і адначасова пісаў, пісаў, пісаў. На жаль, у "выбраным" няма публікацыяў за гэтыя гады. Паглядзець бы наноў, свежым вокам на ягоныя публікацыі. Пэўна, што знайшлося б штосьці вартае і цікавае, што магло б болей распавесці пра самога пісьменніка, а таксама перадаць атмасферу таго часу.

Уздым беларусізацыі прыпадае на 1926-28 гады. Беларуская работа лічылася пакуль яшчэ пачэснай і важнай. Яе рахавалі і цягнулі "старыя" беларусы, якія паверылі ў тое, што тут, у Савецкай Беларусі можна пабудаваць Беларускі Дом. З-за мяжы вярнуліся М. Гарэцкі, У. Жылка, А. Цвікевіч, В. Ластоўскі ды іншыя, прайшлі ўзбуйненні, і да Беларусі далучылі Віцебск, Магілёў, Гомель і рыхтавалі Смаленск, актыўна працаваў Інстытут беларускай культуры – правобраз Акадэміі навук, станавілася на ногі беларускае школьніцтва, беларускі друк. І ў гэтай шырокай плыні, куды прыйшлі навабранцамі сотні і тысячы працаўнікоў, меў сваё месца і сціплы тэлеграфіст з станцыі Асіповічы Хвядос Шынклер.

Чатыры гады беларусізацыі далі моцны штуршок беларушчыне, яе далейшых праяваў у самых разнастайных галінах грамадзянскага жыцця. Міжволі просіцца паралель з апошнім адраджэнскім уздымам з 91-га па 94-ы – ізноў тыя ж 4 гады...

На сярэдзіну 20-х прыпадае і шлюб Хвядоса Шынклера з асіповіцкай (можна меркаваць) тэлеграфісткаю Ксеняй. Яна была на два гады старэйшая за яго, была “слыхачкаю”, лавіла і расчытвала гукі азбукі Морзэ на слых. Як пісаў Хвядос пазней, “працаваў я ў свой час на чыгуначным тэлеграфе... і там шмат ёсць слыхачоў, якія прымаюць на слых па больш слабому гуку магнітнага якара апарата. Я таксама спрабаваў “браць на слых”, але гэта было нібы балаўства. Я не авалодаў гэтым вышэйшым класам мастацтва тэлеграфіста”.

Вось жа ў сваю калегу-слыхачку і закахаўся малады Хвядос. Іхні сын Юрка нарадзіўся ў 1926 годзе. Значыць, хутчэй за ўсё шлюбам маладыя пабраліся ў 1925-м ці яшчэ раней. Фота Ксені ёсць у кніжцы. Паўнаватая шатэнка з акруглым тварам, гладка прычасанымі валасамі на прабор і выразным поглядам вачэй. Ян Скрыган апісвае Ксеню ў мінскі перыяд жыцця Шынклераў так: “Маладая, невысокая жанчына ў простай, зграбнай сукенцы, у мусліновай танюсенькай хустачцы ў бобачкі, завязанай на самым версе валасоў вельмі фацэтным вузлікам, што вострымі ражкамі тырчаў над ілбом”.

“Дарагая Ксенічка” – так звяртаўся да яе ў прыватных лістах Хвядос і падпісваў іх: “Дзюка”. Так, мабыць, яны і былі адзін для аднаго ўсе пражытыя разам гады: дарагая Ксенічка і Дзюка.

У кнізе ёсць і фотаздымак Хвядоса Шынклера 1927-га года. Яму 24. У яго акуратны пінжак, кашуля пад гальштукам, на штрыфелі пінжака – круглы значок з зоркаю ўсярэдзіне. На галаве – акуратны прабор, пад носам невялікія вусікі. Круглыя цёмныя вочы глядзяць даверліва, з цікаўнасцю да будучага жыцця, якое, здавалася, толькі адкрывалася прад ім.

Пра культурныя і літаратурныя зацікаўленні Хвядоса ў той час сведчыць ягоная рэцэнзія “Чатырохсотлецце беларускага друку”. Грунтоўны зборнік даследаванняў беларускіх навукоўцаў быў прысвечаны дзейнасці Францішка Скарыны і эпосе беларускага рэнесансу. “Залаты век” беларускай дзяржаўнасці і культуры ў XVI стагоддзі быў гістарычным абгрунтаваннем спеласці беларускага народа. Гэтыя веды здымалі пачуццё непаўнавартаснасці беларусаў, разбуралі нападкі шавіністаў і русафобаў, якія сцвярджалі, што самыя паняцці беларускі народ і ягоная адметная мова – штучныя ўтварэнні, якія не маюць права на жыццё і перспектываў для далейшага існавання.

Неўзабаве гэтыя ідэі будуць абвешчаныя шкодніцкімі, а падобныя кнігі будуць спаленыя ці патрапяць на паліцы спецсховаў. Але яшчэ ў 1927-м годзе Хвядос Шынклер пісаў: “Выдаючы кнігі «людзем простым, посполитым к пожитку» на іх роднай мове, бо «человек простый и посполитый читучи их или слухаючи, может поразумети», Скарына адлюстроўваў той нацыянальна-культурны рух, які ахапіў беларускую шляхту і гандлёвую буржуазію ў XVI стагоддзі. Ён з’явіўся пачынальнікам беларускай літаратуры, яго выданні даюць пачатак беларускай літаратурнай мовы”.

Гэтая рэцэнзія з’явілася ў першым нумары часопіса “Узвышша” ў 1928 годзе. Сама тэма рэцэнзіі мела на ўвазе адпаведную культурную падрыхтоўку і веды яе аўтара. Літаратурнае аб’яднанне “Узвышша”, якое нарадзілася з “Маладняку”, ставіла на мэце аб’яднаць прафесійных пісьменнікаў. Верагодна, што змяшчаючы гэтую рэцэнзію ў першым нумары часопіса, кіраўнікі літаб’яднання хацелі бліжэй прыцягнуць маладога і здольнага літаратара з правінцыі да супрацы.

Пра “маладнякоўскі” перыяд у творчасці Хвядоса Шынклера сведчыць паметка пад першым ягоным апавяданнем, змешчаным у “Выбраным” – “Пас зачапіў”: “Асіповіцкі літгурток імя Маладняка”. Гэтае апавяданне, у якім распавядаецца пра ўцягванне чыгуначнага рабочага Адама ў грамадскае жыццё, з’яўляецца паказальным у далейшай творчасці Хвядоса Шынклера. Дыдактычная, штодзённая, агітацыйна-публіцыстычная роля мастацкага слова выходзіць для маладога пісь-

менніка на першы план. І ў гэтым была далейшая ягоная трагедыя як літаратара. Бо мог бы ён не бегчы ў сваіх творах за індустрыялізацыяй, калектывізацыяй... Хаця б так, як гэта зрабілі Кузьма Чорны, Міхась Зарэцкі.

Гэтымі вышэйзгаданымі дзвюма публікацыямі Хвядоса Шынклера фактычна былі пазначаныя два магістральныя шляхі, па якіх пойдзе далей жыццё беларускай літаратуры. Першы шлях – беларускі па форме і змесце гуманістычны, агульначалавечы па сутнасці шлях пакутаў і катаванняў, рэпрэсіяў і пераследу. Другі – "новай" літаратуры, зробленай у стылі "сацыялістычнага рэалізму", у якой было аж зашмат сацыялістычнага і вобмаль рэалізму, шлях задзірлівых камсамольчыкаў, якія хацелі перавярнуць стары несправядлівы свет. Намеры іх былі шчырыя і ў нейкім сэнсе пазітыўныя, але куды яны завядуць гэтую таленавітую моладзь, не ведаў яшчэ ніхто. Выглядае, што стаяў Хвядос Шынклер дзесьці паміж гэтых шляхоў. Ягоная адукацыя і "паходжанне" цягнулі да "ўзвышэнцаў", а савецкая культурна-прасветная работа трымала яго ў "Маладняку".

У канцы 1928-га ці на пачатку 1929-га года Хвядос Шынклер напісаў абразок "Чую кліч", у якім канчаткова вызначыў свае ідэйна-мастацкія перакананні. Абразок падзелены на чатыры невялікія сэнсавыя часткі. У першай пісьменнік перадае свае ранейшыя "пошукі і хістанні" інтэлігента, чалавека непралетарскага паходжання, які згодна класавай тэорыі бальшавікоў не мог быць у першых шэрагах "будаўнікоў светлай будучыні": "Здалёк пачуўся працяглы гук... Даляцеў да сэрца майго, узбудзіў, ускалыхнуў... Чулася ў ім: "Дзе ты, сын мой? Дзе блудзіш? Дзе знік?.."

Затым Хвядос захоплена перадае працэс пабудовы новага грамадства. Паўстае ашаламляльная па грукаце, віску, вытворчай какафоніі карціна індустрыяльнай працы: "О, як люба, як зразумела мне гэта песня! Чуецца ў песні той лязгатанне колаў на шляху сталёвым, енк чыгуна пад вострым свідром варштата такарнага, прарэзлівыя галасы сігнальных ражкоў, моцны подых машын паравых. Расце, шырыцца мелодыя. Песня ператвараецца ў гучны, суладжаны, поўны пафасу гімн урачыстасці працы, перамог будаўніцтва. Гудуць, пераклікаюцца паравозныя гудкі... Будзяць у сэрцы маім сугучнасць, прагнасць да працы".

У трэцяй частцы абразка "будаўнікі новага жыцця" заклікаюць "спадарожніка" да супрацы: "Адчуўся настойлівы, валадарны заклік: "Ідзі, сын наш, да нас. Ідзі, будуй з намі, змагайся, працуй!"

І што ж адказаў асіповіцкі тэлеграфіст з літаратурнымі здольнасцямі і прыстойным выхаваннем? У чацвёртай частцы абразка, ён піша: "Гудуць паравозныя гудкі... Чую! Іду!"

Праз пару гадоў, ужо ў 1930-м, будзе Хвядос у артыкуле "Шлях паэта", напісаным да 25-годдзя творчасці Янкі Купалы, патрабаваўча звяртацца да паэта ад імя "працоўных Беларусі" з вераю: "што напеўна і прызыўна будуць гучаць жалейка і гуслі песняровы, складаючы незабыўныя, бадзёрыя песні працы і перамог сацыялістычнага будаўніцтва".

Янка Купала адкажа на зварот Хвядоса Шынклера... спробай самазабойства. Тое, да чаго яго не здолелі давесці царскія ўлады, давялі "свае" бальшавікі... Першаму прэзідэнту Акадэміі навук Беларусі гісторыку і грамадскаму дзеячу Усеваладу Ігнатоўскаму, абвінавачанаму ў антысавецкай дзейнасці, самагубства ўдалося. Янку Купалу адратавалі. Ён застаўся жыць, але псіхалагічна зламаўся... Хвядоса Шынклера ж і ламаць не трэба было. У "песню працы і перамог" ператворыцца ўся ягоная далейшая творчасць. Але ці ж была ў гэтым толькі ягоная віна? І ці быў ягоны творчы шлях абраны свядома? На жаль, адказу на гэтыя пытанні я не знаходжу.

Неўзабаве Хвядос Шынклер па запрашэнні Міхася Лынькова пераязджае ў Бабруйск на працу ў газету "Камуніст". І першае яго апавяданне "Пас зачапіў" і

вышэйзгаданы абразок “Чую кліч” былі надрукаваныя ў дадатку да газеты “Камуніст”, які называўся “Вясна”!

Так, так – “Вясна”!

Была ўжо бабруйская “Вясна” – сапраўднае апірышча маладой беларускай літаратуры, вакол якой у 1928-30-х гадах аб’ядналася ладная грамада маладых беларускіх пісьменнікаў.

Прачытаўшы цяпер “Апошні рэйс” – кнігу выбранага Хвядоса Шынклера, і даведаўшыся ўпершыню пра бабруйскую тагачасную “Вясну”, я яшчэ раз пераканаўся, якім літаратурна-традыцыйным у сваёй фантазіі аказаўся некалі, прыдумляючы ў 1996-м годзе назву для новай праваабарончай арганізацыі. Хацелася, каб у назве быў пазітыў і спадзеў на лепшае. А што ж такога мог прыдумаць літаратуразнаўца? Штосьці лірычнае, простае і трывіяльнае. Вось і атрымалася – “Вясна”. Вясна, пра якую некалі спявалі і якую заклікалі Янка Купала і Якуб Колас, якую чакалі, не маглі дачакацца беларускія сыны і дочкі. А яшчэ была “Вясна” Алега Мінкіна – гімн новага беларускага Адраджэння 1980-х гадоў. Вось мы сабе і ўзялі гэтую больш літаратурную, чым праваабарончую, назву – “Вясна”. Як потым аказалася, не шмат праваабарончых арганізацыяў у свеце маюць “лірычныя” назвы. У асноўным гэта цэнтры, лігі, камітэты, асацыяцыі, фонды, у назвах якіх сур’ёзнасць і саліднасць. А ў назве “Вясна” мне чуецца няўрымслівасць і аптымізм. Праўда, за 15 гадоў працы “вясноўцы” напоўнілі яе праваабарончым зместам, і назва паўплывала на нас, на манеру працы, на ўзаемаадносіны і стасункі з грамадствам.

Вось гэтаксама і бабруйская “Вясна” 20-х гадоў вызначыла таму-сяму з пачаткоўцаў-літаратараў іхняе далейшае жыццё.

Рэдактарам бабруйскай акруговай газеты “Камуніст” быў тады малады пісьменнік, удзельнік грамадзянскай вайны Міхась Лынькоў. Адразу двое, хаця ж было іх значна болей, “чырвонаармейцаў” тагачаснай беларускай літаратуры згадваюцца мне цяпер: Міхась Лынькоў ды Кандрат Крапіва. Многія з тых, хто ведаў Міхася Лынькова, пакінулі пра яго ўспаміны як пра мяккага і спагадлівага чалавека. Але ў 20-я – 30-я гады ягонае рэдактарства ў “Камуністце” ды партыйная біяграфія нікому не давалі падставаў да сумненняў у адданасці камуністычным ідэалам і ленінскай дактрыне. Хвядос Шынклер пісаў пра М. Лынькова: “Ён сваімі чулымі таварыскімі лістамі, парадамі прымусіў мяне падумаць і аб літаратурным шляху, праз яго рукі прайшлі ўсе мае творы, яго заўвагі памагалі мне ў працы, вучобе”. Міхась Лынькоў выцягнуў Хвядоса з Асіповічаў у Бабруйск і гэтым запрашэннем і парадамі рэдактара-камуніста, ідэйнага савецкага пісьменніка ён канчаткова вызначыў літаратурны шлях маладога тэлеграфіста.

У “Камуністце” Хвядос Шынклер быў адказным сакратаром, фактычна першым памочнікам рэдактара М. Лынькова, а таксама – кіраўніком філіі новага літаратурнага аб’яднання “Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў” – БелАППа. Сама назва гэтага аб’яднання ўжо гаворыць пра творчы і ідэйны напрамак пісьменнікаў, што згуртаваліся ў ім.

Па ўспамінах Сяргея Грахоўскага менавіта Хвядос Шынклер рэдагаваў “Вясну”: “Імя Шынклера я добра ведаў па апавяданні, па навелах у бабруйскіх выданнях. А цяпер убачу і самога. Вось хто, выходзіць, робіць “Вясну”. Яна і зімой, і летам была сапраўднаю вясною для кожнага аматара літаратуры, для кожнага пачаткоўца на бабруйшчыне. З “Вясны” пачынаўся шлях у літаратуру многіх маіх аднагодкаў.”

Апроч Міхася Лынькова і Хвядоса Шынклера ў “Камуністце” працавалі яшчэ Рыгор Лынькоў (Суніца), родны брат Міхася, а таксама Цімох Крысько (Васіль Вітка). З дзевяці работнікаў рэдакцыі, якіх я бачу на фотаздымку 1929-га года – чатыры беларускія літаратары. Відавочна, што рэдактар Міхась Лынькоў

праводзіў выразную кадравую палітыку... Да літаратурнай бабруйскай грамады гэтаксама адносіліся празаік Барыс Мікуліч, паэты Яўхім Кохан, Сяргей Грахоўскі і Аляксей Зарыцкі, літаратары А. Казека, Ю. Рудзько, К. Уласюк, А. Жукоўскі, Я. Замерфельд...

Мне было б цяпер цікава пагартаць старонкі тае "Вясны". Чамусьці здаецца, што там былі не толькі песні ў гонар калектывізацыі, але і добрая маладая паэзія і проза. Ніколі раней і ніколі пазней у Бабруйску не было і не працавала столькі беларускіх творцаў. Такія цікавыя былі часы.

На фоне гэтай у асноўным сялянскай па паходжанні літаратурнай грамады, Хвядос Шынклер выглядаў "дробнабуржуазным". Як успамінае Я. Кохан, "гэта быў досыць смуглатвары, выразны брунет з шэрымі, іскрыстымі, ветлівымі вачыма, апрануты, як усе мы, не з іголачкі, проста, але, можа быць, у чымсьці зграбней, інтэлігентней, акуратней". С. Грахоўскі дадае: "Пры вакне сядзеў малады чалавек з маленькімі вусікамі, з роўным праборам чарнявых валасоў. Стаячы каўнерык вышыванай чорным узорам кужэльнай кашулі расплінуты зверху... Вечаровае сонца чырваніла прыгожы смуглявы твар. А вочы! Такіх ясных іскрыстых і добрых вачэй раней ніколі не сустракаў".

З апавяданняў, змешчаных у зборніку Хвядоса Шынклера, яшчэ адное моцна зачапіла мяне. У кастрычніку 1928 года ва ўсё той жа "Вясне" ён надрукаваў дзіўны твор "Чмута", напісаны, як пазначана, яшчэ ў Асіповічах. Апісваецца ў ім жыццё маленькай чыгуначнай станцыі, якая знаходзіцца пад пагрозаю нападу "прыхільнікаў свабоды", як аўтар называе партызанаў. На гэтай станцыі з усяе савецкае ўлады ёсць толькі адзін агент ЧК Гарбатчык: "На чыгуначнай станцыі, маленькай людскай выспачцы ў лясной пушчы, утаілася жыццё. Хаваюцца чыгуначнікі, замыкаюцца ў сабе. Адслужыў – і да хаты. Старанна абходзяць усё тое, што магло б быць паказам іхняе прыхільнасці да Савецкай улады. Дзе тут да выказвання прыхільнасці? Спакой бы толькі. Паспачувай, а потым прыйдзе савінкаўская банда дый усцягне на першую асіну. Ёсць таму яскравыя прыклады. Так ціхенька думае кожны. Думае і хаваецца. І няма з кім словам перакінуцца адзінокаму агенту ОРТЧК. Вось ужо больш за месяц як трапіў ён у гэтую пустэльню. А тут яшчэ партызаны не даюць спакою. То на мост нападуць, каб падарваць яго, то захопяць у палон чырвонаармейца. Апроч таго сярод навакольных пасялкоўцаў-хутаран ёсць тайныя спачувальнікі бандыцкія. Тут іх апорныя пункты, тут падсілкоўваюцца яны, адсюль тчэцца іх агентура, нябачная сувязь".

Задача чэкіста Гарбатчыка ў тым, каб "падмеціць кожны рух, сачыць за ўсім, што робіцца наўкола, выяўляць бандыцкую агентуру, своечасова паведамляць куды трэба. Адхінуць кожную небяспеку. Напружаная, адказная праца!" А сітуацыя, тым не менш, пагаршаецца: "што дзень, то больш неспакойна, што дзень, то больш трывожна". Гэтая атмасфера паступова даводзіць чэкіста Гарбатчыка да нярвовага вычарпання: "нейкая з'явілася хваравітая падазронасць да ўсяго і ўсіх. Здаецца, на твары кожнага чыгуначніка нейкая патаемная ўхмылка. Нахабная быццам нейкая. І вось ужо, калі сустракае чэкіст чыгуначніка, дык здаецца яму, што той думае: "Дабяруцца і да тваёй скуры, пачака-а-ай..."

А калі стала вядома, што партызаны напалі на суседняе мястэчка і зусім у чэкіста сон знік: "Не спіць Гарбатчык. Ходзіць, блукае. Кожны гук ловяць чулыя нервы. Ад кожнага ледзь прыкметнага шолаху ўздрыгвае напружанае, паданае ўперад цела. Вочы імкнуцца зрабіць немагчымае – прарэзаць чорную цемру".

Гарбатчык змораны дарэшты: "гарачая, цягучая кроў стукае ў скроні, залівае мазгі. Галава гарыць полымем"... Урэшце Гарбатчык засынае ў сваім станцыйным пакоі. І праз сон чуе, як да станцыі пад'язджаюць партызаны: "Апошнія рэшткі сну скідае з сябе Гарбатчык. Паміраць дык паміраць з трэскам. А раней бандытам нашкодзіць! Схапіў гранату, скінуў колца, выпрастаўся і з сілай кінуў у акно.

Страшэнны, працяглы грукат-выбух устрос будынак, узняўся слуп пяску, камення, павыляталі шыбы. Скінулася з акна газета".

Аказалася, што кінуў Гарбатчык у свайго начальніка ЧК: "На пад'ездзе, абціраючы кроў з параненага пальца і дакорліва ківаючы галавой, стаіць начальнік ОРТЧК. Адзін з двух ягоных спадарожнікаў аглядае прабіты асколкам гранаты шынэль". І што кажа змучаны чэкіст у сваё апраўданне?

"– Сон... Чмута... – мармытаў збянтэжаны, змяшаны Гарбатчык".

Вось такое апавяданне, якое мае прыкметы сюррэалізму і звышнатуральнасці. У ім Хвядосу Шынклеру ўдалося перадаць малавядомую нам атмасферу 20-х гадоў. Мяркую, што ён апісаў праўдзівую гісторыю, якая магла здарыцца на слуцка-асіповіцкай чыгуначнай каляіне. Тут ёсць і ачмурэлы чэкіст, і згадваюцца партызаны з густых старадарожскіх лясоў, і бой за мост, і знявечаны палонны чырвонаармеец. І, урэшце, таямнічая і неадольная, разлітая над усёй Беларуссю – Чмута.

Я лёгка сабе ўяўляю псіхалагічны трылер, зняты па сюжэту гэтага апавядання. Колькі яшчэ такіх сюжэтаў роілася ў галаве маладога пісьменніка, можна толькі здагадвацца. На жаль, далейшая праца ў "Камунісце" паставіла на творчых пошуках Хвядоса Шынклера крыж. Усё, што напісана ім пазней, было ідэалагічна выверана і правільна, але зусім, зусім не цікава. Хаця з фармальнага пункту погляду ягонае ўменне пісаць паляпшаецца. Пісьменнік рупна працуе над моваю сваіх твораў, ён актыўна ўжывае як дыялектызмы, так і неалагізмы, якія натуральна ўпісваюцца ў тканіну ягонай прозы. У яго прысутнічае гладкасць мовы, лёгкасць і яснасць выкладання, ён выпрацоўвае ўласны літаратурны стыль. Піянеры гукаюць у яго: "Зважай!", а цягнік кіруецца стырном-рэгулятарам. Я наўскід выпісваю цікавыя для мяне словазлучэнні і словы: "не было амбарасу" (праблемаў), "я быў управах", "сяброўскія адлікі" (членскія ўзносы), "такарны варштат", у дзяцей "шыйкі на тычкі парабіліся", "паглумішча людское", "знушчаешся" (здзекуешся), "апусціў голаў доле"...

Што мяне яшчэ зацікавіла, дык гэта допісы маладога Хвядоса Шынклера, датычныя беларускай мовы. У кніжцы гэтых артыкулаў няма, пералічваюцца толькі назвы некаторых: "Аб слове "Савет", "Аб слове "цягнік", "Ці ваенізуемся мы?" Цікава было б пачытаць ягоныя развагі. Бо культура аўтарскай мовы – адметная рыса прозы Хвядоса Шынклера.

У канцы 20-х, пачатку 30-х пісьменнік стварае аповесць "Сонца пад шпалы" – апалогію сацыялістычнага будаўніцтва. Напачатку аповесці сустракаюцца някепскія замалёўкі і эпізоды працы на чыгунцы. "Сонца пад шпалы" – цікавая паэтычная метафара. Падчас рамонту чыгуначнага палатна "металічныя аправы канцоў узнятых угару падбоек яркімі, сляпучымі агеньчыкамі блішчаць на сонцы. Хутка апускаючыся ўніз, яны маланкай цягнуць за сабой стужкі-праменьчыкі, нібы заганяюць іх пад шпалы".

Гэтая метафара, якая стала назваю аповесці, мае яшчэ і сімвалічны падтэкст: беларускім будаўнікам сацыялізму падуладна ўсё. Яны – валадары прыроды! Яны могуць і сонца пад шпалы загнаць!

Калі пачатак аповесці пісаўся ў 1929 годзе і Хвядос Шынклер яшчэ спрабаваў засяродзіцца на драматызме характараў галоўных герояў, дык дапісвалася аповесць ў 1932-м годзе, і ў канцы яе ўжо на ўсю моц ідзе барацьба з падкулачнікамі ды іншымі ворагамі, якія на будаўніцтве чыгункі займаюцца вырабам "куфраў на пасагі і пузатых мяшчанскіх камодаў". Працоўныя выконваюць і перавыконваюць вытворчыя планы, а інжынеры "са старых чыгуначнікаў" шкодзяць ім на ўзор "шахцінскіх шкоднікаў". І толькі поўная адданасць справе дазваляе некаторым з іх перабудавацца і заняць пачэснае месца ў шэрагах будаўнікоў сацыялізму.

Аповесць адпавядала духу часу. Яна была вядомаю і чытанаю. Таму без іроніі

ў 30-я гады можна было назваць Хвядоса Шынклера" – "папулярным сучасным беларускім пісьменнікам".

У 1930-м годзе Міхась Лынькоў ад'язджае ў Мінск. І, як згадвае Сяргей Грахоўскі, "неаспрэчным аўтарытэтам у нашай філіі застаўся Хвядос Шынклер. Ён тонка адчуваў нават непрыкметную фальш у апавяданні і ў вершаваным радку, моўныя і стылістычныя агрэхі лавіў на слых, не цярпеў штукарства і ненатуральнасці, але гаварыў пра іх далікатна, мякка, каб дапамагчы, каб не зняважыць маладзейшага таварыша. А ён радаваўся самай маленечкай удачы, жывому радку, трапнаму слову, нечаканаму павароту думкі".

Жаданне аб'яднаць, злучыць творчы літаратурны працэс з вытворчым даходзіла ў Хвядоса Шынклера часам да абсурду. Як успамінае Яўхім Кохан, там жа, у Бабруйску, літаратары хадзілі на адзін тыдзень на чыгуналіцейны завод, дапамагалі "ліквідаваць вытворчы прарыў". Яны "выпускалі баявыя насценныя лісткі, у якіх вершамі і прозай расказвалі пра поспехі і недахопы, пра іх канкрэтных носьбітаў... Арганізатарам і душой рэйдаў быў Хвядос". Такім чынам, беларускія тагачасныя літаратары выступалі наватарамі, спевакамі індустрыялізацыі, літаральнымі песнярамі сацыялістычнага будаўніцтва. Яны ладзілі своеасаблівыя літаратурна-індустрыяльныя перформансы. Але гэтыя навацыі не далі ніякога плёну. Літаратура любіць індывідуалізм, цішыню і спакой.

У асабістым жыцці Хвядос Шынклер заставаўся інтэлігентным і мілым Дзюкам. С. Грахоўскі ўспамінае: "аднойчы пасярод вуліцы я ўбачыў як стары, з'езджаны конь ледзьве цягне воз грабавых дроваў. Вазак папіхае, упіраючыся ў пярэдняе біла, не крычыць, не хвошча лейцамі. Прыгледзеўся і пазнаў Шынклера." У гэтай бытавой замалёўцы – увесь Хвядос, які нават каня не мог шлёгнуць і гатовы быў сам за яго цягнуць воз.

Ёсць ва ўспамінах Сяргея Грахоўскага і хвалюючы для мяне падтэкст. Бо я быў знаёмы з ім асабіста. Я вітаўся і размаўляў з Сяргеем Іванавічам. І праз яго ад мяне да Хвядоса Шынклера пралягла нябачная сувязь людскіх стасункаў. Мне здаецца, што праз знаёмых нам людзей, мы атрымліваем сігналы і флюіды іншых. Яны слабейшыя, як лясныя водгукі, як рэха, якое згубілася ад ляснога акаёму і разляцелася ў розныя бакі, але яны ёсць! Яны ёсць, яны шчыльна звязваюць навакольны свет, звязваюць мінулае з сучасным і будучыняй.

Я ведаў Грахоўскага, Грахоўскі ведаў Шынклера. Ланцужок звязаўся. Хаця паміж датамі нашага нараджэння 59 гадоў...

У 1932-м годзе Хвядос Шынклер пераязджае на працу ў новастворaную газету "Ударнік" палітаддзела чыгуначнага вузла ў Жлобіне. Чыгунка неадольна прыцягвала Хвядоса. Пэўна, што праходзячы працаваць у гэтую газету, ён хацеў ізноў апынуцца бліжэй да чыгункі, на якой нарадзіўся і вырас, дзе прайшлі ягоныя, бадай, лепшыя гады. Туды ж, у Жлобін, ён перацягвае з Бабруйска Васіля Вітку і Яўхіма Кохана. Як згадвае Я. Кохан: "хаця ён (Хвядос Шынклер) афіцыйна лічыўся сакратаром "Ударніка", але фактычна вёў усю практычна работу, як самы вопытны газетны спецыяліст рэдакцыі... з ім працавалася дружна, плённа, прыемна". Відавочна, як ні імкнуўся Хвядос Шынклер адкараскацца ад "гнілой інтэлігеншчыны" ў сваёй творчасці, шляхетнасць у яго засталася, засталося і трапяткое стаўленне да беларускай мовы. Ён скардзіўся Я. Кохану на газетную цякучку, на "штодзённую мітусню", якая "для літаратурнай творчасці не самая лепшая памочніца".

Ведаў Хвядос Шынклер і пра "трэскі", якія паляцелі пры "выкарчоўванні кулацтва". Бацькі Я. Кохана былі раскулачаныя і высланыя. Хвядос суцяшаў Яўхіма, прыводзіў сябе ў прыклад: "калі мне часам бывае да немажлівасці цяжка і горка, ад якой-небудзь нечаканай напасці, я шукаю сабе ратунку ў добрай кнізе. Учытаюся і як бы апынуся ў іншых абставінах". Такім чынам Хвядос Шынклер уцякаў ад суровай рэчаіснасці 30-х гадоў.

Кніга стары, правераны таварыш і сябар людзей, якія апынаюцца ў адзіноце. І мяне цяпер у няпростых жыццёвых абставінах падтрымлівае кніга. Яна была вызначальна важнай для мяне ў дзяцінстве і юнацтве, а затым на яе стала меней часу, інтэрнэт адсунуў яе яшчэ далей. У турме, адрэзаны ад шалёнага жыццёвага рытму, я ізноў адкрыў для сябе факталагічныя літаратурныя вітражы, якія, працёртыя ад пылу штодзённасці і мітусні, зайгралі ўсімі фарбамі.

Ад Жлобіна, дзе жыў і працаваў Хвядос Шынклер, ужо зусім недалёка застаецца, мо якіх кіламетраў 35 па чыгунцы, да станцыі Шацілкі, якая ўжо на маім вяку была перайменавана ў станцыю Светлагорск-на-Бярэзіне і каля якой прайшлі мае дзіцячыя гады. Пэўна, што асобнікі "Ударніка", рэдагаванага ў тыя гады Хвядосам Шынклерам, даходзілі і да Шацілак. Нават цікава стала мне, выйшаўшы з турмы, схадзіць першы раз у новы будынак нацыянальнай бібліятэкі і пашукаць гэты "Ударнік", паглядзець, пагартаць, мо і захаваліся хоць некаторыя, не спаленыя ў вайну, нумары.

Ад'язджаючы ўсё далей ад Мінска, Хвядос Шынклер адлучыўся і ад мінскай атмасферы першых рэпрэсіяў, якія пракаціліся па беларускай літаратуры ў 1930-м годзе. Затым выкрыццё нацдэмаў і шпіёнаў працягвалася кожны год. Тым не менш, у 1935-м годзе Хвядоса Шынклера запрашаюць у Мінск на працу ў газету "Літаратура і мастацтва". Вось як згадвае С. Грахоўскі пра мінскі перыяд жыцця Х. Шынклера: "Мы часта сустракаліся ў Доме пісьменніка, але ён заўсёды быў заклапочаны, некуды спяшаўся, яго апаноўвалі неадкладныя справы. Празаік Мікола Лобач успамінае "дабрэйшы твар Хвядоса Сяргеевіча". Ян Скрыган гэтаксама гаворыць пра яго: "з першых дзён, як ён паявіўся ў нас у "ЛіМе", мы ўбачылі, што гэта вельмі добры, чулы і мяккі чалавек. І голас яго быў не моцны, мяккі". У "ЛіМе" тады таксама працаваў бабруйскі гадаванец "Вясны" Барыс Мікуліч. Я. Скрыган заўважае, што "Шынклер вельмі рэдка ўсміхаўся. Ён быў добры, спакойны, разважлівы, але на ўсмешку вельмі стрыманы. Толькі дома, у сям'і, бачыў я яго ўсмешку".

Гэтыя сціплыя нататкі Я. Скрыгана і С. Грахоўскага дастаткова гавораць пра псіхалагічны стан Хвядоса Шынклера ў гэтыя трагічныя гады. Абодва яны адзначаюць сціпласць і дабрыню пісьменніка, але ён цураецца блізкіх прыяцельскіх стасункаў, ён падкрэслена заняты, ён не пасміхаецца на людзях. І толькі дома ўнутраны кантроль спадае, і ён пачынае ўсміхацца. Бо толькі тут ён адчувае сябе ў бяспецы.

Такім чынам, перад намі паўстаюць два Хвядосы Шынклеры. Адзін – вонкава дабразычлівы, роўны з усімі ў адносінах чалавек, які цалкам кантралюе свае словы, паводзіны і эмоцыі. Другі ж у сям'і – сапраўды разняволены і ўсмешлівы любімы бацька і муж. Пляменніца пісьменніка Наталля заўважае: "Ён заўсёды быў удзельнікам і завадатарам нашых гульняў і свавольстваў.. Ён хадзіў з намі ў кіно, на пляж... Усе збіраліся за святочным сталом. Дзядзя прыносіў з сабою жарты, смех, радасць".

Засталася нязменная ў Хвядоса Шынклера ранейшая пашана да беларускай мовы. Па-беларуску размаўляў ягоны сын Юрка. Пляменніца Наталля піша: "Ён вучыў мяне чытаць і назаўсёды прывіў любоў да кнігі, літаратуры, роднай мовы".

У гэтыя гады Хвядос Шынклер шмат піша для дзяцей. Сыход у дзіцячую літаратуру быў хіба адным легальным сыходам з трывожнай і жахлівай рэчаіснасці.

З "ЛіМа" Хвядос Шынклер пераходзіць у "Полымя". У гэты час ён перажывае вал сталінскіх рэпрэсіяў, які ў 1937 годзе дасягнуў свайго эпагею. Што адчуваў Хвядос Шынклер, калі адзін за адным знікалі ягоныя старыя і новыя знаёмыя, абвешчаныя "ворагамі народа"? З бабруйскага літаратурнага асяродку былі арыштаваныя Барыс Мікуліч, Яўхім Кохан, Сяргей Грахоўскі, з "лімаўскага"

– Ян Скрыган ды многія іншыя. Што ён адчуваў, калі пад нож пайшла новая тэхнічная інтэлігенцыя – інжынеры-чыгуначнікі, сувязісты, электрыкі? Што адчуваў Хвядос Шынклер са сваім прозвішчам, калі сталінская каса пачала касіць асяродкі палякаў і немцаў?

Мяркую, што страх панаваў у ягонай душы. І ён са сваім непралетарскім паходжаннем з усіх сілаў у сваёй дзейнасці і творчасці імкнуўся даказаць і паказаць сваю гранічную шчырасць і адданасць савецкай уладзе і камуністычны ідэалам. І ён штодня чакаў арышту, адчайна баючыся хоць рухам, хоць словам выдаць гэты свой усеабдымны страх.

Хвядос Шынклер перажыў 1937-ы год, ягоная тактыка знарочытай, паказушнай адданасці савецкай уладзе дала свой плён, хаця яна дапамагала далёка не ўсім. Яму пашанцавала выжыць. Але за гэта ён мусіў заплаціць высокі кошт. Ён мусіў да астатку вытруціць усё жывое ў сваёй творчасці, ён мусіў забіць у сабе пісьменніка, пакінуўшы жыць ідэалагічнага работніка. Парадаксальна, але рэпрэсаваныя знаёмыя Хвядоса Шынклера, якія заплацілі доўгімі гадамі зняволення за тое, што хацелі быць і былі беларускімі пісьменнікамі, засталіся ў беларускай літаратуры. Барыс Мікуліч адсядзеў у Гулагу дзесяць гадоў і здолеў напісаць пра перажытае ўспаміны. Яны з'яўляюцца праўдзівым і трагічным творам беларускай літаратуры другой паловы 40-х гадоў. На жаль, неўзабаве ён памёр, пакінуўшы здароўе ў сталінскіх лагерах. Сяргей Грахоўскі адсядзеў яшчэ большы тэрмін – і выйшаў з Гулагу толькі пасля смерці Сталіна. Але ён здолеў яшчэ раскрыцца і рэалізавацца як цудоўны паэт і празаік. І ягоныя ўспаміны пра пакутніцкі шлях з'яўляюцца набыткам нашай літаратуры. Стаў добрым празаікам пасля шматгадовага зняволення і Ян Скрыган. Лаканічны і ашчадны ў словах і фарбах, ён не дазваляў сабе ніводнай фальшывай ноты ў напісанай прозе.

Але гэта будзе пазней.

Пачалася вайна. 25 чэрвеня 1941 года Хвядосу Шынклеру разам з сям'ёй удалося выехаць з палаючага Мінска. Спыніліся яны на Урале, у Свярдлоўску. З беларускіх знаёмых там нікога не было. 2 кастрычніка 1941 года Х. Шынклер пісаў: "Я тут адзін. Працую на тэлеграфе, узгадаў старую, кінутую 14 гадоў таму спецыяльнасць. Быў пару дзён Маўр, не затрымаўся, накіраваўся ў Алма-Ату".

У кнізе ёсць здымак Свярдлоўскага цэнтральнага паштамта, пабудаванага ў стылі канструктывізму: строгія простакутныя абрысы будынка, дэкараванне фасадаў адбываецца коштам разнастайных па форме вокнаў. Углядаюся ў гэты будынак, і ён падаецца мне знаёмым. Амаль увесь 1986-ы год я служыў у савецкім войску ў артылерыйскай частцы, якая стаяла на ўскраіне Свярдлоўска. І калі мы хадзілі ў звальненне, а такое здаралася раз ці два разы на месяц, мы сноўдаліся па горадзе, часам забрыдаючы і ў цэнтр. Свярдлоўск запомніўся мне канструктывісцкімі будынкамі. Пэўна, што я хадзіў і каля паштамта, а можа быць нават і заходзіў у яго. Калі б я тады ведаў, што буду пісаць гэтае эсэ, то дакладна звярнуў бы на будынак большую ўвагу.

Працуючы тут, Хвядос Шынклер напісаў аповесць пра працу тэлеграфістаў "Пульс жыцця". Напісаная ў форме дзённіка лёгкім публіцыстычным стылем аповесць, асабліва напачатку, мае пэўную мастацкую вартасць. Вось чалавек, закінуты вайною на Урал, ідзе працаваць тэлеграфістам. І нікому тут ягоныя здольнасці літаратара не патрэбныя і не цікавыя. Савецкай краіне ў гэты момант патрэбныя салдаты, можа быць трохі – тэлеграфісты, але не літаратары.

Хвядос Шынклер апісвае стасункі паміж тэлеграфістамі, сутнасць іхняй працы, суперажывае той інфармацыі, якая праходзіць праз яго рукі. Але хутка эфект дзённіка разбураецца, галоўны герой, чытаючы тэлеграмы, выкрывае шпіёна. Чыстай агіткаю выглядае перапіска тэлеграмамі братоў Колчыных, адзін з якіх

шахцёр, а другі – аўтаматчык на фронце. Яны ладзяць паміж сабой спаборніцтва: “Мікалай Колчын паведамляў брату: “Лік прадаўжаю. 94 гітлераўскія мярзотнікі склалі галовы пад маімі кулямі. Берагу аўтамат, міма не страляю”. Сцяпан Колчын у адказ выканаў шахцёрскую норму на 350 працэнтаў. Вось такім сацыялістычным спаборніцтвам з крэсла тэлеграфіста ўяўлялася пісьменніку вайна...

Захаваўся здымак Хвядоса Шынклера ў Свярдлоўску. Яму 38 гадоў, ён у сваім нязменным гарнітурчыку пад гальштукам, з глыбокімі стомленымі вачыма, схуднелы і без сваіх заўсёдных вусікаў. Зразумела чаму, бо такія самыя, як аказалася, насіў і Адольф Гітлер.

Жывучы ў Свярдлоўску, Хвядос Шынклер спрабуе аднавіць сувязь з беларускімі пісьменнікамі. Ён піша Янку Купалу. Замест Янкі Купалы адказвае ягоная жонка Уладзіслава, спасылаючыся на тое, што Купала “цяжкі на пад'ём”. Можа, так яно і было, а можа, Купала проста не пажадаў пісаць. Затое адгукнуўся Васіль Вітка, які працаваў у газеце “Савецкая Беларусь”, што выходзіла тады ў Маскве. В. Вітка піша Хвядосу, што “зараз пытанне стаіць аб збіранні кадраў усіх, у тым ліку – пісьменнікаў і журналістаў. Мы з Кузьмой Чорным ужо ставілі аб тым пытанне”.

У красавіку 1942 года Хвядосу Шынклеру ўрэшце прыходзіць чаканая тэлеграма: “Выязджайце Маскву Цэка партыі пастаянную работу сакратар Цэка Беларусі Гарбуноў”

Але ў гэты час Хвядос Шынклер ужо быў у... войску.

У канцы сакавіка 1942 года Хвядос Шынклер, як піша А. Лысенка, маючы белы білет, “добраахвотнікам” быў прызваны ў войска. Яго пасылаюць вучыцца ў пяхотную вучэльню ў г. Кіштым Чалябінскай вобласці, што недалёка ад Свярдлоўска. Але пісьменнік не пакідае спадзявання на перавод у Маскву. У лісце да жонкі ён піша: “Быў у камісара з тэлеграмаю. Яна, вядома, цяпер нічога не вартая. Буду пісаць Міхасю (М. Лынькову – *А. Б.*). Трэба фарсіраваць, калі ён зможа гэта зрабіць”. Бачна, што “добраахвотнасць” Хвядоса Шынклера пры прызыве ў войска мае прымусовы характар, але змяніць ужо што-небудзь было вельмі цяжка, калі не немагчыма зусім.

Хвядос Шынклер вельмі хвалюецца за сям'ю, за маленькую дачку Ірыну, якая нарадзілася ў 1940-м годзе і якую ён называе Анай-Кікі: “Амаль паўмесяца няма ад вас лістоў. Я страшна хвалююся, ёсць хвіліны, калі месца сабе не знаходжу. Чаму вы маўчыце, пазбаўляеце мяне адзінай радасці? Хоць пару слоў – і мне лягчэй будзе, дні будуць весялейшымі”.

Пры цяжкіх нагрузках, калі курсанты знаходзіліся, як піша Хвядос Шынклер “на становішчы радавых ды яшчэ жарстчэй у 10 разоў”, ён сур'ёзна захворвае. Пісьменніка кладуць у бальніцу, збіраюцца рабіць аперацыю. Але галоўурач вырашае яе адмяніць, бо тады на лячэнне пайшоў бы ўвесь час вучобы. У Хвядоса Шынклера знайшлі склероз сэрца і міякардыт. Ён піша жонцы Ксеніі: “не здаючыся ўсё ж хваробам, я сёння хадзіў на заняткі. Вынік варты жалю – боль і цяжка хадзіць, задыхаюся... не ведаю, чым гэта скончыцца...” У траўні 1942 года адбылася медыцынская камісія. Пісьменнік піша жонцы: “Быў я 9/V на камісіі, учора даведаўся вынік: пакінуты ў страі”.

Хвядос Шынклер працягвае спадзявацца на М. Лынькова і В. Вітку. Але спадзяванні марныя. Ён з горыччу паведамляе жонцы: “Меў паштоўку ад М. Лынькова. Ён піша: “Шкада, што гэтак бязглузда атрымалася з табой. Што-небудзь паспрабуем зрабіць, але каб сказаць тут што-небудзь пэўнае, дык не бяруся”. Я яму напісаў яшчэ ліст”. Далей у кнізе – скарачэнне. Можна здагадацца, што ўкладальнікі кнігі апусцілі крыўдлівае выказванне Хвядоса пра свайго былога літаратурнага і ідэйнага бацьку.

Хвядос Шынклер на сабе адчуў жорсткасць і бяздушнасць армейскай машыны, якая зусім не зважала ні на ягоныя прафесійныя здольнасці, ні на зда-

роўе. Жыццёвая практыка моцна разыходзілася з той разумнай і рацыянальнай тэорыяй, якую ён прапагандаваў у сваіх творах.

Я адчуў гэтую сляпую сілу вайсковай бюракратыі на сваёй скуры ўжо ў 80-я гады "развітога сацыялізму", бо ў мірны час (калі не лічыць вайну ў Афганістане) мяне, аспіранта Інстытута літаратуры Акадэміі навук забралі ў войска і накіравалі ў вучэбку ў Свярдлоўскую вобласць, у мястэчка Ялань, дзе я быў вывучаны на... механіка-вадзіцеля самаходнай гарматы і браніраванага цягача.

Хвядос Шынклера ўсё яшчэ не пакідаюць надзеі на ўлік ягоных уласных якасцяў пры далейшым лёсе. Ён піша жонцы: "Хочацца стаяць цвёрда на сваіх нагах і папрацаваць са сваёй ініцыятывай". Ён супакойвае жонку, а, мабыць, і сябе: "Цімоша (В. Вітка – *А. Б.*) піша, што ў іх шмат гавораць пра Дзюку, робяць усё неабходнае, каб забраць да сябе, і гэта, пэўна, будзе зроблена".

Пасля заканчэння чатырохмесячных курсаў вайсковай вучэльні малодшы лейтэнант Хвядос Шынклер у верасні 1942 года быў накіраваны ў лінейную частку, якая фармавалася тут жа, на Урале, у вёсцы Кур'я. Здароўе ў яго гэткае ж благое, ён скардзіцца жонцы: "...хадзіць цяжка. Пайду на днях да хірурга. Няхай дасць бандаж ці дапаможа чым іншым".

Ізноў паўстае пытанне пра аперацыю і пра камісаванне Хвядоса Шынклера з войска. Але лёс і камандзіры распарадзіліся па-іншаму. 30 верасня 1942 года ягоная частка выехала на захад. Цягнік без супынку праязджае Свярдлоўск. Хвядос піша з дарогі жонцы: "Крыўдна, так шкада, што не пабачыўся з вамі".

Гэта было апошняе падарожжа Хвядоса Шынклера па чыгунцы, якую ён так любіў. Лёс напаследак падараваў яму гэтае тысячакіламетровае падарожжа праз лясы, палі і масты, насустрач непазбежнай смерці. 13 кастрычніка ён дасылае апошнюю паштоўку жонцы, у якой паведамляе: "Усё яшчэ ў паходзе... цяжка мне без вас... і ўвесь час у думках я з вамі. Беражыце маіх рабятак, нагадвайце ім пра татку і яму будзе лягчэй".

Вайсковая частка Хвядоса Шынклера была накіравана пад Сталінград. У гэты час там ішла адна з найбольш крывавых бітваў Другой сусветнай вайны. Я не ведаю, ці паспеў малодшы лейтэнант, беларускі пісьменнік Хвядос Шынклер паваяваць хоць два-тры дні, ці ён быў забіты ў першы ж дзень, у першым жа баі. Урэшце, гэта не мае ніякага значэння. З усіх здольнасцяў Хвядоса Шынклера ў гэтыя дні спатрэбілася толькі адное – пайсці па загадзе і памерці. Гэты хворы немалады ўжо інтэлігентны чалавек, пісьменнік, які так аддана даказваў савецкай уладзе сваю патрэбнасць, які гэтак актыўна ўдзельнічаў у фармаванні новага тыпу чалавека, апантанага савецкім патрыятызмам, павінен быў пакласці на алтар уласнае жыццё...

25 кастрычніка 1942 года камандзір узвода 1-й роты 93-й асобнай стралковай дывізіі малодшы лейтэнант Хвядос Шынклер загінуў пад Сталінградам на вышыні 95,9 каля пасёлка Бекетаўка.

*P.S.* Праз год 15.09.1943 года загіне сямнаццацігадовы сын Хвядоса Шынклера Юры, які добраахвотнікам пайшоў на фронт...

*Жодзіна, турма № 8.*

---

"Дзеяслоўцы" шчыра віншуюць свайго сталага аўтара і сябра Алеся Бяляцкага з пяцідзесяцігоддзем і зычаць яму трывання і аптымізму, здароўя і Свабоды...

Валянцін Акудовіч



…сёння нацыянальны канон –
гэта трагічная музыка,
якую спарадзілі самыя высокія парыванні
беларускага духа…

# Нацыянальны канон: партытура для рэквіума

### 1. У пошуках нацыянальнай айкумены

Як добра вядома, нават у тэарэтычным дыскурсе не існуе нейкай універсальнай канцэпцыі нацыянальнай ідэі. У кожным апрычоным выпадку нацыянальнай становіцца тая ідэя, якая найбольш поўна адпавядае запатрабаванням і магчымасцям канкрэтнай супольнасці на стадыі яе нацыябудаўніцтва. (Натуральна, тут сваю ролю таксама адыгрываюць эпоха, гепалітычны кантэкст, рэлігійныя дамінацыі і шмат чаго яшчэ...)

Да прыкладу шматварыянтнай асновы кожнага нацыябудаўніцтва згадаем хаця б два гістарычныя сюжэты. “У 1848 г. у немцаў ўсё яшчэ будуць існаваць супрацілеглыя погляды на тое, што такое Германія... Пералік розных мадэляў Германіі... карысны напамін аб тым, што нямецкая нацыя, якую ў розных даўнейшых тэорыях называлі “гістарычнай”, гэта значыць ад веку запачаткаванай як нацыя, пры пераходзе да эпохі нацыяналізму зведала працэс фармавання, перафармавання і разбурэння... Новая канцэпцыя адзінай

аб'яднанай нацыянальнай дзяржавы была насамрэч рэвалюцыйнай, паколькі заклікала да разбурэння гістарычных дзяржаваў – такіх як Прусія, Баварыя, Саксонія і другіх...". Гэта цытата з артыкула Рамана Шпарлюка*. Згадаем яшчэ адзін фрагмент з тэксту гэтага аўтара. "Не толькі немцы былі раздзеленыя і не вельмі ўяўлялі якой ёсць і тым болей якой павінна быць іх краіна. **Другія нацыі** (выдзелена мною – *В.А.*) сутыкнуліся з тымі ж праблемамі. Чэшскі гісторык Іржы Коржалка... піша, што ў 1848 г. у чэхаў было не менш як пяць канцэпцыяў свайго народа: аўстрыйская, пангерманская, славянская, багемская і ўласна чэшская". Натуральна, у спіс "другіх нацыяў" трэба залічваць і беларусаў.

Распавед пра генезіс беларускай нацыі можна распачынаць хоць з моманту стварэння Свету, што навукова будзе не зусім карэктна, але з таго не менш слушна. Аднак, мы абмяжуем сябе тым перыядам, калі этнонім "беларусы" атрымаў ужо досыць шырокі распаўсюд, а пасля "паўстання Каліноўскага"** прыдбаў сабе і значэнне "палітоніма". Тут дарэчы будзе заўважыць, што "паўстанне Каліноўскага" было першым паўнавартасным палітычным актам, які засведчыў наяўнасць беларусаў ужо менавіта ў палітычным дыскурсе. І ў гэтым яго канцэптуальная адрознасць ад паўстання 1794 г., якое ачольваў *таксама беларус* Тадэвуш Касцюшка, але дзе нават напаміну пра беларускую нацыю яшчэ не было месца (зрэшты, як і пра польскую ці літоўскую), бо там змаганне вялося за незалежнасць польскай палітычнай нацыі, якая для насельнікаў нашых земляў выяўлялася ў формуле gente Lithuani, natione Poloni (роду літоўскага, нацыі польскай). Між іншым, паміж "Вясной народаў" 1848 г., якая паклала пачатак многім еўрапейскім нацыяналізмам, і "паўстаннем Каліноўскага" прамінула ўсяго 15 год. Гэта значыць, што ў праекцыі на эпоху нацыяналізму беларусы палітычна засведчылі пра сябе амаль адначасна з многімі іншымі народамі Еўропы. Што праўда, гэта было відавочным запабяганнем далёка наперад адносна патэнцыялу тадышніх беларусаў як нацыі. Болей за тое, паўстанне 1863 г., якое заканцавалася неверагодна жорсткімі рэпрэсіямі царскіх уладаў, на дзесяцігоддзі запыніла працэсы нацыяўтварэння на Беларусі. Дастаткова нагадаць, што расійская адміністрацыя 40 год пасля паўстання (да 1905 г.) забараняла друкаваць кніжкі па-беларуску, а выкладаць беларускую мову ў школах імперыя так і не дазволіла да свайго скону.

Мне здаецца, што мы недастаткова ўсведамляем, якія непапраўныя страты панеслі беларусы за гэты перыяд адносна перспектывы сваёй нацыянальнай будучыні. Бо на той час без беларускай кнігі і беларускай адукацыі ў прынцыпе было немагчымым фармаванне нацыянальнай эліты. А без нацыянальнай эліты, у сваю чаргу, скуль магла ўзяцца паўнавартасная нацыя.

Таму выглядае досыць натуральным, што якраз у гэтую пару, калі беларусы як бы выпалі з часу, на месцы ўласнай нацыянальнай ідэі сфармаваўся яе падменнік, які атрымаў назву "заходнерусізм". Цалкам закаптаваная ў расійскі палітычны і культурны канон, ідэя "заходнерусізму" хаця і дэкларавала ўвагу да этнаграфічных адметнасцяў краю, але не зважала на беларусаў як на патэнцыйную нацыю.

Трохі пазней у радыкальную апазіцыю "заходнерусізму" (аднак з той жа падставы) паўстала ідэя краёвага нацыяналізму (сарматызму), якая па свойму спрабавала актуалізаваць канцэпцыю палітычнай нацыі Рэчы Паспалітай, толькі цяпер у краёвым вымярэнні.

Сістэмныя і разгорнутыя пошукі ўжо ўласна беларускай нацыянальнай ідэі, як вядома, пачаліся адно пасля Расійскай рэвалюцыі 1905 г., якая пакінула трохі больш свабоды для "национальных окраин". Ці варта нават нагадваць, што выключную ролю ў беларускім руху адыграла віленская газета "Наша Ніва" і тыя культурна-палітычныя асяродкі, якія з'явіліся пад яе ўплывам. Тады і быў збольшага сфармаваны той нацыянальны канон, які без асаблівых трансфармацыяў пратрываў да канца XX стагоддзя (а для многіх нацыянальна заангажаваных

беларусаў ён у гэтым значэнні застаецца яшчэ і па сёння). Вызначальную ролю ў яго палітычнай адаптацыі адыграў Антон Луцкевіч. Натуральна, склаўся гэты канон далёка не адразу. Варта хаця б згадаць, што Антон Луцкевіч, з ініцыятывы якога і была ў Мінску абвешчаная Беларуская Народная Рэспубліка, раней выступаў за стварэнне літоўска-беларускай дзяржавы (Канфедэрацыі Вялікага Княства Літоўскага) з соймам і сталіцай ў Вільні.

Не цяжка заўважыць, што мадэль беларускай нацыянальнай ідэі была скапіявана (некрытычна) з тых варыянтаў, што трохі раней ужо запрэзентавалі палякі, украінцы, чэхі, літоўцы... Гэта так званая этнакультурная (этналінгвістычная) мадэль, найбольш яскравы прыклад якой дэманстравала Нямеччына. Інакш кажучы, беларуская нацыянальная ідэя была кампіляцыяй экспартаваных знадворку нацыянальных досведаў. Што і зразумела. На тую пару тэарытычная база беларускага нацыяналізму была залішне слабой, каб эўрыстычна сфармаваць уласную візію нацыянальнай ідэі. А тым болей адэкватна заканцэптуалізаваць яе ў перспектыве палітычных ды сацыяльных практык. Таму беларуская нацыянальная ідэя апынулася абстракцыяй, якая толькі ўмоўна суадносілася з рэальнымі запатрабаваннямі грамадства.

Звернем увагу хаця б на той факт, што 90% беларусаў былі тады вяскоўцамі і нацыяльная праблематыка для іх увогуле не выглядала запатрабаванай хоць з якога боку. Актуальным для іх было не нацыянальнае, а сацыяльнае (падвышэнне, а яшчэ лепей увогуле змена сацыяльнага статуса).

Другая выразная хіба гэтай мадэлі бачыцца ў тым, што яна была разлічаная на грамадства з больш-менш развітай нацыянальнай культурай, чаго беларусы на тую пару не маглі мець, паколькі імперыя заблакавала ўсе магчымасці паўставання нацыянальных элітаў і яны яшчэ толькі пачыналі фармавацца. Не складана назваць і яшчэ цэлы шэраг праблемных пазіцыяў (хаця б адсутнасць *беларускага* горада), аднак мы да іх звернемся пазней...

Калі абрысы нацыянальнай ідэі збольшага абмалявaліся, надзённым сталася пытанне, у якім канстытуцыйным фармаце яна магла б быць рэалізаванай? Пра мадэрнізаваную канцэпцыю ВКЛ ужо казалася, але пазней больш перспектыўнай стала бачыцца аўтаномія (у лепшым варыянце – канфедэрацыя) ў складзе Расіі ці Польшчы. Ідэя дзяржаўнай незалежнасці Беларусі да рэвалюцыі 1917 г. у Расіі не выглядала рэальнай. Але з прычыны шэрагу гепалітычных катастрофаў, якраз яна перамагла, да таго ж ужо ў зусім нечаканым палітычным кантэксце – праз акупацыю беларускіх земляў Германіяй.

У адрозненне ад гэтай, цяпер кананічнай беларускай нацыянальнай ідэі, крыўская ідэя Вацлава Ластоўскага выглядала куды больш эўрыстычна. Апазнаўшы напаўміфічных крывічоў як нашу вялікую протацывілізацыю, Ластоўскі праз мадэрнізацыю традыцыйнага культурнага канона ў нацыянальны мерыўся вярнуць нашчадкам крывічоў іх былую веліч і славу. Але і палітычна, і сацыяльна крыўская ідэя Ластоўскага выявілася абсалютна не інструментальнай і наўрад ці пры хоць якім раскладзе магла быць рэалізаванай на практыцы. Затое, яна апынулася вабнай культурна. Што сталася прычынай расколу нацыянальнай інтэлігенцыі на “беларусаў” ды “крывічоў” у Заходняй Беларусі, а пазней і ў пасляваеннай эміграцыі. Больш за тое, у сучасным інтэлектуальным жыцці Беларусі “крыўства” і сёння застаецца заўважным і па-свойму актуальным дыскурсам.

У навуковых даследваннях розных версій беларускай нацыянальнай ідэі звычайна апынаецца па-за ўвагай суплёт канцэптаў, выказаных у бліскучым і насамрэч ужо інтэлектуальным эсэ Ігната Абдзіраловіча (Канчэўскага) “Адвечным шляхам”. Увогуле зразумела, чаму ў гэтым плане навукоўцы абмінаюць увагай Абдзіраловіча. Яго паэтычна-эмацыйны, спантанна-эўрыстычны і спрэс супярэчлівы сам па сабе тэкст здаецца не палягае хоць якой дасцыплінарнасці.

Але, магчыма, ягоныя інтэлектуальныя ініцыятывы, фармальна ніяк не стасоўныя да хоць якіх сацыяльна-палітычных практык, з погляду на перспектыву якраз і выяўлялі адэкватны ментальнасці беларусаў нацыянальны канон.

Ігнат Абдзіраловіч першым сярод беларусаў адмовіўся ад беларускай нацыянальнай ідэі, прапанаваўшы замяніць яе на канцэпт "адвечнага беларускага шляху". У іншай праекцыі замест ідэі, як пэўнай логацэнтрычнай формы, ён актуалізаваў "ліючуюся форму", што сёння сінанімічна блізка да панятку "дыскурса". Сацыяльна-эканамічную базу грамадства ён прапанаваў будаваць найперш звяртаючыся да ідэі кааперацыі. Да таго ж Абдзіраловіч своечасова папярэджваў беларусаў аб небяспецы месіянізму (кшталту расійскага ці польскага), праявы якога на тую пару ўжо былі заўважныя як у фундаменталісцкай тэорыі "крывічоў" В. Ластоўскага, так і ў канцэптуальных практыках "камуністычных" беларусаў, якія разам з іншымі савецкімі народамі рэальна рыхтаваліся да сусветнай рэвалюцыі...

Асобнай гаворкі патрабуюць нацыянальныя ідэі (праекты), якія, бадай, не маюць шанцаў хоць калі палітычна рэалізавацца, але заўважна прэзентуюць сябе ў культурна-інтэлектуальным дыскурсе Беларусі. Тут я, найперш, маю на ўвазе "крывічоў","балта-крываў", "краёўцаў" (сарматаў), "ліцвінаў" ("літвінаў"), "русінаў" (умоўная назва пэўнай плыні), "вялікалітоўцаў", "манархістаў" і да т.п. Толькі мы іх пакінем за абсягам нашай гаворкі. Бо мяне на гэты момант найбольш інтрыгуе аналітычная крытыка класічнага нацыянальнага канона (пачынаючы ад моманту яго паўставання), які пратрываў у ролі загалоўнага цягам, лічы, стагоддзя, але, выглядае, што так ужо ніколі і не зможа канцэптуальна рэалізавацца ў сваёй мэце.

## 2. Класічны нацыянальны канон

Адразу заўважу, што мэта ў мяне тут зусім не герменеўтычная, а, як ні дзіўна, экзістэнцыйная. Мяне ўжо даўно, як персанальная вярэда, трывожыць здумленне: ці мела класічная нацыянальная ідэя, якую ў шараговым дыскурсе мы называем "Адраджэнскай", хаця б тэарэтычны патэнцыял быць рэалізаванай у сацыяльна-палітычнай рэальнасці ХХ ст., як і ўвогуле хоць калі-небудзь?

Вядома, сфармуляваўшы гэткім чынам праблему, я адразу патрапляю як мінімум у дзве пасткі. Першая – гэта пастка ўмоўнага ладу. Груба кажучы, калі цягам стагоддзя класічная нацыянальная ідэя ў самых розных гістарычных варунках рэалізавацца не змагла, дык што тут выдумляць, у якіх умовах яна магла гэта зрабіць? Другая пастка звязаная з вышэй згаданымі "гістарычнымі варункамі". Маўляў, сама задума была добрая, але дзве сусветныя вайны, акупацыя Польшчай Заходняй Беларусі і акупацыя камуністычнай Расіяй Усходняй Беларусі, а затым і ўсёй Беларусі не дазволілі адбыцца гэтай цалкам прыдатнай стасоўна нашай краіны нацыянальнай ідэі... І што тут запярэчыш? У жыхароў Пампеі маглі быць самыя адэкватныя іх магчымай будучыні канцэпцыі, але ўсе гэтыя канцэпцыі, да таго ж разам з самімі жыхарамі, у адзін момант засыпаў попелам Везувій.

Карацей кажучы, ніводнай з гэтых пастак па азначэнні абмінуць немагчыма. Але я ўсё ж такі падступлюся да сваёй безнадзейнай справы. Бо гэта не зусім праўда, што гісторыя не мае ўмоўнага ладу. У пэўным сэнсе якраз працягласць гістарычнага часу і ёсць ім, бо некалі дазваляе выявіцца таму, што мела для гэтага патэнцыял, але раней не мела адпаведных яму абставінаў.

А за эпіграф да сваёй задачы згадаю сітуацыю з найноўшай палітычнай рэальнасці Беларусі. Неяк, калі Зянон Пазняк і Аляксандр Лукашэнка былі дэпутатамі Вярхоўнага Савета і яшчэ не надта варагавалі міжсобку, пры чарговым абмеркаванні праграмы нацыянальнай ідэі, зачытанай Пазняком, Лукашэнка заявіў, што гэта выдатная праграма, але для яе рэалізацыі патрэбны зусім іншы народ.

Па сутнасці, тут я і хацеў бы зразумець, для якога народа піянеры беларускага Адраджэння выпрацавалі нацыянальны канон, які мусіў легчы ў аснову будучыні Беларусі? У мяне ёсць дастаткова сур'ёзных падставаў, каб думаць, што гэта быў не беларускі народ, прынамсі такі, якім ён быў тады.

Але, перадусім, некалькі загалоўных канстантаў гэтага канона:

1) геапалітычная: Беларусь у яе этнаграфічных межах;

2) культурная: дамінацыя беларускай мовы і культуры;

3) гістарычная: пераемнасць з Полацкім і затым Вялікім Княствам Літоўскім;

4) палітычная: нацыянал-дэмакратыя;

5) канстытуцыйная: незалежная Дзяржава.

Натуральна, суплёт гэтых канстантаў значна багацейшы (хаця б згадаем у дадатак рэлігійную, эканамічную, цывілізацыйную...), але мы гэтым разам абмяжуемся толькі вышэй азначанымі.

І яшчэ. Перад тым як падступіцца непасрэдна да аналізу, хацелася б нагадаць пра выключную ролю Францішка Багушэвіча ў фармаванні беларускага нацыянальнага канона. Прынамсі, чатыры з гэтых пазіцый выразна пазначаныя ў прадмове да кнігі "Дудка Беларуская", што пад псеўданімам Мацей Бурачок была выдадзеная ў Кракаве ў 1891 годзе. А пятая – Беларуская Дзяржава, – прысутнічае там латэнтна, як лагічны вынік чатырох папярэдніх. Перапіс 1897 года сведчыць, што больш як 8 тысяч жыхароў нашых земляў з *інтэлігенцкімі* прафесіямі назвалі сябе беларусамі. Цалкам верагодна, што ладная частка з іх сталася беларусамі якраз таму, што яны прачыталі кніжыцу Багушэвіча і далі яму веры.

### ***Геапалітычная*** **канстанта: Беларусь у яе этнаграфічных межах**

Тут, перадусім, хачу звярнуць увагу, як метадалагічна складана было вынайсці саму сістэму вымярэння тэрыторыі Беларусі. Згадаем, што ніколі ва ўсе папярэднія часы нашыя сённяшнія землі не мелі ўласных межаў. У прыводнай Крыўскай цывілізацыі, у Полацкім княстве, у ВКЛ, у Рэчы Паспалітай, у Расійскай імперыі землі Беларусі апрычона ніяк не канстытуяваліся, і таму больш-менш выразны літвіна/русінскі топас заўсёды быў аблямаваны спрэс размытымі перыферыямі. Беларускі нацыянальны рух мусібыць моцна ўдзячны расейскім этнографам, якія ў XIX ст. праз шэраг грунтоўных працаў вызналі беларусаў як апрычоную славянскую супольнасць і вызначылі межы іх рассялення. Але ў геапалітычным сэнсе бадай найбольшае значэнне мелі этнаграфічныя карты, складзеныя на пачатку XX ст. Яўхімам Карскім, Мітрафанам Доўнар-Запольскім і Яўсеем Канчаром. Таму на гістарычным паседжанні Рады БНР 25 сакавіка 1918 г. Вацлаў Ластоўскі мог упэўнена прагаласіць: "Жыве Беларусь у яе этнаграфічных межах". А 3-я Устаўная грамата Рады БНР геапалітычна канкрэтызуе гэты публіцыстычны тэзіс: "Беларуская Народная Рэспубліка павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічбенную перавагу беларускі народ, а ласьне: Магілеўшчыну, беларускія часьці Меншчыны, Гродненшчыны (з Гродняй, Беластокам і інш.) Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежных часьцяў суседніх губерняў, заселеных беларусамі".

Тое, што была вынайдзена сістэмна цэласная і фармальна пераканаўчая метадалогія вызначэння ўласных межаў – гэта, безумоўна, было вялікай удачай. Але яе канцэптуальным недахопам было тое, што яна паходзіла з навуковага (этналінгвістычнага), а не палітычнага дыскурса. І як пакажуць далейшыя падзеі, на яе этналінгвістычную, самой прыродай абгрунтаваную логіку, мала хто з суседзяў, як і ўплывовых еўрапейскіх палітычных сілаў, звяртаў увагу. Цікава, што хаця БНР

у сваёй праграме прэтэндавала на частку земляў суседзяў, яе дэ-факта прызналі Латвія, Літва, Польшча, Украіна... Разам з тым, можна быць пэўным, што калі б у БНР атрымалася хоць трохі асталець і рэальна заняцца дэмаркацыяй сваіх межаў, дык ад задэклараванай у нацыянальным каноне тэрыторыі яна б атрымала вобмаль. Бо на тую пару мала было мець навукова слушную аргументацыю і нават палітычную волю. Перадусім трэба было мець адпаведныя рэсурсы: палітычныя, фінансавыя, збройныя і, можа, найперш сімвалічныя. Да таго ж свядомую і масавую падтрымку насельніцтва. А ўсяго гэтага ў БНР было, умоўна кажучы, хіба на адзін ці два паветы, а не на тую прастору, якую яна заманіфеставала як сваю ўласнасць. За што сведчыць і той факт, што ў сваім цэлым беларусы абыякава паставіліся як да ўзнікнення БНР, так і да яе хуткага скanaння. І хаця ў пазнейшыя часы этналінгвістычны чыннік добра прычыніўся да той канфігурацыі, якую займела БССР (і як яе следства – Рэспубліка Беларусь), але ж мы добра ведаем, што загалоўным чыннікам у гэтым працэсе была не этнаграфія, а палітыка (маскоўскіх уладаў), і таму Смаленшчына, Віленшчына, Беласточчына ды Чарнігаўшчына апынуліся за межамі Беларусі.

### ***Культурная*** **канстанта: дамінацыя беларускай мовы і культуры**

Знакамітая максіма Францішка Багушэвіча “Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі” толькі падкрэслівала безальтэрнатыўнасць выбару моўнага і, адпаведна, культурнага канона для нацыяльнай мадэлі, паколькі гэтак тады рабілі ўсе суседнія народы, што абуджаліся для нацыянальнага жыцця. Гэтую безальтэрнатыўнасць падмацоўваў і той факт, што паводле перапісу 1897 г. 97,7% беларусаў жыло ў вёсках і, натуральна, размаўляла на беларускай мове. Але пры ўсёй відавочнай слушнасці падобнага выбару як ідэалагічнага канструкта, справа яго рэалізацыі выглядала надзвычай праблематычнай і, калі заўгодна, нават драматычнай. Рэч у тым, што беларускія гарады і мястэчкі не былі беларускімі. Тут наўсцяж дамінавалі габрэі (па выніках таго ж перапісу – 57,7%) і нават расейцаў у гарадах было болей, чым беларусаў. Да таго ж гарадскія беларусы ў сваёй абсалютнай бальшыні былі зрусіфікаваныя. А паколькі для паўстання і функцыянавання нацыі горад адыгрывае выключную ролю, дык, паводле задэклараванай мадэлі, трэба было найперш збеларусіць горад. Але з якой такой трасцы габрэі, расейцы, палякі ды іншыя падхопяцца самі сябе збеларушчваць? Натуральна, тут было не абысціся без прымусу моцнай палітычнай сілы. А ў беларускага нацыянальнага руху такой сілы не было. Таму “2-я Устаўная грамата да беларускага народу” абвясціла “роўнае права ўсіх моваў народаў Беларусі”. І нават калі такая сіла з’явілася (тут, зразумела, маецца на ўвазе бальшавіцкая беларусізацыя 20-х гадоў), дык і яна засцерагла сябе тым, што ўзаконіла ў статусе дзяржаўных чатыры мовы: беларускую, рускую, габрэйскую і польскую.

Добра вядомы, хаця лішне ў нас і не акцэнтуецца, той шквал пратэстаў і сабатажу, які выклікала актыўная беларусізацыя ва ўсіх узроўнях адміністрацыі краіны, інтэлігенцыі, не заангажаваных беларускай нацыянальнай ідэяй дзеячаў культуры і г.д.

Дарэчы, наўрад ці яе падтрымлівала і бальшыня зрусіфікаваных беларусаў, але, можа, наймацней беларусізацыі супраціўляліся вяскоўцы, якія тады актыўна пачалі засяляць горад, бо яны ехалі туды, каб падвысіць свой сацыяльны і культурны статус, які заўсёды для іх звязваўся з рускай ці польскай мовай, а іх праз беларусізацыю штурхалі назад у сацыяльнае аўтсайдарства. Прынамсі, так яны думалі і, як пакажа час, мелі рацыю.

### *Гістарычная* канстанта: пераемнасць з Полацкім і затым Вялікім Княствам Літоўскім

У сваю пару, спрабуючы зразумець, чаму кожная нацыя імкнецца быць старой, як мага больш старой нацыяй, я выснаваў меркаванне, што, найперш, гэта ім патрэбна дзеля абгрунтавання сваёй легітымнасці. Прысутнасць у вялікім гістарычным часе дае права ды, нават, як бы патрабуе быць, заставацца ў ім заўсёды. Беларусам гэтае гістарычнае права было патрэбнае, можа, нават больш, чым іншым усходне-еўрапейскім народам. Выбар за сакральнае апірышча Полацкага, а затым Вялікалітоўскага Княства выглядаў досыць лагічным ужо хаця б таму, што ён апраўдваў русінска-ліцвінскі звяз, які сфармаваў асноведзь будучых беларусаў. А тое, што месца і роля ўжо ўласна беларусаў у функцыяванні гэтых геапалітычных структураў і па сёння актыўна дыскутуецца як унутры краіны, так і вонкі яе, дык гэта натуральна. Бо што ў гістарычнай навуцы не дыскутуецца? Але мяне тут цікавіць іншае: чаму па-за канонам засталіся Рэч Паспалітая і Расійская імперыя? Пакуль у якасці рабочай гіпотэзы магу памеркаваць, што гэта перадусім звязанае з той палітычнай сітуацыяй, у якой фармаваўся гэты канон. Расійская імперыя тады не магла бачыцца ў каштоўнасных значэннях таму, што з яе задушлівых абдымкаў яшчэ трэба было вызваліцца. А Рэч Паспалітая засталася незаўважанай з цалкам супрацілеглай падставы. Верагодна, нашыя нацыянальныя ідэолагі прадчувалі, што беларусы яшчэ могуць патрапіць у задушлівыя абдымкі суседа з другога боку. Калі гэта так, дык яны не памыліліся. Неўзабаве Польшча з Расіяй разарвуць Беларусь на дзве часткі: Заходнюю і Усходнюю.

Але ўся гэтая сітуацыя якраз і дэманструе апрыёрную ўмоўнасць нацыянальных гістарычных канонаў. І таму я амаль пэўны, што калі палітычная (геапалітычная) небяспека для Беларусі з боку Польшчы ды Расіі знікне даастачы, дык нашая былая лучва і з Рэччу Паспалітай, і з Расійскай імперыяй прытарнуецца да каштоўнаснага канона беларускай гісторыі. І чым хутчэй гэта здарыцца, тым будзе лепей. Бо гэта нават не марнатраўства, а злачынства не лічыць каштоўнаснымі два такія значныя перыяды ў нашай гісторыі.

### *Палітычная* канстанта: нацыянал-дэмакратыя

Асноўная праблема ідэолагаў нацыянальнага адраджэння была ў тым, што спрэс вясковая Беларусь тады прагнула не нацыянальных, а сацыяльных каштоўнасцяў.

Нашым вяскоўцам на пачатку XX стагоддзя было, прабачце, да аднаго месца, як іх называюць: беларусамі, тутэйшымі, ліцвінамі, рускімі ці кім там яшчэ, бо калі яны пра што і марылі, дык гэта “людзьмі звацца” (Я. Купала). Таму зусім не выпадкова, што першай і буйнейшая палітычнай партыяй на Беларусі сталася Беларуская сацыялістычная грамада (1903 г.), якая брала сабе ў задачу пабудову сацыялізму. І хаця ў шэрагах яе ініцыятараў было даволі ідэолагаў нацыянальнага Адраджэння, але палітычная актуалізацыя нацыянальнага адбудзецца значна пазней. Болей за тое, яшчэ ў 1914 г. Антон Луцкевіч, бадай самая значная фігура тадышняга нацыянальнага руху, у артыкуле “Краёвае становішча” пісаў: “Найгоршы вораг краёвай ідэі – гэта націоналізм. Націоналізм – гэта хворае пачуццё сваёй національной асобнасці”. І яшчэ там жа: “Націоналізм дужа пашыраны ў нас. Ён пануе ў польскім грамадстве, захапіў багата літвінаў і жыдоў, агарнуў бязмала ўсіх тутэйшых расейскіх, асабліва ж перарабленых з беларусаў. Не сягоння дык заўтра можна спадзявацца, што гэтая хвароба не абміне і беларусаў”. І хаця той жа Луцкевіч ў 1918 г. у артыкуле “Аб дзяржаўным будаўніцтве” пісаў ужо зусім іншае, а менавіта: “Каб будоўля незалежнай Беларусі... не развалілася, каб пры

найгоршых для нас варунках мы асталіся самі сабой, трэба ў аснову нашага дзяржаўнага будаўніцтва палажыць чыстую нацыянальную ідэю", але ў праграме БНР, акрамя пазначэння "Беларуская рэспубліка" і "этнаграфічных" межаў, лічы, няма і знаку ўласна нацыяналізму – гэта цалкам сацыял-дэмакратычны праект. І толькі калі гэтую праграму перахопяць бальшавікі, натуральна скарэктаваўшы яе пад уласны фармат, а ідэолагі нацыянальнага адраджэння апынуцца ў эміграцыі, на месца ідэі сацыял-дэмакратыі заступіць нацыянал-дэмакратыя. Інакш кажучы, калі на месца рэальнай палітычнай дзейнасці заступіць палітычная рыторыка, якая не патрабавала праверкі практыкай, толькі тады ў нацыянальным каноне стануцца загалоўнымі не сацыяльныя, а нацыянальныя каштоўнасці. Дарэчы, гэта тычыцца і ўсіх астатніх параметраў нацыянальнага канона. Ці не таму канчаткова дафармаваны там, у эміграцыі, ён апынуўся прыдатным толькі дзеля эміграцыйнай рыторыкі, падпольных хаўрусаў ды патрыятычных улётак, але ніяк не для рэальнага палітычнага ўвасаблення, што і прадэманструюць 90-я гады мінулага стагоддзя. І хаця на самым пачатку 90-х нацыянал-дэмакратычны рух на чале з БНФ імкліва стаўся найбольш уплывовай палітычнай сілай у краіне, толькі надоўга ў гэтай ролі не затрымаўся, бо, мяркую, не супадаў з каштоўнаснымі арыенцірамі асноўнай часткі беларускага грамадства.

### ***Канстытуцыйная*** **канстанта: незалежная Дзяржава**

У 1884 г. у Пецярбургу была надрукаваная першая беларуская газета "Гоман" (на рускай мове). У першым нумары чытаем: "Мы – беларусы і павінны змагацца за мясцовыя інтарэсы беларускага народа і *федэратыўную* аўтаномію краіны (курсіў мой – *В.А.*)" І толькі пачатковая праграма БСГ (1903) ужо прадугледжвала ўтварэнне Беларускай незалежнай рэспублікі. Праўда, у наступнай праграме БСГ адмовілася ад гэтай ідэі на карысць дзяржаўнай аўтаноміі краю з соймам у Вільні ў складзе дэмакратычнай федэратыўнай Расіі, што ў карыкатурным выглядзе потым рэалізуюць бальшавікі, стварыўшы на кароткі час Беларуска-Літоўскую сацыялістычную рэспубліку.

Але што б там хто ў пару фармавання нацыянальнага канона не дэкляраваў, гэта ўсё, па сутнасці, было толькі рытарычным прыёмам, дэкларацыямі мрояў, геапалітычнымі фэнтэзі, бо тагачасная палітычная рэальнасць не прадстаўляла ніякіх шансаў для рэалізацыі падобных募раў. І толькі катаклізмы Першай сусветнай вайны ды рэвалюцыі ў Расіі выпадковым збегам абставінаў стварылі невялічкі нічыйны прамежак у часе і прасторы, што і дазволіла абвясціць БНР. Гэта была ці не самая бліскучая палітычная авантура беларусаў ва ўсім ХХ стагоддзі! І хаця яна скончылася амаль нічым, але з гэтай падзеі канстанта незалежнай Дзяржавы безальтэрнатыўна ўваходзіць у нацыянальны канон. І як яно ні дзіўна, з усіх яго базавых пазіцый пакуль толькі яна апынулася палітычна цалкам рэалізаванай, хаця як у выпадку з БНР не столькі праз уласныя вымогі саміх беларусаў, колькі праз магутны геапалітычны ператрус. Ці сведчыць апошняе за тое, што і ўсе астатнія параметры нацыянальнага канона маюць падобны шанец? Магчыма, я і хацеў бы, каб так яно напраўду некалі сталася. Але гэта вельмі малаверагодна. І справа тут найперш у тым, трохі паўтаруся, што той канон пераважна фармаваўся ў рытарычным эмігранцкім дыскурсе і, лічы, без крытычнай увагі стасоўна Беларусі і беларусаў як такіх, якімі яны ёсць насамрэч. З гэтага, калі пасля развалу Савецкага Саюза з'явілася канкрэтная магчымасць рэалізаваць класічны нацыянальны канон у палітычных практыках, дык досыць хутка выявілася, што ён дзеля гэтага зусім не прыдатны. Інакш кажучы, гэтак сфармуляваны нацыянальны канон апынуўся сацыяльна і палітычна не інструментальным.

Разам з тым не забудземся, што нацыянальны канон адным сваім фактам накрэсліў гістарычную перспектыву беларусаў, якая ў значным сэнсе паўплывала на ходу палітычных падзеяў, хаця сам падзеяй так і не стаўся.

Сёння нацыянальны канон – гэта трагічная музыка, якую спарадзілі самыя высокія парыванні беларускага духа. І – прабачце за падлеткавы пафас, – як музыка яна будзе гучаць вечна, прынамсі да той пары, пакуль Беларусь для беларусаў будзе заставацца жыццядайнай каштоўнасцю.

### 3. *P. S.*

Запытанне пра беларускі нацыянальны канон, як пра тэарэтычную фікцыю, якая і не магла спраўдзіцца ў гістарычнай рэальнасці Беларусі, безумоўна, патрабуе больш грунтоўных даследзінаў, – як і крытычных ініцыятываў. Тым болей, што толькі час можа напэўна засведчыць, наколькі мае сумневы абгрунтаваныя нашай будучыняй. Аднак, наастачу я хацеў бы сказаць трохі пра іншае. Шмат хто папікае мяне, што я сваім сумневам выдаляю ўласна нацыянальнае з каштоўнаснага базісу беларусаў. Але гэта суцэльная аблуда. Я толькі хачу сказаць, што калі мой недавер да нацыянальнага канона як да фарматворчай ідэі нацыі слушны, дык яго трэба ўсяго толькі пазбавіць ролі канона. Інакш кажучы, мы пакідаем сабе ўсе каштоўнасныя канатацыі нацыянальнага канона (як і ўвесь наробак, што цягам стагоддзяў збіраўся пад ягонымі штандарамі), але аснову нацыянальнага ладу ўкладаем у зусім іншую сацыяльна-палітычную канфігурацыю. У слоганавым фармаце гэта гучыць наступным чынам: “Нацыянальным каштоўнасцям – так! Нацыянальнай ідэі – не!”.

Асабіста мне падаецца найбольш адэкватнай і адпаведнай для Беларусі (і беларусаў) не “этнакультурная” канцэпцыя, а канцэпцыя “грамадзянскай нацыі”. Але пра гэта я ўжо публічна казаў безліч разоў, таму цікаўных адсылаю хаця б да суплёта эсэ “Вялікая здрада”, які друкаваўся цягам трох нумароў (10-12) у часопісе “Дзеяслоў” у 2004 годзе.

---

* “Формирование современной Украины: западное измерение». («Перекрёстки», №1-2 / 2006).

** Двухкоссі тут падкрэсліваюць усю ўмоўнасць гэтага ўстойлівага словазлучэння.

Наталка Харытанюк



...тады віно, кажу я –

і тушу святло...

# Кнігі як вокны:

***Дзевяць эсэ пра немагчымасць літаратуры***

## Дзіўная малітва Проспэра

Адзін з навязлівых сюжэтаў майго жыцця – утаямнічаны чалавек, які адмаўляецца ад ведаў, сілы, таямніц. Вяртаецца да смяротных. Прыцягвае сваё ж забойства і даруе забойцу. Ці з надзеяй углядаецца з аблокаў сюды, на дно, і хоча пабачыць сапраўднае дзіва тут. Проспэра. Мэрлін. Магі Ейтса. Чаму яны ў самы адказны момант не карысталіся сваёй сілай?

Думаю пра гэта апошнімі часамі – углядаюся ў сваіх студэнтаў, дзетак года Казы, якія ставяць урывак з “Буры” Шэкспіра, але адказу пакуль няма. Дзе быў Проспэра, якую кнігу пра магію чытаў, пакуль губляў сваю ўладу ў Мілане? – пытаю я іх. Чаму Проспэра ўсё даруе Антоніё, які нават не пакаяўся ні ў чым? І на каго Проспэра спадзяецца – калі аддае ўсе свае чарадзейныя сілы, добраахвотна, у малітве?

Можа быць, яму нешта адкрылася за гады чарадзейства на выспе і таму цяпер зусім не страшна такім вось бяззбройным вяртацца да галодных і злых духаў, у Мілан? Ці яму захацелася свабоды больш, чым волі?

Пытанняў шмат, але студэнтаў, перш-наперш, цікавяць касцюмы персанажаў. Дзяўчына, якая грае Неапалітанскага караля Алонса, патрабуе кароны. “Ты ж толькі што з марской буры, цябе на бераг выкінула, якая карона?” – шэпча ёй Міранда. “Якая-ніякая, але карона мусіць быць, – настойвае Алонса. – Я яе на бок прышпілю, і што з буры – ясна, і бачна, што кароль”. Гансала выбірае сабе старую кнігу пад паху. Фердынанд – меч. Праспэра ж бярэ чароўны кій, які ён заўтра, у канцы п’есы, зломіць – і так назаўжды развітаецца з магіяй.

А я са сваёй магіяй застануся да канца. Хай без даравання. Вызвалення. І гукі жалейкі сэрца ўначы раздзіраюць. Застануся з магіяй. Такая вера.

## Туга па гераічным: Музей пакінутых сакрэтаў

Кнігі заўжды мусяць мець дастаткова прычынаў, каб з’явіцца. З першых старонак углядаюся – гісторыя сапраўды патрабуе ад аўтара, каб ён яе расказаў, ці аўтар, толькі бавячыся, прымервае чужыя жыцці.

Чым мацнейшая гэтая змушанасць апавядальшчыка – тым глыбей я трапляю. Нібы пагаджаюся на рытуал. З “Музеем” я пагадзілася на ўсе цырымоніі і – як гэта бывае пасля цырымоній – супакоілася.

Кніга Аксаны Забужкі – пра непражытыя жыцці, абарваныя на не пройдзеных да канца жарсцях. Любімы мной шведскі спірытуаліст XVIII стагоддзя, Эмануэль Сведэнборг, падрабязна апісваў пакуты духа, што памёр гвалтоўнай смерцю, альбо не пражыў да канца пэўную жарсць: гэты дух вяртаецца на мейсца сваёй пакуты і не супакоіцца, пакуль яму не дадуць яшчэ раз яе пражыць ці нешта выправіць.

Вось з гэтага і вырастае змушанасць аўтаркі расказваць гісторыю. Апавядальнікі – Дарына Гашчыньска і Адрыян Ватаманюк – мусяць пражыць няспраўджанае каханне сваіх продкаў, якія былі партызанамі УПА і загінулі ў 1947 годзе. І працягнуць вайну, якая ніколі не заканчвалася. З хіжым светам – якія б формы ён ні прымаў.

Мой улюбёны матыў у літаратуры – імкнуцца прамовіць непрамоўленае, ухапіць інтанацыю, калі рэха ўжо амаль знікла, зачапіцца за ручнік і ўратаваць яго, пакуль ён не сплыў. Але ў гісторыі Аксаны Забужкі няма за што зачапіцца. Рукапісы – літаральна – згарэлі: у 1991 гэбісты ў Кіеве хутка палілі ўсе сведчанні, справы, здымкі. Адзінае, што застаецца – прыглядацца да сябе саміх. Да гульняў дзяцей у “сакрэцікі”, да сваіх сноў, да фотаздымкаў сваіх цёцяў, зніклых у канцы 1940-х гадоў. І спраўджваць нешта закладзенае ў нас, нягледзечы ні на што. А для гэтага трэба быць свабодным і вельмі моцным – трэба ўвесь час прыглушаць чужы шум, каб пачуць свой голас, пільна сачыць, каб у тваім коле не засталося лазу, праз які зможа прабрацца Вій.

У рамане мяне зачараваў шалёны эратызм Дарыны: яе партрэт-макіяж, зроблены мастачкай Владай, “шкіра школяркі”, якую лашчыць Адрыян, яе поўная бяззбройнасць і ў той жа час утрапёнасць. Такія чары спачатку мяне падпарадкоўваюць, і я гатовая слухаць апавядальніцу і слухацца яе – а гэта асобная асалода ў чытанні – але з часам увесь гэты давер разбіваецца аб злосць Дарыны. І дзякуй Богу, ёсць побач пяшчотны Адрыян. І гэтая яе дзёрзкасць і сэксуальнасць. І звычка аўтаркі “пафарсіць” у кнізе. І яшчэ я думаю пра тое, што менавіта такі вобраз стаў для мяне ўжо стэрэатыпам украінскай кабеты. І пра тое, што сама я спрабую стаць такой часамі, калі крыўджуся на Мінск і прыгадваю, што напалову – украінка. І пра тое, што такім фарсам насамрэч проста хочаш адасобіцца ад скароных і скутых.

Думаю і пра процьму кіеўскіх рэаліяў у рамане, якія для мяне экзатычныя – варацілы-бізнэсоўцы, напрыклад, што вырашаюць лёсы людзей: ні разу ў Мінску не бачыла багатых бізнэсоўцаў. А пасля думаю: і чаму мяне так цешыць гэтае прызнанне?

“Музей” я абавязкова прыгадаю на Дзяды. І абавязкова таксама здзейсню подзвіг для сваіх продкаў. Каб адпусціць іх. Дарабіць няскончанае. Ачысціць мейсца для новага жыцця.

А пакуль я страшэнна тужу за гераічным. Так, тужу. А без гэтага я і сваю гісторыю не змушуся распавесці.

## Салман Рушдзі і яго джыны

У “Дзецях поўначы” Салман Рушдзі піша, што больш за ўсё ў сваёй гісторыі баіцца бессэнсоўнасці: “Прызнаюся: перадусім, я баюся абсурднасці”.

Такая дзіўная эмоцыя: страх, што твой уласны аповед – твой шлях – размываецца і вось-вось сплыве. Сучасныя ангельцы, якіх я чытала, ніколі не пускалі такую эмоцыю ў свае кнігі, калі наогул здумляліся з гэтага страху. І таму, здаецца, Рушдзі так хутка і так шмат распавядае – каб затрымаць, зляпіць, каб паспець скончыць узор, перш чым нешта скончыцца. Перш чым ён сам забудзе, да чаго ўсё гэта вёў. Сэнс яго гісторыі крохкі – ён у самім аповедзе. У нейкім дурмане.

І яшчэ здаецца спачатку, што ён – мазахіст. Сам сябе дражніць – як Пенелопа, то размывае ўзор гісторыямі вар’ятаў, апантаных джынамі, то вяртаецца – і літаральна рыфмуе гэтых джынаў з рэальнымі персанажамі рэальнай гісторыі. А гэта не так і проста. Каб у такую авантуру кідацца і спадзявацца, што, у рэшце рэшт, усё зрыфмуецца, трэба верыць, што “ўсё працінае ўсё”. А значыць – і не баяцца дэманаў і джынаў.

Мабыць, Салман баіцца рытуальна. І не бессэнсоўнасці. А таго моманту, калі патанаеш у “дурмане”, калі ўсё бачыш і разумееш, што ўсё непадзельнае. Бачыш далёкае зблізку, а блізкае – здалёк. Наблізіцца да гэтага моманту – калі выпадаеш сам з жыцця і патрапляеш у нешта забытае – сапраўды страшна. І спакусіць сябе – на гэты скачок – можна такой каштоўнай Салманавай бессэнсоўнасцю. Без якой і жыццё згубіла б усякі сэнс.

## Вежа Ейтса

У эпітафіі Свіфту напісана пра вызваленне, якое яму прынесла смерць. Толькі смерць – напісана там – вызваліла яго ад нянавісці. Але – самае цікавае – як яму ўдавалася ўнікаць гэтага вызвалення ўсё жыццё?

Стары, які выходзіць на сцэну на пачатку апошняй п’есы Ейтса, “Смерць Кухуліна” – гаворыць пра танцораў, якіх ён усё жыццё шукаў для сваёй п’есы і не мог знайсці. Таму што рахманыя твары танцораў – ён ненавідзеў. Яму хацелася “плявацца, плявацца, плявацца...”– шэптам крычаў ён са сцэны. І гэтая нянавісць уводзіла старога ў фантастычны шал.

У гэты ж шал трапляе Ейтс, калі ўзыходзіць на Вежу. Углядаецца ў туман, у вобразы, што праплываюць над вежаю – у духаў, што нясуцца, каб адпомсціць, – і з асалодаю паддаецца, заражаецца іх утрапёнасцю, іх шалам.

Шалам, які я таксама шукаю для сябе. Ці дакладней – шалам, дзеля якога я хачу пісаць. У яго цяжка патрапіць зноў – ён сплывае – і таму ўвесь час мусіш падбіраць для яго новыя сцэнары. Нянавісць – адзін з такіх сцэнароў. Зноў і зноў заваёўваць новую прастору. Зноў і зноў выклікаць духаў – і пагаджацца на іх ахвяры.

Гэты шал цяжка ўтрымаць. І не перакуліць на сябе. І не адмовіцца ад яго. Таму – такая асалода – падняцца ў “Вежу” Ейтса. Заразіцца праклёнам тамплієраў, углядацца ў халоднае неба магаў, але пісаць пра гэта з такім жа халодным сэрцам. Сніць дэманічныя сны. Але так і не зразумець – у чым іх мудрасць.

І ўсё жыццё ўнікаць вызвалення.

## Дзённікі Thoreau

Thoreau піша пра (і шукае ў сваіх вандроўках) паэзію, з якой я шукаю выйсця. Паэзію “да вершаў”. Ён з асалодай расплаўляецца ў гэтай “перадпаэзіі”. Не гандлююючыся, адкідваючы нават спадзеў на шал.

Thoreau хоча схапіць пачатак паэзіі. Хаця “схапіць” – гэта захутка для павольнага Thoreau. Ён вымалёўвае сабе гэты пачатак. Сузірае. Сыходзіць у лес, блукае там пяць-шэсць гадзінаў штодня, піша пра лес. Але ніколі – пра страх ці прагу лесу. Не пра сябе. Ён фатаграфуе Вальдэн і бадзянні па ім – дзясяткамі старонак піша пра вавёрак, якія пераплываюць раку на стрэмках, пра мядзведзя і змяю, захад, каршука, горы. І так спрабуе стаць Вандроўнікам. Ён упарта думае “толькі пра лес, калі ён у лесе”. Ён перакананы, што ў сузіранні – першы экстаз паэзіі. І толькі дзеля гэтага – першага – экстазу варта было выбірацца. У ім – канец яго падарожжа.

Я прадчуваю іншую асалоду. Асалоду Вандроўнікаў Рыльке. З Пятай элегіі. Здарожаных, якія ніколі не спаталялі прагі. Іх Terra Sainte – не ў залітым сонцам лесе. А ў цемры шырокіх абалонак.

Толькі адкуль у вандроўнікаў Рыльке, якія таксама былі ў “лесе Thoreau”, прага вяртацца? Што іх прымушае – вандроўнікаў, якіх ужо вынесла да сонца – да канца падарожжа – кіравацца далей? Чаму яны – niemals zufriedene?

Як матылькі.

І галоўнае – як яны гэта робяць?

## Торнтан Уайлдэр

Вырашыла стварыць сваю калекцыю кніг, якія “вяртаюць дадому”. Усё для мяне пачалося з “Адама Клакоцкага і яго ценяў”, пасля была містычная проза Рыльке, п’есы Ейтса і “Палімпсест” Васыля Стуса. Пасля – Тарас Прохасько, Д. Дж. Сэлінджэр, Вірджынія Вулф. А цяпер я “перажываю” Торнтана Ўайлдэра.

Гэта амерыканскі пісьменнік і драматург, які рос у Кітаі, а дарослым, у асноўным, вандраваў па Еўропе. Быў сябрам Фройда. Хічкоку прыдумаў адзін з яго першых трылераў. Стварыў свой тэатр. “Вытлумачваў” феномен Гертруды Стайн. Даваў фантастычна змястоўныя і разумныя інтэрв’ю. Яго ненавідзелі амаль усе амерыканскія крытыкі і журналісты. Ён ствараў кнігі толькі ў адзінкавым варыянце (не ў сэнсе накладу, а ў сэнсе тону) – каб не зафарматавацца: толькі адзін раман “з кроўю і плоццю”, толькі адзін раман пра сваю душу. Я патрапіла калісьці на яго самы першы “малады” раман “Кабала”. У ім усе персанажы, што з’ехаліся на лета ў ваколіцы Рыма напрыканцы 1930-х, спадзяваліся нешта перамяніць у гісторыі Еўропы і Каталіцкай царквы. І, як выявілася, былі непамерлымі багамі з Алімпа. Я тады неяк прапусціла яго – ні на чым не затрымалася.

Але цяпер – праз год пасля “Кабалы” – я зусім выпадкова сустрэла трэці раман Ўайлдэра “Жанчына з Андраса”. Гэта раман пра гетэру з Александрыі, якая патрапляе ў шэрае грэцкае мястэчка, недзе на пачатку апошняга стагоддзя да з’яўлення Хрыста, і якая спрабуе падчас вячэр для маладых людзей у сябе чытаць ім трагедыі ці пераказваць Платона. Хлопцы гэтыя нібыта становяцца яе вучнямі, не могуць цяпер без яе, а вось іх сем’і, мястачкоўцы, усё больш яе ненавідзяць. Бедная Андрыянка часам патанае сама ў гэтым маўклівым супрацьстаянні – і тады, вельмі балюча, зноў прадзіраецца “дадому”: чытае трагедыі. Падзеі ў рамане зусім не апісваюцца – толькі называецца, у двух словах, што здарылася між гэтай і той размовай герояў: Андрыянка выходзіць на базар, гаворыць са сваёй сястрой, ляжыць над морам і гаворыць з багамі. Раман “бяскроўны”, бо ён пра душу. І ўвесь раман Андрыянка, не супакойваючыся, узбіваецца ў той тон, у якім можна гаварыць з багамі, яна “намагнічвае” ўсё вакол сябе, каб ні на хвіліну не адчуць,

што жыццё, нібы сон, марна праплывае... І ўсё гэта напісана вельмі-вельмі-вельмі карункавай мовай – лёгка, мярэжыста, нібыта пад музыку, толькі не мерную, а крыху звар'яцелую.

Калі чытала яго, адчувала, як з мяне самой спадае лёгкі налёт цынізму, што няясна адкуль узяўся за апошні час. Была гатовая прамовіць нешта страшэнна праўдзівае.

Думаю цяпер пра тое, як па-living рознаму я пражываю сваё жыццё. Па-сапраўднаму, насычана атрымліваецца толькі побач з каханым. Усё іншае са мной здараецца – нібыта ўва сне, і ажывае гэтае жыццё – толькі калі я пра яго прыгадваю праз нейкі час. Як зрабіць так, каб пражываць кожны момант? Нібыта я яго ўжо прыгадваю і ўжо страшэнна хачу ў яго вярнуцца? Ці магчыма гэта – быць такой жа пільнай і ўрачыстай увесь час, як "вучыў" Платон Андрыянку?

## Звон сусвету

Часам вельмі ціха гучыць звон сусвету. Жусцін Пікардзі.

Гэта пра супадзенні. Прачытала ў рамане Пікардзі "Дафна" пра пяшчоту Дафны Дзюмор'е да свайго кузэна Пітэра Лўэліна-Дэвіса, а праз пару дзён зусім выпадкова ўзяла на працы паглядзець фільм "Чароўны край", які, аказваецца, акурат пра таго самага Пітэра Лўэліна-Дэвіса, толькі ў дзяцінстве, калі з яго піша "Пітэра Пэна", а пасля яго ўсынаўляе Джым Бэры. А магла ж узяць іншы фільм. І не абавязкова менавіта цяпер, калі прачытала кнігу. Супадзенне. Звіняць званочкі. Думаю пра невыпадковасці.

У кнізе напісана, што, дарослым, Пітэр ненавідзеў, калі прыгадвалі Пітэра Пэна.

У фільме ён супраціўляецца палону казак Бэры адразу:

– Гэта ПРОСТА сабака, – крычыць маленькі Пітэр, калі Джым (Джоні Дэп) расказвае яму казку пра вялікага мядзведзя – уяўляючы, што яго сэнбэрнар – гэта мядзведзь.

– Проста сабака? – злуецца Джоні Дэп. – Гэта не дыямант, гэта проста камень, – перакрыўляе ён маленькага няверу.

– Проста, – на развітанне пагардліва выдыхае ён. І хлопчык здаецца.

Дастаткова моцнаму чалавеку побач верыць у казку, і можна пабачыць мядзведзя там, дзе насамрэч толькі сабака.

А добра было б, калі б Пітэр прыйшоў аднойчы да Джыма Бэры і сказаў: дзякуй за параду, я цяпер навучыўся лётаць. Вось бы цікава было паглядзець на Бэры. Хто каго канчаткова падмануў бы? І ці не хочацца казачнікам, каб здарыўся цуд, які яны не кантралявалі? Хочацца. Пра гэта мой улюблёны верш Ейтса "Магі": trying to see the uncontrollable mystery on the bestial floor. Пра гэта я і хачу напісаць сваю Uncontrollable Mystery.

Але ўсё-такі – пра супадзенні.

Вырашыла: буду больш давяраць павуціне свету. Цікава, ці загучыць звон сусвету грамчэй?

## Барнс і Сінія Тыгры

Перабіраючы кнігі, якія схавала далёка, каб не перачытваць, натрапіла на Барнса і задумалася: чаго мне (ці яму?) не хапае, каб я захацела яго чытаць?

Яго тонкі і далікатны сучаснік і зямляк – Фаўлз – у «Магу» піша пра маскі, якія мы самі сабе выбіраем, і пра мастацтва, якое вучыць бачыць скрозь гэтыя маскі.

Здаецца, калісьці я думала, што Барнс акурат і спрабаваў расказваць гісторыю, не супадаючы ні з адной маскай. І я яму паверыла.

А дарма. Бо аніякай гісторыі – там, па-за маскамі – не аказалася. Нават следу ад той гісторыі не было. Так толькі, сонечнае сіняе неба.

Спачатку – у “Папугаі Флабэра” – у Барнса гісторыя не расказвалася, таму што яна была пра невыяўляльнае. Увесь раман – намёкі на тое, што выказаць немагчыма. Я збірала гэтыя намёкі і, пакуль не бачачы і не адчуваючы, да чаго яны вядуць, неяк падазрона захаплялася тым, як аўтар з усяе моцы вылузваецца ўжо са сваіх масак. Да канца не дапісвае ні адну лінію – у апошні момант выскоквае. Піша пра каханне, якое не ўтрымліваецца, бо памірае жонка. Пра папугая, які насамрэч быў не адным, а якога было шмат-шмат копій. Пра самоту даследчыка, які сам ужо не ведае, чаго шукае. Нібы хоча расказаць пра нешта, што сплывае, і разумее, што пра гэта немагчыма расказаць. Але тая гісторыя, якая сплывае – зусім не радуе і нічога не абяцае. Невымоўнае Барнса – сіняе неба, у якім няма ні Бога, ні чаканняў, ні прадчування. Гэта страшна адчайная гісторыя пра самоту. Безнадзейную самоту. Расказаная з прымірэннем. Якое мяжуе з бессэнсоўнасцю. Такую гісторыю можна вытрымаць толькі адзін раз.

Далей – у “Гісторыі свету ў 10 S частках” – гісторыя ў Барнса не расказвалася, таму што гісторыі зусім не было. Увесь раман – пра тое, як не маглі навучыцца бачыць скрозь свае маскі тыя, хто пісаў гісторыю свету. Ён то жучком-павучком, то вар’ятам з космасу зазірае пад кожную маску гэтых аўтараў і здзірае яе. Так скурпулёзна. Так доўга. Што я з жахам разумею: ён вучыцца вызваляцца ад масак, але зусім забывае, што галоўным словам было – вучыцца бачыць скрозь маскі.

Мне ў Барнсе не хапае краявіду – каб захацець яго перачытаць.

На Барнса не хапае чараўніка з казкі Фаўлза. Таго чараўніка, які даказваў, што Бог, выспы і прынцэсы – ёсць, а тыя людзі, якія даводзяць адваротнае, – гэта чараўнікі, якія ўсё зачаравалі так, каб не было відаць Бога, прынцэс і выспаў.

А Барнса не хапае – хіба што дэрвіша з гісторыі Борхеса пра Сініх Тыграў. Дэрвішу, які ўсё яшчэ перабірае сінія перлінкі, што то павялічваюцца, то памяншаюцца, – і чакае таго, хто не толькі не пабаіцца невытлумачальнага (гэта не так і складана), але і раскажа яму гісторыю гэтых перлінак. Падмане. Можа быць, так, як падманулі ў славутай гісторыі пра рыбак: “Як цудоўна жывецца рыбкам. – Але ж ты не рыбка і не можаш ведаць, цудоўна ці нецудоўна жывецца рыбкам. – Пачакай, а адкуль ты ведаеш, што я не магу ведаць, як жывецца рыбкам?”

Але што значыць падманваць у літаратуры? Даваць спадзяванне. Расчышчаць прастору для таго, для чаго не было мейсца раней. Што значыць тады літаратура для мяне? Адна доўгая гісторыя пра Сініх Тыграў, якую чакае пачуць старэнькі дэрвіш, каб нарэшце прычакаць цуд.

Літаратура – нічога супольнага з пазнаваннем не мае. Калі спрабуюць пазнаваць сябе – перацягваюць метафізічны канат сюды. Самаўпэўнена і марна імкнуцца перамагчы пустату свету і не разумеюць, што вырываюць другі канец з чыіхсьці рук – з таго боку.

Мастацтва абяцае. Спакушае. Рыхтуе. А не адлюстроўвае. Ды і што, у рэшце рэшт, можна адлюстроўваць, калі “яшчэ зусім няясна – хто менавіта ў нас спявае”? Так мне сказаў Чжуан Цзы. І я яму веру.

## Беларуская палічка

Тут – я адчуваю сябе шпіёнкай. А задача шпіёна – шыфравацца. І вось калі ты ўвесь час шыфруешся – то цяжка заставацца паслядоўнай: лабірынты выводзяць цябе зноў і зноў на выпадковае і неабавязковае.

Халодны і вільготны чэрвеньскі полудзень у Мінску. Пракарэлы і гнілы, як заўжды. І цяжка паверыць, што пройдзе ўсяго пару тыдняў – і пачнецца ліпеньская задуха – жоўты кашмар гэтага горада.

Я гляджу на інь і ян на сцяне насупраць – і думаю пра раўнавагу ў космасе. Ёй усё адно – адсунуць ад мяне як далей тое, чаго я так прагну. Ці аддаць у рукі. Абсалютна ўсё роўна – але напружанне апошніх пяці год майго жыцця яна абавязкова як-небудзь здыме.

Я хачу выкладаць літаратуру. Беларускую.

І я ў ёй – чужая. Я яе баюся.

Але вельмі хачу пра яе гаварыць. З кафедры. Ці з гары.

Раўнавазе ўсё адно – у які бок павярнуць гэтае маё жаданне. Таму я апярэджу яе сама. Я напішу гэта – хаця б адну са сваіх лекцый, якія я так марыла прачытаць. І якія няма як і няма каму прачытаць. Вось ужо пяць год. Мае персанажы на многае гатовыя пайсці, каб знайсці слухачоў: паланіць студэнтаў і змусіць выслухаць сябе да канца, прабрацца ў аўдыторыю і прадставіцца чужым імем. Усе гэтыя схемы – не зусім жартам – я разглядала, але адкінула. Круціла ў галаве пачаткі і эфектныя апошнія радкі. Прадумвала цыклы лекцый. Прамалёўвала выраз вачэй – уражаных – студэнтаў. Скаланала. Натхняла. Тамілася, а пасля зразумела, што за гэтыя гады я паспела прачытаць – незаўважна для сябе – некалькі геніяльных лекцый. Не ў аўдыторыі. Але гэта былі лекцыі, пра якія я столькі марыла. Прыгадала некалькі цёплых сустрэч. Размоў гарачым полуднем, ці бясед халодным надвячоркам. І радок за радком аднавіла іх. Мая ўлюбёная – пра панылых.

У Дантэ ёсць такое кола панылых. Гэта напрыканцы чыстца – яны акупаюць сваю бяздзейнасць і бяскроўную любоў на зямлі звышруплівасцю там, у чыстцы. Якая гэта пякельная напруга – быць заўжды пільным. У сваёй любові да сэнсаў. Як перажываць часы, калі сэнсы не бачныя, калі жыццё выглядае марнасцю марнасцяў?

– Не патрапляць у віры, – кажа мне Ігар Бабкоў. Строга. Нават сувора.

Але калі ўжо позна, калі патрапіў у вір – у чым сакрэт і паратунак для панылых тады? Калі з беларускай палічкі на мяне зеўраюць гэтыя дзюры. І засмоктваюць немагчымыя віры – як даць рады з гэтым?

У Максіма Гарэцкага ў "Меланхоліі" герой, уцякаючы ад марнасці марнасцяў, пляцецца то да Жамойтаў у вёсачку падзарабіць грошай, то дадому – па адхланнё. Але нідзе не знаходзіць паратунку ад сваёй паныласці. Ад меланхоліі. І вызваляецца толькі ў апошнім абзацы – калі пагаджаецца выпіць віна са сваім гаспадаром. Меланхолія знікае. Ён не ўсплывае з віра на паверхню – ён апускаецца ў салодкае зацішша на дне.

Што гэта? Добрае пачуццё гумару Максіма? Герой так цураўся нізу, бруду ўсю аповесць, так прагнуў кампаніі "сваіх" – і ніяк не мог прыбіцца да іх. А ў канцы, адцураўшыся ідэалаў, апускаецца ў той самы бруд, дзе ніхто не здольны пабачыць ісціны. І там – у п'яным салодкім хмелю – паратунак. І супакаенне.

Ігар Бабкоў мае геніяльную версію пра душу і дух. Дакладней, пра тых, хто шукае іх у літаратуры. Дык вось, душа – не паратунак для панылых. Як Кант з праблемай розуму. Мы ўнутры душы і з ёю не дамо сабе рады. Патрэбная традыцыя. Дух. Але да яго дацягнуцца, узняцца ў яго тон – складана. Нават самыя ўтаемнічоныя выпадаюць з тону. І разгубляюцца. Рыльке ў "Нататках Лаўрыдса Брыге". Ванькові напрыканцы жыцця. Я.

Торнтан Уайлдэр пайшоў на крок далей – і піша ў рамане пра Андрыянку аб тым, як яна сама сябе, бы Мюнхгаўзэн, выцягвае з паныласці. У яе ёсць Дух. Яна нават не чытае, а прыгадвае па памяці трагедыі. Пераказвае Платона. Каб узбіцца на правільны тон. І ў рэшце патрапляе ў яго.

Ты кажаш, што немагчыма ўвесь час быць у тоне. Што з часу жыцця зяюць дзюры. Тады віно, кажу я – і тушу святло.

СЛОВЫ

Андрэй Масквін



…для мяне паэзія сама па сабе –
гэта радасць,
нешта тоеснае цуду…

# “Калі Максім Багдановіч – гэта наш Апалон, то Янка Купала – Дыяніс”

***Гутарка з Марыяй МАРТЫСЕВІЧ***

***ПАСТАНОВА***

З 1 ліпеня ў кожным му-ні-цы-па-лі-тэ-це
павінны ляжаць пералік правоў Паэзіі ў свеце:

– зрабіць кар’еру ад вясковага дурня да гарадскога вар’ята;
– колькі разоў мацюкнуцца і трапіць праз гэта за краты;

– (на выбар) не быць зразумелай / быць глупаватай;

– гандляваць натхненнем;

– натхняцца любою Музай;

– схіляцца аднолькава перад крыжом, паўмесяцам і мезузай;

– нават у планетарый хадзіць са сваімі зорамі;

– пры кожнай зручнай нагодзе прысягаць над разорамі;

– не сядзець на месцы й, мяняючы гарады,
хапаць кіроўцу за руку, калі той вязе не туды, –

хай гэта й створыць аварыйную абстаноўку на трасе,
хай і будуць пляткарыць потым, што Паэзія напілася.

***– Калі я напісаў вам пра выбар верша “Пастанова”, то вы адказалі, што ён мае багатую гісторыю. Ці можаце вы распавесці пра гэта?***

– Гэты верш – парны да верша Віталя Рыжкова “Святая праўда”, дзе расказваецца пра праваслаўнага бацюшку з Магілёва, якога затрымалі за кіраванне аўтамабілем у нецвярозым стане. Рэч у тым, што ў 2008 годзе мы з Рыжковым былі ў Кіеве на фестывалі “Кіеўскія лаўры”, і пасля выступу і пасядзелак у багемнай кавярні “Купідон” вярталіся ў гатэль на таксоўцы з нашым, мякка кажучы, не зусім цвярозым таварышчам. Нецвярозасць таварышча вылезла тым бокам, што спачатку ён стаў вельмі і вельмі пафасна вучыць спачатку нас жыццю і творчасці, а потым кіроўцу – кіраванню машынай. Таксіст раззлаваўся і узяў з нас больш грошай, чым каштавала дарога. А мы ад гэтага ўсяго моцна смяяліся і пакляліся апісаць гэту гісторыю ў вершах. Бо гэта было адначасова вельмі смешна і вельмі паэтычна – алкаголь і пафас, адарваная атмасфера фестывалю і вясновы Кіеў... На мой погляд, літаратура заўжды паўстае на такіх вось кантрастах. Мне здавалася, што вакол нас віравала паэзія ў яе чыстым, недыстыляваным рэдактарамі і цэнзарамі выглядзе. І мне карцела занатаваць гэты стыхійны маніфест аб правах паэзіі, які, фактычна, прагучаў у той кіеўскай таксоўцы. Няхай мы траха не разбіліся, бо наш сябар, які, як напісаў Рыжкоў “прызвычаіўся да пярэдніх сядзенняў”, сапраўды хапануў кіроўцу за стырно. Гэта хіба адзінае, што ўзята з рэчаіснасці. А, яшчэ ў той год паэтычныя чытанні ў Кіеве сапраўды праходзілі ў планетарыі. Вельмі касмічныя адчуванні.

***– Верш “Пастанова” распачынае ваш апошні томік паэзіі “Амбасада”, выдадзены ў 2011 годзе. Тэма паэзіі і паэта адна з галоўных у ім. Чаму вы, з’яўляючыся яшчэ вельмі маладой асобай, раптам задаеце такія важныя пытанні, як роля паэзіі ў сённяшнім свеце, стаўленне да паэта з боку грамадства?...***

– Мне здаецца, чым маладзей аўтар, тым глабальней тэмы. Паэт спачатку ахоплівае рукамі космас, а потым пачынае трамбаваць яго ў сябе. Гэта нармальна. Але насамрэч мне цяжка каментаваць тое, што я пішу, хай аналізам займаюцца староннія назіральнікі. Помню, у школе мне было вельмі цяжка пісаць сачыненні па беларускай літаратуры, бо сістэма была збудаваная так, што ўхвалялася не свая думка, а нейкі адназначны шаблон, па якім у выніку мы мусілі “сачыняць”. Помню, у сачыненні па творчасці Цёткі я задала рытарычнае пытанне, як магла жанчына-фельчар, якая давала клятву Гіпакрата, заклікаць сялян браць сякеры і ісці на крывавы бунт. Настаўніца падкрэсліла гэта чырвонай асадкай і паставіла чацвёрку за змест. Уласная творчасць стала для мяне своеасаблівым уцёкам ад шаблону. Я фактычна пішу тое, чаго свайго часу не пабачыла ў падручніках.

Дзякуючы філфаку, на сёння я магу самастойна патлумачыць сабе і іншым, чаму фельчарка Алаіза Пашкевіч заклікала да сякеры, але гэтая імкненне ўцячы ад шаблону засталося.

***– Ваш верш, як мне здаецца, можна ўспрыняць дваіста: як жарт і як вельмі сур’ёзныя разважані на тэму адносін паміж паэтам/паэзіяй і грамадствам. А для вас, асабіста, якая інтанацыя бліжэйшая?***

Абедзве. Творчасць вабіць мяне, перадусім, сваёй амбівалентнасцю. Калі ў сур’ёзным нельга пабачыць смешнае, іранічнае, – і наадварот, мне нецікава. Але калі казаць менавіта пра гэты верш – то ён пісаўся з большай доляй гумару, чым зазвычай. Магчыма таму, што для мяне паэзія сама па сабе – гэта радасць, нешта тоеснае цуду.

***– Хіба заўсёды, у розныя часы і ў розных краінах, “свет хоча быць***

***ашуканым". І таму паэт павінен быць блазнам. А як, на вашу думку, сітуацыя выглядае ў беларускай літаратуры?***

– Фрыдрых Ніцшэ вылучаў два пачаткі творчасці: апаланічны і дыянісійскі. І, адпаведна, два тыпы творцаў. Творца-Апалон ведае меру, ён рацыянальны, спакойны, узнёслы, прамяніць аптымізмам, ён бярэ ад багоў. Творца-Дыянісій наадварот – ірацыянальны, буйны, песімістычны, трагікамічны, ён бярэ ад людзей. Гэта як з групамі крыві ці тэмпераментам – хтосьці можа быць такі, а хтосьці гэткі. Хтосьці можа быць сёння такі, а заўтра гэткі. Або адначасова крыху такі і крыху гэткі – няма аднолькавых творцаў, гэта як з адбіткамі пальцаў.



Марыя МАРТЫСЕВІЧ.

Дык вось, калі паглядзець на гісторыю беларускай літаратуры XX стагоддзя, то можна заўважыць, што ў нас напрацягу доўгіх год метадычна адстрэльвалі дыянісаў і культывавалі апалонаў. У XX стагоддзі "правільны" паэт мусіў быць прарокам. Роля паэта і паэзіі была "чотка" акрэсленая падручнікамі па сацрэалізме. Але прырода брала сваё – і кожнае новае пакаленне нараджала новых дыянісаў.

***– У вершы вы выявілі архетыповага паэта. А прыведзены вамі "пералік правоў" функцыянуе ў грамадстве ўжо вельмі даўно. Ці, на вашу думку, цяпер, на пачатку 21 стагоддзя, змяняецца сам вобраз паэта і спадзяванні грамадства ў адносінах да паэта?***

– Я не думаю, што вобраз паэта неяк змяняецца. Проста цяпер патроны скончыліся, і новых дыянісаў ніхто не адстрэльвае. Ну, хіба, ім часам пагражаюць фізічнай расправай, але гэта так, дробязі. Усё-ткі, ужо не 37-мы год. Так што новыя дыянісы маюць істотны шанец прабіцца. І запомніцца такімі, якія яны ёсць, а не такімі, якімі іх хацелі б бачыць на Алімпе...

Я пакуль не вызначылася, чаго ўва мне асабіста болей, апаланічнага ці дыянісійскага, але па жыцці я больш сімпатызую дыянісам. Хоць бы таму, што ў Беларусі ім значна цяжэй, чым апалонам – надта ж доўга творцаў у нас прымушалі быць белымі і пухнатымі, насуперак іх жаданням і прыродзе.

Чым больш занураешся ў нейкую неадфаташопленую школьнай праграмай літаратуру, тым больш пераконваешся, колькі ўсяго мы не ведалі пра нашых класікаў. Напрыклад, знакаміты скандал вакол эсэ Бахарэвіча пра Каяна Лупаку быў асабіста для мяне карысным у чыста інфармацыйным плане. Атрымалася

проста як з Томам Соерам, якому ўся вуліца фарбавала плот ды яшчэ за гэта плаціла. Раптам разгаварыліся паважныя літаратуразнаўцы – і за пару тыдняў напісалі ў сеціве ледзь не цэлую кнігу пра Янку Купалу, з якой, напрыклад, я даведалася пра тое, што ў 30-я ён быў запойным алкаголікам і любіў пагуляць на ўсю катушку. Калі шчыра, раней мяне гэта ўвогуле не цікавіла. А цяпер вось я задумалася, што калі Максім Багдановіч – гэта наш Апалон, то Янка Купала – Дыяніс, з якога штучна імкнуліся зляпіць Апалона. А гэта як з леўшунамі – без касякоў не праходзіць.

***– Ваш томік завецца “Амбасада”, а вас можна лічыць амбасадарам. Які месыдж вы хацелі перадаць чытачам праз змешчаныя ў ім вершы?***

– Я не лічу, што мяне можна лічыць амбасадарам. Што тычыцца зместу кнігі «Амбасада», то мне проста хацелася расказаць некалькі жыццёвых гісторый, паказаць самых розных людзей, якія і прамаўляюць у маіх вершах. Мне карцела паказаць штучнасць межаў паміж людзьмі, абсурднасць такой рэчы, як віза. Паэма «Амбасада» – трагікамічны твор, драматычны па сутнасці. Яго ідэальнай формай існавання мне здаецца радыёп’еса.

***– Ва ўступе да кнігі вы пішаце, што “смерць – гэта творчы акт, тоесны зборніку вершаў…”. Ці можна казаць, што цяпер, калі “Амбасада” ўжо напісана, вы зноў нарадзіліся? Якая вы цяпер?***

– Ну, я б тут так не перакручвала. Усё-ткі гэта смерць як зборнік вершаў, а не зборнік вершаў як смерць. Для мяне кнігі тоесныя дзецям, гэта яны, а не аўтар, нараджаюцца. Пасля выхаду кнігі “Амбасада” я ніяк сутнасна не змянілася.

Кацярына Безмацерных



...толькі на радзіме

можа мастак адбыцца...

# Марыя і Мікалай: вада і агонь пад адным дахам

***Гутарка з мастакамі Марыяй і Мікалаем ІСАЁНКАМІ***

***Размова з Марыяй і Мікалаем усё ніяк не магла адбыцца. У цёплыя часіны жывапісцы больш жывуць і працуюць у вёсцы Чарневічы Барысаўскага раёна – на радзіме Мікалая. І вось нарэшце ўдалося заспець іх у доме ў Калодзішчах пад Мінскам. Не паспела я і ганак пераступіць, як Мікалай пачаў распавядаць: "Стаяў тут нядаўна, пісаў пейзаж. Пад'язджае шыкоўная машына з маладымі людзьмі, кажуць: "Прадай нам гэтую карціну!"...***

## "І раптам адбываецца такі момант, калі нехта як быццам бярэ тваю руку і пачынае пісаць"

***– Цікава, а які быў шлях кожнага з Вас да творчасці, да мастацтва?***

**Марыя:** Я нарадзілася ў вельмі прыгожым краі на Віцебшчыне – вёска Кісялі. Мы жылі на горцы: спускаешся – унізе возера. І праз горку таксама возера... Азёрны прыгожы-прыгожы край. Мабыць, мой дзед быў вельмі летуценны чалавек. У вёску ён прыйшоў самы першы, калі аб’яднанне хутароў было. Прыйшоў – і паставіў дом не там, дзе добрая зямля, а на гары, дзе араць толькі трактарам можна, бо гліна. Але там возера – і прыгажосць! У дзяцінстве я была маленькая, хударлявая, хваравітая... Мне вельмі падабалася маляваць дом і кветкі. Маці накіравала мяне ў Віцебск да бабулі. Я там вучылася з пятага па восьмы клас. У восьмым класе пайшла ў мастацкі гурток. Памятаю краму, скрынку алоўкаў у тры паверхі, усе розных колераў! Я проста не магла ад іх адарвацца! (*кажа гэта з непадробным захапленнем і радасцю. І разумееш, што Марыя служыць свайму сапраўднаму пакліканню Божаму –* ***К.Б.***) Я капіла па капейчыне грошы на гэтыя алоўкі... Купіла цэлую скрынку – і такое свята было!!! Я іх так раскладвала, так любіла... У гуртку ў мяне ўсё вельмі добра атрымлівалася. Затым паступіла ў мастацкую вучэльню Глебава.

*А Мікалай? Марыя лічыць, што ён, асоба моцная, дзёрзкая і свабодалюбная, калі б мастаком не стаў, то быў бы – бандытам!*

**Мікалай**: Маці нараджала мяне доўга. Бацька пайшоў ужо дошкі для труны шукаць: падалося – мёртвым нарадзіўся. Але бабка выратавала... Я рос шкоднікам страшэнным, паганым дзіцём быў. Усялякія рагаткі любіў, лукі. Мама не спраўлялася са мной – здала ў прытулак. Я мог сам зрабіць радыёпрыёмнік, але тое, што тычылася малюнка, – гэта неспасцігальна было! Я хадзіў у гурток на станцыю юных радыётэхнікаў, і мы рабілі там авіямадэлі самалёцікаў. А побач быў пакойчык, дзе скульптурны гурток. Заходжу неяк туды, а там скульптура Гагарына з гальштукам. Як гэта можна так зрабіць? Я пад варштат схаваўся, усю ноч ляпіў, ляпіў, ляпіў... Раніцой адчыняюць: “Аааа! Злодзей!” Там жа маторчыкі былі для авіямадэлей дарагія, і іх увесь час кралі. Таму ўсе вырашылі, што я злодзей, маторчыкі хацеў скрасці!.. А потым былі зімовыя канікулы. Я прыехаў да сястры, узяў кавалак гліны і піянера выляпіў. А тады, думаю – партрэт бацькі вылеплю. І з фотаздымка ляпіў бацьку. Потым прыходжу да хлопцаў у Барысаве ў афарміцельскую майстэрню. Яны сядзяць, гарэлку п’юць, дарожныя агітплакаты робяць. Адзін кажа: “Ай, дзетдомавец! Нашто яму фарбы?” А другі – сябра розных таварыстваў, паляўнічы, рыбалоў, прыгожы такі мужык – дае мне цэлую кучу фарбаў! Я прынёс іх у прытулак, крыху разгублены: “І што з імі рабіць буду?” Але нацягваю палатно без грунта, раблю копію карціны Левітана... Затым пайшоў у студыю выяўленчага мастацтва. Але фарбы ў мяне скончыліся. Ноччу пайшоў у майстэрню афарміцельскую. Дастаў шкло, залез у шафу, набраў сабе фарбаў, у штаны паклаў... Прыйшоў у дзіцячы дом, кінуў усё пад ложак, ляжу. Глянуў – а там адзін ультрамарын!

***– Марыя, Мікалай, а як вы пазнаёміліся?***

**Мікалай**: У адзін год у вучэльню паступілі, разам вучыліся. Марыя аднойчы прыбягае да мяне, кажа: “Коля, у мяне ёсць рубель, пайшлі ў кіно!” Я згадзіўся.

*Вось так проста – і разам усё жыццё.*

## А выкладчык сядзіць на занятках, шаржы малюе, рагоча сам сабе

***– Мікалай, Вашае студэнцтва ў вучэльні – з 1965 па 1973 год, а Вашае, Марыя, – з 1965 па 1969. Цікава паслухаць пра загадкавую і элітарную Глебаўку – Глебаўку вашых часоў.***

**Мікалай**: Была надзвычай творчая атмасфера! Людзі проста жылі мастацтвам! Сур’ёзныя педагогі былі, Сурыкаўскі інстытут скончвалі.

**Марыя**: Былі, сапраўды, вельмі добрыя педагогі. Лісоўскі, напрыклад. Маляваў



*Мікалай і Марыя ІСАЁНКІ.*

кніжку “Няўрокам кажучы” – шаржы на ўсіх мастакоў. Прычым маляваў гэтую кніжку ў нас на занятках. Сядзіць, малюе, сам сабе рагоча!

**Мікалай**: Шчыры чалавек быў Лісоўскі. Сябраваў з Быкавым, яны лепшымі сябрамі былі.

**Марыя**: Я хачу сказаць, што навучыць нечаму ўвогуле немагчыма. Нашыя педагогі натхнялі нас сваімі творчымі натурамі. Усе яны, усе працавалі, усе выстаўляліся, мы бегалі глядзець іх работы – і гэта важней, чым сказаць, як маляваць руку. Людзі, якія надта добра вучыліся, некуды зніклі. Шмат выдатнікаў было, якія потым увогуле кінулі мастацтва. Мастаком стаў той, хто пачаў акадэмічную школу адкідваць. З яркіх цяпер асобаў з намі разам вучылася Раіса Сіплевіч, Мікалай Селяшчук.

***– А пра Селешчука раскажыце…***

**Марыя**: Коля Селяшчук быў сам па сабе. Ён вельмі шмат маляваў, адчувалася, што Асоба. Але быў непублічны, сам у сабе, нешта ў ім унутры варылася. Варылася, варылася і выварылася. Крыху ганарысты, праўда. Хаця ў студэнцкія гады не сказала б, каб так ужо моцна вылучаўся сярод астатніх.

***– Мікалай, ну, Вы з вучэльняй у сваім заўсёдным свабодалюбным рэпертуары: гэта ж трэба – восем гадоў вучыцца!***

**Мікалай**: Я, дарэчы, у вучэльню толькі з трэцяга разу паступіў. Таму падчас вучобы ў войску служыў. Мы якраз з Марыяй перад войскам шлюбам пабраліся, таму трагедыя была, што мяне ў войска забралі. Потым пасля войска прыйшоў сканчваць вучэльню, удадкаваўся ў Палац воднага спорту афармляльнікам працаваць. А там маладыя людзі, басейн – проста цэлая імперыя! Гэта быў самы буйны палац у Еўропе. Фарбы далі шмат, майстэрню. Я і сваёй уласнай творчасцю там займаўся. Гэта быў мой залаты час! Яшчэ ў студэнцкія гады мяне паклікалі на здымкі кіно ў Суздаль, Уладзімір. Але на ролю не ўзялі, аднак я месяцы тры там швэндаўся. А там вялікае мастацтва, роспісы Андрэя Рублёва, Феафана Грэка. Высоцкі туды прыязджаў. Гэта Мека кінематаграфістаў была.

***– Амаль усе беларускія мастакі маюць у сваёй біяграфіі этап “Акадэмія***

***мастацтваў (Тэатральна-мастацкі інстытут)”. А вы абодва чамусьці абмежаваліся Глебаўкай…***

**Марыя**: Мы спрабавалі паступаць у Акадэмію, але ж ні Мікола, ні я не паступалі туды, куды трэба. А патрэбна было паступаць на жывапіс. Я паступала на тканіны, але нічога ў гэтым не разумела, не змагла б гэтым займацца! А Мікола – на манументальны жывапіс, там Вашчанка ў тыя часы выкладаў. Хоць Мікола не манументаліст па натуры сваёй, па ўспрыманні свету.

## Матчыны абрусы, круглыя сталы, самота прыгожая…

*Акрамя сціплага слухача з дыктафонам, у доме мастакоў з'яўляецца яшчэ адзін госць. І добрая частка нашай гутаркі адбываецца без Мікалая. Мастак, здаецца, забыўся на журналіста і знік надоўга... Што ж, размаўляем удвух з Марыяй, у атачэнні ейных палотнаў. Жывапіс мастачкі стварае атмасферу свежасці...*

**Марыя**: У жывапісе ёсць дзіўная магія. Часам пішаш, пішаш, пішаш – нічога не атрымліваецца! І раптам адбываецца такі момант, калі нехта як быццам бярэ тваю руку і пачынае пісаць. Калі гэта адбываецца, то проста свята! Не ты пішаш. Такое адчуванне, што табой кіруе нехта. Напэўна, у гэтым і ёсць Бог альбо натхненне.

***– Мастацтвазнаўца Таццяна Гаранская, аналізуючы вашую творчасць, узгадвае моладзевую выставу 1983 года. Мастакі тады імкнуліся звярнуць на сябе ўвагу памерамі жывапіснага палатна, эфектнасцю кампазіцыі, маштабнасцю тэмы. А Вашая “Жанчына з дзіцем” была невялікая па памеры, але ж такая шчырая, адухоўленая… Маскоўскі мастацтвазнаўца Анатоль Кантар абазначыў яе як лепшую ў раздзеле жывапісу.***

**Марыя**: Так! Я намалявала маю хросную. Проста твар у яе неверагодны! Можа, тут мая туга па мацярынстве адлюстравалася. Мне хацелася стварыць вобраз славянскай жанчыны – светлай, чыстай. Калі я яе пісала, яна сходу ў мяне атрымалася. У жанчыны спадніца нечым нагадвае абрусы маёй маці. Мая мама вязала абрусы ўсё жыццё. І калі я іх бачу, яны выклікаюць жаданне пісаць. Каляровыя, цёплыя ад матчыных рук, заўсёды розныя. Яна была мастачкай ад Бога, хоць не мела ніякай адукацыі. Брала квадрацікі рознага колеру. А я ёй казала: “Мама, гэта несумяшчальна!” Але калі яна складвала, у яе атрымоўвалася – і ўсё! Яна сама не ведае, як. І я не ведаю.

– ***У вас часта жанчына на палотнах з'яўляецца.***

– Так, жанчын я шмат пісала. Вось, напрыклад, маці за вязаннем. Усе мае жанчыны ў сабе, унутры. Яны непублічныя, нягучныя, негаваркія. Чалавек нараджаецца самотным – і памірае самотным.

***– І гэта добрая самота?***

– Так. Увогуле, не ўсё трэба аддаваць людзям. Калі нічога не пакінуць сабе, то ты нікому нічога не зможаш потым даць.

***– А круглыя сталы на Вашых палотнах? Што яны сімвалізуюць?***

– Круглы стол – гэта сімвал таго, што нехта да яго яшчэ абавязкова прыйдзе. Круглы стол – гэта веданне, што ты не адзін. Сімвал спакою, цішыні, сямейнай радасці.

*У жывапісе Марыі Ісаёнак багата святла. Восеньскае завяданне з павуцінкамі ў прасторы... Нават у гэтым мастачка знаходзіць сваю радасць!..*

## 150 палотнаў Мікалая Ісаёнка

*“Павячэраеце з намі?” – з нейкай кранальнай цеплынёю запыталася ў мяне спадарыня Марыя. І гатаваць сыйшла. Тут прыйшоў Мікалай... Гаваркі спадар Ісаёнак, што скраў калісь ноччу фарбы ў афарміцельскай барысаўскай майстэрні, часта адыходзіць ад тэмы размовы. Затое захоплена пра мастацтва разважае.*

– Шмат стагоддзяў прайшло, але знакавыя фігуры ў мастацтве па пальцах можна пералічыць. Маціс, Мадэльяні, Пікасо, Пірасмані... Я – рамеснік, я не такая ўжо з'ява вялікая. Проста люблю тое, што раблю. У Беларусі такі тонкі каларыт, што жывапісец павінен быць ад Бога. Узгадаем Бялыніцкага-Бірулю, Жукоўскага... Я ўвогуле лічу, што толькі на радзіме можа мастак адбыцца. У мяне сапраўды добрых работ усяго адна-дзве. І з імі развітвацца не хочацца. Я – рэаліст, але люблю такіх, як Мадэльяні, напрыклад. Бо так не ўмею. Я рэалістычныя работы не калекцыянаваў бы.

*Дырэктар рускага Фонда развіцця мастацтва і адукацыі Алена Ахулкава, сузаснавальнік будаўнічай фірмы Маргарыта Краснеўская і малады мастак Улад Петручык – гэтыя асобы шмат значаць для мастакоў.*

**Мікалай**: Існуюць нейкія каштоўнасці больш вечныя, чым дамы, машыны. Сапраўднае мастацтва – гэта калі ёсць багатыя людзі, якім яно патрэбна: Трацякоў, Марозаў. Сёння, аказваецца, таксама жывуць такія асобы!

*Забяспечаня беларуска Маргарыта Краснеўская часта дапамагала творцам, набываючы іх карціны. А забяспечаная руская жанчына Алена Ахулкава дык увогуле палюбіла жывапіс Мікалая Ісаёнка, звезла ажно 150 палотнаў і катэдж у Калодзішчах за гэта пабудавала! Калісьці Мікалай і Марыя жылі ў самай звычайнай мінскай кватэры і былі перакананыя, што прасторны вялікі дом не для мастакоў, а для кагосьці іншага...*

*А Улад Петручык, сын Маргарыты Краснеўскай, – гэта асобная, цікавая гісторыя.*

**Мікалай**: Маргарыта прыходзіла, нешта купляла ў нас. Казала, што ў яе сын ёсць. Дасць грошы яму, а ён пойдзе купіць садавіну і раздасць усім. Маргарыта лічыла, што ён вельмі "размазаны", рабіць нічога не ўмее і марыла, каб Улад знайшоў сабе якую-небудзь справу. Прынесла яго малюнкі. Кампазіцыя ў малюнках ёсць, але ў жывапісе хлопец так сабе. Пачаў даваць яму ўрокі, ставіць нацюрморты. Бачыў, што нешта ёсць у яго работах, але не настолькі, каб паступіць у мастацкую вучэльню. Паставіў нейк яму чырвоны памідор на чырвонай драпіроўцы. І ён прыносіць мне шэдэўр проста! Аддаю яго вучыцца малюнку аднаму педагогу з вучэльні – і Улад паступае. Потым ён скончыў вучэльню, паступіў у Акадэмію. Цяпер на трэцім курсе, на манументальным жывапісе, моцныя пейзажы піша.

*Мікалай распавядае пра Улада з асаблівай пяшчотай: любіць свайго вучня. А мне думаецца пра тое, што гэта вельмі цікавая гісторыя: усе мы звязаныя і здольныя часам нават змяняць лёсы адзін аднаго.*

## P.S.

***– Марыя, што Вам Мікалай дае?***

**Мікалай**: Грошы я ёй даю!

**Марыя**: І грошы таксама! Робіць палотны, падрамнікі. Цягае, як мужчына, цяжкое. Калі сур'ёзна, то Ісаёнак – гэта такі агеньчык, які можа падтрымліваць. Калі ён хоча падтрымаць, то падтрымлівае.

**Мікалай**: Яна вада па гараскопе, а я агонь.

**Марыя**: Справа ў тым, што ў мяне заўсёды шклянка напалову пустая, а ў яго напалову напоўненая. Калі ён хоча падтрымаць, то гэта такая энергетыка! Я, напрыклад, часта пачынаю сумнявацца. А ён як нешта скажа, то і працаваць зноў хочацца.

**Мікалай**: Гэты саюз увогуле несумяшчальны! Яна ўсё тушыць мне сваёй вадой...

**Марыя**: Я пра цябе нешта добрае, а ты наадварот! Каб вада закіпела, патрэбны агеньчык...

**Мікалай**: Але я бачу, што яна мастак! Энергетыка ў яе жывапісе ёсць. І піша Марыя так, як хоча...

*Фота Дзмітрыя Велескевіча.*

крытыка

Леанід Галубовіч



...недакаханасць у вершах Марыі ўраўнаважваецца бескарыснай любоўю да ўсяго жывога...

# "Паміж старонкамі жыцця"

***Марыя Вайцяшонак. Сонцаварот. – Мінск: В. Хурсік, 2012. – 104 с.***

*В этом маленьком улье,*
*Где выбран до капли весь мед,*
*Только воспоминанье –*
*Пчела золотая – живет.*

Эмілі Дзікінсан
*(пераклад Іны Блізняцовай)*

Марыя Вайцяшонак выдала трэці паэтычны зборнік цягам апошніх чатырох гадоў. Называецца ён "Сонцаварот". Мне даводзілася пісаць пра два папярэднія ("Серпень", 2009 і "Асадніца", 2010), таму мае разважанні пра яе паэтычную творчасць будуць мець пэўную аснову.

Напачатку трэба адзначыць, што бальшыня прыхільнікаў беларускай літаратуры ведала гэтую аўтарку як празаіка, прычым аўтара адоранага і, што немалаважна, арыгінальнага. Немалаважна для пераходу да вершаванай творчасці. Як мы памятаем, проза М. Вайцяшонак вылучалася на аднатонным

фоне традыцыйнага пісьма і выбівалася з агульнага шэрагу сучаснай літаратуры. Яе апавяданні можна было называць і навеламі і эсэ без боязі памыліцца ў іх не так канкрэтным, як мажлівым жанры. Гэта было жывое, бессюжэтнае, суб'ектыўна-лёсавае ўніверсальнае спавяданне, намоўленае цёплым вусным дыханнем, і занатаванае сваім непадробным стылем ды памятлівым родавым жыццяскладам... Чытаць тыя тэксты было і лёгка і няпроста. Прыцягвала *нестандартная*, зрушная (ад слова *рух*) мова, а ўнутраная духоўная медытацыя змушала чытача крытычна азірацца на сваё ўласнае няпэўнае жыццё... Не кожны на тое здольны. З тых таемна нажытых медытацый, я так мяркую, і вылупіліся першыя яе вершы. Іх толькі трэба было вылушчыць з яе дбайнай мастацкай прозы, адвеяць і, прасеяўшы праз сіта часу, укінуць ва ўлонне ўрадлівай нівы паэзіі. Так яно і сталася.

І ўсё ж перад тым як пісаць гэтую кароткую рэцэнзію, я вырашыў перачытаць напісанае мной пра М. Вайцяшонак раней. Яго аказалася даволі шмат. Але высновы тых маіх колішніх разважанняў я не стаў ні рэвізаваць, ні пераглядваць. Яны падаліся мне і з сённяшняга дня крытычна ўзважанымі, справядлівымі і дастаткова аб'ектыўнымі. Тым больш, што і мае прадчуванні пра выхад аўтара за межы празаічнага класічнага канона з часам таксама апраўдаліся. Бо – свет вялікі, а чалавеку ўсё адно хочацца сябе ў ім знайсці. І Вайцяшонак – шукае... і, час ад часу, знаходзіць, ці ва ўсякім разе сутыкаецца сама з сабой...

І хоць піша яна, што я, маўляў,

не пільнуюся часу,

але, вось парадокс, сам час пільнуе яе, і "навейвае сны залатыя", што выкрышталізаваліся з яе колішняй суровай явы. І нездарма поруч з утомным святлом хрысціянства неадступна рушыць супакойна-прахалодны цень паганства (вершы "Ярыла", "Пярун", "Кара", "Вялес", "Цёця", "Лада", "Лёля", "Дзявоя"). Тут дзіўнасці няма, бо творчасць Вайцяшонак адпачатку гадавалася ў пялюшках глыбокай родавай повязі. Калі не на яўнасці яе, то на заўсёдным яе прыцягненні. Марыя піша: людзі думаюць, што я працую, гарбачу на зямлі, адбываю трудную радоўку,

а я падбіраю
словы...

Аўтар прызнаецца, што толькі надзённай цяжкай працай, натуральнай, фізічнай, слязьмі і потам, намываецца і здабываецца тое залатое мастацкае слова, што ўзвышае дух над плоццю. Каб пераадолець зямную коснасць жыцця, яго цёмны спод, трэба прыўзняць над сабой цяжар уласнай душы. Трэба прызнацца перад Усім, што ты ёсць такі як ёсць, аднак хочаш быць іншым. Такім, якім хоча цябе мець не толькі гэты, але і той свет.

Агулам пра творчасць М. Вайцяшонак можна сказаць словамі Б. Пастарнака: *"здесь дышит почва и судьба"*. Глыбокая народнасць, прыродная, генная (тут і паганства і сучасныя хрысціянскія матывы і ўласная каталіцкая сутнасць) і элементы фальклору і традыцыі – усё гэта гарманічна пасуе да яе вершаў і вобразнасці. Можна дадаць сюды і натуральную пераемнасць нацыянальнага вобраза жыцця. Хоць знешнюю штучнасць прыхаваць не заўжды ўдаецца.

Пісанне і тварэнне – як пытанне і адказ. Здавалася б, простая метафарычная згадка дзяцінства, а колькі ў ёй удзячнай вясковай памяці:

рыпнуўшы дзвярыма,
салодка ў твар
хлеў
пазяхае...

Хачу заўважыць, што з кожным новым выдадзеным зборнікам адчувалася ўсё большая мастацкая ўдасканаленасць твораў М. Вайцяшонак. Урэшце яна выбрала свабодны верш і верлібр. Можа каму падасца, як і мне некалі, што гэта найбольш спрошчаная і даступная форма вершаванай творчасці. Але ці так гэта насамрэч, калі браць пад увагу не сам працэс, а мастацкі вынятак?! Паэзія *не ўзважная* і *не вымерная* па сутнасці. Яна ўспрымаецца як прыродная альбо духоўная з'ява (сонца не ўсходзіць пасярод ночы). Хоць, як піша Марыя, яно

спяшаецца
сесці
завідна...

Нават яно. У тым і палягае таемства і чароўнасць Паэзіі.

На мой погляд, у некаторых вершах М. Вайцяшонак адчувальны кансерватызм свядомасці. Яна трымаецца за мінулае, як дзіця за спадніцу сыходзячай маці. Таму гэтак шчымліва дае адчуць і свайму чытачу, як, насуперак яе жаданням,

карацее
падол
яе квяцістага
лугу...

Недакаханасць у вершах Марыі ўраўнаважваецца бескарыснай любоўю да ўсяго жывога. Чалавек для яе не толькі знаёмы, спадарожнік, сябра, а – *супольнік* жыцця. Пад высокім Небам у людзях не было і няма вялікай розніцы – усе пайшлі з аднаго. Таму і самаадчуванне наша выяўляецца ў нас як *чалавекаспачуванне* (сочувствие, па-руску кажучы). Вось верш цалкам:

Ціша
птушкі садзяцца
на ноч
у куст
бэзу
цёплай
ноччу
няма бяздомных
людзей на свеце.

Вы разумееце (адчуваеце), што ўсё жывое жыве ў вас. І нават памерлае, пакуль вы жывыя. З гэтым вершам перагукваецца-перамаўляецца, як далёкае рэха, і вось гэты:

Пустая
суседская
хата
поўны хлеў
ластавак
а чалавек
перапытвае
і перапытвае
дарогу
дамоў.

Такія вершы, як кароткае дыханне (перайманне яго), узрушваюць і наважваюць да глыбокай развагі над людской існасцю. Іх нельга некаму распавесці альбо патлумачыць, у іх трэба ўжывацца самому. І калі яны "цябе прымуць", то ты станеш іх міжвольным (ці нявольным) суаўтарам.

Паэтычны зборнік узводзіцца, як зруб, і паступова ўладжваецца, як дом. Безумоўна, у ім ёсць і шараговыя рэчы, але, дзіўным чынам, яны не выпадаюць з агульнай будовы, больш за тое, іх нельга назваць неабавязковымі, паколькі яны закладзены ў фундамент кніжкі, у яе сцены, перакрыцці, кроквы, ашалёўку, комін, дымаход... Няхай нават замест гожага ганка ў ім просты парог – палявы альбо лясны вялікі пашчэрблены і нацёрты нагамі камень... Бо толькі паэт ведае, што

маўчанне
каменя
побач з намі
змястоўней
нашае
размовы.
О, слова
ловы!

Прасочваецца ў зборніку Марыі Вайцяшонак і заўважная ўвага аўтара да лепшых узораў і выбітных імёнаў айчыннай і сусветнай літаратуры і мастацтва. Злучыць традыцыю (класіку) і наватарства (авангардызм) як спалучыць мінулае і сучаснае – вось запаветнае крэда чалавечага мастацтва, у тым ліку і мастацтва слова. Гэта азначае нішто іншае, як захаванне яго (мастацтва) для будучыні. Пераемнасць, пераходнасць, калаўрот, сонцаварот – *вечнасць*... Чаму я так часта згадваю пра высокія матэрыі? Таму што і сам адчуваю прыкладна тое ж, што паэтка:

Мой час
пахвалёны –
каменем
уніз
з абрыва,
поўныя пантоплі
жвіру

Але надзея на *сонцаварот* не пакідае: перавярнуцца яшчэ і яшчэ разам з ім, каб нарэшце той мулкі жвір высыпаўся з тваіх здарожаных пантопляў...

Марыя Вайцяшонак творца з адметным і досыць важкім літаратурным плёнам. Выхад зборніка падаецца мне своеасаблівым падарункам (99 асобнікаў!) паэтцы да яе зямнога юбілею, і добра, што ён (зборнік) не стаў звычнай у нашым асяроддзі "літаратурнай справаздачай", а фактам адметнай мастацкай творчасці, Паэзіяй па вызначэнні.

Пішу і, падняўшы вочы ад клавіятуры кампутара, бачу, як злятае з нябёс голуб на парэнчы майго гаўбца, – згадваю мімалётныя радкі Марыі:

голуб белы
як слова з боскіх вуснаў,
ляціць ад алтара
проста да мяне

Аднак марны мой пожад...



крытыка

Алеся Лапіцкая



...мастацтва,

як вядома,

вечнае...

# Іранічныя міксы

***Павал Касцюкевіч. Зборная РБ па негалоўных відах спорту: апавяданні. – Мінск: Логвінаў, 2011. – 138 с.***

"І нічога палітычнага тут няма!" – адразу папярэджваю тых, хто першым разам пабачыў вокладку зборніка "Зборная...", гэтаксама як папярэдзілі мяне ў кнігарні. Аб'ект увагі Паўла Касцюкевіча – не дзіўна пазнавальная фігура на першым плане, а насельнікі будынка няпэўных колераў, якія падзеліся невядома куды. То бок, з колерамі ўсё зразумела: дождж, снег, сонца – і фарба паблякла, змылася, нават зеленаватыя плямы з'явіліся, а грошай у ЖЭСу на рамонт няма, хаця жыхары штомесяц нешта адлічваюць. З жыхарамі ўсё больш таямніча: можа, іх захапілі і знішчылі дзьмухаўцы, можа, яны паляцелі на Месяц і палююць там на патрыманыя "Аўдзюшкі" са смачнымі хрумсткімі фарамі, а можа, разам кінуліся ў "катлы адпушчэння" харчовага камбіната...

Зрэшты, хіба галоўны трэнер увогуле не мае дачынення да таго, што робіцца ў ягонай зборнай? Апошняя старонка вокладкі падаецца цікавейшай за фотаздымак: рознакаляровыя словы, набраныя рознымі кеглямі, змешчаныя па




вертыкалі і па гарызанталі, даюць магчымасць зусім інакш прачытаць пачатак апавядання, што даў назву зборніку, і выявіць ягоны алегарычны сэнс. Выдатны прыклад "графічнай прозы" – ці мо ў "рэкламазнаўстве" знойдзецца больш адпаведны тэрмін?.. Калі ж нарэшце разгарнуць кнігу, то з жанравымі азначэннямі будзе крыху прасцей. Замест прадмовы сучасненькая "Замова ад страху", далей – у апавяданнях альбо між імі – дзіцячая страшылка, ліст, інтэрв'ю, верш Андрэя Адамовіча, апісанні чатырох тарыфных планаў, і прыкладна пасярэдзіне, як ужо прызвычаіўся чалавек эпохі мас-медыя, – "Крыху рэкламы не зашкодзіць".

Шмат якія апавяданні "Зборнай..." можна назваць фантасмагорыямі: старое, добрае крытычна-рэалістычнае адлюстраванне жыцця ашмянскіх цётак-чаўнакоў ці працы сталічнай сталоўкі раптам выбухае фантастычнай, абсалютна непрадказальнай падзеяй, абавязкова трагічнай для кагосьці з персанажаў, а часам і для ўсяго чалавецтва. І ў сполахах ад гэтага выбуху зусім іншай бачыцца родная рэчаіснасць, у якой самыя звыклыя з'явы пачынаюць здавацца небяспечнымі, фатальнымі, а некаторыя сучасныя тэндэнцыі набываюць патэнцыю "надрэлігійнай, наднацыянальнай звыш-ідэі". Так, прынамсі, адбываецца ў апавяданні "Бэтэльгезіянскія хронікі", дзе новая звышвера планеты прыходзіць з лозунгам "Чарка, Скварка, Іншамарка", і ўсё мужчынскае насельніцтва Зямлі пачынае ў пераносным і ў прамым сэнсе паляваць на патрыманыя аўтамабілі.

Як ужо можна здагадацца, фантасмагорыйкі Касцюкевіча не звычайныя, а постмадэрновыя. Пасля чытання прадмовы і паслямовы да зборніка Макса Шчура "Ліст, знойдзены на папялішчы" ў мяне засталося цвёрдае перакананне, што для большасці маладых беларускіх празаікаў найлепшай ацэнкай творчасці будзе залічэнне ў постмадэрністы. Дык чаму б урачыста не абвясціць постмадэрновыя рысы, уласцівыя прозе Паўла Касцюкевіча?

Па-першае (ці нават па-другое, бо пра жанравы мікс мы ўжо згадалі), гэта вялікая колькасць алюзій на рэаліі сучаснага беларускага жыцця, а таксама безліч цытат і рэмінісцэнцый. Асабліва прыемна, што аўтар часцяком звяртаецца да класічнай спадчыны беларускай літаратуры – пачынае з самога Францішка Скарыны і праз Купалу ды Караткевіча скончвае прэцэдэнтным "слухай бацьку". Зборнік наогул ультрабеларускі і ультрасучасны: нават геаграфічна аўтар згадвае добрую сотню беларускіх гарадоў, мястэчак, вытворчых прадпрыемстваў і айчынных вырабаў – ад крэму "Балет" да "Аліварыі-Айс" з новым дызайнам бутэлькі.

Апавяданні Паўла Касцюкевіча напісаныя з той іранічна-скептычнай інтанацыяй, якая гэтак імпануе большасці сучасных маладых аўтараў. Іронія так і бруіцца ў ягоных творах (трэцяя постмадэрновая рыса), прычым, істотна, што "Зборная..." – кніга надзвіва пазітыўная. Здаецца, што Касцюкевіч быў абвешчаны лаўрэатам прэміі імя Гедройца менавіта за сваю пазітыўнасць (а таксама чытэльнасць: зборнік можна праглынуць на адным дыханні).

Пры гэтым у "Зборнай РБ па негалоўных відах спорту" закранаецца шмат праблемных момантаў і адбываецца безліч вельмі трагічных падзей. Сакрэт пазітыўнасці зноў жа постмадэрновы: для Касцюкевіча творчасць – гэта гульня. Яму нічога не каштуе абрынуць камету на Айку-кантрабандыстку, альбо надзець на суку-крата "брыльянтавыя sunglasses ад Армані" і выправіць яго на разбурэнне космасу, альбо пакінуць на волю лёсу Таню з робатам-міліцэйскім, ніяк не абгрунтаваўшы іхняе з'яўленне далейшым развіццём сюжэту. Аўтар мала клапоціцца пра лагічнасць і заканамернасць гэтага самага развіцця сюжэту, а ягоныя героі за некалькімі выключэннямі (вобразы-тыпы Айка ды Ціханаўна) нагадваюць

просценькіх пластылінавых чалавечкаў, якія не выклікаюць аніякага спачування, што б ні вырабляў з імі творца.

Вось у апавяданні “Вечнасць ды іншыя часы” “Бярнардзе Бярнардаўне Дзям’янчык сніцца кіраўнік савецкай Беларусі Пётр Машэраў і вельмі просіць прынесці яму на магілу кропу”. Гераіня ранкам прыходзіць з кропам на могілкі, уцякае там ад міліцыянера і выпадкова трапляе да помніка былога палюбоўніка, дзе з лаканічнага надпісу “Pamęć od żony, syna, córki” даведваецца, што той меў сям’ю. Твор караценькі, пра Бярнарду Бярнардаўну зразумела, што гэта даволі рухавая кабета пенсійнага ўзросту, якая падпрацоўвае ў канторы і, верагодна, паходзіць з польска-каталіцкага роду. І больш ніякай вам псіхалагічнасці і, крый Божа, сентыментальшчыны. Адзінае, што сапраўды спыняе, – не толькі міліцыянера, але і чытача – гэта раптоўнае сутыкненне з помнікам экіпажу “Як-40”, дзе “два лётчыкі і тры сцюардэсы – на адзін твар”. Бо “на казённыя грошы”. Але што з гэтага? Чаму кроп? Чаму Машэраў? Навошта, нават з кропам, уцякаць ад міліцыянера, калі нічога злачыннага не робіш? Якая каму справа да палюбоўніка Бярнарды Бярнардаўны, думкі і пачуцці якой цалкам абыякавыя для аўтара і, у выніку, для чытача? І хіба хтосьці без Паўла Касцюкевіча яшчэ не ведае, што такія здарэнні магчымыя ў жыцці і, яшчэ часцей, у літаратуры? І ўвогуле, што гэта за лухцень?

“Сапраўды, лухцень! Абсурд, іронія, адноснасць, парадоксавасць, гульня,” – абаяльна пасміхнецца нам зусім не пакрыўджаны Павал Касцюкевіч і, можа, абгрунтуе свае аўтарскія правы велічэзнай цытатай з якога-небудзь постмадэрніста. Кроп і Машэраў – гэта проста прышпільна! А на заканчэнне гісторыі са спадарыняй Бярнардай – “на дзіва жоўты птах”, які весела спявае “Нарэшце ты дайшла” і нібыта запрашае прыгадаць назву твора і на ўласны густ яе інтэрпрэтаваць. Ну што, атрымліваецца? Магчыма, менавіта тут і павінны раскрыцца сэнс...

Сапраўды, не толькі лухцень і не толькі іронія ёсць у зборніку “Зборная...”. Напрыклад, “сука-крот” з аднайменнага апавядання паўстае гэткім правакатарам як для “гаранта канстытуцыі”, так і для “бабы Мані, святой кабеты, бабулькі з адукацыі і па нараджэнні”. Не дзіўна, што крот здатны сапсаваць афіцыйнае свята – але ж і баба Маня раз’юшана “пляжыць ужо і так знявечаны дол” ды з роспаччу крычыць тое самае нядобрае слова... Можа, праз недахоп талерантнасці да ўсяго жывога чалавецтва і трапіць у чорную дзірку? (Фэ, як стэрэатыпна мысляць гора-крытыкі.)

У апавяданні “Генная інжынерыя” сэнс нараджаецца з супрацьпастаўленняў. Не надта глыбакадумны, але характэрны мяшчанска-ашукальніцкі маналог касіркі Ціханаўны рэзка кантрастуе з узнёслай канцоўкай: “Нам няма на каго абаперціся, толькі на нашых дзядоў, якія на небе. І яны глядзяць на нас, бачаць нас, усё пра нас ведаюць – кожнае малое зрушэнне валаска, пасміхаюцца”. Але дзяды – Божачкі, якія нечаканыя ў нас дзяды! Напрыканцы аповеда Ціханаўна згадвае свайго бацьку, рэпрэсаванага ў сталінскія часы: “Крысо яго крэмавага плашча развіваецца не раўнуючы як крылы пасівелага крумкача”... Чытач ужо настройваецца на нешта (нарэшце!) душэўнае ці трагічнае, і раптам: “Суч’ё, гадаўё, яйцакруты! Так за трынаццаць гадоў асфальту і не паклалі!” – гарлае на ўсю вуліцу былы вязень канцлагера. Нічога не зробіш, дэканструкцыя. А вось падумаць, пры жаданні, ёсць над чым...

Да таго ж у некаторых творах гучаць мяккія, лірычныя ноткі, якія надаюць зборніку цеплыні. Так, у апавяданні “Шэсцьсот шэсцьдзесят шэсць вечароў” герой раптам разумее, што менскае вараннё – гэта світа шайтана, але змрочная фантазія апынаецца паратункам ад доўгай тугі: “бо сёння я, ушчэнт захоплены гэтай навалай, напэўна, першы раз пасля таго расстання, першы вечар за шэсцьсот шэсцьдзесят шэсць вечароў не думаю пра Свету”. У апавяданні “Амаль” сцвяр-

джаецца адвечнае шчаслівае юнацкае перакананне ў тым, што наканаванае адзінае Каханне непазбежна сустрэнецца на жыццёвым шляху, як бы ні склаліся абставіны. “Дапусцім, сусветнавядомы хімік Барыс Кіт не вынайшаў свайго цуда-паліва для касмічных ракетаў” – і ўсё адно, паводле аўтара, першы касманаўт зробіць свой першы крок па Месяцы. Палёт чалавека на Месяц – у тэхнічна горшых умовах, чым гэта насамрэч адбылося – “запаралелены” з магчымым лёсам героя. Калі б “я сустрэў не цябе, а іншую жанчыну” звёны жыццёвага ланцужка былі б іншымі, але і ў “гэтай недасканалай версіі быцця” зрэшты давялося б сутыкнуцца з той Воляй, з якой выключна магчымае сапраўднае пачуцце – і знаёмства абавязкова адбылося б. А вось дыялог між Я-героем і Юліяй (апавяданне “Я кахаю цябе, Юлія”) выяўляе нейкую нацягнутасць, штучнасць афіснага кахання – ці, можа, нязграбнасць першага прызнання, калі даводзіцца камуфляваць няўпэўненасць суперлагічнымі моўнымі канструкцыямі і банальнымі сучаснымі фразамі...

“Нарэшце ты дайшла”! Заўважым, што для аўтара літаратурная творчасць – гэта яшчэ і захапляльная гульня словаў. Стыль у Паўла Касцюкевіча своеасаблівы – дый хіба часта здараецца, каб у сучаснага маладога пісьменніка было неяк інакш? Адметная рыса менавіта Касцюкевіча – не столькі разнастайнасць мастацкіх прыёмаў, колькі кантрастнасць лексікі. Побач з мілымі чытацкаму воку слоўцамі “шатня”, “ўцешны”, “далібог”, “злыбяда”, замест якіх паўстагоддзі таму давялося б ужыць які-небудзь прыкры русізм, сустракаюцца і моладзевыя альбо прастамоўныя выразы кшталту “кайфаломшчык”, “поўны капец”, “няхілы загруз” ці “сячэш паляну”. І непрыстойна-лаянкавага ў зборніку багата – ад згаданага “сукі-крата” да “настоенай на стагоддзях і праверанай шматсотгадовым досведам рэплікі “Fuck you all!”, пасля якой напалоханы кансерватыўны крытык можа і напіша пра нават літаратурнае хамства сучаснай моладзі, але дакладна забудзецца на зняважлівае стаўленне аўтара да герояў і падзеяў ВАВ. Карацей, пісьменнік па-гаспадарску незалежна і разняволена чэрпае з самых розных скарбонак беларускай літаратурнай (і нават не-беларускай і не-літаратурнай) мовы. І бясконца звяртаецца да ўсеабдымнага сучаснага інтэртэксту: разбурэнне Пампеі, баскервільскі сабака, Сцыла і Харыбда, Папоў і Марконі, піраміда Хеопса – што толькі ні згадвае, з чым толькі не параўноўвае Павал Касцюкевіч, каб пацешыць чытача і расквеціць свой аповед. І тое, і другое ў яго атрымліваецца – у выніку менавіта аўтар-апавядач робіцца адзіным цікавым героем, бо своеасаблівасць расповеду – ад ацэнкі розных падзей да кампазіцыйнай структуры – дае магчымасць даволі пэўна характарызаваць гэты вобраз, значна больш складаны і адметны, чым прыдуманыя нібыта ім, апавядальнікам, аднамерныя персанажы.

Варта таксама зазначыць, што гульня словаў часам заканамерна ператвараецца ў (чарговая постмадэрновая рыса!) гульню сэнсаў: “аральная напруга”, “зорка-суперстар”, “польскія гарадкі” – без кантэксту чытач зразумее гэтыя словы альбо зусім звыкла, альбо неяк не так, як прапануе аўтар “Зборнай...”. А тут яшчэ і салат “Нясвіжскі” перакінецца ў салат “Нясвежы”, ці кінецца ў вочы метафара зямлі як “Ноевага авіяносца”...

І апошняе істотнае-постмадэрновае: пісьменнік абсалютна не прэтэндуе на элітарнасць, і ягоныя апавяданні могуць быць выдатна ўспрынятыя чытачамі рознай ступені культурнай дасведчанасці. Хтосьці ўзрадуецца сустрэчы са знакамітым прафесарам Арнольдам Макмілінам, а іншаму чытачу гэтае імя нічога не скажа – але ніякіх комплексаў у неабазнанага спажыўца не разаўецца, бо і без ведаў пра англійскага беларусіста апавяданне “Вайна з дзьмухаўцамі” цалкам “уежнае”. Звычайнае словазлучэнне “кіраваць да зор” у мяне, прыкладам, выклікае асацыяцыі з Багдановічам (“...усе мы разам ляцім да зор”), бо ў беларускім прыгожым пісьменстве больш ужывальнае, здаецца, слова “зоркі”. Іншаму ж чытачу ў развязцы апавядання “Сука-крот” хопіць для адчування дысанансу такіх

непаэтычных слоўцаў, як “кінг-конг”, “урое”, “чыста рэальна зверху ўніз”, якія акаляюць згаданыя “зоры”. Як і мае быць, інтэртэкстуальнасць выклікае цікавасць да згаданых пісьменнікам твораў і аўтараў – прыватна для мяне загадкай стала назва апавядання “Мой франтавы таварыш Курт Вонегут”, і хочацца спадзявацца, што яе разгадванне прынясе чаканую інтэлектуальную асалоду.

Гэх, ну вось здаецца і ўсё, вылучылі мы завучаныя беларускімі літаратуразнаўцамі і беларускімі аўтарамі постмадэрновыя рысы – вядома, гэта спрошчаная, “школьная” версія, вядома, яшчэ наперадзе этапны для кожнага пачынаючага крытыка артыкул кшталту “Адкуль на Беларусі быць постмадэрнізму?”. Але пра “Зборную...” неяк атрымалася распавесці – і зараз, як патрабуюць правілы напісання рэцэнзій, варта абагульніць, вызначыць месца і ролю...

Галоўнае, што іранічная гульня словаў у зборніку “Зборная...” такі мае сэнс (для адных ён падасца дастатковым, для іншых – не) – і сведчыць пра літаратурны талент Паўла Касцюкевіча. Але нельга ўтрымацца ад цытавання вельмі зручнага ўрыўка з апавядання “Вайна з дзьмухаўцамі”:

“– Няма тут М-16, што тут незразумела?! Вось арэхавы прыклад, вось баёк – наладаваў, націснуў курок, наладаваў зноў. І калі трэба, памрэш, сабака, за беларускую літаратуру.

– There is nothing to die for!

– You told me!”

Пачынаецца вайна, усе агаломшаныя, разгубленыя, яшчэ і не такое блюзнерства можна выгукнуць. Але, калі сур’ёзна, то ці ёсць “Зборная РБ па негалоўных відах спорту” кнігай, за якую нарэшце варта памерці беларускаму літаратуразнаўцу? Мне чамусьці здаецца, што не. І чамусьці здаецца, што Павал Касцюкевіч па шчырасці з гэтым згодны. І няма тут ніякай абразы, бо:

“Паглядзіце зараз, наколькі адрознай была б пазіцыя чалавека, які замест таго, каб насычацца фразеалогіяй разнастайных канцэптуалістаў, свежым позіркам ахапіў бы свет з усведамленнем бязмернага значэння формы ў нашым жыцці. ...О, той пісьменнік, пра якога я кажу, не аддаецца творчасці з той падставы, што лічыць сябе саспелым, але менавіта таму, што адчувае сваю няспеласць і ведае, што не авалодаў формай і што ён той, хто ўздымаецца, але яшчэ не ўзняўся, той, хто нараджаецца, але яшчэ не нарадзіўся. І калі надарыцца яму напісаць твор недарэчны і не надта разумны, ён скажа: – Выдатна! Я напісаў глупства, але я ні з кім не падпісваў кантракта на пастаўку адных толькі мудрых, дасканалых твораў. Я выявіў сваё глупства і ўсцешаны гэтым, бо чалавечая непрыхільнасць і суворасць, якія я выклікаў супраць сябе, фармуюць мяне і лепяць, нібыта пераствараюць, і вось я яшчэ раз наноў народжаны. З чаго зразумела: прарок, надзелены здаровай філасофіяй, так моцна верыць у сябе, што нават глупства і няспеласць яго не палохаюць і не могуць яму пашкодзіць – з высока ўзнятай галавой можа ён самавыяўляцца і абвяшчаць пра сваю нікчэмнасць, тым часам як вы ўжо амаль нічога не здатныя выявіць, бо страх пазбаўляе вас голасу”. (Вітольд Гамбровіч, “Фердыдурка”.)

Не толькі пісьменнік, але і крытык жыве з гнятлівым (ці мо, наадварот, “усцешным”?) адчуваннем, што да яго амаль усё сказана. Складана ўявіць, колькі крытычных парадаў, заўвагаў, пажаданняў і прысудаў ужо выказана на старонках літаратурных часопісаў і ў мастацкіх выданнях, колькі аднолькавых думак сфармулявана амаль слова ў слова. І калі пісьменніку застаецца “нацыянальная спецыфіка” ды “сучасная праблематыка”, то мастацтва, як вядома, вечнае...

# Свядомаграфія

## *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*



**Леанід Дранько-Майсюк. Кніга для спадарыні Эл. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 200 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; вып. 27).**

Хто такая загадкавая спадарыня Эл, якой прысвечана кніга, названая антыгламурным раманам? На гэтае пытанне сам аўтар адказвае так: “Спадарыню Эл ідэальнай беларускай ніяк не назавеш. Гэты сацыяльны тып узнік на мяжы XX і XXI стагоддзяў. Такіх жанчын ужо шмат, асабліва ў Мінску, і яны даволі прыкметныя, гэтыя глянцавітыя кветкі “салодкага” гламуру і порсткага капіталізму”.

Разам з тым “Кніга для спадарыні Эл” і трагічная, бо ў яе ўваходзіць п’еса “... і піць з недапітых чаш” пра цкаванне Янкі Купалы органамі АДПУ і паэма “Твая Марыя” пра Юрку Лістапада, які адмовіўся супрацоўнічаць з НКУС. Нядаўняя беларуская гісторыя спалучана тут з паэзіяй Поля Верлена і Канстанты Ідэльфанса Галчыньскага.

Нестандартная кампазіцыя кнігі адпавядае нестандартнаму яе зместу.




**Наста Манцэвіч. Птушкі. – Мінск: Логвінаў, 2012. – 50 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; Пункт адліку).**

“Птушкі” — так назвала сваю першую кнігу Наста Манцэвіч. У зборнік Насты ўвайшлі вершы і кароткая проза, дзе аўтар выяўляе новы для беларускага чытача погляд на жанчыну і яе самаўсведамленне, рэфлексуе над сваімі пачуццямі і адчуваннямі, закранае табуяваныя для збольшага патрыярхальнай беларускай літаратуры тэмы. Наста Манцэвіч нарадзілася ў Вілейцы, у 2008 годзе перамагла ў міжнародным паэтычным слэме на Махно-фэсце (г. Гуляйполе, Украіна), фіналістка літаратурнага конкурса да 100-годдзя “Нашай нівы”, які ладзіў беларускі ПЭН-цэнтр.

*...Забяру сабе свае вочы,*
*з твару змыю твой твар,*
*адляплю ад вуснаў твае вусны,*
*вырву руку з рукі.*

*І калі сэрца сціснецца ад адчаю,*
*я буду шаптаць як мантру,*
*што ты – родная,*
*баючыся паверыць,*

*што ты чужая.*




**Людміла Рублеўская. Сутарэнні Ромула. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 520 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; вып. 26).**

У рамантычнай, жорсткай і дасціпнай кнізе Людмілы Рублеўскай “Сутарэнні Ромула” чытача чакаюць падарожжы ў часе, дэтэктыўныя

расследванні, каханне, дзеля якога варта памерці, і запаветная краіна Альбарутэнія. Як трапіў прафесар Скаловіч з засценкаў НКВД 1937-га ў дом ля Кальварыйскіх могілак 2000-га? Чаму супрацоўніца выдавецтва Арсенія Вяжэвіч, як дзве кроплі вады, падобная да графіні на партрэце XIX ст.? Ключом да якой старажытнай таямніцы быў рассечаны напалам срэбны кубак? Чытач будзе смяяцца і плакаць над неверагоднымі лёсамі герояў, якія спрабуюць захаваць чалавечую годнасць сярод найгоршых пакутаў і выпрабаванняў.



**Алесь Усеня. Мой лістапад... – Мінск: Медысонт, 2012. – 248 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; вып. 28).**

Успаміны Алеся Усені “Мой лістапад”, што друкаваліся ў “Дзеяслове”, нарэшце выйшлі кнігай у серыі Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”. “Кніга беспрэцэдэнтная па сваёй шчырасці і справядлівасці”, — гаворыцца ў анатацыі. Яе агульную інтанацыю можна вызначыць як спавядальную. Сам аўтар у паслямове прызнаецца, што “гэтыя нататкі задумваліся як эксперымент, натхнёны словамі Сяргея Законнікава (“Напішаш успаміны – памрэш”). І мне так хочацца верыць, што эксперымент яшчэ не завершаны”. І нашай рэдакцыі разам з чытачамі, ад якіх мы ўжо атрымалі шмат захопленых водгукаў у звязку з “дзеяслоўскай” публікацыяй, таксама ў гэта верыцца!



**Ірына Хадарэнка. Свядомаграфія. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 88 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; вып. 24).**

Зборнік “Свядомаграфія” складаецца з вершаў, напісаных у апошнія гады. Некаторыя з іх знаёмыя чытачам па публікацыях у часопісе “Дзеяслоў” і газеце “Літаратурная Беларусь”. Аматарам сучаснай беларускай літаратуры прыйдзецца даспадобы самабытная метафарычнасць твораў, іх патрыятычная ідэйная скіраванасць і пранікнёная любоў да роднай зямлі. Апроч бачнай схільнасці да напісання вершаў класічнага кірунку, Ірына Хадарэнка не баіцца бавіцца з інтэлектуальнымі алегорыямі і эксперыментаваць са словам. У дадатак да ўласных вершаваных твораў, аўтарка прадставіла ў кнізе і шэраг цікавых перакладаў з рускай і польскай паэзіі.

*Мы існуем, нібыта карпы ў рыбнай краме,*
*Пакуль не ўзнятыя смяротнымі сачкамі.*
*А што да Бога – ён таксама пакараны*
*І бойтаецца ў пастцы разам з намі.*

*Замураваныя ва ўласнай несвабодзе,*
*Зачараваныя сляпой надзеі плямай,*
*Нямыя рты хацелі б крыкнуць: “Годзе!”,*
*Ды хто пачуе той дарэмны лямант?..*



# Нашыя аўтары

**Акудовіч Валянцін** — філосаф, эсэіст, празаік. Аўтар кніг “Мяне няма. Роздумы на руінах чалавека”, “Разбурыць Парыж”, “Код адсутнасці”, “Дыялогі з Богам” і інш. Асобныя тэксты друкаваліся ў ЗША, Украіне, Польшчы, Расіі, Сербіі, Македоніі. Лаўрэат прэміяў імя Алеся Адамовіча (Беларускі ПЭН-цэнтр), штотыднёвіка “ЛіМ”, часопіса “Крыніца”, Беларускага гуманітарнага цэнтра. Нарадзіўся ў 1950 годзе ў мястэчку Свіслач на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Арабей Лідзія** — празаік, літаратуразнаўца. Аўтар кніг «Калібры», «Мера часу», «Сузор’е Вялікай Мядзведзіцы», «Сярод ночы», «Пошукі кахання» і інш. Нарадзілася ў 1925 годзе ў вёсцы Нізок на Уздзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Валадзімер Барна** – паэт, журналіст. Аўтар кніг “Всесвіту”, “Бескиди”, “Моє Опілля” і інш. Нарадзіўся ў 1953 годзе на Цярнопальшчыне. Жыве ў Кіеве.

**Баяровіч Зміцер** – паэт, празаік. Навучаецца на 5 курсе Інстытута журналістыкі БДУ. Фіналіст конкурса “Брамамар” у дзвюх намінацыях: Проза і Паэзія. Сябра літсуполкі “Вобла” пры выдавецтве “Галіяфы”. Нарадзіўся ў 1991 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Бяляцкі Алесь** — празаік, крытык, літаратуразнаўца, публіцыст. Аўтар кніг «Літаратура і нацыя», «Прабежкі па беразе Жэнеўскага возера». Нарадзіўся ў 1962 годзе ў Карэліі. Цяпер знаходзіцца ў Бабруйску.

**Вележ (Вячорка) Арына** – паэт, педагог, грамадскі і культурны дзеяч. Стваральнік і кіраўнік Беларускага рыцарскага клуба, пазней клуба “Вялікае княства”. Стваральнік першага праекта гістарычнай музыкі “Легенды Вялікага Княства” (2000-2001), альбома гістарычнай музыкі “Старажытная зямля” (2005), серыі “Беларуская музычная калекцыя”: “Постфольк”, “Музыка Вялікага Княства Літоўскага”, “Беларускі музычны авангард”, “Спевы Беларусі”, “Мэдываль” і інш. Была арганізатарам больш чым 100 канцэртаў старажытнай і фальклорнай музыкі. Памерла ў 2012 г.

**Безмацерных Кацярына** – журналіст. Скончыла Інстытут журналістыкі БДУ. Друкавалася ў беларускіх СМІ. Працуе ў часопісе «Бярозка». Нарадзілася ў 1987 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Галубовіч Леанід** — паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Гілевіч Ніл** – народны паэт Беларусі. Заслужаны дзеяч навукі Беларусі. Прафесар. Паэт, драматург, перакладчык, фалькларыст, літаратуразнаўца. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы. Аўтар кніг «Песня ў дарогу», «Прадвесне ідзе па зямлі», «Пеаразовы», «Паэтыка беларускай народнай лірыкі», «Святлынь», «Родныя дзеці», «І чую я голас...», «Замова ад страху» і інш. Нарадзіўся ў 1931 годзе ў вёсцы Слабада на Лагойшчыне. Жыве ў Мінску.

**Гумянюк Юры** — паэт, празаік, публіцыст. Аўтар кніг «Водар цела», «Твар Тутанхамона», «Вуліца тыгровых архідэяў» і інш. Нарадзіўся ў 1969 годзе ў Гародні. Жыве ў Гародні.

**Далідовіч Генрых** — празаік, публіцыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі. Аўтар кніг «Міг маладосці», «Дажджы над вёскай», «Цяпло на першацвет», «Міланькі», «Станаўленне», «Гаспадар-камень», «Пабуджаныя» і інш. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Янкавічы на Стаўбцоўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Данільчык Аксана** – паэт, перакладчык, літаратуразнаўца. Аўтар кніг «Абрыс Скарпіёна», «IL MEZZOGIORNO. Поўдзень», “Сон, які немагчыма забараніць”. Нарадзілася ў 1970 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Дзядзенка Зміцер** — паэт, празаік, журналіст, літаратуразнаўца. Аўтар кніг

